# К

**Ка́яць,** *ка́іць* 'караць' (Нас.). Магчыма, 'лаяць', параўн.: *«Сам покай его, а я скольки раз каив, да каиння мойго не слухаець»* (Нас., 227), параўн., *каіне* 'пакаранне, кара': *«Бог посылаець нам каинне», «Ниякога каиння не слухаець гетый человек»* (Нас., там жа), і *каінне* 'раскаянне', гл. яшчэ *каята* і інш. Другая форма дзеяслова — *каяцца* 'прызнаваць сваю віну, памылку перад кім-н., усвядоміўшы сваю памылку, шкадаваць аб зробленым; спавядацца' (БРС, ТСБМ), 'шкадаваць аб зробленым' (Чач.), 'наракаць на самога сябе' (КЭС, лаг.). З новых слоўнікаў: *каяцца* (ТС ) і *каяцца* 'раскайвацца' (лід., круп., Сл. паўн.-зах.). Статус слова не вельмі ясны; што датычыцца зваротных форм, неабходна мець на ўвазе, што ў некалькіх выпадках дзеяслоў сустрэўся ў прыказцы, адзначанай на вялікай тэрыторыі, па гэтай прычыне невядома, якой канкрэтна мове або храналагічнаму зрэзу належыць слова. Параўн. круп.: *«Не будзе каяцца чалавек, рана ўстаўшы і молад ажаніўшыся»* (Сл. паўн.-зах., 2, 450), *«Не кайса, шо молоды жэніўса і рано ўстаў»* (ТС, 2, 187), *«Не кайся, рано вставши, молодо оженившись»* (Грынчанка, 2, 229). Улічваючы рад вытворных і некаторыя самабытныя значэнні ў бел. мове, можна думаць, што тут не было (выключаючы некаторыя даныя ў асноўным у літаратурнай мове) запазычання са сферы царкоўнай лексікі. Слова вядома большасці славянскіх моў: укр. *каятися* 'каяцца, раскайвацца', *каяти (кого)* 'лаяць, караць (каго)' (апошняя форма прыводзіцца няясна з якой крыніцы Бернекерам), рус. *каять, каяться* вядома ў розных значэннях (у дыялектах), звяртаюць на сябе ўвагу такія, як ст.-рус., рус.-ц.-слав. **каꙗти** 'ганіць', арханг. *каять* 'лаяць, сварыцца, праклінаць', алонец. 'біць, караць'. Польск. *kajać się* 'каяцца, раскайвацца', в.-луж. *kać so* 'раскайвацца', чэш. *káti* 'шкадаваць, загладжваць віну', *káti se* 'раскайвацца, каяцца', славац. *kajat'sa* 'раскайвацца, каяцца', славен. *kájati* 'ганіць, асуджаць' і інш., *kájati se* 'каяцца, раскайвацца', серб.-харв. *кȁјати, кȁјати се* 'раскайвацца', 'шкадаваць' (вельмі цікавае значэнне 'помсціць (аб кроўнай помсце)', *kȁjati se* 'раскайвацца', макед. *кае се* 'каяцца, раскайвацца', балг. *ка́я се* 'каяцца, раскайвацца, шкадаваць', ст.-слав. **каꙗти сѧ** 'каяцца'. Значэнне 'караць, ганіць', верагодна, неабходна лічыць асноўным для прасл. *kajati*. Апошняе — другасны дзеяслоў (дуратыўны, на *-ati*, з падоўжаным вакалізмам кораня, магчыма, з і.-е. **ku̯ōi*. Бліжэйшай і.-е. адпаведнай формай з'яўляецца ст.-іран. (авест.) *kāy-* 'каяцца'. Гл. Трубачоў, Эт. сл., 9, 115—116; Фасмер, 2, 216 (дзе прыводзяцца як адпаведнасці таксама ст.-інд. *cáyatē* 'ён помсціць, карае' і далейшыя вытворныя). Гл. яшчэ Бернекер, 1, 499; вельмі падрабязна Слаўскі, 2, 22—23.



**Ква́да** 'квадра' (Шатал.). Гл. *квадра*.

**Ква́дра** 'кожная з чатырох фаз месяца' (ТСБМ, Нас., ТС, Касп., Шат., Сл. паўн.-зах., Шэйн, Бяльк., Сержп. Грам., Шпіл., Мядзв.), 'чвэрць гадзіны' (Нас.), 'стадыя, фаза, перыяд' (ТСБМ), 'чвэрць' (Гарэц.), укр. *квадра* 'фаза месяца' — запазычанні з польск. *kwadra* 'тс'. У значэнні 'чвэрць' ужо ў ст.-польск., якое ў сваю чаргу з італ. *quadra* 'чвэрць кола або круга'. Гл. Брукнер, 286; Слаўскі, 3, 453—454; ЕСУМ, 2, 413.

**Квадра́нец** 'чвэрць гадзіны' (Нас.). Параўн. адпаведнае значэнне *квадра* (гл.). Бел. і ўкр. *квадранец(ь)* 'чвэрць гадзіны' — агульнае запазычанне з польск. *kwadraniec* < *kwadranc* < *kwadrans*. Тут наглядаецца працэс словаўтваральнай адаптацыі лацінскага па паходжанню слова да славянскіх з прадуктыўнай суфіксацыяй **-ап-ьсь*. Утварэнне праходзіла па мадэлі аддзеяслоўнага дэрывата: *kwadrować* > *kwadraniec*; польск. *kwadrans* — з лац. *quadrans* 'чвэрць' (у тым ліку 'чвэрць гадзіны'): Брукнер, 286; Слаўскі, 3, 454; ЕСУМ, 2, 413.

**Квадра́т** 'роўнастаронні прамавугольнік' (ТСБМ). Ст.-бел. *квадратъ* 'квадрат' (з 1599 г.). Запазычанне з ням. *Quadrat* < лац. *quadratum* 'тс' (Булыка, Запазыч., 144).

**Квадра́ты** 'квадратныя ўзоры ў посцілках' (Жыв. сл.). Гл. *квадрат*.

**Квайня́** 'адно дрэва хвоі', 'хваёвы лес' (Сл. паўн.-зах.). Адваротнае запазычанне з літ. *kvajà* 'сасна' (< бел. *хвая́*). Спрадвечна роднасным з бел. *хвая́* з'яўляецца літ. *skujà* 'яловая або сасновая іголка'. Форма *хвайня* ўзнікла па аналогіі з назвамі зараснікаў (параўн. *беразня́, ліпня́*) (Сцяцко, Афікс. наз., 205). На карысць літоўскага ўплыву сведчыць (апрача пачатковага *к*-) геаграфія слова (брасл.), параўн. *квайнёвы* (таксама брасл.).

**Квакаціць** 'боўтацца' (КЭС, лаг.). Гукапераймальнае. Параўн. укр. *чвакати*, рус. *чвакать*.

**Ква́каць** 'утвараць гукі, падобныя да «ква-ква» (гл. таксама *кво́каць*) (ТСБМ) 'крычаць (пра качку)' (ТС, Сл. паўн.-зах.), 'крычаць (пра жаб)' (Нік. Напоў., Сл. паўн.-зах., Сцяшк.), 'пра пчол' (Анох.). Укр. *квакати* 'крычаць (пра жабу або пра качку)', рус. *квакать* 'тс', балг. *квакам* 'тс', макед. *квакам* 'тс', серб.-харв. *ква́кати* 'тс (таксама пра варон)', славен.

*kvâkati* 'крычаць (пра жаб, варон)', польск. *kwakać* 'крычаць (пра качак, жаб, варон)', чэш. *kvákati* 'крычаць (пра качак, гусей, варон)', славац. *kvákat'* 'тс', в.-луж. *kwakać* 'тс', н.-луж. *kwakaś* 'тс'. Яшчэ прасл. *kvakati* 'крычаць (пра качак і варон)'. Гукапераймальнае. Параўн. укр. *ква, квак* (пра жаб), рус. *ква, квак* 'тс', серб.-харв. *ква-ква* (пра качак), славен. *kva-kva* (пра жаб), балг. *ква-ква* 'тс' і г. д. Балтыйскія паралелі: літ. *kvakëti* 'крычаць (пра жаб), смяяцца', лат. *kvākt* 'тс'. Улічваючы экспрэсіўнасць гэтых слоў, яны наўрад ці сведчаць аб балта-славянскай архаіцы. Да таго ж кароткі карэнны вакалізм у літ. паралелі не рэгулярны. Трэба таксама мець на ўвазе літ. *kvatóti* 'смяяцца', пад уплывам якога *kvakëti* магло атрымаць другое значэнне і разам кароткі вакалізм (Бернекер, 655; Фасмер, 2, 217; ЕСУМ, 2, 413; Фрэнкель, 325).

**Квакта́нне** 'жаб'я ікра' (Гарэц.). Гл. *квоканне, квок, квыкавінне, квакаць, кваша.* Улічваючы сінонімы *квоканне* і *квок, квактанне* праз кантамінацыю з *квактаць*<*квокат* узыходзіць да *кваканне* < *квакаць*. Параўн. *жабурынне* (да *жаба*). Формы на *-анне* адлюстроўваюць катэгорыю рэчыўнасці.

**Квакта́ць** 'стварацъ кароткія адрывістыя гукі (пра курыцквактух і некаторых іншых птушак)' (ТСБМ, Нас., ДАБМ, Касп., ТС, Гарэц., Грыг., Сцяшк., Сл. паўн.-зах.). Укр. *квактати* 'выседжваць куранят'. Дзеяслоўныя формы на *-ta-*, магчыма, узыходзяць да назоўнікаў тыпу *тупат*. Параўн. *тупаць* і *таптаць*. Тады *квактаць* < *квокат* < *квока*. Гл. *квока*.

**Кваку́ха** 'курыца, якая выседжвае або водзіць куранят' (ТСБМ, Касп., Шат., Сцяшк., Грыг., Яруш., Жыв. сл., Нік. Очерки, Сл. паўн.-зах., Янк. Мат., ТС, Бяльк.). Гл. *квактаць*.

**Кваку́ха** 'тс' (Нас., Мат. Гом., Яўс., Янк. Мат., Др.-Падб., Гарэц., Яруш., Юрч.). Гл. *квактуха*.

**Ква́кша** 'лягушка сямейства бясхвостых земнаводных, якая жыве пераважна на дрэвах' (ТСБМ). Форма слова, відавочна, адлюстроўвае балтыйскі ўплыў. Параўн. структурна тоеснае літ. *kvākše* 'квактуха' (да *kvakšëti* 'квактаць').

**Ква́піцца** 'мець жаданне, імкнуцца завалодаць чым-н.' (ТСБМ, Сл. паўн.-зах., Шат., КЭС, лаг., Рам., Мал.). Гл. *квапіць*.

**Ква́піць** 'тс' (ТСБМ), 'цікавіць, прыцягваць увагу' (Сцяшк.), 'накопліваць багацце' (ТС). Укр. *квапити* 'прымушаць, падганяць', польск. *kwapić* 'тс', чэш. *kvapiti* 'хутка рухацца', в.-луж. *kwapić* 'тс'. Слова адсутнічае ў паўднёваславянскіх мовах і на асноўнай рускай тэрыторыі. У адпаведнасці з вядомай версіяй (Бернекер, 655) каўзатыў да прасл. *kypěti* 'кіпець'. Дадатковым аргументам у карысць гэтай этымалогіі



можна лічыць каш. *pře-kvapic* 'выкіпець'. Гл. Слаўскі, 3, 459; ЕСУМ, 2, 414.

**Квапл́івы** 'прагны, хцівы' (Нас., Шат., Яруш.). Гл. *квапны*.

**Ква́пна** 'хутка' (Яруш.). Гл. *квапны*.

**Ква́пны** 'скваппы, скупы, ласы' (ТСБМ), 'ласы' (Сл. паўн.-зах.), 'зайздросліві' (Нас., Касп., Шат.), 'прывабны' (Клім.). Гл. *квапіць*.

**Ква́рта** 'мера вадкіх і сыпучых рэчываў' (ТСБМ, КЭС, лаг., Нас., Сцяшк., ДАБМ, Мядзв., Гарэц., Мат. Маг., Шат.), 'кубак, конаўка, кружка' (ТСБМ, Жд. 2, Сл. паўн.-зах., ТС). Ст.-бел. *кварта* 'мера вадкасці і сыпкіх рэчываў' (з 1582 г.) < польск. *kwarta* < лац. *quarta* 'чвэрць'. Не абавязкова прымаць нямецкае пасрэдніцтва паміж польск. і лац. (параўн. Булыка, Запазыч., 145). Гл. Слаўскі, 3, 462; ЕСУМ, 2, 414.

**Кварта́л** 'чацвёртая частка года' (ТСБМ, Нас.), 'частка горада, абмежаваная некалькімі перакрыжаванымі вуліцамі' (ТСБМ, Яшк.), 'адзін з квадратных участкаў, на якія разбіваецца лес' (ТСБМ, Сцяшк., Яшк.). Ст.-бел. *кварталъ* 'чвэрць' (з 1692 г.). З польск. *kwartal* < с.-лац. *quartale*. Як у папярэднім выпадку, для старабеларускага нямецкае пасрэдніцтва не даведзена (параўн. Булыка, Запазыч., 145; Слаўскі, 3, 462—463; ЕСУМ, 2, 415). Аднак для мовы XIX—XX стст. трэба мець на ўвазе магчымасць рускай крыніцы. Аб гэтым сведчыць месца націску.

**Кварто́ўка** 'мера сыпкіх рэчываў' (Нас., Мат. Гом.), 'мера вадкасці' (Бяльк., КЭС, лаг., Жд. 3). Гл. *кватэрка₂* 'тс'. Відавочная кантамінацыя *кватэрка* і *кварта* (гл.).

**Ква́ртух** 'фартух' (Мат. Маг.). Гл. *фартух*.

**Кварты́ра** 'кватэра' (Бяльк.). Гл. *кватэра₁*.

**Ква́рціна** 'кварта' (Нар. словатв.). Гл. *кварта*.

**Квас** 'кіславаты напітак, прыгатаваны на вадзе з хлеба, сухароў або жытняй мукі з соладам' (ТСБМ, Сл. паўн.-зах., Яруш., Нар. сл., Нар. словатв., ТС, КЭС, лаг., Бяльк., Сержп. Грам., Вешт., Юрч.), 'кіслая страва з буракамі, грыбамі, бульбай' (ТСБМ, Шн., Нар. лекс., Вешт., Сцяшк., Серб., Нар. словатв., Сл. паўн.-зах., Шатал.), 'закваска' (Мат. Гом.), 'кіслата' (Гарэц., Клім.), 'шкода' (Юрч.). Укр. *квас* 'тс', рус. *квас* 'тс', ст.-слав. **квасъ**, балг. *квас*, макед. *квас*, серб.-харв. *квâс*, славен. *kvâs*, польск. *kwas*, чэш. *kvas*, славац. *kvas*, в.-луж. *kwas*, н.-луж. *kwas* 'тс'. Прасл. *kvasъ* 'кшаніна, закваска, квас' узыходзіць да *kysěti, kysnǫti* 'мокнуць, кіснуць', першасны каўзатыў ад якіх *kvasiti* 'квасіць' (Ваян, Gram. comp., III, 422). Паралелі ў іншых індаеўрапейскіх мовах ненадзейныя. Аб розных версіях гл. Слаўскі, 3, 466.

**Ква́сачка** 'драўляная пасудзіна з клёпак з двума бакавымі вушамі' (КЭС, лаг., 3 нар. сл.). Гл. *кваска*.

**Квасéц** 'кісліца, заечая капуста, Oxalis Acetosella L.' (Дэмб. I, Бяльк., Яруш. Кіс.). Укр. *квасець* 'шчаўе', рус. *квасец* 'тс'. Фармальна прасл. *kvasьсь*. Але батанічная назва, мабыць, больш позняга паходжання. Гл. *квас*.

**Квасёл** 'фасоля' (Бяльк., Яшк.). Да *квасоль* (гл. *фасоля*).

**Квасёлка** 'прасяны крупнік з квасам' (ТС). Суфіксацыя на *-ёлка* аддзеяслоўнага паходжання. Параўн. *мянцёлка* 'мянташка', *свісцёлка* і інш. (Сцяцко, Афікс. наз., 51).

**Квасíны** 'асадкі ад кваса' (Нас., Сцяц., Бел. нар.сл.), 'печыва з вотруб'я' (Нік. Очерки). Гл. *квас*.

**Квáсіцца** 'кіснуць' (ТС). Гл. *квас*.

**Квáсіць** 'дабаўляць кіслаты ў страву', 'паставіць кіснуць' (ТСБМ, Сл. паўн.-зах., КЭС, лаг.). Укр. *квасити*, рус. *квасить*, балг. *квася* 'тс', серб.-харв. *квäсити* 'мачыць, увільгатняць', польск. *kwasić* 'квасіць', чэш. *kvasiti*, славац. *kvasit'* 'тс' і інш. Прасл. *kvasiti* — каўзатыў да *kysěti*. Параўн. *кіснуць* (гл.), *кіслы* (гл.), *квас* (гл.).

**Квáска** 'кубел (на сала)' (Нар. лекс., Шатал., Выг.), 'кубел (на сыр)' (Маш.), 'бочка невялікіх памераў' (З нар. сл., Мат. Гом., Сл. паўн.-зах., ТС, Шат.), 'вялікая бочка для захоўвання мукі, жыта' (Жыв. сл.), 'дзежка для квасу' (Нар. сл.). Як сведчыць апошняе значэнне, семантычная кандэнсацыя словазлучэння *квасная дзежка* з замацаваннем першасналй суфіксацыі.

**Квасліна** 'вада, у якой рашчыняецца вотруб'е на кісель' (Вешт.), 'абрызглае малако' (ТС). Кантамінацыя *квас* (гл.) і *кіслы* (гл.).

**Квасліны** 'ажыны, Rubus fruticosus L.' (Нар. словатв., Бейл.). Гл. *квасліна*.

**Квáснік** 'хвошч', 'варыва з расолу і круп' (ТС), 'страва з хлебнага квасу і сушаных грыбоў' (Сцяшк. Сл.). Гл. *квас*.

**Квáсніца** 'гнілец, хвароба пчол' (Федар.). Гл. *квас*.

**Квáсны** 'кіслы' (Нас., Сцяшк., Касп., Яруш., Сл. паўн.-зах., ТС). Гл. *квас*.

**Квасн́эк** 'камяк цеста, што пакідаюць у дзяжы для закваскі', 'перапечка з хлебнага цеста, прызначаная для закваскі' (Сл. паўн.-зах.). Да **квасняк*. Гіперкарэктнае *э* пад націскам.

**Квасóвік** 'стары баравік' (ТС). Вынік семантычнай кандэнсацыі. Да **квасавы баравік*. Нерэгулярнасць месца націску характэрна для гэтага суфікса (*-óвік / -авік*). Гл. Сцяцко, Афікс. наз., 167.

**Квасóк**₁ 'кісліца'. Гл. *квасец*.

**Квасóк**₂ 'шчаўе і страва з яго' (Вешт., ТС), 'грыбны суп' (Сцяшк.). Гл. *квасок*₁.

**Квасóк**₃ 'квас' (Бяльк.). Гл. *квас*.



**Квасóліна** 'фасоліна' (Янк. II, Мат. Гом.). Да *фасоліна* (гл. *фасоля*).

**Квасóль** 'фасоля' (Юрч., Гарэц., Жд. 3, Бяльк.). Гл. *фасоля*.

**Квасóлька** 'фасоліна' (ТС). Гл. *квасоль*.

**Квасóльнік** 'лісце фасолі', 'фасолевы суп' (Сл. паўн.-зах., Мат. Гом., Шатал.). Гл. *квасоль*.

**Квасóля** 'фасоля, Phaseolus vulgaris L.' (Касп., ТС, Некр., Янк. II, Юрч., Мат. Маг., Ян.). Гл. *фасоля*.

**Квасóўка** 'кіслы крупнік' (ТС, Ян., Вешт., Мат. Гом., З нар. сл., Сцяц., Бел. нар. сл.), 'кампот' (Сцяшк. Сл.), 'страва з круп і сушанай садавіны' (Нар. словатв.). Да *квас* (гл.).

**Квась** 'кіслата' (Сл. паўн.-зах., Жд. 2, 3). Архаізаванае словаўтварэнне на *-і*, характэрнае для адпаведных пар назоўнік — дзеяслоў (*квась — квасіць*).

**Кватараваць** 'часова жыць у каго-н., наймаючы кватэру, памяшканне' (ТСБМ, КЭС, лаг., Яшк. I), 'размяшчацца, быць на пастоі (пра войска)' (ТСБМ). Гл. *кватэра*₁.

**Кватарáнец** 'кватарант' (Сцяшк., Янк. I, Нар. сл., Сл. паўн.-зах.). Гл. *кватарант*. У адпаведнасці з Сцяцко, Афікс. наз., 147 суфікс *-анец* утварае назвы асобы па адносінах да таго, што названа ўтваральным словам. У іх ліку *кватаранец* як *канчанец* 'жыхар супрацьлеглага канца вёскі'. Мяркуючы па *братанец* 'нядродны брат' (<*братан*), *кватарант* успрымалася як **кватаран*, параўн. *гаршчан* 'ганчар' (там жа). Тады паводле *брат*>*братан*>*братанец*, *кватэра*>*кватаран(т)*>>*кватаранец*.

**Кватарáнт** 'той, хто часова наймае жылое памяшканне ў домаўласніка' (ТСБМ, КЭС, лаг.). Гл. *кватэра*.

**Квáтарга** 'квадра, чвэрць месячнага перыяду' (Нар. лекс.) (гл. *квадра*). Да *кватарка* са спарадычным *к*>*г*.

**Квáтарка** 'квактуха' (Мат. Гом.). Ад **квактарка*<**квактар-ка*. Але месца націску не характэрнае. Мы б чакалі націск на суфіксе (Сцяцко, Афікс. наз., 30).

**Кватырка** 'адлегласць паміж бэлькамі столі' (Шушк.), 'чацвярцінка' (ТС), 'засовачнае шкло ў акне, фортачка' (Грыг., Рам., Радч., Кос.). Параўн. *кватэра*₂ (гл.).

**Кватэра**₁ 'частка жылога дома, якая складаецца звычайна з некалькіх пакояў і мае асобны выхад' (ТСБМ, Сл. паўн.-зах., Нас., Мал., Гарэц., Касп., Яруш., КЭС, лаг.). Гл. *кватэра*₂.

**Кватэ́ра**₂ 'квадрат, роўная чатырохвугольная плошча', 'невялікі кавалак зямлі' (Бяльк., Яшк.), 'частка акна' (Нік. Очерки). Ст.-бел. *кватера* 'квадратная шыба' (з 1593 г.). Праз польск. *kwatera* з с.-н.-ням. *quartêr*, якое ў сваю чаргу з с.-лац. *quarterium* (Булыка, Запазыч., 145). Пры гэтым мяркуюцца

наступныя семантычныя пераходы: 'чвэрць'>'чацвёртая частка горада'>'чацвёртая частка ваеннага лагера'>'памяшканне' (параўн. Слаўскі, 3, 472; ЕСУМ, 2, 415).

**Кватэраваць** 'часова жыць у каго-н., наймаючы кватэру, памяшканне' (КЭС, лаг., Янк. I), 'размяшчацца, быць на пастоі (пра войска)' (ТСБМ). Гл. *кватэра*₁.

**Кватэрачка**₁ 'фортачка' (Мат. Гом.). Гл. *кватырка*.

**Кватэрачка**₂ 'чвэрць штофа' (Шн., Нас.). Да **кватэрка**₂ (гл.).

**Кватэрка**₁ 'фортачка', 'адтуліна ў коміне' (Нас., Мат. Гом., Ян., Хар., Касп., Яшк.), 'палова акна' (Нар. словатв.), 'частка столі паміж дзвюма бэлькамі' (Яшк.). Гл. *кватырка*.

**Кватэрка**₂ 'мера вадкіх або сыпкіх рэчываў, роўная чацвёртай частцы кварты' (ТСБМ, ДАБМ, Шат., КЭС, лаг., Сержп. Грам.). Ст.-бел. *кватерка, кватырка* 'мера вадкасці' (з 1690 г.) (Булыка, Запазыч., 145). З польск. *kwaterka* (Слаўскі, 3, 473).

**Кватэрына** 'дзвярная ці аконная створка' (Нар. словатв.). Гл. *кватэра*₂.

**Квахтаць** 'квактаць' (ТСБМ, Мал.) (гл. *квактаць*), 'квакаць' (Сл. паўн.-зах.).

**Кваўкаць** 'квакаць' (Сл. паўн.-зах.). Гл. *квакаць*.

**Квацера** 'кватэра' (Бяльк.). Гл. *кватэра*.

**Квацык** 'кавалак гразі ад колаў' (ТС). Параўн. укр. *квацок* 'кавалак гліны', *квацати* 'мазаць', балг. *квацам* 'мазаць, ляпіць сцяну', славен. *kvacáti* 'пырскаць, хлюпаць'. Прасл. *kvacati* (параўн. Слаўскі, 3, 453; ЕСУМ, 2, 416; БЕР, 2, 309) вельмі праблематычнае. Яно як быццам не мае рэфлексаў у серб.-харв., а значэнне славен. паралелі адрозніваецца ад адпаведных укр. і балг. Гл. яшчэ *квэцаць*.

**Квач** 'вялікі памазок з пакулля, рагожы для размазвання чаго-н. па якой-н. паверхні' (ТСБМ, Нас., Сл. паўн.-зах., ТС, Касп., Шат., КЭС, лаг., Яруш., Бяльк., Сцяшк., Грыг., Гарэц.), 'дзіцячая гульня, па правілах якой адзін з гуляючых, дагнаўшы другога, павінен дакрануцца да яго' (ТСБМ, ТС). Параўн. укр. *квач* 'тс'. Польск. *kwacz* — запазычанне з бел. ці ўкр. Тое ж можна сказаць і аб арэальна абмежаваным рус. *квач*. Звычайна звязваецца на паходжанню з *kvacati*, якое мае таксама арэальна абмежаваны характар. Толькі балг. паралель выводзіць яго за межы бел.-укр. арэала. Насуперак Слаўскаму (3, 453) бліжэй за ўсё да *квач* германскія паралелі. Але разглядаць яго як запазычанне з ням. *Quast* нельга зыходзячы перш за ўсё з лінгвагеаграфічных меркаванняў. На жаль, мы не ведаем гоц. рэфлексацыі прагерм. *kwastu-*. Можна меркаваць аб арэальна абмежаваным запазычанні з гоц. **kuast-* (*kuast->kuats*). Параўн. адпаведныя прыклады ў Лекс. Палесся, 16—17. Надзейнасць гэтай гіпотэзы, аднак, невялікая, улічваючы незафіксаванасць гоц. крыніцы і фанетычныя цяжкасці (доўгі галосны і *ч*-заканчэнне ў бел. і ўкр. паралелях). Сувязь *квач* з прасл. *kvaka* 'гак', якое рэканструюецца на аснове паўднёва- і заходне-славянскіх рэфлексацый, яшчэ менш надзейная, бо не толькі істотна адрозніваецца ад *квач* семантычна, але рэпрэзентуе зусім іншы слав. арэал (Слаўскі, там жа).



**Кваша** 'саладуха' (ТС, Вешт., Малч.), 'кулеш' (Мат. Гом.). Да *квас-ja* (Фасмер, 2, 218). Гл. *квас*.

**Квашаліны** 'студзень' (Нар. лекс.). Дысімілятыўны варыянт ад *квашаніна* (гл.).

**Квашаніна** 'халадзец, студзень' (ТСБМ, ТС, Шатал., Шн., Вешт., КЭС, лаг., Жыв. сл., Касп., Сцяшк., Мядзв., Малч., Бір., Др.-Падб., Янк. II, Жд. 3, Грыг.), 'свініна' (Нар. словатв.). Гл. *квасіць*, параўн. серб.-харв. *ква̏сити* 'мачыць, увільгатняць'.

**Квашаны** 'квашаны, кіслы' (ТСБМ, Сл. паўн.-зах., Сцяшк.). Гл. *квас*.

**Квашня** 'залішне кіслае, кісляціна' (Жыв. сл.), 'кадка з-пад кваса' (Касп.). Слова ў другім значэнні (ёмістасць) утворана паводле рэгулярнай мадэлі з *-ня*-суфіксацыяй (Сцяцко, Афікс. наз., 166).

**Квашонка** 'крупнік' (Маш.). Да *кваша*.

**Квашчынка** 'невялікая бочка для засолу агуркоў' (З нар. сл.). Словаўтварэнне на *-чына, -шчына* з памяншальным фармантам *-ка* (Сцяцко, Афікс. наз., 127).

**Квашыліна** 'квашаніна' (З нар. сл.). Гл. *квашаніна* і *квашаліны*.

**Квекаць** 'абрабляць, пэцкаць' (КЭС, лаг.). Гіперкарэктная форма да *квецаць* (гл.).

**Квеліцца** 'дражніцца' (Сцяшк. Сл.). Гл. *квяліць*.

**Квет** 'краска, кветка' (ТСБМ, Ян., Нас.), 'кветкі' (ТС). Укр. *квіт* 'кветка', рус. *квет* 'тс', ст.-слав. **цвѣтъ** 'тс', балг. *цвят*, мак. *цвет*, серб.-харв. *цвёт*, славен. *cvȇt*, польск. *kwiat*, чэш. *květ*, славац. *kvet*, в.-луж. *kwět*, н.-луж. *kwět*. Пераход *kv'*>*cv'* звязвае паўднёваславянскі і ўсходнеславянскі арэалы (гл. *цвет*). Заходнеславянскія формы з пачатковым *kv* распаўсюдзіліся на заходнюю частку ўсходнеславянскага арэала. Прасл. *květъ*, якое мае рэгулярныя аблаўтныя адносіны з дзеясловам *kvisti* (гл. *цвісці*). Рэгулярных паралелей за межамі славянскіх моў, як здаецца, няма (Слаўскі, 3, 479). Але германскія назвы пшаніцы і белага колеру можна суаднесці са славянскай назвай кветкі, калі прыняць пад увагу магчы-

масць кентумнага рэфлексу для апошняй і дублета *t/d*. Параўн. гоц. *ƕaiteis* 'пшаніца' і *ƕeits* 'белы' і ст.-слав. **свѣтъ** 'свет'. Літ. *kvietỹs*, лат. *kviesis* 'зерне пшаніцы' лічыцца германскім (гоцкім) па паходжанню. З гэтага пункту погляду прасл. *květъ* можа разглядацца як кентумны дублет да прасл. *světъ* або як лексічнае пранікненне з невядомай кентумнай мовы. Тады адносіны паміж *květъ* і *kvisti* трэба разглядаць як другасныя, якія ўзніклі па вядомай індаеўрапейскай мадэлі аблаўта. Але неверагодна, каб дублет *d/t* быў характэрны як для *květъ*, так і для *světъ*, тым больш што формы з канцавым *-d* не засведчаны. Таму як прасл. *květъ*, так і прасл. *světъ* нельга лічыць надзейнымі паралелямі да гоц. *ƕaiteis* і *ƕeits*. Аб семантычнай рэканструкцыі прасл. *květъ* гл. Лекс. Палесся, 29—30.

**Кве́тка** 'кветка' (ТСБМ, Нас., Касп., Сл. паўн.-зах., Нар. словатв., Бяльк., Мал.), 'галінка' (Гарэц., Выг.), 'вязка накшталт гронкі з ядлоўцу, якая ўмацоўваецца на месцы злучэння крокваў, бліжэйшых да вуліцы ў дзень пабудавання зруба' (В. В., Выг., Нар. словатв.), 'букет з калосся збажыны' (Нар. словатв.), 'нязжаты пучок калосся збажыны, пакінуты ў канцы жніва' (Шатал.). Гл. *квет*.

**Кве́тнік** 'газон, агародчык з кветкамі' (ТСБМ, Сл. паўн.-зах., Яшк., Сцяшк.). Гл. *квет*.

**Кве́цаць** 'мазаць, брудзіць, пэцкаць' (Пал., Ян., Шатал., Нар. словатв.). Гл. *квэцаць*.

**Кве́цень**$_1$ (ж. р.) 'кветкі (зборнае)' (ТСБМ). Гл. *квет*.

**Кве́цень**$_2$ 'красавік' (Нас., Сцяшк., Шатал.). Гл. *квет*. Бел. *квецень* памылкова разглядаецца як запазычанне з польск. *kwiecień* (Булыка, Запазыч., 145). У сапраўднасці гэта яшчэ праславянскае ўтварэнне: укр. *квітень*, рус. *цветень*, балг. *цветен*, серб.-харв. *цветан*, польск. *kwiecień*, чэш. *květen*, славац. *kveteň*. Суфіксальная дэрывацыя празрыстая: прасл. *květ-ьn-jь*. Прадуктыўны славянскі суфікс назоўнікаў *-jь* пашырае не менш прадуктыўны суфікс прыметнікаў *-ьnъ*. Назва месяца тады тлумачыцца як 'месяц цвіцення' (Слаўскі, 3, 486; Краўчук УМШ, 1955, 3, 61; Шаур, Этимология-1971, 95).

**Кві́га** 'кукіш' (Сл. паўн.-зах.). З польск. *figa* 'кукіш' (там жа, 454): *f*>*хв*>*кв* (апошні пераход — характэрны ўплыў літоўскай фанетыкі).

**Квік** 'віск' (Сл. паўн.-зах.). Паводле даных геаграфіі, разглядаецца як пранікненне з польск. *kwik* 'віск свінні' (там жа, 454), хаця слова яшчэ праславянскае: укр. *квік* 'віск парасяці', серб.-харв. *квӣк*, польск. *kwik*, славац. *kvik* 'тс'. Пытанне аб паходжанні рэгіянальнага беларускага слова цяжкае для вырашэння, паколькі ў гэтым выпадку маем справу з шырока



распаўсюджаным гукапераймальным утварэннем. Параўн. *квікаць* (гл.), *квічаць* (гл.).

**Квíкаць** 'крычаць (пра качаня)' (ТС). Гл. *квік*.

**Квілінне** 'жаласныя крыкі птушак, звяроў' (Гарэц.). Гл. *квяліць*.

**Квíнта** ў выразе *павесіць нос на квінту* (ТСБМ, Янк. БП). Зыходзячы з гісторыка-культурных меркаванняў, запазычанне з польск. *kwinta* (музычны тэрмін). Параўн. польск. *spuścić nos na kwintę* ў тым жа значэнні. Трэба адзначыць, што ў польскім выразе іншы дзеяслоў (*спусціць*), які звязвае метафарычнае значэнне з прамым, паколькі адно са значэнняў польск. *kwinta* 'найтанчэйшая струна ў скрыпцы'. Такім чынам, першаснае прамое значэнне 'спусціць струну'. Параўн. яшчэ *spuścić kwintę z basu* 'панізіць тон' (Слаўскі, 3, 492).

**Квíркаць** 'пра першыя гукі дзіцяці пры нараджэнні' (Нар. лекс.). Кантамінацыя *квікаць* (гл.) і *буркаць* (гл.).

**Квірча́ць** 'квакаць, квактаць, вішчаць, бурчаць' (Сл. паўн.-зах.). Гл. *квіркаць*.

**Квíсць** 'цвісці' (Нас., Др.-Падб., Гарэц.). Гл. *квет*.

**Квіт** 'пісьмовае пасведчанне аб чым-небудзь, квітанцыя, білет' (ТСБМ, Нас., Грыг., Гарэц., Сл. паўн.-зах., З нар. сл., Жд. 3, КЭС, лаг., Касп.), 'хопіць, канец' (ТСБМ, Касп., Нас., Бяльк.), 'вокліч незадавальнення чым-небудзь нецярпеннем' (Нар. лекс., Янк. БП). Апошняе ў выразе *квіт тваёй міласці*. Ст.-бел. *квитъ* 'квіт' (з 1529 г.). Са ст.-польск. *kwit* 'тс' (Булыка, Запазыч., 146). Польск. *kwit* у сваю чаргу з с.-лац. *quitus* 'вольны ад абавязкаў' (магчыма, праз с.-в.-ням. *quit* 'вольны, аплачаны') (Слаўскі, 3, 496).

**Квíта** 'задавальненне, канец' (Нас., Шат., Сл. паўн.-зах.). Гл. *квіт*.

**Квітава́цца** 'жывіцца, карміцца, эканоміць, быць ашчадным, вяртаць доўг, разлічвацца' (Сл. паўн.-зах., Весці, 1969, 4, 132). Гл. *квіт*.

**Квіта́нцыя** 'афіцыйная распіска ў атрыманні ад каго-небудзь грошай або іншых каштоўнасцей' (ТСБМ, Нас., Яруш.). Ст.-бел. *квитация, квитанция* 'тс' (з 1486 г.)<польск. *kwitacja* 'тс'< с.-лац. *quitacio, quitantia* (Булыка, Запазыч., 146; Слаўскі, 3, 497).

**Квітару́сьнік** 'кніжачка бланкаў, квітанцый, квітоў' (Нар. сл.). Да *квіт* (гл.). Словаўтварэнне прадугледжвае тры суфіксы: *-ар-усь-нік*. На жаль, словы **квітар* і **квітарусь* не засведчаны.

**Квіта́цца** 'расквітвацца, разлічвацца' (ТСБМ, Нас.). Гл. *квіт*.

**Квіта́ць** 'прымаць у разлік, задавальняць' (Нас.). Гл. *квіт.*

**Квітка**$_1$ 'вянок з жытніх каласкоў' (Сл. паўн.-зах.), 'мяцёлка проса, аўса, грэчкі' (Выг.) (Лекс. Палесся, 64—65). Кантамінацыя *кветка* (гл.), *кітка, кіта* (гл.) і, магчыма, *ветка* з агульным значэннем 'колас аўса або проса'.

**Квітка**$_2$ 'заканчэнне работы (будавання, жніва, сяўбы)': *«У нас квітка, дом накрыт»* (Выг.). Гл. *квітка*$_1$.

**Квітне́ць** 'распускацца, расцвітаць (пра кветкі)' (ТСБМ). Гл. *квет.*

**Квіто́к** 'квітанцыя, талон' (ТСБМ, Бяльк.), 'запіска, пісьмовы дазвол' (Нас., Грыг., Сл. паўн.-зах., Шат.). Гл. *квіт.*

**Квіты** 'разлічыліся, расквіталіся' (ТСБМ). Гл. *квіт.*

**Квітынь** 'час, калі пачало каласіцца жыта' (Выг.). Да *квісць* 'цвісці'. Для мадэлі на *-упь* не характэрна аддзеяслоўнае ўтварэнне (SP, I, 141).

**Квіцёк** 'кноцік' (Сл. паўн.-зах.). Гл. *квіцялёк.*

**Квіцялёк** 'кноцік' (Сл. паўн.-зах.). Характэрная для балтыйскай зоны фанетыка: *ф>хв>кв.* Да *_фіцёк<фіцілёк._ Магчыма, пад уплывам *квіток* (гл.).

**Квіча́ць** 'вішчаць, крычаць' (Сл. паўн.-зах., З нар. сл., Нар. лекс.), параўн. *квік.* Укр. *квичати*, рус. *квичать*, балг. *квича*, макед. *квичам*, серб.-харв. *цвúчати*, славен. *kvíčati*, польск. *kwiczeć*, чэш. *kvičeti*, славац. *kvičat'*, в.-луж. *kwičeć*, н.-луж. *kwicaś* 'тс'. Гэта праславянскае гукапераймальнае ўтварэнне (*kvičěti*) мае балтыйскія паралелі, якія прадстаўлены першасным дзеясловам: літ. *kvýkti*, лат. *kvīkt* 'тс'. Аднак магчымасці балта-славянскай інавацыі пярэчыць ням. паралель *quieken*. Тым не менш не выключана яе славянскае паходжанне (Бернекер, 656—657; Траўтман, 147; Слаўскі, 3, 484).

**Квічэ́ць** 'пішчаць, крычаць (пра свінню)' (Нар. сл., Др.-Падб., Клім.). Гл. *квік, квічаць.*

**Квок-квок** 'квактаць (пра курыцу)' (Нік. Напоў.). Гукапераймальнае.

**Квок** 'жабурынне' (Нас., Гарэц.). Гл. *квокаць* і *квактанне.*

**Кво́ка** 'квактуха' (Сл. паўн.-зах.). Гл. *квок-квок.*

**Кво́канне** 'жабурынне' (Нар. лекс.). Гл. *квок, квактанне.*

**Кво́каць** — *жабы квокаюць* (ДАБМ). Гл. *квакаць.*

**Кво́кі** 'квактанне' (Сцяшк.). Гл. *квок-квок* і *квока.*

**Кво́кля** 'квактуха, курыца, якая водзіць куранят' (ТСБМ, Нар. лекс.). Для аддзеяслоўных назоўнікаў, якія абазначаюць назвы асоб (жывёл, птушак), характэрная пеяратыўная суфіксацыя на *-ля.* Параўн. *піскля* 'піскуха', *бегля* 'непаседа' (Сцяцко, Афікс. наз., 53).



**Кво́ктушка** 'квактуха' (Мат. Гом.). Гл. *квактаць.*

**Кво́куш-кво́куш** 'падзыўныя для закліку квактухі з пісклятамі (куранятамі)' (Бяльк.). Гл. *квок-квок.*

**Кво́ленечкі** 'кволы' (Нар. словатв.). Гл. *кволы.*

**Кво́ліцца** 'недамагаць, хварэць' (Шат., Сержп. Пр., Янк. І, Жыв. сл., Ян., ТС), 'ныць, жаліцца, енчыць' (Шат., Мат. Гом., Сл. паўн.-зах.). Гл. *кволіць*$_1$.

**Кво́ліць**$_1$ 'слабець' (Нас.), 'непакоіць' (Сцяшк. Сл.). Гл. *кволіць*$_2$ і *кволы.*

**Кво́ліць**$_2$ 'рабіць што-небудзь больш вольным' (Нас.). Гл. *кволы.*

**Кво́ліць**$_3$ 'чакаць' (Нас.). Параўн. *кволіць*$_2$ і *паволі* (гл.).

**Кво́лы** 'фізічна не развіты, слабага здароўя, хваравіты' (ТСБМ, Нас., Шат., Касп., Грыг., Сержп. Пр., Ян., ТС, Бяльк., КЭС, лаг.). Руская тэрыторыя, дзе зафіксавана *кволый*, уваходзіць у адзін арэал з беларускай (Герд, Бел.-рус. ізал., 32). Беларуска-ўкраінская інавацыя (Мартынаў, Бел.-укр. ізал., 47). Укр. *кволий* 'слабы, хваравіты, марудны, павольны'. Паходзіць ад прыслоўя *кволи* 'павольна', якое да *_къволи_ (параўн. польск. *gwoli* і бел. *павольна*, укр. *повільно*) (ЕСУМ, 2, 419). Параўн. таксама *кволіць*$_2$. Такая этымалогія прыводзіць да адмаўлення ад ранейшых версій, абгрунтаванне якіх было вельмі цяжкім. Гэта датычыцца Ільінскага, РФВ, 1917, 3—4, 204—206 (_кволы<*kъv-_, звязанага з *kyvati* 'ківаць'), Праабражэнскага, I, 304 (_хилый>*хволый>кволы_), Фасмера, 2, 218—219 (*кволый<квелить* 'дражніць').

**Кво́ртка** 'фортачка' (Мат. Гом.). Да *хвортка<фортка.*

**Кво́та** 'частка, доля, працэнт' (ТСБМ, Нас., Касп., КЭС, лаг., Гарэц.). Ст.-бел. *квота* 'сума грошай, дата' (з 1680 г.) <польск. *kwota* 'тс' (Булыка, Запазыч. 146), якое з с.-лац. *quota* 'сума грошай' (Слаўскі, 3, 501—502).

**Кво́тнік** 'ліхвяр' (Гарэц.). Гл. *квота, квоты.*

**Кво́ты** 'працэнты' (Шн., Мядзв., Бяльк.). Гл. *квота.*

**Квох** 'пра квактанне, стогн' (Нар. лекс.). Гл. *квок.*

**Кво́хаць** 'квактаць' (Жд. 3, Бяльк., Юрч., Гарэц., Др.-Падб.). Гл. *квох.*

**Кво́хкаць** 'квактаць, стагнаць' (Яўс.). Як аб гэтым сведчаць значэнні, кантамінацыя *квактаць* і *вохкаць* (гл.).

**Кво́чка** 'курыца, якая сядзіць на яйцах, квактуха' (Мат. Гом.). Да *квока* (гл.). _Квочка<*квок-ька._

**Кво́шка** 'квактуха' (Бяльк.). Гл. *квочка.*

**Кву́ха** 'вялікая бочка' (Бяльк.). Да *_квасуха._ Параўн. *кваска* 'бочка невялікіх памераў'.

**Квыкавінне** 'жабурынне' (Бяльк.). Гл. *квок, квоканне, квактанне.*

**Қвылта́ць** 'глытаць' (Сцяшк. Сл.). Да *глытаць* (гл.).

**Қвыта́сты** 'квяцісты' (З нар. сл.). Гл. *квет, кветка.*

**Қвыхта́нне** 'жабурынне' (Бяльк.). Гл. *квыкавінне, квок.*

**Қвэ́цацца** 'марудна, няўмела што-небудзь рабіць' (Сцяшк.). Гл. *квэцаць.*

**Квэ́цаць** 'мазаць, размазваць, пэцкаць, брудзіць' (ТСБМ, Шат., Нік.). Параўн. *квецаць* (гл.). Укр. *квацати, квецати* 'мазаць глінай', рус. *квецать* 'тс', балг. *квацам* 'мазаць сцены вапнай, глінай'. Гл. *квацык* і *квач.*

**Қвяк-квяк**$_1$ — пра гукі ў час прымання ежы (Нар. лекс.).

**Қвяк-квяк**$_2$ — пра брэх сабакі (Нар. лекс.). Гукапераймальнае.

**Қвякчэ́ць**$_1$ 'квактаць' (Нар. лекс.). Гл. *квактаць.*

**Қвякчэ́ць**$_2$ — пра ваду (Нар. лекс.). Гукапераймальнае. Гл. *квякчэць*$_1$.

**Квяліць** 'дражніць, крыўдзіць' (Сл. паўн.-зах., ҚЭС, лаг., Жыв. сл., З нар. сл., Сцяц., Мат. Гом., Грыг., Янк. БП). У апошняй крыніцы: *«Майчанка не квяліць, але славу вялічыць».* Укр. *квілити*, рус. *квелить* 'тс', балг. *цвеля* 'гнявіць', серб.-харв. *цвѐлити* 'засмучваць', славен. *cvéliti* 'тс', польск. *kwielić* 'плакаць', ст.-чэш. *kvieliti* 'плакаць, мучыць', в.-луж. *cwělić* 'мучыць'. Прасл. *kvěliti* — каўзатыў да *kviliti*. Першае мела значэнне 'вымушаць плакаць', другое — 'плакаць' (Слаўскі, 3, 488; ЕСУМ, 2, 418; Ваян, RÉS, 37, 156—157). Паралелі за межамі славянскіх моў адсутнічаюць.

**Қвят** 'кветка' (Шатал.). З польск. *kwiat* 'кветка'.

**Қвяту́рка** 'прарэх (у штанах)' (Шатал.). Няясна. Магчыма, да *квет* (гл.). Утворана з дапамогай суфікса *-урка* (Сцяцко. Афікс. наз., 182).

**Қвя́ты** 'краскі' (Касп., Мал., Нар. словатв., Янк. Мат.), 'вазоны' (Сл. паўн.-зах.), 'настой з кветак' (Сл. паўн.-зах.). Да *квят* (гл.).

**Кваці́сты**$_1$ 'з вялікай колькасцю кветак, пакрыты кветкамі' (ТСБМ), 'калі кветка расліны складаецца з кветкавых лісткоў' (КЭС, лаг.). Гл. *квет.*

**Қвяці́сты**$_2$ 'з узорам у кветкі; яркі, каляровы' (ТСБМ, ҚЭС, лаг.). Гл. *квяцісты*$_1$.

**Қгві́нты** 'губы': *«Кгвінты свае надуў», «Спусціў нос на кгвінты»* (Нас.). Параўн. *квінта* (гл.).

**Ке** 'і, ды, ці', (ТС, Чуд., Шпіл.). Першую спробу этымалагізацыі знаходзім у Чуд., 76, дзе *ке* параўноўваецца са ст.-грэч. *καί* 'і'. Цыхун (БЛ, 28, 1985, 64) слушна адвяргае магчымасць захавання такога архаізма, які даў бы рэфлекс **це* (параўн. для ст.-рус. *цѣ* Фасмер, 4, 293). Цыхун (там жа, 64—65) прапануе тры магчымыя версіі паходжання разглядаемай лек-



семы. Варыянт *кі-* можна генетычна суаднесці са ст.-рус. *ти* 'і, а, але' ~ літ. *tei.., tei* 'як.., так і'. Тады прыйдзецца прыняць пад увагу паслядоўны пераход *t'>k'* на тэрыторыі распаўсюджання *кі*. Варыянт *ке* можна выводзіць з **ko-je*. І нарэшце, *кі<як і*. Апошняя версія здаецца найбольш пераканаўчай. Параўн. прыклад з Чуд.: *«На вадзе, ке на вяселлі людзі пьюць» («На вадзе, як і на вяселлі...»).* Або з ТС, 189: *«...А бобоўнік, ке полынь — горкота»* (= *«А бобоўнік, як і полынь....»*).

**Ке-ке-ке** 'падзыўныя для гусей' (ДАБМ). Гукапераймальнае.

**Кеб** 'каб' (Арх. ГУ, Нар. словатв., Шатал.). Гл. *каб.*

**Ке́бзаць** 'пэцкаць' (Жыв. сл.). Магчыма, балт. паходжання (<*kebsóti*). Параўн. літ. *kèbti* 'пакрыцца клейкай коркай' (Фрэнкель, 233).

**Ке́бка** 'пячурка ў печы' (Сл. паўн.-зах.). Параўн. укр. *кабиця* 'круглая яма пад ганчарнай печчу, летняя кухня', рус. *кабица* 'летняя кухня, будка сабакі, логава зайца'. Укр. *ковбиця* 'паглыбленне для попелу ў печы', *кобиця* 'паглыбленне пад прыпечкам'. Украінскае слова не мае надзейнай этымалогіі. Запазычанне з тур. *kabig* 'вялікі кол' неверагодна па значэнню, са шв. *kabyss* 'камбуз' — па гісторыка-культурных прычынах (гл. ЕСУМ, 2, 332, 481). Бел. *кебка* ў гэтых этымалогіях не ўлічваецца. Існуе, аднак, рус. *кибитка* ў значэнні 'цагляны каркас рускай печы, у якую складаюць гаршкі пасля абпалу'. Апошняе значэнне супадае з першым значэннем укр. *кабиця.* Адсюль можна меркаваць, што крыніцай разглядаемых слоў і рус. *кибитка* была тая ж цюркская лексема *kibit, käbit* 'будка'.

**Ке́бла** 'драўляная цурка цыліндрычнай формы', 'дзіцячая гульня (удзельнікі гульні палкай збіваюць кебла)' (Янк. III). Запазычанне з балт. літ. *kẽbla mùšti* — дзіцячая гульня — у зямлю ўтыкаюць галінку, надзяваюць на яе кружок і намагаюцца здалёк збіць яго. Гл. Урбуціс, Baltistica, V (1), 1969, 60; Лаўчутэ, Балтизмы, 67.

**Қе́гаць** 'крычаць (пра гусей)' (Янк.). Гл. *кігаць.*

**Қе́глі** 'гульня, якая заключаецца ў збіванні шаром драўляных слупкоў' (ТСБМ). Праз рус. *кегли* з ням. *Kegel* 'кегель, конус' (Фасмер, 2, 220).

**Ке́дзюсь** 'калісьці, некалі, даўней, у старыну' (Нар. лекс.). Гл. *кедысь.*

**Ке́да** 'загарадка' (Сцяшк. Сл.). Няясна. Фанетыка і геаграфія слова сведчаць аб магчымасці балт. паходжання. Параўн., аднак, семантычна далёкае *kedė̃* 'лаўка, табурэт'.

**Кедр** 'хвойнае дрэва' (ТСБМ). Укр. *кедр*, рус. *кедр*, ст.-рус. *кедръ*, ст.-слав. **кедръ**. Стараславянскае запазычанне са ст.-грэч. κέδρος 'тс' (Фасмер, 2, 221).

**Ке́ды** 'спартыўны абутак' (ТСБМ). Праз рус. *кеды* ад праблематычнага англ. уласнага імя *Kads* (Голуб-Ліер, 239).

**Ке́дысь** 'калісь' (Сл. паўн.-зах., Нар. лекс.). З польск. *kiedyś* 'тс'.

**Ке́зам** 'скоса' (Сцяшк. Сл.). Параўн. *кезнуцца* (гл.).

**Ке́знуцца** 'капрызіцца, непакоіцца' (Сл. паўн.-зах.). Лексічнае пранікненне з балт. Параўн. літ. *keĩzotis, keĩziotis* 'валтузіцца, кідацца' (там жа, 456). Балтыйскае паходжанне пацвярджаецца таксама геаграфіяй беларускага слова. Параўн. яшчэ *кезам* (гл.) у фразе *«к'езам прайшла кал'а нас, н'ичога н'е сказала»* (Сцяшк. Сл., 208).

**Ке́каць** 'гагатаць' (Мат. Гом.). Гукапераймальнае. Параўн. *гегаць* (гл.).

**Ке́кіліха** 'тоўстая жанчына' (Мат. Маг.). Няясна. Магчыма, да літ. *kẽkė* 'кісць, гронка, куча' з дапамогай экспрэсіўнага суфікса *-(л)іха*.

**Ке́кнуць** 'памерці' (ТС). Гл. *гегнуць*.

**Кекс** 'кандытарскі выраб' (ТСБМ). Запазычанне праз рус. мову з англ. *cakes* (форма мн. л.) 'тарты, піражныя' (Шанскі, 2, 8, 118).

**Кел, кёл** 'ікол' (Нас., Сл. паўн.-зах., Др.-Падб., Гарэц.), 'хітрасць, упартасць' (Нас.). Ст.-бел. *келъ* са ст.-польск. *kieł* (Булыка, Запазыч., 142). Гл. *ікол*.

**Келб** 'пячкур' (Сцяшк., Сл. паўн.-зах., Яруш., Нар. лекс., Сцяц.). Польск. *kiełb* 'Gobio fluviatilis', рус. *колб* (паўдн. і зах.) *колб* 'тс'. Паводле Трубачова (ЭИРЯ, 2, 38), польск. і рус. формы ўзводзяцца заканамерна да прасл. **kъlbъ*, якое запазычана з гоц. **kalbo* 'бычок (назва рыбы)'<*kalbo* 'бычок (назва жывёлы)'. Гэта версія не ўлічвае, аднак, больш складаныя адносіны паміж славянскімі словамі, якія можна ўзвесці да **kъlbъ* 'назва рыбы'. Па-першае, яны маюць больш шырокі арэал распаўсюджання (польская, беларуская, руская і ўкраінская тэрыторыі) (гл. Герд, Лекс. балтызмы, 10—11). Па-другое, версія Герда аб балтыйскім паходжанні гэтых слоў у сваю чаргу датычыцца толькі некаторых вытворных форм. Па-трэцяе, гоц. **kalbo* дало б прасл. **kolbъ* (польск. **kłob*, усх.-слав. **колоб*). Па-чацвёртае, няма, як здаецца, ніводнай германскай назвы рыбы, роднаснай гоц. *kalbo*. Мы б аддалі перавагу іншай гіпотэзе (таксама ад гоцкай крыніцы *kъlbъ*) (гл. Мартынаў, Бел.-польск. ізал., 94—95). Але перш за ўсё трэба ўдакладніць некаторыя даныя. Літ. *kélbas* запазычана з польск. *kiełb* (Фрэнкель, 236). На літоўскай моўнай глебе ўзніклі вытворныя *kelbùkas* (*kilbùkas*), якія сталі крыніцай бел. *кялбук, кяльбук*. Бел. *келб* — запазычанне з польск. *kiełb*. Формы *кялбочак* і *келбунок* — вытворныя ў беларускіх гаворках. Прасл. *kъlbъ*, якое можна рэканструяваць на падставе польск. *kiełb*, рус. *колб* і ўкр. *колб, ковб* — запазычанне з гоц. **kulbo*. Параўн. ням. *Kolbe* — назва некаторых булавападобных рыб (Грым., 1607). Дарэчы, ням. *Kaulkopf* 'Cottus gobio', якое таксама адносіцца да сямейства бычкоў (Gobiidae), названа так па прызнаку булавападобнасці (Keulenförmigkeit).



**Келбаса́** 'каўбаса' (Нас.). Гл. *каўбаса*.

**Ке́лбухі** 'кішкі, вантробы' (Сл. паўн.-зах.). Гл. *каўбух*.

**Ке́лбы** 'бababаўняныя ніткі' (Сцяшк. Сл.). Няясна.

**Ке́лза** 'гразь, мурза' (Сл. паўн.-зах.). Гл. *келзаць* і *кеўзаць*.

**Ке́лзаць** 'кілзаць, вуздаць' (Нас., Сл. паўн.-зах., Гарэц., Яруш., Бяльк.). З польск. *kiełzać* 'тс' (Слаўскі, 3, 148—149, Кюнэ, Poln., 64). Але польск. *kiełzać* само не мае задавальняючага этымалагічнага тлумачэння. Слаўскі (2, 149) спрабуе звязаць яго з укр. *ховстати* 'тс', аднак надзейных паралелей да гэтага ўкраінскага слова ў іншых славянскіх мовах ён не знаходзіць. Існуе іншая версія, згодна з якой *келзаць* (гл. таксама *гелзаць* і *гельзаць*) балтыйскага паходжання. Крыніцай магло быць слова *geležũnes* 'конская хвароба, залазаванне'. Цікава, што другая літоўская назва залазавання *pažañdes* узыходзіць да *žãslai* 'цуглі' (Лаўчутэ, Балтизмы, 102—103). Такім чынам, не выключана, што заходнебалтыйскае слова тыпу **gel'z* было крыніцай беларускіх і польскіх слоў. Трэба адзначыць, што балтыйскія формы насуперак Лаўчутэ (там жа, 103) не звязаны з балтыйскімі назвамі жалеза.

**Ке́лзы** 'цуглі' (Жыв. сл.). Гл. *келзаць*.

**Ке́ліх** 'вялікая, звычайна высокая чарка' (ТСБМ, Сл. паўн.-зах., Нас., Касп., Гарб., Гарэц.). Ст.-бел. *келихъ* (з 1677 г.) <польск. *kielich* (Булыка, Запазыч., 153)<с.-в.-ням. *kelch* 'тс' (Кюнэ, Poln., 64).

**Келі́шак** 'чарка для піцця гарэлкі' (З нар. сл., Мядз., Гарэц., Грыг.). Гл. *келіх*.

**Ке́лля** 'асобны пакой манаха ў манастыры' (ТСБМ). Ст.-рус. *келия*<с.-грэч. *κέλλα* (Фасмер, 2, 222).

**Ке́лтаць** 'боўтаць, размешваць' (Сл. паўн.-зах.). Слова балт. паходжання. Параўн. літ. *už-kélti* 'прыгатаваць ежу', *pa-kélti* 'падняцца (пра цеста)' (Арашонкава і інш. Весці АН БССР, 1971, 1, 86; Лаўчутэ, Балтизмы, 113).

**Ке́льбух** 'свіны страўнік, начынены кавалачкамі сэрца, пячонкі' (ТСБМ, Жыв. сл., Нар. сл.). Гл. *келбухі*.

**Ке́льма** 'прылада муляра' (Сцяшк.). Гл. *кельня*.

**Ке́льня** 'прылада муляра, тынкоўшчыка ў выглядзе трохвугольнай лапаткі для набірання і нанясення раствору на мур' (ТСБМ, Сл. паўн.-зах., Бяльк., Гарэц.). З польск. *kielnia* 'тс'.

На польск. глебе адбылася словаўтваральная інавацыя (суфікс *-nia*), першакрыніца — с.-н.-ням. *kelle* 'тс' (Слаўскі, 3, 142).

**Ке́льня**$_2$ 'старая невялікая хата, пакойчык' (Мат. Гом., Бяльк., Нар. словатв.). Да *келля* (гл.).

**Ке́льня**$_3$ 'кузаў у возе ў выглядзе плеценага паўкаўша' (Нар. словатв.) <польск. *kielnia* 'тс'; якое з ням. *Wagenkelle*. Параўн. *кельня*$_1$ (гл.).

**Ке́льзы** 'цуглі' (Нар. словатв.). Гл. *келзы*.

**Ке́мель** 'шляпа, шапка' (Рам.), *камёла*<польск. арг. *kaniola*.

**Ке́міць** 'разумець, разбірацца, цяміць' (ТСБМ, Шат., ТС, КЭС, лаг, Гарэц., Бір.). Укр. *кемити* 'тс'. Фанетычны крытэрый дазваляе меркаваць аб лексічным пранікненні з польскай, хаця непасрэднай крыніцы мы не знаходзім. ЕСУМ, 2, 422 тлумачыць гэта наступным чынам. Прасл. *kъm-* (укр. *кмітливий, прикмета*) дало польск. *kiem-*, на аснове якога ўзнікла невядомая нам польская лексема як крыніца беларускіх і ўкраінскіх слоў. Гэтыя разважанні здаюцца даволі праблематычнымі, паколькі нам невядомае польск. **kiemić*, а таксама яго дэрываты (**kiemny*, **kiemliwy*). Аўтары ЕСУМ хацелі б бачыць у якасці зыходнай лексемы прасл. *kъmetь*, у якім, апрача значэнняў 'селянін' і 'гаспадар', існуюць значэнні 'галава роду, старшыня, мудрэц, хітры і спрытны чалавек', прычым апошнія значэнні мы сустракаем ва ўсіх трох групах славянскіх моў (гл. *кмець*). Калі ўтварыць ад прасл. *kъmetь* дзеяслоў, атрымаецца *kъmetiti* (як *gostiti*<*gostь*), якое ў выніку гаплалогіі магло пераўтварыцца ў **kъmiti* або **kъměti*. Першае на польскай моўнай глебе дало б **kiemić* (resp. **kmić*). Параўн. польск. *kpić* і каш. *k'epic* (ад *kiep*).

**Ке́мкі** 'здагадлівы' (Шат., КЭС, лаг., Жд. 3, Гарэц.). Гл. *keміць*.

**Ке́млівы** 'здагадлівы, цямкі' (ТСБМ, Сл. паўн.-зах.). Гл. *кеміць*.

**Ке́мнуць** 'заснуць' (Сцяшк. Сл.). Гл. *кімарыць*. Рус. *кимать* 'спаць'. Польск. *kimać* 'тс', якое разглядаецца як запазычанне з рускай, паколькі першакрыніца адносіцца да так званай мовы афеняў, якая лакалізуецца ў цэнтральнарускім рэгіёне. Афеньск. *кимать* узыходзіць да н.-грэч. *κοιμοῦμαι* 'спаць' (Фасмер, Этюды, 87). Этымалогія гэтага слова чамусьці не трапіла ў Этымалагічны слоўнік Фасмера. Іншыя этымалогіі ненадзейныя. Параўн. Бандалетаў, Этимология-1980, 69.

**Ке́мны** 'кемлівы' (ТСБМ, КЭС, лаг., Гарэц.). Гл. *кеміць*.

**Ке́нар** 'канарэйка-самец' (ТСБМ). Да *канарэйка* (*а*>*е* пад націскам) 'птушка з Канарскіх астравоў'.



**Ке́ндаць** 'таптаць' (Сцяшк. Сл.). Няясна. Не выключана, што да *кендзіць*, **кенціць*<літ. *keñkti, kenkiù* 'псаваць' (Фрэнкель, 240). Трэба сказаць, што да адзінага прыкладу ў Сцяшк. Сл., 209 можна даць адэкватнае тлумачэнне: *«Ван'а, н'а к'ендай па кв'етках, апхадз'и акуратн'ан'ка»*. У гэтым прыкладзе дзеяслоў *кендаць* можна тлумачыць як 'вытоптваць, псуючы'.

**Ке́ндзіцца** 'капрызіць' (Сцяшк. Сл.). Да папярэдняга? Гл. *кендаць*.

**Кенёдзіцца** 'лёгка капрызіць, скардзіцца' (Шат.). Гл. *кендзіцца*.

**Ке́ндзюх** 'страўнік з начынкай' (Мат. Гом.), 'брухаты, пузач' (Нар. лекс.). Гл. *кіндзюк*.

**Кенды́р** 'шматгадовая травяністая расліна Apocynum L.' (ТСБМ). Укр. *кендир*, рус. *кендырь* 'тс'. Запазычанне з цюрк. моў. Дакладная крыніца не вызначана. Параўн. узб. *кендир*, тур. *kendir* (ЕСУМ, 2, 423). Фасмер (2, 222) бачыць у рус. *кендырь* прамое запазычанне з тур. *kendir*.

**Ке́ньгі** 'цёплыя галошы' (Нас., Грыг.). Укр. *кенді* 'тс'. Запазычанне з рус. *кенги*, якое прыбалт.-фінскага паходжання: карэл. *kengä* 'чаравік', фін. *kenkä* (Фасмер, 2, 223; ЕСУМ, 2, 423).

**Кеп** 'дурань, блазан' (Гарэц., Нас. Сб., Шпіл., Янк. БII). Укр. *кеп* 'тс'. Бел. і ўкр. словы запазычаны з польск. *kiep* 'тс', якое ўзводзіцца да прасл. формы *kъpъ* (Слаўскі, 2, 151). Больш верагодным здаецца тлумачэнне польск. *kiep* як слова балт. паходжання. Параўн. літ. *kẽpis* 'разява', якое, аднак, не мае задавальняючай этымалогіі. Незразумела, чаму Лаўчутэ (Балтизмы, 113), адносячы вытворнае ад *кеп*>*кепска* да ліку балтызмаў, не выказала сваёй думкі наконт лексемы *кеп*. Дабрадомаў (вусна) выказаў думку аб магчымым паходжанні бел., укр. і польск. *кеп, kiep* ад булг. **käp* 'ідал, балван' (вядома, што ст.-слав. **капиште** 'капішча, язычніцкі храм' таго ж паходжання).

**Ке́па** 'кепка' (Мат. Гом.). З рус. *кепи, кепка*<франц. *képi* (Шанскі, 2, 8, 121).

**Ке́пала** 'капун, капуха' (Жыв. сл., Янк. Мат.). Гл. *кепацца*. Магчыма, утворана пры дапамозе суфікса *-ала* ад *капаць* (параўн. семантычна *капун*) з другасным пераносам націску на каранёвы галосны (*ка́пала*>*ке́пала, а*>*е* пад націскам) (параўн. Сцяцко, Афікс. наз., 93—94). Іншую версію прапануе Непакупны (Лекс. балтызмы, 29) з літ. *kẽpalas* 'булка хлеба'. Семантычнае разыходжанне ён тлумачыць наступным чынам. Тое ж літ. утварэнне з іншым суфіксам *kepaĩšis*, апрача значэння 'хлеб, ляпёшка', мае яшчэ пераноснае значэнне

'мямля, размазня'. Гэтай версіі прытрымліваецца таксама Лаўчутэ (Балтизмы, 67).

**Ќепацца** 'кешкацца' (Нар. сл.). Да *капацца* (гл.) (*а>е* пад націскам).

**Ќéпек** 'сіняк звычайны, Echium Vulgare L.' (Кіс.). Магчыма, балтыйскага паходжання. Параўн. сінонім *печаніца* і літ. *kèpti* 'пячы'. Словам-крыніцай было б **kepekas*, а бел. *печаніца* яго калькай.

**Ќепелі** 'мазгі' — *«Трэба, шоб кепелі добрэ варылі»* (ТС). Да *кепель* (гл.). Метанімічны пераход.

**Ќéпель** 'плечы' (Сцяшк. Сл.), 'загрывак, патыліца, карак' (Нар. лекс., Жыв. сл.). Запазычанне з літ. *kẽpalas* 'спіна, горб' (Лаўчутэ, Балтизмы, 134).

**Ќéпікі** 'насміханне, кпіны' (ТСБМ, Нас., Шат., Касп., КЭС, лаг., З нар. сл.). У выразе *кепікі строіць* (ТСБМ, Янк. БФ). Утварэнне, тыповае для фразеалагізмаў. Параўн. *дрыжыкі. скалікі* (Сцяцко, Афікс. наз., 86). Да *кеп* (гл.).

**Ќéпка₁** 'мужчынскі мяккі галаўны ўбор з казырком без аколышка' (ТСБМ, Сцяц., Сцяшк.). Гл. *кепа*.

**Ќéпка₂** 'пячурка, ніша ў сценцы печы' (Шатал.). Гл. *кебка*.

**Ќепкавáць** 'жартаваць, насміхацца' (Сцяшк. МГ, З нар. сл., Сцяшк., Бір.). Гл. *кеп, кепікі*.

**Ќéпкаць** 'нешта неахайна змешваць' (КЭС, лаг., Др.-Падб.). Рабіць штосьці, як *кеп* (гл.).

**Ќéпнуць** 'памерці, зайсціся' (Жд. 2). Гл. *капец* 'канец, смерць'.

**Ќепóваць** 'кеміць' (ТС). Гл. *кепелі*.

**Ќéпска** 'дрэнна' (ТСБМ, Шат., Гарэц., КЭС, лаг., Сцяшк., Бяльк., Мядзв., Сержп. Пр.). Гл. *кепскі*.

**Ќéпскі** 'дрэнны, благі' (ТСБМ, Нас., ТС, Сл. паўн.-зах., Шат., Касп., Яруш., Сержп. Ск., Бяльк.). Гл. *кеп*.

**Ќéпства** 'здзек' (Шат., Мат. Гом., Янк. БП). У апошнім — выраз *зрабіць кепства*. Да *кеп* (гл.).

**Ќéпці** 'зубцы ў шасцярні' (Сл. паўн.-зах.). Гл. *кіпець*.

**Ќéпша** 'тоўстая непаваротлівая жанчына' (Сл. паўн.-зах.). З літ. Параўн. літ. *kepšỹs* 'няўмека' (там жа, 457).

**Ќéпяць** 'кіпцюр' (З нар. сл.). Гл. *кіпець*.

**Ќéрад** 'карытца для рэзкі сечкі' (Сцяшк. Сл.). Мабыць, недакладнасць у дэфініцыі. У Сцяшк. Сл., 209 прыводзіцца наступны прыклад: *«Наш к'ерад зус'им сапсаваўс'а, н'има йак резац' с'ечку»*, з якога відаць, што гаворка ідзе аб прыладзе для рэзкі сечкі. Назва гэтай прылады таго ж паходжання, што і *керат* (гл.) 'конны прывад да малатарні' (*«Коні цягнулі керат, а ён круціў малацілку»*). Апошняе з польск. *kierat* 'гарызантальнае зубчатае кола, якое круцілі коні, а яно прыводзіла ў рух розныя сельскагаспадарчыя машыны'. Польск. *kierat*<ням. *Kehrrat* 'тс' (*Rad kehren* 'круціць кола') (гл. Слаўскі, 2, 152).



**Керайшá** 'няўклюда, нязграбны чалавек' (Сл. паўн.-зах.). Запазычанне з літ. *kereĩšà* 'тс' (там жа, 457).

**Ќéранка** 'грашовы, папяровы знак, які быў выпушчаны Часовым урадам Керанскага' (ТСБМ).

**Ќéранскі** 'немалады халасцяк' (Мат. Гом.). Іранічна да вядомага прозвішча.

**Ќéрапла** 'нязграбны чалавек' (Непакупны). З літ. *kerẽpla* 'бясформеннае стварэнне'.

**Керасіна** 'газа' (Сцяшк.). Запазычанне праз рус. або польск. з ням. *Cerosin*. Шанскі, 2, 8, 122.

**Керасíніца** 'газніца, частка лямпы, у якую наліваецца газа' (Бяльк.). Гл. *керасіна*.

**Керасінка** 'лямпа (керасінавая)' (Мат. Гом.). Да *керасіна* (гл.).

**Ќéрат** 'конны прывад малатарні' (Сл. паўн.-зах.). З польск. *kierat* 'тс'<ням. *Kehrrat* 'тс' (гл. *керад*).

**Ќéрзавы** 'юхтовы' (Сл. паўн.-зах.). Гл. *кірза*.

**Ќéрзаць** 'плесці (лапці, каробку), не надта ўмеючы' (Янк. III, Гарэц., Нар. словатв.), 'вязаць, блытаць' (Сл. паўн.-зах.). Запазычанне з балт., параўн. літ. *ker̃zinti*, *kerzénti* 'марудна рухацца' (Грынавецкене і інш., LKK, 16, 1975, 183—184; Лаўчутэ, Балтизмы, 67). Трэба адзначыць, што літоўскія прыклады семантычна вельмі далёкія. Больш рэальна ў якасці першакрыніцы слова з невядомага субстратнага ўсходнебалтыйскага дыялекту. Магчыма, тут атрымалася кантамінацыя з іншымі назвамі пляцення лапцяў. Параўн. *абарсаць, варсаць, бэрсаць*.

**Ќéркацца** 'марудзіць' (Др.-Падб.). Магчыма, да *керкаць* (гл.).

**Ќéркаць** 'цяжка дыхаць' (Сцяшк. Сл.), 'гагатаць' (Сл. паўн.-зах.). Гукапераймальнае, відаць, балт. паходжання. Параўн. літ. *ker̃kti* 'кракаць' (там жа, 458).

**Кермáш** 'кірмаш, шум, гоман, неспакой' (Нас., Фед., Сцяшк.), 'свята' (Жыв. сл.). Гл. *кірмаш*.

**Кермашавáць** 'быць на свяце, святкаваць' (Нас., Жыв. сл., ТС). Гл. *кірмашаваць, кірмаш*.

**Ќéрнер** 'слясарны інструмент у выглядзе завостранага стальнога стрыжня, які прымяняецца пры разметцы загатовак для далейшай апрацоўкі' (ТСБМ, Жыв. сл.). Укр. *кернер*, рус. *кернер* — запазычанні з ням. *Körner* 'тс' (ЕСУМ, 2, 425).

**Ќéрнавухі** 'бязвухі, са скручаным вухам' (ТС). Гл. *карнавухі*.

**Кернóз** 'кныр, кабан з кароткім лычом' (Сл. паўн.-зах.). Гл. *кнораз*.

**Ке́рпаць** 'крэмзаць, пісаць' (КЭС, лаг.). Параўн. рус. *кропать* у тым жа значэнні. Магчыма, гэтыя словы звязаны па паходжанню з прасл. *kъrpati* 'латаць, лапіць' (рус. *корпать* 'лапіць', серб.-харв. *кр̏пити* 'тс', славен. *kŕpati* 'тс' і інш.), літ. *kùrpė* 'чаравік', лат. *kur̃pe* 'тс', ст.-прус. *kurpe* 'тс'. Параўн. *лапаць* і *лапіць*.

**Ке́рхаць₁** 'хваравіта пакашліваць, перхаць' (ТСБМ). Гукапераймальнае.

**Ке́рхаць₂** 'пра малое дзіця, якое плача, голас падае, есці хоча' (КЭС, лаг.). Магчыма, кантамінацыя *кіркаць* (гл.) і *перхаць* (гл.).

**Ке́ршы** 'пярэсты' (Сл. паўн.-зах.). *«Бывае кершы бык, карова кершая»* (там жа, 458). Параўн. таксама бел. *кершыс* 'пярэсты вол', *кершаваты* 'пярэсты', польск. *kierszuk, kierszal* 'пярэсты бык', *kierszajka* 'пярэстая карова'. Дадая група слоў літ. паходжання: літ. *kẽršis* 'пярэсты (бык, конь)'. Адпаведныя дэмінутывы: *keršùkas, keršẽlis* (Грынавецкене і інш., LKK, 16, 1975, 178; Лаўчутэ, Балтизмы, 45).

**Ке́рыць** 'гуляць, п'янстваваць' (Нас., Яруш.), 'маніць' (Сцяшк. Сл.). Слова балт. паходжання. Параўн. літ. *gérti, geriõti* 'піць, п'янстваваць', *gėrč̃ias* 'п'яніца'. Таго ж паходжання рус. *кирять* 'выпіваць', польск. *kirzyć* 'п'янстваваць', *kirny* 'п'яны'. Пранікненне да ўсходнеславянскіх і польскай моў ішло праз арго. Незразумелым застаецца другое значэнне ('маніць'). Параўн. Бандалетаў, Этимология-1980, 68—69.

**Кес-кес-кес!** падзыўныя для гусей (ДАБМ). Гукапераймальнае.

**Ке́са** 'машна на грошы' (Др.-Падб.). Укр. *кеса, киса* 'тс', польск. *kiesa* 'тс' — запазычанні з тур. *kese* 'машна на грошы', *kise* 'тс'. Гл. Фасмер, 2, 239; Слаўскі, 2, 157—158; ЕСУМ, 2, 426.

**Ке́ска** 'кашалёк' (Нас., Др.-Падб., Яруш., Бяльк., Сцяшк., Гарэц.). Гл. *кеса*. Версія аб паходжанні слова з балт. неабгрунтаваная (Лаўчутэ, Балтизмы, 113). Да таго ж прыклады з літ. і лат. моў семантычна далёкія: лат. *ķešķis* 'драўляныя насілкі', літ. *kẽstės* 'тс' або *ķẽska* 'анучы, рыззё'.

**Ке́сьцэ** 'асада касы, цаўё, касаўё, касавільна' (Дразд.). Да *каса* (гл.).

**Ке́та** 'марская прамысловая рыба сямейства ласасёвых' (ТСБМ). Запазычанне праз рус. мову з тунгуса-маньчжурскіх моў: эвенк. *кета* 'тс', маньчж. *к'ата* (ЕСУМ, 2, 426).

**Ке́ўбух** 'страўнік з начынкай' (Мат. Гом.). Параўн. *келбухі* (гл.), *каўбух* (гл.).



**Ке́ўзацца** 'мазацца' — *«ходзяць свіне да ў аўжах кеўзаюцца»* (Сержп.). Гл. *кеўзаць*.

**Ке́ўзаць** 'пэцкаць, брудзіць, мазаць' (Шат., Сл. паўн.-зах.), 'мыць' (ТС). З літ. *kiaũzoti* 'мазаць, пэцкаць' (Сл. паўн.-зах., 458; Лаўчутэ, Балтизмы, 113).

**Кеўк** 'гукапераймальнае, пра курэй' (ЭШ, рук.). Гл. *кеўкаць*.

**Ке́ўкаць** 'крычаць тонкім голасам' (Федар.), 'мяўкаць' (Жыв. сл., Нар. лекс.), 'ледзьве існаваць, дыхаць' 'глытаць так, каб было чуваць' (Нар. словатв.). Гукапераймальнае слова. Мабыць, лексічнае пранікненне з балт. моў. Параўн. літ. *kiáukė* 'галка', *kiaukšė́ti, kiaukšė́ti* 'крычаць (пра галку), вішчаць (пра шчанюкоў)', *kaũkti* 'выць, вішчаць', *kaũka* 'крыкун, плаксун'. Спрадвечна родпасныя да гэтых літоўскіх слоў: серб.-харв. *ку̏кати* 'плакаць, стагнаць' і інш.

**Ке́ўкнуць₁** 'піснуць (пра ката)' (Нар. лекс.). Гл. *кеўкаць*.

**Ке́ўкнуць₂** 'здохнуць, памерці' (Жыв. сл., Нар. словатв.). Укр. *кикнути* 'тс'. Паняцце «пагібелі» звязваецца з паняццем «гнутага». Параўн. *гінуць* і *гнуць*. Гэта дае падставу выводзіць бел. і ўкр. дзеясловы ад прасл. *kyka*, літ. *kùkis* 'гак' і інш. (ЕСУМ, 2, 431). Параўн. таксама звонкі варыянт *гегнуць* (гл.).

**Ке́ўлець** 'слабець' (Сцяшк. Сл., З нар. сл.). Гл. *кеўліцца, кеўляць*.

**Ке́ўліцца** 'тлець' (Шатал.). Гл. *кеўляць, кеўлець*.

**Ке́ўляць** 'ледзь жыць, ледзь дыхаць, вельмі нядужаць' (Янк. I, Мат. Гом.), 'есці без апетыту' (З нар. сл.). Гл. *кеўлець*. Лаўчутэ (Балтизмы, 113) разглядае слова як балтызм. Пры гэтым яна спасылаецца на такія літоўскія прыклады, як *kiáulioti* 'гадзіць, паскудзіць, швэндацца', *kiáuliotis* 'свінячыць, бадзяцца', якія паходзяць ад *kiaũle* 'свіння'. Трэба адзначыць, што прыведзеныя прыклады семантычна не адпавядаюць беларускім словам, для якіх дамінантным значэннем было б 'нядужаць, слабець'. Можна, аднак, маючы на ўвазе ў аналагічных выпадках невядомую ўсходнебалтыйскую крыніцу, дапусціць наступныя семантычныя пераходы: 'швэндацца, бадзяцца' > 'марудна рухацца' > 'слабець, нядужаць'.

**Ке́ўцаць** 'пэцкаць' (Мат. Гом.). Да *квецаць* (гл.). Кантамінацыя з *кеўзаць* (гл.).

**Ке́ўчыць** 'жаваць, камячыць' (Жыв. сл.). Гукапераймальнае з метатэзай да *чаўкаць* (гл.).

**Кехе-кехе** гукапераймальнае пра курэй (ЭШ, рук.).

**Ке́ца** 'няўмека' (Нар. лекс.). Гл. *кецала*.

**Ке́цала** 'пэцкаць' (Нар. лекс.). Да *квэцаць* (гл.). Параўн. укр. *кецяти* 'пэцкаць'.

**Ке́цка** 'торбачка' (Сцяшк. Сл.). Ад *кеска, кеса* (гл.).

**Ќе́ча** 'гронка, корч цыбулі, суквецце' (Сл. паўн.-зах.). Мабыць, праз незасведчаную форму **кича* (<прасл. *kyča*< *kytja*) да *кіта* (гл.). Параўн. укр. *кетяг* 'грона' і *китяг* 'тс' (ЕСУМ, 2, 427). Ќаранёвае *е* другаснае на месцы *і* (<*ы*).

**Ќе́шкацца** 'доўга займацца з чым-небудзь, марудна рабіць што-небудзь; корпацца' (ТСБМ, Нас., ҚЭС, лаг., Ќасп., Шат., Сл. паўн.-зах., Бір., Бяльк.). У адпаведнасці са Сл. паўн.-зах., 458—459 запазычана з літ. *teškéntis* 'плёскацца, забаўляцца, пэцкацца ў лужыне'. Лаўчутэ (Балтизмы, 67) прытрымліваецца іншай версіі. Слова таксама разглядаецца як балтызм, але ў якасці крыніцы адзначаюцца лат. *kęskât* 'прагна есці, пэцкацца, марудзіцца', *kęska* 'неахайнік'. Ненадзейна.

**Ќе́шкаць** 'муштраваць' (Сцяшк. Сл.), *кешкаты* 'мяшаць, варочаць' (З нар. сл.). Гл. *кешкацца.*

**Кзык** 'шум, гудзенне; пасякомае' (Нас.). Гэта слова можна разглядаць як кантамінацыю *гзіцîся* (гл.) (<польск. *gzić się* 'гізаваць') і *бзыкаць* (гл.) 'гудзець'.

**Кзымс** 'карніз' (Нас., Ќасп.). Гл. *гзымс.*

**Ќіба́лка** 'старажытны жаночы галаўны ўбор, абруч, на які накручваюцца валасы' (Малч., ТС, Сцеп., Сержп. Грам., Нік., Шн., Маш.), 'хустка' (ДАБМ, Серб.). Укр. *кибалка* 'тс'. Варыянт *гибалка* 'тс' сведчыць аб магчымасці ўзводзіць гэтыя словы да дзеяслова *гібаць* (гл.). Семантыка тлумачыцца тым, што на ўбор або абруч накручваюцца валасы (ЕСУМ, 2, 428). Аднак існуе пераканаўчая гіпотэза аб балтыйскім паходжанні ўсходнеславянскіх слоў. Параўн. літ. *kýblas* 'шырокая павязка на валасах дзяўчыны', *kūbulas* 'шырокая стужка, на якую накручваюць валасы кругом галавы'. Прыняць славянскае паходжанне для гэтых слоў немагчыма (Буга, Rinkt, 3, 777). Да таго ж у адрозненне ад беларускіх, украінскіх і рускіх слоў літоўскія маюць даволі празрыстую этымалогію. Яны ўзводзяцца да *kibti* 'чапляцца', *kaběti*, *kybóti* 'вісець, абвісаць', *kabìnti* 'абхопліваць, браць у кола' і інш. Неабходна адзначыць, што рад украінскіх і беларускіх слоў мае форму з *м* (*кімбалка, кимбалка*), якая адпавядае форме цяперашняга часу дзеяслова *kibti* (*kim̃ba*) (Лаўчутэ, Балтизмы, 114).

**Ќіба́льніца** 'гадалка' (ТС). Гл. *кабала.*

**Ќібдзюры́** (Сержп. Грам.). Гл. *кіпцюры, кіпець.*

**Ќібіс** 'кнігаўка, Vanellus cristatus' (Сл. паўн.-зах., Ќасп., Бяльк.). Укр. *киба* 'чайка, Vanellus vanellus L.', *кебіс* 'тс'; балг. *кибис* 'тс' і іншыя выводзяцца з ням. *Kiebitz* 'тс' (ЕСУМ, 2, 427—428). Аднак суадносіны паміж славянскімі і нямецкімі формамі застаюцца няяснымі. Клюге (366) прытрымліваецца версіі, якая адвяргае запазычанне, хоць фармальнае супадзенне не можа тлумачыцца выключна гукаперайманнем.



**Ќібітка** 'крытая павозка ў качэўнікаў' (ТСБМ). Гл. *кібіць.*

**Ќібіць** 'пруткая выпукласць, дрэўка лука' (Гарэц.). Ст.-рус. *кибить* 'дуга'. Запазычанне з тат. *kibit* 'крама, будка'. Параўн. *кібітка* (гл.) (Фасмер, 2, 227—228).

**Ќібкі** 'страва з малака і крухмалу' (З нар. сл.). Калі ўлічыць, што страва складаецца з кавалкаў крухмалу і вадкасці, можна дапусціць паходжанне *кібкі* ад *скібкі* (гл. *скібка*). Пры гэтым адбылася памылковая дэкампазіцыя з прыняццем пачатковага *с*- за прэфікс.

**Ќіблі** 'посуд' (Сцяшк. Сл.). Укр. *кибель* 'вядро, цэбар'. Запазычана праз польскае пасрэдніцтва (польск. *kibel* 'тс') з ням. *Kübel* 'цэбар' (Слаўскі, 2, 131; ЕСУМ, 2, 428).

**Ќібяць** 'кіпцюр' (Сл. паўн.-зах.). Гл. *кіпцюры, кіпець.*

**Ќіва́йка** 'частка самапралкі, якая перадае рух падножжа вялікаму колу' (Влад.). Гл. *ківаць.*

**Ќіва́ла** 'чалавек, якому даручана сцерагчы што-небудзь і даваць знак іншым', 'кепскі працаўнік' (Нас.). Да *ківаць* (гл.).

**Ќіва́льнік** 'маятнік у гадзінніку' (Бяльк.). Гл. *ківаць.*

**Ќівам** 'мігам' (Нас.). Гл. *ківаць.*

**Ќіва́цца** 'рытмічна хістацца, калыхацца, віхляцца' (ТСБМ, Сл. паўн.-зах., Ќасп., Бяльк.), 'нахіліўшыся працаваць' (Сл. паўн.-зах., Ќасп., Бяльк.). Гл. *ківаць.*

**Ќіва́ць** 'рухаць, пахістваць, падаваць знакі галавой, пальцамі' (ТСБМ, Нас., ТС, Грыг., Гарэц., Яруш., Сержп., Бяльк.). Укр. *кивати*, рус. *кивать* 'тс', ст.-слав. **покывати** 'паківаць', балг. *кивам*, славен. *kívati* 'ківаць', польск. *kiwać*, чэш. *kývati*, славац. *kývat'*, в.-луж. *kiwać*, н.-луж. *kiwaś* 'тс'. Прасл. **kyvati* — ітэратыўная форма ад *kъvati* (ст.-слав. **къвати**). Суадносілася з лац. *ceveo* 'віляю'. У апошні час атрымала яшчэ адну індаеўрапейскую паралель: асец. *giwyn* 'мучыцца, трасціся'. Гл. Фасмер, 2, 228; Абаеў, 1, 520; ЕСУМ, 2, 428.

**Ќіве́ль** 'аб хуткім ківанні' (Мядзв.). Да *ківаць* (гл.). Утварэнне пры дапамозе суфікса *-ель*, які выражае значэнне аддзеяслоўнага назоўніка разавага дзеяння. Параўн. *штурхель* ад *штурхаць, таўхель* ад *таўхаць* (Сцяцко, Афікс. наз., 86).

**Ќіве́нька** 'нагавор, плётка, зачэпка для сваркі' (ТС). Да *ківаць* (гл.) у значэнні 'нагаворваць' (<'паказваць пальцамі').

**Ќівернуць** 'кульнуць, крутнуць' (ТС). Гл. *кавыраць.*

**Ќівілка** 'мерны сажань' (ТС). Няясна. Магчыма, да *вілка*$_1$ (гл.) 'назва прыстасаванняў з раздвоеным канцом'. Пачатак слова да *ка*- з наступнай асіміляцыяй галосных.

**Кiвiлы** 'апалонiкi' (Сл. паўн.-зах.). З лiт. *kivýnas* 'апалонiк', там жа, 459, з iншым значэннем для лiт. слова.

**Кiвiляцца** 'вагацца, боўтацца ў бакi' (ТС). Гл. *кiвiляць*.

**Кiвiляць** 'чыкiльгаць, матляцца пры хадзьбе' (ТС), рус. *ковылять* няяснага паходжання.

**Кiвiня** 'качарга' (Шатал.). Гiпотэза аб балтыйскiм паходжаннi слова абапiраецца на лат. *ķiveņs* 'круглая палка з зубчастым жалезам i ражкамi' (Лаўчутэ, Балтизмы, 114). Цiкава, што лiт. *kivýnas* значыць 'апалонiк (бiял.)', што, магчыма, сведчыць аб кальцы з балтыйскага для назвы апалонiка (гл. *апалонiк₂*).

**Кiвiрзе́нь** 'лапаць' (Шн.). Гл. *каверзнi*.

**Кiвíчэць** 'вiшчаць' (Нар. лекс.). Гл. *квiчэць*.

**Кiву́ль** 'хуткi аднаразовы рух' (Нас.). Гл. *кiвель, кiваць*.

**Кiву́нь** — пра падачу знака кiўком (Нар. лекс.). Гл. *кiвель, кiваць*.

**Кiвэйзар** 'тэлевiзар' (Мат. Гом.). Да *тэлевiзар* пад уплывам *кiваць*.

**Кiгаць** 'крычаць, пiшчаць' (Нас.). Гл. *кiгi, кiгiкаць*.

**Кiгí** 'дзiця, плач дзiцяцi' (Нас.), 'пра няясны крык птушкi' (Нар. лекс.). Укр. *киги* 'крык чайкi', *кигик* 'тс', *кигикати* 'крычаць як чайка', рус. *кигикать* 'крычаць як птушка'. Гукапераймальнае (ЕСУМ, 2, 428—429). Польск. *kihiczeć* з усходнеславянскiх моў (нехарактэрнае *h*).

**Кiгiкаць** 'абзывацца гукамi, падобнымi да «кi-гi»' (ТСБМ, Сл. паўн.-зах.), 'аб чайцы' (ТС).

**Кiда́ўнiк** 'чалавек, якi складвае стог' (Выг.). Да *кiдаць* (гл.).

**Кiда́цца** 'кiдацца, мiтуслiва рухацца' (ТСБМ, Нас., Сл. паўн.-зах., Касп.), 'жыць у беднасцi, горы, перабiвацца' (ТСБМ, Шат., Жд. 2), 'адмаўляцца, цурацца' (Нас.). Гл. *кiдаць*.

**Кiдацца** 'гадавацца (пра свiней)' (Нар. словатв.). Параўн. папярэдняе слова.

**Кiда́ць** 'кiдаць, пакiдаць' (Нас., Яруш., Касп., Ян., ТС), 'садзiць (бульбу)' (Ян., Шат.), 'складаць стог' (Выг., Маш., КЭС, лаг.), 'пакiдаць на гадоўлю' (Жд. 2). Укр. *кидати*, рус. *кидать* 'тс', ст.-слав. **искыдати** 'выкiдваць', балг. *кидам* 'кiдаць', *кина* 'рваць', серб.-харв. *кӣдати* 'рваць, чысцiць', славен. *kídati* 'выкiдваць, ачышчаць', польск. *kidać* 'кiдаць' (польск. *kidać* мае яшчэ значэнне 'капаць, пра густую вадкасць'), чэш. *kydati* 'кiдаць (гной)', славац. *kydat'* 'тс', в.-луж. *kidać* 'высыпаць, вылiваць, раскiдаць (гной)', н.-луж. *kidaś* 'тс'. Блiжэйшыя iндаеўрапейскiя паралелi: ст.-iсл. *skióla* 'кiдаць, страляць', ст.-англ. *scēotan* 'тс', ст.-в.-ням. *sciozan* 'кiдаць; страляць; хутка рухаць'. Гэта супастаўленне дазваляе аднавiць i.-е. *(*s*)*keu̯d-*. Прасл. *kydati* — iтэратыў ад **kud-*. Аднак супраць гэтай рэканструкцыi iншыя паралелi: лiт. *šáuti* 'страляць; штурхаць; хутка рухаць', лат. *šaũt* 'хутка рухаць у вызначаным напрамку', *šaut* 'страляць', лiт. *šáudyti* 'страляць (шматразовае дзеянне)', *šaudỹkle* 'страла'. Супастаўленне дзвюх лексiчных груп сведчыць аб iх роднаснасцi, але тады мы павiнны вызначыць два варыянты архетыпа: *(*s*)*keu̯d-* i *(*s*)*k̂eu̯*, якiя, аднак, можна аб'яднаць у *(*s*)*k̂eu̯* (*d*), дзе *d-*, магчыма, суфiкс асновы цяперашняга часу, якая замянiла старую атэматычную аснову. У гэтым выпадку наглядаецца рэгулярная рэфлексацыя iндаеўрапейскага пачатку *(*s*) *k̂* як (*s*) *k* або *k̂* (Мартынаў, Слав. акком., 156). Параўн. Покарны, 955—956; Фасмер, 2, 230; Слаўскi, 2, 137; ЕСУМ, 2, 429—430.



**Кiдаць** 'уводзiць аснову ў бёрда' (Нар. сл.), *кiдаць у бёрда* 'працягваць у бёрда нiткi асновы' (Жыв. сл.), *кiдаць у нiт* 'працягваць праз нiт нiткi асновы' (Жыв. сл., КЭС, лаг.). Гл. *кiда́ць*.

**Кiдзе́ль** 'аб хуткiм кiданнi' (Нас., Сл. паўн.-зах., Янк. II). Параўн. *кiвель* (гл.). Да *кiдаць* (гл.).

**Кiдзёры** 'клiны ў куртцы' (Серб., Малч.). Утворана ад *кiдкi* з дапамогай суфiкса *-ер*. Параўн. *доўгi*>*даўжэр, густы*>*гушчэр* (Сцяцко, Афiкс. наз., 100, 137). Параўн. яшчэ *кiдэры* (гл.). Пры гэтым прыметнiк *кiдкi* меў значэнне, атрыманае ў спадчыну ад *кiдаць* з яго ткацкiмi дэнататамi.

**Кiдзь** — выклiчнiкавая форма ад *кiдаць* (Янк. I, Нар. лекс.).

**Кiдка** 'колькасць чаго-небудзь, якую можна ўзяць за адзiн раз i кiнуць' (ТСБМ, Сцяшк., Жд. 3). Гл. *кiдаць*.

**Кiдкi** 'якi рэзка кiдаецца ў вочы; яркi, прыметны' (ТСБМ), 'падатлiвы, ахвочы, схiльны да чаго-небудзь' (ТСБМ), 'спраўны (чалавек)' (Сцяц.), 'неўраўнаважаны' (Янк. III). Гл. *кiдаць*.

**Кiдлы** 'жвавы, увiшны (пра чалавека)' (Жыв. сл., КЭС, лаг.). Лексiкалiзаваны дзеепрыметнiк да *кiдаць* (гл.).

**Кiдо́к** 'хуткае, iмклiвае перамяшчэнне з аднаго месца ў другое без перапынкаў, за адзiн прыём' (ТСБМ). Гл. *кiдаць*.

**Кiду́н** 'эпiлепсiя, падучая' (Янк. I, Некр.). Да *кiдаць* (гл.). Адносна словаўтварэння гл. Сцяцко, Афiкс. наз., 69.

**Кiдэ́ры** 'фалды, трубкi; зборкi ў нiжняй частцы буркi' (Нар. лекс.). Гл. *кiдзёры*.

**Кiёвачнiк, кiёвашнiк** 'поле, дзе расла кукуруза' (Яшк.), 'сцяблы кукурузы' (Мат. Гом.). Гл. *кiёўка₄*.

**Кiёк** 'невялiкi кiй' (ТСБМ, Касп., Грыг., Бяльк., Нiк.), 'палка ў ткацкiм станку для паварочвання «калоды» i пад-

вешвання «нітоў»' (Касп.), 'тычка' (Мат. Гом.), 'мерка' (Нік. Очерки), 'клін у навоі' (Мат. Гом., Жыв. сл.). Гл. *кій*₁.

**Кіёўка**₁ 'рагоз шыракалісты, Typha latifolia L.' (Кіс., Янк. Мат., Сл. паўн.-зах.). Да *кій* (гл.). Суфіксацыя на *-ёўка* для назваў раслін. Параўн. *смалёўка* (Сцяцко, Афікс. наз., 170).

**Кіёўка**₂ 'падвей' (Касп.). Параўн. *кіёўка*₁ (гл.). Як паказвае заходняя (гродз.) назва рагозу *пухоўка, падвей* атрымаў сваю назву паводле той жа характэрнай рысы. Параўн. рус. *пушица* 'падвей, Eriophorum latifolium L.' (Кіс., 50).

**Кіёўка**₃ 'катах' (Мат. Гом.), 'чорны катах рагозу' (Жыв. сл., Нар. сл.), 'галоўка чароту' (Жд. 3). Параўн. *кіёўка*₁ (гл.).

**Кіёўка**₄ 'пачатак кукурузы' (Янк. Мат., Шатал.), 'кукуруза, Zea Mays L.' (Дэмб. I). Назва *кіёўка* была перанесена на пачатак кукурузы па аналогіі з *кіёўка*₃ 'катах'. Аб гэтым, апрача разважанняў агульнага характару, сведчыць такая форма Pluralia tantum, як *кіёўкі* (гл.). Апошняя ўзнікла як прамежкавая паміж *кіёўка* і *кійкі* 'кукуруза'.

**Кіёўкі** 'кукуруза' (Дэмб. I, Бяльк., Мат. Маг.). Гл. *кійкі, кіёўка*₄.

**Кіёўнік**₁ 'чорныя катахі рагозу' (Жыв. сл.). Гл. *кіёўка*₁ і *кіёўка*₃. Параўн. таксама *кійкі*. Да *кій*₂ (гл.).

**Кіёўнік**₂ 'сцяблы кукурузы' (Мат. Гом., Бяльк.). Гл. *кіёўка*₄.

**Кіжаль** 'слота, снег з дажджом' (Сл. паўн.-зах.). Наўрад ці можна разглядаць як слова балтыйскага паходжання. Параўн. літ. *kėžis* 'размазня' (Сл. паўн.-зах., 460). Літоўская група слоў (сюды таксама *kėža(s)* 'белы сыр з кіслага малака', відаць, запазычана з ням. усх.-прус. *kêš* 'сыр') (Фрэнкель, 249). Што датычыць *кіжаль* 'слота', то параўн. рус. *кижа* 'тс', якое Фасмер (2, 230) выводзіць з *kydja* (да *кідаць*). Рус. *кидь* 'слота'.

**Кіжла** 'той, хто марудна і няўмела што-небудзь робіць' (Нар. сл., Шат.). Магчыма, балтызм. Параўн. *kėžlóti* 'кульгаць' (Сл. паўн.-зах., 461).

**Кіжла́ты** 'крываногі' (Сл. паўн.-зах.), 'непаваротлівы, нязграбны' (Жд. 2, Шат.). Гл. *кіжла*.

**Кіжлу́н** 'непаваротлівы, слабы, няўмека' (Шат., Нар. сл.). Гл. *кіжла*.

**Кіжык** 'сучок' (Жыв. сл.). Слова, мабыць, балтыйскага паходжання. Калі ўлічыць, што разглядаемая форма дэмінутыў, адпаведная лексема без памяншальнага суфікса мела б выгляд **кіж* 'сук'. Параўн. літ. *kėža, kýža* 'дубіна, друк'.

**Кі́жыль** 'дрэннае надвор'е' (Касп.). Гл. *кіжаль*.

**Кізе́ль** 'палатняны халат' (Анім.). Няясна. Магчыма, запазычанне з цюрк. моў. Параўн. тур. *käsi* 'раскроеная матэрыя'.



**Кізі, кізікі** — у выразе *распусціць кізі, кізікі* 'расплакацца' (ТС). Магчыма, да *кісну́ць* (гл.).

**Кізлы** 'цуглі' (Абабур. дыс.). Гл. *кілзаць, келзаць*.

**Кізлякі** 'грыбы без баравікоў' (З нар. сл.). Гл. *казляк*.

**Кізо́к** 'вышкі' (Мат. Гом.), 'столь з жэрдак у хляве' (Шатал.). Да *хізок* 'тс' (гл.). Гл. таксама *хіжа*.

**Кізу́нкі** — у выразе *кізункі выпусціць* 'выпусціць кішкі' (Нік. Посл.). Да рус. *киза* 'жывот'. Суфіксацыя на *-ункі* (Сцяцко, Афікс. наз., 69). Няясна.

**Кізя** 'жарэбчык' (Сцяшк. Сл.). З літ. *kižas* 'тс'.

**Кій**₁ 'прамая тонкая палка' (ТСБМ, Бяльк., Яруш., ТС, Сержп., Шат., Касп., Сл. паўн.-зах., Янк. I, Др.-Падб., Гарэц., Мал., Чуд., Булг.), 'палка для замацавання задняга навоя' (Нар. сл.). Укр. *кий*, рус. *кий* 'тс', балг. *кий* 'друк', серб.-харв. *ки̏јак* 'тс', *киј* 'молат баявы', славен. *kȋj* 'тс', 'драўляны молат', польск. *kij* 'друк', чэш. *kyj* 'тс', славац. *kyj*, в.-луж. *kij* 'тс', н.-луж. *kij* 'жалезны молат'. Значэнне, зафіксаванае ў рус.-царк., серб., харв., славен., н.-луж., старажытнае, аб чым сведчаць дакладныя паралелі: ст.-прус. *cogis* 'молат', літ. *kūjis* 'молат каваля' (параўн. Мартынаў, Дерив., 22; Скок, 2, 78; Тапароў, K — L, 238—240). Трубачоў (Ремесл. терм., 350—352), спасылаючыся на прадуктыўнасць літоўскай мадэлі *kauti* — *kūjis*, бачыць у літоўскай паралелі інавацыю. Падрабязныя довады супраць гэтага гл. Тапароў, K — L, 240, які асаблівую ўвагу звяртае на прускую паралель. Да таго ж рэліктавасць значэння 'молат' у славянскіх мовах тлумачыцца тым, што ў гэтым значэнні ў большасці дыялектаў стала выступаць прасл. *moltъ* італійскага паходжання (параўн. лац. *malleus* < **malteus*) (Мартынаў, Балт.-слав.-італ., 28; Яго ж, Язык, 75). Такім чынам, няма падстаў разглядаць «некавальскія» значэнні славянскіх слоў як старажытныя, тым больш што значэнне 'молат' захоўваецца якраз на перыферыі славянскага арэала. Гэта дае падставу меркаваць аб балтаславянскай інавацыі.

**Кій**₂ 'пачатак кукурузы' (Жд. 2). Гл. *кійкі, кіёўкі, кій*₁.

**Кій**₃ — гукаперараймальнае (аб курыцы) (ЭШ, рук.).

**Кійкі** 'кукуруза' (Пал., Ян., Нар. сл.). Гл. *кійкі, кіёўкі*.

**Кікаць** 'хіхікаць' (Нас.). Да *хікаць* з *хіхікаць*.

**Кікімо́ра** 'малпа' (Бяльк.), 'непрыгожая жанчына' (Мат. Гом.). Гл. *кікімо́ры*.

**Кікімо́ры** 'чалавекападобныя істоты, нячысцікі жаночага полу' (Нік. Няч.). Звычайна гэта слова разглядаецца як складанае. Першая частка да прасл. *kyka, kykati* або літ. *kaũkas* 'чорт' (Бернекер, I, 676; Фасмер, 2, 231), а другая — прасл. *mora* (серб.-харв. *мо̀ра* 'начная пачвара', славен. *móra* 'тс',

чэш. *mûra* 'тс', польск. *mora* 'тс' (Бернекер, 2, 76; Фасмер, 2, 232). Вельмі праблематычна.

**Кікімо́рыць** 'пляткарыць' (Сцяшк. Сл.). Гл. *кікімо́ры*.

**Кікіца** 'кутас' (Мат. Гом., Мат. Маг.). Да *кітіца* (гл.).

**Кі́клік** 'безрукаўка' (Мат. Маг.). Параўн. польск. *kika* 'чалавек без рукі' (Да прасл. *kuka*).

**Кікс** 'няўдалы ўдар кіем па шары ў більярднай гульні' (ТСБМ), 'нішто, пройгрыш' (Бяльк.). З ням. *Kicks* 'тс' (Слаўскі, 2, 100).

**Кіл** 'назва конскіх клыкоў' (Дразд.). Гл. *ікол*.

**Кіла́**$_1$ 'грыжа' (ТСБМ, Шат., Нас., Касп., Мядзв., Яруш., Бяльк., Сержп. Грам., Нік. Няч.). Укр. *кила*, рус. *кила* 'тс', балг. *кила* 'пухліна', серб.-харв. *ки̏ла*, славен. *kíla* 'тс', польск. *kiła*, чэш. *kyla*, славац. *kyla* 'тс'. Прасл. *kyla* 'пухліна, нараст' адпавядае літ. *kûla* 'тс'. Балта-славянская інавацыя. Іншыя і.-е. паралелі ненадзейныя (Фасмер, 2, 232; ЕСУМ, 2,432).

**Кіла́**$_2$ 'хвароба крыжакветных раслін, пры якой на карэнні ўтвараюцца нарасці' (ТС). Гл. *кіла*$_1$.

**Кіла́**$_3$ 'проігрыш у картачнай або шахматнай гульні' (Нас.). Да *кіла*$_1$. Параўн. *надарвацца* ва ўскосным значэнні.

**Кілава́тка** 'бручка, Brassica hapus L.' (Кіс.). Да *кіла*$_2$ (гл.).

**Кілава́ты** 'з грыжай' (Касп., Некр., Мат. Гом., Мат. АС), 'з нарастамі на карэнні (пра капусту)' (Шатал., Сл. паўн.-зах.). Гл. *кіла*$_1$ і *кілавы*.

**Кіла́вы** 'хворы на грыжу' (Сл. паўн.-зах., Сцяшк., Сцяц., Мал.). Гл. *кіла*$_1$.

**Кілагра́м** 'адзінка вагі, роўная 1000 грамаў' (ТСБМ). Запазычанне з франц. *kilogramme* праз рус. *килограмм* (ЕСУМ, 2, 444).

**Кіламе́тр** 'адзінка даўжыні, роўная 1000 метраў' (ТСБМ). З франц. *kilomètre* праз рус. *километр*. Параўн. *кілаграм* (гл.).

**Кіла́ты** 'кілаваты' (Шатал.). Гл. *кілаваты*.

**Кіла́ш** 'непакладаны кабан' (ДАБМ, Касп., Нік. Заг., Нік. Очерки, Мат. СОС). Да *кіла*$_1$. Суфіксацыя на *-аш* (Сцяцко, Афікс. наз., 150).

**Кі́лба** 'пячкур' (Жд. 3). Гл. *келб*.

**Кілбаса́** 'каўбаса' (Сл. паўн.-зах., Шат., Мал., Яруш., Нар. сл., Бяльк.), 'рубцы' (Сл. паўн.-зах.). Гл. *каўбаса*.

**Кілба́сіца** 'блытаць' (Др.-Падб.). Гл. *кілбаса*.

**Кілба́ска** 'суквецце на бярозе, алешніку' (Жыв. сл.). Да *кілбаса* (гл.).



**Кілга́ць** 'кульгаць на адну нагу; мець павольную хаду' (Нас.). Гл. *кульгаць*.

**Кілды́шыць** 'тармасіць, валтузіць' (Сцяшк.). Слова балт. паходжання. Параўн. літ. *kéldinti* 'перасунуць, пераставіць'.

**Кілза́** — аб калысцы, якая коса калышацца (КЭС, лаг.). Параўн. *кілзаць* (гл.).

**Кілзава́ць** 'коса калыхацца' (КЭС, лаг.). Параўн. *кілза* (гл.).

**Кілза́ць** 'класці цуглі ў рот каню' (ТСБМ). Гл. *келзаць*.

**Кілі́м** 'вялікі шарсцяны, бязворсавы дыван ручной работы' (ТСБМ, Нас., Гарэц., Мат. Гом.), 'гунька' (Гарэц.). Запазычанне з тур. *kilim* 'невялікі дыван' (Локач, 94). Трэба думаць, праз украінскае пасрэдніцтва, якое адыграла тую ж ролю для польскага і літоўскага арэалаў.

**Кілі́х** 'кілішак' (Нар. словатв.). Гл. *келіх*.

**Кілі́чка** 'кнігаўка' (Сцяшк. Сл.). Няясна. Гл. *клікаць*.

**Кілі́ш** 'малы кар'ер, дзе ўручную нарыхтоўваюць торф на паліва' (Яшк.). Ці не звязана з укр. *кілаш* 'гаршчок для кашы', якое, аднак, само лічыцца незразумелым (ЕСУМ, 2, 432).

**Кілі́шак** 'чарка' (ТСБМ, Сл. паўн.-зах., Касп., Шат., Жыв. сл., КЭС, лаг., Сцяшк.). Параўн. *келішак* (гл.).

**Кіло́** 'кілаграм' (Мат. Гом., Сл. паўн.-зах.). Запазычанне праз рус. *кило* з франц. *kilo* 'тс' (ЕСУМ, 2, 444).

**Кілпа** 'пастка' (Сцяшк. Сл.) <літ. *kílpa* 'тс'.

**Кілта́я** 'біч у цэпе' (ДАБМ). Гл. *калтая*. Формы *келтаўе*, *кілтая* найбольш блізкія фармальна і семантычна да мяркуемай літоўскай крыніцы: *kéltuve*, *keltója* 'біч у цэпе' (Урбуціс, Baltistica, 1969, V(I), 61; Смулкова, Лекс. балтызмы, 41; Лаўчутэ, Балтизмы, 67).

**Кілу̀н**$_1$ 'непакладаны кабан' (ДАБМ, Сл. паўн.-зах., Шатал.), 'рослы племянны баран' (З нар. сл.). Гл. *кілаш*.

**Кілу́н**$_2$ 'чалавек з грыжай' (Нар. словатв., Мат. Маг., Шат.). Параўн. *кіла*$_1$ (гл.).

**Кілуша** 'бручка' (Мат. СОС). Параўн. *кілаватка*.

**Кілча́к** 'хвароба языка ў жывёлы' (КЭС, лаг.). Да *кіла*$_1$. Аб суфіксацыі на *-чак* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 176.

**Кільгі́ка** 'чалавек без нагі або з пашкоджанай нагой' (Мат. АС, Мат. Маг.). Да *кульгаць* (гл.).

**Кілька**$_1$ 'некалькі' (Сл. паўн.-зах.). Ст.-бел. *килька* (з 1566 г.): Булыка, Запазыч., 154. З польск. *kilka* (там жа, 461). У польскай мове новаўтварэнне з больш старога *kielko* (Слаўскі, 2, 161).

**Кілька**$_2$ 'невялікая прамысловая рыба сямейства селядцовых' (ТСБМ). Запазычанне пры пасрэдніцтве рускай мовы

3. Зак. 3479

з эст. *kilu*, фін. *kilo* 'тс'. Латышскае пасрэдніцтва дало *цюль-ка* (гл.) (Фасмер, 2, 233; Трубачоў, Дополн., 4, 135—136).

**Кількоро** 'некалькі' (Сл. паўн.-зах.). Мабыць, з польск. *kilkoro* 'тс' (там жа, 461).

**Кіляга** 'палка з тоўстым канцом, якую ўжываюць у якасці малатка' (Сцяшк. МГ, Сцяшк.). Вельмі верагодным здаецца паходжанне ад прамежкавай незафіксаванай формы **кіяга*, пра існаванне якой сведчыць вытворнае *кіяжына* (гл.) у тым жа значэнні.

**Кіляшок** 'кілішак, невялікая чарка' (Бяльк.). Гл. *кілішак*.

**Кімарыць** 'спаць' (Мат. Гом.). Гл. *кемнуць*.

**Кімбалка** 'абруч з ільну або саломы, які паляшучкі насілі на галаве пад хусткай' (Тарн.). Гл. *кібалка*.

**Кімель** 'самы кончык хваста ў каровы' (ТС). Не выключана балтыйскае паходжанне слова. Аднак яго непасрэдная крыніца не засведчана. Меркаванне аб лексічным пранікненні, апрача неславянскай фанетыкі і арэальнага крытэрыю, падмацоўваецца такімі балтыйскімі паралелямі, як літ. *kìmpa* 'вузел на канцы вяроўкі'.

**Кімса** 'купіна' (Сл. паўн.-зах.). З літ. *kìmsa* 'тс' (там жа, 462). Гл. таксама Урбуціс, Baltistica, 1969, V(I), 61; Лаўчутэ, Балтизмы, 46.

**Кіндзюк** 'страўнік' (ТСБМ, Сл. паўн.-зах., Чач., Янк. II, Шат., Мядзв., Касп., Сержп. Грам., Сцяшк., Мат. Гом., Маш., Мат. АС, Жд. 3, Бяльк.), 'начынены кашай або мясам страўнік' (Сл. паўн.-зах., Нік. Очерки, Нар. словатв., Маш., Шн., Малч.). Гл. *кендзюх*. Укр. *кендюх*. Польск. *kindziuk* — запазычанне з беларускай або ўкраінскай мовы. Першакрыніца тур. *kindik* 'пуп' (Супрун, Тюркизмы, 76—77; ЕСУМ, 2, 423).

**Кіндзюхі** 'кішкі, вантробы' (Нас.). Гл. *кіндзюк, кендзюх*.

**Кінжал** 'калючая зброя' (ТСБМ). Дзмітрыеў (Лекс. сб., 3, 1958, 9, 26) мяркуе аб кумык. *кынджал* як першакрыніцы для рус. *кинжал*, з якой у іншыя ўсходнеславянскія мовы і адтуль у заходнеславянскія (параўн. Трубачоў, Дополн., 2, 234; ЕСУМ, 2, 433).

**Кінкет** 'лямпавае шкло' (Сцяшк. Сл.), праз польск. *kinkiet* з франц. *quinquet* 'лямпа'.

**Кіно** 'від мастацтва і памяшканне для яго дэманстрацыі' (ТСБМ). Праз рус. *кино* з ням. *Kino* (скарочаная форма *Kinematograph*) (Трубачоў, Дополн., 2, 234).

**Кіноўшчык** 'кінамеханік' (Мат. Маг.). Гл. *кіношнік, кіншчык*.

**Кіношнік** 'кінамеханік' (Яўс.), 'работнік кінематаграфіі' (ТСБМ). Гл. *кіноўшчык, кіншчык, кіношчык*.



**Кіношчык** 'кінамеханік' (Шатал.). Параўн. папярэдняе слова.

**Кінуцца** 'ўпасці', 'памкнуцца з пагрозай', 'пачаць' (*«грыбы кінуліся расці»*) (Сл. паўн.-зах.), 'скочыць, пусціцца набегчы' (КЭС, лаг., Бяльк., Сержп.), *кінуцца ў галаву* 'раптоўна з'явіцца ў памяці' (Юрч. Фраз. 2). Гл. *кідацца*.

**Кінуць** 'кінуць, пакінуць, перастаць' (ТСБМ, ТС, Бяльк.). Гл. *кідаць*. *Кінуць на жмёнькі* 'спосаб жніва ўручную, калі зжатае збожжа не вяжуць у снапы, а пакідаюць сохнуць у жменьках' (Сцяшк.). *Кінуць-рынуць* (пры сварцы) (Нар. лекс.). Гл. *кінуць, рынуць*.

**Кіншчык** 'кінамеханік' (ТСБМ, Сл. паўн.-зах., Мат. Гом., Янк. I, Сцяшк., Выг., Бір.). Гл. *кіноўшчык, кіношнік*. Да *кіно*.

**Кіпа** 'вязка, пачак якіх-небудзь прадметаў' (ТСБМ). Ст.-бел. *кипа* 'тс' (з 1593 г.) (Булыка, Запазыч., 154), 'сноп бобу' (Сл. паўн.-зах.), 'лазовая аплётка для бутэлькі' (Мат. Гом.). Магчыма, формы, якія выступаюць у першым і другім значэннях, — амонімы рознага паходжання. Тады бел. *кіпа* 'вязка, пачак', укр. *кипа* 'тс' праз рус. *кипа* 'тс' з с.-н.-ням. *kip* 'тс' (гл. Фасмер, 2, 235). А *кіпа* 'сноп бобу' з літ. *kypà* 'куча, частка капы' (Сл. паўн.-зах., 463). Але літ. *kypà* само разглядаецца як запазычанне з рус. *кипа* (Фрэнкель, 255). Цікава разгледзець трэцяе значэнне, якое яўна паходзіць ад с.-н.-ням. *kīpe* 'плецёная карзіна' (Клюге, 367). Нямецкая форма ў сваю чаргу з'яўляецца непасрэднай крыніцай літ. *kýpas* 'тс'. Сумненне выклікае рускае паходжанне літ. *kypà* 'частка капы', паколькі рус. *кипа* не мае сельскагаспадарчага значэння. З іншага боку бел. *кіпа* 'сноп бобу' цесна звязана з літоўскім. Гэта дае падставу разглядаць слова ў другім значэнні асобна як амонім іншага паходжання. Не выключана, што бел. *кіпа* < **купа* суадносіцца з *купа*.

**Кіпаць** 'кіпцюр, ногаць' (Др.-Падб., Гарэц., Шат., Мат. Маг., Шпіл.). Гл. *кіпець*.

**Кіпдзюры** 'кіпцюры (у мышкі)' (Сержп.). Гл. *кіпцюры*.

**Кіпень** 'кіпецень', 'гарачыня, спёка' (ТСБМ, Сл. паўн.-зах., Некр., Бір., ТС, Бяльк., Сцяц.). Гл. *кіпецень, кіпець*.

**Кіпетак** 'кіпень', 'вар' (Ян., Мат. Гом.). З рус. *кипяток*.

**Кіпецень** 'вар' (ТСБМ, Мат. Гом., Яўс., Жд. 3). Гл. *кіпень, кіпець*.

**Кіпець** 'пазногаць, кіпцюр, ногаць' (ТСБМ, Янк. I, Мат. Гом., Некр., ТС, КЭС, лаг., Мал., Сл. паўн.-зах., Грыг., Мат. АС, Касп., Яруш.). Верагоднае запазычанне з балтыйскіх моў. Параўн. літ. *kìbčius* 'задзіра', *kẽpčiotis* 'задзірацца' (Сл. паўн.-зах., 463). Арашонкава і інш. (Весці АН БССР, 1971, 1, 93) сцвярджалі сувязь з літ. *kìbti* 'чапляцца', *kìbčius* 'той, хто чап-

ляецца' без кваліфікацыі характару гэтай сувязі. Упершыню беларускія словы разглядаліся як запазычаныя з балтыйскіх моў у Лаўчутэ (Балтизмы, 114).

**Кіпе́ць** 'бурліць, клекатаць ад пары, якая ўтвараецца пры награванні вадкасці' (ТСБМ, Сл. паўн.-зах.), 'варыцца' (Сл. паўн.-зах.), 'гніць, псавацца' (Янк.), *кіпець на сэрцы* 'моцна злавацца, крыўдзіцца, знешне не выказваючы пачуццяў' (Юрч. Фраз. 2), укр. *кипіти*, рус. *кипеть* 'тс', балг. *кипя*, макед. *кипи*, серб.-харв. *ки́пети*, славен. *kipéti*, польск. *kipieć*, чэш. *kypěti*, славац. *kypiet'*, н.-луж. *kipieś* 'тс', ст.-слав. **кыпѣти** і в.-луж. *kipić* маюць значэнне 'выцякаць'. Яшчэ балта-славянская інавацыя: параўн. літ. *kūpėti* 'кіпець', 'выцякаць'. Іншыя балтыйскія паралелі маюць больш далёкую семантыку. Параўн. лат. *kûpêt* 'дыміцца' і ст.-прус. *kupsins* 'імгла' (Тапароў, K — L, 296—300). Астатнія індаеўрапейскія паралелі яшчэ больш далёкія па сваёй семантыцы: ст.-інд. *kúpyati* 'гневацца', лац. *cupio* 'жадаю' і інш. (Фрэнкель, 325). Як відаць з гэтага, балта-славянскія значэнні больш старажытныя. Далейшы семантычны аналіз вядзе да прасторавых паняццяў «выпукласці» і «ўвагнутасці», якія ляжаць у аснове кіпення. Параўн. ст.-іран. *kaufa* 'гара' і ст.-інд. *kūpa* 'яма' (Тапароў, там жа, 298).

**Кіпіць** 'невялікі нараст на языку ў старых курэй' (Мядзв.). Да *кіпець* (гл.). Назва па знешняму падабенству рагавой абалонкі. Параўн. *кіпяць* (гл.).

**Кіпіцінь** 'нараст у сабакі на языку' (КЭС, лаг.). Гл. *кіпіць*.

**Кіпка** 'ніша ў печы для сушкі радна і рукавіц' (Дразд., Шушк.). Гл. *кебка*.

**Кіпр** 'непакладаны кабан' (ДЛБМ). Зафіксавана ў цэнтральным Палессі. Вельмі архаічнае слова. Параўн. балг. *кипря се* 'надзімацца, напінацца', чэш. *kipry* 'жвавы'. Гэтыя словы маюць паралелі ў іншых славянскіх мовах, але з больш далёкай семантыкай. Усе яны ўзыходзяць да дзеяслова *kypěti* 'кіпець', ад якога ўтварыўся прыметнік з *r*-суфіксацыяй *kyprъ* (як *xytrь* ад *xytěti*). Гл. *кіпець*.

**Кіпцюры́** 'кіпцюры, пазногці' (ТСБМ, Сл. паўн.-зах.). Гл. *кіпець*. Словаўтварэнне пры дапамозе суфікса *-ур/-юр* ад назоўнікаў тыпу *стоўб* — *стаўбу́р* (гл. Сцяцко, Афікс. наз., 174).

**Кіпя́так** 'кіпень' (Сл. паўн.-зах., Шатал., Сержп. Грам., Сцяшк.). З рус. *кипяток*. Параўн. *кіпетак* (гл.).

**Кіпяць** 'рагавая абалонка, якая нарастае на кончыку языка ў курэй' (Сл. паўн.-зах.). Параўн. *кіпіць* (гл.).

**Кірава́цца** 'паступаць' (ТСБМ, Сл. паўн.-зах., КЭС, лаг., Нас., Гарэц.). Гл. *кіраваць*.

**Кірава́ць** 'рэгуляваць рух, работу', 'быць на чале чаго-н.' (ТСБМ, Сл. паўн.-зах., Шат., Касп., Мал., ТС, Гарэц., Сержп. Пр., Яруш., Сцяшк.). Укр. *керувати* 'тс'. Запазычанні з польск. *kierować* 'тс', якое ў сваю чаргу з ням. *kehren* у тым жа значэнні (Слаўскі, 2, 156; ЕСУМ, 2, 426; Кюнэ, Poln., 64).



**Кіраўні́чы** 'асоба, якая кіруе работай ці грамадой' (КЭС, лаг.). Гл. *кіраваць*.

**Кірбацісты** 'сутулы' (Сцяшк. Сл.). Гл. *гарбаты*.

**Кірдзе́ль** 'газніца' (ТС). Гл. *кірдзець*.

**Кірдзе́ць** 'ледзь гарэць, слаба свяціць' (ТС). Незразумела. Магчыма, з балт. **kurdeti* (літ. *kùrti* 'гарэць', *pakurdinėti* 'падпальваць').

**Кірдзю́к** 'яшчур' (Сл. паўн.-зах., ТС, З нар. сл., Федар.). Гл. *курдзюк*.

**Кірду́пель** 'маларослы хлопчык, падростак' (ТС, Жыв. сл.). Гл. *курдупель*.

**Кірган** 'шматок пашы ці сенажаці, ці лесу сярод палёў' (Нар. лекс.). Да *курган* (гл.).

**Кі́рза**₁ 'заменнік скуры' (ТСБМ). Праз рус. *кирза* ад англ. *kersey* 'тс' (Шанскі, 2, 135).

**Кірза**₂ 'гірса' (ТС, Шатал.). Гл. *гірса*.

**Кірза́вы** 'крываногі' (Сл. паўн.-зах., Сцяшк. Сл.). Гл. *кірзаць*.

**Кірза́ты** 'кірпаты' (Ян.). Балтызм. Да літ. *kir̃sti* 'рубіць, рэзаць'. Цікава супаставіць дзве групы літоўскіх лексем: *kir̃sti*₁ 'рубіць, рэзаць' — *kir̃sti*₂ 'гарчыць' (гэтыя значэнні традыцыйна звязваюцца — Фрэнкель, 258) і *kir̃pti*₁ 'рэзаць, карпаць' — *kir̃pti* 'кіслець' (таксама генетычна звязаныя значэнні — там жа, 257—258). Ад апошняга рэгулярна ўтварылася **kirpōtas*, **kirpanōsis*, якое стала крыніцай бел. *кірпаты*, *кірпаносы* (як ад рус. *корнать* — *курносый*). Ад першага — *кірзаты* (Параўн. Мартынаў, Лекс. балтызмы, 28; Лаўчутэ, Балтизмы, 143).

**Кірзаць** 'павольна ісці' (Сл. паўн.-зах.). Балтызм. Параўн. літ. *kir̃zinti* 'тс' (там жа, 464).

**Кірза́ць** 'няўмела плесці' (Сцяшк. Сл., КЭС, лаг.). Да *кірзаць* (гл.).

**Кірка** 'прадаўгаваты завостраны малаток для драблення цвёрдай пароды' (ТСБМ, Сл. паўн.-зах.), 'матыка' (ТС, Др.-Падб., Бяльк.). Праз рус. *кирка* 'тс', якое, паводле Шанскага (2, 136), запазычана з грэч. *κερκίς* 'матыка' (?) з пераходам у іншы марфалагічны тып (назоўнікі ж. р. на *-а*). Гэта этымалогія належыць Матцэнаўэру (LF, 8, 165). Але значэнне 'матыка' для грэчаскага слова застаецца невядомым ні для Матцэнаўэра, ні для Фасмера (2, 238). Апошні сумняваецца ў гэ-

тай этымалогіі, лічачы больш верагоднай этымалогію Корша (AfSlPh, 9, 518) (<тур. *küräk* 'лапата').

**Кіркаць** 'гаварыць' (Мат. Гом.). Магчыма, балтыйскага паходжання. Параўн. літ. *kir̃kti* 'крычаць (аб гусях)'.

**Кіркýн** — назва птушкі (Мат. Гом.). Гл. *кіркаць*. Параўн. яшчэ літ. *kìrka* 'чайка'.

**Кірмáты** 'крываногі' (Сцяшк. Сл.). Гл. *кірнаты*₁.

**Кірмáш** 'продаж тавараў у пэўную пару года ў вызначаным месцы', 'шумнае, ажыўленае зборышча людзей' (ТСБМ, Сл. паўн.-зах., Шат., Касп., Бяльк., Мядзв., Сцяшк., Мал., Грыг., Гарэц., КЭС, лаг.). Ст.-бел. *кермашъ* 'тс' (з 1683 г.). З польск. *kiermasz* 'тс' (Булыка, Запазыч., 153). Старапольскае значэнне 'свята асвяшчэння касцёла, адпушчэнне грахоў'. Крыніцай польскай лексемы з'яўляецца с.-в.-ням. *kirmesse* (н.-ням. *Kirchmesse*) у тым жа значэнні (Слаўскі, 2, 154—155).

**Кірмашавáць** 'праводзіць час на кірмашы, святкаваць, гуляць' (Шат., Др.-Падб.). Параўн. *кермашаваць*. Гл. *кірмаш*.

**Кірмашóвікі** 'пярэднія зубы' (Янк. Мат., Сцяшк. Сл.). Гл. *кірмашовыя*.

**Кірмашóвыя** (зубы) 'верхнія пярэднія (зубы)' (Жд. 3, КЭС, лаг.). Мабыць, ад *«выстаўленыя (як на кірмашы)»* зубы.

**Кíрна** 'А-падобная прылада, сажань' (Сцяшк. Сл.), 'тоўсты сук', 'раздвоены корань у караняплодах' (Сл. паўн.-зах.). З літ. *kir̃na* 'корань дрэва' (там жа, 405).

**Кірназавáць** 'знаходзіцца ў стане цечкі (пра свінню)' (Сл. паўн.-зах.). Гл. *кірноз*.

**Кірнáты**₁ 'вілаваты, сукаваты', 'парны, з раздвоеным караняплодам', 'крываногі' (Сл. паўн.-зах.). Гл. *кірна*.

**Кірнáты**₂ 'невысокі' (Шатал.). Гл. *кірнаты*₁, *кірна*.

**Кірнóз** 'непакладаны кабан' (ДАБМ, Сцяшк., Бір.). З польск. *kiernos*. Гл. *кнораз*.

**Кірнýць** 'падрамаць, паспаць удзень' (Сцяшк. Сл.). Ад **кімарнуць* да *кімарыць* (гл.).

**Кірпа** — 'пра кароткі задзёрты нос' (ТСБМ, Жд. 2). Укр. *кирпа* 'тс'. Балтызм. Да **kirpa*. Параўн. яшчэ літ. *apkir̃pti* 'абкарнаць' і рус. *курносый*<*корноносый*. Гл. *кірпаты, кірпаносы* (Мартынаў, Лекс. балтызмы, 28; Лаўчутэ, Балтизмы, 143). Параўн. таксама з пункту погляду семантыкі *кірзаты* (гл.) 'кірпаты'. Існуе думка аб тым, што *кірпа* — зваротнае ўтварэнне ад *кірпаты* (ЕСУМ, 2, 437).

**Кірпанóсы** 'курносы' (ТСБМ, Мат. Гом.). Гл. *кірпа, кірпаты*.

**Кірпáты** 'курносы, малы, кароткі' (ТСБМ, ТС, Мат. Гом., Янк. І, Шат., Мал., Гарэц.). Гл. *кірпа, кірпаносы*.

**Кірпéлік** 'зламаны ножык' (Мат. Гом.). Гл. *кірпа*. Суфіксальная частка складаецца з двух суфіксаў: *-ель, -ік*. Зыходным павінен быць незафіксаваны дзеяслоў **кірпець* (<літ. *kir̃pti*, гл. *кірпа*), ад якога ўтварыўся **кірпель* 'зламаны нож'. Калі гаворка ідзе аб малым нажы (ножыку), дадаецца дэмінутыўны суфікс *-ік*. Тады **кірпець*>**кірпель*>*кірпелік* (аб словаўтварэнні гл. Сцяцко, Афікс. наз., 38).



**Кірпíч** 'цэгла' (Бяльк.). Праз рус. *кирпич* з тат. *керпич* 'цэгла, сырэц' (Шанскі, 2, 136).

**Кірпíчны** 'карычневы' (Мат. Гом.). Гл. *кірпіч*.

**Кірпíчча** 'цэгла' (Касп., Мат. Гом., З нар. сл.). Гл. *кірпіч*.

**Кірпічы́на** 'цагліна' (Сл. паўн.-зах., Нар. словатв.). Гл. *кірпіч*.

**Кірсá** 'апілкі' (Ян., Мат. Гом.). Гл. *тырса* 'тс'.

**Кіртáць** 'картавіць' (Сл. паўн.-зах.). Да *кіртавіць*. Гл. *картавіць*.

**Кірýнак** 'напрамак' (ТСБМ, Нас., Гарэц., Яруш.). З польск. *kierunek*<с.-в.-ням. *kêrunge* 'тс' (н.-ням. *Kehrung*) (Слаўскі, 2, 157).

**Кірýх** 'страўнік жывёлы, кіндзюк' (Нар. лекс., Вешт.). Магчыма, кантамінацыя *кіндзюк* і *курдзюк* (>*курюк*>*курук*).

**Кірхáць** 'пець піскдявым голасам (пра маладых пеўнікаў)' (Сл. паўн.-зах.). Параўн. літ. *kirkauti* 'тс' (там жа, 465). Такім чынам, існуе імавернасць балтыйскага паходжання слова.

**Кіршэ́нь** 'карак' (Ян., Бяльк.). Гл. *каршэнь*.

**Кірэ́бла** 'раскіракa' (Сл. паўн.-зах.)<літ. *kirẽpla* 'тс' (там жа, 465).

**Кірэ́ка** 'чалавек, які ходзіць раскіракай' (Нас.). Гл. *акорак*.

**Кірэ́чыць** 'раскірэчваць' (Нас., Гарэц., Др.-Падб.). Гл. *кірэка*.

**Кірэ́я** 'верхняя мужчынская вопратка' (Мат. Гом.). Укр. *кирея*, рус. *кирея* 'тс'. З тур. *kärāγa* 'шырокі плашч' (Слаўскі, 2, 153; ЕСУМ, 2, 435).

**Кісаліха** 'вясёлка' (ДАБМ). Магчыма, да *кіснуць* (гл.). Параўн. серб.-харв. *кѝша* 'дождж'. Словаўтварэнне пры дапамозе суфіксаў *-аль, -іха: -кісаць*>**кісаль*>*кісаліха* (Сцяцко, Афікс. наз., 25—26, 187—188).

**Кісéйка** 'паркалёвая хустка' (Ян.), 'паркаль' (Бяльк.). Гл. *кісяя*.

**Кісéль** 'кіслая студзяністая страва з аўсянай мукі або ягаднага соку, заваранага на крухмале' (ТСБМ, Мат. Гом., ТС, Касп., Сл. паўн.-зах., Кліх, Вешт., Нар. сл., Сержп. Пр., Яшк., Яруш.). Гл. *кіслы, кіснуць*. Укр. *кисіль*, рус. *кисель* 'тс'. Суфіксацыя на *-ель* (як у *качэль* ад *качаць*) да *-кісаць* (у *раскісаць*). Заходнеславянскія формы і ў першую чаргу польскія ўсходнеславянскага паходжання (Слаўскі, 2, 173).

**Кісе́т** 'капшук' (ТСБМ, Касп., Мядзв., Гарэц., Бяльк.). Укр. *кисет*<рус. *кисет* 'тс'. Рус. *кисет* створана на аснове *киса*, але словаўтварэнне незразумелае (Шанскі, 2, 8, 136; ЕСУМ, 2, 437).

**Кісе́та** 'капшук' (Нік. Очерки). Параўн. *кісет* (гл.).

**Кісе́тніца** 'табакерка' (Яўс.). Гл. *кісет.*

**Кісі́я** 'паркаль' (Бяльк.). Гл. *кісяя.*

**Кі́ска$_1$** 'ласкальная назва кошкі' (ТСБМ, Др.-Падб.). Да падзыву кошак *кіс-кіс.*

**Кі́ска$_2$** 'кутас' (Мат. Гом.). Ад *кістка$_1$* (гл.).

**Кіслагу́бяц** 'губасты' (Сл. паўн.-зах.). Першая частка складанага слова ўзыходзіць да першаснай семантыкі дзеяслова *кіснуць$_1$* (гл.) 'мокнуць'.

**Кіслата́** 'хімічныя злучэнні, звычайна кіслыя на смак' (ТСБМ), 'закваcак' (Сл. паўн.-зах.). Да *кіслы.*

**Кісле́ц** 'барбарыс, Berberis vulgaris L.' (Кіс.). Гл. *кіслы.*

**Кісліца** 'шчаўе, Rumex acetosa L.' (ТСБМ, Сл. паўн.-зах., Шн., Касп., Бяльк., Кіс., Нік. Няч.), 'заячая капуста' (Мат. Гом.), 'кісліца звычайная, Oxalis acetosella L.' (Кіс., Бейл.), 'від ажыны' (ТС). Гл. *кіслы.*

**Кіслы** 'кіслы па ўласцівасці, квашаны' (ТСБМ, Сл. паўн.-зах.), 'слабы' (З нар. сл.). Гл. *кіснуць.*

**Кісля́** 'кіслата' (ТСБМ, Жд. 2, Сл. паўн.-зах.), 'закваска' (Сл. паўн.-зах.). Утварэнне ад *кіслы* (гл.) з дапамогай суфікса *-ja* (як *suša*<*sux*+*ja*) (SP, 1, 82).

**Кісля́к$_1$** 'сыракваша' (Жд. 2, Янк. I, Сл. паўн.-зах., Мат. Гом., Ян.). Да *кіслы* (гл.).

**Кісля́к$_2$** 'стары грыб' (Нас.), аб чалавеку (ТСБМ, Нас., Янк. I), 'няспелая садавіна' (КЭС, лаг.). Да *казляк* (гл.) з кантамінацыяй, прыпадабненнем да *кіслы* ў першасным значэнні 'мокры'.

**Кісля́ціна** 'шэрсць, выбраная з выраблена́й скуры' (Нас.). Параўн. *кислятина* 'тс' (Дабр.). Гл. *кіслы.*

**Кісля́чка** 'рагатуха' (Нас.). Гл. *кіснуць$_2$.*

**Кі́снуць$_1$** 'кіснуць' (ТСБМ). Укр. *киснути*, рус. *киснуть* 'тс', балг. *кисна* 'мокнуць, кіснуць', серб.-харв. *ки̏снути* 'тс', славен. *klsniti* 'кіснуць', польск. *kisnąć*, чэш. *kysnouti*, славац. *kysnut'*, в.-луж. *kisnyć*, н.-луж. *kisnyś* 'тс'. Узводзіцца да прасл. **kysti, kysnǫti* 'мокнуць'. Бліжэйшай паралеллю лічыцца лат. *kûsât* 'кіпець' (фармальна адэкватна прасл. *kysati*, параўн. *рас-кісаць*). Нягледзячы на блізкасць славянскага і латышскага дзеясловаў, застаюцца сумненні наконт іх генетычнай тоеснасці. Тым больш што лексіка іншых балтыйскіх моў не адпавядае гэтай пары ні фармальна, ні семантычна. Няма таксама надзейных адпаведнікаў за межамі балтаславянскай моўнай глебы (Бернекер, I, 678—679; Траўтман, 147). Згодна з іншай версіяй, прасл. *kysti, kysati* звязваюцца з літ. *kaužóti, gaužóti* 'кіснуць' (Янaчак, LF, 59, 419; Шпэхт, KZ, 55, 9; Махэк, Recherches, 83—86). Гэта этымалогія адпавядае канцэпцыі аб прыярытэце семантычнай адэкватнасці над фармальнымі адпаведнасцямі. Дублетнасць па звонкасці — глухасці зычных назіраецца ў самім балтыйскім матэрыяле. Адносіны галосных адпавядаюць розным ступеням якаснага і колькаснага аблаўта. Да таго ж першая версія не выключае семантычна і фармальна другой. Параўн. лат. *kûsât* 'кіпець, бурліць, уздымацца' і літ. *kiaužóti* 'ўздымацца, выгінацца', *kaužóti* 'падымацца пры браджэнні'. Больш шырокі дыяпазон адпаведнасцей прымае Тапароў (K — L, 357—360), які, у прыватнасці, уключае ў адну групу генетычных паралелей лат. *kûsât* і літ. *kùšti* 'рухацца, шавяліцца, кішэць'. Калі не ісці далей па шляху семантычнага расшырэння гэтай групы паралелей, мы павінны будзем суаднесці прасл. *kysti, kysnǫti* 'кіснуць' і прасл. *kyšěti* 'кішэць' (гл. *кішэць*). Фармальна яны суадносяцца на аснове рэфлексацыі і.-е. *ǩ* як славянскага *s* або *x* (Мартынаў, Слав. акком., 109—129). Семантычна яны звязваюцца паняццем 'браджэнне': 'бязладны, хатычны рух'>'браджэнне'. Параўн. рус. *бродить* 'бадзяцца, блукаць' і *бродить* 'брадзіць'.

**Кі́снуць$_2$** 'без упынку смяяцца' (КЭС, лаг., Жд. 3), *кіснуць са смеху* 'нястрымна прыцішана смяяцца' (ТСБМ, Юрч. Фраз. 2). Семантычна да першаснага значэння *кіснуць$_1$* 'мокнуць'.

**Кі́ста** 'гронка (аўса)' (Сл. паўн.-зах.). Зваротнае ўтварэнне ад *кісць* (гл.).

**Кістачка** 'вонкавая выпукласць храшча дыхальнага горла, гарляк', «адамаў яблык» (Дразд.). Гл. *кіста, кісць.*

**Кістка$_1$** 'кутас' (Мат. Маг., Бялвк.). Гл. *кістка$_2$.*

**Кістка$_2$** 'гронка' (Сл. Эп.-Шын.). Гл. *кіста, кісць.*

**Кісцень$_1$** 'тс' (Сл. паўн.-зах., Грыг.) Гл. *кіста, кісць.*

**Кісцень$_2$** 'від зброі' (ТСБМ). Праз рус. *кистень* з каз., тат. *kistän* 'друк, палка'. Аднак значэнне рускага, беларускага, украінскага і польскага слоў не адпавядае імавернай цюркскай крыніцы ('кароткая палка з металічным шарам на адным канцы і з пятлёй на другім для надзявання на руку'). Такі від зброі ў старапольскай мове меў іншую назву таксама цюркскага паходжання *basalyk.* Польск. *kiścień* — запазычанне з усходнеславянскіх моў, але ст.-бел. *кестень, кістень* (з 1540 г.) насуперак Булыку (Запазыч., 153) запазычана са ст.-польск. *kieścień*, як аб гэтым сведчыць вакалізм (параўн. Слаўскі, 2, 175—176).

**Кісці$_1$** 'кутасы' (Сл. паўн.-зах.). Гл. *кісці$_2$.*

**Кісці**$_2$ 'суквецці' (Сцяшк.). Гл. *кіста*.

**Кісцік** 'сцябло' (Сл. паўн.-зах.). Да *кіста* (гл.).

**Кісць** 'частка рукі' (ТСБМ). Укр. *кисть*, рус. *кисть* 'тс', а таксама 'гронка, пэндзаль', ст.-слав. **кисть** 'пучок, гронка', балг. *киска* 'букет, пучок', серб.-харв. *кŷст* 'пэндзаль', славен. *kist* 'тс', польск. *kiść* 'пучок, гронка', чэш. *kyst* 'пучок, вязка, букет', славац. *kyst'* 'кутас, мяцёлка, гронка'. Агульнапрынята прасл. *kystь* узводзіць да _*kyt-tь_, якое паходзіць ад *kyta* (гл. *кіта*) 'гронка, мяцёлка, пучок, кутас' (Фасмер, 2, 240; Слаўскі, 2, 176—177; ЕСУМ, 2, 438).

**Кісяя́** 'паркаль', рус. *кисея*, якое, магчыма, з тур. *käsi* 'раскроеная матэрыя' (Фасмер, 2, 239).

**Кіт**$_1$ 'вялікая марская млекакормячая жывёліна' (ТСБМ), «*зямля стаіць на чатырох кітох*» (Сержп. Пр.). Ст.-рус. *китъ* — запазычанне з грэч. κῆτος 'вадзяная пачвара' (Фасмер, Этюды, 89; Шанскі, 2, 8, 139).

**Кіт**$_2$ 'вязкае рэчыва для замазвання шчылін паміж шыбамі і рамай у вокнах' (ТСБМ, Нас., Шат., Сцяшк., Гарэц., Янк. Мат., Касп., КЭС, лаг). Укр. *кит* 'тс'. Запазычанне праз польск. *kit* 'тс' з ням. *Kitt* 'тс' (Слаўскі, 2, 177; ЕСУМ, 2, 438—439).

**Кіта** 'вязанка, цюк', 'сноп бобу, льну', 'мажная тоўстая жанчына' (Сл. паўн.-зах., Мат. АС, Нар. лекс., КЭС, лаг, Сцяшк.). Параўн. *кіціца* (гл.). Укр. *кита* 'гронка, мяцёлка, пучок, кутас', рус. *кита* 'сцябло', балг. *китка* 'букет, вязка', серб.-харв. *кѝта* 'галінка, пучок, вязка', *кѝтка* 'жаночы галаўны ўбор', славен. *kíta* 'каса (валасоў), вязка, пучок', польск. *kita* 'султан на шлеме, пучок, вязка', чэш. *kytice, kytka* 'букет, вязка', славац. *kyta* 'вязка', *kitka* 'гронка', в.-луж. *kita* 'гронка, пучок'. Прасл. *kyta* не мае верагоднага этымалагічнага тлумачэння. Зусім умоўны характар мае версія аб _kyta<*kūpta_ (сюды ж *чуб*) (Бернекер, 1, 679). З прасл. *kystь* (гл. *кісць*) таксама нельга выводзіць *kyta*, бо *kystь* (*kyt-tь*) вытворнае ад *kyta*. Існуе, аднак, іншая магчымасць тлумачэння, на якую звярнуў увагу Праабражэнскі (1, 310), параўнаўшы *kyta* з *kyka*: ст.-слав. **кыка** 'валасы на галаве', балг. *кика* 'каса (валасоў)' (параўн. славен. *kita, kitica* ў тым жа значэнні), серб.-харв. *кŷка* 'тс', *кŷчица* 'чубок', рус. *кика* 'жаночы галаўны ўбор' (параўн. серб.-харв. *кŷтка* ў тым жа значэнні), бел. *кічка* (гл.) 'гронка'. Параўн. укр. *кита* ў тым жа значэнні. Дублет *kyta/kyka* мы тлумачым змяшэннем *k'* і *t'* у праславянскай мове. Яно на карысць *t'*, таму прасл. *kyka* разглядаецца як першаснае. Яно мае надзейную этымалогію ў адрозненне ад *kyta* (Мартынаў, Слав. акком., 65—66).

**Кіта́йка** 'шаўковая звычайная сіняя тканіна, якую прывозілі з Кітая, пазней баваўняная тканіна, якую выраблялі ў Расіі' (ТСБМ, Бяльк., Федар., Гарэц., Ант., Мал.), 'стужка' (Доўн.-Зап., Сл. паўн.-зах., Ян., З нар. сл.).



**Кіта́сы** 'кутасы' (ТС). Гл. *кутасы*.

**Кіў**$_1$. Гукапераймальнае. Курыны гук (ЭШ, рук.). Параўн. укр. *ків* 'крык свінні', *ківикати* 'кігікаць (пра чайку)' (ЕСУМ, 2, 442). Гл. *кігікаць*.

**Кіў**$_2$ 'ківок' (ТСБМ, Нар. лекс.), 'рух рукі ці воч' (Бяльк., Ян.). Гл. *ківаць*.

**Кіў-кіў** 'ківаць' (Нік. Напоў.). Рэдуплікацыя да аднаразовага *кіў*$_2$.

**Кіха** 'гумавая камера' (Сцяшк., З нар. сл.). Зваротнае ўтварэнне да *кішка* (параўн. польск. *kiszka* 'тс').

**Кіхала** 'рагатун' (Нас.). Гл. *кіхаць*$_1$.

**Кіхаць**$_1$ 'заходзіцца ад смеху' (Нас.), 'закрыўшыся здзекліва высмейваць' (КЭС, лаг.). Параўн. рус. смал. *кихать* 'моцна смяяцца', укр. *кихкати* 'тс', славен. *kíhati se* 'тс', што сведчыць аб старажытнасці гэтага значэння ў дзеяслова *kyxati (sę)* (ЕСУМ, 2, 439). Лексема *kyxati* (*sę*) 'моцна смяяцца' агульнаўсходнеславянская. Славенскую форму можна лічыць таксама ўсходнеславянскага паходжання.

**Кіхаць**$_2$ 'кашляць, чхаць' (Нас., Сл. паўн.-зах., Др.-Падб.). Польск. *kichać*, чэш. *kychati*, славац. *kychat'*, в.-луж. *kichać*, н.-луж. *kichaś* серб.-харв. *кѝхати*, славен. *kíhati*, балг. *кихам* 'тс'. Як відаць з пераліку форм, у значэнні 'чхаць' толькі заходне- і паўднёваславянская лексема. Таму можна меркаваць аб польскім паходжанні беларускага дзеяслова (Слаўскі, 2, 133). Такім чынам, *kyxati* 'моцна смяяцца' (*кіхаць*$_1$) і *kyxati* 'чхаць' (*кіхаць*$_2$) знаходзяцца арэальна ў дадатковым размеркаванні.

**Кіхта́ць** 'хістаць, калываць' (Сл. паўн.-зах.). Да *хістаць* (гл.) з *х*>*к*.

**Кіца** 'коцік' (Нас., Сцяц.). Укр. *киця*, польск. *kicia* 'тс'. Назва ката гукапераймальнага паходжання. Параўн. падзыўныя для ката (гл. *кіці-кіці*): укр. *киць-киць, кицю-кицю*, польск. *kici-kici, kić-kić*. Цікава, што выгукі, якімі падклікаюць катоў, супадаюць у гэтых трох мовах, як і назва ката, якая ад іх паходзіць. Асабліва блізкія беларускія і польскія формы. Найбольш верагоднай застаецца гіпотэза Брукнера (226) аб пранікненні з ням. *Kitze* 'кошка' (*kitz-kitz* 'падзыўны воклiч') у польскую мову. Адтуль лексема трапіла ў беларускую і ўкраінскую. У іншых славянскіх мовах, уключаючы рускую, пералічаныя формы практычна адсутнічаюць.

**Кіцаты** 'кароткі' (Нар. словатв.). Да *куцы*$_1$ (гл.)?

**Кіцель** 'форменная аднабортная куртка са стаячым каў-

няром' (ТСБМ). Укр. *кітель*, рус. *китель* 'тс'. У беларускай і ўкраінскай мовах запазычанне з рускай, таму што толькі ў апошняй гэта лексема атрымала значэнне 'куртка вайсковай формы'. Ням. *Kittel* як крыніца рус. *китель* (запазычанне XVIII ст.) гэтага значэння яшчэ не ведае (ням. *Kittel* 'палатняная рабочая блуза') (Шанскі, 2, 8, 139).

**Кіці-кіці, кіць-кіць, кіця-кіця** 'выгукі, якімі падклікаюць катоў' (ТС). Параўн. *кіца*.

**Кіцікаць** 'казытаць' (Нар. лекс.). Параўн. укр. *кіткати*, польск. *kitkać* 'тс', якія лічацца запазычанымі з ням. *kitzeln* 'казытаць' (ЕСУМ, 2, 451). Не выключаны пры гэтым уплыў на беларускую лексему назвы ката — *кіца*. Ён мог быць выкліканы народнаэтымалагічным збліжэннем ням. *kitzeln* і *Kitze* 'кошка'.

**Кіціца** 'кутас, снапок, гронка' (Мат. Гом., Нар. словатв., Сл. паўн.-зах., Нар. сл., Ян.). Гл. *кіта*.

**Кіціцы** 'кутасы, махры, катахі' (ТС). Гл. *кіціца, кіта*.

**Кіцюкі** 'канюшына раллявая, Trifolium arvense L.' (Кіс.). Прымаючы пад увагу сінанімічныя беларускія назвы *кіцюкоў* (*каткі, кошачкі*), трэба выводзіць гэту лексему з *кіца* (гл.). *Кіцюк* з *кіц'-ук*. Утвораныя такім спосабам лексемы абазначаюць дзіцянят жывёл: *вавярук, ласюк, кацюк* і інш. (Сцяцко, Афікс. наз., 200). Апошняя ад *кот*. Аналагічная вытворная ад *кіца* — *кіцюк*. Зразумела, што гэта назва расліны паходзіць ад назваў дзіцянят з адпаведнай памяншальнай суфіксацыяй (параўн. *каткі* і *кошачкі*).

**Кіцюх** 'катах' (ТС). Да папярэдняга ад назвы *кацюка*, параўн. *коцік* 'суквецце'.

**Кіч** 'купіна' (Касп., Шн.). Да *куча*$_2$ (гл.).

**Кічаўка** 'купіна, накапаны курган зямлі', 'тычка' (Сл. паўн.-зах.). Гл. *кіч*.

**Кічка**$_1$ 'гронка' (Мат. Гом.), 'хамуціна, падціснутая пад клешнямі хамута', 'валік зануч, які насілі маладзіцы пад чапцом' (Нар. словатв., Тарнацкі, Studia). Рус. *кичка* 'сабраныя ў пучок валасы жанчыны', укр. *кичка* 'старадаўні галаўны ўбор жанчыны', 'пракладка пад хамутом', балг. *кичка* 'галаўны ўбор', серб.-харв. (ц.-слав.) *кычька* 'валасы', польск. *kiczka* 'пучок, звязка, маленькі сноп саломы, валік валасоў у жанчыны', чэш. *kyčka* 'пучок валасоў, чуб, кутас, вязка'. Да прасл. *kyčьka*<*kyka*. Параўн. укр. *кика* 'галаўны ўбор маладой', рус. *кика* 'жаночы галаўны ўбор', 'частка хамута', ст.-рус. *кыка* 'валасы на галаве, павязка', ст.-слав. **кыка** 'пучок валасоў', балг. *кика* 'тс', серб.-харв. *ки̏ка* 'каса', славен. *kíka* 'пучок валасоў'. Параўн. апафанічныя варыянты: лат. *kika* 'чуб', ст.-інд. *kucáte* 'звіваецца'. Махэк$_1$, 243 мяркуе аб пер-



шасным значэнні 'пучок валасоў, чуб' для прасл. *kyka*.

**Кічка**$_2$ 'сечка (для рубкі чаго-небудзь)' (Мат. Гом.). Няясна. Магчыма кантамінацыя, семантычнае прыпадабненне *кічка*$_1$ да *сечка*.

**Кічо́ўнік** 'месца, пакрытае цвёрдымі купінамі на балоце, на сенажатных лугавінах' (Яшк.). Гл. *кіч*.

**Кічу́к** 'начынены мясам страўнік' (Вешт., ТС). Абсалютны сінонім да *кіндзюк* (гл.). Калі лічыць гэтыя словы аднаго паходжання, цяжка вытлумачыць фанетычныя змены (*кіндзюк*>**кідзюк*>**кіцюк*>**кічук*). Трэба памятаць, што дакладная цюркская крыніца для *кіндзюк* таксама адсутнічае.

**Кіш** 'пагрозны крык на курэй' (Дразд.). Гукапераймальнае.

**Кішатня́** 'мноства' (Мат. Гом.). Да *кішэць* (гл.). *Кішатня*<*кішат*<*кішэць* (апошняе як *топат*<*топаць*).

**Кі́шка**$_1$ 'частка стрававальнага апарата' (ТСБМ, Мат. Гом., ТС, Сл. паўн.-зах., Грыг., Бяльк., Яруш.). Укр. *кишка*, рус. *кишка* 'тс', балг. *кишка* 'квач для ўвільгатнення пальцаў пры прадзенні', польск. *kiszka* 'кішка', чэш. *kyška* 'тс', палаб. *ťaisə* (<**kyša*) 'нырка'. Надзейнай этымалогіі не існуе. Ст.-інд. *kósthaḥ* 'вантробы' не мае словаўтваральнага тлумачэння (ад і.-е. **(s)keu̯-* 'пакрываць'). Гл. Бернекер, 679; Покарны, 951—953. Да іншага індаеўрапейскага архетыпа ўзводзіць прасл. *kyšьka* Янзен (ZfSlPh, 15, 49—60): і.-е. **keu̯ *kū-s* 'выпукласць'. Нельга лічыць таксама надзейным супастаўленне з прасл. *kyšěti* 'кішэць' (гл. *кішэць*) (Брукнер, 231). Існуе магчымасць больш простай версіі. Балг. *кишка* 'квач для ўвільгатнення пальцаў', бясспрэчна, да *киша* 'слота, хлюпа' (серб.-харв. *ки̏шати* 'мачыць, размочваць'). Параўн. польск. *kiszka* 'кіслае малако', чэш. *kyška* 'тс'. Гэта, магчыма, значыць, што старажытны чалавек меў некаторае ўяўленне пра наяўнасць брадзільных працэсаў у кішэчніку (параўн. Янзен, 59—60).

**Кі́шка**$_2$ 'хамуціна' (Сл. паўн.-зах., Сцяшк.). Параўн. *кічка*$_1$ (гл.).

**Кішка́р** 'прагны, ненаедны чалавек, жывёла' (Жыв. сл.). Гл. *кішка*$_1$.

**Кі́шкі** 'мясістая сярэдзіна гарбуза, дзе знаходзіцца насенне' (Жыв. сл., Нар. словатв., З нар. сл.). Да *кішка*$_1$ (гл.).

**Кішку́н**$_1$ 'нутрэц' (Мат. Гом.). Гл. *кішка*$_1$.

**Кішку́н**$_2$ 'прагны, ненаедны чалавек' (Жыв. сл.). Гл. *кішкар*.

**Кі́шма** — у выразе *кішма кішэць* (ТСБМ, Нас., ТС, Янк. БП). Гл. *кішэць*.

**Кішо́к** 'лазаніца звычайная, Lysimachia vulgaris L.'

(Кіс.). Іншая сінанімічная назва лазаніцы звычайнай *жывотнік* гаворыць на карысць сувязі *кішок* з *кішка*. Словаўтваральную мадэль для назваў лекавых раслін на *-ok* тыпу *любісток* (Сцяцко, Афікс. наз., 168).

**Кішо́нка** 'бакавая кішэня' (Нас.), 'маленькая сумачка для захавання грошай' (Касп.). Гл. *кішэнь*₁.

**Кішчы́ны** 'адходы пасля выціскання соку з чаго-небудзь' (Сл. паўн.-зах.), 'мякаць гарбуза' (Сл. паўн.-зах.). Гл. *кішкі*. Нягледзячы на семантычную тоеснасць *кішкі* і *кішчыны*, словаўтваральная мадэль сведчыць аб аддзеяслоўным паходжанні разглядаемай лексемы ад *кішчыць* з незасведчаным значэннем 'выціскаць сок' (параўн. Сцяцко, Афікс. наз., 43—44).

**Кішчыць** 'чапляць махры, кутасы' (Сл. паўн.-зах.). Да *кісці*₁ (гл.).

**Кішчэ́рыны** 'перакіслае малако' (Сл. паўн.-зах.). Да *кіснуць* (гл.). Словаўтваральна да *кішчыць* 'квасіць' (польск. *kiszczyć* 'квасіць' ад *kiszka* 'кіслае малако', гл. *кішка*₁). Ад *кішчыць* праз *кішчэр* — *кішчэрыны*. Для *кішч-эр* можна ўказаць на аналагічныя ўтварэнні тыпу суфіксальных на *-ер (-эр)* (Сцяцко, Афікс. наз., 100) і далейшымі змяненнямі пры дапамозе суфікса *-іны* (там жа, 43—44). Цяжкасці такога тлумачэння звязаны з тым, што ўтварэнні на *-эр* адпрыметнікавыя, а не аддзеяслоўныя.

**Кішэ́нь**₁, **кішэ́ня** 'ўшыты ў адзенне мяшочак для дробных рэчаў' (ТСБМ, Нас., Шат., Касп., Бяльк., Янк. II, Сл. паўн.-зах., ТС, Мал., Ян., Грыг., Яруш., Др.-Падб., Мядзв.). У апошняй крыніцы адзначана як запазычанне з польскай мовы (параўн. Кюнэ, Poln., 64). Ст.-бел. *кешаня, кішеня* (з 1555 г.) (Булыка, Запазыч., 154), *кишеня* 'жывот', польск. *kieszeń* 'кішэня', чэш. *kešena*, славац. *kešeň, kešeňa*. Рус. *кишеня* 'жывот' семантычна не суадносіцца з іншымі паралелямі і ў той жа час адпавядае палаб. *t'èsin* 'страўнік' (<**kъsenь*), хоць апошняе мае іншую фанетычную структуру. Калі **kyšen'a* (=рус. *кишеня*)<**kyxen'a*<**kysen'a*, архетып, да якога ўзводзіцца палаб. форма, не рэалізаваў пераход *s>x* пасля *й*, што трэба лічыць неверагодным. Таму палаб. **kъsenь*<**kъšenь*, што тлумачыцца вядомым спарадычным пераходам *š>s* у палабскіх дыялектах. Такім чынам, прасл. *kъšenь/kyšen'a*. Формы чэш. *kešeňa*, славац. *kešeň, kešeňa* — запазычанні з польскай мовы, дзе рэфлекс *ъ>e* рэгулярны (*kieszeń*). На беларускай і ўкраінскай моўнай глебе назіраецца падвойны рэфлекс і кантамінацыя форм *kъšenь* і *kyšen'a* (параўн. ст.-бел. *кешеня* і *кишеня*). Булыка (Запазыч., 154) разглядае іх як запазычанні з польскай мовы. З гэтым трэба пагадзіцца, але вывядзенне польск. *kieszeń* з тур. *késé* не адпавядае рэчаіснасці, бо храналагічна немагчымае (параўн. Слаўскі, 2, 158). Прасл. *kъšenь, kyšen'a* аднаго паходжання з прасл. *kyšьka* (Бернекер, 503). Гл. *кішка*₁.



**Кішэ́нь**₂ 'малая ўкладка снапоў' (ДАБМ). Да *кішэнь*₁. Малая ўкладка складалася з пастаўленых снапоў каласамі ўгору і была пакрыта зверху адным або двума снапамі каласамі ўніз нібы шапкай (гл. каментарыі да ДАБМ, карта 286). Такая ўкладка падобна да кішэні.

**Кішэ́ць** 'мітусліва рухацца ў розных напрамках' (ТСБМ, Шат., Сл. паўн.-зах., Сержп., Нік. Напоў., КЭС, лаг.). Укр. *кишіти*, рус. *кишеть* 'тс'. Перш за ўсё гаворка пра насякомых, чарвей, змей. Адсюль параўнанне са ст.-чэш. *ksenci* (**kъš-en-ьcь*) 'малькі, вывадак земнаводных' (Зубаты, Studie, 1, 1, 33). Усходнеславянскія лексемы адпавядаюць прасл. *kyšeti*, якое генетычна суадносіцца з літ. *kušéti* 'кішэць', *kùšti* 'пачаць рухацца (для масы жывых істот)', *kuštěti* 'шавяліцца, варушыцца, разваівацца' (параўн. значэнне чэшскай парацелі), лат. *kustêt* 'рухацца, шавяліцца, варушыцца' (Фасмер, 2, 242). У якасці іншых індаеўрапейскіх паралелей прапануюцца ст.-грэч. *κυκάω* 'змешваць, муціць, бурліць, мітусіцца', *κυκεών* 'мешаніна', *κυκητής* 'падбухторшчык'. Магчымасць супастаўлення прасл. *kyšeti* з літ. *kušeti* (ū: ŭ) і ст.-грэч. *κυκάω* выцякае з рэгулярнасці суадносін *x~š~k*, што ў сваю чаргу сведчыць аб *k̑* як адной з крыніц прасл. *x*. Прасл. *kyšěti*<**kyxěti*, літ. *š* у *kušěti* з і.-е. *k̑*, а *k* у старажытнагрэчаскіх формах пацвярджае гэту рэканструкцыю (Мартынаў, Слав. акком., 124—125).

**Кію́га** 'палка для хадзьбы' (Нік. Очерки). Да *кій*₁ (гл.). Адносна суфіксацыі *-юга* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 178.

**Кіюха́** 'рагоз і насенная шышка рагозу' (Сл. паўн.-зах.). Параўн. *кіёўка*₁ (гл.). Аб суфіксальным тыпе гл. Сцяцко, Афікс. наз., 124.

**Кію́шка** 'катах' (Мат. Гом.), 'качан кукурузы, кукуруза' (Бяльк.). Гл. *кіёўка*₃, *кіёўка*₄, да *кій*₂ (гл.). Параўн. таксама *кіюха* (гл.).

**Кію́шнік** 'кіёвашнік' (Мат. Гом.). Да *кіюшка* (гл.), *кіёвачнік* (гл.).

**Кія́жына** 'выпадковая палка, не апрацаваная, не абгладжаная' (Янк. I). Да *кій*₁ (гл.); *кій>кіяк>*кіячына* з нерэгулярным пераходам у *кіяжына*.

**Кія́к** 'кукуруза, пачатак кукурузы' (Янк. I). Да *кій*₂ (гл.).

**Кія́н** 'катах' (Мат. Гом.). Параўн. *кіёўка*₃.

**Кія́нка** 'малаток' (Мат. Гом.). Да *кій*₁ (гл.).

**Кія́х** 'пачатак кукурузы, кукуруза' (ТСБМ, Выг., Некр., Янк. Мат., Мат. Гом., ТС, Сержп. Грам., Нар. лекс., Жыв. сл.). Гл. *кіяк*.

**Кіяхі** 'рагоз' (Жыв. сл., Ян.). Гл. *кіюха*.

**Кіяш** 'рагоз' (Нар. лекс.). Гл. *кіюха*.

**Кіяшнік**$_1$ 'сцябло кукурузы, кукурузнік' (ТСБМ, Янк. I, Мат. Гом., Ян.). Гл. *кіях*.

**Кіяшнік**$_2$ 'хатняя кветка'. У крыніцы (Мат. Гом., 232) даецца наступная ілюстрацыя: *«Кіяшнік толькі так, для зелені, ніколі не цвіце»*. Таму трэба думаць, што ў даным выпадку гаворка ідзе аб нейкай расліне, а не кветцы. Гл. *кіяшнік*$_1$.

**Кіяшына** 'сцябло кукурузы' (Мат. Гом.). Гл. *кіяшнік*$_1$.

**Клад**$_1$ 'схаваныя каштоўнасці, скарб' (ТСБМ, Яшк.). Ст.-рус. *кладъ* 'тс', серб.-харв. *кла̏да* 'дабро, маёмасць', польск. *kład* 'тс'. Паралелі сведчаць аб тым, што значэнне 'клад' узнікла яшчэ ў праславянскі перыяд. Этымалогія празрыстая: да *klasti* (гл. *класці*). Прасл. *kladъ* мае дакладную балтыйскую паралель: літ. *klõdas* 'слой, палажэнне' (параўн. *клад*$_2$), якое да літ. *klóti* 'рассцілаць, пакрываць' (Фрэнкель, 274—275).

**Клад**$_2$ 'укладка раўніны длы вырабу вугалю' (Мат. Гом.), 'складзеныя дровы' (Сл. паўн.-зах., Др.-Падб.). Да *класці* (гл.).

**Кладо́ўка** 'памяшканне для захавання прадуктаў' (ТСБМ, Бяльк., Яруш., Тарн.). Гл. *клад*$_1$.

**Клады́** 'могілкі' (ТСБМ, Янк. I, ДАБМ, Нар. словатв., Чуд., Мат. Гом.). Гл. *клад*$_1$.

**Клак**$_1$ 'пыж' (ТСБМ). Укр. *клак* 'пакулле, пачассе', польск. *kłak* 'тс', 'зблытаныя валасы', 'пучок', чэш. *klaký* 'адзенне'. Бел. *клак* 'пыж' можна лічыць калькай з польск. *pakul* 'тс' (гл. Кюнэ, Poln., 65).

**Клак**$_2$ 'сцяг' (Мат. Гом.). Гл. *клак*$_1$. У адрозненне ад *клак*$_1$ гэта слова можна разглядаць як генетычна звязанае з іншымі славянскімі паралелямі. Гл. таксама *клок*.

**Клаката́ць**$_1$ 'бурліць, булькатаць, клекатаць' (Яруш., Сцяшк.). Гл. *клекатаць*. Ст.-рус. *клокотати*, ст.-слав. **клокотати** 'тс', балг. *клокоти*, серб.-харв. *клоко̀тати*, чэш. *klokotati*, славац. *klokotat'* 'тс'. Гэтыя дзеясловы можна лічыць вытворнымі ад *клокот*. Прасл. *klokotati* < *klokotъ* < *klokati* + *-otъ*.

**Клаката́ць**$_2$ 'сварыцца' (Мат. Гом.). Да *клакатаць*$_1$ (гл.).

**Кла́мар** 'жалезны прэнт з вострымі і загнутымі канцамі' (КЭС, лаг.). Запазычанне з польск. *klamer* 'тс', якое ў сваю чаргу з ням. *Klammer* 'тс'. Польск. *klamer* зафіксавана з XVII ст. (Слаўскі, 2, 195). Параўн. Кюнэ, Poln., 65.

**Кламбу́шка** 'клубок нітак' (Мат. Гом.). Рэфлексацыя насавога паказвае на польскі ўплыў. Параўн. польск. *kłąb* 'клубок'. Мадэль з суфіксам *-ушка* можна аднесці да назваў розных прадметаў паводле іх уласцівасцей, формы. Параўн. *цяплушка, рабушка, двайнушкі* (Сцяцко, Афікс. наз., 126).



**Кла́нбушка** 'клубок нітак' (Мат. Гом.). Гл. *кламбушка*.

**Кланіцца** 'схіляцца' (Нас.). Гл. *кланіць*.

**Кланіць** 'схіляць' (Яруш.). Укр. *клонити*, рус. *клонить* 'тс', ст.-слав. **клонити**, балг. *клоня*, серб.-харв. *кло̀нити*, славен. *klóniti* 'тс', польск. *kłonić*, чэш. *kloniti*, славац. *klonit'* в.-луж. *kłonić*, н.-луж. *kłoniś* 'тс'. Прасл. *kloniti* мае дублетнае ўтварэнне *sloniti* (параўн. бел. *сланіць* 'прыхіляць'). Цяжкасць генетычнай ідэнтыфікацыі *kloniti* і *sloniti* зводзіцца да немагчымасці тлумачэння *k*<*ḱ*, калі *s*<*ḱ*. Для прасл. *sloniti* прапануюцца наступныя паралелі — літ. *šliẽti* 'прыхіляць', ст.-англ. *hlinian* 'тс', ст.-інд. *śráyte* 'тс', ст.-грэч. *κλένω* 'тс', лац. *clināre* 'тс' (Брукнер, 500). Для прасл. *kloniti* менш надзейная паралель — літ. *klonūs* 'даліна' (Буга, Rinkt., II, 297; Атрэмбскі, LP, I, 136) і ў ліку іншых варыянтаў асновы — літ. *ātkalas* 'прыстаўлены, прыхілены', ст.-ісл. *hallr* 'схіл, адхон' (Фрэнкель, 210—211). Гэтыя дзве групы індаеўрапейскіх адпаведнікаў можна звесці да адной, калі прыняць для яе архетып **(s)ḱel-(s)ḱlei-*. Аб тым, што такая магчымасць існуе, сведчыць наступная група лексем: ст.-ісл. *skjalgr* 'нахілены, касы', ст.-грэч. *σκολιός* 'крывы, сагнуты'. Параўн. таксама ст.-грэч. *σκελλός* 'крываногі' (<**(s)ḱel-*), літ. *šleĩvas* 'тс' (<**(s)ḱlei-*) і літ. *kleĩvas* 'тс' (<**(s)ḱlei-*). Гэтыя прыклады пацвярджаюць двайны рэфлекс пачатковага індаеўрапейскага *(s)ḱ*: *(s)k* і *ḱ* (Мартынаў, Слав. акком., 150—151).

**Клані́ца** 'ручка вузгалаўя ў возе' (Сл. паўн.-зах.). Паланізм. Параўн. польск. *kłonica* 'тс' (там жа, 478).

**Кланы́** 'паклоны': *«Прыехаў ён (верабей) на надворак, скрыпнуў чабаткамі, а сарока-белабока з нізкімі кланамі»* (Фед., VI, 7а). Гл. *кланяцца*.

**Кла́няцца** 'рабіць паклоны' (ТСБМ, Нас., ТС, Бяльк., Сержп. Пр., Др.-Падб.). Укр. *кланятися*, рус. *кланяться* 'тс', ст.-слав. **кланѩти сѧ**, балг. *кланям се*, серб.-харв. *кла̏њати се*, славен. *klȃnjati se*, польск. *kłaniać się*, чэш. *klaněti*, славац. *klaňat'* 'тс'. Прасл. *klanjati* — ітэратыў ад *kloniti*. Гл. *кланіць*.

**Клапаву́хі** 'аблавухі' (Нар. лекс.). Укр. *клаповухі* 'тс', балг. *клепоух*, славен. *klapouh* 'тс', польск. *kłapouchy*, чэш. *klapouchý* 'тс'. Паралелі сведчаць аб магчымасці прасл. *klapouxъ* (Слаўскі, 2, 251—252). Першая частка гэтага складанага слова да дзеяслова *klapati*, які яшчэ ў праславянскі перыяд развіў значэнне 'біць', 'пляскаць'. Адсюль польск. *kłapaty* 'аб вялікіх (пляскатых) вушах', чэш. *kl'apaté uši* 'адвіслыя вушы', серб.-харв. *клѐпасте уши* 'тс'. Бясспрэчна, праславянскі характар гэтага словазлучэння прывёў да таго, што дзеяслоў *klapati* атрымаў другаснае значэнне 'абвісаць' (параўн.

4. Зак. 3479

балг. *клепвам*, серб.-харв. *клѐпати*, славен. *klápati*). Сюды ж прасл. *klapъtь* 'кусок матэрыі, плоскі кусок'.

**Кла́пан** 'прыстасаванне для рэгулявання патоку пары, газу, вадкасці' (ТСБМ), 'пласцінка, якая закрывае адтуліну, а таксама гузік клавіша ў гармоніку, аргане' (ТСБМ, Бяльк.), 'драўляная частка кавальскага меха' (Нар. словатв.). Запазычанне праз рус. *клапан* з ням. *Klappen* (мн. л. ад *Klappe* 'тс') (Шанскі, 2, 8, 144).

**Клапата́ць** 'рупліва, старанна займацца чым-небудзь' (ТСБМ, Нас., Шат., Мат. Гом., Сл. паўн.-зах.), 'дакучаць,назаляць' (Нас.). Укр. *клопотати* 'рупліва займацца чым-небудзь', рус. *клопотать* 'тс', польск. *kłopotać* 'дакучаць, назаляць', чэш. *klopotati* 'надрывацца на рабоце'. Іншыя, мабыць, першасныя значэнні: чэш. *klopotati*, 'спяшацца, бегчы, калаціць', славац. *klopotat'* 'стукаць', н.-луж. *kłopotaś* 'калаціць', балг. *клопотя* 'грымець', серб.-харв. *клопо̀тати* 'тс', славен. *klopotáti* 'стукаць', ст.-рус. *клопотати* 'шумець, грымець, стукаць, злавацца'. Геаграфія лексем і іх значэнняў сведчыць аб тым, што другаснае значэнне *клапатаць*, якое збераглося ў беларускай мове, ахоплівае арэал, што ўключае польскую, беларускую, украінскую і ў меншай меры рускую мовы (у апошняй — заходнюю частку арэала). Таму можна меркаваць аб польскай крыніцы. Пры гэтым пранікнуць мог назоўнік *клопат*, а вытворныя ад яго маглі ўзнікнуць на ўсходнеславянскай глебе незалежна ад польскай. З пункту погляду прамоўнай рэканструкцыі прасл. *klopotati* (як *klokotati*) як гукапераймальны дзеяслоў узнікла ад прасл. *klopotъ*<*klop-otъ*<*klopati* (балг. *клопам*, серб.-харв. *кло́пати*, славен. *klópati* 'стукаць').

**Клапаці́цца** 'старанна займацца чым-небудзь', 'турбавацца, непакоіцца' (ТСБМ, Нас., Бяльк., Яруш., Сержп., Др.-Падб., Шат., Касп.). Гл. *клапатаць*.

**Кла́паць** 'шлэпаць нагамі' (ТС). Укр. *клапати* 'біць, стукаць, бразгаць', балг. *клапам* 'тс', серб.-харв. *кла̏пати* 'тс', славен. *klapáti* 'павольна ісці', польск. *kłapać* 'біць, стукаць', чэш. *klapati* 'біць, бразгаць', в.-луж. *klapać* 'тс', н.-луж. *klapaś* 'тс'. Прасл. *klapati* — ітэратыў да *klopati* (гл. *клапатаць*). Параўн. Трубачоў, Эт. сл., 9, 184.

**Кла́пкі** 'дрыжнік сярэдні, Briza media L.' (Кіс., Шат.). Няясна. Да *klapati* 'абвісаць'? Гл. *клапавухі*.

**Клапо́ўнік** 'род травяністых раслін сямейства крыжакветных, што выкарыстоўваюцца ў народнай медыцыне як сродак ад клапоў' (ТСБМ), 'клапоўнік смеццевы, Lepidium ruderale L.' (Кіс., Жыв. сл., Касп.), 'багун' (Ян.). Да *клоп* (гл.).

**Клас** 'сукупнасць прадметаў, з'яў, аб'яднаных на аснове якіх-небудзь агульных прымет', 'вялікая група людзей, аб'яднаных аднолькавымі адносінамі да сродкаў вытворчасці', 'падраздзяленне школы' (ТСБМ). Запазычанне праз рус. *класс* з франц. *classe* (Шанскі, 2, 8, 145—146).



**Кла́сік** 'выдатны агульнапрызнаны пісьменнік, дзеяч навукі або мастацтва', 'прадстаўнік класіцызму', 'спецыяліст у галіне класічнай філалогіі' (ТСБМ). Гл. *клас*.

**Класіфіка́цыя** 'сістэма размеркавання прадметаў або паняццяў на класы' (ТСБМ). Гл. *клас*.

**Кла́сны** 'які мае высокую ступень чаго-небудзь' (ТСБМ). Гл. *клас*.

**Кла́сці**₁ 'надаваць чаму-небудзь ляжачае становішча, змяшчаць куды-небудзь' (ТСБМ, Нас., Шат., Касп., ТС, Бяльк., Сцяшк., Гарэц., Ян.). Укр. *класти*, рус. *класть* 'тс', ст.-слав. **класти**, балг. *клада*, макед. *кладе*, серб.-харв. *кла̏сти*, славен. *klásti* 'тс'. Прасл. *klasti* мае адпаведнік у балтыйскіх мовах: літ. *klóti* 'рассцілаць', лат. *klât* 'пакрываць'. Славянскае *-d-* у *klasti* (*klad-ti*) адносіцца да асновы цяперашняга часу. Яно фіксуецца ў аддзеяслоўных назоўніках (літ. *klōdas*). Гл. *клад* (Трубачоў, Эт. сл., 9, 187—189).

**Кла́сці**₂ 'апранаць' (Сцяшк.). Улічваючы значэнне, калька з балт. Параўн. лат. *klât* 'пакрываць'.

**Кла́сы** 'дзіцячая гульня' (ТСБМ, Бяльк.). Гл. *клас*.

**Клат**₁ 'раскладка снапоў для малацьбы' (ДАБМ). Гл. *клад*₂.

**Клат**₂ 'складзеныя паколатыя дровы' (Нар. сл.). Гл. *клад*₁.

**Кла́тка** 'куча' (Выг.). Гл. *кладка*₂.

**Клаўса́** 'хлус' (Сл. паўн.-зах.). Балтызм. Параўн. літ. *klausýtis* 'падслухоўваць' (там жа, 473). Гл. таксама *хлус*.

**Клаўсю́к** 'непісьменны, цёмны чалавек' (Сл. паўн.-зах.) з літ. *klausiùkas* 'хто любіць падслухоўваць' (там жа, 473). Гл. таксама Лаўчутэ, Балтизмы, 79.

**Клац** 'шчоўк, лясь' (ТСБМ). Гл. *клацаць*.

**Кла́цаць** 'моцна стукаць, ляпаць' (Жыв. сл., Нар. словатв.). Гл. *кляцаць*.

**Клачавы́** 'вытканы з пачасных нітак': *«З клочча клачавыя посцілкі ткалі»* (Сл. паўн.-зах., 473; Сцяшк.). Гл. *клочча*.

**Клача́нка**₁ 'мятая салома' (Мат. Гом.). Ад *клычыць*₁ (гл.). (П. Сцяцко, пісьмова) Суфікс-*анка* характэрны для аддзеяслоўных утварэнняў (Сцяцко, Афікс. наз., 28—29).

**Клача́нка**₂ 'палатно, вытканае са зрэб'я' (Сцяшк., Жд. 3). Гл. *клочча*.

**Клачо́к**₁ 'шматок' (Бяльк.). Гл. *клок*₂. Словаўтварэнне гл. Сцяцко, Афікс. наз., 168.

**Клачо́к**₂ 'купка лесу сярод поля, лугу; невялікі кавалак зямлі' (Яшк.). Гл. *клачок*₁.

**Клеба́нія** 'памяшканне, дзе жыве настаяцель касцёла,

царквы' (Сл. паўн.-зах.). Параўн. літ. *klebonijà*<польск. *plebania* (там жа, 2, 473). Параўн. яшчэ ўкр. *клебанія*, якое ад польск. *klebania*<*plebania*. Для беларускай і ўкраінскай лексем трэба прыняць польскі ўплыў (ЕСУМ, 2, 456).

**Клéваць** 'ледзь дыхаць, трапятацца, быць слабым' (Жыв. сл., Нар. лекс., Сл. паўн.-зах.). Параўн. *клявацъ* (гл.). Літ. *klĕvoti* 'тс' (Сл. паўн.-зах., 2, 486). Лаўчутэ (Балтизмы, 67) таксама дапускае балтыйскі ўплыў, але не прыводзіць вышэй адзначанай літоўскай формы. Прыклады з дысертацыі Вяржбоўскага, на якія робіць спасылку аўтар, семантычна і фармальна далёкія. Трубачоў (Эт. сл., 10, 28) адносіць беларускія формы да праславянскай лексікі **klěvati / *klěviti (sę)*. Аднак балгарскія і македонскія паралелі, якія ён прыводзіць, семантычна вельмі далёкія, за выключэннем макед. *să klъ̌vam* 'мучыцца'. Больш блізкімі семантычна, але з рэканструкцыяй **kleviti sę* (там жа, 18) здаюцца паралелі чэш. *kleviti se* 'гнуцца, курчыцца', славац. *kľaviet'* 'калець, дубець', якія, магчыма, да літ. *kliáuti* 'гнуць', лат. *klaût* 'нахіляць'. Сумненні выклікае геаграфія беларускіх слоў, якія не маюць украінскіх і рускіх паралелей, а калі прыняць паралелі чэшскія і славацкія, дзіўным здаецца, што апошнія таксама не маюць паралелей сярод іншых заходнеславянскіх моў. Такая рэдкая эксклюзіўная беларуска-чэшска-славацкая ізалекса, калі яе дапусціць, павінна атрымаць спецыфічнае тлумачэнне.

**Клéвер** 'канюшына' (ТС, Бір., Бяльк., Сцяшк., Нар. лекс.). Укр. *клевер*. Запазычанне праз рус. *клевер* з н.-ням. *klewer*. У рускіх помніках XVI ст. успрымаецца як нямецкая назва канюшыны (Шанскі, 2, 8, 148—149).

**Клéверышча** 'канюшына' (Мат. Гом.), 'поле, з якога ўбралі канюшыну' (Жыв. сл., Нар. лекс., Сл. паўн.-зах.). Да *клевер* (гл.).

**Клевéц** 'малаток для кляпання кос, для насякання жорнаў' (Нас., Выг., Грыг.). Гл. *клявец*.

**Клевяшчына** 'расліна сямейства парасонавых' (Кіс., ТСБМ). Словаўтваральна да *клев-ішч-іна* (Сцяцко, Афікс. наз., 87, 107). Тады да *клявацъ* (гл.), якое можа мець значэнне 'джаліць, кусаць'. Параўн. рус. назву *жгун-корень*.

**Клевяшчыца** 'клевяшчына няпэўная, Cnidium dubium Thele' (Кіс., Дэмб. I). Гл. *клевяшчына*.

**Клей**$_1$ 'ліпкае рэчыва, якое выкарыстоўваецца для трывалага змацавання чаго-небудзь' (ТСБМ, Сл. паўн.-зах., Яруш.), 'смала на вішнях, слівах' (ТС). Укр. *клей*, рус. *клей* 'тс', ст.-слав. **клѣй** 'смала, клей', балг. *клей* 'тс', серб.-харв. (XVII ст.) *klej* 'тс', польск. *klej* 'клей', *klej żabi* 'жабурынне', чэш. *klej* 'клей', славац. *klej*, в.-луж. *klij*, н.-луж. *klij* 'тс'. Да прасл.



*kъlějь*. Параўн. ст.-грэч. *κόλλα* (<**κολια* 'клей'), с.-в.-ням. *helen* (<*haljan*) 'клеіць' (Слаўскі, 2, 200). Словаўтварэнне на аснове праславянскага суфікса *-ějь* (~літ. *ėjas*; там жа), аднак з зусім іншай функцыяй (выключна Nomen agentis балта-славянскага перыяду) (Мартынаў, Дерив., 23—24). Індаеўрапейскія паралелі фармальна даволі далёкія (іншыя каранёвы вакалізм і словаўтварэнне). Германскі дзеяслоў адносна позняй фіксацыі і ніжненямецкага арэала.

**Клей**$_2$ 'жыццёвыя сілы, клёк' (Сцяц., Клім.). Да *клёк*$_1$ (гл.). Кантамінацыя з *клей*$_1$, магчыма, на аснове агульнага ўяўлення пра клейкасць жывога, жыватворнага. Параўн. польск. *żabi klej* 'жабурынне' і рус. *клёк* 'тс'.

**Клей**$_3$ 'праполіс' (Анох.). Гл. *клей*$_1$.

**Клéйка** 'рыба верхаводка' (Янк. I, Крыв.). Гл. *клея*.

**Клéймат** 'клімат' (Мат. Гом.). Гл. *клімат*.

**Клéйміць** 'клеймаваць' (Мат. Гом.). Гл. *кляйміць*.

**Клéйна** 'плыт, даўжыня якога раўняецца даўжыні сплаўляемага дрэва' (Бір.). Гл. *клейня*.

**Клейнóды** 'каштоўнасці; знакі ўлады' (Др.-Падб.). Укр. *клейноды* 'тс'. Ст.-бел. *клейнот* 'каштоўнасць; герб' (з 1495 г.)< польск. *klejnot*<с.-в.-ням. *kleinôt* (Булыка, Запазыч., 156; ЕСУМ, 2, 457).

**Клéйня** 'плыт, звяно плыта' (Нар. сл., З нар. сл., Янк. I, Сл. паўн.-зах.). Няясна.

**Клек**: *«З костачак клек пацячэ»* (Сержп.). Гл. *клёк*$_2$.

**Клекану́ць** 'прапасці' (Фед. Рук.). Гл. *клекнуць*.

**Клекатáць** 'крычаць падобна некаторым птушкам', 'бурліць, кіпець, булькаць' (ТСБМ, Сержп. Грам., ТС, Мат. Гом.), 'смяяцца' (Нар. лекс.). Гл. *клакатаць*.

***Клéкнуць, клéкнуты** 'схіляцца' (Выг.). Гл. *клякаць*.

**Клéктаць клéкты** 'пакрываць сценкі вулея воскам' (Анох.). Гл. *клёк*$_2$.

**Клембáты** 'клышаногі' (ТС). Гл. *клембы*.

**Клéмбаць** 'ісці кульгаючы' (ТС). Гл. *клембы*.

**Клéмбы** 'абутак на драўлянай падэшве' (Мат. Маг.). Гл. *клумбы*.

**Клéмікі** 'тапці' (Сл. паўн.-зах.). Параўн. *клембы* (там жа, 2, 471). *Клемікі*<*клембікі*.

**Клéмка**$_1$ 'ўчастак зямлі квадратнай ці прамавугольнай формы ў канцы шнуроў, мізэрны ўчастак зямлі, града' (Яшк.). Слова, відаць, нямецкага паходжання. Параўн. ням. *klamm* 'вузкі, цесны'. Непасрэдная крыніца невядомая.

**Клéмка**$_2$ 'божая кароўка' (Шатал.). Параўн. *клемка*$_1$ (гл.).

**Клéмпа** 'павольная (?) жанчына': *«С такою клемпаю*

*ніхто не вжэвэ».* Параўн. літ. *klùmpė* 'распусніца' (Сл. паўн.-зах., 474). Параўн., аднак, польск. *klępa* 'тоўстая неахайная жанчына', якое можна лічыць непасрэднай крыніцай беларускага слова. Аб польск. *klępa* гл. Слаўскі, 2, 218—219.

**Кле́мша** 'той, хто крывіць абутак' (З нар. сл.). Да **клембша.* Балтызм з рэгулярным словаўтварэннем. Ад літ. *klimbúoti* 'кульгаць' з *-ša*-суфіксацыяй.

**Кле́ндар** 'клышаногі чалавек' (ТС). Гл. *клендаты.* Вытворнае на *-ар* ад прыметніка (Сцяцко, Афікс. наз., 95).

**Кленда́ты** 'клышаногі' (ТС, З нар. сл.). Гл. *кленды.*

**Кле́нды** 'ногі' (ТС). Да *клембы* (гл.) з дысімілятыўным пераўтварэннем. Экспрэсіўны перанос назвы абутку на назву ног. Параўн. *клінды* (гл.).

**Клене́ня** 'ляжка' (Нар. словатв.). Ад **кляндзеня.* Гл. *кленды.*

**Кле́нічы** 'праклёны' (ТСБМ, Жд. 2, Янк. БП). Ад *кляну, клясці.* Суфіксацыя аддзеяслоўных утварэнняў на *-іч/-ыч,* мн. л. Параўн. Сцяцко, Афікс. наз., 45.

**Клено́вік** 'кляновы сок' (Мат. Гом.). Гл. *клён.*

**Кле́нска** 'паражэнне' (Сл. паўн.-зах.). Запазычанне з польск. *klęska* (там жа, 474).

**Кле́нчыць**$_1$ 'станавіцца на калені' (ТСБМ, Нас., КЭС, лаг., Гарэц., Янк. Мат., Сл. паўн.-зах., ТС) < польск. *klęczyć.*

**Кле́нчыць**$_2$ 'настойліва прасіць, канькаць' (ТСБМ, Касп.). Гл. *кленчыць*$_1$.

**Клень** 'рыба, падобная на язя' (Жыв. сл.), 'галавень' (Сл. паўн.-зах.). Укр. *клень,* рус. *клень* 'тс', балг. *клен,* серб.-харв. *клѐњ,* славен. *klèn,* польск. *kleń,* славац. *kleň,* в.-луж. *klen* 'тс'. Прасл. *klenь* 'тс'. Надзейнай этымалогіі няма. Супастаўленне з прасл. *klinъ* толькі тэарэтычна магчымае (гл. Трубачоў, Эт. сл., 9, 196). Больш верагодна супастаўленне з *клён* (гл.). Матывацыя наступная: час нерасту рыбы супадае з часам цвіцення клёна (Каламіец, Рыбы, 51—52). Аўтар прыводзіць іншыя назвы рыб, якія ўтварыліся ад назваў раслін. Апошнія цвітуць або пладаносяць у час нерасту рыб. Параўн. рус. *земляничник,* укр. *березівка,* бел. *каласавік* і інш. Прасл. *klenь* можна разглядаць як прыметнік *klen-jь,* утвораны ад назоўніка *klenъ* пры дапамозе прадуктыўнага суфікса *-jь* з наступнай наміналізацыяй (Мартынаў, Дерив., 21—23). Тады *klenъ* 'клён' > *klen-jь* 'кляновы' > *klenь* 'галавень' (*кляновая рыба, кляноўка,* параўн. укр. *березівка*).

**Клеп** 'адцягнутае ў час кляпання вастрыё касы' (Сцяшк., Мат. Гом.) Гл. *кляпаць* і *клёп.*

**Кле́панка:** *гуляць у клепанкі* 'гуляць у хованкі' (ТС). Калі *клепанка* 'хованка', то можна рэканструяваць **клепаць* 'хаваць'. Надзейных славянскіх паралелей няма. Але карысна звярнуцца да балтыйскай лексічнай групы, якая прадстаўлена ст.-прус. *auklipts* 'схаваны', лат. *pieklept* 'замыкаць, зачыняць', літ. *slẽpti* 'хаваць' (<**sklepti*), лат. *slèpt* 'тс'. Таму не выключана балтыйскае паходжанне слова (параўн. Тапароў, Прус., А —, 149—150). Параўн., аднак, *клепаць*$_2$.



**Кле́паць**$_1$ 'ісці (пра хаду чалавека без нагі)' (ТС). Гл. *клыпаць.*

**Кле́паць**$_2$ 'моргаць, мігаць' (БММ, 4, 100). Гаварыць аб выключна палескай лакалізацыі слова цяжка. Параўн. *клепкаць, клепкі* (гл.). Казлова (там жа) сцвярджае архаічны праславянскі характар лексемы, прыводзячы наступныя паралелі: укр. *кліпати* 'моргаць, мігаць вачыма', *кліпка* 'павека', балг. *клепвам с очи* 'мігаць вачыма', *клепка* 'павека', макед. *клепа* 'мігаць вачыма' і г. д. Параўн. *клепанка* (гл.).

**Кле́пкаць** 'маргаць' (Сцяшк. Сл.). Гл. *клепкі* і *клепаць*$_2$. Слова лакалізуецца на Смаргоншчыне, таму нельга абмяжоўваць яго распаўсюджанне палескімі гаворкамі.

**Кле́пкі**$_1$ 'павекі' (Сцяшк. Сл.). Гл. *клепкаць* і *клепаць*$_2$.

**Кле́пкі**$_2$ 'дубовыя дошчачкі для вырабу бочак' (Сцяшк., Сержп. Грам., Гарб.). Гл. *клёпка*$_1$.

**Кле́пні** 'ногі' (Ян.). Гл. *клепаць*$_1$.

**Кле́пы:** *клепое дрэво* 'крывое дрэва' (Маш.). Рэгіянальны балтызм. Параўн. літ. *klỹpti* 'згінацца, скрыўляцца' (Лекс. Палесся, 11).

**Кле́рык** 'семінарыст' (Сл. паўн.-зах.) < польск. *kleryk* 'тс' < лац. *clericus* 'духоўны' (Слаўскі, 2, 211).

**Клест** 'крыжадзюб' (Мат. Гом.). Укр. *клест* 'Loxia curvirostra L.', рус. *клёст* 'тс'. Іншыя паралелі ненадзейныя. Гукапераймальнае (ЕСУМ, 2, 459).

**Кле́сці** 'клясці' (Мат. Гом., Нар словатв., Янк. I). Гл. *клясці.*

**Кле́тачка** 'соты, матачнік' (Мат. Гом.), 'сетачка з дзіркамі ў вуллі, праз якія матка не можа пралезці' (Сцяшк.). Гл. *клетка.*

**Кле́тка** 'памяшканне для птушак і жывёлін, сценкі якога зроблены з металічных або драўляных прутоў' (ТСБМ, Касп., Яруш., Бяльк., Сл. паўн.-зах.), 'спосаб складання дроў, дошак, цэглы і пад. у выглядзе чатырохвугольніка' (ТСБМ, Сл. паўн.-зах., ТС, Янк. Мат.), 'свіран, кладоўка' (Нас., Бломкв., Дзмітр.). Гл. *клець.*

**Кле́ткі** 'месца, дзе рос клён, кляновы лес' (Яшк.). Гл. *клець.*

**Кле́тнік**$_1$ 'дух, які ахоўвае клець' (Нас.). Гл. *клець.*

**Кле́тнік**$_2$ 'злодзей' (Нас., Мат. Гом.). Гл. *клетнік*$_1$.

**Клец** 'зуб у баране' (ТСБМ, Мат. Гом., Яруш., Бяльк., Янк. БФ, Гарэц., Дэмб.). Гл. *клёц*.

**Клéцка** 'скрутак вычасанага льну' (Нар. сл.). Гл. *клец*.

**Клець** 'сялянскі будынак для захавання маёмасці; свіран, кладоўка' (ТСБМ, Шат., Касп., Сл. паўн.-зах., ДАБМ, Тарнацкі, П. С., Шушк., Бломкв., Сержп. Грам., Сержп. Прымхі, Нік. Очерки, Бяльк., Яруш., Нар.. словатв., Сцяшк., Грыг., Мал., Шн., Некр., Хар., Сержп., Маш., Гарэц.). Укр. *кліть*, рус. *клеть*, балг. *клет*, макед. *клед*, серб.-харв. *клêт*, славен. *klét*, польск. *kleć*, чэш. *klec*. У гэтых паралелях адзначаецца тры асноўныя значэнні: 'сялянскі будынак для захавання маёмасці, свіран', 'часовае памяшканне, прыбудова', 'хаціна, будан'. Першае значэнне адзначана практычна ва ўсіх славянскіх мовах, другое і трэцяе пераважна на сербска-харвацкай, рускай і польскай тэрыторыях. Унутраную форму зберагло толькі серб.-харв. *клêт* 'будан, сплецены з прутоў'. Аб той жа ўнутранай форме сведчаць значэнні прасл. *klětъka* 'клетка для птушак і жывёл'. На гэтай аснове рэканструюецца прасл. *klětь* 'будан, складзены з жэрдак і аплецены прутамі'. Таму нельга пагадзіцца з рэканструкцыяй Махэка (ВЯ, 1957, I, 97), які бачыць у аснове першаснага значэння 'зруб у якасці свірана'. У сувязі з гэтым узнікае праблема адносін прасл. *klětь* да літ. *klė̃tis* 'кладоўка, свіран', лат. *klēts* 'тс'. Эндзелін (Мюленбах — Эндзелін, 2, 225) лічыць іх генетычна тоеснымі са славянскімі. У якасці крытэрыю ён прыводзіць архаічнасць вакалізму, але такі вакалізм вядомы і ў пазнейшых запазычаннях з усходнеславянскіх моў. Лінгвагеаграфічны крытэрый сведчыць аб другаснасці літ. *klė̃tis* і яго запазычання з перыферыйнага польскага дыялекту. Што датычыць прасл. *klětь*, то яго спрадвечнасць давесці цяжка. Версія Махэка (цыт. праца) *klětь*<**klěu̯-ti* фанетычна і семантычна неверагодная (першаснае значэнне 'сціскаць, зачыняць'). Семантыка прасл. *klětь* добра адпавядае семантыцы і.-е. *k̑lei̯* ('прыстаўляць, прыхіляць', 'будан з жэрдак', 'краты'), але фанетыка застаецца нявытлумачанай. Яшчэ Шахматаў (AfSlPh, 33, 90) выказаў гіпотэзу аб кельцкай крыніцы славянскага слова. Параўн. ст.-ірл. *clíath* 'пляцень, краты', *clíthar* 'хаціна', гал. **klēta* 'пляцень, краты'. Кельцкія словы ў адрозненне ад славянскіх маюць надзейную індаеўрапейскую этымалогію і зыходзяць да архетыпа **k̑lei-t* (і.-е. *ei*>пракельц. *ē*): гоц. *hleiþra* 'будан', ст.-грэч. κλιδία (<**klitia* 'тс'), літ. *šlìtis* 'адрына'. У аснове гэтай групы паралелей ляжыць і.-е. *k̑lei-* са значэннем 'пакласці, прыхіліць' (ст.-інд. *śrayate*, ст.-грэч. κλίνω, лац. *clīno* і інш.). Апрача гэтага, індаеўрапейскія паралелі маюць яшчэ значэнне 'лесвіца' (ст.-грэч. κλῖμαξ, ~ням. *Leiter*, літ. *šlìtė*) і 'пляцень' (ірл. *cliath*, лат. *slits*). Такім чынам, прасл. *klětь* адлюстроўвае кельцкую фанетыку (*k*<*k̑* і *ē*<*ei*) і семантыку (Мартынаў, SO, 29, 1/2, 161—164; Мартынаў, Язык, 38—42).



**Клéшня$_1$** 'галёнка, сцягно' (Сл. паўн.-зах., Нар. лекс.), 'клюшня' (Сержп. Пр., Сцяшк., Сл. паўн.-зах., Янк. III). Гл. *клюшня$_2$*.

**Клéшня$_2$** 'калашына' (Сл. паўн.-зах., Сцяшк., Сцяц., Нар. лекс., Шатал., Тарнацкі, Studia). Апошні звязвае лексему генетычна з *калашына* (гл. *калоша*) (Тарнацкі, 24). Гл. *клешня$_1$*.

**Клешч** 'невялікая членістаногая жывёліна павукападобных, якая паразітуе на целе чалавека, жывёлы, а таксама на раслінах' (ТСБМ, Шат., Сл. паўн.-зах., Сцяшк., КЭС, лаг., Дразд., Бяльк., Яруш.). Укр. *кліщ*, рус. *клещ* 'тс', серб.-харв. *клêшт*, славен. *klèšč* 'тс', польск. *kleszcz*, чэш. *klíšť*, славац. *kliešť*, в.-луж. *klešč*, н.-луж. *klešč* 'тс'. Лічыцца, у адпаведнасці з прынятай версіяй, што прасл. *klěščь* да прасл. *klěšči* 'абцугі' (Трубачоў, Эт. сл., 10, 20—23).

**Клешчавíна$_1$** 'алейная расліна сямейства малачаевых' (ТСБМ). Праз рус. *клещевина* з польск. *kleszczowina*. Калька з лац. *ricinus* 'клешч', 'клешчавіна' (ЕСУМ, 2, 460).

**Клешчавíна$_2$** 'адна палавіна драўлянай асновы хамута' (Сл. паўн.-зах.). Гл. *клешчы$_2$*.

**Клéшчы$_1$** 'шчыпцы для захопу і трымання гарачага металу, абцугі' (ТСБМ, Бяльк., Мат. Гом., З нар. сл., КЭС, лаг., Жыв. сл., Нар. словатв., Яруш.). Укр. *кліщі*, рус. *клещи* 'тс', балг. *клещи*, макед. *клешти*, серб.-харв. *клéшти*, славен. *klèšče* 'тс', польск. *kleszcze*, чэш. *kleště*, славац. *kliešte*, в.-луж. *klěšće*, палаб. *klěstă* 'тс'. Прасл. *klěšči* вытворнае ад *klěskati* (гукапераймальнае) (Махэк, Slavia, 28, 2, 268; Махэк$_2$, 255) або да *klěščiti* 'сціскаць' (Слаўскі, 2, 212). Гэтыя версіі ў аднолькавай меры ненадзейныя (параўн. Трубачоў, Эт. сл., 10, 21—22).

**Клéшчы$_2$** 'драўляная частка хамута' (ТСБМ, Мат. Гом., Бяльк., Касп., Маш., Маслен., КЭС, лаг., Сержп. Грам.). Гл. *клешчы$_1$*.

**Клéшчы$_3$** 'ўключыны' (Мат. Маг.). Гл. *клешчы$_1$*.

**Клéшчыцца** 'спароўвацца (пра сабак і некаторых насякомых)' (Нас.). Параўн. рус. *клещиться* 'тс'. Да *клешчы$_1$* (гл.).

**Клéшчыць** 'ламаць трасту' (Сцяц.). Гл. *клешчы*.

**Клéя** 'кусты, дзе знаходзяцца дробныя пушыстыя звяркі пры ачапленні ў час палявання' (Нас., Яшк.). Няясна.

**Клея́** 'ўклея' (З нар. сл.). Гл. *уклея*.

**Клёваць**$_1$ 'жыць, дыхаць': *«Якей зь яго жыціль, чуць клёвыіць»* (Юрч. Фраз. 2, З нар. сл.). Да *клёваць*$_2$ (гл.). Развіццё значэнняў: 'біцца (пра сэрца)'>'дыхаць'. Існуе версія аб балтыйскім паходжанні разглядаемай лексемы. Але словы, якія разглядаюцца як магчымая крыніца для беларускай групы лексікі, далёкія семантычна і фанетычна і марфалагічна неадпаведныя: літ. *kliáutis* 'давяраць', *kliáuti* 'зачапляць' (параўн. Лаўчутэ, Балтизмы, 67).

**Клёваць**$_2$ 'тоўкаць, торкаць, пульсаваць' (Бяльк., Сл. паўн.-зах.). Да *кляваць* (гл.). Параўн. укр. *клювати* 'пульсаваць'.

**Клёк**$_1$ 'розум, развага', 'косны мозг' (ТСБМ, Нас., Шат., Грыг., Янк. БП, Сцяшк., Гарэц., Бяльк., Ян.). Да *клёк*$_2$ (гл.) семантычны пераход: 'жыццёвая сіла'>'розум'.

**Клёк**$_2$ 'жыццёвая сіла, сокі, клейкасць' (ТСБМ, Нас., Шат., Бяльк., Мядзв., Мат. Гом., З нар. сл., Ян.), 'расол ад селядцоў' (Сл. паўн.-зах., Сцяшк.). У гэтым значэнні слова трэба разглядаць як кантамінацыйнае ўтварэнне на аснове *крак* (гл. *кракавіна*) і *клей*$_2$ (гл.). Параўн. бел. *кракавіна* 'жабурынне', польск. *klej* 'тс', рус. *клёк* 'тс'. Параўн. таксама Грынавецкене і інш. LKK, 16, 170.

**Клёк**$_3$ 'дзіцячая гульня, палачка' (Мат. Гом., Сцяц., Нар. словатв., Ян.). Укр. *кльок* 'дзіцячая гульня «свінка»', рус. *клёк* 'гульня ў гарадкі', *клёка* 'драўляны брусок для гэтай гульні'. ЕСУМ (2, 471) сцвярджае генетычную сувязь з *клюк* 'дзіцячая гульня, драўляны гак'. Гл. *клюка*.

**Клёк**$_4$ выкл.-дзеясл. форма: *«Нам клёк у грудз* [e]*: здагадаліса...»* (Янк. II). Гукапераймальнае. Параўн. ст.-рус. *клекати* 'біцца (пра сэрца)'.

**Клёкат**$_1$ 'перарывісты крык некаторых птушак' (ТСБМ). Гукапераймальнае. Укр. *клекіт*, рус. *клекот* 'тс', польск. *klekot* 'стук', чэш. *klekot* 'клёкат', славац. *klekot* 'тс', в.-луж. *klekot* 'балбатня', н.-луж. *klekot* 'тс'. Утварэнне з суфіксам *-otъ* (Трубачоў, Эт. сл., 9, 192).

**Клёкат**$_2$ 'шыя' (Бяльк.). Ілюстрацыя ў Бяльк., 227 даволі няпэўная: *«Родненькая, як у цябе запекся клёкат, ажно чорны»*. Магчыма, маецца на ўвазе значэнне 'горла'. Тады *клёкат* 'булькатанне, хрыпенне (у горле), гарлавы гук'>'горла'. Словаўтварэнне з прасл. *-otъ* для аддзеяслоўных назоўнікаў гаворыць аб надзейнасці такога семантычнага развіцця.

***Клёкатáць** 'клекатаць (пра бусла)' (Нар. словатв., З нар. сл.). Гл. *клякатаць*$_2$.

**Клёкаць** 'клекатаць' (Мат. Гом.). Да *клёк*$_4$ (гл.). Параўн. Трубачоў, Эт. сл., 9, 190.

**Клёкнуць**: *«сэрца так і клёкне»* (Янк. III). Гл. *клёк*$_4$.



**Клёмба** 'газон кветак' (Др.-Падб.). Да *клумба* (гл.). Пад уплывам польск. *kląb*.

**Клёмбы** 'абутак з закрытым верхам на драўлянай падэшве' (З нар. сл., Нар. сл.). Гл. *клумбы, клембы*.

**Клён**$_1$ 'дрэва клён або драўніна гэтай расліны' (ТСБМ, Сл. паўн.-зах., Касп., Сцяшк., Бяльк.). Ст.-рус. *кленъ*, рус. *клён*, укр. *клен* 'тс', балг. *клен*, макед. *клен*, серб.-харв. *клён*, славен. *klèn* 'тс', польск. *klon*, чэш. *klen*, славац. *klen*, в.-луж. *klen*, н.-луж. *klon* 'тс'. Індаеўрапейскі характар гэтай назвы дрэва вельмі праблематычны, паколькі мы не маем ніводнай надзейнай паралелі за межамі славянскіх моў. Балтыйскія паралелі (літ. *klẽvas*, лат. *kļavs*) трэба лічыць формамі з іншымі дэтэрмінатывамі, але паколькі каранёвая частка нам невядомая, гэта супастаўленне застаецца нявытлумачаным. Кельцкія адпаведнікі здаюцца больш блізкімі (ірл. *cuilenn*, уэльск. *kelyn* 'клён вастралісты'). Але кельцкія формы можна разглядаць толькі як магчымую крыніцу. Параўн. іншую славянскую назву клёна — *явар*, якая традыцыйна лічыцца пранікненнем з германскіх моў. Трэба таксама адзначыць, што германскія назвы клёна, якія разглядаюцца як паралелі да славянскіх і кельцкіх (ст.-ісл. *hlynr*, ст.-англ. *hlyne*, с.-в.-ням. *lin-*), можна таксама разглядаць як кельтызмы. Параўн. Махэк, LP, 2, 154, які разглядае назву клёна як праеўрапейскую субстратную.

**Клён**$_2$ 'праклён' (Сл. паўн.-зах.). Гл. *клясці*.

**Клёнуць** 'кануць' (Сл. паўн.-зах.). Параўн. *клекнуць* (гл.). Да *клякаць* (гл.).

**Клёп** 'лязо касы пасля кляпання' (Касп., Мат. Гом., Яруш.). Да *кляпаць*$_1$ (гл.).

**Клёпат** 'крык, лямант' (Сл. паўн.-зах.). Кантамінацыя *клёкат* (гл.) і *кляпаць* (гл.).

**Клёпка**$_1$ 'дошчачкі, з якіх складаецца бочка, дзежка, кадушка і пад.' (ТСБМ, Нас., Касп., Сл. паўн.-зах., Сцяшк.), 'дранка' (Мат. Гом.). Укр. *клепка*, рус. *клёпка*, польск. *klepka* 'тс'. Няма падстаў разглядаць гэта слова як праславянскае. У такіх значэннях выступаюць толькі польскія і ўсходнеславянскія словы. Калі ўлічыць існаванне ст.-рус. *клепка* ў тым жа значэнні, польская крыніца становіцца неверагоднай і больш надзейнай здаецца старажытнаруская крыніца. Тэрмін мог узнікнуць на старажытнарускай глебе на аснове дзеяслова *klepati*, адтуль пранікнуць у польскую мову, а далей у чэшскую. Ням. *Klappholz* можа быць калькай з польскай мовы. Слаўскі (2, 209—210), Трубачоў (Эт. сл., 10, 11), ЕСУМ (2, 459) лічаць гэта слова праславянскім, хаця тэрміналагічнае значэнне яго абмежавана ў прасторы і часе.

**Клёпка**$_2$ 'розум' (ТСБМ, Нас., Шат., Юрч. Фраз. 2). Гэта значэнне ў тых жа дыялектах, дзе адзначана *клёпка*$_1$ (гл.), што сведчыць аб метафарычным пераносе. Параўн. бел. *клёпкі ў галаве не хапае*, укр. *не хватае клепок у голові*, рус. *не хватает клёпки в голове*, польск. *brak mu piątej klepki*. У той жа час на беларускай моўнай глебе мы адзначаем *клёпка* ў значэнні 'розум' і не ў складзе адпаведнага фразеалагізма. Гэта тлумачыцца тым, што тут атрымалася кантамінацыя з бел. *клёк* 'розум'.

**Клёст** 'дзіцячая гульня' (Бяльк.). *«Пойдзім гуляць у клёст, я палычку ўжу зьдзелыў»* (Там жа, 227). Ілюстрацыя сведчыць аб надзейнасці паралелі рус. *клесток* 'завостраная з двух бакоў палачка для гульні ў «чыжык»', *клестки* 'гульня ў «чыжык»'. Да прасл. *klestiti/klestati*. Гл. *кляскаць*.

**Клёў**$_1$ (рыбы) (ТСБМ, Сцяшк., Нік. Очерки). Да *кляваць* і *клюнуць*$_3$.

**Клёў**$_2$ 'пра стан п'янага': *«Ён уже клёв (п'яны)»* (Нас.). Да *кляваць* (гл.). Параўн. *кляваць носам* і балг. *клювам* 'павесіць галаву'.

**Клёўкаць** 'булькаць унутры арганізма' (Шат.). Гл. *клёк*$_4$.

**Клёхі** 'галушкі, клёцкі' (Сл. паўн.-зах.). Гл. *клёцкі*.

**Клёц**$_1$ 'зуб у баране' (Нас., Касп., Мат. Гом., Мядзв., Нік. Няч.). Параўн. рус. (зах.) *клёц* 'тс'. Да *клёц*$_2$. Семантычны пераход 'кавал дрэва' > 'сук' > 'зуб у баране' (першасны варыянт — стваліна дрэва з тоўстымі сукамі). Гл. Хэнзель, Słowiańszczyzna, 26. Менш надзейная версія: да прасл. *kъlьсь*. Гл. *клык*$_1$ (Фасмер, 2, 249).

**Клёц**$_2$ 'тоўстае бервяно' (Нар. сл., Сцяшк.). Укр. *кльоц* 'калода', польск. *kloc* 'тс'. Запазычанне праз польскае пасрэдніцтва з с.-в.-ням. *kloz* 'тс' (Слаўскі, 2, 230; ЕСУМ, 2, 472).

**Клёцкі** 'галушкі, клёцкі' (ТСБМ, Нас., Шат., Касп., Др.-Падб., Гарэц., Сцяшк., Шн., Бяльк., Нар. сл.). Рус. *клёцка*. Запазычанне праз польск. *klosek*, *kloski* з с.-в.-ням. *klôz* 'тс' (Фасмер, 2, 249).

**Клёш**$_1$ 'крой спадніцы або штаноў з расшырэннем унізе' (ТСБМ). Запазычанне праз рус. *клеш* з франц. *cloche* з першасным значэннем 'звон' (Фасмер, 2, 249).

**Клёш**$_2$ 'абажур' (Др.-Падб.). Параўн. *клёш*$_1$ (гл.).

**Клёшкі** 'адзенне, пашытае клёшам, у клёш' (Сл. паўн.-зах.). Гл. *клёш*$_1$.

**Кліб** 'каб, бадай' (Яўс.). Да *калі б*. Гл. *калі*.

**Кліба** 'скручаны прут для звязвання плытоў' (Касп., З нар. сл., Нар. сл.). Лаўчутэ (Балтизмы, 115) выводзіць беларус-



кія лексемы з балтыйскай крыніцы, прыводзячы такія паралелі, як літ. *klibikis* 'прыстасаванне ў выглядзе шаста для замыкання дзвярэй', лат. *klibiķis* 'тс'. Прыведзеныя балтыйскія формы маюць вытворны характар (параўнальна з беларускімі), але адсутнасць славянскіх адпаведнікаў і немагчымасць этымалагізацыі на беларускай моўнай глебе сведчаць аб тым, што бел. *кліба* магло ўзнікнуць пад уплывам усходнебалтыйскага дыялекту.

**Кліба́н** 'прыходскі каталіцкі свяшчэннік' (Нас.). Гл. *клебанія*.

**Клібіна** 'прывязь са скручаных дубцоў для звязвання бярвенняў у плыты' (Касп., Нар. сл., Нік. Очерки). Гл. *кліба*.

**Кліб'я** 'вяроўкі з сухога галля' (Зав.). Гл. *кліба, клібіна*.

**Клівéц** 'малаток' (Тарнацкі, Studia), 'молат для кляпання касы' (Нік. Очерки). Гл. *клявец*.

**Клівіна** 'тое, што і вітка' (З нар. сл.). Да *калівіна*. Гл. *каліва*$_1$. Словаўтварэнне ўказвае на зборнасць (Сцяцко, Афікс. наз., 107). Улічваючы, што *каліва* можа азначаць 'асобна ўзятую сцябліну, саломіну', вытворнае на *-іна* — 'скрутак, пучок', чаму семантычна адпавядае *клівіна*. Некаторая няпэўнасць гэтай версіі заключаецца ў тым, што разгледжаная мадэль адпавядае адпрыметнікавым вытворным, а ў даным выпадку мы маем справу з лексемай, утворанай ад назоўніка.

**Клівýн** 'кулік' (Мат. Гом.). Да **клігун* (<**клікун*). Да *клікаць* (гл.). Параўн. *клыгун* (гл.).

**Клігуніха** 'жанчына, якая ўсё стогне' (Жд. 3). Да *клікуніха*, якое ў сваю чаргу ад *клікун*. Параўн. рус. *кликун* 'нервовахворы чалавек', *кликунья* 'клікуша'.

**Кліéнт** 'той, хто карыстаецца паслугамі каго-небудзь' (ТСБМ). Запазычана праз рускую мову з ням. *Klient* (Шанскі, 2, 8, 155).

**Клізіць** 'усміхацца' (Шпіл.). Няясна.

**Клікатні** 'абутак на драўлянай падэшве' (Сл. паўн.-зах.). Відаць, балтызм. Параўн. літ. *klýpkė* 'зношаны драўляны чаравік', які стаў крыніцай для бел. *кліпанікі* (гл.). Тады *клікацень*<**klipk-at-ьnь*. Гэта даволі складаная рэканструкцыя не можа лічыцца дастаткова надзейнай. Параўн. таксама *кліп-кліп* (гл.).

**Клікацца** 'падтрымліваць сувязь, мець зносіны' (Нар. словатв.). Параўн. *клікаць*.

**Клікаць** 'галасна зваць' (ТСБМ, Шат., Касп., Сл. паўн.-зах., Сержп., Бяльк., Яруш.), *клікаць вясну* 'сустракаць вясну' (Ян.). Укр. *кликати*, рус. *кликать*, ст.-рус. *кликати* 'тс', ст.-слав. **клицати**, балг. *кликам*, серб.-харв. *кли̏цати, кли̏кати*, славен. *klícati* 'тс', ст.-чэш. *klíčeti* 'тс'. Балтыйскія і герман-

скія гукаперáймальныя паралелі не маюць значэння 'зваць, клікаць' (параўн. Фасмер, 2, 250), якое можна лічыць праславянскай семантычнай інавацыяй гукапераймальнага паходжання, з сакральнай функцыяй (параўн. *клікаць вясну*).

**Клікóвішча** 'адлегласць, на якую чуецца голас чалавека' (Маш.). Да *клікаць* (гл.).

**Клікýн$_1$** 'начны сторож, які павінен пераклікацца з іншымі старажамі' (Нас., Гарб.), той, хто заклікае на панскую працу' (Нас.), 'загоншчык на паляванні' (Нар. сл., Бяльк.). Гл. *клікаць*.

**Клікýн$_2$** 'адзін з відаў лебедзяў' (ТСБМ). Да *клікаць* (гл.).

**Клікýнчык** 'жывакосць палявая, Consolida regalis' (Бейл.). Лекавая расліна, назва якой звязана з сакральным значэннем дзеяслова *клікаць* (гл.).

**Клікýш** 'злы дух, які кліча ў лесе' (Нас.). Гл. *клікаць*.

**Клікýша** 'нервовахворая жанчына, істэрычныя прыпадкі якой суправаджаюцца рэзкімі крыкамі, вішчаннем' (ТСБМ). Да *клікаць* (гл.).

**Клім** 'злодзей' (Рам.). Параўн. польск. *klimkować, klinkować, klimkiem rzucać* 'падманваць, ашукваць'. Зафіксавана ўпершыню ў помніках на беларускай моўнай глебе (Будны, XVI ст.). Паводле Брукнера (234), гэтыя выразы ўзніклі ў сувязі з дыскусіяй аб аўтэнтычнасці твораў папы Клімента I. Супраць Слаўскі (2, 225), які лічыць, што *klimkować* звязана з *klinъkъ*: *klinkiem*>*klimkiem*. Пры гэтым прыводзяцца такія паралелі: бел. *клінок* 'падман' (у выразе *клінкі падбіваць*). Аналагічныя фразеалагізмы ёсць і ў іншых славянскіх мовах (гл. *клінок$_3$*). На карысць гэтага тлумачэння сведчыць, паводле Слаўскага, варыянт *klinkować*. Калі гэта версія справядлівая, трэба лічыць лексему *клім* як рэзультат зваротнага словаўтварэння ад *klimkować*.

**Клімат** 'сукупнасць метэаралагічных умоў у залежнасці ад геаграфічных абставін' (ТСБМ, Яруш.). Праз рус. *климат* з франц. *climat* (Фасмер, 2, 250). Параўн., аднак, Шанскі, 2, 8, 158.

**Клімкаць** 'ударацъ са звонам (па струнах, па металу)' (Гарэц., Нік. Няч.). Гукапераймальнае.

**Клімб** 'кіёчак для звязвання снапоў' (З нар. сл.). Гл. *кныбель*. Фармальнае пераўтварэнне *кныбель*>*клынбэль* (гл.)>**клімбель*>*клімб*.

**Клімóтаць** 'паклёпнічаць' (Нас.). Да *клім* (гл.).

**Клін$_1$** 'завостраны ўнізе і расшыраны ўверсе кусок дрэва або металу, якім расколваюць або зацікаюць што-небудзь' (ТСБМ, Шат., Касп., Сл. паўн.-зах.). Укр. *клин*, рус. *клин*, ст.-рус. *клинъ*, балг. *клин*, макед. *клин*, серб.-харв. *клӥн*, славен. *klìn*, польск. *klin*, чэш. *klín*, славац. *klin*, в.-луж. *klin*, н.-луж. *klin* 'тс'. Прасл. *klinъ* да *kъl-inъ*, якое ад *kolti* 'калоць' (Трубачоў, Эт. сл., 10, 46). Гл. *калоць*.



**Клін$_2$** 'устаўка ў адзенні, прарэх, шырынка' (Сл. паўн.-зах.). Да *клін$_1$*. Другаснае значэнне ўзнікла на аснове знешняга падабенства часткі адзення да *кліна*.

**Кліндух** 'дзікі голуб' (Бяльк.). Укр. *клинтух, климець* 'парода галубоў', рус. *клинтух* 'дзікі голуб'. Няясна (ЕСУМ, 2, 460).

**Кліндзы** 'ногі' (Жыв. сл.). Гл. *кленды*.

**Клінéц** 'клінападобныя жамерыны з канаплянага семя пасля выціскання алею' (Нас.). Гл. *клін$_1$*.

**Клініка** 'бальнічная ўстанова' (ТСБМ). Запазычана праз рускую мову з ням. *Klinik* (Шанскі, 2, 8, 159).

**Клініць** 'навучаць, прывучваць, пераконваць' (*клініць да работы*) (Сл. паўн.-зах.). Да *клін* (гл.). Параўн. *клінок$_3$*.

**Клінне$_1$** 'жамерыны з ільнянога семя пасля выціскання алею' (Нар. сл., Жыв. сл.). Гл. *клінцы*.

**Клінне$_2$** 'трохвугольная ўстаўка ў сукенку' (Ян.). Гл. *клін$_1$*.

**Клінóк$_1$** 'мяшэчак для сыру клінападобнай формы' (ТСБМ, Шат., Мат. Гом., Сл. паўн.-зах., Некр., Янк. Мат., Сцяшк.). Гл. *клін$_1$*.

**Клінóк$_2$** 'вострая частка халоднай зброі' (ТСБМ). Гл. *клін$_1$*.

**Клінóк$_3$** 'хітрасць' — *клінкі падбіваць* (Нас., Юрч. Фраз. 2), *клінкі падбіраць* 'шукаць падыход' (Юрч. Фраз. 2). Параўн. *клім* (гл.).

**Клінцы** 'макуха, выціскі з ільнянога семя пасля выганкі алею' (Бяльк., Рам., Нар. сл., Грыг.). Гл. *клінец*.

**Клінчыкі** 'макуха, выжымкі льнянога семя' (Сцяшк.). Да *клінцы* (гл.).

**Кліны** 'прарэх у штанах' (Янк. Мат., Сцяц., Жд. 3). Гл. *клін$_2$*.

**Кліп-кліп** 'перадача характэрнага скрыпу абутку на драўлянай падэшве': *«Пасля вайны хадзілі ў клікатнях, клікатні гібаліся, і як ідзеш, кліп-кліп»* (Сл. паўн.-зах., 477). З кантэксту відаць, што назва *клікатні* звязана з *кліп-кліп*. Гл. *кліпанікі*.

**Кліпáнік** 'пірог з начынкай' (Мат. Гом.). Магчыма, да *кліпаць* (гл.).

**Кліпáнікі** 'абутак на драўлянай падэшве'. Параўн. літ. *klýpkė* 'зношаны драўляны чаравік' (Грынавецкене і інш., LKK, 16, 178; Лаўчутэ, Балтизмы, 68). Бел. *кліпанік*<*klip-anikъ*. Як бачым, словаўтварэнне ў гэтай лексемы цалкам славянскае. Таму можна гаварыць выключна аб запазычанні лексемы або з іншага словаўтваральнага варыянта, або дэрыва-

цыйнай гісторыі запазычанага *кліп* на беларускім моўным грунце.

**Кліпа́ць** 'кляпаць' (КЭС, лаг., Бяльк.). Гл. *кляпаць*.

**Кліпша** 'крываногі чалавек' (Сл. паўн.-зах.). З літ. *klipšas* 'хто кульгавы' (там жа, 477). Гл. *клыпша*.

**Клір** 'служыцелі культу хрысціянскай царквы' (ТСБМ). Укр. *клир*, рус. *клир*, ст.-рус. *клиръ* 'тс'. Праз ст.-слав. **клиръ** са ст.-грэч. κλῆρος (Фасмер, 2, 251).

**Клітба́** 'праклёны, клятва, закліnанне' (Бяльк.). Гл. *клятба*.

**Кліц** 'калода' (Сл. паўн.-зах.). З ням. *Klotz* (там жа, 478). Параўн. *клёц* (гл.).

**Клішы** 'ногі' (Нар. словатв.). Гл. *клышы₂*, *клышаногі*.

**Кліша́вы** 'клышаногі' (Нар. словатв., З нар. сл.), *клішавыя ногі* 'крывыя ногі' (Ян.). Гл. *клышаногі*.

**Кліша́ць, клыша́ты** 'ступаць, ставячы ступні пяткамі ўнутр, а наскі ўбакі' (З нар. сл.). Гл. *клышаногі*.

**Кліч** 'заклік, крык, воклiч' (ТСБМ). Гл. *клікаць*.

**Кло́варат** 'вароты' (Мат. Маг.). Гл. *калаварот*. Перанос значэння пад уплывам *вароты* (гл.).

**Кло́дава** 'магільнік' (Мат. Гом.). Гл. *клад₃*. Ад **кладава*.

**Кло́даўе** 'магільнік' (Мат. Гом.). Гл. *кладаўё*.

**Кло́дбішча** 'магільнік' (Мат. АС). Гл. *кладбішча*.

**Клок₁** 'жыццёвая сіла ў зярне' (Чач., КЭС, лаг.). Гл. *клёк*.

**Клок₂** 'касмык, жмут сена, валасоў' (Мат. Гом., Нар. сл., Сл. паўн.-зах.). Укр. *клоччя*, рус. *клок* 'тс', балг. *клъчище*, серб.-харв. *кŷк*, славен. *kólke* 'пакулле', польск. *kłak* 'касмык, пакулле'. Найбольш верагодная версія да **plъkъ*, генетычна суаднесенага з літ. *plaũkai* 'валасы', лат. *plaukas* 'валокны', с.-в.-ням. *floccho* 'касмык' (Мацэнаўэр LF, 51, 125; Фасмер, 2, 252). Іншыя этымалогіі бяздоказныя.

**Кло́мля** 'рыбацкая снасць, лавушка з адкрытым заходам' (ТСБМ, Мат. Гом., Янк. I, Сл. паўн.-зах., Крыв., Сцяшк., Нар. лекс., Сцяц.). Укр. *кімля, климля, кломля*, рус. (зах.) *кломля* 'тс', серб.-харв. *кло̋ња* 'пастка для птушак', славен. *klônja* 'тс', польск. *kłomia*, *kłonia* 'тс', славац. *kloňa* 'кошык для квахтухі'. Пералічаныя паралелі можна аб'яднаць у адзін архетып *klomьnja*, які лічыцца роднасным з гоц. *hlamma* 'пастка' (Махэк₁, 206). Бернекер (1, 522) звязвае гэту групу слоў з прасл. *kloniti*, што неверагодна як з фанетычнага боку (дублет польск. *kłomia / kłonia*), так і з семантычнага.

**Кло́мпы**: *«зімою ходзяць мужчыны ў дзеравяных кломпах»* (Федар.). Гл. *клумпы*.

**Клон** 'паклон' (Нар. сл.). Гл. *кланіць*.

**Кло́на** 'адрына' (Сл. паўн.-зах.). Гл. *клуня*.



**Клоп** 'насякомае-паразіт, якое корміцца кроўю жывёл і чалавека' (ТСБМ, Сл. паўн.-зах., Бяльк.). Укр. *клоп*, рус. *клоп* 'тс', серб.-харв. *кло̏п* 'клешч', славен. *klòp* 'тс'. Прасл. *klopъ* не мае надзейнай этымалогіі. Цікавае супастаўленне з балг. *клопам* 'кішэць' (БЕР, 2, 467). Параўн. Якабсон, Word, 8, 388. Нельга рашуча аспрэчваць і метатэзу *klopъ* < **plokъ*, маючы на ўвазе балтыйскія паралелі літ. *blãkė* 'клоп', лат. *blakts* 'тс' (параўн. вядомае прасл. *pekti* ~ літ. *kèpti*). Можна меркаваць таксама аб *klopъ* ~ *klapati* 'біць, плюшчыць', параўн. польск. *pluskwa*, *ploszczyca* 'клоп'. Іншыя версіі зусім неверагодныя.

**Кло́палка** 'квактуха' (Жд. 3). Гукапераймальнае. Словаўтварэнне на *-алка* (Сцяцко, Афікс. наз., 51).

**Кло́пат₁** 'неспакойная думка пра што-небудзь' (ТСБМ, Нас., Шат., Касп., Сержп. Грам., Гарэц., Сцяшк., КЭС, лаг., Ян.). Гл. *клапаціцца*. Насуперак Кюнэ (Poln. 64) не з'яўляецца пранікненнем з польск. *kłopot*.

**Кло́пат₂** 'квактанне' (Сл. паўн.-зах., Яруш.). Утварэнне на *-otъ* ад гукапераймальнага дзеяслова. Гл. *клопалка*.

**Кло́пат₃** 'у жорнах дошчачка ад жалабка, якая прыціскаецца да чатырохграннай часткі корбы і пры вярчэнні механічна рэгулюе перадачу зерня на камень' (Нар. словатв., Выг., Кліх, Дразд.). Укр. *клопіт* 'тс', польск. *kłopot* 'тс'. Да прасл. *klopotъ* 'стук, шум', але ў значэнні 'частка жорнаў' толькі польскае, беларускае і ўкраінскае. Паколькі рускія дыялекты (апрача заходніх) практычна не ведаюць гэтага слова, можна меркаваць аб тым, што яно ўзнікла як тэхнічны тэрмін на польскай моўнай глебе і адтуль распаўсюдзілася на беларускі і ўкраінскі арэалы (Смулкова, Бел.-польск. ізал., 117).

**Кло́пікі** 'клапоўнік' (Мат. Гом.), 'стрэлкі звычайныя, Capsella Bursa pastoris' (Дэмб. 1, Кіс.). Гл. *клапоўнік*.

**Кло́тнік** 'васілёк лугавы': *«клотнік і васілёк у жыця; толькі клотнік больш фіялетавы»* (Сл. паўн.-зах., 2, 478). Магчыма, да польск. *kłot* 'абмалочаны сноп'.

**Кло́ун** 'цыркавы артыст-комік' (ТСБМ). Праз рус. *клоун* < англ. *clown* (Шанскі, 2, 8, 164).

**Кло́ўня (клёвня)** 'рыбалоўная прылада, кломля' (Нар. лекс.). Гл. *кломля*.

**Клоўсічка** 'жанчына, якая часта ўжывае слова *паслухай*'. Балтызм. Параўн. літ. *klausýtis* 'слухаць', *klausýk* 'слухай' Сл. паўн.-зах., 2, 479).

**Клох-клох** 'як чуюць курыцу' (Нар. лекс.), 'падзыванне куранят' (Нар. лекс.). Гукапераймальнае.

**Кло́чча** 'адходы пры апрацоўцы льну' (Сцяшк., Влад.),

'пачаскі, пачассе' (Сл. паўн.-зах.), 'касмык чаго-небудзь валакністага' (Нас.). Гл. *клок.*

**Клочэнік**₁ 'вандроўны гандляр, мяняла, анучнік' (ТС). Гл. *клок.*

**Клочэнік**₂ 'пража з адходаў ільну' (ТС). Гл. *клок.*

**Клуб**₁ 'культурна-асветная ўстанова' (ТСБМ). Праз рус. *клуб* з англ. *club* (Шанскі, 2, 8, 165).

**Клуб**₂ 'лятучая шарападобная маса пылу, дыму, пары, клубок' (ТСБМ, ТС, Сл. паўн.-зах., Дуж.-Душ., КЭС, лаг.). Укр. *клуб*, рус. *клуб* 'тс', балг. *кълбо*, серб.-харв. *клу̑пко*, славен. *klóbko* 'тс', польск. *kłąb*, чэш. *kloub*, славац. *klbo*, н.-луж. *klub* 'тс'. Прасл. *klǫbъ* параўноўваецца з лац. *glomus*, *globus*, на аснове якіх можна рэканструяваць **klombos* як крыніцу праславянскай лексемы. Параўн. Трубачоў, Ремесл. терм., 108—109; Пізані, Paideia, 24, 3—6, 212; Мартынаў, Изоглоссы, 11. Апошні — прыхільнік італійскага паходжання прасл. *klǫbъ*, хаця абсалютныя сінонімы з балтыйскімі адпаведнікамі ў славянскіх мовах не выяўлены. Трэба ўзяць пад увагу тое, што нельга ў даным выпадку гаварыць аб генетычнай тоеснасці, паколькі італійскія і славянскія мовы не мелі агульнай прамовы. А калі ўлічыць, што славянскія пранікненні ў італійскую прамову адсутнічаюць, мы вымушаны дапусціць італійскую крыніцу для прасл. *klǫbъ*.

**Клуб**₃ 'косці таза, тазавыя косці, якія выступаюць ніжэй пояса' (Шат., Сл. паўн.-зах., Сцяшк., Яруш., Клім., Мат. АС, Дразд., З нар. сл., КЭС, лаг.). Укр. *клуб* 'сцягно', польск. *kłąb*, чэш. *kloub* 'сустаў', славац. *klb* 'сустаў, сцягно', н.-луж. *klub* 'сцягно', в.-луж. *kluba* 'тс', палаб. *klob* 'тс'. Геаграфія *klǫbъ* у гэтым значэнні сведчыць аб агульнапаўночнаславянскай інавацыі. Генетычна *klǫbъ* 'сцягно' звязана з *klǫbъ* 'клубок' (гл. *клуб*₂).

**Клу́бам** 'моцна, многа' (Сл. паўн.-зах.). Да *клуб*₂ (гл.).

**Клу́бень** 'патоўшчаная мясістая частка сцябла, кораня' (ТСБМ). Да *клуб*₂ (гл.). Словаўтварэнне з дапамогай суфікса *-ьпь*, які складаецца з *-ьпъ* (суфіксацыя прыметнікаў) і *-jь*. У гэтай камбінацыі ўтвараюцца назоўнікі ад прыметнікаў яшчэ ў балта-славянскі перыяд (параўн. літ. *-in-is*, *-in-ys*) (Атрэмбскі, Gramatyka, 2, 193; SP, 1, 138; Мартынаў, Дерив., 38).

**Клубіцца** 'звівацца, кружыцца' (ТСБМ, Сл. паўн.-зах.). Гл. *клуб*₂.

**Клубніка** 'клубніцы' (Жыв. сл.). Гл. *клубніца.*

**Клубніца** 'травяністая расліна сямейства ружакветных, Fragaria collina, ягада гэтай расліны' (ТСБМ, Янк. III, Дэмб. I, Мат. Гом., Сл. паўн.-зах., Бяльк.). Да *клубень* (**klub-ьп-ica*). Форма *клубніка* — запазычанне з рус. *клубника.*



**Клубня́к**₁ 'скрутак лык' (Бяльк.), 'клубок' (Мат. Гом.). Утварэнне са значэннем сукупнасці прадметаў на *-няк* (Сцяцко, Афікс. наз., 118—119). Гл. *клубок.*

**Клубо́к** 'клубок' (ТСБМ, Бяльк., Маш., Бір., Сержп. Грам., Сцяшк.). Гл. *клуб*₂.

**Клубы** 'косць бядра' (Касп., Некр., Сержп. Грам., Гарэц.). Гл. *клуб*₃.

**Клудзе́ц** 'палачка, на якую насаджваецца цэўка ў чаўнаку' (Нар. лекс.). Параўн. рус. *хлуд* 'жэрдзь', серб.-харв. *хлу̏д* 'тс', славен. *hlód* 'тоўстая цурка', польск. *chłąd* 'сцябло', чэш. *chloud* 'палка', палаб. *chlǫd* 'тс'. Экспрэсіўны пераход *х*>*к*. Бел. *клудзец* да *xlǫd-ьсь* паводле прадуктыўнай словаўтваральнай мадэлі. Прасл. *xlǫdъ* надзейна суадносіцца з балтыйскай лексічнай групай: літ. *sklandà* 'жэрдзь у плоце', лат. *sklañda* 'жэрдзь' (Махэк, Slavia, 16, 2—3, 180; Ілліч-Світыч, ВЯ, 1961, 4, 93). Адзін з прыкладаў адпаведнасці пачатковага славянскага *х* і пачатковага балтыйскага *sk* (Мартынаў, Слав. акком., 140—141).

**Клум** 'шум, тлум, турбота, чуткі' (Нас., Гарэц., Мат. Маг., Юрч., Др.-Падб.). Толькі беларускае. Смал. *клум* 'мітусня, беганіна', *клуміць* 'турбаваць, дурыць' уключаецца ў беларускі арэал. Лічыцца пранікненнем з польск. *tłum* 'натоўп', *tłumić* 'падаўляць' (Фасмер, 2, 255). Параўн. *клуміць* (гл.).

**Клу́мак** 'дробныя рэчы, звязаныя хусткай' (Касп., Гарэц., Сцяшк., Бір., Мядзв., Яруш., КЭС, лаг.). Гл. *клунак.*

**Клу́мба** 'градка для кветак' (ТСБМ). Праз рус. *клумба* з англ. *clump* 'тс' (Шанскі, 2, 8, 166).

**Клумбу́шка** 'клубок нітак' (Мат. Гом.), 'цэўка з навітай для ткання пражай' (Жыв. сл.). Да *клуб*₁ (гл.) з экспрэсіўнай назалізацыяй.

**Клу́мбы** 'драўляныя пантофлі' (Жд. 2, Нар. сл.). Гл. *клумпы.*

**Клуміць** 'тлуміць, дурыць, шумець' (Нас., Гарэц., Юрч., Мат. Маг., Бяльк., Др.-Падб.), *клуміць галаву* — 'задурваць, валакіціць, падманваць' (Юрч. Фраз. 2). Насовіч (237) гаворыць аб тым, што *клуміць* аднаго паходжання з *глуміць* і *тлуміць*. Да *клум* (гл.). Супастаўляючы з *клуміць* не толькі *тлуміць*, але і *глуміць*. Насовіч, відаць, мае на ўвазе кантамінацыю *тлуміць* і *глуміць*. З гэтым тлумачэннем нельга пагадзіцца, паколькі рус. *глумить*, бел. *глуміць* маюць таксама значэнне 'дурыць, падманваць'. Трэба таксама ўлічваць, што лексемы *tłum*, *tłumić* толькі польскія і іх этымалогія няясная. Таму, па-першае, не абавязкова прымаць пераход *t*>*k* на беларус-

кай глебе для тлумачэння бел. *клум, клуміць*, можна меркаваць і аб адваротным працэсе (гл. *глум, глуміць*).

**Клу́мпы** 'драўляны абутак на драўлянай падэшве' (Сл. паўн.-зах.). Балтызм. Параўн. літ. *klùmpės* 'тс' (там жа, 2, 480). Гл. *клумбы, клембы*. Бел. *клумпы, клумбы, клёмбы*, польск. *kłumpie, kłompie* 'тс', рус. пск. *клумба* 'тс' лічацца балтызмамі. У якасці крыніцы прыводзяцца літ. *klùmpė, klùmpis, klùmbė, klùmbis* 'чаравік на драўлянай падэшве або цалкам драўляны', лат. *klumpas* 'тс' (Зданцэвіч, LP, 8, 342; Урбуціс, Baltistica, V (1), 61; Лаўчутэ, Балтизмы, 30—31). Аб паходжанні балтыйскіх форм гл. Фрэнкель, 275; Тапароў, K — L, 78—79.

**Клу́нак** 'пажыткі, звязаныя хусткай або складзеныя ў торбу, вязка' (ТСБМ, Шат., Сл. паўн.-зах., Бір., Гарэц., Сержп.). Укр. *клунок, клумок* 'тс'. Дзендзялеўскі (Бел.-укр. ізал., 24) разглядае гэтыя лексемы як супольную беларуска-ўкраінскую інавацыю. Этымалогія застаецца няяснай. Кантамінацыя ўкр. *тлумок* 'торба, мяшок' і *клуня* (ЕСУМ, 2, 467) вельмі праблематычная. Апрача гэтага, этымалогія першага з гэтых слоў таксама няясная.

**Клу́нда** 'хто сварлівы, буркліві' (Сл. паўн.-зах.). Магчыма, экспрэсіўнае ўтварэнне з суфіксам *-да* і назалізацыяй каранёвага вакалізму. Параўн. рус. *шлёнда* ад *шляться*. Тады *клунда* ад *клуціць* (<польск. *kłócić*). Параўн. *клутня* (гл.) таго ж паходжання.

**Клундзю́к** 'страўнік, начынены мясам' (гл. *кіндзюк*) (Сл. паўн.-зах.). Параўн. літ. *skilandžiùkas* 'тс' (Сл. паўн.-зах., 2, 480), 'тоўсты, брухаты' (параўн. таксама *кіндзюк*) (З нар. сл.), 'сляпая кішка ў кабана' (Нар. сл.). Кантамінацыя *кіндзюк* і *клунак*.

**Клуні́цца** 'задыхацца' (Нік.). Няясна. Параўн., аднак, *клунак* у значэнні 'вязка, звязка', тады **клуніць* 'звязваць' > >*клуніцца* 'звязвацца' > *клуніцца* 'задыхацца'.

**Клу́нкі** 'кішкі, вантробы' (Нас.). Параўн. *шлункі* (Нас., 237). Гл. *клундзюк*.

**Клу́ня** 'гаспадарчы будынак для складвання снапоў, сена, пуня' (ТСБМ, Нас., Касп., ТС, Сл. паўн.-зах., Федар., Гарэц., Сцяшк., Маш., Тарнацкі, Studia, ДАБМ, Шушк., Шн., Гарб., Грыг., Жыв. сл., Зн. дыс., Хар., Нік. Очерки), 'гумно' (Мат. Гом., Гарэц., Яруш., Хар., Абабур., Янк. II). Укр. *клуня*, рус. *клуня* 'тс', польск. *kłunia* 'тс' (усходнеславянскага паходжання). Балтызм. У якасці крыніцы прыводзяцца літ. *klúonas* 'ток, гумно', лат. *kluõns* 'тс'. Гл. Лаўчутэ, Балтизмы, 13 з літаратурай.

**Клупа́ць** 'калупаць' (Нас.). Гл. *калупаць*.



**Клупі́на** 'ранка, драпіна' (Др.-Падб., Гарэц.). Гл. *калупаць*.

**Клусава́ты** 'хлуслівы' (Сл. паўн.-зах.). Гл. *клаўса*.

**Клу́стасць** 'тлустасць' (Сцяшк., Сл. паўн.-зах., Жд. 2). Гл. *тлусты*.

**Клу́тня** 'сварка' (Грыг.). З польск. *kłótnia* 'тс'.

**Клу́тчык** 'кіёчак у клешні ніта, у вале ткацкага станка, за які прымацоўваецца пража ці палатно' (З нар. сл.). Да *ключ* (гл.). Гл. *ключка*$_1$.

**Клух-клух** 'перадача характэрных выгукаў квактання курыцы' (Сл. паўн.-зах.). Гукапераймальнае.

**Клу́хаць** 'пра курыцу, якая падзывае куранят' (Нар. лекс.). Да *клух-клух* (гл.).

**Клухта́** 'густая гразь' (Яшк.). Да *лухта* (гл.). Параўн. *клухтавіна*.

**Клухтаві́на** калдобіна, выбоіна на дарозе' (Яшк.). Да *клухта* (гл.) і *лухчавіна* (гл.) 'калдобіна'. Пачатковае *к* вытлумачыць цяжка. Параўн. *клучышча* (гл.).

**Клу́ці** 'калаццё'. Параўн. польск. *kłucie* 'тс' (Сл. паўн.-зах., 2, 481). Пранікненне з польскай мовы з пераходам у мн. л.

**Клу́чышча** 'расчэп, лучына' (Гарб.). Да *лучышча, луч* (гл.). Тут таксама цяжка вызначыць паходжанне пачатковага *к*. Параўн. *клухтавіна*.

**Клу́ша** 'назва птушкі' (Мат. Гом.). Рус. *клуша* 'квактуха, галка, чайка'. Гукапераймальнае. Звязваецца з лат. *klukšet* 'кудахтаць' (Фасмер, 2, 255).

**Клушч** 'тлушч'. Параўн. польск. *tłuszcz* (Сл. паўн.-зах., 2, 482, Сцяшк.). Аб пераходзе *t*>*к* гл. *клум*.

**Клы**$_1$ — *«вышываць на клы, завязваць на клы (на кол)»* (Нар. лекс.). Гл. *кол*.

**Клы**$_2$ 'іклы, супрацьвочныя зубы' (Сцяшк.). Гл. *іклы*.

**Клыба́ты** 'клышаногі' (Сцяц., Сл. паўн.-зах., З нар. сл.). Гл. *клыпаць*.

**Клы́баць** 'кульгаць' (Сл. паўн.-зах., Федар.). Гл. *клыпаць*.

**Клы́бша** 'жанчына з доўгімі нагамі' (Сцяцко, Афікс. наз., 177). Гл. *клыпша*.

**Клыгаць**$_1$ 'марудна ісці, клыпаць' (ТСБМ, Бір., Сцяшк., Жыв. сл., Нар. сл.), 'кульгаць' (Шат.). Відаць, кантамінацыя *клыпаць* (гл.) і *кульгаць* (гл.). Семантычная тоеснасць гэтых дзеясловаў стварае спрыяльныя ўмовы для іх кантамінацыі.

**Клы́гаць**$_2$ 'жаваць, есці' (Нас.). Гл. *клыкаць*.

**Клыгу́н** 'чайка (Larus), рыбачка (Sterna)' (Флёра II). Звычайна назва чайкі паходзіць ад яе сумнага крыку. Таму здаецца, што *клыгун* можна параўнаць з *клігуніха* (гл.) 'жанчына, якая ўсё стогне' і далей з *клікун* (гл.) і *клікаць*

(гл.). Параўн. таксама рус. *клыкать* 'плакаць' і літ. *klūkti* 'тс'.

**Клы́жніна** 'нага' (Нар. словатв.). Да *клышніна*. Параўн. *клышаногі* (гл.). Тады *клышніна* да *клыш-ьн-іна*, назоўніка, утворанага ад прыметніка з суфіксам *-ьн-* па вядомай мадэлі.

**Клы́зніць** 'жыць, дажываць', 'гаварыць пустое' (Юрч. Фраз. 2). Зыходзячы са значэння 'гаварыць пустое', можна разглядаць як скажонае *трызніць* (гл.). Калі так, то ў гэтай форме зберaглося другое старажытнае значэнне — 'дажываць'.

**Клык₁** 'ікол' (Сцяшк., Сержп. Пр.). Укр. *клик*, рус. *клык*, польск. *kłyk*, чэш. *klyk*, н.-луж. *kłyk* 'тс'. Прасл. *klykъ* да *kъlti* ~ літ. *kùlti* 'малаціць, біць', лат. *kult* 'тс' (Слаўскі, 2, 278—279).

**Клык₂** 'глыток' (З нар. сл.). Гл. *клыкаць*.

**Клыка́ты (бу́ська)** 'з доўгімі нагамі' (Клім.). Да **клык* 'нага'. У такім разе мы можам разглядаць апошняе як усходнеславянскую паралель да балг. *кълка* 'сцягно, ляжка', макед. *колк* 'сцягно', серб.-харв. *кӯк*, славен. *kolk* 'тс'. Паўднёваславянская група лексем мае балтыйскія паралелі і перш за ўсё ст.-прус. *culczi* 'сцёгны' (Мартынаў, Язык, 73—74).

**Клыка́ць** 'глытаць, выпіваць, есці' (Нас., З нар. сл., Мат. Гом., ТС). Магчыма, кантамінацыя *клюкаць₂* (гл.) і *глытаць* (гл.).

**Клы́каць** 'блытаць' (Мат. Гом.). Гл. *клычыць₁*.

**Клымза́** 'кульгавы' (*клыбач* 'хто клыбае') (Сл. паўн.-зах.). Параўн. літ. *klipsà* 'тс' (Сл. паўн.-зах., 2, 482). Гл. *клыпаць*. Экспрэсіўная назалізацыя: **клыпса* > **клымпса* > *клымза*.

**Клымпава́ты** 'выкручаны, нязграбны' (ТС). Да *клыпаваты*, *клыпаць* (гл.).

**Клы́нбэль** 'завостраны калочак для вязання снапоў' (Сл. паўн.-зах.). Гл. *кныбель*.

**Клы́нда₁** 'мачанка, прыгатаваная з ільнянога семя ці з маку' (Сл. паўн.-зах., Жд. 3). Да *клінда*. Параўн. *клінчыкі* (гл.), *клінцы* (гл.). Словаўтварэнне не зусім зразумелае. Магчыма, суфікс *-да*, які ўтварае, аднак, аддзеяслоўны назоўнік тыпу *валакіда* (< *валачыцца*), *рэўда* (< *раўці*). Тады *клінда* ад *кліні́ць*, *клінец* (гл.).

**Клы́нда₂** 'кульгавы' (Сл. паўн.-зах., Нар. сл.). Гл. *клынды*.

**Клы́ндаць** 'хадзіць без мэты, бадзяцца' (Сл. паўн.-зах.). Гл. *клынды*.

**Клы́нды** 'ногі' (Жд. 3). Параўн. *кленды* (гл.).

**Клыно́чак** 'хустка' (ДАБМ). Хустка, павязаная «клінком». Да *клін₁* (гл.).

**Клы́паць** 'марудна ісці, накульгваючы, перавальваючыся з нагі на нагу' (ТСБМ, Нас., Мат. Гом., ТС, Др.-Падб., Нік. Посл., Сцяшк., Бір., Юрч., КЭС, лаг.). Лічыцца балтызмам. Рус. *клыпать* 'тс'. Параўн. літ. *klỹpti* 'кульгаць' (гл. Лаўчутэ, Балтизмы, 54 з літаратурай). Але, як адзначыў Трубачоў (Эт. сл., 10, 81—82), наяўнасць серб.-харв. *клипати(се)* 'цяжка ісці, калываючыся ад стомы', якое можна разглядаць як адпаведнік бел. *клыпаць*, укр. *клипати*, пярэчыць версіі аб балтыйскім паходжанні апошніх слоў і робіць верагоднай гіпотэзу аб прасл. *klypati*, якое адпавядае літ. *klûpoti* 'стаяць на каленях'.



**Клыпе́нь** 'кол для звязвання плытоў' (Мат. Гом.). Да *клынбэль* (гл.).

**Клы́пша** 'чалавек, у якога доўгія нязграбныя ногі' (Нар. сл.), 'жанчына з крывымі нагамі' (З нар. сл.), 'кульгавы чалавек' (Жыв. сл.). Утворана па вядомай балтыйскай словаўтваральнай мадэлі на *-ša* (гл. *клыпаць*).

**Клы́хаць** 'клыпаць, павольна рухацца' (Сцяшк.). Магчыма, кантамінацыя *клішаць* (гл.) і *клыпаць* (гл.).

**Клы́чанка** 'мятая салома' (Мат. Гом., Юрч., Яўс.). Гл. *клычыць₁*.

**Клы́чыцца** 'прарастаць' (Сл. паўн.-зах.). Гл. *клык₁*.

**Клы́чыць₁** 'камячыць, ціскаць, шкуматаць, блытаць' (ТСБМ, Нас., Касп., З нар. сл., Сл. паўн.-зах., Юрч., Рам., Янк. III, Бяльк., Яўс., Мядзв., Сержп. Пр., КЭС, лаг.). Да *klъkъ* 'клок'. Дзеяслоў утворан ад назоўніка з другасным падаўжэннем вакалізму (*klъkъ* > *klъčiti* > *klyčiti*). Гл. *клок*.

**Клы́чыць₂** 'дражніць, наўмысна кагосьці злаваць' (Мат. Маг.). Да *клычыць₁* (гл.).

**Клышаве́нь** 'абразлівая назва чалавека, у якога ногі крывыя ў каленях' (КЭС, лаг.). Да *клышавы* (гл.).

**Клыша́вы** 'касалапы, крываногі' (Сл. паўн.-зах., Нар. лекс., Нар. словатв., КЭС, лаг., Мал., ТС). Укр. *клишавий*, польск. *kłyszawy* 'тс'. Лічыцца балтызмам. Крыніца адпавядае літ. *klìšas* 'крываногі, касалапы', *klìšė* 'нага' (Лаўчутэ, Балтизмы, 36—37). Параўн. *клышэнь* 'нага'. Давесці генетычную суаднесенасць з літоўскімі лексемамі цяжка, але параўн. в.-луж. *klěšiwy* 'клышаногі', *klěcha* 'нязграбная нага', н.-луж. *klěcha* 'тс'. Гл. Слаўскі, 2, 228. Калі сербалужыцкія формы адлюстроўваюць іншую ступень аблаўту, гэта гаворыць у карысць спрадвечнасці польскіх і ўсходнеславянскіх форм, аднак незафіксаванасць адпаведнікаў у паўднёваславянскіх мовах, а таксама ў чэшскай і славацкай выклікае сумненні. Апрача гэтага, пытанне аб магчымасці балтызмаў у сербалужыцкіх мовах не вывучана. Выводзіць *клышавы* і іншыя беларускія,

украінскія і польскія словы з прасл. *klěšči* 'клешчы, клюшні' рызыкоўна. Параўн. *клюшня*$_1$ (гл.).

**Клышано́гі** 'касалапы' (ТСБМ, Нік, Янк. II, Сл. паўн.-зах., Гарэц.). Гл. *клышавы*.

**Клы́шка** 'замочак' (Жд. 3). Магчыма, да *клышня* (гл. *клышні*). Тады *клышка* — маленькая *клышня*.

**Клы́шні** 'клюшні (у рака)' (Сл. паўн.-зах.). Гл. *клюшні*.

**Клы́шы**$_1$ 'штаны' (Яўс.). Кантамінацыя *клышэнь* (гл.) і *клёш*$_1$ (гл.).

**Клы́шы**$_2$ 'крываногі' (Сл. паўн.-зах.). Гл. *клышавы*.

**Клышэ́нь** 'нага' (Жыв. сл.). Да *клышавы* (гл.).

**Клэ** 'бакавыя вялікія зубы ў свіней' (Нар. сл.). Гл. *ікал*.

**Клю́ба**$_1$ 'кіёк для абапірання пры хадзьбе' (ТС). Гл. *клюбы*.

**Клю́ба**$_2$ 'тоўстая трэска' (Сл. паўн.-зах., Мядзв., Нар. лекс.). Гл. *клюбы*.

**Клю́ба**$_3$ 'вітка' (З нар. сл.). Гл. *клюбы*.

**Клю́ба**$_4$ 'прылада для вымярэння таўшчыні цёсу' (Жд. 2). Гл. *клюбы*.

**Клю́бы** 'ціскі' (Нас., Сл. паўн.-зах., Грыг., Гарэц.). Укр. *клюба* 'тс'. З польск. *kluba* ў розных значэннях, у тым ліку ў значэннях, характэрных для беларускіх і ўкраінскіх лексем. Польск. *kluba*<с.-н.-ням. *klobe* 'тс' (Слаўскі, 2, 233—234; ЕСУМ, 2, 467).

**Клю́ва** 'дзюба' (Сл. паўн.-зах.). Гл. *кляваць*.

**Клюва́ць** 'кляваць' (Нас.). Гл. *кляваць*.

**Клю́ка**$_1$ 'качарга, гак' (Касп., Маш., Тарнацкі, Studia). Укр. *клюка*, рус. *клюка*, ст.-рус. *клюка*, серб.-харв. *кљу̏ка*, славен. *kljúka*, польск. *kluka*, чэш. *klika*, в.-луж. *kluka* 'тс'. Лічыцца праславянскім вытворным з *ка*-суфіксацыяй (SP, 1, 89). Першасны славянскі дзеяслоў **kl'uti* не захаваўся, але верагоднасць яго існавання падтрымлівае літ. *kliūti* 'чапляцца'. Іншыя індаеўрапейскія паралелі больш далёкая: лац. *clāvis* 'ключ', ст.-грэч. *κλάίς* 'тс' (гл. Трубачоў, Эт. сл., 10, 56).

**Клю́ка**$_2$ 'нос' (Жыв. сл.). Гл. *клюка*$_1$.

**Клю́каць**$_1$ 'кляваць, калупаць' (Нас.). Укр. *клюкати*, рус. *клюкать* 'тс', макед. *клука*, серб.-харв. *кљу̏цати*, славен. *kljûkati* 'тс'. У заходнеславянскіх мовах гэта значэнне прадстаўлена менш паслядоўна. Рэлікты яго можна ўбачыць у кашуб. *klukac* 'драмаць, кляваць носам', славац. *kl'uckat'* 'тс'. Параўн. *клюкаць*$_3$ (гл.). Магчыма, кантамінацыя яшчэ праславянскага перыяду *kl'uka* і *klьvati*. Менш верагодным з'яўляецца выводзенне гэтых лексем як вытворных з аднаго кораня (параўн. Трубачоў, Эт. сл., 10, 57).

**Клю́каць**$_2$ 'піць хмельныя напіткі' (Нас.). Укр. *клюкати*, рус. *клюкать* 'тс'. У іншых славянскіх мовах гэта значэнне адсутнічае. Да гукапераймальнага *klukati/glukati* 'булькаць, булькатаць'. Параўн. рус. *глюкать*, польск. *glukać* і адпаведныя формы з *k*-пачаткам (Слаўскі, 1, 287). Гл., аднак, *клюнуць* у тым жа значэнні. Відавочна, тут наглядаецца кантамінацыя гукапераймальнага *клюкаць/глюкаць* і *кляваць* (магчыма, піць невялікімі порцыямі).



**Клю́каць**$_3$ 'драмаць, уткнуўшы нос у што-небудзь' (Нас.). Гл. *клюкаць*$_1$.

**Клюка́ч** 'насач' (Жыв. сл.). Гл. *клюка*$_2$.

**Клюкі́** 'прыстасаванне, на якім носяць вёдры' (ДАБМ). Гл. *клюка*$_1$.

**Клю́нуць**$_1$ 'дзеўбануць' (Др.-Падб.). Гл. *кляваць*.

**Клю́нуць**$_2$ 'выпіць гарэлкі, віна, напіцца да ап'янення' (ТСБМ, Мат. Гом.). Гл. *кляваць* і *клюкаць*$_2$.

**Клю́нуць**$_3$ 'схапіць прынаду (пра рыбу)' (ТСБМ). Гл. *кляваць*. *Клюнуць на вудачку* — 'паддацца на хітрасць' (Юрч. Фраз. 2).

**Ключ**$_1$ 'прылада для замыкання і адмыкання замка' (ТСБМ, Шат., ТС, Сл. паўн.-зах., Яруш., Сцяшк., Бяльк., Янк. II, КЭС, лаг.), 'палка для замыкання дзвярэй' (Шушк.). Укр. *ключ*, рус. *ключ*, ст.-рус. *ключь* 'тс', ст.-слав. **ключь**, балг. *ключ*, макед. *клуч*, серб.-харв. *кљу̑ч*, славен. *kljúč* 'тс', польск. *klucz*, чэш. *klíč*, славац. *kl'úč*, в.-луж. *klúč*, н.-луж. *kluc*, палаб. *kl'auc* 'тс'. Да прасл. *kluka*. Суфіксацыя *-jь* фарміруе вытворныя імёны м. р. ад прыметнікаў яшчэ балта-славянскага перыяду (гл. Мартынаў, Праслав. дерив., 22). Таму можна меркаваць аб прыметніку **kluk-jь* 'гакападобны', ад якога семантычным шляхам утварылася *klučь*.

**Ключ**$_2$ 'вага ў студні з жураўлём' (ДАБМ, Янк. II, Тарнацкі, Studia). Гл. *ключ*$_1$.

**Ключ**$_3$ 'крыніца, струмень вады, які б'е з зямлі на дне крыніцы, калодзежа, на беразе ракі, у возеры' (Яшк., Жд. 2, Сл. паўн.-зах., Маш.). Параўн. ст.-рус. *ключь* 'тс'. Наяўнасць паўднёваславянскіх паралелей для гэтага значэння (серб.-харв. *кљу̑ч* 'струмень вады') сведчыць аб яго яшчэ праславянскай старажытнасці. Неабавязкова таго ж паходжання, што і *ключ*$_1$ (гл.), але іншай надзейнай версіі няма.

**Ключ**$_4$ 'чарада птушак (гусей, жураўлёў і пад.), якія ляцяць клінам' (ТСБМ, Сержп., ТС), 'натоўп людзей' (Ян.). Гл. *ключ*$_1$.

**Ключ**$_5$ 'панскае ўладанне, вялікі двор, які падзяляўся на фальваркі або засценкі' (Яшк., Гарб.). Да *ключ*$_4$ (гл.).

**Ключ**$_6$ 'вясёлка' (ДАБМ). Да *клюка*$_1$ (гл.) у адпаведнасці з формай.

**Ключа** 'кіпецень, вар' (ТС). Да *ключ*$_3$.

**Ключам** 'сукупна, разам' (Сл. паўн.-зах.). Да *ключ*$_4$ (гл.).

**Ключвойт** 'прадстаўнік улады' (Шпіл., Сержп. Грам., Грыг.). Гл. *ключ*$_5$ і *войт*.

**Ключка**$_1$ 'кій, палка з загнутым канцом, матыка' (Федар., Жыв. сл., Сл. паўн.-зах., Выг.). Гл. *клюка*$_1$.

**Клю́чка**$_2$ 'вочап' (Сл. паўн.-зах., Нар. лекс., Сцяшк., Сцяц.). Да *ключка*$_1$ (гл.).

**Клю́чка**$_3$ 'крук, за які чапляюць пастронкі да плуга' (Жыв. сл., Тарнацкі, Studia). Гл. *ключка*$_2$.

**Клю́чка**$_4$ 'дужка, якую прымацоўваюць да столі і вешаюць на ёй калыску' (Булг.). Гл. *ключка*$_2$.

**Клю́чка**$_5$ 'кассё, касільна' (Тарнацкі, Studia). Гл. *ключка*$_1$.

**Клю́чка**$_6$ 'драўляныя крукі ў ткацкім стане, пры дапамозе якіх прымацоўваюцца ніты'. Гл. *ключка*$_3$.

**Клю́чка**$_7$ 'прылада для віцця вяровак' (З нар. сл.). Гл. *ключка*$_6$.

**Клю́чка**$_8$ 'прылада, якой размешвалі страву' (Сл. паўн.-зах.). Гл. *ключка*$_1$.

**Клю́чка**$_9$ 'пожаг' (Сл. паўн.-зах.). Гл. *ключка*$_2$.

**Клю́чка**$_{10}$ 'бусак' (Сл. паўн.-зах.). Гл. *ключка*$_2$.

**Ключо́к** 'кулік' (Мат. Гом.). Магчыма, да *ключ*$_4$ (гл.). Параўн. польск. *kulig, kulik* 'кулік' і 'чарада саней падчас масленіцы'. Не выключана, аднак, што пад уплывам *ключ*$_4$< *ключок*<***клічок* ад *клікаць* (гл.) і суфікса *-ок*, характэрнага для Nomina agentis (*хадок* ад *хадзіць*) (Сцяцко, Афікс. наз., 59—60).

**Ключо́м** 'разам, сумесна' (Ян.). Гл. *ключам*.

**Ключы́** 'злучаныя парамі накрыж кароткія жэрдкі, якімі прыціскаюць салому ці кастрыцу на вільчаку, кроквы' (Сл. паўн.-зах., Нар. сл., КЭС, лаг., П. С., Тарнацкі, Studia, Маш., Бломкв.). Гл. *ключ*$_2$.

**Клю́чыкі** 'першацвет, Primula veris' (Кіс., Сцяшк.). Да *клюка*$_1$. Параўн. сінанімічнае *грабелькі*. Аднак форма ліста і кветкі быццам бы не адпавядае гэтай назве.

**Клю́шні** 'від калёс' (Мат. Гом.). Пеяратыўнае, да *клюшня*$_1$ (гл.).

**Клю́шня**$_1$ 'канечная частка ножкі ракападобных' (ТСБМ, Касп., Сл. паўн.-зах., Яруш.). Мабыць, вынік кантамінацыі *клешня* (гл.) і *клюка* (гл.), *ключка* (гл.). Дублет *клешня/клюшня* адзначае Сл. паўн.-зах., 475, 486. Магчыма, таксама ўплыў літоўскіх форм, сярод іх у першую чаргу літ. *klišes* 'клюшні'. Аддзяліць бел. *клешня/клюшня* ад літ. *klišes* немагчыма (семантычная тоеснасць і фармальная блізкасць). Спробы рэканструяваць балта-славянскія формы *kliša/kleša* беспадстаўныя (Слаўскі, 2, 228), паколькі рэальна існуюць толькі ўсходнеславянскія формы, арэальна арыентаваныя на балтыйскую тэрыторыю. У значэнні 'клюшня рака' або 'нага, сцягно' рускія формы зафіксаваны толькі ў Смаленскім, Бранскім арэалах (не лічачы тэрыторыі новага засялення). Таксама нельга прызнаць верагоднай гіпотэзу аб паходжанні *клешня* ад *klěščьna* (гл. *клешчы*) (Бернекер, 1, 517; Фасмер, 2, 249; ЕСУМ 2, 463; Трубачоў, Эт. сл., 10, 23). Паколькі частка гэтых форм мае значэнне 'клешчы', не выключана кантамінацыя *клешня* і *клешчы* (гл.).



**Клю́шня**$_2$ 'тазасцегнавы сустаў' (Сл. паўн.-зах.). Верагодны балтызм. Параўн. літ. *kùlšnis* 'шчыкалатка' (там жа, 486). Больш надзейная крыніца — літ. *klìšė* 'нага' або іншая балтыйская, блізкая да яе. Параўн. таксама *клюшня*$_1$.

**Клю́шня**$_3$ 'палкі, да якіх прымацаваны крыллі сеці' (Мат. АС). Гл. *клюшня*$_1$.

**Кляба́ня** 'прыкасцёльныя будынкі' (Сцяшк.). Гл. *клебанія*.

**Клява́ць** 'біць, удараць дзюбай, дзяўбаць', 'хапаць прынаду (пра рыбу)' (ТСБМ, Касп., Сл. паўн.-зах., Яруш., Сержп. Пр.), *кляваць носам* (Юрч. Фраз. 2). Укр. *клювати*, рус. *клевать*, ст.-рус. *кльвати* 'тс', балг. *кълва*, макед. *колве*, серб.-харв. *кљу̏вати*, славен. *kljuváti* 'тс', польск. *kluć, klwać*, чэш. *klvati*, славац. *kl'uvat', kl'ut'*, н.-луж. *kluwaś, kluś* 'тс'. Гэтыя формы ўзыходзяць да прасл. *klьvati* 'кляваць', якое з'яўляецца праславянскай інавацыяй. Бліжэйшая паралель: літ. *kliū́ti* 'чапляць' (Трубачоў, Эт. сл., 10, 83). Іншыя індаеўрапейскія паралелі неверагодныя. Параўн. Ваян, RES, 19, 105; Пізані, Paideia, 9, 325; Махэк$_2$, 260 і інш.

**Кляве́ка** 'дубанос' (Мат. Гом., 236). Гукапераймальнае. Ад *кляве-кляве* ўтварыўся дзеяслоў **клявець*. Словаўтваральная мадэль з суфіксам *-ека (умець — умека)* (Сцяцко, Афікс. наз., 37).

**Кляве́ц** 'малаток для насякання млынавых камянёў, для кляпання кос' (ТСБМ, Янк. І, Яруш., Мядзв., Гарэц., Нік. Очерки, ЭШ, рук., Бяльк., Касп., Сл. паўн.-зах.). Укр. *клевець*, рус. *клевец*, ст.-рус. *клевець* 'тс', польск. *klewiec* 'тс'. Польская форма, відаць, са старажытнарускай. Такім чынам, можна гаварыць толькі аб усходнеславянскай інавацыі. Фармальна здаецца ўтварэннем з дапамогай вельмі прадуктыўнага суфікса *-ьсь* ад *klьvati*. Аднак, паколькі суфікс *-ьсь* можа ўтвараць назоўнікі ад прыметнікаў (*slěpьсь*<*slěpъ, mъrtvьсь*<

*mъrtvъ*), верагоднай з'яўляецца і іншая этымалогія: **kъlevъ+-ьсь>kъlevьсь>klevьсь*. У сваю чаргу **kъlevъ* прыметнік, утвораны рэгулярна (суфікс *-evъ*) ад *kъl* 'зуб'. Цікава, што рус. *клевец* мае значэнне 'зуб у баране, граблях'. Адносна ўтварэнняў на *-ьсь* параўн. SP, 1, 99—100; Мартынаў, Прасл. дерив., 29.

**Кляве́шчыца** 'булдырнік' (Касп.). Параўн. *клевяшчыца* (гл.).

**Кляву́згаць** 'плявузгаць' (Жд. 2). Гл. *плявузгаць*.

**Клядбо́ны** 'прakляцці' (Касп., Мядзв.). Да *клядзьба*. Утворана па аналогіі з *праклёны* (гл.).

**Кля́дзьба** 'праклёны' (Ян.). Да *клясці* (гл.). Утворана пры дапамозе яшчэ праславянскага суфікса для Nomina acti *-ьba* (SP, 1, 61—62): *klęt -ьba>кляцьба>клядзьба*.

**Кляёк** 'праполіс' (Сл. паўн.-зах.). Гл. *клёк$_2$*.

**Кляёнка** 'цырата, якой накрываюць стол' (ТСБМ, Сцяшк.). Укр. *клейонка* 'тс'. Запазычанне з рус. *клеёнка* 'тс' (ад *клеить*) (ЕСУМ, 2, 457; Шанскі, 2, 8, 149).

**Кля́зьба** 'праклянне' (Янк. I). Параўн. *клядзьба* (гл.). Да *клясці* (гл.) (Там жа, 98).

**Кляймо́** 'пячатка, знак, які ставіцца на вырабах' (ТСБМ, Гарэц., Сцяшк.). Трэба пагадзіцца з ЕСУМ, 2, 457, дзе прымаецца думка аб паходжанні ўкр. *клеймо, клейно*, рус. *клеймо, клейно* 'тс', польск. *kleimo, kleino*, чэш. *klejmo* 'знак, прыкмета', з с.-н.-ням. *kleinôe* 'каштоўнасць, радавы герб' (Торнквіст, 179; Гардзінер, ZfSlPh, 28, 150; Слаўскі, 2, 201). Апошні сцвярджае запазычанне польск. *kleimo, kleino* са ст.-бел. *клеймо, клейно* (з 1513 г.) (Гл. Булыка, Запазыч., 155).

**Кляймо́ўка** 'кляймо' (Мат. Гом.). Гл. *кляймо*.

**Кляйно́** 'кляймо' (Нас., Яруш.). Гл. *кляймо*.

**Кляйно́ды** 'атрыбуты ўлады' (Гарэц.). Гл. *клейноды*.

**Кля́йсцер**: *«Не штукар масцер, калі лепіцца кляйсцер»* (Янк. БП). Укр. *кляйстер*. Праз польск. *klajster* з ням. *Kleister* (ЕСУМ, 2, 457).

**Кляк** 'загнутая галіна ці корань' (ТС), 'сук' (Сл. паўн.-зах.). Укр. *кляк* 'залом', славен. *kléka* 'сук, крывое дрэва', польск. *klęk*, чэш. *klek* 'тс'. Магчыма, яшчэ прасл. *klękъ*, якое да *klękati* (Трубачоў, Эт. сл., 10, 31; ЕСУМ, 2, 469). Гл. *клякаць*.

**Кляката́ць$_1$** 'клакатаць, булькаць' (Сл. паўн.-зах., Сцяшк., Яруш., Шат.). Укр. *клекотати*, рус. *клектать* 'тс', польск. *klektać, klekotać* 'стукаць, боўтаць', чэш. *klektati* 'тс', славац. *klektat'* 'стукаць, грукаць'. Дзеяслоў толькі ў мовах усходнеславянскіх і заходнеславянскіх. Утварэнне на аснове назоўніка з *-otъ*-суфіксацыяй. Параўн. *клёкаць* (гл.).



**Кляката́ць$_2$** 'клекатаць (пра бусла)' (Сл. паўн.-зах.). Гл. *клякатаць$_1$*.

**Клякату́н** 'бусел' (Яруш.). Ад *клякатаць$_2$* (гл.).

**Кля́каць** 'падаць на калені' (Нас.). Укр. *клякати* 'тс'. Рускія паралелі поўнасцю адсутнічаюць, што дазваляе меркаваць аб польскім уплыве (параўн. польск. *klękać* 'тс') з субстытуцыяй *ę>'a* паводле вядомай мадэлі. Іншыя славянскія паралелі старажытнага паходжання.

**Кля́кнуць** 'згінуць, страціцца' (Сл. паўн.-зах.). Укр. *клякнути* 'замерзнуць, задубець, засохнуць', рус. *клякнуть* 'тс', *клёкнуть* 'змарнець'. Параўн. літ. *klèkti* 'гусцець, замярзаць'. Фрэнкель (268) параўноўвае гэта літоўскае слова з рус. *клёк* (гл. *клёк$_2$*). Суадносіны ўсходнеславянскіх і літоўскіх форм няясныя.

**Кляко́тка** 'званок, які чапляюць жывёле на шыю' (Нар. лекс.). Параўн. *клякатаць$_2$* (гл.). Гукапераймальнае.

**Кля́кса** 'чарнільная пляма' (ТСБМ). Запазычанне праз рус. *клякса*.

**Кля́ксіна** 'клякса' (Нар. словатв.). Гл. *клякса*.

**Кляку́шка** 'клякса' (Сл. паўн.-зах.). Гл. *клякса, кляксіна*. У запазычаным *клякса -са* ўспрымаецца як суфікс (параўн. *крыкса*) (Сцяцко, Афікс. наз., 64—65). Таму не **кляксушка*.

**Кля́ма** 'дрот, сагнуты ў выглядзе літары П для замацавання расколатай драўлянай пасудзіны' (Бір.). Праз ст.-польск. *klama* 'клешчы, ціскі' з с.-в.-ням. *klam* 'тс' (Слаўскі, 2, 185).

**Кля́мар$_1$** 'драўляныя пласціны, якія ставяцца з абодвух бакоў сцяны і сцягваюцца жалезнымі прутамі для яе выраўноўвання і мацавання' (ТСБМ, Нас., Сл. паўн.-зах.). Укр. *клямра* 'скаба для драўляных дэталей', рус. *клямра* 'тс'. Запазычанне праз польск. *klamra* з с.-в.-ням. *klamer* 'тс' (Слаўскі, 2, 185; ЕСУМ, 2, 469).

**Кля́мар$_2$** 'ціскі' (Нас., Шат., Мат. Гом., Сцяшк.). Гл. *клямар$_1$*.

**Кля́мар$_3$** 'скаба' (Касп., Нар. сл., Сл. паўн.-зах.). Гл. *клямар$_1$*.

**Кля́мар$_4$** 'суцэльная пражка, якая зашпільваецца на кручок' (Мат. АС). Гл. *клямар$_3$*.

**Кля́мза** 'пляма' (Сл. паўн.-зах.). Кантамінацыя *клякса* (гл.) і *крэмзаць* (гл.).

**Кля́мка$_1$** 'прыстасаванне, з дапамогай якога адчыняюць і зачыняюць дзверы' (ТСБМ, Нас., Касп., ТС, Сл. паўн.-зах., КЭС, лаг., Яруш., Гарэц., Сцяшк., Грыг., Бір., Мядзв., Мал., Шушк., Бяльк.). Укр. *клямка*, рус. *клямка* 'тс'. Гл. *кляма*.

**Кля́мка$_2$** 'безнадзейная справа, гібель, канец, крышка' (Бяльк., Нік., Янк., БФ, Гарэц.). Параўн. *клямка$_1$* (гл.).

**Кля́мля** 'спражка' (Мат. Гом.). Гл. *кляма* і *клямар₄*.

**Кля́мша** 'кульгавы, крываногі чалавек' (Сл. паўн.-зах.). Балтызм. Параўн. літ. *klemšinti* 'цяжка хадзіць' (там жа, 487). Калі лічыць, што гэта лексема ўзнікла на аснове словаўтваральнай мадэлі на *-ša* (параўн. літ. *rìmša*<*rìmti*), то хутчэй *клямша* да літ. *klimbúoti* 'кульгаць' (гл. Фрэнкель, 271).

**Клянёк** 'ялец, Leuciscus leuciscus L.' (Жук.). Гл. *клень*.

**Кляно́вік** 'кляновы сок' (ТСБМ, Нік. Очерки, Янк. III, Некр.). Гл. *клён*.

**Кляно́к** 'хатняя кветка': *«лісця ў клянкоў точна кляновыя»* (Мат. Гом., 236). Да *клён* (гл.).

**Клянчу́к** 'малая рыба, падобная на язя' (Жыв. сл.). Гл. *клянёк*.

**Кляп** 'кусок дрэва, скамечанаяануча і пад., якія засоўваюцца ў рот жывёле ці чалавеку, каб не даць магчымасці кусацца або крычаць' (ТСБМ), 'род драўлянага цвіка' (Нас.). Укр. *кляп*, рус. *кляп* 'тс'. Этымалогія ненадзейная. Супастаўленне з прасл. *klękati*, Аснова, якой звязваецца з *kel-*, тыпова каранёвая (параўн. Трубачоў, Эт. сл., 10, 34). Трэба звярнуць увагу на тое, што распаўсюджанне гэтай лексемы абмяжоўваецца ўсходнеславянскім арэалам, таму рэканструкцыя яе праславянскай формы малавераго́дная.

**Кля́па₁** 'борт (у адзенні)' (Сл. паўн.-зах., Нар. сл., Др.-Падб., Сцяшк., Сцяц.). Праз польск. *klapa* з ням. *Klapp* 'тс' (Сл. паўн.-зах., 488).

**Кля́па₂** 'крышка' (Яруш.). Да папярэдняга слова.

**Кляпа́ла** 'драўляны балабан на шыі ў скаціны' (ТС), 'благі звон', 'цурбан з ручкамі' (Гарб.). Параўн. рус. *клепало*, укр. *клепало* 'тс', балг. *клепало*, серб.-харв. *клѐпало*, славен. *klepálo* 'тс', польск. *klepadlo*, чэш. *klepadlo*, славац. *klepadlo*, в.-луж. *klepadlo* 'тс'. Прасл. *klepadlo* да *klepati* (Трубачоў, Эт. сл., 10, 7). Гл. *кляпаць₃*.

**Кляпа́нік** 'пірог з начынкай'. Параўн. *кляпач* (гл.). Да *кляпаць₃* (гл.).

**Кляпано́сы** 'гарбаносы' (Бяльк.). Да *кляпаць₁*.

**Кляпа́ць₁** 'вастрыць лязо касы ўдарамі малатка' (ТСБМ, Мат. Гом., Сл. паўн.-зах., Грыг., Яруш., Выг.). Укр. *клепати*, рус. *клепать* 'тс', балг. *клепя*, макед. *клепа*, серб.-харв. *кље̏пати*, славен. *klépati* 'тс', польск. *klępać*, чэш. *klepati*, славац. *klepat'*, в.-луж. *klepać* 'тс'. Значэнне 'вастрыць лязо касы ўдарамі малатка', зыходзячы з агульнага яго распаўсюджання, праславянскае і з'яўляецца праславянскай інавацыяй. Корань дзеяслова гукапераймальны.



**Кляпа́ць₂** 'паклёпнічаць' (Нас., Мат. Гом., Сцяшк.). Гэта значэнне яшчэ праславянскае, паралельнае з *кляпаць₁* (гл.).

**Кляпа́ць₃** 'ляпаць, ударадь' (Сл. паўн.-зах., ТС, Др.-Падб.), 'плёскаць, падаць на ваду' (Нар. словатв.). Гукапераймальнае. Кантамінацыя з *ляпаць*.

**Кляпа́ч** 'пра няўдала спечанае з мучнога цеста' (Вешт.). Да *кляпаць₃*. Параўн. словазлучэнне *ляпнуць цеста*.

**Кляпе́нь** 'палачка для віцця аборак, вяровак' (Мат. Гом., З нар. сл.). Рус. *клепень* 'клін, калок'. Да *кляп* (гл.).

**Кляпе́ц₁** 'клявец' (Мат. Гом.). *Клявец* (гл.) выкарыстоўваўся для кляпання касы, таму па аналогіі яго маглі назваць таксама *кляпец*.

**Кляпе́ц₂** 'рыба Abramis sapa' (Дэмб. II). Укр. *клепець*, рус. *клепец* 'тс', польск. *klepiec* 'тс', серб.-харв. *klebica* 'тс'. Магчыма, да *кляпаць₃*, маючы на ўвазе плоскую форму цела гэтай рыбы (ЕСУМ, 2, 459). Параўн. з пункту погляду семантыкі Каламіец, Рыбы, 11—12. Але больш верагодным здаецца паходжанне ад *клепаць₂*, маючы на ўвазе выпуклыя вочы рыбы, якая мае рускую назву *глазач* (Дэмб. 2, 551).

**Кляпе́шня** 'клюшня' (Сл. паўн.-зах.). Кантамінацыя *кляпаць₁* (гл.) і *клюшня* (гл.).

**Кляпо́к** 'клявец' (Мат. Гом.). Гл. *кляпец₁*.

**Кляпо́н** 'паклёпнік' (Сл. паўн.-зах.). Гл. *кляпаць₂*.

**Кляпы́ш** 'двайная вяроўка' (Нік. Очерки). Гл. *кляпень*.

**Кляраве́цкая ху́стка** 'квяцістая хустка' (Сл. паўн.-зах.). Няясна.

**Кля́са** 'клас' (Шат., Сл. паўн.-зах.). З польск. *klasa* 'тс' (там жа, 488). Гл. *клас*.

**Кля́скаць** 'ударадь далоняй аб далонь, апладзіраваць' (Нас., Шпіл., Нік. Няч.), 'рабіць разнастайныя гукі пры дапамозе трашчоткі лінейкай, клямкай' (Нас.). Укр. *класкати*, рус. *клескать* 'тс', польск. *klaskać, kleskać*, н.-луж. *klaskaś* 'тс'. Параўн. чэш. *tleskati*, славац. *tlieskat'* 'тс'. Гукапераймальнае. Няма падстаў для праславянскай рэканструкцыі. Слова арэальна абмежаванае.

**Кляску́н** 'гарэза, які безупынна кляскае' (Нас.), 'парода лесуна' (Кіркор). Гл. *кляскаць*. Насовіч (239) аспрэчвае наяўнасць міфалагічнага значэння, якое прыводзіць Кіркор. На спрэчнасць гэтай дэфініцыі звяртае ўвагу таксама Лабко (Нар. словатв., 296).

**Кля́сці** 'праклінаць' (ТСБМ, Шат., ТС, Сл. паўн.-зах., Янк. II, Яруш., Гарэц., Сцяшк., Бяльк.). Укр. *клясти*, рус. *клясть*, ст.-рус. *клѧти* 'тс', ст.-слав. **клѧти**, балг. *кълка*, макед. *колне*, серб.-харв. *кље́ти*, славен. *kléti* 'тс', польск. *kląć*, чэш. *klíti*, славац. *kliat'*, в.-луж. *kleć*, н.-луж. *klěś* 'тс'. Вядомая эты-

малогія (Брукнер, 232) звязвае *klęti* з *kloniti* (клятва давалася на каленях) (Трубачоў, Эт. сл., 10, 38).

**Кля́тба** 'прысяга, праклёны' (Нас., Сл. паўн.-зах., Нар. сл., Жд. 2). Гл. *клясці*.

**Клятбёны** 'праклёны' (Юрч.). Гл. *кляцьбёны, клядбоны*.

**Кляхава́ць** 'кіпець' (Жыв. сл.). Гл. *кляхатаць, кляхацець*. Гукапераймальнае. Параўн. *кляскаць* (гл.).

**Кляхата́ць** 'кіпець' (Жыв. сл.). Гл. *кляхаваць, кляхацець*.

**Кляха́ты** 'з тоўстымі шырокімі бёдрамі' (Сл. паўн.-зах.). Магчыма, да *klęsati*. Параўн. балг. *клесам* 'рухаць ніжняй часткай тулава'. Але незафіксаванасць лексем у іншых дыялектах і фанетычныя цяжкасці прыводзяць да праблематычнасці гэтага супастаўлення. Параўн. Трубачоў, Эт. сл., 10, 36—37.

**Кляхаце́ць** 'кіпець' (Жыв. сл.). Гл. *кляхаваць, кляхатаць*.

**Кляцьба́** 'прысяга, праклёны' (Др.-Падб., Гарэц., Яруш.). Гл. *клятба*.

**Кляцьбёны** 'праклёны' (Нік. Няч.). Гл. *клятбёны*.

**Кля́ча**$_1$ 'худы заезджаны конь' (ТСБМ, Жыв. сл.), таксама пра чалавека (Жыв. сл.). Укр. *кляча*, рус. *кляча*, ст.-рус. *клѧча* 'тс'. Усходнеславянская інавацыя. Да *klęčati* 'падаць на калені' (гл. *клякаць*). Пра назву каня гл. Адзінцоў, 140.

**Кля́ча**$_2$ 'бакавы брусок у рыбалоўнай сетцы, да якога яна прымацоўваецца зверху і знізу' (ТС, Нар. словатв.). Параўн. укр. *кляч* 'тс'. Словаўтваральна да **klękja*, якое ад *klękati* 'згінацца' (ЕСУМ, 2, 471).

**Кля́чы** 'вяроўкі, за якія цягнуць сець' (Маш.). Гл. *кляча*$_2$.

**Кляшнікі** 'тс' (Маш.). Гл. *кляча*$_2$.

**Кляшны́** 'клёшны' (Сл. паўн.-зах.). Гл. *клёш*$_1$.

**Кляшня́**$_1$ 'калашына' (Мат. Гом.). Да *клешня*$_2$ (гл.).

**Кляшня**$_2$ 'частка халоднай пабудовы' (Шат.), 'вуглавая частка гумна, закутак для захавання збожжа' (Сл. паўн.-зах.). Да *кляшня*$_1$ (гл.).

**Кля́штар** 'каталіцкі манастыр'. З польск. *klasztor*, якое з ням. *Kloster* (Шат., Нас., Гарэц., Яруш.), 'касцёл пры манастыры' (Сцяшк.).

**Кляшчо́тка**$_1$ 'расшчэпленая палка для сціскання чаго-небудзь' (Нас.), 'ільнамялка' (Мат. Гом.). Да *клешчыць* (гл.). Утварэнне на *-отка* (Сцяцко, Афікс. наз., 62).

**Кляшчо́тка**$_2$ 'трашчотка' (Нас., Гарэц., Др.-Падб.). Кантамінацыя папярэдняга з *трашчотка*.

**Кляшчо́тка**$_3$ 'ляшчоткі' (ТСБМ, Бяльк.). Гл. *кляшчотка*$_1$ і *ляшчоткі*.

**Кляшчо́ткі** 'драўляныя лапаткі ў лазні, якімі бяруць гарачае каменне' (Яўс., Бяльк.). Гл. *кляшчотка*$_1$.



**Кляшчы́**$_1$ 'абцугі' (Сцяшк., Мат. Маг., Сл. паўн.-зах.). Гл. *клешчы*$_1$.

**Кляшчы́**$_2$ 'клюшні' (Сл. паўн.-зах.). Гл. *клюшня*$_1$.

**Кляя́** 'ўклея' (З нар. сл.). Гл. *уклея*.

**Кляя́нка** 'цырата' (Сл. паўн.-зах.). Гл. *кляёнка*.

**Кмен** 'травяністая расліна сямейства парасонавых', 'пахучае насенне гэтай расліны, Carum Carvi L.' (ТСБМ, Кіс., Сцяшк.), 'кроп' (З нар. сл.). Гл. *кмін*.

**Кметлі́вы** 'дагадлівы, праніклівы' (Др.-Падб., Гарэц.). Гл. *кметкі*.

**Кме́ткі**$_1$ 'кемлівы, цямлівы' (Ян.). Гл. *кметлівы, кмець* і *кеміць*.

**Кме́ткі**$_2$ 'асаблівы, прыкметлівы' (Сцяшк. Сл.). Да *кмеціць* (гл.).

**Кме́ціць** 'заўважыць, разумець, цяміць' (Др.-Падб., Гарэц.). Гл. *кеміць*.

**Кмець** 'селянін без зямлі, які мае ўласную хату з садзікам' (Федар.), *«подлыя кмеці»* ў Багушэвіча (Дасл. (Гродна), 1967, 39), 'воін у старажытнай Русі' (ТСБМ). Ст.-бел. *кметь* 'селянін' < польск. *kmieć* (Булыка, Запазыч., 157). Укр. *кметь, кміть* 'селянін, просты чалавек', рус. *кметь* 'тс', ст.-рус. *къметь* 'воін', балг. *кмет* 'войт, гарадскі галава', серб.-харв. *кмѐт* 'селянін', славен. *kmèt* 'тс', польск. *kmieć* 'селянін, багаты гаспадар', чэш. *kmet* 'селянін, дзед', славац. *kmeť* 'тс', в.-луж. *kmjeć* 'першы селянін, галава'. Прасл. *kъmetь* традыцыйна выводзіцца з лац. *comes, comitis* 'спадарожнік, таварыш' (параўн. нар.-лац. *cometia* 'акруга') (Фасмер, 2, 261; Слаўскі, 2, 279). Больш прывабнай здаецца іншая версія (хоць яна лічыцца менш пераканаўчай: параўн. ЕСУМ, 2, 472), якая асноўваецца на супастаўленні са ст.-грэч. κωμήτης 'селянін', κώμη 'сяло, гарадскі раён' (Біркенмайер, JP, 21, 174—176). Грэчаскае значэнне цалкам супадае са славянскім, чаго нельга сказаць аб лацінскім. Лац. *comes, comitis* фанетычна таксама не цалкам адпавядае прасл. *kъmetь*. Хутчэй за ўсё трэба меркаваць аб старажытным лексічным пранікненні з адной з палеабалканскіх моў. Пакуль што нельга вызначыць, з якой.

**Кмін** 'кмен' (ТСБМ, Нас., Бяльк., Жыв. сл., Сцяшк., Сержп. Грам., Дэмб. 1, Янк. III, Юрч., Мядзв.). Гл. *кмен*. Праз польск. *kmin* з с.-в.-ням. *kumin* (Слаўскі, 2, 281; Булыка, Запазыч., 157).

**Кна́йпа** 'шынок' (Сл. паўн.-зах.). Параўн. літ. *knáipė*, ням. *Kneipe* 'тс' (там жа, 490). Праз польск. *knajpa* 'тс' з ням. *Kneipe* (Слаўскі, 2, 284).

**Кнак** 'нясцёртыя новыя (вялікія) грошы' (Янк. I). Няясна.

**Кна́тка** 'цэўка' (Жд. 3). Магчыма, з польск. *gnatka* 'косць'. Параўн. польск. *gnat* 'косць'.

**Кна́цаць** 'бегаць за дзяўчатамі' (Мат. Гом.). Да гукапераймальнага *кнацаць* 'удараць'. Параўн. *прыўдараць* 'залятацца'.

**Кне́біль** 'маленькая завостраная палачка, якая служыць для вязкі снапоў' (Шатал.). Параўн. *кнібель* (гл.) і *кнэбэль* (гл.). Укр. *кнебель* запазычана праз польск. *knebel* 'тс' з ням. *Knebel* 'тс' (Слаўскі, 2, 284—285).

**Кне́гавіца** 'птушка кнігаўка' (Сцяшк.). Гл. *кнігаўка*, *кніга*$_2$.

**Кнегі́нька** памянш. да *кнегіня* (гл.) (Мат. Гом.).

**Кнегі́ня** дзяўчына (дарослая)' (Мат. Гом.). Гл. *княгіня*$_2$.

**Кне́жыць** 'плакаць перад шлюбам (пра нявесту)' (Кліх). Гл. *княгіня*$_2$.

**Кнежо́к** памянш. да *княж* (гл.) (Мат. Гом.).

**Кне́ўка** 'птушка кнігаўка' (Сцяшк.). Гл. *кнігаўка*, *кніга*$_2$.

**Кне́хціцца** 'неспакойна ляжаць, варушыцца, варочацца, перакочвацца' (КЭС, лаг.), 'капрызнічаць, плакаць' (Нар. сл.). Няясна.

**Кне́я** 'лясны гушчар, нетры, пушча' (Яшк.). Рус. *кнея*, польск. *knieja* 'тс'. Трэба адзначыць, што ў іншых славянскіх мовах захавалася толькі ў тапаніміцы (ст.-чэш. *Kniejě*, серб.-харв. *Kneja*, славен. *Kneja*). Традыцыйна лічыцца праславянскім словам: *kъněja* (Слаўскі, 2, 287) да *kъnъ*<**kъmn-* 'пень'. Але, па-першае, словаўтварэнне *kъněja* (<*kъn-ěja*) вельмі ненадзейнае, па-другое, само слова *kъnь* трэба выводзіць з *kъmn-*; па-трэцяе, семантыка лексемы *кнея* далёкая ад той, якую бачаць у прасл. *kъnъ*. Таму пытанне аб крыніцы рэальна існуючых беларускіх, рускіх і польскіх слоў патрабуе дадатковых фактаў і аргументаў.

**Кні́бацца** 'рухацца, варушыцца' (Сл. паўн.-зах.). Балтызм. Параўн. літ. *knibinti* 'валтузіцца, кешкацца'. Параўн. *кнібіць* (гл.).

**Кні́бель** 'невялікая палачка, завостраная з аднаго канца, якая ўжывалася для вязання снапоў' (Нар. лекс.). Параўн. *кнебіль* (гл.).

**Кні́біць** 'марочыць, дакучаць, назаляць' (Нас.). Ці не звязана з укр. *гнобити*, *гонобити* 'прыгнятаць, пісnуць'. Гл. ЕСУМ, 1, 539. Лаўчутэ (Балтизмы, 68) лічыць *кнібіць* балтызмам. Яна спасылаецца на Вяржбоўскага, які звязваў беларускае слова з літ. *knýbčioti* 'шчыпаць, церабіць', а таксама літ. *knibinti*, *knibinėti* 'валтузіцца, кешкацца', лат. *kniêbt*, *knipêt* 'шчыпаць'.

**Кні́га**$_1$ 'друкаванае або рукапіснае выданне ў форме



зброшураваных і пераплеценых разам аркушаў з тэкстам' (ТСБМ, Бяльк., Яруш.). Укр. *книга*, рус. *книга*, ст.-рус. *кънига* 'тс', ст.-слав. **кънига**, балг. *книга*, серб.-харв. *књи̏га*, славен. *knjíga* 'тс', польск. *księga*, чэш. *kniha*, славац. *kniha*, в.-луж. *kniha* 'тс'. Запазычанне з усходніх моў не выклікае сумненняў. У якасці крыніцы — акад. *kunikku* 'пячатка', праз арм. *knik* 'тс'. Гэты шлях запазычання культурных слоў адзначаецца і для іншай праславянскай лексікі (*dorga* 'гандлёвы шлях', *mědь* 'назва металу'). Іншая версія: цюркская крыніца (ст.-цюрк. *küinig*<кіт. *küen* 'світак'). (Агляд версій аб запазычаннях гл. Фасмер, 2, 263; Слаўскі, 3, 272—273.) Разам з тым ужо даўно высоўваліся гіпотэзы аб узнікненні слова *кніга* на славянскай моўнай глебе з тымі або іншымі асаблівасцямі, яны зводзіліся да прасл. *kъniga*<*kъnъ* 'пень'. Параўн. з пункту погляду семантыкі лац. *codex* 'пень'>*codex* 'рукапіс, кніга'. Іншая інавацыя ад таго ж кораня — прасл. *kъněja* (гл. *кнея*) (агляд гэтых версій там жа, параўн. у апошнія гады Атрэмбскі WS, 12, 75—76; Шустэр-Шэўц, ZfSl, 16, 50—51). Асноўная цяжкасць тлумачэння *kъniga*<*kъn-iga* — адсутнасць надзейных прыкладаў словаўтварэння з *-iga*. Прасл. *veriga*, якое прыводзяць Атрэмбскі і Шустэр-Шэўц, утворана ад дзеяслова *verti* і да таго ж узыходзіць да **veryga* (SP, 1, 66). Іншыя прыклады або зусім не маюць этымалогіі, або таксама ўзыходзяць да ўтварэнняў з *-yga*.

**Кні́га**$_2$ 'кнігаўка' (Мат. Гом., Сл. паўн.-зах., Нар. лекс., Нар. словатв., Серб., Маш., Янк. III, Дразд.). Параўн. *кнігаўка* (гл.). Укр. *книга*, рус. *книга*, чэш. *kniha* 'тс'. Распаўсюджанне гэтай лексемы незразумелае. Рускія формы *книга* і *книгалка* толькі на захадзе і поўдні. Таму асноўнай тэрыторыяй распаўсюджання трэба лічыць беларуска-украінскі арэал. Адсутнасць у польскай мове пры наяўнасці ў чэшскай трэба ўдакладніць. Лічыцца гукапераймальным ад *кні-кні* (Махэк$_2$, 263; ЕСУМ, 2, 473). Магчыма, аднак, сувязь з *каня*, *канька* (гл.) як назвамі *чайкі*. Ці не *кніга*<*канька* (>**кника*>>*книга*) або <*канюка* (**кнюка*>**кніка*).

**Кніга́р** 'прадавец кніг' (Др.-Падб.). Гл. *кніга*$_1$.

**Кніга́рня** 'кніжная лаўка' (ТСБМ, Бяльк., Гарэц.). Гл. *кніга*$_1$.

**Кніга́ўка** 'кнігаўка, птушка сямейства сяўцоў' (ТСБМ, Сл. паўн.-зах., Шат.). Гл. *кніга*$_2$.

**Кні́гі** 'аддзел страўніка буйной рагатай жывёлы' (З нар. сл., Нар. сл., Нар. словатв.), 'страўнік і кішкі жывёлы, прыгатаваныя для ежы' (Шн., Нік. Очерки, Малчанава, Мат. культ.). Укр. *книги*, рус. *книга* 'тс', балг. *книга*, серб.-харв. *књи̏ге*, славен. *knjiga*, польск. *księgi*, чэш. *kniha*, славац.

*kniha*, в.-луж. *knihi* 'тс'. Гэтыя формы дазваляюць рэканструяваць прасл. *kъnigy* (формы мн. л.), што сведчыць аб старажытнасці семантычнага пераносу з *kъniga*, *kъnigy* ў значэнні 'кніга' (гл. Слаўскі, 3, 274; ЕСУМ, 2, 473).

**Кнігікуўка** 'кнігаўка' (Нар. сл.). Утворана ад дзеяслова *кнігікаць (кніга + -ікаць)* (SP, 1, 50).

**Кні́жка**₁ 'маленькая кніга' (ТСБМ, Шат., Сл. паўн.-зах., Бяльк.). Гл. *кніга*.

**Кні́жка**₂ 'аддзел страўніка жвачных жывёл' (ТСБМ). Гл. *кнігі*.

**Кні́жнік** 'кніжная паліца' (Сцяшк. Сл.). Гл. *кніга*₁.

**Кні́жніца** 'бібліятэка' (Др.-Падб., Гарэц.). Гл. *кніга*₁.

**Кні́жыць** 'капрызіць, плакаць, вішчаць' (Сл. паўн.-зах.). Да *кніга*₂ (гл.) або пад уплывам балтыйскіх форм (літ. *knigždėti* 'тс') (Сл. паўн.-зах., 490—491).

**Кніжэ́ць** 'кішэць' (Сл. паўн.-зах.). Балтызм. Да літ. *knibždėti* 'тс'. Гл. Фрэнкель, 278.

**Кнізе́ць** 'тс' (Сл. паўн.-зах.). Гл. *кніжэць*.

**Кнікаць** 'кланяцца прысядаючы' (Нас.). *Рабіць кніксен* з ням. *knicksen* 'тс'.

**Кніпаць** 'вязаць' (Сл. паўн.-зах.). Параўн. літ. *knýpoti* 'крапатліва працаваць, калупацца' (там жа, 2, 491). Параўн. Лаўчутэ, Балтизмы, 68.

**Кніпель** 'падгерац, жалезны крук, які прыцягвае шворан да трайні' (Нар. словатв.). Гл. *кнібель*.

**Кніпці** 'кіпці, клешні, пазногці' (Сл. паўн.-зах., Сцяшк. Сл.). Параўн. літ. *knibliai* 'тс' (Сл. паўн.-зах., 2, 491). Кантамінацыя з *кіпці* (гл.).

**Кніцець** 'балець, ныць, свярбець', 'карцець, хацець', 'кусаць, бегаць' (Сл. паўн.-зах.). Параўн. літ. *knitėti* 'тс' (там жа, 2, 491).

**Кнойсаць** 'трэсці, рваць' (Сл. паўн.-зах.). Параўн. літ. *knáisioti* 'рыць' (там жа, 2, 491). Балтызм.

**Кно́пка** 'запінка, род цвічка з круглай шырокай плешкай'. Укр. *кнопка*, рус. *кнопка* 'тс'. Запазычанне з ням. *Knopf* (Фасмер, 2, 264).

**Кно́раз** 'самец свінні, кныр' (ТСБМ, Нас., ТС, Сл. паўн.-зах., Жд. 2. Бяльк., Сержп. Грам., Мядзв., ДАБМ, Грыг., Гарэц., Янк. II). Укр. *кнороз*, рус. *кнороз* 'тс', польск. *kiernoz*, славац. *kornáz*, в.-луж. *kundroz*, н.-луж. *kjandroz* 'тс'. Формы заходнеславянскія фанетычна адрозніваюцца ад усходнеславянскіх (лужыцкія не адпавядаюць цалкам іншым заходнеславянскім). З адменным пачаткам паўднёваславянскія назвы кнораза: балг. *нерез*, серб.-харв. *нѐраст* 'тс' (гл. Слаўскі, 2, 155 і ў апошні час Аткупшчыкоў, Из истории, 121). Нягле-



дзячы на фанетычныя цяжкасці, усё ж такі ўдаецца аднавіць праславянскае складанае слова **kъrnorzъ*. У паўднёваславянскіх паралелях балг. *нерез*, серб.-харв. *нѐраст* маюць у якасці паралелі рус. *нерезь* 'непакладаны самец свінні' (да *не + рэзаць*). Прасл. *kъrnorzъ* ад *kъrnъ* 'абрэзаны' і *orzъ* 'ядро'. Такую рэканструкцыю пацвярджаюць формы *кныр*, *кнур*, якія з'яўляюцца скарочанымі адносна формы *кнораз*. Гл. *кныр*. Параўн. у апошні час Шаўр ZfSl, 24, 115—119.

**Кнот** 'спецыяльная стужка або скручаная ніць, якая служыць для гарэння ў газавай лямпе, свечцы' (ТСБМ, Нас., Шат., Сл. паўн.-зах.,КЭС, лаг., Нік. Няч., Бяльк., Нік. Очерки, Гарэц., Грыг., Мат. АС). Укр. *гніт*, рус. *кнот* праз польск. *knot* запазычанне з с.-в.-ням. *knote* 'вузел' (Слаўскі, 2, 288).

**Кно́хці** 'кіпцюры, пазногці' (Мал.). Да *ногаць* (гл.).

**Кнува́ць** 'ныць, плакаць' (Бяльк.). Хоць семантычна даволі далёкае, але ўсё ж такі звязана з укр. *кнувати* 'задумваць нешта злачыннае'. Апошняе разглядаецца як запазычанне з польск. *knować* 'тс' (ЕСУМ, 2, 474). Разыходжанні ў значэнні можна вытлумачыць семантычнымі працэсамі. Параўн. *кнуваць* 'ныць, плакаць' (<'скардзіцца, паклёпнічаць').

**Кнур** 'кныр' (Нас., Мат. Гом., Яруш., Сл. паўн.-зах., ТС, Нар. сл., Бяльк., Сцяшк., Бір.). Гл. *кныр*.

**Кнут** 'пуга' (Сл. паўн.-зах., Яруш., Бяльк., Сцяшк.). Укр. *кнут*, рус. *кнут*, ст.-рус. *кнутъ* (іншыя славянскія паралелі — запазычанні з рускай мовы). Крыніца ўсходнеславянскіх слоў паўночнагерманская: ст.-ісл. *knutr* 'вузел' (гаворка ідзе пра «вузлаваты» біч). Іншыя этымалогіі неверагодныя (Фасмер, 2, 265).

**Кны́бель** 'прылада для звязвання снапоў'. Параўн. *кныпель* (гл.).

**Кныкаць** 'перажываць, саромецца' (Сцяшк. Сл.). Ці не да польск. *knychać* 'вішчаць, скавытаць' і рус. *хныкать* (гукапераймальнае).

**Кныпель** 'кароткая палка для закручвання гужвы ў плыце' (ТС, Ян., З нар. сл., Жыв. сл., Сцяц., Сл. паўн.-зах.). Параўн. ням. *Knüppel* 'дубіна, рычаг' (там жа, 2, 492). Запазычанне з нямецкай мовы.

**Кныпень** 'завостраная палачка' (З нар. сл.). Да *кныпель* (гл.).

**Кны́паць** 'кульгаць, ісці павольна' (Нас.). Кантамінацыя *клыпаць* (гл.) і *кніпаць* (гл.).

**Кны́пус** 'той, каго прырода абдзяліла ростам' (Нар. лекс.). Магчыма, запазычанне з ням. *Knirps* 'карапуз, малыш'. Калі гэта так, слова падвяргалася лацінізацыі ў бурсацкай мове.

**Кныр** 'самец свінні, якога пакінулі на племя' (ТСБМ, Сл.

паўн.-зах., ТС, Шат., КЭС, лаг., Жыв. сл., Нік. Напоў., Сцяшк., Сержп. Грам., Кліх, ДАБМ, Янк. I—II). Укр. *кнур*, рус. *кнур* 'тс', польск. *knur* 'тс', чэш. *kňour* 'дзік'. Скарочаная форма да *kъnorzъ*. Гл. *кнораз*. Унікальная агаласоўка ў беларускай мове не мае надзейнага тлумачэння.

**Кнырыць** 'выглядаць, вышукваць' (Нар. сл., Нар. лекс.). Да *кныр* (гл.).

**Кнысаць** 'варочаць, рыць' (Сл. паўн.-зах.). Балтызм. Параўн. літ. *knisti*. Гл. таксама *кнойсаць*.

**Кнытава́ць** 'збіваць жардзінкай жалуды' (ТС). Да *кнут* (гл.).

**Кныч** 'пірог' (Шн.). Гл. *кныш$_3$*.

**Кнычыць** 'поўзаць, кусаць' (Сл. паўн.-зах.). Гл. *кніцець*.

**Кныш$_1$** 'нізкарослы чалавек' (Нар. сл.). Гл. *кныш$_3$*.

**Кныш$_2$** 'шышка, сухі выраст на краях булкі хлеба' (Нар. словатв.). Гл. *кныш$_3$*.

**Кныш$_3$** 'пірог, які ядуць на дзяды' (Кольб.). Укр. *книш* 'тс'. Этымалогія Фасмера (Этюды, 90), з грэч. *κνῖσα* 'пах печанага мяса і тлушчу'. Больш верагоднай здаецца версія Бернекера (1, 531), паводле якой *кніш, книш* < ням. *Knitschel* 'галушка з мукі'.

**Кнэ́блі** 'ціскі' (Сл. паўн.-зах., З нар. сл.). Гл. *кнебіль*.

**Кнэ́бэль** 'завала': *«двэры на кнэбэль замыкаліся»* (Сл. паўн.-зах.). Гл. *кнебіль*.

**Кнэ́мбіць** 'мучыць, біць' (Сцяшк. Сл.). З польск. *gnębić* 'прыгнятаць, мучыць'.

**Кнюпа** 'ганарыстая жанчына з характарам' (Нар. лекс.). Укр. *кнюпіти* 'сядзець сагнуўшыся', *хнюпити голову, нос* 'апусціць галаву, нос', *похнюпитися* 'сядзець сумна, маркотна'. Як здаецца, *кнюпа* 'ганарыстая жанчына з характарам' < *кнюпа* 'маўклівая, маркотная жанчына'. Гэта беларуска-ўкраінская ізалекса балтыйскага паходжання. Параўн. літ. *kniáubtis* 'сядзець, апусціўшы галаву', *kniùbti, knùbti* 'сагнуцца' (параўн. ЕСУМ, 2, 475).

**Кнюпцюры** 'кіпцюры' (Сцяшк.). Кантамінацыя *кніпці* (гл.) з *кіпцюры* (гл.).

**Кнюха** 'жывот' (Нар. лекс.), 'тоўсты чалавек' (Мат. Гом.). Магчыма, кантамінацыя *кіндзюх* і *бруха* (**кіндзюха>кнюха*).

**Кнюха́ты** 'брухаты' (ТС). Гл. *кнюха*.

**Кня́ваць$_1$** 'мяўкаць', 'прасіць, прыставаць' (Сл. паўн.-зах., ДАМБ). Ці не кантамінацыя ад *кнаваць* і *канаць, канькаць* (гл.), параўн. *князаць* (гл.).

**Кня́ваць$_2$** 'ледзь ісці, ледзь жыць' (Шат.). Да *кляваць* (гл.).



**Кня́гаць** 'канькаць, выпрошваць' (Нар. сл., Сл. паўн.-зах.). Гл. *княваць$_1$*.

**Княгіня$_1$** 'жонка князя' (ТСБМ). Укр. *княгиня*, рус. *княгиня* 'тс', балг. *княгиня*, серб.-харв. *кнѐгиња*, славен. *kneginja* 'тс', чэш. *kněhyne, kněni*, славац. *kneginja* 'тс', в.-луж. *knjěni* 'пані'. Да прасл. *kъnęgyni*, утворанага пры дапамозе суфіксацыі на *-yni* (SP, 1, 139) ад **kъnęgъ* перад трэцяй палаталізацыяй, згодна з якой **kъnęgъ>kъnędzь* (гл. *князь$_1$*).

**Княгіня$_2$** 'нявеста' (ТСБМ, Нар. словатв., З нар. сл., Сержп. Грам., Яруш., Хрэст. дыял., Шн., Гарэц., Грыг.). Гл. *княгіня$_1$*.

**Княж** 'шафер' (Мат. Гом.). Параўн. *княжына* (гл.).

**Княжы́на** 'дружка' (Мат. Гом.). Гл. *князь$_2$*.

**Кня́жыч** 'Месяц, нябеснае свяціла' (Нар. сл.). Да *князь$_1$* (гл.).

**Князь$_1$** 'правадыр войска і правіцель вобласці ў феадальнай Русі' (ТСБМ, Яруш.). Укр. *князь*, рус. *князь*, ст.-рус. *кънязь* 'тс', ст.-слав. **кънѧзь**, балг. *кнез*, серб.-харв. *кне̑з*, славен. *knêz* 'тс', польск. *książe*, чэш. *kníže*, славац. *knieža*, в.-луж. *knjez* 'пан', палаб. *knąz* 'шляхціц'. Прасл. *kъnędzь* было запазычана з германскіх моў, ва ўсякім разе задоўга да трэцяй палаталізацыі. Параўн. *княгіня* (гл.). Аб старажытнасці запазычання сведчыць, відаць, таксама рухомасць акцэнтуацыйнай парадыгмы пры кароткім галосным у корані. Прагерм. *kuningaz* 'правадыр, кароль' тлумачыцца як утварэнне на *-ingaz* ад прагерм. *kunja* 'род' (лац. *genus*, ст.-грэч. *γένος*, ст.-інд. *jánaḥ* 'тс'). Такім чынам, у прагерманскай мове назіраецца словаўтваральная інавацыя афіксна-семантычнага тыпу (славянскія мовы не ведаюць ніводнага спрадвечнага слова з суфіксацыяй *ęd'zь*) (Мартынаў, Лекс. взаим., 47—48). Параўн. Кіпарскі Gemeinslav, 181; Экблум, ZfSlPh, 30, 6; Экблум, ScSL, 3, 176. Князь у значэнні 'жаніх' — табуізм (гл. Хаверс у Фасмера, 2, 266). Такое ж трэба сказаць і аб *княгіня* 'нявеста'.

**Князь$_2$** 'малады, жаніх' (Нас., Яруш., Грыг., Гарэц., Нар. лекс., З нар. сл., Маш., Сержп. Грам.), 'дружка' (Кольб.). Гл. *князь$_1$*.

**Кобарам** 'кулём' (Жд. 2). Гл. *кубарам*.

**Кобачка** 'пад лыжачкай, ямачка' (Сл. паўн.-зах.). Гл. *кебка*.

**Ко́бза$_1$** 'торба' (Кірк.). Параўн. *кобза$_3$* (гл.).

**Ко́бза$_2$** 'злы чалавек' (Мат. Гом.), 'тоўстая сытая істота' (ТС). Параўн. *кобзаць* (гл.).

**Ко́бза$_3$** 'музычны інструмент' (ТСБМ, Нас.). Укр. *кобза*,

польск. *kobza* з украінскай мовы. Запазычанне з цюркскіх моў. Параўн. тур. *kopuz* 'аднаструнная гітара' (ЕСУМ, 2, 476).

**Ко́бзаць** 'пэцкаць' (Жыв. сл.). Параўн. укр. *кобзати* 'рыць, варушыць', якое ЕСУМ, 2, 476 звязвае з рус. *кобзать* 'грэбаваць'. Унутраная форма няясная.

**Ко́бка$_1$** 'яма' (Сцяшк. Сл.). Гл. *кобачка*.

**Ко́бка$_2$** 'нізкая, прысадзістая, моцная дзяўчынка' (Янк. III). Янкоўскі (55) параўноўвае з укр. *кобка* 'металічная каробка' (параўн. ЕСУМ, 2, 477). Гл. *кобка$_1$*.

**Ко́блік** 'пячкур' (Крыв., Сл. паўн.-зах.). Укр. *коблик* 'тс', рус. *коблик*, славац. *kolbik*. Гл. *келб*.

**Ко́быта** 'быццам бы' (Жд. 2). Да **яко быта*. Параўн. *як быццам*.

**Ко́ванка** 'конаўка' (Мат. Гом., ТС). Гл. *конаўка*.

**Ко́варат$_1$** 'калаўрот' (Нар. словатв.). Гл. *калаўрот*.

**Ко́варат$_2$** 'асвер, саха ў студні, вага ў студні', 'вароты ў плоце, вясковыя весніцы', 'ствол дрэва з суком, да якога прыбіваюцца дошкі варот' (Сл. паўн.-зах., Нар. сл., З нар. сл., Сцяшк., Бяльк.). Гл. *коварат$_1$*.

**Ко́варацень** 'асвер, саха ў студні' (Федар.). Гл. *коварат$_2$*.

**Ко́вардам** 'з вялікім высілкам' (Федар. рук.). Да *коваротам*. Гл. *коварат$_2$*.

**Ко́ваць** 'мітусіцца' (Мат. Гом.). Мабыць, другаснае нерэгулярнае ўтварэнне ад *коварат$_1$* (*коварат*>**ковар*>**коваць*).

**Ко́ведар** 'вочап у студні' (Нар. сл.). Да **ковадар*<*коварад*. Гл. *коварат$_2$*.

**Ко́влак** 'звяглівы чалавек' (Нар. лекс.). Імаверны балтызм. Параўн. літ. *kaũlyti* 'звягліва, надакучліва прасіць'. Непасрэднай крыніцай беларускага слова магло быць незафіксаванае ў літ. мове **kaulokas* у значэнні 'звяглівы, надакучлівы чалавек'. Або ўтварэнне назоўніка адбылося ўжо на беларускай глебе пры дапамозе суфікса *-ак (ядак, драмак)*. Але ў гэтым выпадку мы б чакалі націск на суфіксе (параўн. Сцяцко, Афікс. наз., 23—24).

**Ко́вы** 'аковы' (ТСБМ, Яруш.). Да *каваць* (гл.).

**Ко́ган** 'драўляная міска' (Мат. Гом.). Да *каган*. Гл. *каганец*.

**Ко́гут** 'глушэц' (Мат. Гом.). Параўн. укр. *когут* 'цецярук'. Перанос назвы пеўня на іншую птушку (ЕСУМ, 2, 489). Што датычыць назвы пеўня, то ўкр. *когут*, відаць, запазычана з польск. *kogut*. Бел. *когут* выклікае рад сумненняў. Па-першае, слова зафіксавана толькі ў адной крыніцы. Па-другое, форма *кагут* (Мат. Гом., 190) выведзена няправільна. Параўн. ілюстрацыю *«Ва ўсіх дварах быў чуваць спеў кагутуноў»*. Значыць, можна толькі гаварыць аб зыходнай форме *кагутун*, якая



ўтварылася ад дзеяслова *кагутаць*. Такім чынам, эвентуальнае бел. *когут* 'певень' было таксама польскага паходжання. Польск. *kogut* у сваю чаргу разглядалася як запазычанне з чэш. *kohout*, славац. *kohút*. Мясцовая назва *Kochutouo* ў Вроцлаўскай буле 1245 г. сведчыць не толькі супраць пазнейшай чэшскай крыніцы, але і на карысць еднасці чэшска-сілезскага арэала, адкуль слова магло пазней распаўсюдзіцца на іншыя рэгіёны Польшы. Лінгвагеаграфія слова дэманструе няпэўнасць праславянскай рэканструкцыі. Параўн. Слаўскі, 2, 328; Басай-Сяткоўскі, SFPS, 7, 23—24; Папоўска-Таборска, SFPS, 8, 60. Нельга лічыць праўдападобнай гіпотэзу пра паходжанне *kogut* ад прасл. *kokotъ* (Атрэмбскі, Slavia, 20, 236; Слаўскі, там жа).

**Ко́гці** 'кіпцюры' (Сл. паўн.-зах.). Параўн. *кокаць* (гл.).

**Ко́дла** 'дом, сяліба', 'сям'я, род' (ТСБМ, ТС, Ян., Мат. Гом., Жыв. сл., Яшк., Яўс., З нар. сл., Бяльк.). Укр. *кодло*, рус. *кодло* 'тс'. Трэба прызнаць верагоднасць паходжання ад польск. *godło* 'радавы знак' (ЕСУМ, 2, 491). Пеяратыўная афарбоўка гаворыць на карысць пранікнення, а не культурнага запазычання. Іншыя гіпотэзы менш верагодныя. Параўн. Фасмер, ZfSlPh, 9, 369 (германская крыніца тыпу гал. *kudde* 'стада') або Ваян, RES, 13, 251 (інавацыя на аснове рус. *котиться* 'радзіць').

**Ко́дра** 'гунька' (Мат. Гом.). Да *коўдра* (гл.).

**Ко́дым** 'заядлы курэц' (Нар. лекс.). Да **копта-дым*. Параўн. *курадым* (гл.).

**Ко́жа** 'скура' (Сл. паўн.-зах., Ян., ТС, Бяльк.). Укр. *кожа*, рус. *кожа*, ст.-рус. *кожа* 'тс', ст.-слав. **кожа**, балг. *кожа*, макед. *кожа*, серб.-харв. *кȍжа*, славен. *kóža* 'тс', польск. *koža*, чэш. *kůže*, славац. *koža*, в.-луж. *koža*, н.-луж. *koža*, палаб. *t'uza* 'тс'. Адна з найбольш надзейных этымалогій увогуле: этымалогія Зубатага, AfSlPh, 16, 396: *koža*<*koz-ja*. Спачатку *kozja* (*skora*) 'казіная скура'. Аб іншых этымалогіях гл. Трубачоў, Эт. сл., 12, 36. Параўн. таксама апошнюю спробу тлумачэння Борысь ЗФЛ, 25, 1, 169—170.

**Ко́жан** 'кожны' (Нас., Жыв. сл., КЭС, лаг.). Гл. *кожны*.

**Ко́жны** 'кожны' (ТСБМ, Бяльк., Нік. Очерки). Укр. *кожний* (<*кождний*). Параўн. бел. *кожды*. Гл. *кажды*.

**Ко́жур** 'безрукаўка з аўчын' (Сцяшк. Сл.). Да *кожа* (гл.).

**Ко́зарыца** 'сухая трава' (Сцяшк. Сл.). Да *каза$_{25}$* ці *каза$_{26}$*.

**Ко́зачка** 'невялікая лавачка пад ногі' (Жд. 2). Гл. *каза$_{11}$*.

**Ко́зка$_1$** 'трыножак', 'сажань' (Мат. Гом.). Гл. *каза$_{17}$*.

**Ко́зка$_2$** 'бакас' (Мат. Гом.). Параўн. укр. *козарка* 'від дзікай гусі', рус. *казара, казарка* 'тс'. Магчыма, цюркскага паходжання (тур. *kaz* 'гусь') (Булахоўскі, 3, 238). Параўн. ЕСУМ, 2, 340.

**Ко́зка**$_3$ 'грыб саркадон чарапічны' (ТС). Гл. *каза*$_6$.

**Ко́злік**$_1$ 'умацаванне саламянай страхі' (Мат. Гом., Хар.). Параўн. *казёл*$_3$.

**Ко́злік**$_2$ 'конік' (Сл. паўн.-зах.). Гл. *казёл*$_{12}$.

**Ко́злікі**$_1$ 'рдзест' (ТС). Параўн. *козлікі*$_2$ (гл.).

**Ко́злікі**$_2$ 'заплеценыя валасы' (Ян.). Магчыма, да *казёл*$_{10}$ (гл.).

**Ко́злы** 'азярод' (Мат. Гом.), 'прыстасаванне для пілавання дроў' (ТСБМ), 'апора ў выглядзе пакрыжаваных слупкоў' (Сл. паўн.-зах.). Параўн. *казёл*$_2$.

**Ко́зны** 'гульня' (Нар. словатв.). У Нар. словатв. (261) гаворыцца аб тым, што *«У козны гулялі, як з бежанства прыехалі»*, а таксама: *«...гуляць «у козны» тое, што і «ў бабкі»*. Пры апісанні гульні *ў бабкі* (там жа, 259) адзначаецца, што стараліся *«збіць як найбольш бабак, з якіх кожная мела цану»*. Таму можна лічыць, што набор бабак называўся *казна*. Рус. *казна* 'скарбніца' была запазычана ў часы «бежанства». Параўн. там жа: *«Як прыехалі з Расеі, то ўсе ў банкі хлопцы гулялі»*.

**Ко́зуб** 'карзіна' (Мат. Гом.), 'кубачак (з кары асіны для ягад)' (Сцяц.). Укр. *козуб* 'тс', польск. *kozub*, чэш. *kazub* 'тс', славац. *kozub* 'камін'. Рэканструкцыя паўночнаславянская рызыкоўная (параўн. Слаўскі, 3, 35). Лічыцца вытворным ад *каза* пры дапамозе суфікса *-убъ* (параўн. *кастра*> >*каструб*). Але славянскія мовы не ведаюць такога прадуктыўнага суфікса. Геаграфія слова хутчэй гаворыць аб яго неспрадвечным характары (параўн. ЕСУМ, 2, 501).

**Ко́зыр** 'карта той масці, якая лічыцца старшай і б'е любую карту другіх масцей' (ТСБМ). Укр. *козир*, рус. *козырь* 'тс', польск. *kozera, kozyr*, чэш. *kozera, kozyř* 'тс'. Найбольш верагодная версія: з тур. *koz* 'казырная карта' з далейшым словаўтваральным ускладненнем. Гл. Шанскі, 2, 8, 188—189. Параўн. Локач, 97. Вандроўны тэрмін. Шляхі яго распаўсюджання ўдакладніць цяжка. Версія аб яго спрадвечнасці (Фасмер, 2, 279) зусім неверагодная.

**Ко́зыт** 'адчуванне лёгкага нервовага раздражнення, якое выклікаецца дотыкам да скуры' (ТСБМ, Сл. паўн.-зах.). Гл. *казытаць*.

**Ко́зыткі** 'козыт' (Нар. словатв.). Гл. *козыт*.

**Ко́йка**$_1$ 'ложак' (Бяльк., Сцяшк.). Запазычанне праз рус. *койка* з гал. *kooi* 'тс'.

**Ко́йка**$_2$ 'кош або лодка з дзіркамі ў дне для перавозкі свежай рыбы' (ТС). Да *койка*$_1$. Параўн. гал. *kooi* ў значэнні 'клетка, кашара'.

**Ко́йкнуць** 'памерці' (Сцяшк. Сл.). Ад прасл. *kojiti* 'супакоіцца'. Суфіксацыя сведчыць аб аднаразовасці дзеяння. Магчыма, таксама кантамінацыя з *кокнуць* (гл.).



**Ко́ймачка** 'шлячок' (Мат. Гом.). Гл. *кайма*.

**Ко́йнік** 'паліца' (Сцяшк. Сл.). Да прасл. *kojiti*. *Койнік* — 'тое, на чым штосьці пакоіцца'.

**Ко́ірачка** 'ляўша' (Сл. паўн.-зах.). Балтызм. Параўн. літ. *kairỹs* 'тс' (там жа, 2, 494).

**Кок** 'падзыўны або трывожны кліч пеўня' (Нар. лекс.). Гукапераймальнае.

**Ко́ка** 'яйцо' (ТСБМ, Нар. лекс., Бяльк., Шат., Сцяшк., Мат. Гом.). Укр. *коко*, рус. *коко* 'тс', балг. *коко* 'тс', польск. *koko*, чэш. *koko*, н.-луж. *koko* 'тс'. Гукапераймальнае. Няма падстаў для праславянскай рэканструкцыі. Параўн. *какатаць* (гл.).

**Ко́кань** 'ногаць' (Мат. Гом.). Гл. *кокаць*.

**Ко́кат** 'тоўсты сук у віламатым дрэве' (Сл. паўн.-зах., Мат. Гом.), 'грэбень у пеўня' (Мат. Гом.). Гл. *кокаць*. Відавочна, тут аб'ядналіся формы рознага паходжання. *Кокат* 'грэбень у пеўня' да прасл. *kokotъ* 'певень' (параўн. рус. *кокот* 'певень' і серб.-харв. *kȍкот* 'тс'). *Кокат* 'тоўсты сук у віламатым дрэве' да прасл. *kogъtь* (рус. *кокот* 'кіпцюр', 'вілы', 'разгалінаваны сук') (параўн. Трубачоў, Эт. сл., 10, 117—118). Беларускі матэрыял прадстаўлены ў Парукаў Бел. М, 6, 26.

**Ко́каць** 'кіпцюр, ногаць' (Мат. Гом., Яруш.) *«Сам з кокаць, а барада з локаць»* (Нас., Мат. Маг.), 'сустаў пальца' (Федар. рук.). Гл. *кокат*.

**Ко́кашкі**: *на кокашках* 'на кукішках' (Федар. рук.). Гл. *кукішкі*.

**Ко́кашы** 'ногі' (Жыв. сл.). Гл. *кокашкі*.

**Ко́кідам** 'подкідам' (З нар. сл.). Да *кідаць* (гл.).

**Ко́кнуць** 'памерці, забіцца' (Сл. паўн.-зах.), 'ударыць, стукнуць' (ТСБМ, Нар. сл.). Гл. *койкнуць*. Укр. *кокнути*, рус. *кокнуть* 'тс'. Да *кока* (гл.).

**Кокс** 'від цвёрдага паліва з каменнага вугалю або торфу' (ТСБМ, Яруш.). Запазычанне праз рус. *кокс* з ням. *Koks* 'тс' (Шанскі, 2, 8, 194).

**Ко́кыт** 'кіпцюр' (Бяльк.). Гл. *кокат*.

**Кол** 'палка, шост з завостраным канцом' (ТСБМ, ТС, Сл. паўн.-зах., Сержп., Сцяшк., Яруш., Бір., Нар. сл., Бяльк., Нар. лекс., Сержп. Пр.), 'гульня' (Нар. словатв.). Укр. *кіл*, рус. *кол*, ст.-слав. **колъ**, балг. *кол*, славен. *kȍl*, польск. *kół*, чэш. *kůl*, в.-луж. *kół* 'тс'. Да *калоць* (гл.).

**Ко́ла**$_1$ 'круг' (ТСБМ, Яшк., Яруш., Сержп. Пр.). Укр. *коло*, рус. *коло*, ст.-рус. *коло* 'тс', ст.-слав. **коло**, балг. *коло*, серб.-харв. *кȍло*, славен. *koló* 'тс', польск. *koło*, чэш. *kolo*, славац. *kolo*,

в.-луж. *kolo*, палаб. *t'ölü* 'тс'. Прасл. *kolo, kolese* мае бліжэйшыя адпаведнікі ў ст.-прус. *kelan* і ст.-ісл. *hvel* (усе формы сярэдняга роду). Цікава, што ва ўсходнебалтыйскіх мовах прадстаўлена іншая назва кола: літ. *ratas*, лат. *rats* (Тапароў, I — K, 305—306).

**Ко́ла**$_2$ 'круг, які круціцца на восі і забяспечвае рух сродкаў перамяшчэння' (ТСБМ, Нас., Шат., Рам., Яруш., П. С., Сержп. Пр.). Гл. *кола*$_1$.

**Ко́лаварат** 'свердзел' (Мат. Гом.). Гл. *калаворат*.

**Ко́лавараты** 'вароты ў канцы вёскі' (Бяльк., Нас. Доп.). Гл. *калаварот*.

**Ко́ламазь** 'мазь для калёс' (Жыв. сл., ТС, Сл. паўн.-зах., Мат. Маг.). Гл. *кола*$_2$.

**Ко́лас** 'суквецце злакаў, суквецце з пладамі, насеннем гэтых раслін' (ТСБМ, ТС, Сл. паўн.-зах., Ян., Яруш., Бяльк., Сцяшк., Сержп. Грам.). Укр. *колос*, рус. *колос*, ст.-рус. *колосъ* 'тс', ст.-слав. **класъ**, балг. *клас*, макед. *клас*, серб.-харв. *кла̑с*, славен. *klâs* 'тс', польск. *kłos*, чэш. *klas*, славац. *klas*, в.-луж. *kłos*, н.-луж. *kłos*, палаб. *klǎs* 'тс'. Прасл. *kolsъ* мае бліжэйшую паралель у алб. *kall* 'колас' (<*kalsa*). Цікава, што паралелей да гэтага слова ў балтыйскіх мовах няма. У іх існуюць адпаведнікі да іншай славянскай назвы коласа: прасл. *voltъ* (гл. *валотка*). Параўн. серб.-харв. *вла̑т*, славен. *vlat, vlatka* 'мяцёлка, колас', літ. *váltis* 'колас аўса, мяцёлка' (Мартынаў, Изоглоссы, 11). Можна меркаваць, што прасл. *kolsъ* — вынік кантактаў славян з палеабалканскім моўным масівам.

**Ко́лат** 'доўгі кій з перакладзінай на адным канцы, якім заганяюць рыбу ў сетку ці нерат' (Нар. сл., Мат. Гом., Мат. Маг., Бяльк.). Да *калаціць* (гл.).

**Ко́лба** 'шарападобная або канічная шкляная пасудзіна' (ТСБМ). Укр. *колба*, рус. *колба* 'тс'. Праз рускае пасрэдніцтва запазычана з ням. *Kolben* 'тс' (Шанскі, 2, 8, 195).

**Ко́лдра** 'коўдра' (Нас., Нік. Очерки). Гл. *коўдра*.

**Ко́лева** 'мядовая сыта і пакрышаныя туды абаранкі або булка' (Кос.). Магчыма, праз значэнне 'дробнае зерне', да *каліва* (гл.).

**Ко́лер** 'афарбоўка' (ТСБМ, Нас., Сержп. Пр.), 'гатунак, смак' (Бяльк.). Запазычанне з лац. *color* 'тс' (ЕСУМ, 2, 513).

**Ко́лесцік** 'спадніца з даматканага палатна' (Сл. паўн.-зах.). Магчыма, да прасл. *kolo, kolese* 'кола' (паводле формы спадніцы). Словаўтварэнне вельмі архаічнае: *kolestikъ* < <*koles-t-ikъ*. Пры дапамозе суфікса *-tъ* могуць утварацца назоўнікі ад назоўнікаў (SP, 2, 36—37).

**Ко́лечка**: *на колечках* 'на кукішках' (ТС). Гл. *колешкі*.



**Ко́лечы** — *«хто-колечы, што-колечы»* (ТСБМ). Гл. *калі-колечы*.

**Ко́лешкі** 'калені' (Сл. паўн.-зах.). Гл. *калена*. Параўн. укр. *навколінки* і *навколішкі*. Бел. *колешкі* і ўкр. *колішкі* можна разглядаць як сумесную інавацыю.

**Ко́лікі**$_1$ 'рэзкі, востры боль, рэзь у жываце, баку' (ТСБМ, Нас.). З лац. *colica* 'тс' (Шанскі, 2, 8, 200—201). Памылкова разглядалася як запазычанне з франц. *colique* (Фасмер, 2, 291). Але як было даведзена, упершыню зафіксавана ў XVII ст. у перакладзеным з лацінскай мовы помніку (Шанскі, 2, 8, 200).

**Ко́лікі**$_2$ 'калаццё' (Сцяшк.). Да *калоць* (гл.).

**Ко́лісь** 'калісьці' (ТСБМ, Нас., Сл. паўн.-зах., ТС, Сцяшк., Сержп., З нар. сл., Сержп. Грам., Сержп. Пр.). Гл. *калісь*.

**Ко́ліца** 'аколіца, вуліца' (Бяльк., Мат. Маг.). Да *аколіца* (гл.).

**Ко́лія** 'каляя' (Жд. 3). Гл. *калявіна*.

**Ко́лмык** 'кучаравы чалавек' (Нар. лекс.). Гл. *калмык* і *калматы*.

**Ко́льба**$_1$ 'вал з ручкай, пры дапамозе якога дастаюць ваду са студні' (Сл. паўн.-зах., Сцяшк., Мат. Гом.). Гл. *корба*, *кольба*<польск. *kolba* 'тс'.

**Ко́льба**$_2$ 'свердзел' (ТС). Гл. *кольба*$_1$.

**Ко́лька** 'колькі' (Шат., ТС, Жд. 3). Гл. *колькі*.

**Ко́лькі** 'тс' (ТСБМ, Сл. паўн.-зах., Бяльк., ТС, Ян.). Укр. *кольки*, рус. *колько*, ст.-рус. *колько* 'тс', ст.-слав. **колико**, балг. *колко*, серб.-харв. *ко̏лико*, славен. *kóliko*, польск. *kilka, kolko*, чэш. *kolik*, славац. *kol'ko*, в.-луж. *kelko*, н.-луж. *kelko* 'тс'. Прасл. *koli* генетычна суадносіцца з літ. *keli* 'некаторыя', ст.-грэч. *πηλίκος* 'такі вялікі' (Трубачоў, Эт. сл., 10, 135).

**Ко́лязно** 'колькі' (Сцяшк. Сл.). Першая частка гэтага складанага слова ўзыходзіць да *kole* (гл. *калі*), другая — да дзеяслова *znati* (гл. *знаць*). Магчыма, пад уплывам форм тыпу польск.— *kolwie* (<-*kolwiek*), дзе другая частка ўспрымаецца як звязаная па паходжанню з дзеясловам *wiedzieć* (гл. *ведаць*).

**Ком**$_1$ 'круглаваты зацвярдзелы кавалак рыхлага рэчыва' (ТСБМ, Сл. паўн.-зах., Ян., Нар. лекс., Яшк., Яруш.). Укр. *кім*, рус. *ком* 'тс', польск. *kom* 'тс', славен. *kom* 'круглаваты прадмет', балг. *комина*, серб.-харв. *ко̑м, ко̑мина* 'жамерыны', чэш. *kominy* 'тс'. Бліжэйшыя адпаведнікі: лат. *kams* 'ком', літ. *kamuolŷs* 'клубок'. Іншыя індаеўрапейскія паралелі больш праблематычныя. Калі прызнаць адзінае паходжанне для ўсіх славянскіх форм, то можна разглядаць прасл. *komъ* як рэгулярны апафанічны адпаведнік да незафіксаванага на сла-

вянскай моўнай глебе дзеяслова **kemti*. Параўн. літ. *kimšti* 'напіхваць' і прасл. *čęstъ* 'густы' (Бернекер, 1, 557; Трубачоў, Эт. сл., 10, 180).

**Ком**$_2$ 'бульбяная каша, камы' (Сл. паўн.-зах., Сцяшк. Сл., Жыв. сл., 3 нар. сл.). Гл. *ком*$_1$.

**Ко́мбіца** 'вяровачка, на якой трымаецца ў раўнавазе бязмен' (Бяльк.). Гл. *компіца*.

**Ко́мель** 'дзяркач' (Ян.). Гл. *камель*.

**Ко́мельгом** 'хутка, вельмі хутка' (Нас.). Гл. *ком* і *мяльком*.

**Ко́мжа** 'доўгае з шырокімі рукавамі адзенне рэлігійнага культу' (Сл. паўн.-зах.). Параўн. польск. *komża* 'стыхар' (там жа, 2, 498). Паланізм.

**Ко́мікі** 'бульбянае пюрэ' (Мат. Гом.). Да *ком*$_2$.

**Ко́мін** 'труба для адводу дыму з печы' (ТСБМ, Нас., Шат., КЭС, лаг., Сл. паўн.-зах., ТС, Хар., Сержп. Пр., Бір., Бяльк., Сержп. Грам., Сцяшк., П. С.). Укр. *комин* 'тс'. Запазычанне з польск. *komin* 'тс' (Слаўскі, 2, 385; Булыка, Запазыч., 165).

**Ко́мкаць**$_1$ 'камячыць' (ТСБМ, Сл. паўн.-зах.). Гл. *ком*$_1$.

**Ко́мкаць**$_2$ 'прагна есці булку, пірог' (Нар. лекс., Сержп. Грам.). Гл. *комшыць, комсаць*.

**Ко́млата** 'пакой' (Ян.). Гл. *комната*.

**Ко́мля** 'рыбалоўная снасць' (Сцяшк. Сл., 3 нар. сл., Сл. паўн.-зах., ТС, Мат. Гом.). Гл. *кломля*.

**Ко́мната** 'пакой' (Сл. паўн.-зах., Бяльк., Сцяшк.). Ст.-бел. *комната, ковната* 'пакой' — запазычанне з польск. *komnata, kownata* 'тс' (Булыка, Запазыч., 164). Параўн. укр. *кімната*, рус. *комната*. Для сучаснай беларускай мовы неабходна мець на ўвазе другаснае запазычанне праз рускую мову.

**Ко́мпал** 'галава' (Яўс.). Параўн. рус. пеяратыў *кумпол* 'галава'. Гэтыя словы да рус. *купол* 'купал', якое з'яўляецца запазычаннем з ням. *Kuppel* 'тс' або франц. *coupole* (Фасмер, 2, 421; Шанскі, 2, 8, 448—449).

**Ко́мпас** 'прыбор для вызначэння напрамкаў свету' (ТСБМ). Ст.-бел. *компасъ, конпасъ* (з 1584 г.). Запазычанне са ст.-польск. *kompas*, якое з іт. *compasso* (Булыка, Запазыч., 164; Шанскі, 2, 8, 239—240).

**Ко́мпель** 'купальня' (Сл. паўн.-зах.). Параўн. польск. *kąpiel* 'купанне' (там жа, 2, 498). Запазычанне з польскай мовы.

**Ко́мпіца** 'прывязь, з дапамогай якой прымацоўваецца біч да ручкі цэпа' (ДАБМ). Лічыцца балтызмам. Параўн. літ. *kampas* 'вугал' (версія Вяржбоўскага, якую падтрымлівае Лаўчутэ, Балтизмы, 54—55). Вельмі праблематычна. Але, калі ўлічыць значэнне бел. *комбіца* 'вяровачка, на якой трымаецца ў раўнавазе бязмен' і літ. *kumpti* 'выгінацца', можна



лічыць, што *комбіца, компіца* названа так, бо дзякуючы ёй уся прылада выгінаецца.

**Ко́мпут** 'агульны лік' (Нас.). Ст.-бел. *компутъ* (з 1687 г.), укр. *компут* 'тс'. Запазычанне з польск. *komput* (Булыка, Запазыч., 165).

**Ко́мсаць** 'комкаць' (ТС). Да *комкаць*$_1$ (гл.). Укр. *кімса* 'кусок', рус. *комсать* 'рэзаць, крэмзаць; хутка есці', *комса* 'кусок', польск. *komsać* 'хутка есці'. Паралелі маюць надзейны паўднёваславянскі адпаведнік: серб.-харв. *кòмсати* 'прагна есці'. Прасл. *komsati* (не *komъsati*, бо апошні ператварыўся б у **komxati*) адпавядае старым інтэнсіўным дзеясловам на *-sati* (гл. SP, 1, 51—52). Параўн. Трубачоў, Эт. сл., 10, 180.

**Ко́мчаць** 'комкаць' (ТС). Да *комкаць*$_1$ (гл.).

**Ко́мчыць** 'тс' (Нас., Жд. 2, Жыв. сл.). Гл. *комкаць*$_1$.

**Ко́мша** 'маруда' (Нар. словатв.). Значэнне гэтага слова пададзена няправільна. Аб гэтым сведчыць ілюстрацыя: *«Ці скора ўжо тэй комша накомшыцца?»* З кантэксту відаць, што *комша* мае значэнне 'абжора', таму яго трэба суадносіць з *комшыць* 'прагна есці булку, пірог' (гл.).

**Ко́мшаны** 'мяты, цёрты'. Гл. *комшыць*.

**Ко́мшыць** 'прагна есці булку, пірог' (Нар. лекс.), 'жаваць' (Сл. паўн.-зах.). Гл. *комсаць*.

**Ко́мы** 'камы, камякі' (Бяльк.). Гл. *ком*$_1$.

**Кон**$_1$ 'месца, дзе ставяцца фігуры, якія трэба выбіваць (пры гульні ў гарадкі і г. д.)' (ТСБМ), 'галоўнае месца дзеяння на пляцоўцы, на якім стаяць удзельнікі гульні' (Нар. словатв.). Гл. *кон*$_3$.

**Кон**$_2$ 'гульня ў мяч' (Ян.). Гл. *кон*$_1$.

**Кон**$_3$ 'чарга, лёс' (Нас.). Укр. *кін* 'месца гульні' і 'месца смяротнай кары', рус. *кон* 'рад, чарга', 'канец, мяжа, рубеж', ст.-рус. *конъ* 'тс', серб.-харв. *кȏн* 'пачатак і канец', ст.-чэш. *kon* 'канец', н.-луж. *kóń* 'тэрмін, момант'. Прасл. *konъ* зберагло рэфлексацыю толькі ў частцы славянскіх моў, у іншых яго выцесніла вытворнае *konьcь*. Разглядаемае слова знаходзіцца ў рэгулярных апафанічных адносінах з прасл. *čęti* (гл. *пачаць*). Гл. Трубачоў, Эт. сл., 10, 195—196.

**Конавя́зь** 'слуп, да якога прывязваюць коней' (ТСБМ). Укр. *конов'язь*, рус. *коновязь*, ст.-рус. *коновязь* 'тс', серб.-харв. *кòњовез* 'тс'. Да прасл. *konovęzь* < *konь* + *vęzь* (Трубачоў, Эт. сл., 10, 194).

**Ко́наўка** 'пасудзіна з ручкай для піцця' (ТСБМ, Нас., ТС, Бяльк., Сл. паўн.-зах., Шат., Сцяшк., Сержп. Пр., Сержп. Грам., Яруш., Нар. сл., П. С., Жыв. сл.). Укр. *кінва*, рус. *коновь* 'тс', польск. *konew* 'тс'. Запазычанне праз польскую мову

з нямецкай (с.-в.-ням. _channa_, н.-ням. _Kanne_ 'тс') (Фасмер, 2, 311; Слаўскі, 2, 412; ЕСУМ, 2, 447).

**Ко́ндра** 'саматканая коўдра' (Мат. Гом., Сл. паўн.-зах.). Гл. _коўдра_.

**Ко́нік**$_1$ 'конік, насякомае, якое скача і стракоча крыламі' (ТСБМ, Нас., Шат., Сл. паўн.-зах., Мат. Гом., Яруш., Сержп. Пр.), 'страказа' (ТС), 'цвыркун' (Ян., Сцяшк.). Гл. _конь_.

**Ко́нік**$_2$ 'вільчык' (Мат. Гом., ТС). Гл. _конь_$_1$.

**Ко́нік**$_3$ 'варэнік' (Мат. Гом., Ян.). Гл. _комікі_ і _ком_$_2$. Тады _конік_<*_комік_.

**Ко́нік**$_4$ 'чарка' (Ян.). Параўн. _конаўка_ (гл.).

**Ко́нікі**$_1$ 'дзіцячая гульня' (ТСБМ, Нар. словатв.). Гл. _конь_$_1$.

**Ко́нікі**$_2$ 'жарты' (Ян.). Гл. _конікі_$_1$.

**Ко́нкуль** 'куколь' (Сл. паўн.-зах.). Параўн. польск. _kąkol_ 'тс' (там жа, 2, 499). Запазычанне з польскай мовы.

**Ко́нпус** 'компас' (Бяльк.). Гл. _компас_.

**Ко́нскае шча́ўе** 'шчаўе дамашняе, Rumex domesticus Hartm crispus L.' (Кіс.). Да _конь_$_1$ (гл.). Параўн. _конскае пучча_ (гл.).

**Ко́нская лу́па** 'свінуха тонкая (назва грыба)' (Жыв. сл.). Гл. _лупіць_.

**Ко́нская пу́чча** 'конскі шчавель, Rumex crispus' (Бяльк.). Гл. _пучча_.

**Ко́нская раго́жа** 'касач жоўты, Iris pseudacorus L.' (Нар. лекс.). Да _конь_$_1$ (гл.).

**Ко́нская цыбу́ля** 'страўнік' (Шат., Бір.). Да _конь_$_1$ (гл.).

**Ко́нскі** 'вялікі, больш за свае звычайныя памеры' (Жыв. сл.). Гл. _конь_$_1$.

**Ко́нскі во́ўк** 'вялікі сівы воўк, ростам з жарабца' (Жд. 3). Гл. _конскі_.

**Ко́нус** 'капец' (Мат. Гом.). З лац. _cōnus_ праз рус. _конус_ (Фасмер, 2, 315).

**Ко́нцам** 'абавязкова' (КЭС, лаг.). Гл. _канец_.

**Ко́нча** 'тс' (ТСБМ, Нас., ТС, Бяльк., Сцяшк., Жыв. сл., Жд. 2). Гл. _канец_.

**Конь**$_1$ 'буйная свойская аднакапытная жывёліна' (ТСБМ, Нас., ТС, Сл. паўн.-зах., Яруш., Сцяшк.), 'здаровы высокі мужчына' (Мат. Маг.). Укр. _кінь_, рус. _конь_, ст.-рус. _конь_ 'тс', ст.-слав. **конь**, балг. _кон_, серб.-харв. _кȍњ_, славен. _kònj_ 'тс', польск. _koń_, чэш. _kůň_, славац. _koň_, в.-луж. _kóń_, н.-луж. _koń_ 'тс'. Прасл. _konь_. Мы выводзім у адпаведнасці з этымалогіяй Левянталя (KZ, 47, 146) з прасл. _komonь_ (ст.-рус. _комонь_ 'баявы конь'), які аднасіцца разам з ст.-прус. _camnet_ 'тс' да аднаго гнязда з літ. _kãmanas_ 'аброць', _kamanuóti_ 'кілзаць'. Такім чынам, можна рэканструяваць *_kamanas asvas_ 'закілзаны конь' (= прасл.



*_komonъ osъ_). Апошні ў выніку семантычнай кандэнсацыі даў _komonь_ (Мартынаў, Изоглоссы, 21; Мартынаў, Язык, 71). Аналагічна тлумачыцца ст.-прус. _camnet_, які ад *_kamnētas russis_ 'закілзаны конь' (Тапароў, I — K, 193). Суфіксацыя старажытнапрускага слова, яго супастаўленне з прасл. _komonь_ даюць падставы для рэканструкцыі выходнай формы *_kamn-_, як супастаўленне _komonь_ з літ. _kãmanas_ для *_kaman-_. Ад гэтых асноў рэгулярна ўтвараецца адыменны назоўнік якасці на _-is_ *_kamnis_/*_kamanis_ (як літ. _júodas_ 'чорны'>_júodis_ 'вараны конь'). Форма *_kamanis_ дала на славянскай моўнай глебе рэфлексацыю _komonь_, форма *_kamnis_ — *_komnь_>_konь_. Іншыя этымалагічныя версіі неверагодныя: _konь_<*_kobnь_ (Фасмер, ZfSlPh, 9, 141; Брукнер, 253—254), _konь_<*_skopnь_ (Машынскі, Pierw., 235), _konь_<кельт. *_konkos_ 'скакун' (Трубачоў, Эт. сл., 10, 197). Параўн. яшчэ Баль, SPKOK PAN, 20, 2, 334—335.

**Конь**$_2$ 'слуп, драўляная апора' (Хар., Нік. Очерки). Гл. _конь_$_1$.

**Ко́нюх**$_1$ 'воўк, які нападае на коней' (Сцяшк. Сл.). Гл. _конь_$_1$.

**Ко́нюх**$_2$ 'конюх, даглядчык коней' (ТСБМ, Нас.). Гл. _конь_$_1$.

**Ко́нюх**$_3$ 'каня (птушка)' (Бяльк.). Кантамінацыйнае пераўтварэнне _канюк_> _конюх_.

**Ко́нязь** 'драўляны слуп' (Яшк.). Да _конавязь_ 'слуп, да якога прывязваюць коней' (гл.).

**Ко́панік** 'полаз з дрэва, выкапанага з коранем' (ТСБМ, Сл. паўн.-зах.). Гл. _капань_.

**Ко́панка** 'кар'ер, сажалка' (ТСБМ, Шат., Нар. лекс., ТС, Сл. паўн.-зах., Яшк.). Гл. _капаць_.

**Ко́панкі** 'драўляныя начоўкі' (Сцяшк. Сл.). Да _копанка_ (гл.).

**Ко́пань**$_1$ 'копанка' (Яшк., Сл. паўн.-зах., Яўс., Мат. Маг.). Гл. _капаць_.

**Ко́пань**$_2$ 'тарфянік' (Сцяшк. Сл.). Да _капаць_ (гл.).

**Ко́пачка** 'матыка з некалькімі зубамі для капання бульбы' (Жыв. сл., Сл. паўн.-зах.). Да _капаць_ (гл.).

**Ко́пішча**$_1$ 'каменная гара ў выглядзе велізарнага кургана' (Шпіл.). Да _капец_ (гл.).

**Ко́пішча**$_2$ 'яўрэйскія могілкі' (Нас., Яшк.). Гл. _капаць_.

**Ко́пішча**$_3$ 'месца, дзе ў XVI ст. сяляне вялі следства і рабілі суд, на які збіраліся баяры і шляхта з розных аколіц на мілю ў акружнасці' (Яшк.). Гл. _копішча_$_1$.

**Ко́пка** 'пячурка, дзе сушаць рэчы, дзе захоўвалі жар' (ТС, Мат. Гом., Жыв. сл., Нар. словатв., Жд. 3, КЭС, лаг., Хар., Сл. паўн.-зах.). Гл. _капка_.

7. Зак. 3479

**Ко́пнуць**₁ 'пабегчы' (Мат. Гом.), 'прапасці' (Сцяшк. Сл.). Гл. *капнуць*.

**Ко́пнуць**₂ 'забіць' (Сл. паўн.-зах.). Гл. *капнуць*.

**Ко́ппала** 'курапатка' (Мат. Гом.). Мабыць, скарочаная форма ад *курапатка* (гл.).

**Ко́псаўка** 'маруда' (Нар. лекс.). Гл. *копсацца*.

**Ко́псацца** 'замучыцца, нахадзіцца за дзень' (Нар. лекс.). Гл. *капашыцца*.

**Ко́пта** 'кофта' (Нас.). Гл. *кофта, кохта*.

**Ко́птур**: *з коптурам, коптарам* 'вышэй краёў' (ТСБМ, Сл. паўн.-зах., Сцяшк. Сл., Мат. Гом., Мат. Маг., Жд. 2, КЭС, лаг., З нар. сл., Бяльк., Сержп. Пр., Нік. Очерки). Гл. *каптур*.

**Ко́пустка** 'лапатачка для размешвання цеста' (З нар. сл., Бір.). Параўн. *копысць* (гл.). Да *капаць* (гл.). Кантамінацыя з *капуста*.

**Ко́пчык**₁ 'хвасцец' (Мат. Гом.). Да *капец* (гл.).

**Ко́пчык**₂ 'пограб' (Мат. Гом.). Да *капец* (гл.).

**Ко́пчык**₃ 'яечня' (Мат. Гом.). З ілюстрацыі (там жа, 242): *«Есць яечня разбалтана, а есць копчык»* відаць, што гаворка ідзе аб яечні, якая мае форму невялікага капца.

**Ко́пчышча** 'месца, дзе згружаюць сена для стога' (Сцяшк. Сл.). Да *копка* (гл. *капа*).

**Копша**₁ 'капун, маларухавы, павольны ў рухах чалавек' (ТС), 'лянівая жанчына' (Мат. Гом.). Гл. *капацца*. Назоўнік утварыўся з дапамогай экспрэсіўнага суфікса *-ша* Nomina agentis (SP, 2, 76—77; Сцяцко, Афікс. наз., 75—76).

**Копша**₂ 'далакоп, магільны дух' (Нас., Яруш.). Да *капаць* (гл.). Параўн. *копша*₁.

**Ко́пысць** 'лапатачка для размешвання кашы' (Крачк.). Параўн. *копустка* (гл.). Да **копасць* утварэнне з суфіксацыяй на *-ostь* і націскам на першым складзе: *капаць*>*копасць*, як *любіць*>*любасць*, *хварэць*>*хворасць* (Сцяцко, Афікс. наз., 89).

**Ко́пынь** 'капанка, крыніца, капаная сажалка' (Бяльк.). Гл. *капаць*. Да *копань*. Параўн. ст.-рус. *копань*, укр. *копань*, рус. *копань* 'тс'. Прасл. *kopanь* (Трубачоў, Эт. сл., 11, 16—17).

**Кор** 'адзёр' (Сл. паўн.-зах.). Параўн. рус. *корь* (там жа, 503). Запазычанне з рускай мовы.

**Ко́раб** 'пасудзіна, сплеценая з лубу, саломы і пад.' (ТСБМ, Сл. паўн.-зах., Нар. лекс., КЭС, лаг., Бяльк., Нар. сл., З нар. сл.), *корабам стаць* 'павялічыцца, расшырыцца (пра галаву)' (Жыв. сл.), *пойны кораб, сем корабаў, як з кораба* 'у вялікай колькасці' (ТСБМ). Укр. *короб*, рус. *короб*, ст.-рус. *коробъ* 'тс', славен. *kraba* 'каробка', польск. *kroba* 'плеценая каробка'. Мы не бачым магчымасці для рэканструкцыі прасл. *korbъ*, паколькі няма надзейных паўднёваславянскіх адпаведнікаў. Славен. *kraba* — новае запазычанне з іншых славянскіх моў (Безлай, 2, 77). Таму трэба вярнуцца да этымалогіі Міклашыча (130), згодна з якой у гэтым выпадку мы маем справу з запазычаннем з лац. *corbis* 'карзіна' (непасрэдна або праз с.-в.-ням. *korb* 'тс'). Гл. таксама Бернекер, 1, 568—569; Брукнер, 267. Фасмер (2, 331), які зыходзіць выключна з фанетычных крытэрыяў, разглядае лацінскія, германскія і нават літ. *kar̃bas*, лат. *kar̃ba* як спрадвечна родныя са славянскімі. Параўн. Фрэнкель, 220, дзе балтыйскія лексемы лічацца славянізмамі.



**Ко́рак**₁ 'вонкавы адмерлы слой кары' (ТСБМ). Словаўтварэнне сведчыць аб запазычанні з польск. *korek* 'тс' (Слаўскі, 2, 485). Запазычанне *корак*₂ (гл.) і *корак*₃ (гл.) адбывалася аўтаномна ў розны час.

**Корак**₂ 'каблук' (Мат. Гом.), 'абцас' (Бяльк., Нас.). Укр. *корок* 'тс'. Запазычанне з польскай мовы (XVI ст.) (Слаўскі, 2, 484). Гл. *корак*₁ і *корак*₃.

**Корак**₃ 'корак, затычка' (ТСБМ, Сл. паўн.-зах., Сцяшк., ТС). Параўн. польск. *korek* (там жа, 503). Пазнейшае запазычанне з польскай мовы (XVIII—XIX стст.). Гл. *корак*₁ і *корак*₂.

**Ко́рань**₁ 'падземная частка расліны' (ТСБМ, Мат. Гом., Сл. паўн.-зах., Сцяшк.), 'настой з кораня' (Сл. паўн.-зах.). Укр. *корінь*, рус. *корень*, ст.-слав. **корень**, балг. *корен*, серб.-харв. *кȍрен*, славен. *korên*, польск. *korzeń*, чэш. *kořen* 'тс'. Да прасл. *kor-ьnь*. Параўн. літ. *kẽras* 'куст, корань' (Бернекер, 1, 570; Траўтман, 127).

**Ко́рань**₂ 'сядзіба' (Мат. Гом., Яшк.). Да *корань*₁ (гл.). Семантычны перанос 'вытокі расліны'>'вытокі чалавека'>>'родныя мясціны, сядзіба'.

**Ко́рань**₃ 'калодачны вулей' (Сл. паўн.-зах., З нар. сл.). Сувязь з *корань*₁ становіцца зразумелай, калі ўлічыць, што яго значэнне 'настой з кораня' і тое, што *«Купяць карэнь — бадаян, натруць каранік* (калодачны вулей.— *В. М.*), *запах давай, і пчолы сядуць»* (Сл. паўн.-зах., 2, 414—415).

**Ко́рба**₁ 'ручка, якой прыводзяць у рух што-небудзь' (ТСБМ, Нар. словатв.). Ням. *Kurbe* 'тс' (там жа, 714), 'вялікі свердзел' (Сцяшк.). Укр. *корба* 'тс'. Запазычанне праз польск. *korba* 'тс' з ням. *Kurbe* 'тс' (Слаўскі, 2, 474).

**Ко́рба**₂ 'прылада ў студні' (Жд. 2). Параўн. *кольба* (гл.). У гэтым спецыфічным значэнні запазычана праз польскую мову з с.-в.-ням. *kurbe* 'тс'.

**Корг** 'надводны або падводны камень' (Яшк.). Параўн.

рус. *корга* 'тс'. Распаўсюджанне на рускай поўначы сведчыць аб запазычанні з карэльск. *korgo* 'водмель' (Фасмер, 2, 323).

**Ко́рга** 'старая жанчына' (Нас., З нар. сл.). Наўрад ці звязана з рус. *карга, корга* 'варона' (насуперак Фасмеру (2, 323) і іншым прыхільнікам гэтай этымалогіі). *Карга* 'варона' — запазычанне з цюркскіх моў. Гл. *карга*, у якім адбылася кантамінацыя з *корга* 'старая'. Больш верагоднай здаецца сувязь з рус. *корга* 'крывое дрэва, дуга', якое звязана з рус. *коржавый* 'скурчаны, зморшчаны'. Параўн. серб.-харв. *кр̏жљав* 'каравы, чэзлы, змарнелы', славен. *kržljàv* 'каржакаваты, прысадзісты' (Міклашыч, 132; Безлай, 2, 105). Тое, што *корга* 'старая жанчына' звязваецца са значэннем 'сагнутая', пацвярджаецца ілюстрацыйным матэрыялам: *«Сагнулася як корга»* (Нас., 246).

**Корж** 'прэснае, сухое печыва з мукі' (ТСБМ, Нас., ТС, Сл. паўн.-зах.). Укр. *корж*, рус. *корж* 'тс'. Параўн. славен. *kȓž* 'булка' (Бернекер, 1, 667; Брукнер, KZ, 48, 210). Для рэканструкцыі прасл. *kъržь* не існуе дастатковых падстаў (адсутнічаюць паралелі ў іншых паўднёваславянскіх і заходнеславянскіх моў). Але таксама нельга дапусціць пазнейшае запазычанне ў славенскай мове (мы б чакалі **korž*).

**Корм** 'ежа жывёлы' (ТСБМ, Сл. паўн.-зах., Бяльк., Сцяшк., Сержп. Пр., Яруш.). Укр. *корм*, рус. *корм* 'тс', ст.-слав. **кръма**, балг. *кърма*, серб.-харв. *кр́ма*, славен. *kŕma* 'тс', польск. *karm*, чэш. *krm*, славац. *krm*, в.-луж. *korm*, н.-луж. *kjarm* 'тс'. Прасл. *kъrmъ* першапачаткова 'тлустая ежа', як аб гэтым можна меркаваць паводле ст.-слав. **кръмль** 'раскошнае жыццё, раскоша' і такіх адпаведнікаў, як прасл. *skormъ* (ст. рус. *скоромъ* 'тлушч', польск. *skrom* 'тс' і інш.). Тады *kъrmъ* і *skoromъ* суадносяцца як аблаўтныя ступені і.-е. (*s*) *korm-* / (*s*) *kr̥m-* (гл. Мартынаў, Этимология-1968, 17; Вештарт, Лекс. Палесся, 141). Спроба суаднесці прасл. *kъrmъ* з літ. *šérti* 'карміць' (Сольмсен KZ, 35, 483; Бэццанбергер BB, 17, 222) не пераконвае, бо пры гэтым дапускаецца чаргаванне гутуральных і *m*-суфіксацыя для славянскага назоўніка. Параўн. Петлева, Этимология-1974, 16—19. Іншыя этымалогіі неверагодныя.

**Ко́рмнік** 'кормны кабан' (ТСБМ, ТС, З нар. сл., Шат., Нар. лекс., Жд. 2). Параўн. серб.-харв. *кр̂мак* 'кабан', *кр̂мача* 'свіння'. Калі ўлічыць, што прыметнік *кормны* (гл.) таксама адносіцца да кабана, можна гаварыць яшчэ аб праславянскім семантычным пераходзе *kъrmiti* 'даваць ежу дзеля тлушчу'>'карміць кабана'. Параўн. *корм* (гл.).

**Ко́рмны** 'якога кормяць на забой, адкормлены' (ТСБМ, Шат., Бяльк., З нар. сл.). Гл. *кормнік, корм*.



**Ко́рнік** 'адказны за плыт у караване, гонцы' (Нар. лекс., Нар. сл.). Да **kъrmьnikъ* (**кормнік*>*корнік*). Гл. *карма*.

**Ко́рпацца** 'капацца, калупацца' (ТСБМ, ТС, Сл. паўн.-зах., Жд. 3, Жыв. сл., Сцяшк., Мат. Гом.). Укр. *корпати* 'калупаць, павольна рабіць што-небудзь'. Параўн. бел. *карпаць* (гл.) у значэнні 'кепска шыць' (Нас. 230). Апошняе звязана з рус. *корпать* 'зашываць адзенне, лапіць' і іншымі славянскімі паралелямі: серб.-харв. *кр́пати* 'лапіць абутак і адзенне', славен. *kŕpati* 'тс', польск. *karpać* 'лапіць адзенне', славац. *krpat'* 'тс'. Прасл. *kъrpati* вытворны дзеяслоў ад *kъrpa* 'лапік' (балг. *кърпа* 'анучка, лапік', серб.-харв. *кр̏па* 'тс', славен. *kŕpa* 'лапік', серб.-харв. *кр̏пље* 'від абутку', *kŕplja* 'тс', чэш. *krpec*, славац. *krpec*, польск. *kierpce* 'тс'). З гэтым славянскім словам, якое збераглося толькі спарадычна, генетычна звязана вядомая балтыйская назва абутку: ст.-прус. *kurpe*, літ. *kùrpė*, лат. *kur̃pe* (Тапароў, K — L, 323—333). Цікава, што першасны дзеяслоў літ. *kur̃pti* мае значэнне 'кепска шыць, вязаць'.

**Корт$_1$** 'грубая фабрычная тканіна' (ТСБМ, Сцяшк.). Запазычанне з польск. *kort* 'тс', якое з англ. *cord* 'тс' (Слаўскі, 2, 499).

**Корт$_2$** 'пляцоўка для гульні ў тэніс' (ТСБМ). Англ. *court* (там жа, 2, 715). Новае запазычанне з англійскай мовы праз рускую (Шанскі, 2,8, 336).

**Ко́рушка** 'невялікая прамысловая рыба атрада селядцовападобных' (ТСБМ). Ад фін. *kuore* (там жа, 2, 715). Запазычанне з фінскай мовы праз рускую (Шанскі, 2, 8, 342).

**Корх** 'мера даўжыні на шырыню далоні, кулак' (ТСБМ, Нас., Шат., Касп., Мат. Гом., ТС, Сл. паўн.-зах., КЭС, лаг., ЭШ). Укр. *корх*, рус. *корх* 'тс' (Фасмер, 2, 340). Аднак, зыходзячы з бел. *прыкархнуць* 'прытуліцца, заснуць', рус. *прикорхнутися* 'нахіліцца, сагнуцца', можна меркаваць, што першасным значэннем для *корх* было 'нешта сагнутае, скурчанае' (>'кулак'). Калі прыняць гэту гіпотэзу, мэтазгодна суаднесці *корх* з рус. *корг* 'кулак', *корга* 'крывое дрэва' (гл. *корга*). Фрыкатыўнае *г* магло перайсці ў *х*. Іншыя спробы этымалогіі зусім ненадзейныя.

**Ко́рхва** 'кошык, карзіна' (Мат. Маг.). Да *корх* (гл.).

**Ко́рцік** 'халодная колючая зброя, кінжал' (ТСБМ). Праз рускую мову запазычана (паўкалька) з італьянскай, параўн. італ. *cartello* 'нож' (Пізані, 38, 219).

**Корць** 'ахвота, імкненне' (Сцяшк. Сл.). Гл. *карцець*.

**Корч** 'пень, вывернуты з зямлі з карэннем' (ТСБМ, Шат., Касп., Сл. паўн.-зах., Сержп. Ск., Жыв. сл., Яруш., Нар. лекс., Сцяшк., КЭС, лаг., З нар. сл., Яшк.). Укр. *корч*, рус. *корч* 'тс', серб.-харв. *кр̂ч* 'выкарчаванае месца', славен.

*krč* 'тс', польск. *karcz*, чэш. *krč*, славац. *krč* 'тс'. На аснове гэтых паралелей можна рэканструяваць прасл. *kъrčь*. Далейшыя адпаведнікі вельмі ненадзейныя (параўн. Слаўскі, 2, 73).

**Ко́рчыцца** 'курчыцца' (ТСБМ, ТС, Сержп. Пр.). Гл. *курчыцца*.

**Ко́ршак** 'ястраб, каршун' (ТСБМ, ТС, Сл. паўн.-зах., Ян., Сержп. Грам., Сержп. Пр., Бяльк.). Гл. *каршун*.

**Кос** 'чорны дрозд' (Маш.). Укр. *кіс* 'тс', рус. *кос* 'шпак', балг. *кос* 'чорны дрозд', серб.-харв. *кôс*, славен. *kós* 'тс', польск. *kos*, чэш. *kos*, славац. *kos*, в.-луж. *kos*, н.-луж. *kos* 'тс'. Да прасл. *kosъ*, калі прыняць думку аб генетычнай сувязі з *kosъ* 'косы' (Ваян, RES, 35, 94—95). Этымалогія гэта цалкам адвольная. Таксама цяжка адказаць на пытанне, ці звязана генетычна **kosъ* з літ. *šẽše* 'тс' (Брукнер, 259) (параўн. прасл. *kosa* і ст.-інд. *śásati* 'рэжа'). Але найбольш верагодным здаецца вывядзенне славянскіх паралелей з прасл. *kopsъ* (Мейе, MSL, 18, 171—172), якое, аднак, мы лічым палеабалканізмам у праславянскай мове: ст.-грэч. κόψιχος κόσσυφος 'чорны дрозд'. Кноблах (Glotta, 57, 1—2, 76—77) звязвае абедзве назвы са ст.-грэч. κόπτω 'капаць' і прасл. *kopati*.

**Ко́слаўка** 'пасма мятага льну' (Сцяшк. Сл.). Да *космаўка*. Гл. *космы*.

**Ко́смас** 'сусвет' (ТСБМ). Праз рус. *космос* з грэч. κόσμος (Шанскі, 2, 8, 349).

**Ко́смы** 'пасмы валасоў' (ТСБМ, Нік. Напоў., Яруш., Мат. Гом.). Укр. *косм*, рус. *космы* 'тс', ст.-рус. *космъ* 'пасма валасоў', балг. *косъм* 'волас', макед. *косма*, славен. *kósma* 'тс', польск. *kosm* 'пасма валасоў', чэш. *kosm* 'тс', в.-луж. *kosm* 'волас'. Прасл. *kosmъ* было ў апошні час супастаўлена (Кноблах і Трубачоў, Эт. сл., 11, 147) са ст.-грэч. κόσμος 'парадак, аздабленне'. У сувязі з гэтым паўстае пытанне аб ідэнтычным паходжанні ст.-грэч. κόμη 'валасы' (**kosmā*> >**komā* — там жа). Менш надзейная сувязь з прасл. *kosa* з далучэннем функцыянальна няяснага фарманта *-m-*. Гл. SP, 2, 13.

**Ко́стачка** 'лёска' (Мат. Гом.). Да *косць* (гл.).

**Ко́стур** 'мыліца' (Ян.). Укр. *костур*, рус. *костур* 'тс', балг. *костур* 'шкілет, ножык', серб.-харв. *кòстура* 'кішэнны ножык, брытва', *костур* 'шкілет', славен. *kostûra* 'складаны нож', польск. *kostur* 'касцяная палка, мыліца', чэш. *kostur* 'дубінка', славац. *kostur* 'нож'. Да назваў вырабаў з косці або з дрэва і косці. Прасл. *kosturъ* з *kostь* пры дапамозе суфікса *-urъ* (гл. SP, 2, 26). Параўн. Трубачоў, Эт. сл., 11, 165—166.



**Косць** 'частка шкілета' (ТСБМ, ТС, Сл. паўн.-зах., З нар. сл., Нар. словатв., Яруш., КЭС, лаг.). Укр. *кість*, рус. *кость*, ст.-рус. *кость* 'тс', ст.-слав. **кость**, балг. *кост*, серб.-харв. *кôст*, славен. *kôst* 'тс', польск. *kość*, чэш. *kost*, славац. *kosť*, в.-луж. *kosć*, н.-луж. *kosć*, палаб. *t'üst* 'тс'. Прасл. *kostь* генетычна не суадносіцца з лац. *costa* 'рабро' (насуперак Бернекеру, 1, 1, 582). Серб.-харв. *кôст* у значэнні 'рабро' мае другаснае паходжанне. Апрача гэтага, прасл. *rebro* 'рабро' нельга разглядаць як пазнейшую праславянскую інавацыю, паколькі яно мае надзейны адпаведнік у прагерм. *rebia* (ст.-ісл. *rif*, ст.-англ. *ribb*, с.-в.-ням. *rippa*). Таму больш перспектыўным з'яўляецца суаднясенне з хет. *hastai*, ст.-інд. *ásthi*, ст.-іран. *asti*, ст.-грэч. ὀστέον, лац. *ōs*, *ōssis* 'косць' (Мейе, RES, 3, 197; Мейе, RES, 5, 8—9. Параўн. Шрэдар, Sprache, 9, 1, 11; Хэмп, KZ, 98, 1). Гэта група лексем характарызуецца *ĭ*-асновай, што з'яўляецца дадатковым аргументам да семантычнага. Адзіную цяжкасць складае «рухомае *к*», якое атрымлівае тлумачэнне як узнікшае ад прасл. *x*. Такім чынам, *kostь*<**xostь* пад уздзеяннем дысіміляцыйных тэндэнцый. Параўн. прасл. *kamy* 'камень' і ст.-інд. *áśmaḥ* 'тс' (Мартынаў, Слав. акком., 160—162).

**Кось-кось** 'падзыванне коней' (ТСБМ, ТС, Нар. лекс., Бяльк., З нар. сл.). Гл. *кося-кося* і *кося*.

**Ко́ся-ко́ся** 'падзыванне коней' (Ян., З нар. сл.). Гл. *кося*.

**Ко́ся** 'ласкальная назва каня' (ТСБМ, Нас., Шат., Касп., ТС, Яруш., Бяльк.). Магчыма, пры дапамозе гіпакарыстычнай суфіксацыі на *-asia* ад *konь*: **koniasia*>*kosia*. Гл. SP, 2, 33.

**Кот**$_1$ 'самец кошкі' (ТСБМ, ТС, Сл. паўн.-зах., Жд. 2, Бяльк., Сцяшк., Сержп. Пр.). Укр. *кіт*, рус. *кот*, ст.-рус. *котъ* 'тс', балг. *кот*, серб.-харв. *кот* 'тс', польск. *kot*, чэш. *kot*, славац. *kot*, н.-луж. *kot* 'тс'. Відавочна, культурнае запазычанне з лац. *cattus* 'тс'. Магчыма, праз германскае пасрэдніцтва. Параўн. Трубачоў, Происх., 96; Трубачоў, Эт. сл., 11, 210—211.

**Кот**$_2$ 'народная назва грыба (пеўнік стракаты)' (Жыв. сл.). Да *кот*$_1$ (гл.) па прыкмеце стракатасці.

**Кот**$_3$: *котам скаціцца* 'адубеўшы, скарчанеўшы'. Да *каціць* (гл.).

**Ко́тачкі** 'прадаўгаватыя брускі, на якія падвешваюцца ніты ў кроснах' (Сцяшк.). Гл. *каты*.

**Ко́тва** 'месца, дзе на вялікдзень качалі яйкі' (Нар. сл.). Да *катаць* (гл.).

**Ко́тец** 'возера' (Эрем.). Укр. *котець* 'загародка з чароту для лоўлі рыбы', рус. *котец* 'штучны вадаём, садок', балг. *коце*, макед. *котец*, серб.-харв. *кòтац* 'тс'. Да *каціць* (Тапароў, Этимология-1971, 289, 297).

**Ко́тка** 'кошка' (ТСБМ, Сл. паўн.-зах., Жд. 2, КЭС, лаг., Нік. Очерки, Сцяшк.). Гл. *кот*.

**Ко́ткі**$_1$ 'канюшына пашавая' (Нар. лекс.). Да *кот*$_1$. Гл. *коцікі, коцы*.

**Ко́ткі**$_2$ 'матавіла' (Сцяшк.). Да *кот*$_3$ (гл.).

**Ко́тла** 'бярлога' (Сержп. Грам.), 'род' (Сержп. Ск.). Магчыма, да *кацідца* (гл.). Тады *kot-lo*<*kotiti*, як *maslo*<*maza-ti*. Ваян (RES, 13, 251) бачыў у рус. *кодло* тое ж вытворнае слова. Параўн. *кодла* (гл.), *котлішча* (гл.).

**Ко́тлік** 'від гэбля' (Жыв. сл.). Да *каціць* (гл.). Тады *котлік*<*кот-ло*+*-ік*.

**Ко́тлішча** 'месца жыхарства, сяліба', 'род, сям'я' (ТСБМ, Яшк., Мат. Гом., Сл. паўн.-зах.), 'выкачанае месца' (Шат., Ян.), 'адкрытае бяздонне на балоце' (ТС). Не выключана, што *котлішча* ў значэнні 'выкачанае месца' толькі амонім іншага паходжання (да *каціць*). Котлішча ў значэнні 'сяліба, род' і г. д. генетычна звязана з *котла* (гл.).

**Ко́тная** 'цяжарная (пра авечку, казу)' (ТСБМ, ТС, Сл. паўн.-зах.). Гл. *кацідца*.

**Коў-коў** 'падзыўное слова для свіней'. Няясна.

**Коўб**$_1$ 'невялічкая рачная рыба' (Нар. лекс.). Параўн. *келб* (гл.).

**Коўб**$_2$ 'свіны страўнік' (Нар. словатв., Нар. лекс.), 'страўнік у жывёл' (Мат. Гом.). Укр. *ковбик, ковбік* 'тс'. Апошняе разглядаецца як кантамінацыя *ковбан* 'калода, цурбан' і 'каўбаса' (маецца на ўвазе страўнік, начынены мясам) (ЕСУМ, 2, 479). Вельмі праблематычна. Больш верагодна да *коўп*$_1$ (гл.).

**Коўб**$_3$ 'вузел валасоў, закручаных на патыліцы' (Мат. Гом.). Параўн. укр. *ковбешка* 'галава', якое таксама звязваецца з *ковбан* 'калода, цурбан' (ЕСУМ, 2, 481). Ненадзейна. Ці не звязана з *каўпак* (гл.)?

**Ко́ўдра** 'пасцельная рэч, якою накрываюцца' (ТСБМ, ТС, Сл. паўн.-зах., Шат., Касп., Бяльк., Шпіл., Нар. словатв., Яруш., Сцяшк., КЭС, лаг., Гарэц., Шпіл.). Укр. *ковдра* 'тс'. Запазычанні з польск. *kołdra* 'тс', якія разам з іншымі заходнеславянскімі назвамі *коўдры* паходзяць з італ. *coltra* 'пакрывала' (ЕСУМ, 2, 482; Слаўскі, 2, 366).

**Ко́ўзацца** 'катацца па слізкай паверхні' (ТСБМ, Нас., Шат., Касп., ТС, Сл. паўн.-зах., Жд. 3, Бяльк., Федар. Рук., КЭС, лаг., Янк. Мат.). Укр. *ковзатися*, рус. *колзать* 'тс', польск. *kiełzać sie*, чэш. *klouzati se*, славац. *kl'zat'* 'тс'. Адсутнасць адпаведнікаў у паўднёвых славян вымушае сумнявацца ў праславянскім характары **kъlzati* (параўн. ЕСУМ, 2, 483).



**Ко́ўзні** 'рукавіцы' (Мат. Гом., Маш.). Да *коўзацца?* (гл.). Семантыка незразумелая.

**Ко́ўка**$_1$ 'дзеянне паводле дзеяслова *каваць*' (ТСБМ) (гл. *каваць*).

**Ко́ўка**$_2$ 'доўгі шост з патаўшчэннем на канцы' (Сл. паўн.-зах.). Параўн. літ. *kúoka* 'дубіна' (там жа, 2, 508), 'калатушка для разбівання камякоў на раллі' (Касп.). Запазычанне з літоўскай мовы.

**Коўп**$_1$ 'страўнік у жывёл, птушак' (Нар. сл., Сл. паўн.-зах.). Да *коўп*$_2$ (гл.). Параўн. *коўб*$_2$ (гл.).

**Коўп**$_2$: *з коўпам* 'з верхам' (Федар.). Балтызм. Параўн. літ. *kaũpas* 'тое, што насыпаецца з верхам, звыш меры', *su kaupù*=*з коўпам* (Лаўчутэ, Балтизмы, 115).

**Ко́ўраты** 'вароты' (Мат. Маг., Бяльк., Юрч.). Укр. *коворот* 'вароты каля ўваходу ў сяло', рус. *ковopam* 'стоўб, да якога прымацоўваюцца вароты'. Магчыма, мы маем справу тут з прэфармантам *ко-, к-*. Параўн. ЕСУМ, 2, 485.

**Коўт** 'конскі кал' (Бяльк.). Параўн. укр. *ковтях* 'тс'. Украінская форма, відаць, узыходзіць да *ковтях* 'пасма збітага валосся'. У сваю чаргу апошняе да *каўтун* (гл.) (ЕСУМ, 2, 488). Такім чынам, бел. *коўт* можна разглядаць як выпадак зваротнага словаўтварэння да *каўтун*. Гл. *каўцях*.

**Ко́ўтаб** 'мелкае азярцо на лузе' (Яшк.). Параўн. укр. *ковтеб, ковдоба* 'тс' (ЕСУМ, 2, 487). Гл. *каўдоба*.

**Ко́ўтун**$_1$ 'каўтун' (Мат. Гом.). Гл. *каўтун*.

**Ко́ўтун**$_2$ 'губа' (Мат. Гом.). Да *коўтун*$_1$ (гл.). Семантычны пераход 'патаўшчэнне'>'губа'.

**Коўх** 'удар кулаком' (Нас.). Да *корх* (гл.).

**Ко́ўцеб** 'возера' (Мат. Гом.). Гл. *коўтаб*.

**Коўць** 'глыток' (ТС, Мат. Гом., Жыв. сл., Янк. I). Гл. *каўтаць*.

**Ко́ўча**$_1$ 'штосьці нязграбнае, бясформеннае' (ТС). Да *коўчаць* (гл.).

**Ко́ўча**$_2$ 'пакручаная траста льну' (Сл. паўн.-зах.). Гл. *коўча*$_1$. Да *коўчаць* (гл.).

**Ко́ўчала** 'бессаромны, балбатун' (Нар. лекс.). Гл. *коўчаць*.

**Ко́ўчаць** 'мяць, жаваць' (Мат. Гом., Жыв. сл., Янк. III). Гл. *коўча*$_1$.

**Коўш** 'шырокая круглая пасудзіна з ручкай для зачэрпвання вадкасці' (ТСБМ, Нас., Шат., Касп., Мат. Гом., ТС, Жд. 2, Яруш., З нар. сл., Бяльк., Маш., Федар. Рук., Чудов., КЭС, лаг., Сл. паўн.-зах.). Параўн. літ. *káušas* 'тс' (там жа, 2, 509). Укр. *ківш*, рус. *ковш* 'тс', польск. *kowsz* 'тс'. Запазычанне з літ. *káušas* тс'. Гл. Урбуціс, Baltistica, 5 (1),

62; Непакупны, Мовазнаўство, 1970, 6, 35; Адкупшчыкоў, Baltistica, 6 (2), 185—192; Лаўчутэ, Балтизмы, 13—14.

**Ко́ўшык** 'Малая Мядзведзіца' (Мат. Гом.). Да *коўш* (гл.).

**Ко́фе** 'трапічнае дрэва або куст сямейства марэнавых', 'насенне гэтага дрэва', 'напітак, прыгатаваны з гэтага насення' (гал. *koffee* з араб.) (ТСБМ). Запазычанне праз рус. *кофе* з англ. *cofee* (Шанскі, 2, 8, 361).

**Ко́фта** 'верхняе кароткае жаночае адзенне' (ТСБМ). Запазычанне з польск. *kofta* (Шанскі, 2, 8, 362).

**Кох** 'пра квактанне' (Нар. лекс., Янк. I, Кліх, Мат. Гом., Мядзв.). Гукапераймальнае. Параўн. *кохаль* (гл.).

**Ко́халь** 'коклюш' (Сл. паўн.-зах., Мат. Гом.). Гукапераймальнае. Параўн. *кашаль* (гл.) і *кох-кох*.

**Ко́хлік** 'коклюш' (ТСБМ, Сл. паўн.-зах., КЭС, лаг., З нар. сл., ЭШ, Сцяшк., Бяльк.). Гл. *кохаль*. Тады *кохаль>*кохль >кохлік* з памяншальнай суфіксацыяй.

**Ко́хта** 'кофта' (ТС, Ян., Бяльк., Мат. Гом., Сцяшк.). Гл. *кофта*.

**Коц** 'коўдра фабрычнага вырабу' (Сцяц., Сл. паўн.-зах.), 'коўдра саматканая' (Нас., Мат. Гом., Ян., Нар. сл., Сцяшк.), 'саламяная коўдра' (Рам.), 'кілім' (Грыг.). Ст.-бел. *коцъ* 'коўдра, кілім'<с.-в.-ням. *kotze* 'тс' (Чартко, Дасл., 56).

**Ко́цікі** 'раллёвая канюшына' (ТС, Сл. паўн.-зах., Нар. лекс.). Параўн. *коткі*$_1$ (гл.).

**Ко́цы** 'трава, садраная пластом' (ТС). Да *коцікі* (гл.).

**Ко́цях** 'мурза' (Клім.). Магчыма, да *каўцях*. Гл. *коўт*.

**Коч** 'брычка' (Шпіл., Др.-Падб., Гарэц., Шн.). Укр. *коч* 'тс'. Запазычанне праз польск. *kocz* 'тс' з венг. *kocsi* 'тс' (гл. Слаўскі, 2, 320).

**Кош**$_1$ 'плеценая з лазы, карэння і інш. круглая пасудзіна для складання і пераноскі чаго-небудзь' (ТСБМ, Нас., Шат., ТС, Сл. паўн.-зах., З нар. сл., Бяльк., Сцяшк., КЭС, лаг., Мат. Гом., Яруш.). Укр. *кіш*, рус. *кош*, ст.-рус. *кошь* 'тс', ст.-слав. **кошь**, балг. *кош*, макед. *кош*, серб.-харв. *кȍш*, славен. *kòš* 'тс', польск. *kosz*, чэш. *koš*, славац. *koš*, в.-луж. *koš*, н.-луж. *kós* 'тс'. Паколькі прасл. *košь* не мае адпаведнікаў у іншых індаеўрапейскіх мовах і ў той жа час нібы вытворнае ад яго *košelь* мае надзейны лацінскі адпаведнік (гл. *кашэль*), можна меркаваць, што ў даным выпадку маем справу са зваротным словаўтварэннем: *košelь>košь*. Прасл. *košelь* разглядаем як пранікненне з італійскіх моў (~лац. *qualum<*kua-slom*) (Мартынаў, Изоглоссы, 10), якое ў працэсе адаптацыі на славянскай моўнай глебе стала разглядацца як вытворнае з суфіксам *-elь* (гл. SP, 1, 208).



**Кош**$_2$ 'Вялікая Мядзведзіца' (Нар. лекс.). Да *коўш*. Параўн. *коўшык* (гл.).

**Ко́шка**$_1$ 'касільна' (Маш.). Гл. *кошка*$_2$.

**Ко́шка**$_2$ 'прыстасаванне ў выглядзе якара для падымання прадметаў з вады' (ТСБМ, Нар. словатв., Ян.). Да *кошка* 'самка ката'. Гл. *кот*$_1$.

**Ко́шка**$_3$ 'вілы для гною, бусак' (Мат. Гом.), 'матыка' (Мат. Маг.). Гл. *кошка*$_2$.

**Ко́шка**$_4$ 'народная назва грыба пеўнік стракаты' (Жыв. сл.). Гл. *кот*$_2$.

**Ко́шкаць** 'шукаць яйкі дзікіх птушак' (ТС, Нар. словатв.), 'капаць, грэбаць' (Сл. паўн.-зах., Федар. Рук.). Да *кешкацца* (гл.). Вакалізм, магчыма, пад уплывам *кошка*$_3$ (гл.).

**Ко́шла** 'жанчына з недагледжанымі, калматымі валасамі' (Нар. сл.). Да *кашлаты* (гл.).

**Ко́шна** 'мокра, сыра' (Сцяшк. Сл.). Няясна.

**Кошт** 'выражаная ў грашах вартасць чаго-небудзь' (ТСБМ, Нас., Шат., ТС, Сл. паўн.-зах., Яруш., Бяльк.). Ст.-бел. *коштъ* 'тс' (з 1565 г.) (Булыка, Запазыч., 174). Запазычанне праз польск. *koszt* з с.-в.-ням. *kost* (Слаўскі, 2, 544).

**Ко́шуць** 'перхаць' (Сцяшк.). Рус. *кошуть* 'тс'. Параўн. *кашута* 'тс'. Разглядаецца як вытворнае ад *часаць* (гл.). Эвалюцыя форм наступная: *česati~*kos-j-ota>кашута* (Мяркулава, Этимология-1970, 169), *кошуць<*kos-j-ot-ь*. Параўн. таксама Трубачоў, Эт. сл., 11, 191.

**Ко́шчыць** 'драпаць зямлю (пра курэй)' (Жыв. сл.). Параўн. польск. *kościć* 'паскудзіць'. Інтэрпрэтуецца як зваротнае вытворнае да *пакосць* (гл.).

**Ко́шык** 'від жаночай прычоскі' (Мат. Гом., Сцяшк.). Да *кош* (гл.).

**Ко́шычак** 'задняя лапка пчалы' (Мат. Гом.). Параўн. *карзіначка* 'тс'. Да *кош*$_1$ (гл.).

**Ко́яцца** 'здзекавацца' (Сл. паўн.-зах., Сцяшк.). Укр. *коїти* 'рабіць штосьці нядобрае', *коїтися* 'адбывацца (пра штосьці нядобрае)', польск. *koić się* 'тс'. Магчыма, да *чын* (гл.) (ЕСУМ, 2, 501—502).

**Кпіць** 'насміхацца' (ТСБМ, Нас., Шат., Касп., Мядзв., Гарэц., Мал., Грыг., Яруш., КЭС, лаг., Бяльк., Сержп. Грам., Булг.). Укр. *кпити* 'тс'. Запазычанне з польск. *kpić*, якое да *kiep* (Слаўскі, 3, 41).

**Кра**$_1$ 'шарош, крыгі' (Сл. паўн.-зах.). Ст.-рус. *кра* 'тс', польск. *kra*, чэш. *kra*, славац. *kra* 'тс'. Параўн. *крыга* (гл.). Прасл. *jьkra/ьkra*. Аднак гэта рэканструкцыя мае ўмоўны характар, бо толькі абмежаваная колькасць славянскіх моў фіксуе даную лексему. Адсутнасць паўднёваславянскіх адпавед-

нікаў таксама сведчыць супраць рэканструкцыі (параўн. Слаўскі, 3, 42).

**Кра**$_2$ 'ікра (жаб'я)' (Сл. паўн.-зах.). Гл. *ікра*$_1$.

**Краб** 'дзесяціногі кароткахвосты рак, пераважна марскі' (ТСБМ). Запазычана праз рус. *краб* з гал. *krab* (Фасмер, 2, 362).

**Кра́бкаца** 'карабкаца' (Нас.). Гл. *карабкаца*.

**Краве́ц**$_1$ 'спецыяліст па шыццю адзення' (ТСБМ, Нас., Шат., Касп., ТС, Сл. паўн.-зах., Бяльк., Мядзв., Грыг., Мал., Сержп. Ск., Сержп. Грам., Шпіл.). Параўн. укр. *кравець* і рус. (зах.) *кравец* 'тс'. Геаграфія сведчыць у карысць запазычання з польск. *krawiec* 'тс' (Слаўскі, 3, 71; Кюнэ, Poln, 68).

**Краве́ц**$_2$ 'від рака' (Дэмб. II, Яшк.). Да *кравец*$_1$ (гл.).

**Кра́гі** 'скураныя накладныя халявы з зашпількамі' (ТСБМ), 'скураныя рукавіцы' (Сл. паўн.-зах.). Праз рус. *краги* са швед. *krag* (Фасмер, 2, 363).

**Крагліца** 'труска' (Сл. паўн.-зах.). Гл. *краголь*.

**Краго́ль** 'трус' (Сцяшк. Сл.). Ці не звязана з *кароль* 'тс' (гл.)?

**Крадзе́ж** 'тайнае прысвойванне чыёй-небудзь уласнасці' (ТСБМ, Нас., Касп., Яруш.). Гл. *красці*.

**Крадко́м** 'употай, скрытна' (ТСБМ). Гл. *красці*.

**Кра́ец** 'акраец, луста, скіба' (Нас., Др.-Падб., Гарэц., Бяльк., Мат. Маг.). Гл. *краяць*.

**Краж** 'ланцуг невысокіх гор' ТСБМ), 'камель, цурбан' (Сл. паўн.-зах.). Укр. *кряж* 'пагорак', ст.-рус. *кряжь* 'брус'. Да *krężь*, якое з'яўляецца аблаўтным варыянтам да *krǫgъ* 'круг, кольца' (Фасмер, 2, 391).

**Кра́жды** 'вяснушкі' (Сцяшк. Сл.). З літ. *krẽgždenos* 'тс'.

**Кражні́к** 'сасновы лясок' (Мат. Маг.). Гл. *кражняк*.

**Кражня́к** 'камель (тоўсты)' (Мат. Гом.). Гл. *краж*.

**Краі́на** 'мясцовасць, тэрыторыя' (ТСБМ, Шат., Яшк., Сл. паўн.-зах.). Гл. *край*$_1$.

**Край**$_1$ 'канечная лінія, вобласць, мясцовасць' (ТСБМ, Нас., Шат., Касп., Яруш., ТС, Кліх, Сл. паўн.-зах., Мал., Ян.), 'бераг' (Федар.), 'кавалак' (Грыг.). Укр. *край*, рус. *край*, ст.-слав. **краи**, балг. *край*, серб.-харв. *кра̑j*, славен. *kràj*, польск. *kraj*, чэш. *kraj*, в.-луж. *kraj*, прасл. *krajь*, якое генетычна суадносіцца з *krojiti* (гл. *кроіць*) (Бернекер, I, 605; Траўтман, 141).

**Край**$_2$ 'вельмі' (Мат. Маг., Яўс., Сцяшк., Юрч.). Гл. *край*$_1$.

**Кра́йка** 'пояс' (Нар. лекс., Мат. Маг., ТС, Юрч.). Гл. *край*$_1$.

**Кракаві́на** 'жабурынне' (Сл. паўн.-зах., Мядзв.). Гл. *кракта́вінне*$_2$.

**Кракаві́ца** 'дрыгва' (Яшк.). Гл. *кракта́вінне*$_1$.

**Кракаво́ран** 'груган' (ТС). Магчыма, адзін са слядоў



лакальнага гоцкага ўплыву. Пра гоцкія назвы для Corvidae мы нічога не ведаем, але верагодна, што яны супадалі з паўночнагерманскімі, дзе *krakr* 'воран', *kráka* 'варона'. Ясныя сляды германскага (гоцкага) уплыву мы знаходзім у кашубскім арэале. Параўн. адпаведна славін. *krak* 'воран', кашуб. *kraka* 'варона' (Мартынаў, Бел.-польск. ізал., 96).

**Кракадзі́л** 'буйны паўзун з тоўстай панцырнай скурай' (ТСБМ). Ст.-бел. *крокодилъ* пры пасрэдніцтве польск. *krokodyl* або ням. *Krokodil* з лац. *crocodilus* (Булыка, Запазыч., 177). Параўн. Шанскі, 2, 8, 403.

**Кракасо́вы** 'чырвона-жоўты' (Сцяшк. Сл.). Гл. *кракозавы*.

**Кракаці́нне** 'жабурынне' (КЭС, лаг.). Гл. *кракта́вінне*$_2$.

**Кра́каць** 'крычаць (звычайна пра качак, варон і некаторых іншых птушак)' (ТСБМ, Нас., Мат. Гом., ТС, Сл. паўн.-зах., Яруш.). Укр. *кракати*, рус. *кракать*, ст.-рус. *кракати* 'тс', серб.-харв. *кра̂кати* 'квакаць, кудахтаць', славен. *krâkati* 'каркаць', польск. *krakać*, чэш. *krakati*, славац. *krákat'*, н.-луж. *kŕakaś* 'тс'. Прасл. *krakati* — гукапераймальная лексема. Бліжэйшая індаеўрапейская паралель — лац. *crōcio, crōcīre* 'каркаць' (Бернекер, I, 603; Трубачоў, Эт. сл., 12, 92).

**Кракв́а** 'дзікая качка' (Нас., Касп.). Гл. *кракаць*.

**Краке́т** 'гульня, у якой драўляныя шары праводзяцца праз драцяныя варотцы ўдарамі драўляных малаткоў' (ТСБМ). Запазычанне праз рус. *крокет* з англ. *croquet* (Шанскі, 2, 8, 402).

**Крако́с** 'наготкі' (Сл. паўн.-зах.). З польск. *krokus* 'шафран' (там жа, 2, 513).

**Крако́ўша** 'сіваваронка' (Дразд.). Параўн. *кракаворан* (гл.).

**Кракта́вінне**$_1$ 'дрыгва' (Сцяшк. Сл.). Гл. *кракавіца*. Магчыма, да ўкр. *крак* 'куст, зараснік'. Форма *кракта́вінне* пад уплывам *кракта́вінне* 'жабурынне'.

**Кракта́вінне**$_2$ 'жабурынне' (Янк. III, Янук., Сл. паўн.-зах.). Параўн. *кракавіна, кракацінне* 'тс' (гл.). Відаць, кантамінаваныя формы ад *кракта́вінне*$_1$ і *кракавіца* і *квактанне* 'жабурынне' (гл.). Гл. таксама *кракта́ць*.

**Кракта́ць** 'выдаваць ціхія адрывістыя гукі, падобныя да *крэ-крэ* (пра жаб)' (ТСБМ). Гукапераймальнае.

**Кра́лі** 'бусы' (Нас., Касп., Сл. паўн.-зах., Бяльк., Нік. Очеркі, Мядзв., Мат. Маг., Юрч.). Ст.-бел. *корали, карали* 'каралі' (з 1578 г.). Запазычанне з польск. *korale* 'тс' (Булыка, Запазыч., 171). Форма *кралі*, магчыма, пад уплывам *краля* (гл.).

**Краліца** 'труска' (Сцяшк. Сл., Ян., Мат. Гом.). Гл. *кароль*$_2$. Магчыма, пад уплывам *краля* (гл.).

**Кра́ля** 'красуня, прыгажуня' (ТСБМ, Шат., Бяльк., Жд. 3, Сержп. Ск.), 'дама (карта)' (Нас., Яруш.). Запазычанне праз

польск. *krala* з чэш. *kralka* 'каралева (у картах)' (Слаўскі, 3, 55—56).

**Кра́ма**₁ 'магазін, лаўка' (ТСБМ, Нас., Шат., Касп., Сл. паўн.-зах., Бяльк., Грыг., КЭС, лаг., Мал., Сцяшк., Шпіл., Яшк. IV). Ст.-бел. *крама, крамъ* (з 1582 г.) з польск. *kram* 'тс' (Булыка, Запазыч.). Параўн. Слаўскі, 3, 56; Кюнэ, Poln., 67.

**Кра́ма**₂ 'тканіна' (З нар. сл., Бір.). Гл. *крама*₁.

**Крама́ль** 'спражка' (Сл. паўн.-зах.). Параўн. ням. *Klammer* 'тс' (там жа, 2, 514). Новае запазычанне з нямецкай мовы.

**Крама́р** 'прадавец, лавачнік' (Сл. паўн.-зах., Др.-Падб., Сержп. Ск., Сцяшк.). Гл. *крама*₁.

**Крама́ч** 'нож з паламаным лязом' (Янк. Мат., КЭС, лаг., Нар. сл.). Параўн. ст.-рус. *крома* 'кавалак, нешта адломанае, адрэзанае'. Суфіксацыя на *-ач* для назваў прадметаў па ўласцівасцях (Сцяцко, Афікс. наз., 31—32).

**Крамдашы́н** 'крэпдэшын' (Нар. сл., Сцяшк.). Гл. *крэпдэшын.*

**Крамзла́** 'храсток' (Сл. паўн.-зах.). Параўн. літ. *kremzlẽ* 'тс'. Запазычанне з літоўскай мовы. Гл. Грынавецкене і інш. LKK, 16, 179; Лаўчутэ, Балтизмы, 68.

**Крамзо́лі** 'каракулі' (ТСБМ). Гл. *крэмзаць.*

**Крамлі́вы** 'моцны як крамень' (Сцяшк.). Гл. *крэмень.*

**Кра́мля** 'спражка' (Ян.). Гл. *крамаль.*

**Крамо́к** 'ножык з кароткім ці паламаным лязом' (Яўс.). Гл. *крамач.*

**Крампава́цца** 'намагацца' (З нар. сл.). З польск. *krępować się* 'абмяжоўвацца, стрымлівацца'. Семантыка не зусім ясная. Магчыма, аднак, кантамінацыя з *крапцаваццa* (гл.).

**Крампа́дла** 'калочак для звязвання снапоў, кулёў' (Сл. паўн.-зах.). Параўн. польск. *krępować* 'звязваць' (там жа, 2, 515). Паланізм.

**Крампа́лак** 'кіёк для звязвання кулёў' (Сцяшк. Сл.). Гл. *крампадла.*

**Крамса́ла** 'красала' (Сцяшк. Сл., Мат. Гом.). Кантамінацыя *крэсала* (гл.) і *крамсаць* (гл.).

**Крамса́ць** 'крэмзаць, крамсаць' (ТСБМ, Яўс., Др.-Падб., Гарэц.). Параўн. *крэмзаць* (гл.). Інтэнсіўны дзеяслоў з суфіксацыяй на *-sati* (SP, 1, 51) да *kromiti* ад *kroma.* Параўн. *крамач* (гл.).

**Крамяне́ц** 'садок' (Мал., Яшк.). Як нешта адакрэмленае да *кром*₂ (гл.).

**Крамяне́ць** 'красаць агонь' (Сержп. Ск.). Гл. *крэмень.*

**Крамянёвы** 'зроблены з крэменю' (ТСБМ). Гл. *крэмень.*

**Крамянчу́к** 'моцны, здаровы хлапчук' (ТС). Кантамінацыя *крэмень* (гл.) і *хлапчук* (гл.).



**Крамя́ны** 'пругкі, цвёрды, сакавіты' (ТСБМ, Сл. паўн.-зах., КЭС, лаг., Гарэц., Др.-Падб.). Параўн. рус. *кремь* 'частка лесу з найлепшымі здаровымі дрэвамі'. Гл. *крэм*₂.

**Кран** 'прыстасаванне для выпускання вадкасці або газаў' (ТСБМ, Яруш.). Гал. *kraan* (там жа, 2, 722). Запазычана праз рус. *кран* з гал. *kraan* або ням. *Krahn* (Шанскі, 2, 8, 370).

**Крана́ць** 'датыкацца да чаго-небудзь, чапаць' (ТСБМ, Сл. паўн.-зах., КЭС, лаг., Гарэц., Мядзв). Да **кратнуць*. Спачатку *крануць* (<**кратнуць*). Потым па аналогіі *кранаць.* Гл. *кратаць*₂.

**Крант** 'кран' (Нас., Шат., Касп., Яўс., Др.-Падб., Гарэц.). Да *кран* (гл.). Канцавое *т* незразумела.

**Крап** 'дробныя плямкі другога колеру' (ТСБМ). Гл. *крапаць.*

**Крапа́к** 'чалавек моцнага целаскладу' (ТСБМ), 'моцнае яйцо' (Мат. Гом.). Да *крэпкі* (гл.).

**Крапа́нік** 'піражок, начынены цыбуляй з алеем' (Нар. лекс.), 'бульбяны піражок з капустай' (Жд. 2). Гл. *крапанка.*

**Крапа́нка** 'начынка' (Касп.). Гл. *крапаць*₂.

**Крапа́ць**₁ 'падаць дробнымі кроплямі, пырскаць, пакрываць крапінамі' (ТСБМ, ТС, Сл. паўн.-зах.). Да *крапіць*₁ (гл.).

**Крапа́ць**₂ 'начыняць, фаршыраваць' (Сл. паўн.-зах., Малч., Шн., Нар. сл.). Ці не да *корпацца* (гл.)?

**Крапе́ж** 'месца, куды сцякае вада са страхі' (Яшк., Янк. Мат., Жд. 2). Да *крапаць* (гл.). Як *капеж* (<*капаць*) утворана пры дапамозе суфікса *-еж* (Сцяцко, Афікс. наз., 36).

**Крапе́ц** 'свінакроп', 'сіт' (Сл. паўн.-зах.). Да *крап* (гл.).

**Крапіва́** 'травяністая расліна сямейства крапіўных' (ТСБМ, Касп., Сл. паўн.-зах., Бяльк., Жд. 2, Кіс., Нар. лекс., Жыв. сл., Сержп. Грам., Янк. II, Яруш., Др.-Падб., Сцяшк.). Укр. *кропива*, рус. *кропива*, ст.-рус. *кропива* 'тс', балг. *коприва*, серб.-харв. *ко̀прива*, славен. *kopríva* 'тс', польск. *pokrzywa*, чэш. *kopřiva*, славац. *koprva*, в.-луж. *kopřiwa*, н.-луж. *kopśiwa*, палаб. *küöpreiva* 'тс'. Прасл. *kopriva* не мае надзейнай этымалогіі. Перш за ўсё нельга не адзначыць падобнасць словаўтваральнай структуры славянскай лексемы да італійскай. Таму трэба думаць аб магчымасці адпаведнай крыніцы. У якасці вельмі асцярожнай гіпотэзы можна дапусціць італійскую крыніцу: **kapr-iva*. Каранёвая частка гэтай рэканструяванай формы ўзыходзіць да назвы казы (лац. *capra* 'каза'). Тады гэта «казіная трава» (параўн. *казіна* 'дзікая трава, неўрадлівая, забалочаная сенажаць, дзе расце вельмі жорсткая, дзікая трава (пустазелле)' або ў адпаведнасці з іншай матывацыяй 'едкая'). Параўн. сінонім да *казлы, казялкі* —

*казялец едкі* і сінонім да *крапіва — жыгучка, жгучка*. Згодна з традыцыйнай версіяй, да *koprъ* 'кроп' (Младенов, РФВ, 68, 384—386). Семантычнае тлумачэнне тут таксама ненадзейнае (у адпаведнасці з моцным пахам крапівы). Да таго ж сербскахарвацкі прыметнік *kopriv* 'крапіўны' нельга разглядаць як вытворны з суфіксам *-iv*, паколькі ён не мае значэння 'кропны'. Гэта прыметнік з ётавай суфіксацыяй (параўн. рус. *крапивь*). Іншыя этымалогіі яшчэ менш надзейныя. Махэк (ZfSlPh, 17, 261) звязвае **kropiva* (яго рэканструкцыя) з *kropiti*, паколькі крапіву залівалі варам перад скормліваннем жывёле. З апошняй літаратуры гл. Хінце LISL, A, 19/2, 170—171.

**Крапідла** 'кадзіла' (Сл. паўн.-зах.). Параўн. польск. *kropidło* 'тс' (там жа, 2, 516). Паланізм.

**Крапінец** 'крапінец звычайны, Polygala vulgaris' (Кіс.). Цікава адзначыць для *крапінца* іншых відаў вызначэнне 'горкі, Polygala amarella' і сінонім *малыя козлікі* Polygala comosa. Параўн. адпаведнае тлумачэнне назвы *крапівы* (гл.).

**Крапіўка** 'высыпка на целе дзіцяці' (Арх. ГУ, Сцяшк., Мат. Гом.). Да *крапіва* (гл.).

**Крапіўнік**₁ 'радняны мяшок' (Мат. Гом., Янк. III, Нар. сл.). З валокнаў крапівы ткалі тканіну, таму мяшок атрымаў такую назву.

**Крапіўнік**₂ 'пазашлюбнае дзіця, байструк' (Касп., Бяльк., Др.-Падб., Сл. паўн.-зах., Мат. Гом., Мат. Маг., Мядзв., Нар. сл., Янк. II). Унутраная форма — 'дзіця, якое нарадзілася ў крапіве'. Параўн. польск. *pokrzywnik*, чэш. *kopřivnik* 'тс' (Брукнер, 24).

**Крапіць** 'пырскаць' (ТСБМ, Сл. паўн.-зах.). Укр. *кропити*, рус. *кропить* 'тс', ст.-слав. **кропити**, серб.-харв. *кро̀пити*, славен. *kropíti* 'тс', польск. *kropić*, чэш. *kropiti*, славац. *kropit'*, н.-луж. *kšopiś* 'тс' Прасл. *kropiti* не мае надзейных індаеўрапейскіх паралелей (параўн. Слаўскі, 3, 132—133; Фасмер, 2, 382).

**Крапіць**₂ 'мацаваць' (Мат. Гом., Ян.), 'латаць, зашываць' (Нар. сл., Нар. словатв., Ян.). Гл. *крэпкі*.

**Крáпля** 'кропля' (Сл. паўн.-зах., ТС, КЭС, лаг., З нар. сл.). Укр. *крапля*, рус. *крапля*, серб.-харв. *krapla*, славен. *kráplja*, польск. *krapla*, чэш. *krapja*. Да прасл. *krapja*<*krapati*. Гл. *крапаць*₁, *крапіць*₁.

**Крапузны** 'моцны' (Ян.). Да *каракуз* (гл.).

**Крапушка** 'пірог' (Мат. Гом.). Гл. *крапаць*₂.

**Крапцавáцца** 'высільвацца, напружвацца' (Сцяшк. Сл.). Да *крэпкі* (гл.). Непасрэдна да верагоднага **крапец*. Параўн. *малец* (гл. Сцяцко, Афікс. наз., 100).



**Крапчэ́ць** 'здаравець' (Мат. Гом., Др.-Падб.). Гл. *крэпкі*.

**Крáпштаць** 'драпаць' (Сл. паўн.-зах.). Параўн. літ. *krapštýti* 'здзіраць' (там жа, 2, 517). Польск. *krapsztać* 'калупаць у носе'. Запазычанне з літ. *krapštýti* 'драпаць, калупаць' (Урбуціс, Baltistica, 5 (1), 62; Грынавецкене і інш. ZKK, 16, 179; Лаўчутэ, Балтизмы, 46).

**Крапяг** 'махавік (грыб)' (Сцяшк. Сл.). Гл. *крапянік*.

**Крапянік** 'грыб' (Мат. Гом.). Гл. *крап*.

**Красá**₁ 'хараство, прыгажосць' (ТСБМ, Шат., ТС). Укр. *краса*, ст.-рус. *краса* 'тс', ст.-слав. **краса** 'тс', ст.-польск. *krasa*, чэш. *krása*, славац. *krasa*, в.-луж. *krasa*, н.-луж. *krasa* 'тс'. На ўнутраную форму прасл. *krasa* пралівае святло этымалогія, якая звязвае гэту лексему з прасл. *krěsъ* (Ваян. Зб. Младэнаву, 284—285). Прасл. *krasa* на падставе пашыранага пераважна абстрактнага значэння 'прыгажосць' і канкрэтнага 'чырвоны колер' рэканструявалася ў гэтым значэнні. Пры параўнанні з прасл. *krěsъ* (рус. *крес* 'ажыванне, адраджэнне', серб.-харв. *кре̏с* 'Іванаў дзень') была звернута ўвага на тое, што *krasa* (параўн. лац. *cresco* 'вырошчваю') магло першапачаткова абазначаць 'колер жыцця, ажыўленне'. Канкрэтнае значэнне для *краса* і *краска*₁ (гл.) не захавалася на беларускай глебе таму, што прасл. *krěsъ* было выцеснена ўсходнеславянскай інавацыяй *Купала* (гл.). Прасл. *krasa* страціла ў гэтым рэгіёне сакральнае значэнне (Мартынаў, Лекс. Палесся, 29—30). Параўн. агляд іншых этымалогій у Трубачова, Эт. сл., 12, 95—97.

**Красá**₂ 'цвіценне злакавых раслін' (Сл. паўн.-зах., ТС, КЭС, лаг., Клім.). Гл. *краса*₁.

**Красавáць** 'цвісці (пра злакавыя расліны)' (ТСБМ, Шат., Касп., Сл. паўн.-зах.). Гл. *краса*₂.

**Красáвы** 'прыгожы' (Сцяшк. Сл.). Гл. *краса*₁.

**Красавік**₁ 'чацвёрты месяц года' (ТСБМ, Гарэц., Нас.), 'пяты месяц года' (Яруш.). Гл. *краса*₂.

**Красавік**₂ 'баравік, які расце, калі красуе жыта' (Сцяшк. Сл., Мат. Гом.). Гл. *краса*₂.

**Красавік**₃ 'жучок на коласе ў час красавання злакаў' (Ян.). Гл. *краса*₂.

**Красавік**₄ 'лешч' (Мат. Гом.). Нераст ляшча адбываецца ў час красавання злакаў.

**Красавіца** 'вясёлка' (ДАБМ). Гл. *краса*₁.

**Красáла** 'крэсіва' (ТСБМ, Сцяшк., Гарэц., Мядзв.). Гл. *крэсіва*.

**Красатá** 'кветкі' (Булг.). Гл. *краса*₂.

**Красáць** 'высякаць агонь крэсівам' (ТСБМ). Гл. *крэсіва*.

**Красвóрд** 'гульня-загадка' (ТСБМ). Англ. *cross-word*

(там жа, 2, 724). Запазычанне праз рускую мову (Шанскі, 2, 8, 409).

**Красі́ць** 'наматваць' (Сцяшк. Сл.). Няясна. Параўн. *кросна* (гл.).

**Кра́ска**$_1$ 'кветка' (ТСБМ, Нас., Сцяшк. Мат., Касп., ТС, Сл. паўн.-зах., Мат. Гом., Бяльк., Ян., Жд. 3, Маш., Грыг., Бір., Гарэц., Жд. 2, КЭС, лаг., Мал., Мядзв., Ян., Нар. словатв.). Укр. *краска*, рус. *краска* 'тс', балг. *краска* 'колер', серб.-харв. *кра̏ска* 'назва некаторых раслін', польск. *kraska* 'колер'. Прасл. *krasъka* ў значэнні 'кветка' найбольш устойлівае на беларускай моўнай глебе. Этымалагічная версія для *краса*$_1$ (гл.) дае магчымасць рэканструяваць першаснае размежаванне паміж *кветка* (гл.) і *краска*. Першае з іх азначала 'кветка, цвіценне (наогул)'; другое — 'цвет, цвіценне ў сакральным сэнсе (адраджэнне прыроды)'. У карысць гэтага сведчаць замены лексемы *краска* лексемамі *купала, купалка* і ў радзе назваў кветак, а таксама *красавы* на ўкр. *купалий*. Параўн. яшчэ ст.-чэш. *krasa* 'зіхаценне сонца' і бел. *сонца купаецца* 'сонца зіхаціць' (Мартынаў, Лекс. Палесся, 29—30).

**Кра́ска**$_2$ 'хвароба жывёлы' (КЭС, лаг.). Параўн. *краска*$_3$ (гл.).

**Кра́ска**$_3$ 'кроў' (Чуд.). Параўн. *краска*$_1$ (гл.).

**Красла́ты** 'шырокі' (Сцяшк. Сл., Янк. II). Параўн. *крэсла* (гл.).

**Красла́ч** 'калашман' (Нар. лекс., Янк. II). Гл. *краслаты*.

**Красналé́ссе** 'бор' (Яшк.). Параўн. *чырвоны лес*. Гл. *краса*$_1$.

**Красналю́дак** 'гном' (Жыв. сл.). Сувязь з *краса*$_1$ няясная.

**Красу́ля** 'радуга' (Шат.). Гл. *красавіца*.

**Красу́н** 'прыгажун' (ТСБМ). Гл. *краса*$_1$.

**Кра́сці** 'ўпотай браць чужое' (ТСБМ, Шат., Касп., Сл. паўн.-зах., ТС, Бяльк.). Укр. *красти*, рус. *красть*, ст.-рус. *красти* 'тс', ст.-слав. **красти**, балг. *крада*, макед. *краде*, серб.-харв. *кра̏сти*, славен. *krásti* 'тс', польск. *kraść*, чэш. *krásti*, славац. *krásť* 'тс'. Прасл. *krásti* практычна не мае надзейных паралелей у іншых індаеўрапейскіх мовах. Параўн. Трубачоў, Эт. сл., 12, 102—105.

**Кра́сы** 'воўчае вяселле' (Сцяшк. Сл., Сл. паўн.-зах.). Параўн. *краса*$_1$ (гл.).

**Кра́таць**$_1$ 'рухаць, варушыць' (ТСБМ, Шат., Касп., Сл. паўн.-зах., Гарэц., КЭС, лаг., Яруш., Яўс.). Беларуская лексема лічыцца запазычаннем з літ. *kratýti* 'трэсці' (Лаўчутэ, Балтызмы, 68). Больш надзейнай здаецца іншая версія аб пранікненні з балтыйскіх дыялектаў. Мы маем на ўвазе паралелі да літ. *krutėti* 'рухацца' (гл. Фрэнкель, 303), якое магло



праз *krъtěti даць *кратаць*. Параўн. асабліва літ. *krùtinti, krutnóti* 'рухаць, чапаць, кранаць' і бел. *кратаць, кранаць*.

**Кра́таць**$_2$ 'чапаць, дакранацца' (ТСБМ, Шпіл., Сл. паўн.-зах.). Гл. *кратаць*$_1$ і *кранаць*.

**Кра́ты** 'металічная рашотка' (ТСБМ). Ст.-бел. *крата* 'тс' праз польск. *krata*<лац. *crata* (Булыка, Запазыч., 175; Кюнэ, Poln., 68).

**Кра́ўпіца** 'чальгак вербалісты, Lythrum salicaria L.' (Кіс.). Верагодны балтызм, аб чым у першую чаргу сведчыць дыфтонг у корані. Магчыма, да літ. *kraupùs* 'няроўны, шурпаты' і інш. (гл. Фрэнкель, 290).

**Краўча́ць** 'сквярціся (пра жаб)' (Нар. лекс.). Гукапераймальнае. Параўн. *крахаць* (гл.) (там жа, 2, 725).

**Крах** 'банкруцтва' (ТСБМ). З ням. *Krach*.

**Краха́ль** 'птушка сямейства качыных' (ТСБМ). Да *крахаць* (гл.).

**Кра́хаць** 'крычаць (пра жаб)' (ДАБМ), 'крычаць (пра качак)' (Сл. паўн.-зах.). Гукапераймальнае.

**Крахо́ўка** 'дзікая качка' (ТС, Жыв. сл.). Гл. *крахаць*.

**Крахта́ць** 'крактаць' (ТСБМ, Сл. паўн.-зах.). Гл. *крактаць*.

**Крач** 'крачка, птушка, падобная да чайкі' (Ян.). Гл. *крачка*.

**Кра́чка** 'вадзяная птушка сямейства чаек' (ТСБМ). Да *кракаць* (гл.).

**Кра́шэсць** 'курасадня' (Нар. лекс.). Да *курасест? Параўн. *кросанне, куросны, курасады*.

**Краяві́на** 'аполак' (Нар. лекс.). Гл. *краяць*.

**Кра́яць**, *краяты* 'дзяліць на часткі, рэзаць' (Доўн.-Зап. 3, Клім.). Укр. *краяти*, рус. *краять*, ст.-рус. *краяти* 'тс', серб.-харв. *кра́јати*, славен. *krȃjati* 'тс', польск. *krajać*, чэш. *krájeti*, славац. *krájať*, н.-луж. *kšajaś*, палаб. *krojot* 'тс', прасл. *krajati* — ітэратыўная форма да *krojiti* (гл. *кроіць*) (SP, I, 47; Ваян, Gram. comp., 3, 267; Трубачоў, Эт. сл., 12, 86—87).

**Кро́за** 'летуценне, мара' (ТСБМ, Сцяшк.). Хутчэй за ўсё запазычанне з рус. літ. *грёза* 'тс' з аглушэннем звонкага ўзрыўнога *г* і ацвярдзеннем *р*.

**Кро́іць** 'разразаць матэрыю і інш. на кавалкі пэўнай формы і памеру, каб пашыць, зрабіць з іх што-небудзь' (ТСБМ, Нас., Жд. 2, Янк. I, ТС, Сцяшк., Касп., Сл. паўн.-зах.), 'разразаць' (Сержп. Пр., Кліх, Вешт. 1, Гарэц.). Укр. *кроїти*, рус. *кроить*, ст.-рус. *кроити* 'тс', балг. *кроя*, макед. *крои*, серб.-харв. *кро̀јити*, славен. *krojiti* 'тс', польск. *kroić*, чэш. *krojiti*, славац. *krojiť*, в.-луж. *krejić*, палаб. *krūjě* 'тс'. Прасл. *krojiti* — адыменны дзеяслоў, паходзіць ад *krojь* (Ваян, Gram. comp.,

3, 417—418). У сваю чаргу прасл. *krojь* ад першаснага дзеяслова **kriti*, які не мае надзейных балтыйскіх адпаведнікаў (параўн., аднак, Атрэмбскі, SI, 177, які звязвае са славянскім дзеясловам літ. *raikýti* 'рэзаць'). Іншыя індаеўрапейскія паралелі ўскладнены *n*-дэтэрмінатывам: ст.-грэч. κρίνω, лац. *cerno*<**crino* 'раздзяляць' (Трубачоў, Эт. сл., 12, 181—182). Параўн. асабліва семантычна блізкія лац. *cerno* 'прасяваю' і рус. *кроить* 'тс'.

**Крой** 'укройванне адзення' (ТСБМ, КЭС, лаг., Яруш., Касп.). Параўн. *кроіць* (гл.).

**Крок**₁ 'адзін рух нагой пры хадзьбе' (ТСБМ, Нас., Янк. Мат., Гарэц., Бяльк., ТС). Укр. *крок* 'тс'. Ст.-бел. *крокъ* 'тс' (з 1546 г.) запазычанне з польск. *krok* (Булыка, Запазыч., 177). Аднак польск. *krok* не ўзыходзіць непасрэдна да прасл. *korkъ*, бо іншыя славянскія формы са значэннем 'крок' не даюць падстаў для такой рэканструкцыі: параўн. чэш. *krok*, славац. *krok*, серб.-харв. *кро̑к* (прасл. **krokъ*). Рэгулярныя рэфлексацыі прасл. *korkъ* маюць іншыя, хоць і блізкія значэнні: серб.-харв. *кра̑к* 'голень, нага', славен. *krâk* 'нага', балг. *крак* 'тс' (параўн. Слаўскі, 3, 121; Кюнэ, Poln., 69).

**Крок**₂ 'шырынка, месца паміж калашын штаноў' (Сл. паўн.-зах.). Гл. *крок*₁.

**Крок**₃ 'адкормлены кабан' (Жд. 2). Да запазычанага з рускай мовы *вокарак* 'кумпяк' (гл.).

**Кро́кат** 'жабурынне' (Касп.). Да *кракавіна* (гл.).

**Кро́каць** 'рэдкае, вязкае балота, якое зверху прыкрыта зыбкай карой' (Яшк., Сцяшк. Сл.). Параўн. *кракавінне* 'дрыгва' (гл.).

**Кро́ква**₁ 'два брусы, верхнімі канцамі злучаныя пад вуглом, а ніжнімі прымацаваныя да бэлек' (ТСБМ, Сцяшк., Грыг., Шушк., Мядзв., Др.-Падб., Гарэц., Шн., Тарнацкі, Studia, В. В., Яшк., Бяльк., Бломкв., Хар., ТС, Касп., Сл. паўн.-зах.). Укр. *кроква*, рус. *кроква* 'тс', славен. *krokva* 'тс', польск. *krokiew*, чэш. *krokev*, славац. *krocva* 'тс'. Прасл. *kroky* да *krokъ* (гл. *крок*) па знешняму падабенству (Брукнер, 269). Іншыя версіі малаверагодныя. Параўн. Трубачоў, Эт. сл., 12, 184.

**Кро́ква**₂ 'густы, малады, тонкі лес, звычайна на нізкіх вільготных месцах' (Яшк.). Да *крокаць* (гл.). Магчыма, пад уплывам марфалагічна тоеснага *дрыгва* (гл.).

**Кро́кла** 'вага ў студні з жураўлём' (ДАБМ). Параўн. рус. *кроклы* 'кроквы', ст.-рус. *кроколъ* 'вілка'. Да *кроква*₁ (гл.).

**Кро́кус** 'шафран' (ТСБМ, Мал., Нас.). Укр. *крокус* 'тс'. Запазычанне з польск. *krokus* (Слаўскі, 3, 126).



**Кро́лік**₁ 'трус' (Сл. паўн.-зах.). Ст.-бел. *кроликъ* 'тс' з польск. *królik* (Булыка, Запазыч., 178).

**Кро́лік**₂ 'ветлівае, ласкальнае пры звароце да чалавека, звычайна маладзейшага' (Янк. I). Да *кролік*₁ (гл.).

**Кроль** 'трус' (Ян., Мат. Гом.). Адваротнае ўтварэнне ад *кролік*₁ (гл.), магчыма, яшчэ на польскай моўнай глебе. Параўн., аднак, Замосцінска-Куцалава, JP, 35, 289—295.

**Кром**₁ 'хвоя са спілаванай вяршыняй для борцей' (ТС). Параўн. *кромка* (гл.).

**Кром**₂ 'акрамя, апрача' (ТС). Укр. *крім*, рус. *кроме* 'тс'. Параўн. ст.-рус. *кромѣ* 'асобна', рус. *кром* 'край, канец', ст.-слав. **кромѣ** 'апрача', чэш. *kromě* 'тс', в.-луж. *kroma* 'край', ст.-польск. *kromie* 'апрача', польск. *kroma* 'кавалак, скарынка'. З гэтых супастаўленняў відаць, што прасл. *kromě* 'апрача' *loc. sing.* ад *kroma* 'частка, край'. Параўн. ст.-в.-ням. *hrama* 'рама', ст.-англ. *hremman* 'перагароджваць, заступаць'. Іншыя індаеўрапейскія паралелі больш праблематычныя (параўн. Пятлёва, Этимология-1974, 25)

**Кро́мі** 'акрамя' (Мат. Маг., Сл. паўн.-зах.). Гл. *кром*₂.

**Кро́мка** 'кромка, зрэзак ад матэрыі, край' (Бяльк., Вешт.), 'скарынка хлеба' (Вешт., Хрэст. дыял., Сл. паўн.-зах.). Гл. *кром*.

**Кро́мкаць**₁ 'каркаць (пра крык гругана)' (Нар. лекс.). Гл. *крумкаць*.

**Кро́мкаць**₂ 'выпрошваць' (Сцяшк. Сл.). Магчыма, кантамінацыя *кромкаць*₁ (гл.) і *канькаць* 'выпрошваць' (гл.).

**Кро́мля** 'кастрыца, адходы пры ачыстцы льну' (Сцяшк.). Да *кром*₁ (гл.).

**Кро́мны** 'куплены ў краме, не самаробны' (Сцяшк.). Гл. *крама*.

**Кромп** 'гусцяра, Blicca bjoerkna' (Жук.). Як і рус. *кромп*, запазычанне з польск. *krąp* (Слаўскі, 13, 75).

**Кро́на** 'верхняя, галіністая частка дрэва' (ТСБМ, Сцяшк.), праз рус. *крона* запазычанне з ням. *Krone* (Шанскі, 2, 8, 406).

**Кроп**₁ 'аднагадовая травяністая расліна сямейства парасонавых з вострым прыемным пахам, Anethum L.' (ТСБМ, Сцяшк., Кіс., Сержп. Грам., Жыв. сл., ТС, Сл. паўн.-зах., Касп.). Укр. *кріп*, рус. *укроп* 'тс'. Паралелі з іншых славянскіх моў узыходзяць да формы **koprъ* ст.-слав. **копръ**, балг. *копър*, серб.-харв. *ко̏пар*, славен. *kóper*, польск. *koper*, чэш. *kopr*, славац. *kôpor*, н.-луж. *kopr*. Існуе думка аб тым, што *koprъ*<*kropъ*, якое азначала 'кіпень, вар', ад *крапіць* (гл. *кроп*₂) (Слаўскі, 2, 455).

**Кроп**₂ 'вар' (ТС). Гл. *крапіць*.

**Кро́пка**$_1$ 'грыбная начынка пірага' (Малч.). Гл. *крапаць*$_2$ 'начыняць, фаршыраваць'.

**Кро́пка**$_2$ 'метка, след, плямка' (ТСБМ, Нас.). Гл. *крапаць*$_1$ і *крапіць* 'капаць, пырскаць'.

**Кро́пля** 'капля, малая колькасць' (ТСБМ, Шат., Грыг., Сцяшк., Яруш., Бяльк., Сл. паўн.-зах., Нас., Касп.). Гл. *крапля*.

**Кро́пна** 'жудасна' (Юрч.). Да *акропна* 'тс' (гл.). Апошняе з польск. *okropny* 'жудасны'.

**Кро́пнуць, кропнуты** 'ўдарыць, стукнуць' (Клім.). Да *кра-піць* (гл.). Што датычыць семантыкі, параўн. укр. *кропити* 'моцна біць', рус. *кропить* 'тс'.

**Кро́пштацца** 'корпацца, марудзіць' (Сл. паўн.-зах.). Балтызм. Параўн. літ. *krapštýtis* (там жа, 2, 524). Гл. *крап-штаць*.

**Крос** 'спартыўны бег па перасечанай мясцовасці' (ТСБМ). Ад англ. *to cross* 'перасякаць' (там жа, 2, 728). Запазычанне праз рус. *кросс* з англ. *cross* (Шанскі, 2, 8, 409).

**Кро́санне** 'седала' (Мат. Гом.). Да *курасадня* (гл.) 'тс'. Змяненне магло адбывацца наступным чынам: *курасáдня*> >**курасання*>**куросання*>**кросанне*. Параўн. *куросны*.

**Кро́скі** 'маленькія каравai' (Шпіл.). Магчыма, да **крохкі*. Параўн. *круха*$_2$ (гл.), прасл. *kruxъ* 'хлеб'.

**Кро́сны (кро́сна)** 'ткацкі станок' (ТСБМ, Нас., Сцяшк., Нар. сл., Выг., Маш., Федар., Мядзв., Гарэц., Дзмітр., Рам., Жыв. сл., Нік. Очерки, Шпіл. Путешеств., Нар. словатв., Сержп. Пр., Нар. лекс., Бяльк., ТС, Сл. паўн.-зах., Нас., Ян., Шат., Мат. Гом.). Укр. *кросно, кросна*, рус. *кросно, кросна* 'тс', балг. *кросно*, макед. *кросно*, серб.-харв. *кро̏сна*, славен. *krósna* 'тс', польск. *krosna*, чэш. *krosna*, славац. *krosna*, в.-луж. *krosna*, палаб. *krosn* 'тс'. Прасл. *krosno, krosna* 'драўляная рама як козлы або ткацкі станок'. Словаўтварэнне на *-no*, як *sukno* (<*sukati*), *runo* (<*ruti*). Але знайсці адпаведны дзеяслоў на славянскай або балтыйскай моўнай глебе не ўдаецца. Бліжэйшая паралель літ. *krãsė* 'крэсла'. Мяркуецца, што сюды ж балта-славянская назва *крэсла* (гл.) (параўн. ст.-прус. *creslan* і слав. *kreslo*, якія марфалагічна супадаюць). Гл. *крэсла* (параўн. Тапароў, K — Z, 182).

**Крот** 'невялікая млекакормячая жывёла атрада насякомаедных' (ТСБМ, Яруш., Бяльк., Сержп. Пр., Сцяшк., ТС, Сл. паўн.-зах., Касп.). Укр. *крот*, рус. *крот* 'тс', балг. *кърт*, серб.-харв. *кр̑т*, славен. *kȓt*, польск. *kret*, чэш. *krt*, славац. *krt*, н.-луж. *kšet* 'тс'. Прасл. *krъtъ*, калі лічыць яго першасным значэннем 'той, хто крыецца ў зямлі, паглыбляецца ў зямлю', то ад прасл. *kryti* (як *plъtъ* ад *plyti*, *rъtъ* ад *ryti* — SP, 2, 37), якое мае дакладны адпаведнік у ст.-прус. *krūt* 'падаць, апускацца' (Тапароў, K—L, 216—219). Гл. *крыць*.



**Кроў** 'чырвоная вадкасць, якая рухаецца па крываносных сасудах арганізма' (ТСБМ, Яруш., Нік. Напоў., Бяльк., Сцяшк., Сержп. Ск., Сл. паўн.-зах., Касп.). Укр. *кров*, рус. *кровь* 'тс', ст.-слав. **кръвь**, балг. *кръв*, серб.-харв. *кр̑в*, славен. *kȓv* 'тс', польск. *krew*, чэш. *krev*, славац. *krv*, н.-луж. *kšew*, палаб. *kroj* 'тс'. Прасл. *kry* мае ў якасці найбліжэйшых адпаведнікаў літ. *kraũjas* 'тс'. Ірл. *cru*, лац. *cruor* 'тс' (Бернекер, 1, 632; Траўтман, 142).

**Кро́ўка** 'святаяннік звычайны, Hypericum perforatum L.' (Кіс., Мат. Гом.). Параўн. *крывавец*$_2$, а таксама такія сінонімы, як *кравапуск* і *рудамётка*. Да *кроў* (гл.).

**Кро́ўкач** 'крук, крумкач' (Дразд.). Параўн. літ. *krauklỹs* 'варона', якое магло кантамінавацца з *крумкач* (гл.).

**Кро́ўна** 'цяжка, горка, бядотна' (ТС). Да *кроў* (гл.).

**Кро́ўны** 'родны па крыві, які паходзіць ад адных продкаў' (ТСБМ, Сцяшк., Др.-Падб.). Гл. *кроў*.

**Кро́ўня** 'верхняя пакрышка хамута' (Касп.). Да *крыць* (гл.). Параўн. рус. *кров* 'покрыва'.

**Кроўш** 'бераг ракі, абрывісты бераг, завадзь' (Сл. паўн.-зах.). Параўн. літ. *kriaũšis* 'абрыў, круча, круты бераг' (там жа, 2, 525). Запазычанне з літоўскай мовы.

**Крох** 'пра трэск, ламанне' (Нар. лекс.). Гукапераймальнае.

**Кро́хва** 'кроква' (КЭС, лаг., П. С., Сл. паўн.-зах., Хар., Шат.). Гл. *кроква*.

**Кро́хкі** 'які лёгка крышыцца' (ТСБМ, КЭС, лаг., Бяльк., Яруш., ТС, Сл. паўн.-зах., Шат., Нас.). Гл. *крох* і *крошка*.

**Кро́хы, кро́хі** 'крыху' (З нар. сл., Жыв. сл., Нар. лекс., Сл. паўн.-зах., Нас.). Гл. *крошкі* і *крошка*.

**Кроць** 'раз' (Нас.). Запазычанне з польск. *kroć* 'тс' (Кюнэ, Poln., 68).

**Крош** 'вочап у студні з жураўлём' (ДАБМ). Гл. *крошні*.

**Кро́шка** 'кавалачак' (ТСБМ, Яўс., Сержп., КЭС, лаг., ТС, Нас.). Да ст.-рус. *кръха*, якое дакладна адпавядае літ. *krušà* 'град'. Гл. *крышыць*.

**Кро́шкі** 'крыху' (Булг., Нас.). Гл. *крышка*$_3$.

**Кро́шку** 'крыху' (КЭС, лаг., Яруш.). Гл. *крошка*.

**Кро́шлі** 'лесвіца каля сцяны над кармушкай' (Касп.). Магчыма, да **крочлі* (ад *крочыць*), гл. *крок*.

**Кро́шні** 'прыстасаванне насіць корм у хлеў' (Нік. ЭШ, Хрэст. дыял., ДАБМ, Маш.), 'прыстасаванне насіць за спіной грыбы, ягады і інш.' (ТС, Круч.). Рус. *крошни* 'заплечны кош', балг. *крошня* 'кош', серб.-харв. *кро̑шња* 'вялікі кош', славен. *krôšnja* 'насілкі'. Да **krosnja*. Гл. *кросна* (Бернекер, 1, 624).

**Круг**$_1$ 'частка плоскасці, абмежаваная акружнасцю' (ТСБМ, Гарэц., Яруш.). Укр. *круг*, рус. *круг*, ст.-рус. *кругъ* 'тс', ст.-слав. **крѫгъ**, балг. *кръг*, макед. *круг*, серб.-харв. *кру̑г*, славен. *krǫ̑g* 'тс', польск. *krąg*, чэш. *kruh*, славац. *kruh*, в.-луж. *kruh* 'тс'. Прасл. *krǫgъ* у якасці бліжэйшых паралелей мае германскія лексемы: ст.-ісл. *hringr* 'персцень, круг, кола', ст.-в.-ням. *hring* 'тс'. Менш надзейным з'яўляецца ўмбр. *cringatu* 'пас' (Бернекер, I, 626; Покарны, 936).

**Круг**$_2$ 'поўная фаза месяца' (Бяльк.). Гл. *круг*$_1$.

**Круг**$_3$ 'вір, месца ў рэчцы, дзе віруе вада' (Мат. Гом., Янк. III). Гл. *круг*$_1$.

**Круг**$_4$ 'збан' (Касп.). Запазычанне праз ням. *Krug* 'тс'.

**Круг**$_5$ 'лішай' (Нас., Сцяшк., Мат. Гом.). Магчыма, да *крух* (гл.).

**Круг**$_6$ 'гульня хлопцаў са снегам (качалі снежныя кругі і пускалі з гары)' (Нар. словатв.). Гл. *круг*$_1$.

**Круг**$_7$ 'поўны камплект колаў для воза' (Нар. лекс., Сцяшк., Касп.). Гл. *круг*$_1$.

**Круг**$_8$ 'багністае балота, якое зарасло альхой' (ТС, Яшк.). Гл. *круг*$_5$.

**Круг**$_9$ 'наўкола' (Бяльк., Сл. паўн.-зах.). Гл. *круг*$_1$.

**Кругá** 'вір' (Яшк.). Гл. *круг*$_3$.

**Кругá** 'вакол' (Янк. Мат., Сцяц. Нар.). Гл. *круг*$_1$. Фармальная структура няясная.

**Кругáн** 'чыстае сухое месца сярод лесу, звычайна пясчанае, пясчаны ўзгорак' (Яшк.), 'куча, гурба' (Сцяшк. Сл.). Гл. *курган*.

**Кругітáць** 'вішчаць (пра парасят)' (Нар. лекс., Сл. паўн.-зах.). Не выключана кантамінацыя *кігаць* (гл.), *кігікаць* (гл.) і *круг*$_3$.

**Круглéц**$_1$ 'асака са сцяблом круглай формы' (Жыв. сл., Сл. паўн.-зах.). Да *круглы* (гл.).

**Круглéц**$_2$ 'сіт, Juncus L.' (Касп.). Гл. *круглец*$_1$.

**Крýглік** 'ялец' (Крыв.). Вытлумачыць гэту назву цяжка. Магчыма, гэта звязана з формай галавы. Параўн. назвы для яльца *головень-елец* (Каламіец, Рыбы, 21).

**Крýгліца** 'хлеў для авечак' (Яшк., Сцяшк. Сл.), 'гаспадарчая пабудова квадратнай формы' (Нар. словатв.). Да *круглы* (гл.).

**Крýглы** 'круглы' (ТСБМ, Бяльк., ТС, Сл. паўн.-зах., Сержп. Ск., Ян.). Укр. *круглий*, рус. *круглый* 'тс' балг. *кръгъл*, серб.-харв. *ȍкругао*, славен. *krógəl*, польск. *okrągły*, чэш. *okrouhlý*; прасл. *krǫglъ* утворана ад *krǫgъ* пры дапамозе суфікса прыметнікаў *-lъ* (Мейе, Общеслав., 282).

**Кругль** 'фундамент' (Жд. 3). Назва ў адпаведнасці з формай. У радзе гаворак прыметнік *круглы* мае таксама значэнне 'квадратны'.



**Кругля́к**$_1$ 'кароткае тоўстае палена круглай формы' (ТСБМ, П. С., Хар., Сцяшк., Янк. III, Шушк., В. В., Шат., Сл. паўн.-зах.). Гл. *круглы*.

**Кругля́к**$_2$ 'махавое балота з вадой' (Яшк.). Гл. *круг*$_8$.

**Кружавáць** 'ачышчаць ад калосся, падсяваючы ў рэшаце' (Нар. лекс.). Гл. *кружыць*.

**Кружавы́** 'карункі' (Мат. Маг., Сцяшк., Мат. Гом.). З рус. *кружева*.

**Кружáла**$_1$ 'дуга, на якой кладуць скляпенне, арку' (ТСБМ). Да *круг*$_1$ (гл.).

**Кружáла**$_2$ 'ганчарны станок' (Рам.). Да *кружыць*. Гл. *круг*$_1$.

**Кружáла**$_3$ 'прыстасаванне на лёдзе для катання па кругу' (Янк. III). Да *кружыць*. Гл. *круг*$_1$.

**Кружанýць** 'груба вылаяцца', 'голасна заспяваць хорам' (Бяльк.). Да *круг*$_1$ (гл.). Семантычны пераход: 'круг' > 'хор'.

**Кружáць** 'рэзаць кругамі' (Нас.). Гл. *круг*$_1$.

**Крýжка** 'кубак' (З нар. сл., Сл. паўн.-зах., Дразд.). Запазычанне з с.-н.-ням. *krus* 'тс'. Праз польск. *kruż*, *krużek* 'збан, збанок' — ст.-рус. *кружька*, рус. *кружка*, укр. *кружка*, бел. *кружка* (Слаўскі, 3, 186).

**Кружня́** 'куча камення' (Сл. паўн.-зах.). Гл. *крушня*.

**Кружóк** 'рэдкая плеўка на кішках жывёлы, на якой пры кармленні нарастае лой' (КЭС, лаг., Сл. паўн.-зах.). Метафарычна да *круг*$_8$ (гл.).

**Круж'я** 'крышка ў вулеі' (Маш.). Да *круг*$_1$ (гл.).

**Крýжык** 'чарпак для вады' (Федар. Рук.), 'кубак' (Сцяшк., Сл. паўн.-зах.). Гл. *кружка*.

**Кружы́ць** 'ачышчаць зерне ўручную' (Сцяшк. Сл.). Магчыма, ад *крушыць*. Гл. *крух*.

**Кружэ́лка** 'сланечнік' (Мат. Маг.). Да *круг*$_1$.

**Кружэ́чак** 'накрыўка' (Сл. паўн.-зах.). Памяншальнае да *круг*$_1$. Параўн. *круж'я* (гл.).

**Крузля́к** 'асака' (Шатал.). Няясная фанетыка. Гл. *круглец*$_1$.

**Круі́з** 'падарожжа па вадзе' (англ. *cruise*) (ТСБМ, 2, 732). Запазычанне праз рускую мову з англ. *cruise*.

**Крук**$_1$ 'род вялікага цвіка з загнутым тупым канцом' (ТСБМ, Шат., Жыв. сл., Бяльк., Яруш., Сл. паўн.-зах., Касп., Сцяшк., ТС, Мат. Гом.). Ст.-бел. *крукъ* (з 1571 г.) разглядаецца як запазычанне праз польск. *kruk* (гл. Булыка, Запазыч., 179) з ням. *Krücke*. Аднак само польск. *kruk* лічыцца запазычаннем з бел. *крук* або ўкр. *крук* (Слаўскі, 3, 170). Гэтыя ўсходнеславянскія лексемы тлумачацца як паўночнагерма-

нізмы. Параўн. ст.-ісл. *krōkr* 'гак, крук' (Тэрнквіст, Studien, 63—68).

**Крук**$_2$ 'матыка з двума зубамі' (Шат., Нар. лекс., Жыв. сл., Сержп. Пр., Нар. сл., Шатал., Сл. паўн.-зах., Мат. Гом.). Гл. *крук*$_1$.

**Крук**$_3$ 'вочап у калодзежы' (Шат., Нар. словатв., З нар. сл., ТС). Гл. *крук*$_1$.

**Крук**$_4$ 'крумкач' (Нас., Сержп. Пр., Шатал., Касп., Сцяшк., ТС, Мат. Гом., Сл. паўн.-зах.). Ва ўсіх польскіх дыялектах *kruk* 'тс' (апрача паўднёва-ўсходняй часткі малапольскіх, дзе ў тым жа значэнні — *gawron*) (Струтынскі, Nazwy, 12; Смыль, 18, 4, 149). У частцы вялікапольскіх і малапольскіх дыялектаў 'грак, Corvus frugilegus' (пры поўнай дамінацыі у тым жа значэнні). Кашуб. *krek* 'крумкач'. Руская тэрыторыя распаўсюджання гэтай назвы мяжуе з беларускай і ўкраінскай. Іншыя паўночнаславянскія дыялекты слова *kruk* не ведаюць. Не ведаюць яго і паўднёваславянскія дыялекты. Адзінае выключэнне, зафіксаванае толькі ў Скока, харвацкае дыялектнае *kruk* 'Corvus corax' (2, 214). Таго ж паходжання балтыйскія вытворныя: літ. *krauklỹs* 'варона', *kriauklỹs* 'крук', лат. *kraũklis* 'тс'. Такім чынам, балтыйская геаграфічная арыентацыя слова даволі ясная. З іншага боку, вядома, што для балтыйскіх і славянскіх моў для 'Corvus corax' і 'Corvus corone' рэканструюецца *vornъ* (*varnas*) і *vorna* (*varna*). Таму ёсць падставы меркаваць аб іншамоўным паходжанні *крук*. Геаграфія наводзіць на думку аб гоцкай крыніцы. Паколькі пра гоцкія крыніцы нічога не ведаем, нельга не звярнуцца да паўночна-германскіх: ст.-ісл. *krákr* 'Corvus corax', *kráka* 'Corvus corone' — *hrókr* 'Corvus frugilegus'. *Kruk* з *hrōk/hrauk*. Параўн. гутн. (дыялект вострава Готланд, які, магчыма, збярог архаіку, блізкую да гоцкай) *rōk/rauk* 'Corvus frugilegus'. У многіх польскіх гаворках *kruk* — 'Corvus frugilegus' (Смыль, PF, 18, 4, 149). Ясныя сляды ўплыву гоцкай сістэмы на балта-славянскую бачым у кашубска-славінскім варыянце: *krak* 'Corvus corax', *kraka* 'Corvus corone', *krěčk* (<*kruk*) 'Corvus frugilegus', які амаль што поўнасцю супадае з паўночнагерманскай (эвентуальна гоцкай), параўн. бел. палес. *кракаворан* 'воран' (гл.). Такім чынам, бел. і польск. *крук*<гоц. **hrōks* (*ō*>*au*>*u*, як *bōka*>прасл. *bukъ*). *К* на пачатку *крук* пад уплывам *крак* або канцовага *к* (Мартынаў, Бел.-польск. ізал., 95—97). Іншыя версіі параўн. у Слаўскага, 3, 172.

**Крук**$_5$ 'строй птушак клінам пры палёце' (ТС). Гл. *крук*$_1$.

**Крук**$_6$ 'сляпень' (Сцяшк. Сл.). Магчыма, да *крук*$_1$, улічваючы яго моцны колюча-рэжучы ротавы апарат (БелСЭ, 9, 598). Параўн. *кручок*$_3$ (гл.).



**Крук**$_7$ 'кроква' (Мат. Гом.). Гл. *кроква*.

**Круль**: *тры круле* 'назва свята вадохрышча ў католікаў, а таксама тэатралізаванага абходу — калядавання' (Жыв. сл.). Ст.-бел. *круль, кроль* 'кароль' (з 1351 г.). Польская форма і яе вытворныя атрымалі шырокае распаўсюджанне (гл. Булыка, Запазыч., 178).

**Круляваць** 'панаваць' (Нас.). Гл. *круль*.

**Круміла** 'абжора' (Бяльк.). Гл. *круміць*.

**Круміць** 'прагна і многа есці' (Бяльк.). Гукапераймальнае. Параўн. рус. *хрумкать* 'тс'.

**Крýмкаць**$_1$ 'пра жаб' (Сержп. Ск., ТС), 'пра крумкачоў' (Яруш., Шатал.). Гл. *крумкач*.

**Крýмкаць**$_2$ 'капрызіць (пра дзяцей)' (Федар. Рук.), 'выпрошваць' (Сцяц.). Магчыма, кантамінацыя *крумкаць*$_1$ (гл.) і *канькаць* (гл.).

**Крумкáч**$_1$ 'воран, груган' (ТСБМ, Шат., Бяльк., Шн., Сержп. Ск., Сержп. Грам., Федар. VII, Сл. паўн.-зах.). Параўн. *крумкач, крункач* і літ. *krunkõčius* 'тс' (там жа, 2, 530). Балтызм, які ўзыходзіць да літ. *kruñkti* 'каркаць (пра варон)'. Наўрад ці неабходна разглядаць бел. *крумкач, крункач* як гібрыднае ўтварэнне (літоўскі корань, беларускі суфікс). Дакладным адпаведнікам бел. *крункач* з'яўляецца літ. *krunkõčius* 'воран'. Зразумела, што ўсе прыклады балтыйскай лексічнай інфільтрацыі ўзніклі ва ўмовах білінгвізму. Гл. Грынавецкене і інш. LKK, 16, 180; Лаўчутэ, Балтизмы, 69.

**Крумкáч**$_2$ 'жаба' (Жд. 2, Сл. паўн.-зах.). *Крумкач* (назва жабы), відаць, узнікла як кантамінаваная форма ад *кумкаць* (толькі пра жаб) (гл.) і *крумкаць*$_1$ (гл.).

**Крумклáн** 'грак' (Сл. паўн.-зах.), параўн. літ. *krãnklõnas* 'тс' (там жа, 2, 530). Балтызм.

**Крунá** 'труна' (Жд. 2). Гл. *труна*.

**Крýнуць**$_1$ 'каркнуць' (Нас.). Балтызм. Да літ. *kruñkti* 'каркаць'.

**Крýнуць**$_2$ 'выпіць залпам' (Нас.). Відаць, да *клюнуць* 'тс'. Гукапераймальнае. Параўн. *глюкаць, клюкаць* 'піць'.

**Круп** 'запаленне гартані і трахеі' (ТСБМ). Запазычана праз рускую мову з франц. *croup* 'тс' (Шанскі, 2, 8, 416).

**Крупá** 'град' (Мат. Гом.). Гл. *крупы*.

**Крупéня** 'крупяны суп' (ТСБМ, Нас., Нік. Очерки, Бяльк., Касп., Мат. Маг., Нар. сл., Шатал., Мат. Гом., Сл. паўн.-зах.). Запазычанне з літ. *kruopíenė* 'суп з крупы'. Суфіксацыя, характэрная для літоўскай мовы. Параўн. іншыя назвы страў, утвораныя пры дапамозе той жа словаўтваральнай мадэлі: *лапеня, раўчэня* (Лаўчутэ, Лекс. балт., 20; Лаўчутэ, Балтизмы, 115).

**Крупе́ц** 'незамярзаючы кароткі прыток у басейне Дняпра' (Яшк.). Параўн. *крупа* 'град, мокры снег' (гл.).

**Кру́піц** 'пошасная дзіцячая хвароба горла' (КЭС, лаг.). Гл. *круп*.

**Кру́пнік**$_1$ 'суп з круп' (ТСБМ, Шат., Шпіл., Нік. Очерки, Вешт., Крачк., Бяльк., Нар. словатв., КЭС, лаг., Касп., Сцяшк., ТС, Сл. паўн.-зах.). Гл. *крупы*.

**Кру́пнік**$_2$ 'алкагольны напітак, прыгатаваны з мёду, спірту і розных прыпраў' (КЭС, лаг.). Параўн. укр. *крупник* 'тс', польск. *krupnik* 'тс'. Цэнтр распаўсюджання гэтай назвы — Беларусь. Семантычны пераход не зусім зразумелы.

**Кру́пнічак** 'незабудкі' (Сцяшк. Сл.). Назва тлумачыцца скапленнем маленькіх кветачак на адной сцяблінцы.

**Крупно́е мяса** 'мяса, заражанае тыхінай' (КЭС, лаг.). Гл. *крупчак*.

**Кру́пны** 'буйны, грубы' (ТС). Укр. *крупний*, рус. *крупный* 'тс', балг. *крупен*, серб.-харв. *кру̏пан* 'тс', польск. *krupny* 'крупавы', чэш. *krupny* 'тс'. З гэтага супастаўлення відаць, што пераход у значэнні 'крупавы'>'крупны, вялікі' звязаны з супрацьпастаўленнем *мука* — *крупа* («крупная» мука, з нямолатымі зярнятамі). Параўн. балг. *крупно (брашно)* 'крупная (мука)' (Трубачоў, Дополн., 2, 386). Гл. *крупы*.

**Крупча́к** 'кабан, хворы на трыхінелёз' (ТСБМ, КЭС, лаг., Федар. Рук.). Словаўтварэнне пры дапамозе суфікса *-чак* (Сцяцко, Афікс. наз., 126). Параўн. *крупное мяса*. Лічынкі ў мясе знешне нагадваюць крупу.

**Кру́пчык** 'цвёрды камячок гліны, які пры апрацоўцы цяжка размінаць' (Нар. словатв.). Гл. *крупы*.

**Кру́пы** 'прадукт харчавання з зярнят розных культур' (ТСБМ, Нас., Касп., ТС). Укр. *крупа*, рус. *крупа, крупы* 'тс', ст.-слав. **кроупа** 'кроха', серб.-харв. *кру́па* 'крупа', славен. *krúpa* 'тс', польск. *krupa* 'крупа, град', чэш. *kroupa, kroupy*, славац. *krúpa, krúpy*, н.-луж. *kšupa, kšupy*, в.-луж. *krupa, krupy* 'тс'. Прасл. *krupa* да *krupiti* 'рабіць крупны памол', *krupъ* 'крупны'. Найбольш надзейныя індаеўрапейскія паралелі ў балтыйскіх і германскіх мовах: літ. *kraupùs* 'няроўны, шурпаты', *krùpti* 'пакрывацца струпамі', ст.-ісл. *hrufa* 'струп', *hrjufr* 'шурпаты'. Не выключана генетычная сувязь з *kruxъ*, *krušiti* (гл. *крух, круха*). Тады гаворка ідзе аб і.-е. *kreu-*'ламаць, крушыць' з датэрмінатывамі *-p-* і *-s-* (Бернекер, 630; Буга Rinkt, 1, 446—447; Фрэнкель, 290; Слаўскі, 3, 177). Параўн. прасл. *trupъ* і *truxъ* (гл. *труп* і *труха*).

**Круса́дня** 'курасадня' (Бяльк., Мат. Маг.). Да *курасадня* (гл.). Параўн. *крашэсць* (гл.).

**Крут** 'хват, маладзец' (Нас.), 'круцель' (ТС). Гл. *круты*$_2$.



**Кру́та**$_1$ 'хутка, скора' (Нар. лекс., Бяльк., ТС). Параўн. *круч* (гл.).

**Кру́та**$_2$ 'кружалы, калаўрот, крутарэлі' (Шат.). Гл. *крутарэлі*.

**Крутаве́рць** 'дрэннае надвор'е з мяцеліцай', 'вірлівая вада' (ТСБМ). Да *круціць* (гл.) і *вярцець* (гл.).

**Крутаве́я** 'мяцеліца' (Федар. Рук.). Да *круціць*$_1$ (гл.), *веяць* (гл.).

**Крутагало́ў** 'птушка' (Бяльк.). Названа паводле формы галавы (гл.). Параўн. *крутагалоўка*.

**Крутагало́ўка** 'апалонік' (Сцяшк.). Параўн. *крутагалоў* (гл.).

**Крутарэ́лі** 'кружалы (калаўрот)' (Бяльк.). Робіцца так: убіваецца кол ў лёд на лузе ці возеры, замарожваецца, на яго насаджваецца кола, да кола прымацоўваецца жэрдка, да яе канца прывязваюцца санкі. Параўн. *круцёлка*$_1$ (гл.). Кантамінаваная або складаная лексема **крута-арэлі*. Параўн. *круціць* (гл.) і *арэлі* (гл.).

**Крута́сы** 'варыяцыі, выкрутасы' (Мат. Гом.). Да *круціць*. Аддзеяслоўнае ўтварэнне на *-асы* (Pluralia tantum). Гл. SP, 2, 32.

**Крутая́р** 'лес на абрыве' (Мат. Гом.). Да *круты*$_1$ (гл.), *яр* (гл.).

**Крутня́**$_1$ 'бязладдзе' (КЭС, лаг.), 'круцельства' (Бяльк.). Да *круціць*$_2$ (гл.).

**Крутня́**$_2$ 'закрутка для прымацавання аглабель да палоза' (Сл. паўн.-зах.). Да *круціць*$_1$ (гл.).

**Круту́н** 'віхор' (Яўс.). Гл. *круціць*$_1$.

**Круту́ха** 'танец' (Касп.). Гл. *круціць*$_1$.

**Круты́**$_1$ 'стромкі, высокі' (ТСБМ, Бяльк., З нар. сл., Яруш., Касп., Сцяшк., Сержп. Ск., Мат. Гом., Сл. паўн.-зах.). Укр. *крутий*, рус. *крутой* 'тс'. Іншыя славянскія паралелі не ведаюць такога значэння. Але яно дакладна адпавядае літ. *krañtas* 'круты, стромкі бераг', лат. *krañts* 'бераг'. Таму ёсць падставы аддзяліць ад аманімічнага прасл. *krǫtъ* (гл. *круты*$_2$ і *круты*$_3$). Можна таксама меркаваць аб тым, што прасл. *bergъ* 'круты бераг' (магчыма, германскага паходжання) выцесніла прасл. *krǫtъ* у гэтым значэнні, **krǫtъ bergъ* 'круты бераг' рэалізавалася ў тых дыялектах, у якіх *bergъ* страціла значэнне 'круты', а *krǫtъ* адпаведна яго зберагло. Параўн. Міклашыч, 138; Траўтман, 142; Брукнер, 267; Слаўскі, 18, 276—277.

**Круты́**$_2$ 'спрытны, лоўкі' (Сцяшк. Сл., Сл. паўн.-зах.). Гл. *круты*$_3$.

**Круты́**$_3$ 'моцна скручаны' (ТСБМ, Бяльк., З нар. сл., ТС,

Сл. паўн.-зах., Мат. Гом.). Укр. *крутий*, рус. *крутой* 'тс', серб.-харв. *крŷт* 'тлусты, цвёрды, тугі', славен. *krôt* 'люты, шалёны', польск. *kręty* 'кручаны, сільны', чэш. *krutý*, славац. *krutý* 'кручаны, сільны, шалёны', н.-луж. *kšuty* 'моцна скручаны, тугі, моцны', в.-луж. *kruty* 'цвёрды, моцны, шалёны'. Прасл. *krǫtъ* 'тугі, скручаны, сільны, шалёны', відаць, усё ж такі генетычна звязана з *krǫtъ* 'круты, стромкі (бераг)', але семантычна адышло ад яго (гл. *круты*₁).

**Круты́₄** 'посны' (Мат. Гом.). Да *круты₃*. Семантычнае развіццё: 'моцна звараны без тлушчу (аб кашы)'>'посны'.

**Крух** 'глыба, камяк зямлі' (Яшк.). Рус. *крух* 'тс', балг. *крух* 'тс', ст.-слав. **оукроухъ** 'кавалак, грудка', польск. *kruch*, чэш. *kruch*, славац. *kruch* 'тс'. Прасл. *kruxъ* 'кавал, груда' генетычна звязана з *krušiti* (Слаўскі, 3, 165). Гл. *крыха*.

**Круха́₁** 'крушына' (Жыв. сл.). Гл. *крушына*.

**Круха́₂** 'хлебны квас' (Сцяшк. Сл.). Параўн. *крухі₂* (гл.). Параўн. серб.-харв. *крŷх* 'хлеб', славен. *krùh* 'тс', чэш. *krušec* 'каравай хлеба'. Аб магчымасці рэканструкцыі для праславянскай мовы першаснага значэння *kruxъ* 'хлеб' гл. Мартынаў, Лекс. взаим., 87—88.

**Кру́хаць** 'рохкаць' (Нар. сл., Сл. паўн.-зах.). Гукаперайманьнае.

**Кру́хі₁** 'мясны суп з рошчынай' (Шатал.). Гл. *крухі₂*.

**Кру́хі₂** 'кісла-салодкі напітак' (Шатал.). Гл. *круха₂*.

**Крухма́л** 'белы парашок, які атрымліваецца з некаторых раслін' (ТСБМ, Касп., Шат.). Запазычанне праз польск. *krochmal* з ням. *Kraftmehl* (Слаўскі, 3, 144). Бел. *крухмал* пад уплывам *крух* (гл.).

**Крухтаві́нне** 'жабурынне' (Бяльк.). Да *кракавіна* (гл.).

**Круцéль** 'хітрун, махляр' (ТСБМ, КЭС, лаг., Яруш., Касп.), 'непаседа' (Нар. словатв.). Да *круціць₂* (гл.).

**Круцёлка₁** 'крутарэлі' (Нар. словатв., Некр., ТС). Да *круціць₁* (гл.).

**Круцёлка₂** 'легкадумная жанчына' (Жд. 2, Бяльк., Ян.). Да *круцідца, круціць₂* (гл.).

**Круцёлка₃** 'народны танец' (Федар. VII, Мат. Гом.). Да *круціць₁* (гл.).

**Круці́лка** 'калаўрот на лёдзе' (З нар. сл.). Гл. *круцёлка₁* і *крутарэлі*.

**Круці́ста** 'зігзагамі' (ЭШ). Да *круціць₁* (гл.).

**Круці́цца** 'распуснічаць (пра жанчыну)' (Нар. сл.). Да *круціць₂* (гл.).

**Круці́ць₁** 'прыводзіць у кругавы рух' (ТСБМ, Шатал., Мат. Гом.), 'віць' (Касп.). Укр. *крутити*, рус. *крутить* 'тс', польск. *kręcić*, чэш. *kroutiti*, славац. *krútiť* 'тс'. У іншых славянскіх паралелей іншыя значэнні. Параўн. серб.-харв. *кру́тити* 'рабіць цвёрдым, крэпкім, моцным', балг. *кътря* 'адрываць, адломваць, валіць' і адпаведныя з сербскахарвацкім значэннем н.-луж. *kšušiś* 'рабіць цвёрдым, моцным', в.-луж. *krućić* 'тс'. З аднаго боку, цяжка звязаць сербскахарвацкае і балгарскае значэнні, з другога — цяжка гэта зрабіць для паўднёва- і паўночнаславянскіх значэнняў. Дакладных адпаведнікаў у іншых індаеўрапейскіх мовах няма. Параўн. *круты₁* і *круты₃* (гл.).



**Круці́ць₂** 'маніць, ашукваць' (Нас., Шат., КЭС, лаг., Яруш., Ян., Сл. паўн.-зах.). Гл. *круціць₁*.

**Круч** 'вір' (Жд. 2). Гл. *круча₂*.

**Кру́ча₁** 'крутое месца, круты бераг, спуск' (ТСБМ, Нар. лекс., Яшк., ТС, Мат. Гом.), укр. *круча*, рус. *круча* 'тс'. Да *krǫtja*. Гл. *круты₁* (Фасмер, 2, 387).

**Кру́ча₂** 'вір, завіруха' (Нар. лекс., Яшк., ТС, Мат. Гом., Сл. паўн.-зах.). Да *круціць₁*. Зыходная форма *krǫtja*. Гл. *круча₁*.

**Кру́чалы** 'калёсы для вывазкі лесу' (Мат. Маг.), 'прылада для калёс вазіць бярвенні' (Бяльк.). Кантамінацыя *крывалы* (гл.) і *круціць₁* (гл.).

**Кру́чка** 'бручка' (Нас., Нар. сл., Жд. 2, Шатал., Сцяшк. Сл., Сл. паўн.-зах.). У ДАБМ к. 276 не зафіксавана. Можна меркаваць, што *кручка* — кантамінацыйнае ўтварэнне ад *каліка, калаўка, каліўка* (гл. ДАБМ, 459, кам. да к. 276) і *бручка*. Памылкова разглядалася як літуанізм (гл. Лаўчутэ, Балтизмы, 143). Літ. *krùčkas* само запазычанне з беларускай мовы. Гл. Фрэнкель, 302.

**Кручкé** 'каромысел' (Сцяшк.). Да *крук₁* (гл.).

**Кручóк₁** 'чарка на 50 г' (Нас., Нік. Очерки, Сержп. Пр.), 'бутэлька мерай у 1/8 л' (Жыв. сл.), 'мера вадкасці ў 250 г' (ТСБМ, Жд., Сл. паўн.-зах.), 'бутэлечка ёмкасцю 100 г' (З нар. сл., Шатал., Сцяшк., Шат., Мат. Гом.). Да *крук*<*круг* 'збан' (гл. *круг₄*).

**Кручóк₂** 'паварот ракі' (Яшк.). Да *круч* (гл.).

**Кручóк₃** 'разнавіднасць авадня ці сляпня' (Сл. паўн.-зах.). Гл. *крук₆*.

**Кручóк₄** 'зародкавы расток' (Яшк.). Да *крук₁* (гл.).

**Кручóк₅** 'прылада, якой кідаюць ніткі ў бёрда' (Маш., Нар. сл., Жыв. сл.). Гл. *крук₁*.

**Кручына** 'сум' (Бяльк.). Укр. *кручина*, рус. *кручина* 'тс'. Параўн. далей рус.-ц.-слав. *кручина* 'жоўць; эпілепсія', польск. *kręcz* 'сутаргі', славен. *kročili* 'выгібацца'. Зводзіцца да першаснага *krǫkъ* (<*krǫgъ*) (Слаўскі, 3, 102). Параўн. *круг₁* (гл.).

**Кру́шня**$_1$ 'схіл гары з плоскімі выступамі' (Яшк.). Гл. *крушня*$_2$.

**Кру́шня**$_2$ 'куча камення' (ТСБМ, Федар., Яшк., КЭС, лаг., Сцяшк., Сл. паўн.-зах.). Ст.-бел. *крушня* 'тс', якое з літ. *krúsnis* 'тс' (Булыка, Запазычанні, 179).

**Кру́шня**$_3$ 'пажарышча' (Мат. Гом.). Гл. *крушня*$_2$.

**Крушы́на** 'дрэва або куст сямейства крушынавых' (ТСБМ, Шат., Сержп. Пр., Бяльк., Касп., Сцяшк., Дэмб. 1, Маш.). Укр. *крушина*, рус. *крушина* 'тс', серб.-харв. *кру̏шина* 'тс', польск. *kruszyna*, чэш. *krušina*, славац. *krušina* 'тс'. Прасл. *krušina* да *kruxъ* 'ломкі, крохкі', што адпавядае крохкасці расліны. Адсюль яе лацінская назва *Frangula* ад *frangere* 'ламацца, крышыцца' (Слаўскі, 3, 185).

**Крыва́вец**$_1$ 'гуляўнік лёзелієў, Sisymbrium loeselii L.' (Кіс.). Гл. *кроў*.

**Крыва́вец**$_2$ 'святаяннік звычайны, Hypericum perforatum' (Маш.). Гл. *крывавéц*$_1$.

**Крыва́лы** 'прылады да калёс, каб вазіць бярвенні' (Янк. III, Бяльк.). Гл. *крывулі*.

**Крыва́ўка**$_1$ 'каўбаса з крыві' (Сцяшк., Сержп. Пр., Вешт., ТС). Да *крывавы*. Гл. *кроў*.

**Крыва́ўка**$_2$ 'дызентэрыя' (Гарэц., КЭС, лаг., ЭШ, Касп., Мат. Гом.). Да *крывавы*. Гл. *кроў*.

**Крыва́ўнік**$_1$ 'лекавая расліна сямейства складанакветных, Achilea L.' (ТСБМ, Сл. паўн.-зах., Сцяшк., Кіс., Жыв. сл., Касп., Мат. Гом.). Гл. *кроў*.

**Крыва́ўнік**$_2$. Гл. *крывавец*$_2$ (Нар. лекс.) і *крываўнік*$_1$.

**Крыве́ц** 'аднавокі' (Мат. Гом.). Пераход значэння 'крывы' > 'аднавокі' агульнаславянскае. Параўн. *крываокі*.

**Крыве́ч** 'назва невялікага лесу' (Сцяшк.). Да *крывы* (гл.). Невялікія дрэвы называюць крывымі. Словаўтваральна да **крывеча*. Мадэль на *-еча* з агульным значэннем сукупнасці. Параўн. *пусты* — *пустэча* 'стары лес' (Сцяцко, Афікс. наз., 102—103).

**Крыві́ч** 'кроўны сваяк' (ТС). Гэта назва двухсэнсавая. Яна магла ўтварыцца ад *кроў* (параўн. *кроўны*). Але хутчэй ад старога этноніма *крывічы*. Цікава, што другасныя значэнні слова галоўным чынам адмоўныя, бо звязваюцца з *крывы* (параўн. Фасмер, 2, 375—376).

**Крыво́е са́ла** 'каўбаса' (Жд. 2). Ці не звязана з формай *кола*? Параўн. *кола каўбасы*.

**Крыво́к** 'кулік' (Мат. Гом.). Магчыма, так названы паводле «крывых скачкоў». Гл. *крывы*.

**Крыву́лі**$_1$ 'калёсы для перавозкі лесу' (Сцяц., Сцяшк., Нар. лекс., Нар. сл., Шатал., Сл. паўн.-зах.). Параўн. польск. *krzywula* 'тыльны шворан на возе'. Да *крывы*$_1$ (гл.).



**Крыву́лі**$_2$ 'ногі' (Нар. лекс.). Да *крывы*$_1$ (гл.), *крываногі*.

**Крывы́**$_1$ 'выгнуты, з загібамі' (ТСБМ, Яруш., Бяльк., Сержп. Грам., Сцяц. Нар., Сл. паўн.-зах.). Укр. *кривий*, рус. *кривой* 'тс', балг. *крив*, макед. *крив*, серб.-харв. *кри̑в*, славен. *krîv* 'тс', польск. *krzywy*, чэш. *křivy*, славац. *krivý* в.-луж. *křiwy*, н.-луж. *kšiwy*, палаб. *kraivĕ* 'тс'. Прасл. *krivъ* 'не прамы, несправядлівы, левы' мае дакладны адпаведнік у літ. *kreĩvas* 'тс', лат. *krievs* 'тс'. Значэнне 'левы' зафіксавана ў літ. *kairẽ* 'левая рука', лат. *keĩre* 'тс', *krēilis krèiss* 'левы' з няясным словаўтваральным статусам (параўн. Фрэнкель, 203). Са славянскіх паралелей толькі серб.-харв. *кри̑в* зберагло абодва значэнні ('крывы' і 'левы'). У астатніх выпадках значэнне 'левы' было выцеснена прасл. *lěvъ* (гл. Мартынаў, Изоглоссы, 26). Параўн. Слаўскі, 3, 253—254.

**Крывы́**$_2$ 'зайздросны' (Жд. 3, ТС). Гл. *крывы*$_1$.

**Крывы́дла** 'хромавыя боты, якія шчыльна аблягаюць нагу' (Жыв. сл.). Да *крывы*$_1$ (гл.), *крывулі*$_2$ (гл.).

**Крывэ́дла** 'крыкуха, плакса' (Яўс.). Да *крывіцца* 'грымасьнічаць'. Гл. *крывы*.

**Крывя́нка** 'каўбаса з крыві'. Гл. *крываўка*$_1$ (Жыв. сл., Сцяшк., Шатал., Ян.).

**Кры́га**$_1$ 'льдзіна на рацэ' (ТСБМ, Яруш., Сержп. Пр., Сцяшк., Мат. АС, Гарэц., Грыг., Бяльк., Яшк., ТС, Ян., Янк. II, Касп., Нас.). Укр. *крига*, рус. (зах. і паўдн.) *крига* 'тс'. Польск. *kryha* запазычана з беларускай мовы, славац. *kryha* — з украінскай. Фактычна беларуска-ўкраінская інавацыя. Да прасл. *ьkra* 'тс', якое атрымала суфіксацыю *-iga*, што дало *ьkr-iga*. Гл. SP, 1, 66. Параўн. Слаўскі, 3, 41—42.

**Кры́га**$_2$ 'пала ў кажусе' (ЭШ). Параўн. *крыга*$_3$ (гл.).

**Кры́га**$_3$ 'рыбалоўная снасць у выглядзе двух рухомых палазоў з сеткамі' (ТСБМ, Нас., Касп., Рам., Дэмб. 1, Крыв., Янк. I, 3 нар. сл., Маш., ТС, Ян.). Ст.-бел. *крига, крыга* 'прылада для лоўлі рыбы'. Запазычанне з с.-в.-ням. *kriege* 'тс' (Булыка, Запазыч., 176).

**Крыж**$_1$ 'сімвал хрысціянскай рэлігіі', 'фігура з двух брускоў, якія перасякаюцца' (ТСБМ, Нас., Яруш., Нік. Очерки, Сержп. Пр., Грыг., Касп., КЭС, лаг., Сцяшк., Мат. Гом., Сл. паўн.-зах., Шат.). Ст.-бел. *крижъ, крыжъ* — запазычанне з польск. *krzyż* (Булыка, Запазыч., 176).

**Крыж**$_2$ 'ніжняя частка хрыбетніка з пяці пазванкоў' (ТСБМ, Нас., Мат. Гом., Шат., Дразд., Мат. АС, Мядзв., Шн., Гарэц., Сцяшк., Бяльк., КЭС, лаг., Ян., Сл. паўн.-зах.). Укр. *криж* 'тс'. Запазычанні з польск. *krzyż* 'тс' (зафіксавана з XVI ст.). Гл. Слаўскі, 3, 256.

**Крыж**$_3$ 'бядро; клуб' (Ян.). Да *крыж*$_2$ (гл.).

9. Зак. 3479

**Крыжава́нка** 'народа дзікіх качак' (З нар. сл.). Параўн. *крыжанка* (гл.). Паколькі большасць вытворных на *-анка* паходзяць ад дзеясловаў, паралельна ад *крыжанка* ўтварылася форма *крыжаванка* (~*крыжаваць*) (Параўн. Сцяцко, Афікс. наз., 28—29). Да *крыж* (гл.). Так выглядае гэта птушка ў лёце. Ці, можа, пад уплывам ням. *Kreuzente* (*Kreuz* 'крыж', *Ente* 'качка').

**Крыжаві́лы** 'жэрдкі, якімі прыціскаюць салому на вільчыку' (Нар. сл.). Да *крыж*₁ (гл.) і *вілы* (гл.).

**Крыжаві́на** 'лысіна, белая пляма на лбе жывёлы' (Нар. словатв.). Першапачатковая пляма ў форме *крыжа*? Гл. *крыж*₁.

**Крыжаві́ны** 'хаўтуры, угодкі' (Сцяшк. Сл.). Магчыма, да *крыжавіны* ў значэнні 'прыстасаванне, на якое кладуць цела нябожчыка'. Да *крыж*₁ (гл.).

**Крыжа́к**₁ 'крыжаносец' (ТСБМ, Нас., Яруш.). Ст.-бел. *крыжакъ* і іншыя вытворныя (Булыка, Запазыч., 176). Запазычанні з польскай мовы.

**Крыжа́к**₂ 'падстаўка пад дзяжу' (Сцяшк., Сл. паўн.-зах.). Падстаўка ў выглядзе крыжа. Гл. *крыж*₁.

**Крыжакі́** 'кроквы' (Сцяшк. Сл.). Гл. *крыжак*₂.

**Крыжа́лка** 'тушаная бульба, нарэзаная скрылямі' (Янк. Мат.). Да *крыж*₁ (гл.).

**Крыжа́н** 'дзікі качар' (БелСЭ, 6, 135). Гл. *крыжанка*₁.

**Крыжані́ца** 'мяса з хрыбта свінні' (Вешт.). Да *крыж*₂ (гл.).

**Крыжа́нка**₁ 'вадаплаўная птушка сямейства качыных' (ТСБМ, Мат. Гом.). Утварэнне ж. р. ад *крыжан* (гл.) (як *парабак*~*парабчанка*) (гл. Сцяцко, Афікс. наз., 83). Гл. *крыжаванка*.

**Крыжа́нка**₂ 'астра' (Мат. Гом.). Няясна. Да *крыж*₃ (гл.)? Параўн. *бядрынец* (гл.) да *бядро*.

**Крыжачо́к** 'беларускі народны танец'. Адносіцца да групы танцаў, у якіх пераймаюцца рухі птушак. Параўн. *крыжанка* (гл.). Ад *крыжан* (гл.).

**Кры́жня** 'качка-крыжанка' (Янк. II, Маш., Дразд., Мат. Гом.). Гл. *крыжанка*₁.

**Крыжня́к**₁ 'від шчупака' (Жыв. сл.). Да *крыж*₁? Матывацыя няясная.

**Крыжня́к**₂ 'сасоннік паміж дзвюх дарог' (Яшк.). Да *крыж*₁ (гл.), *крыжаванне*.

**Крыжо́к** 'капа' (Яруш.). Да *крыж*₁ (гл.).

**Крыжо́ўка** 'прылада для лоўлі рыбы з берага' (З нар. сл.). Вытворнае ад *крыга*₃ (гл.). На *-оўка*/*-ёўка*, магчыма, непасрэдна да формы прыметніка **крыгавы* (гл. Сцяцко, Афікс. наз., 121).



**Крыжо́ўнік** 'агрэст' (Сл. паўн.-зах.). Укр. *крижовник*, рус. *крыжовник* 'тс'. Паводле Фасмера (2, 388), калька з ням. *Krisdohre* («Хрыстоў цёрн») у польск. *krzyżownik*, адкуль усходнеславянскія назвы. Вельмі праблематычна. Параўн. Слаўскі, 3, 261—262.

**Крыжы́**₁ 'козлы пад ляжачы вулей' (З нар. сл.). Параўн. *крыжак*₂ (гл.).

**Крыжы́**₂ 'прылада для размотвання маткоў пражы' (Жд. 3). Гл. *крыж*₁.

**Кры́жык** 'аўсяны мэндлік з 15 снапоў каласамі да цэнтра' (Жыв. сл., Касп.). Да *крыж*₁ (гл.). Параўн. *крыжок* (гл.).

**Кры́зіс** 'рэзкі пералом, абвастрэнне становішча' (ТСБМ). Запазычанне праз рус. *кризис* з ням. *Krisis* (Шанскі, 2, 8, 392).

**Кры́зкі** 'махры' (Жд. 3). Магчыма, ад *грызкі* да *грызці* (гл.).

**Крык** 'вельмі моцны гук голасу' (ТСБМ, Бяльк., Яруш., Сержп. Пр., Бяльк., Сержп., Ск., ТС). Укр. *крик*, рус. *крик* 'тс', макед. *крик*, серб.-харв. *крйк*, славен. *krîk* 'тс', польск. *krzyk*, чэш. *křik*, славац. *krik*, в.-луж. *křik*, н.-луж. *kśik* 'тс'. Прасл. *krikъ* зваротнае словаўтварэнне да *kričati*. Параўн. літ. *krýkti* 'крычаць'. Іншыя паралелі больш праблематычныя (Фасмер, 2, 376—377; Слаўскі, 3, 240; Фрэнкель, 298—299).

**Крыкаві́нне** 'жабурынне' (Бяльк.). Гл. *каркавінне*, *кракавіна*.

**Крыкаві́шча** 'адлегласць на голас' (ТС). Да *крык* (гл.).

**Крыке́ўка** 'папярочная планачка на дзяржанні ў лапаце' (Шатал.). Да *кракеўка*. Гл. *кроква*.

**Кры́кса**₁ *«Ена зімой бываець і не даець рабятам спаць, ены і станудь ўсю моць блажыць...»* (Шн., Сержп. Пр.), *«Як быў мой Іванка малы, на яго напалі крыксы»* (Арх. ГУ), 'дзіцячая хвароба' (Сл. паўн.-зах., Шат.). Гл. *крыкса*₂.

**Кры́кса**₂ 'пра крыклівае і плаксівае дзіця' (ТСБМ, Нар. лекс., КЭС, лаг., Нар. словатв., Мат. Гом.). Назва дзеючай асобы са спецыфічным *-с-а-*суфіксам, для пеяратыўных назоўнікаў з *к*-заканчэннем кораня. Параўн. *крыкса, плакса, хныкса, мыкса* (гл. Сцяцко, Афікс. наз., 64—65).

**Крыксу́н** 'крыкун (пра дзіця)' (Юрч., Яўс., З нар. сл., КЭС, лаг., Жд. 3, Мат. Маг., Сцяшк.). Утварэнне на *-ун* пад уплывам *крыкун*. Да *крыкса*₂ (гл.).

**Крыку́ха** 'падсадная качка ў паляўнічых' (ТС). Да *крычаць*. Гл. *крык*.

**Крыла́тка**₁ 'верхняе мужчынскае адзенне' (ТСБМ). Па форме яна нагадвае крылы. Параўн. *крыло*₁ (гл.).

**Крыла́тка**₂ 'плод некаторых раслін з тонкім крылом, якое дае магчымасць ляцець у паветры' (ТСБМ). Гл. *крыло*₁.

**Крыла́ч** 'рыбалоўная пастка з крыламі' (Крыв.). Гл. *крыло*$_1$.

**Крыле́ц** 'кавалак' (Сцяшк. Сл.). Утворана па аналогіі са *скрыль* 'акраец' (гл.).

**Кры́лле** 'плаўнікі рыбы' (З жыцця сл.). Празрысты семантычны перанос. Гл. *крыло*$_1$.

**Крыло́**$_1$ 'орган, які служыць для лятання' (ТСБМ, Касп., Яруш., Бяльк., Сержп. Грам., ТС, Сцяшк., Мат. Гом., Сл. паўн.-зах.). Укр. *крило*, рус. *крыло*, ст.-рус. *крило* 'тс', ст.-слав. **крило** 'тс', балг. *крило* 'плаўнік', серб.-харв. *кри̏ло* 'крыло, плаўнік', славен. *krílo* 'тс', польск. *skrzydło, krzydło*, чэш. *křídlo*, славац. *krídlo*, в.-луж. *křidło*, н.-луж. *kšidło*, палаб. *kréidlü* 'тс'. Прасл. *kridlo* мае празрыстае словаўтварэнне: *kri-dlo*. Параўн. літ. *skriẽti* 'ляцець', латыш. *skriet* 'тс' (Бернекер, 1, 645; Траўтман, 267; Фасмер, 2, 389).

**Крыло́**$_2$ 'акладня (у плузе)' (Касп.). Параўн. рус. *крыло* 'тс' і *крыло*$_1$ (гл.).

**Крыло́**$_3$ 'пала' (Кліх., Чуд., Сцяшк., Нар. сл., Сцяц. Нар., Сл. паўн.-зах.), 'парная дэталь адзення, напамінае крыло' (гл.). Магчыма, уплыў *крысо* (гл.).

**Крыло́**$_4$ 'кожная з дзвюх частак сеткі, размешчаных па баках кармы' (ТСБМ, З нар. сл., ТС). Гл. *крыло*$_1$.

**Кры́лус** 'кліpac, месца ў царкве для пеўчых' (Бяльк., Шат.). Да *кліpac* пад уплывам *крыло*$_1$ (гл.).

**Кры́лы** 'жабры' (Шатал.). Таксама парныя аб'екты з абодвух бакоў рыбы, таму па аналогіі з *крыло*$_1$ (гл.).

**Крыль** 'трус, кролік' (Дразд.). Гл. *кроль*.

**Кры́ляс** 'кліpac' (Сл. паўн.-зах.). Гл. *крылус*.

**Крыміна́л** 'крымінальная справа, злачынства' (ТСБМ). Ст.-бел. *криминалъ* з польск. *kryminała* (<лац. *criminalis*) (Булыка, Запазыч., 177).

**Кры́мка** 'шапка з крымскіх мярлушак' (Нас.). Да тапоніма *Крым*.

**Крыналі́н** 'даўнейшая шырокая спадніца на тонкіх абручах' (ТСБМ). Запазычана праз рус. *кринолин* з франц. *crinoline* (Шанскі, 2, 8, 395).

**Кры́нджалы** 'сані, прызначаныя для перавозкі бярвення' (Янк., Мат., Мат. Гом., Ян., ТС), 'крывалы, прылада для калёс, каб вазіць бярвенні' (Бяльк.), 'козлы з трох кійкоў' (ТС). Укр. *кринджола* 'санкі', рус. *кринджолы* 'тс', польск. *gryndżoły* 'нізкія сані для саломы'. Лічыцца балтызмам. Параўн. літ. *grĩžulas, grįžulgė, grẽžalas* 'дышаль'. Гіпотэза аб запазычанні з польск. *grządzil, grądziel* 'дышаль сахі' (Фасмер, 2, 377) неверагодная, бо ў гэтым выпадку мы б чакалі дыфтонг *-on-*, а не *-in-*, *-yn-* (Лаўчутэ, Балтизмы, 11).



**Крынжа́к** 'далакоп' (Сцяшк. Сл.). Магчыма, да *крыж*$_1$ (гл.).

**Крыні́ца**$_1$ 'выхад падземных вод на паверхню зямлі' (ТСБМ, Шат., Сцяшк., Мядзв., Яруш., Сержп. Пр., Гарэц., Маш., Мал., Сержп. Ск., Бяльк., Яшк., ТС, Касп., Сл. паўн.-зах.). *Крыніца*<*крын* 'расліна, цвет, лілея' (Булг.). Укр. *криниця*, рус. *крыница*, ст.-рус. *криница* 'тс', польск. *krynica* 'тс'. Лексема паходзіць ад свайго амоніма, які рэфлексуецца як ст.-рус. *криница* 'миска', серб.-харв. *кри̑ница* 'тс', славен. *krnica* 'драўлянае начынне', балг. *криница* 'тс'. Яны ў сваю чаргу да прасл. *krina* 'драўлянае начынне' (гл. *крынка*). Не выключана палеабалканскае паходжанне слова (параўн. ст.-грэч. κρήνη 'крыніца').

**Крыні́ца**$_2$ 'ямачка каля пупавіны, па якой пазнаюць карову, добрая на малако ці не' (Шатал.). Гл. *крыніца*$_1$.

**Крыні́чнік** 'крынічнік паручайны, Veronica beccabunga L.' (Кіс., Гарэц.) Да *крыніца*$_1$ (гл.).

**Крыні́шнік** 'топкае, балоцістае месца, дрыгва' (Бяльк.). Да **крынічнік* 'тс' (*шн*<*чн*). Гл. *крыніца*$_1$.

**Кры́нка** 'гладыш' (Мат. Маг., Ян., Мат. Гом.). Рус. *кринка* 'тс', ст.-рус. *крина* 'мерка збожжа', балг. *крина* 'тс', серб.-харв. *крина* 'тс', славен. *krînja* 'чан', в.-луж. *krina* 'карыта'. Астатнія славянскія паралелі маюць памяншальную суфіксацыю. Развадоўскі (Wybór, 2, 174—175) аддзяляў слова са значэннем 'крыніца' ад слова са значэннем 'пасудзіна'. Першае ён выводзіў са ст.-грэч. κρήνη 'крыніца', другое — з невядомай нам таксама грэчаскай формы. Калі браць пад увагу значэнне 'драўлянае начынне', то не выключана сувязь з лац. *scrinium* 'скрынка' (Бернекер, 1, 617). Прыняць генетычную сувязь паміж славянскімі і лацінскай лексемамі нельга. Хутчэй тут старое лексічнае пранікненне.

**Крынчу́к** 'кныр' (Мат. Гом.). Відаць, ад **кнырчук* да *кныр, кнур* (гл.).

**Крыны́чына** 'дрыгва, твань, багна' (Нар. лекс.). Гл. *крыніца*$_1$.

**Крынь** 'крыніца' (Яшк.). Гл. *крынка*. Зваротнае словаўтварэнне да *крыніца* (гл.).

**Крыпа** 'жолаб у крыніцы' (Федар. Рук.), 'кармушка' (Сл. паўн.-зах.). Запазычанне праз польск. *krypa* 'прыстасаванне для кармлення коней' з ням. *Krippe* 'жолаб' ці больш верагоднае (улічваючы значэнне беларускіх слоў) непасрэднае запазычанне з нямецкай мовы (параўн. Слаўскі, 3, 88).

**Крыпані́кі** 'бліны' (Нік. Очерки), 'кішкі з начынкай' (Касп.). Да *крапаць*$_2$ (гл.).

**Крыпа́ніца** 'сяннік' (Шатал.). Магчыма, да *крапаць*$_2$ (гл.) 'начыняць, напіхваць'. Тады *крыпаніца* 'нешта напіханае, сяннік'; **крапанец* ад *крапаць*, як *ляжанец* ад *ляжаць* (Сцяцко, Афікс. наз., 27).

**Крыпа́нкі** 'зацямненне зроку' (Сл. паўн.-зах.). Да *крыпаць*$_1$ (гл.).

**Кры́паць**$_1$ 'блытаць (ніткі, валасы)' (Янк. Мат., Сцяшк.). Да *крапаць, корпаць*. Гл. *корпацца*.

**Кры́паць**$_2$ 'пісаць абы-як' (Нар. лекс.). Гл. *крыпаць*$_1$.

**Кры́пенкі** 'пупышкі' (Нар. лекс.). Гл. *крыпанікі*.

**Кры́плы** 'нятлусты' (пра мяса)' (Нар. сл., Сцяшк. Сл., Ян., Мат. Гом., Сл. паўн.-зах.). Да *крыпаць*$_1$ (гл.).

**Крыса́**$_1$ 'лента для касы' (Чуд.). Гл. *крысо*.

**Крыса́**$_2$ 'верхняя частка збанка' (Жыв. сл., Нар. словатв., ТС, Мат. Гом.). Гл. *крысо*.

**Крыса́**$_3$ 'пала адзення' (Нар. сл., Янк. II, Шат.). Гл. *крысо*.

**Кры́сло** 'аснова жорнаў, на якой рухаецца верхні камень' (Тарнацкі, Studia). Гл. *крэсла*$_5$.

**Крысо́** 'пала адзення' (ТСБМ, Бір. Дзярж., Янк. I, Некр.). Укр. *криса* 'край, берагі сасуда, палі капелюша', польск. *kresa* 'палі капелюша'. Ёсць меркаванне аб запазычанні польскіх слоў з с.-в.-ням. *kritz* 'лінія, рыска'. Параўн. польскія дублеты *kreska / kryska, kresić / krysić*, што сведчыць аб магчымасці запазычання бел. *крысо, крыса* і ўкр. *криса* праз польскае пасрэдніцтва (Слаўскі, 3, 90—91).

**Крыт** 'крот' (Дразд.). Гл. *крот*.

**Кры́тыка** 'абмеркаванне з мэтай ацаніць вартасць' (ТСБМ). Запазычанне праз рускую мову (рус. *критика*) з франц. *critique* (Шанскі, 2, 8, 398).

**Крытэ́рый** 'прызнак, на аснове якога праводзіцца ацэнка' (ТСБМ). Запазычана праз рус. *критерий* з нямецкай мовы (менш верагодна з французскай). Параўн. ням. *Kriterium*, франц. *criterium*. Слова аформілася па аналогіі з запазычаннямі з класічных моў (Шанскі, 2, 8, 398).

**Крыў** 'пра хадзьбу крываногага' (Нар. лекс.). Да *крывы* (гл.).

**Кры́ўда** 'несправядлівыя ўчынкі, якія абражаюць' (ТСБМ, Нас., Яруш., Бяльк., Грыг., Касп., Сл. паўн.-зах.). Укр. *кривда*, рус. *кривда*, ст.-рус. *кривьда* 'тс', ст.-слав. **кривьда**, балг. *кривда*, макед. *кривда*, серб.-харв. *крйвда*, славен. *krîvda* 'тс', польск. *krzywda*, ст.-чэш. *křivda*, славац. *krivda*, в.-луж. *křiwda*, н.-луж. *kśiwda* 'тс'. Прасл. *krivьda* 'несправядлівасць' узнікла пры дапамозе суфікса *-ьda* ад *krivъ* 'несправядлівы' (гл. *крывы*) па мадэлі вытворных ад прыметнікаў назоўнікаў.



Гэта мадэль не мае паралелей за межамі славянскіх моў (Мартынаў, Дерив., 21). Памылкова Эндзелін (RS, 13, 64), які выводзіць *krivьda* з *krivьba* (такі дысіміляцыйны працэс як быццам наглядаецца таксама ў выпадках *pravьda*<**pravьba, voržьda*<**voržьba*). Аднак, па-першае, суфікс *-ьba* ўтварае назоўнікі ад дзеясловаў, а не прыметнікаў, па-другое, у трэцім прыкладзе ўвогуле няма дысіміляцыі.

**Крыўля́цца**$_1$ 'зайздросціць, адносіцца з пагардай' (Жыв. сл.). Гл. *крыўляцца*$_2$.

**Крыўля́цца**$_2$ 'рабіць ненатуральныя рухі цела, грымасы' (ТСБМ, КЭС, лаг.). Гл. *крыўляць*.

**Крыўля́ць** 'крывіць, выгінаць' (Др.-Падб.). Гл. *крывы*.

**Крыха́** 'нязначная колькасць' (ТСБМ, Сержп. Ск.). Укр. *криха*, рус. *кроха*, ст.-рус. *кръха* 'тс'. Параўн. літ. *krušà* 'град', лат. *krusa* 'тс', літ. *krùšti* 'крышыць'. Іншыя індаеўрапейскія паралелі менш верагодныя (Бернекер, 1, 630; Траўтман, 143; Фрэнкель, 302).

**Крыхаві́нне** 'жабурынне' (Шатал.). Да *кракавінне*. Гл. *кракацінне* і *кракташінне*. Магчыма, пад уплывам *крыха* (гл.).

**Крыху́** 'ў невялікай колькасці' (ТСБМ, Яруш., Сержп. Пр., Гарэц., Касп., Сл. паўн.-зах.). Гл. *крыха* (форма він. скл.).

**Кры́ца** 'камяк', *«Каб ты крыцай села»* (Бір. Дзярж., Грыг., Яшк., КЭС, лаг.). Ст.-бел. *крица* 'кавапае жалеза' (з 1520 г.). Запазычанне з польск. *kryca* (?) праблематычнае (параўн. Булыка, Запазыч., 177). Укр. *криця* 'кавалак жалеза, накрыты шлакам', рус. *крица* 'тс'. Янчэ Міклашыч (139) разглядаў гэтыя словы як запазычанні з ням. *Kritze* 'тс' (параўн. *Kritzeisen*). Гл. Фасмер, 2, 378.

**Кры́цік** 'верхні сноп, якім накрываюць бабку' (Шатал.). Да *крыць* (гл.).

**Крыць** 'рабіць пад чым-небудзь страху, дах, верх' (ТСБМ, Нас., Др.-Падб., Яруш., ТС, Сцяшк., Шат.). Укр. *крити*, рус. *крыть* 'тс', ст.-слав. **крыти**, балг. *крия*, макед. *криям*, серб.-харв. *крйти*, славен. *kriti* 'тс', польск. *kryć*, чэш. *krýti*, славац. *kryt'*, в.-луж. *kryć*, н.-луж. *kšyś*, палаб. *krâje* 'тс'. Прасл. *kryti* 'пакрываць што-небудзь чым-небудзь' адпавядае літ. *kráuti*, лат. *kraut* 'тс'. Курыловіч (Accentuation, 297) і Станг (Verbum, 49) звяртаюць увагу на рэгулярнасць гэтых суадносін. Параўн. прасл. *ryti*$\sim$літ. *ráuti* і інш. (Слаўскі, 3, 194).

**Кры́чка** 'рачная чайка' (Нар. словатв., ТС, Мат. Гом.). Да *крык* (гл.).

**Кры́чма:** *крычма крычаць* (Янк. БФ). Да *крык* (гл.).

**Кры́чык** 'балотны каршун, рыбалоў' (Дразд.). Параўн. *крычка* (гл.).

**Крыш** 'крызіс хваробы, знішчэнне касцей, смерць' (Нас.). Да *крышыць* (гл.).

**Крыша** 'страха' (Бір., Дзярж., Тарнацкі, Studia; Бяльк., ТС, Сл. паўн.-зах.). Укр. *криша*, рус. *крыша* 'тс'. Усходнеславянская інавацыя ад *kryti* (гл. *крыць*) пры дапамозе суфікса *-ša* (SP, 1, 77).

**Крыша́н** 'адрэзаны плоскі кусок чаго-небудзь ядомага' (ТСБМ, Янк. II, Сцяшк., Жыв. сл., Мат. Гом.). Да *крышыць* (гл.).

**Крышанчы́ха** 'пляткарка' (Мат. Гом.). Выходзячы з мадэлі *пявец-пяўчыха* (Сцяцко, Афікс. наз., 187), трэба рэканструяваць *крышанец*, якое ў сваю чаргу магло ўзнікнуць ад дзеяслова *крышыць* 'малоць' пры дапамозе суфікса *-анец* (Сцяцко, там жа, 26—27). Тады *крышанчыха* — 'жанчына, якая «меле (языком)»'.

**Крышка**$_1$ 'века, накрыўка' (ТСБМ, Нар. сл., Жыв. сл., Сцяшк.). Гл. *крыша*.

**Кры́шка**$_2$ 'патэльня, на якой пякуць паляніцы' (Доўн.-Зап., ПП). Гл. *крышка*$_1$.

**Кры́шка**$_3$ 'малая колькасць' (Кліх). Да *крыха* (гл.).

**Кры́шка**$_4$ 'смерць, канец' (ТСБМ). Метафарычны перанос ад *крышка*$_1$.

**Кры́шку** 'крыху' (ТСБМ, Яруш., Мал., Сцяшк., Сл. паўн.-зах.). Да *крышка*$_3$ (гл.).

**Крышта́ль** 'цвёрдае цела, якое мае натуральную форму мнагагранніка (ст.-грэч. κρύσταλλος) (ТСМБ, Гарэц.). Ст.-бел. *кристалъ, крышталъ*. Запазычанне праз польск. *kryształ* з ням. *Kristall* (Булыка, Запазыч., 177). Паводле Слаўскага (3, 203), ст.-польск. *krysztal* з лац. *crystallus*.

**Крышчы́ны**$_1$ 'адходы пасля апрацоўкі воску' (Сцяшк. Сл., Сл. паўн.-зах.). Гл. *крышчыны*$_2$.

**Крышчы́ны**$_2$ 'гушча ад квасу' (Шн., Малч.). Ад *крышыць* (гл.). Утворана з суфіксам *-чына* (Сцяцко, Афікс. наз., 75).

**Крышыць** 'наразаць дробнымі кавалкамі, ламаць, малоць, разбіваць на часткі' (ТСБМ, Сцяшк., Сержп. Грам., Гарэц., Нас., Мал., КЭС, лаг., Сл. паўн.-зах.). Да *крыха* (гл.).

**Крышэ́ць** 'запякацца (пра кроў)' (Сл. паўн.-зах.). Параўн. літ. *krešė́ti* 'тс' (там жа, 2, 547). Балтызм.

**Крыяць** 'пачаць ачуньваць, напраўляцца' (Нас.). Рэканструюецца як праславянскае ў форме *акрыяць* (гл.) (**okrьjati*). Індаеўрапейскія паралелі праблематычныя. Параўн. Махэк IF, 53, 94. Не выключана, аднак, сувязь з лац. *creare* 'ствараць', *recreare* 'акрыяць' (Мацэнаўэр, LF, 9, 29).

**Крэ́глы** 'кеглі' (Рам., Гарэц.), 'дзіцячая гульня, падобная на гарадкі' (ТС). Укр. *крагол, крагла, краглі*, рус. *кргли, кре-*



*гли* 'тс'. Праз польск. *kregiel, kregle* 'тс' з с.-в.-ням. *kegel* 'тс'. Формы з устаўным *r* пад уплывам *krąg, krężel* (*kręglica* назва гульні). Гл. Слаўскі, 3, 103.

**Крэды́т** 'продаж тавараў з адтэрмінаванай платай' (ТСБМ, Яруш.). Запазычана праз рускую мову (*кредит*) з ням. *Kredit* (у рускай мове ў XVIII ст.). Але ст.-бел. *кредиторъ* ранейшае (Булыка, Запазыч., 176).

**Крэж**$_1$ 'дрэва, у якім асяродак не ў цэнтры' (Шатал., Клім.), 'унутраная амярцвелая частка дрэва' (Жыв. сл.), 'хвоя з крохкай і цвёрдай драўнінай' (ТС). Рус. *кряж* 'вялікае моцнае дрэва', 'калодны вулей', ст.-рус. *кряжь* 'брус'. Першапачаткова 'круглы брус' да прасл. *krǫgъ* 'круг' з іншай ступенню аблаўта (прасл. *kręg-jь*) (Фасмер, 2, 391).

**Крэж**$_2$ 'прыбярэжная мель на возеры' (Нар. лекс.). Укр. *кряж* 'бугор'. Да **kręg-jь* 'акруглы'. Гл. *крэж*$_1$.

**Крэж**$_3$ 'абрыў на дне возера; паглыбленне, яма' (Яшк.). Гл. *крэж*$_2$.

**Крэйга** 'канец страхі, які звісае над сцяною' (Сцяшк. Сл.). Іншы варыянт *крэйка* 'верх страхі' (гл.). Польск. *krejga* 'вільчык, верх страхі'. Запазычанне з балтыйскіх дыялектаў. Параўн. літ. *kraĩgas* 'тс' (Урбуціс, Baltistica, 5(1), 64; Непакупны, Kalbotyra, 25(2), 73—74; Грынавецкене і інш. LKK, 16, 179—180; Лаўчутэ, Балтизмы, 46—47).

**Крэ́йда** 'мел' (ТСБМ, Гарэц., Бяльк., Яшк., Касп., Грыг.). Укр. *крейда*, рус. (паўдн.-зах.) *крейда* 'тс'. Запазычанне праз польск. *krejda, kreda* з лац. *crēta* 'тс'. Форма *krejda* запазычана з с.-в.-ням. *kride* (ням. *Kreide*) (Слаўскі, 3, 82).

**Крэ́йзаць** 'крэмзаць' (Жыв. сл., Нар. лекс., Нар. словатв.). Кантамінацыя *крэмзаць* (гл.) і *кроіць* (гл.).

**Крэ́йка** 'верх страхі, дзе сходзяцца скаты' (Сцяшк., Мат. АС). Гл. *крэйга*.

**Крэміна́** 'баразёнка ў зубе каня' (ТС). Да *крама, крамка* (гл.).

**Крэ́йсер** 'тып ваеннага карабля' (ТСБМ). Праз рускую мову з гал. *kruiser* 'тс' (Шанскі, 2, 8, 379).

**Крэ́касць** 'топкае балота' (Сцяшк., Яшк., Сл. паўн.-зах., Федар., Шатал.), *крэкаць*, гл. *крактавінне*. Параўн. *крэктаць*$_2$.

**Крэкта́ць**$_1$ 'пра жаб' (ДАБМ). Гл. *крактаць*. Параўн. Лаўчутэ, Балтизмы, 143.

**Крэкта́ць**$_2$ 'гусцець'. Разглядаецца як балтызм. Параўн. літ. *krèkti* 'тс' (Грынавецкене і інш., LKK, 16, 180; Лаўчутэ, Балтизмы, 143).

**Крэм**$_1$ 'кандытарскі выраб' (ТСБМ). Праз рус. *крем* запазычана з франц. *crème* 'смятанка, крэм' (Шанскі, 2, 8, 380).

**Крэм**$_2$ 'дрэва, прыгоднае для вырабу пчаліных борцяў або

ўжо прыстасаванае для пчол' (Яшк.), 'соты ў вулеі, дзве вымерлі пчолы' (Гарб.). Параўн. рус. *крем-деревцо* 'асобнае моцнае разгалінаванае дрэва', *кремь* 'моцная будаўнічая сасна, будаўнічы лес'. Да прасл. *kromъ* (гл. *кром*₁).

**Крэ́мень** 'цвёрды мінерал, які выкарыстоўвалі для высякання агню' (ТСБМ, Маш., Яруш.). Укр. *кремінь*, рус. *кремень* 'тс', ст.-слав. **кремы, кремене**, балг. *кремен*, макед. *кремен*, серб.-харв. *крѐмен*, славен. *krémen* 'тс', польск. *krzemień*, чэш. *křemen*, славац. *kremeň*, в.-луж. *křemjeń*, н.-луж. *kśemeń*, палаб. *kremin* 'тс'. Прасл. *kremy, kremene*. У якасці адпаведніка ў балтыйскіх мовах толькі лат. *kręms* 'тс'. Да *kremъ/kromъ* (параўн. кашуб. *křem* 'крэмень' і *кром*₁). Гл. *кром*₁. Калі зыходнай формай з'яўляецца *kremъ*, тады трэба пагадзіцца з тымі, хто тлумачыць марфалогію прасл. *kremy, kremene* як кантамінацыйную: *kremъ* пад уплывам *kamy, kamene* (*крэмень* — цвёрды камень) (Траўтман, 141; Атрэмбскі, LP, 1, 136—138). Параўн. яшчэ Тапароў, К — L, 176—177; Махэк, LF, 72, 75.

**Крэ́мзаць** 'неакуратна, невыразна пісаць або чарціць' (ТСБМ, КЭС, лаг.). Гл. *крэмсаць*.

**Крэ́мзка** 'рыска' (КЭС, лаг.). Да *крэмзаць* (гл.).

**Крэмса́ла** 'жалеза, якім высякаюць агонь з крэменю' (Мат. АС, Мат. Гом.). Кантамінацыя *крэсала* (гл.) і *крэмень* (гл.).

**Крэ́мсаць** 'псаваць, неахайна рэзаць' (Жыв. сл.). Да *крамсаць* (гл.).

**Крэ́ндзель** 'вітая здобная булка' (ТСБМ). Рус. *крендель* з ням. *Kringel, Krengel*. Аб пераходзе *g'*>*d'* гл. Мартынаў, Слав. акком., 63.

**Крэ́ніць** 'нахіляць набок (судна, самалёт)' (ТСБМ). Запазычана праз рус. *кренить* з гал. *krengen* 'тс' (Шанскі, 2, 8, 383).

**Крэ́нтам** 'абы-як' (Сцяшк. Сл.), *крэнтам-вэнтам* з польск. *krętu-wętu* 'то тут, то там' (Слаўскі, 3, 101).

**Крэп** 'тканіна з шурпатай паверхняй, вытканай асобым чынам', 'празрыстая гафрыраваная тканіна чорнага колеру' (ТСБМ). Франц. *crêpe* (там жа, 2, 746). Запазычанне праз рус. *креп* з французскай мовы (Шанскі, 2, 8, 383).

**Крэ́па** 'шырокі шарсцяны жаночы пояс' (ТС). Да *крапіць, крэпкі* (гл.). Параўн. таксама *крэпацца* 'віцца'.

**Крэпдэшын** 'крэпдэшын' (ТСБМ). Запазычана праз рус. *крепдешин* з франц. *crèpe de Chine* 'крэп з Кітая' (Шанскі, 2, 383—384).

**Крэ́пка** 'вельмі' (ДАБМ, ТС, Шатал.). Гл. *крэпкі*.

**Крэ́пкі** 'дужы, моцны; цвёрды, крамяны' (ТСБМ, Бяльк., Яруш., ТС, Ян., Шатал.). Укр. *кріпкий*, рус. *крепкий*, ст.-рус. *крѣпкыи*, ст.-слав. **крѣпъкъ**, балг. *крепък*, макед. *крепок*, серб.-харв. *крѐпки, крѐпак*, славен. *krépec* 'тс', польск. *krzepki*, ст.-чэш. *křepky*, славац. *krepký* 'тс'. Прасл. *krěpъkъ* 'моцны, сільны' — прыметнік на *-къ* ад *krěpъ*. Збрагліся формы без *-къ*: ст.-слав. **крѣпъ**, славац. *krepý*, серб.-харв. *krijep*. Надзейных балтыйскіх і іншых індаеўрапейскіх паралелей няма. Традыцыйнае супастаўленне са ст.-ісл. *hráefa* 'вытрымаць' (Бернекер, 614; Покарны, 620). На жаль, у гэтай лексемы няма адпаведнікаў. Зупітца (KZ, 27, 389) параўноўвае ст.-ісл. *kraptr*, ст.-в.-ням. *kraft* 'сіла, моц'. У гэтым выпадку не можа быць гаворкі аб генетычнай суаднесенасці. Магчыма, вынік лексічных пранікненняў, але абгрунтаваць германскую, славянскую або іншамоўную трэцюю крыніцу пакуль што не ўдаецца.



**Крэ́пнуць** 'драпцвець, нямець ад холаду' (ТСБМ, Янк. Мат.). Да *крэпкі* (гл.).

**Крэс** 'мяжа' (Яшк., Сцяшк., Сл., Гарб.). Ст.-бел. *кресъ* 'тс'<польск. *kres*<с.-в.-ням. *kreis* 'тс' (Булыка, Запазыч., 176).

**Крэ́сала** 'крэсіва' (Мат. Гом., ТС). Гл. *крэсіва*.

**Крэ́сіва** 'кавалак сталі для высякання агню з крэменю' (ТСБМ, Янк. II, Мат. АС, Сержп. Пр., Грыг., Маш., Сцяшк.). Да *крэсіць* (гл.).

**Крэ́сіла** 'тс' (Янк. Мат.). Гл. *крэсіва*.

**Крэ́сіць** 'высякаць агонь крэсівам' (ТСБМ). Укр. *кресати*, рус. *кресать* 'тс', серб.-харв. *крѐсати*, славен. *krésati* 'тс', польск. *krzesać*, чэш. *křesati*, славац. *kresat'*, в.-луж. *křesać*, н.-луж. *tśasaś* 'тс'. Прасл. *kresati* не мае надзейных этымалогій (агляд версій гл. Слаўскі, 3, 227). Заслугоўвае ўвагу думка Атрэмбскага (LP, 1, 137—138) аб кантамінацыі лексем *česati* 'часаць, скрэбці' і *kremy* 'крэмень'. На карысць гэтай гіпотэзы гаворыць магчымасць узнікнення праславянскай figura etymologica **kresati kresem* (параўн. бел. *красаць красівам*) ад **česati kremenem*. Для такіх выпадкаў, як вядома, рыфмаванае словаўтварэнне даволі тыповае (параўн. Вуд, IF, 22, 166, Гюнтарт, 13). Іншая этымалогія: *kresati* да *krasa*. Тады *kresati ognь* 'ствараць агонь'. Параўн. лац. *creare* 'ствараць'. Гл. *краса* (Трубачоў, Эт. сл., 12, 125).

**Крэ́ска** 'рыска' (Сцяц. Нар., Жыв. сл., Жд. 2, Жд. 3, Сцяшк. Сл.). Ст.-бел. *креска* (з 1549 г.) (Булыка, Запазыч., 176). Запазычана з польск. *kreska* 'тс' (Слаўскі, 3, 90—91).

**Крэ́сла**₁ 'прадмет мэблі' (ТСБМ, Касп., Сцяшк., Бяльк.). Укр. *крісло*, рус. *кресло*, ст.-рус. *кресло* 'тс', ст.-польск. *krzesło*, чэш. *křeslo*, славац. *kreslo* 'тс'. Практычная адсутнасць паўднёваславянскіх паралелей вельмі ўскладняе рэканструкцыю. Першапачатковым значэннем трэба лічыць 'рамачная

ці плеценая канструкцыя'. Параўн. *крэсла*$_2$, *крэсла*$_3$, *крэсла*$_4$ (гл.) і *кросна* (гл.). Паралелізм гэтых форм і значэнняў у балтыйскіх і славянскіх мовах супярэчыць гіпотэзе аб запазычанні са славянскіх у балтыйскія ці наадварот (параўн. Трубачоў, 12, 128 і Тапароў, L — K, 180—182). У лік балтыйскіх лексем, якія параўноўваюцца са славянскімі, уваходзяць ст.-прус. *creslan* (марфалагічна адэкватнае прасл. *kreslo*), літ. *krēslas*, лат. *kresls* 'тс'. Улічваючы *-slo*-суфіксацыю, можна сцвярджаць аб існаванні прасл. **kresiti, kresati* ў значэнні 'ткаць'. Параўн. ст.-грэч. *κρόκη* 'уток' *κρέκω* 'тку'. Але ўсё гэта вельмі праблематычна, паколькі цяжка зразумець знікненне ўсіх слядоў дзеяслова ў балтаў і славян.

**Крэ́сла**$_2$ 'верхняя задняя частка штаноў' (Янк. II), 'рамбавідная ўстаўка паміж калашынамі штаноў' (Малч., Жыв. сл., Яп., Маш.). Укр. *кресло* 'тс'. Да *крэсла*$_1$ (гл.).

**Крэ́сла**$_3$ 'прарэх, шырынка' (Нар. словатв., Нар. сл., Шатал., Сцяшк.). Гл. *крэсла*$_2$.

**Крэ́сла**$_4$ 'прамежнасць паміж заднімі нагамі жывёліны' (Жыв. сл.). Гл. *крэсла*$_2$.

**Крэ́сла**$_5$ 'дошка ў прасніцы, на якой сядзіць праля' (Сцяшк. Сл., Шатал.). Гл. *крэсла*$_1$.

**Крэ́сла**$_6$ 'частка калёс, якая накладваецца на пярэднюю вось' (Сцяшк. Сл., Шатал.). Гл. *крэсла*$_1$.

**Крэ́сліць** 'чарціць' (ТСБМ). Укр. *креслити* 'тс'. Запазычана праз польск. *kreślić* з с.-н.-ням. *krisseln* 'скрэбці, крэсліць' (Слаўскі, 3, 92).

**Крэслі́шча** 'ўстаўка ў штанах' (ТС). Гл. *крэсла*$_2$.

**Крэ́слы** 'накрыж накладзеныя брускі, на якія ставіцца дзяжа' (Бяльк.). Да *крэсла*$_4$, *крэсла*$_6$ (гл.).

**Крэ́ткі** 'рознакаляровыя алоўкі' (Сцяшк. Сл., Мат. Гом.). Запазычанне з польск. *kredki, kretki* 'крэйдачкі'. Польск. *kreta* з лац. *crēta* Гл. *крэйда*.

**Крэў** 'пласт густа пераплеценых галін' (З нар. сл.). З польск. *krzew* 'тс' (параўн. Слаўскі, 3, 233).

**Крэ́ўка** 'лекавая трава' (Мат. Гом.). Да *кроў* (гл.).

**Крэ́ўныя** 'радня' (ТСБМ, Сержп. Ск., Яп., Касп.). Укр. *кревні* 'тс'. Запазычана з польск. *krewni* 'тс' (Слаўскі, 3, 96).

**Крэ́хаць** 'трашчаць' (Др.-Падб., Гарэц.). Гукапераймальнае. Да *крэх*.

**Крэч** 'крык, лямант' (Сцяшк., Сцяц. Нар., Жыв. сл., Сцяшк. Сл., Шн., Федар. Рук.). Да *крык, крычаць* (гл.).

**Крэ́чат** 'буйная драпежная птушка сямейства сакаліных' (ТСБМ, Гарб.). Укр. *кречет*, рус. *кречет*, ст.-рус. *кречетъ* 'тс'. Усходнеславянскае вытворнае на *-etъ* ад *krekati*. Гукапераймальнае (Трубачоў, Эт. сл., 12, 111).



**Ксень** 'страўнік у шчупака' (ТС). Бліжэйшая паралель: ст.-чэш. *ksenci* (<**kъš-en-ьcь*) 'вывадак земнаводных, малькі'. Параўн. *кішэць* (гл.). Семантычныя суадносіны беларускага і чэшскага слоў не зусім выразныя.

**Ксё-ксё** 'выгукі, якімі падклікаюць жарабя' (ТС). Параўн. *кося* 'ласкавая назва каня' (гл.).

**Ксёндз** 'каталіцкі свяшчэннік' (ТСБМ). З польск. *ksiądz* 'тс' (Слаўскі, 3, 264).

**Ксціць** 'хрысціць' (ТСБМ, Нас., Грыг., Яруш., Гарэц., Мал., Сл. паўн.-зах.). З польск. *chrzcić* 'тс' (Кюнэ, Poln., 69).

**Куб**$_1$ 'геаметрычнае цела' (ТСБМ). Запазычанне праз рускую мову з нямецкай або непасрэдна з лацінскай (ням. *Kubus*, лац. *cubus*) (Шанскі, 2, 8, 427).

**Куб**$_2$ 'пасудзіна цыліндрычнай формы' (ТСБМ). Укр. *куб*, рус. *куб* 'тс', ст.-рус. *кубъ* 'кубак', н.-луж. *kub* 'кубак'. Фактычна, апрача ніжнелужыцкіх форм, толькі ўсходнеславянскае. Індаеўрапейскія паралелі: ст.-грэч. *κύμβος* 'келіх, кубак', ст.-інд. *kumbháḥ* 'гаршчок, збанок'. Формы сведчаць аб насавым гуку ў корані. Таму, калі лічыць славянскія лексемы спрадвечнымі, трэба рэканструяваць прасл. *kǫbъ*. Альтэрнацыя *ǫ/u* ў даным выпадку малаверагодная (параўн. Слаўскі, SO, 18, 261). Гл. Махэк$_2$, 243—244.

**Ку́ба**$_1$ 'род шаблі' (Гарб.). Няясна. Ці не запазычана з цюрк. (параўн. тур. *kubur* 'футляр, калчан')? Тады першаснае значэнне для *куба* — 'род ножан'.

**Ку́ба**$_2$ 'матэрыял бурачковага колеру' (Нар. сл.). Скарочаная форма да *кубавы* (гл.).

**Ку́бавы** 'фіялетавы' (Касп., ЭШ, Бяльк.). Да назвы адпаведнай формы, якая ў сваю чаргу ад назвы чана. Гл. *куб*$_2$.

**Ку́бак** 'невялікая пасудзіна для піцця' (ТСБМ, Касп., Шат., Сцяц. Нар., Сержп. Грам., Сцяшк., Дразд., КЭС, лаг., Бяльк., Р. В., З нар. сл., Сл. паўн.-зах.). Укр. *кубок*, рус. *кубок* 'тс', польск. *kubek*, н.-луж. *kubk* 'тс' да *куб* (гл.). Рэканструкцыя *kǫbъ* дазваляе думаць аб запазычанні польск. *kubek* з беларускай або ўкраінскай мовы. Увогуле падзвычай слабая зафіксаванасць гэтай лексемы выклікае сумненні ў яе спрадвечным характары, хаця эвентуальная крыніца запазычання не знойдзена (параўн. Слаўскі, 3, 295).

**Куба́р**$_1$ 'плеценая невялікая карзінка' (Сцяшк. Сл., Нар. лекс., Сл. паўн.-зах.). Параўн. *кубар*$_2$. Тут наглядаецца семантычная сувязь назваў гліняпай пасуды і пляцення. Гл. Трубачоў, Ремесл. терм., 244.

**Куба́р**$_2$ 'гліняны збан' (Касп.). Да *кубар*$_1$ (гл.) і *куб*$_2$.

**Куба́р**$_3$ 'хабар' (Нас., Гарэц., Др.-Падб., Яруш.). Да *кубар*$_2$. Паралелізм у значэннях 'збан' і 'хабар' відавочны таксама ў іншых прыкладах. Параўн. польск. *kuban* 'хабар' і рус. *кубан* 'збан'. У *кубар* не выключана кантамінацыя **кубан* і *хабар*. Гл. Слаўскі, 3, 294.

**Ку́барам** 'імклiва, кулем' (Сцяшк. Сл.). Да **кубар* 'ваўчок'. Параўн. рус. *кубарь* 'тс' і *кубарем* 'кулём' (Фасмер, 2, 395).

**Куба́рка** 'коўш' (Жд. 3), 'скрыначка для дробязных рэчаў' (Сцяшк., З нар. сл.). Да *кубар*$_1$ (гл.).

**Кубаркі́** 'зараснікі бабоўніку або капытніку' (Яшк.). Назва расліны бабоўнік адпавядае форме яе плода (каробачка) (БелСЭ, 2, 38). Гл. *кубар*$_1$.

**Куба́рыкі** 'панікніца, Geum rivale L.' (Касп.). Да *кубар*$_1$. Параўн. сінанімічную назву панікніцы: *кубачкі, гарлачоўка* (<*гарлач* 'збан') (Кіс., 59).

**Кубата́р** 'касец' (Сцяшк. Сл.). Няясна.

**Кубата́рка** 'інкубатарная курыца' (Жыв. сл.). Да *інкубатарка, інкубатар.*

**Куба́тка** 'кураня, выведзенае ў інкубатары' (Жыв. сл.) Гл. *кубатарка.*

**Ку́бачак** 'масленіца' (Сцяшк.). Гл. *кубік.* Словаўтваральная структура: **куб-ак-ек.*

**Ку́бел** 'дзежка з вушкамі' (ТСБМ, Нас., Касп., Шат., Др.-Падб., Жыв. сл., Нік. Очерки, П. С., Сцяц. Нар., Бяльк., Сержп. Пр., Доўн.-Зап. ПП, Грыг., Маш., Гарэц., Сцяшк., Мат. АС, Кліх, Янк. Мат., Жд. 3, Яруш., Шатал., Янк., Сл. паўн.-зах., Мядзв.). Ст.-бел. *кубелъ* (з 1533 г.) (<польск. *kubeł*<с.-в.-ням. *kübel*) (Булыка, Запазыч., 180). Укр. *кубел* 'від крытага вулея', *кубло* 'пасудзіна з дрэва', рус. *кубел* 'кадзь', польск. *kubeł* 'пасудзіна, вядро'. Лічыцца спрадвечным словам, якое паходзіць ад *kubъ* (гл. *куб*$_2$, *кубак*) і суфікса *-ьlъ* (Бернекер, 636; Слаўскі, 3, 297). Але больш верагоднай здаецца версія аб запазычанні праз польск. *kubeł* з с.-в.-ням. *kübel* 'драўляная пасудзіна, вядро' (Брукнер, 279; Машынскі, JP, 35, 114—115), не выключана, што форма *куб* — вынік зваротнага словаўтварэння ад *кубел.*

**Кубе́шкацца** 'корпацца, валтузіцца' (ТС). Магчыма, кантамінацыя *кубліць* (гл.) і *кешкацца* (гл.).

**Ку́бкі** 'ямкі на прыпечку' (Хар.). Да *кубак* (гл.).

**Кубла́чыць** 'збіваць, скручваць, камячыць (пра пасцель)' (ТС). Ці не кантамінацыя *кубліць* (гл.) і *кудлацець* (гл.).

**Ку́бліцца** 'марудна рабіць, таптацца на адным месцы, рабіць логава' (Жыв. сл., Янк. III, Нар. словатв., Сцяшк. Сл., Ян., Мат. Гом.). Да *кубло*$_1$ (гл.).



**Ку́бліць** 'збіваць, скручваць, камячыць' (ТС). Да *кубло*$_1$ (гл.).

**Кубло́**$_1$ 'гняздо' (Мат. Маг., Янк. Мат., Некр., Сл. паўн.-зах., Ян., Мат. Гом., Арх. ГУ, Сцяшк. Сл., Янк. I, Шн., Выг., Хрэст. дыял., Нар. лекс., Нар. словатв., Жд. 2, ТС, Шатал.), 'бярлога' (Шн.). Укр. *кубло*, рус. *кубло* 'тс', в.-луж. *kubło* 'сялянская сядзіба'. Параўн. польск. *kęblać* 'выкармліваць, выгадоўваць', н.-луж. *kubłaś*, в.-луж. *kubłać* 'тс'. Бліжэйшыя індаеўрапейскія адпаведнікі лац. *ac-cumbere* 'легчы', саб. *cumba* 'лектыка (насілкі)', лац. *cubare* 'ляжаць', *cubīle* 'логава' (Бернекер, 598; Слаўскі, 2, 124—125).

**Кубло́**$_2$ 'ямка на пасевах, у пяску, зробленая курамі' (Яшк.). Параўн. рус. *кублышка* 'тс'. Гл. *кубло*$_1$.

**Ку́блык** 'від жаночай прычоскі'. Магчыма, ад *клуб* 'скрутак' пад другасным уплывам *кубло*$_1$ (гл.).

**Кубра́к**$_1$ 'чалавек, які просіць міластыню на царкоўныя патрэбы' (Нас., Нар. сл.). Укр. *кубрак* 'тс', польск. *kubrak* 'тс'. Да *кубрак*$_2$, не выключана кантамінацыя з *жабрак* (гл.).

**Кубра́к**$_2$ 'мужчынскае суконнае верхняе адзенне (кароткае, вышэй калена)' (Нар. сл., З нар. сл.). Польск. *kubrak* 'куртка, халат з простага сукна'. Калі лічыць, што *кубрак* узыходзіць да **кубур-ак,* можна меркаваць аб запазычанні з тур. *kubur* 'пакрывала, футляр'. На карысць гэтай гіпотэзы сведчаць такія турцызмы, як рум. *cubur* 'род адзення' і інш. (Слаўскі, 3, 299).

**Ку́брык** 'жыллёвае памяшканне на караблі для каманды' (ТСБМ). Запазычанне праз рус. *кубрик* з гал. *koebrug* 'ніжняя палуба' (Фасмер, 2, 396—397).

**Кубырко́м** 'кулём' (ТС). Да рус. *кувырком* 'тс'.

**Кува́дла** 'кавадла' (Нас., Мядзв., Грыг.). Гл. *кавадла.*

**Кува́лда** 'цяжкі кавальскі молат' (ТСБМ, Бяльк., Яруш.). Рус. *кувалда* (ці гэта запазычанне з беларускай мовы?). Лічыцца прэфіксальным словаўтварэннем да *валіць* (прэфікс *ку-*) (Фасмер, 2, 397). Зусім неверагодна. Словаўтваральная мадэль застаецца незразумелай. Хутчэй ад *кувадла* (гл.) (Шанскі, 2, 8, 429—430).

**Кува́ць** 'кукаваць' (ТСБМ, Сцяшк., Нар. лекс.). Да *кукаваць* (гл.). Магчыма, пад уплывам гукаперайманьнага *кувец, кувік* (пра крык некаторых птушак) (параўн. Бернекер, 641; Слаўскі, 3, 448—449).

**Куве́за, кувезо** 'жалеза' (Рам.). Выглядае як кантамінацыя *куць* (гл. *каваць*) і *жалеза* (гл.).

**Кувэ́рт** 'канверт' (Бяльк., Яруш.). Прамое ці праз рускую мову запазычанне з франц. *couvert* (Шанскі, 2, 8, 430).

**Куга́**$_1$ 'крык груднога дзіцяці' (ТСБМ, Нас., Шат., Нар.

лекс.). Гукаперваймальнае. Параўн. *кугікаць* 'крычаць (аб грудным дзіцяці), якое адпавядае гукам «ку-гі»'.

**Кугá$_2$** 'азёрны чорт' (ТСБМ). Цюркізм. Параўн. караім. *koɣa* 'тс' (Праабражэнскі, 404; Фасмер, 2, 398).

**Кугá$_3$** 'вешка на рацэ, на краі фарватэра' (ТС, Ян.). Гл. *куга$_2$*.

**Кугáкаць** 'крычаць (пра саву)' (Сцяшк., Янк. БП, ТС). Гукаперваймальнае. Параўн. *куга$_1$* (гл.) і *гукаць* (гл.).

**Кугáнка** 'конаўка' (МГ). Гл. *каган, каганка.*

**Кýглік** 'гаршчок' (Мат. Гом.). Да *круглік.* Параўн. *круг* (гл.).

**Кýдаса** 'мяцеліца, непагадзь' (Касп., Жыв. сл., Янк. Мат., Мал., Сцяц. Нар., Чач., Сцяшк., Яруш.). Карскі (Беларусы, 137) разглядаў гэта слова як запазычанне з літ. *kūdas* 'слабы'. Семантычна зусім незразумела. Надзейнасць гэтага супастаўлення цалкам залежыць ад дакладнага вызначэння непасрэднай балтыйскай крыніцы.

**Кудáсіць** 'рабіць цуды' (Нік. Напоў.). Гл. *кудзеснік* і *цуд.*

**Кудáхтаць** '(пра курэй)' (ТСБМ, Шат., ТС, Сцяшк., Нар. лекс., Ян.). Гукаперваймальнае. Параўн. рус. *кудахтаць*, укр. *кукудакати*, славен. *kokodakati.*

**Кудзéля** 'валакно льну, канапель, апрацаванае для прыгатавання пражы' (ТСБМ, Нас., Касп., Шат., ТС, Сл. паўн.-зах., Нік. Очерки, Серб., Шпіл., Бяльк., Мат., Янк. I, Чуд.). Укр. *куделя*, рус. *кудель* 'тс', балг. *къделя*, серб.-харв. *кýдеља*, славен. *kodêlja* 'тс', польск. *kądziel*, чэш. *koudel*, в.-луж. *kudźel*, н.-луж. *kuzel* 'тс'. Параўн. *кужаль* (гл.), *кужэль* (гл.). Частка форм, якія ўзыходзяць да *kǫžel*, мае значэнне 'кудзеля' (бел. *кужаль* 'ачэсаны і ачышчаны лён', укр. *кужіль* 'ачэсаны лён, прыгатаваны для прадзення', параўн. рус. *кудель* у тых жа значэннях). Такім чынам, *kǫdelь* і *kǫželь* могуць мець тоесную семантыку. Спробы даць прасл. *kǫdelь* этымалагічнае тлумачэнне былі няўдалымі. Такім з'яўляецца супастаўленне *kǫdelь* з літ. *kedénti* 'скубсці воўну', якое генетычна суадносіцца з *kedėti* 'трэскацца, лопацца', *kėdóti* рваць у розныя бакі', *kēdaras* 'лахманы', а далей са ст.-грэч. σχεαννύναι 'расшчапляю', літ. *skedervà* 'асколак' (параўн. Фрэнкель, 233). Таксама няўдалай з'яўляецца спроба звязаць *kǫdelь* з *kǫdьrь* (гл. *кудзер*) з выдзяленнем у іх агульнага прэфікса *kǫ* (*kǫdelь*<і.-е. **del-/*dol-* 'расколваць' з рэканструкцыяй першаснага значэння плесці', якое не збераглося ў жывых дыялектах) (параўн. Трубачоў, Ремесл. терм., 99). Зыходзячы з факта спарадычнага змяшэння *k'* і *t'* у карысць *t'* у праславянскай мове, мяркуем, што *kǫdelь*<**kǫgelь* (якое дало таксама *kǫželь*) (Мартынаў, Слав. акком., 64—65).



**Кудзелянка** 'цёплая, фабрычнага вырабу хустка' (Нар. лекс.). Да *кудзеля* (гл.).

**Кудзéльніцы** 'вячоркі' (Сцяшк.). Да *кудзеля* (гл.).

**Кудзéнь** 'дзень' (Сцяшк. Сл.). Ці не да **kъ-dьnь*? Параўн. такія выразы, як рус. *к вечеру*, польск. *k wieczoru*, н.-луж. *ku dnju* (ESSJ SG, 1, 102). Магчыма, форма *кудзень* рэальна не існуе. Параўн. адзіны прыклад: *«Такийа ўжо кудн'и зраб'ил'ис' а малыйа»* (Сцяшк. Сл., 223).

**Кудзéр** 'курчавая пасма валасоў' (ТСБМ, Сл. паўн.-зах.). Укр. *кудер*, рус. *кудерь*, балг. *къдрь*, серб.-харв. *кудар*, славен. *kǫ́der*, польск. *kędzior*, в.-луж. *kudźeŕ* 'тс', прасл. *kǫderъ* (Бернекер, 1, 598). Праславянская інавацыя ад невядомай першаснай формы. Параўн. *кудзеля* (гл.).

**Кýдзер** 'гуляўнік лёзеліеў, Sisymbrium loeselii L.' (Кіс.). Да *кудзер* (гл.).

**Кýдзерка$_1$** 'гаёк, лясок' (Нас., Чач., Бяльк., Жд. 2, З нар. сл., Нар. сл., Яшк.). Да *кудра* (гл.). Магчыма, кантамінацыя з *кудзер* (гл.).

**Кýдзерка$_2$** 'кавалачак недажатага збожжа, барада' (З нар. сл.). Гл. *кудзерка$_1$*.

**Кудзéснік** 'гарэза, свавольнік' (Касп.). Рус. *кудес* 'тс', *кудесить* 'дзівачыць', ст.-рус. *кудесъ* 'чары'. Гл. *цуд* і *пракуда* 'гарэза' (Фасмер, 2, 400).

**Кудзíка, кузíка** 'бручка' (Сцяшк. Сл.). Гл. *кузіка.*

**Кýдла** 'пудзель' (Шпіл.). Да *кудлы* (гл.). Не выключан паралельны ўплыў *пудзель* (гл.).

**Кудлáты** 'лахматы' (ТСБМ, Шат., Касп., ТС, Сл. паўн.-зах., Грыг., Яруш., КЭС, лаг., Мат. Гом., Сцяшк., Ян.). Да *кудлы* (гл.).

**Кудлáцець** 'збівацца ў касмыкі, блытацца' (ТС, КЭС, лаг.). Гл. *кудлы.*

**Кýдлы** 'валасы' (ТС, Сержп., Ск., Нік., Напоў., Бяльк., КЭС, лаг., Гарэц.). Укр. *кудли*, рус. *кудлы* 'тс', польск. *kudły*, чэш. *kudle* 'тс'. Гл. *кудзель.*

**Кудóшвацца** 'скручвацца ад болю' (ТС). Гл. *кудошыць.*

**Кудóшыць** 'круціць, згортваць' (ТС). Да *кудаса* (гл.) 'мяцеліца, непагадзь, завея'. Рэгулярна *a*>*o* пад націскам, спарадычна *-siti*>*-šiti*.

**Кудóю** 'куды' (Янк. Мат., Бяльк.). Рыфмаваныя формы *кудою — сюдою* заключаюць у сабе флексію творн. скл. ж. р. (*«ісці шпаркай хадою»*).

**Кýдра** 'невялікі вадаём' (Сл. паўн.-зах., Сцяшк., Мат. АС), 'кустарнік' (Яшк., Сцяшк. Сл.). Укр. *кудра* 'невялікі вадаём' польск. *kudra* 'тс'. Запазычанне з балт., параўн. літ. *kûdra*

'ставок або балота, якое парасло кустарнікам' (Цыхун, Лекс. балтызмы, 52; Урбуціс, Baltistica V(1), 62; Невская ССЛ, 1972, 1, 99; Непокупны, Связи, 194; Грынавецкене і інш. LKK, 16, 194; Лаўчутэ, Балтизмы, 37).

**Кудраве́ц**$_1$ 'аксамітка' (Ян.). Да *кудзер* (гл.).

**Кудраве́ц**$_2$ 'сорт ільну' (Влад.). Да *кудзер* (гл.).

**Ку́дравіцы** 'апорная частка прыстасавання пад вясло' (Нар. сл.). Няясна.

**Кудра́ўка** 'недагарэлае палена дроў' (Сцяшк., Мат. АС). Гл. *кудра*.

**Ку́дры** 'кучары' (Яруш., Бяльк.). Да *кудзер* (гл.).

**Куды́** 'ў якім напрамку?' (ТСБМ, Нас., Шат., ТС, Сл. паўн.-зах., Яшк., З нар. сл., Грыг., Мал., Касп., Ян.). Укр. *куди*, рус. ***куда*** 'тс', ст.-слав. **кѪдоу,** балг. *къде*, серб.-харв. *кӱд*, славен. *kód*, польск. *kędy*, чэш. *kudy*, палаб. *vuötkǫd* 'адкуль'. Да прасл. *kǫdy*. Прасл. *ot-kǫdъ* 'адкуль' добра суадносіцца са ст.-прус. *is-quendau* 'тс'. Такім чынам, балта-славянскае **kondau* можна суаднесці з лац. *unde* 'адкуль' (з **kunde*, параўн. лац. *alicunde, necunde*) (параўн. Бернекер, 674; Траўтман, 111; ESSJ Sg, Sv. 2, 371; Тапароў, I — K, 77—79).

**Куды́ркаць** 'курлыкаць' (ТС). Гукапераймальнае. Магчыма, кантамінацыя *кудахтаць* (гл.) і *курлыкаць* (гл.).

**Куды́сь** 'невядома куды' (ТСБМ, Сержп. Пр., Гарэц.). Гл. *куды*.

**Куды́сьці** 'кудысь' (ТСБМ). Гл. *куды*.

**Кудэ́лык** 'скрыначка' (Бяльк., Яруш.). Да *пудэлка* (гл.).

**Кудэ́ма** 'куды' (Сцяшк. Сл., Кліх). Гл. *куды*. Формы *кудэма-сюдэма* рыфмаваныя як польск. *kędy-owędy*. Элемент *-эма*, магчыма, да дзеяслоўнай флексіі 1-й ас. мн. л. цяп. часу.

**Кудэ́ркаць** 'забаўляць' (Сцяшк. Сл.). Магчыма, да *кудзер* (гл.). Выходная форма, тады **кудзеркаць* 'цягаць за валасы' — дзеяслоў з суфіксацыяй на *-ка-* (SP, 1, 49—50).

**Куе́зніца, куве́зніца** 'патэльня' (Рам.). Ці не да *куёўдзіцца?* Параўн. *куёўчыцца* (гл.).

**Куёўдзіцца** 'вазіцца, марудзіць' (Сцяшк. Сл., Нар. словатв., Жыв. сл., З нар. сл., Бяльк.). Укр. *куйовдити* 'лахмаціць', рус. *куёлдить* 'сварыць'. Фасмер (WnS, 3, 202) бачыць у гэтых лексемах прэфікс *ку-*, а каранёвую частку ён зводзіць да рус. *елдыга* 'сварлівы чалавек', семантычна тоеснага *куёлда* 'тс' (параўн. Фасмер, 2, 401). Аднак рус. *елдыга* само этымалагічна няяснае. Таму пытанне пра паходжанне *куёўдзіцца* застаецца адкрытым.

**Куёўчыцца** 'клапаціцца па гаспадарцы' (Бяльк.). Да *куёўдзіцца* (гл.).

**Куёўшыць** 'пераварочваць, рабіць беспарадак' (ТС). Гл. *куёўдзіцца*.



**Ку́жаль** 'валакно ачэсанага льну' (ТСБМ, Шат., Касп., Бяльк., ТС, Сл. паўн.-зах., Сцяшк., Грыг., Жыв. сл., Нар. сл., Доўн.-Зап. 2, Гарэц., Шн., Др.-Падб., Кліх, Мядзв., Гарб., Маш.). Укр. *кужіль*, рус. *кужель* 'тс', балг. *къжель*, серб.-харв. *кӱжель*, славен. *kožȇlj* 'тс', чэш. *kužel* 'тс'. Для прасл. *kǫželь* існуюць дзве асноўныя версіі яго паходжання. Першая — запазычанне з германскай крыніцы. Параўн. ст.-в.-ням. *chonachla*, *chunchla*, сяр.-в.-ням. *kunkel*, гал. *konkil* 'кудзеля'. Параўн. ст.-ісл. *kǫngul-*, *kǫngurváfa* 'павук', с.-в.-ням. *kanker* 'тс', фінск. германізм *kangas* 'пража', ст.-ісл. *kingsa* 'круціць кола калаўрота'. Калі на аснове гэтых паралелей рэканструяваць прагерм. *kanga*, *kangula*, *kangela*, можна сцвярджаць аб запазычанні з прагерманскай мовы прасл. *kǫželь* (Мартынаў, ВЯ, 1968, I, 129). Менш верагодным з'яўляецца паходжанне *kǫželь*<**krǫželь* пад уплывам *kǫdelь* (Трубачоў, Ремесл. терм., 96—97). Каб прыняць гэту версію, трэба быць упэўненым, што *kǫželь* і *kǫdelь* рознага паходжання (гл. *кудзеля*), і да таго як узнікла *kǫželь* (<**krǫželь*), *kǫdelь* ужо існавала. Гіпатэтычнае **krǫželь* рэканструюецца на падставе зафіксаванага польск. *krężel* 'верацяно, конусападобная насадка на калаўроце'. Але гэту форму, якая знаходзіцца ў акружэнні форм без *r*, лягчэй вытлумачыць як такую, што ўзнікла пад уплывам семантыкі 'вярчэння' (<*krążyć*). Параўн. укр. *кужілка* і *кружілка* 'калаўрот'. Такім чынам, мы мяркуем, што прасл. *kǫželь*<прагерм. *kangela* (Мартынаў, Слав. акком., 65). Параўн. Фасмер, 2, 401—402.

**Ку́жань** 'карзіна з бяросты' (Шн.). Няясна, як звязана з *кузаў*$_2$ (гл.) у тым жа значэнні.

**Кужу́рка** 'безрукаўка на аўчыне' (Сцяшк. Сл.). Да *тужурка* (гл.).

**Кужэ́ль** 'кудзеля' (Яруш.). Гл. *кужаль*.

**Куза́ка** 'насякомае, мышка, кузурка' (Сцяц., Сцяшк. Сл., Нар. лекс., Сл. паўн.-зах.). Да *каза* (гл.). Выходная форма, мусіць, была **казаўка*.

**Ку́зарэб** 'чарапок, скручаны з бяросты' (З нар. сл.). Відаць, складанае слова, першая аснова якога ўзыходзіць да *кузаў*$_2$ (гл.). Адносна другой асновы можна выказаць здагадку аб яе паходжанні ад *грэбці* (гл.). Тады ў рэканструяваным выглядзе разглядаемая форма мела б наступны від: **куза(ва)-грэб*.

**Ку́заў**$_1$ 'частка павозкі, аўтамашыны і пад., якая служыць для размяшчэння людзей або грузаў' (ТСБМ). Гл. *кузаў*$_2$.

**Ку́заў**$_2$ 'карзіна з бяросты' (КЭС, лаг.). Запазычанне з рус. *кузов* 'тс'. Апошняе з тат. *kuzau* (гл. Фасмер, 2, 402).

**Ку́заў**$_3$ 'тып паселішча, двары ў якім размешчаны ўроскід' (Яшк.). Да *кузаў*$_2$ (гл.).

**Кузáцца** 'коўзацца, слізгацца па лёдзе' (Бяльк., Касп.). Да *коўзацца* (гл.).

**Кузё-кузё** 'воклічы для падзывання жарабят' (Жыв. сл.). Гл. таксама *кузю-кузю*.

**Кузёмак, кузёмка** 'пасуда з бярosты для ягад' (Сцяшк., З нар. сл., Нар. лекс., Сл. паўн.-зах.). Да *кузаў*$_2$ (гл.).

**Кýзік** 'гузік' (Бяльк., Мат. Маг.). Да *гузік* (гл.).

**Кузíка** 'від бручкі' (Жыв. сл.). Гл. *кузюка*.

**Кýзка** 'посуд з кары для ягад' (Нар. сл., Жыв. сл.), 'прылада для збору рою, зробленая з кары ў выглядзе ражка' (Нар. сл.). Гл. *кузаў*$_2$.

**Кýзла**$_1$ 'чараўніцтва' (полацк., Суднік, вусн. паведамл.). Параўн. чэш. *kouzle*, славац. *kúzlo*, в.-луж. *kuzlo* 'тс'. Да **kuzlo* 'коўка' (<*kovati*) (Фасмер, 2, 402). Суфіксацыя на *-slo* (SP, I, 103—104). Параўн., аднак, *кузла*$_2$.

**Кýзла**$_2$ 'закрутка з каласоў на ніве жыта, зробленая з мэтай чараўніцтва' (Сл. паўн.-зах.). Рус. *кузло* 'ніжні канец снапа'. Параўн. літ. *kùžulas* 'сноп з рэштак сена' (Фрэнкель, 324). Далейшыя сувязі праблематычныя. Значэнне бел. слова, магчыма, узнікла пад уплывам *кузла*$_1$.

**Кузлáк** 'камячок засохлага гною на поўсці жывёлы' (Сл. паўн.-зах.). Параўн. лат. *kužli* 'касмыль, касмык'. Ці не балтызм, непасрэдная крыніца якога невядома.

**Кузнікáваць** 'працаваць кавалём' (ТС). Складаны дзеяслоў. Гл. *кузня*$_1$ і *каваць*.

**Кýзня**$_1$ 'майстэрня для апрацоўкі металаў коўкай' (ТСБМ, Шат., Касп., ТС, Сл. паўн.-зах., Жыв. сл., Сержп. Грам., Яшк., Яруш., Жыв. сл., Нар. словатв., Гарэц., Грыг.). Да *каваць* (гл.). Суфіксацыя на *-знь-* (SP, 1, 118—119).

**Кýзня**$_2$ 'прыстасаванне з кары для збірання ягад' (Жыв. сл.). Параўн. *кузаў*$_2$ (гл.). Магчыма, да **кузоўня*.

**Кýзуб** 'пасудзіна вялікіх памераў' (З нар. сл.). Таго ж паходжання, што і *кузаў*$_2$ (гл.). Словаўтварэнне пры дапамозе *-ubъ*-суфіксацыі, як *kostrubъ*<*kostra* (Слаўскі, 3, 449; 34—36).

**Кузýбам** 'насуперак' (ТС). Да *кузуб* (гл.)? Семантыка не зусім ясная. У адзінай ілюстрацыі: *«Як ты стала проціво кузубом, то й вон ужэ стал ожыгацца, не мойчыць»* (ТС, 2, 248), *кузуб* можна разумець у зафіксаваным значэнні — 'пасудзіна вялікіх памераў'.

**Кузýлька** 'насякомае' (Яруш.), 'конік' (Федар. Рук.). Параўн. *кузурка* (гл.). Да *кузулька* (<*каза*), *о*>*у* пад уплывам суфіксальнага вакалізму.

**Кузýрка** 'казяўка' (ТСБМ, Сл. паўн.-зах., КЭС, лаг., Янк. Мат.). Да *казурка* (*у*>*о* пад уплывам наступнага *у*). Суфіксацыя на *-урка* (параўн. *пячурка*) (Сцяцко, Афікс. наз., 182).



**Кузы́нка** 'сваячка' (Сцяшк. Сл.)<польск. *kuzynka* 'тс'.

**Кýзька** 'хлебны жук' (ТСБМ). Рус. *кузька* 'назва жука'. Запазычанне з польск. *kózka* 'тс' (<*koza*) (Фасмер, 2, 402—403).

**Кузю́ка** 'кармавая бручка' (Сл. паўн.-зах.). Да *каза* (гл.)?

**Кýзя** 'жарабя' (Янк. III, Клім., Жыв. сл.). Параўн. літ. *kūžius, kùzius* 'тс'. Балтызм (Лаўчутэ, Балтизмы, 47, 203).

**Кýйла** 'хто надакучлівы, звяглівы'. Параўн. літ. *kùila* 'размазня' (<бел. *кіла*) (Сл. паўн.-зах., 2, 559).

**Кýка**$_1$ 'вялікі драўляны малаток' (ТСБМ, Касп., З нар. сл., Нар. словатв., Нар. лекс.). Параўн. літ. *kúokas*, лат. *kúoks* 'драўляны молат для гульні або глушэння рыбы'. Беларускае слова (значэнне 'для глушэння рыбы' зафіксавана, напр., у Касп., 170) запазычана з балтыйскіх дыялектаў (БСЭ, 5, 13—14; Лаўчутэ, Балтизмы, 144).

**Кýка**$_2$ 'фіга' (Нас., Сл. паўн.-зах., Бяльк.). Рус. *кука* 'кулак'. Параўн. балг. *кука* 'крук', серб.-харв. *кȳка* 'тс'. Параўн. літ. *kukà* 'дубінка', *kúoka* 'тс', лат. *kùoks* 'палка'. Іншыя індаеўрапейскія паралелі менш надзейныя (Бернекер, 639; Фасмер, 2, 404).

**Кýка**$_3$ 'дзіцячая болька' (Сцяц., Нар. лекс.), 'тое, чым палохаюць дзяцей' (Жыв. сл.). Крыніцай беларускіх слоў лічацца літ. *kaũkas* 'дамавік, чорт', лат. *kauks* 'тс'. Запазычанне адбылося да манафтангізацыі дыфтонгаў (Лаўчутэ, Балтизмы, 47).

**Кýка**$_4$ 'стары танец, падобны да карагода' (ТС). Няясна. Да ст.-грэч. *κύκλος* 'карагод'? Якімі былі шляхі пранікнення?

**Кукабáка**$_1$ 'кульбака, кіёк у валовым ярме' (Жыв. сл., КЭС, лаг.). Да *кульбака* (гл.).

**Кукабáка**$_2$ 'палка, якой навіваюць ніткі ў кроснах' (Сцяшк. Сл.). Гл. *кукабака*$_1$.

**Кукавáць** 'ствараць гукі, падобныя на *«ку-ку»*' (ТСБМ, Нас.). Гукапераймальнае. Параўн. укр. *кукувати*, рус. *куковать*, польск. *kukować*, в.-луж. *kukować* 'тс'. Балтыйскія паралелі (літ. *kaũkti* 'выць') далёкія семантычна і марфалагічна.

**Кукавéркі** 'галушкі' (Жд. 2). Складанае слова. Першая аснова ўзыходзіць да *кука*$_2$ (гл.), якая формай нагадвае галушку. Другая аснова не выклікае пэўных асацыяцый. Ці не да *вавёркі* (гл.)? Магчыма, таксама кантамінацыя.

**Кукалёвы** 'светла-фіялетавы' (Сцяшк. Сл.). Да *куколь* (гл.).

**Кýкалка** 'стадыя ў развіцці насякомага' (ТСБМ). Рус. *куколка* — калька з ням. *Puppe* 'лялька' (Шанскі, 2, 8, 435). Бел. *кукалка* — запазычанне з рускай мовы.

**Кукалу́ша** 'чаромха' (Бяльк., Кіс.). Да *калакалуша* (гл.).

**Кука́н** 'шнурок, на які нанізваецца злоўленая рыба' (Сцяшк.), 'нізка рыбы' (Сл. паўн.-зах.). Да *кука*$_1$ (гл.), паколькі гэта назва звязана з глушэннем рыбы. Першапачаткова *кукан* 'нізка глушанай рыбы'.

**Кука́рда** 'бант, складка' (ТСБМ, Шпіл.). Да *какарда*. Кантамінацыя з *кука*$_2$ (гл.).

**Кукарэ́каць** 'крычаць «кукарэку»' (ТСБМ). Гукапераймальнае праславянскае ўтварэнне. Параўн. укр. *кукурікати*, рус. *кукурекать*, балг. *кукуригам*, серб.-харв. *кукурѐкати*, славен. *kukorékati*, польск. *kokorykać*, чэш. *kokrhati* 'тс'.

**Ку́каўка**$_1$ 'зязюля' (Мал., Шн.). Да *кукаваць* (гл.). Параўн. *кукуля* (гл.).

**Ку́каўка**$_2$ 'ятрышнік шыракалісты, Orchis latifolia L.' (Кіс.). Да *кукаўка*$_1$. Аб сувязі назвы гэтай расліны з зязюляй сведчаць сінонімы: *кукулка, кукулька, кукушка, зязюлька* (Кіс., 89).

**Ку́качка** 'рытуальны хлеб', параўн. літ. *kùkė, kukẽlė* 'баханка' (Сл. паўн.-зах., 2, 560).

**Ку́кіш** 'фіга' (ТСБМ, Нас., Шат., Сл. паўн.-зах., Грыг.). Гл. *кука*$_2$.

**Ку́кішкі**: *на кукішках* 'сагнуўшы ногі ў каленях і трымаючыся на насках (сядзець)' (ТСБМ). Гл. *кука*$_2$ і *кукіш*.

**Кукі́шня** 'нівянік звычайны, Leucanthemum DC vulgare L.' (Кіс., Дэмб. 1). Да *кукіш* (гл.).

**Ку́кла**$_1$ 'звязка начэсанага льну, залом', звязваецца з *кука*$_2$ (гл.). Параўн. серб.-харв. *кӯка* 'крук' і бел. *кукла* 'залом'.

**Ку́кла**$_2$ 'амяла' (Жыв. сл.). Гл. *кукла*$_1$.

**Ку́кла**$_3$ 'род жаночай прычоскі' (ТСБМ, Шат., Сл. паўн.-зах., Ян., Касп., З нар. сл., КЭС, лаг., Сцяшк.). Гл. *кукла*$_1$.

**Ку́кла**$_4$ 'сусла' (ТС). Няясна.

**Куко́біцца** 'гняздзіцца' (Сл. паўн.-зах.). Гл. *кукобіць*.

**Куко́біць** 'песціць, даглядаць' (Нас., Бяльк., Яруш., Касп., Кос., Гарэц., Др.-Падб., Шн.). Бел. *кукобіць* ад *кукоба*, якое ўтворана па мадэлі *худы*>*худоба*, што дае права на рэканструкцыю **кук* 'той, хто даглядае, песціць'. Гэта адпавядае літ. *kaũkas* 'дамавік (дух, які прыносіць дабро дому)' (гл. Тапароў, J — K, 293). Становіцца зразумелым і значэнне *кукобіцца* 'гняздзіцца' ('быць звязаным з домам').

**Куко́ль**$_1$ 'травяністая расліна сямейства гваздзіковых, Agrostemma L.' (ТСБМ, Кіс., Шат., ТС, Сл. паўн.-зах., Мат. Гом., Мал., Яруш., Сцяшк.). Укр. *кукіль*, рус. *куколь*, балг. *кѫкъл*, серб.-харв. *ку̏кољ*, славен. *kókolj*, польск. *kąkol*, чэш. *konkol*, славац. *kúkol'*, в.-луж. *kukel*, н.-луж. *kukel*, палаб. *kǫchüol*. Прасл. *kǫkolь* адпавядае літ. *kañkalas* 'званочак' (літ. *kañkalijos*), 'званочак (кветка)' (Бернекер, 539; Махэк, Recherches, 71). Расліна названа так па кветках, якія маюць форму званочкаў. Больш новая этымалогія Махэка (Jmena rostl., 77) вельмі ненадзейная (*kǫkol-*<*kolkol-*<**lolkol-*: ням. *Lolch* 'кукаль'); ст.-в.-ням. *lolli* запазычана з лац. *lolium*, а канцавы зычны ўзнік з йота ў с.-в.-ням. *lulche*, таму сувязі з *kǫkolъ* няма (параўн. Клюге, 445).



**Куко́льнік** 'валачобнік' (Сцяшк. Сл., Сл. паўн.-зах., Жыв. сл., Доўн.-Зап. 1). Да *кукобнік* 'тс' (БелСЭ, 2, 569). Гл. *кукобіць*. Валачобнікі спявалі гаспадарам хаты віншавальныя песні і тым самым прыносілі дабро ў хату, як дамавік **кук*.

**Куко́н** 'кукса, кульця, абрубак' (ТС). Да **кукан* (*а*>*о* пад націскам). Гл. *кука*$_2$.

**Кукры́ш** 'дышаль для парнай запражкі валоў' (Сл. паўн.-зах.). Магчыма, да *ку-крыць* 'пакрываць сумесна' і ўтворана па мадэлі на *-ыш* (параўн. *па-скрэбці*>*паскрэбыш*) (Сцяцко, Афікс. наз., 76—77).

**Кукрэ́ш** 'ручка касы' (ДАБМ). Да *кукрыш* (гл.)? Семантыка незразумелая.

**Ку́кса**$_1$ 'кукла, валасы, закручаныя на патыліцы' (ТСБМ, Бяльк., Мат. АС, Янк. II). Кантамінацыя *кукла* (гл.) і *кукса*$_2$ (гл.).

**Ку́кса**$_2$ 'астатак пакалечанай рукі, нагі' (ТСБМ, Нас., ТС, Сл. паўн.-зах., Мат. Гом., Бяльк., КЭС, лаг., Федар., Гарэц., Чач.). Параўн. літ. *kuksà* 'рука без пальцаў', рус. *кукса* 'тс' (Сл. паўн.-зах., 2, 562). Балтызм.

**Кукса́ць** 'біць кулакамі ў спіну' (Сцяшк.). Да *кукса*$_2$ (гл.).

**Ку́ксіць** 'плакаць, хныкаць' (Бяльк.). Да *кука*$_3$ (гл.). Магчыма, кантамінацыя з *кукса*$_2$ (гл.).

**Ку́кта** 'астатак пакалечанай рукі, нагі' (Шат.). Да *кукса*$_2$ (гл.).

**Куку́ля** 'зязюля' (Шат., МГ, Сл. паўн.-зах., Яўс., З нар. сл., Янк. I, Мядзв.), параўн. рус. *кукушка, кукавица*. Да *кукаваць* (гл.). Словаўтварэнне на *-уля* (Сцяцко, Афікс. наз., 67—68).

**Кукуру́за** 'травяністая расліна сямейства злакавых' (ТСБМ). Укр. *кукурудза*, рус. *кукуруза*, балг. *кукуруз*, серб.-харв. *кукȕруз*, славен. *kukurúza*, польск. *kukurudza*. Балканскі эпіцэнтр распаўсюджання відавочны. Таму ў якасці крыніцы можна прыняць рум. *cucuruz*, якое мела першапачатковае значэнне 'яловая шышка', што добра адпавядае знешняму віду пачатка кукурузы (параўн. Корш, AfSlPh, 9, 521).

**Куку́ць** 'гліняная свісцёлка' (Жд. 2). Структура слова

балтыйская. Літ. *kukùtis* у ліку іншых мае значэнне 'ўдод, Upupa epops'. Цікава, што іншая назва гэтай птушкі *dudùtis*, якое суадносіцца з 'дудка'.

**Кукшу́т** 'жмуркі (назва гульні)'. Параўн. літ. *kùkti* 'згінацца' (Сл. паўн.-зах., 2, 563). Параўн. яшчэ літ. *kukštúoti* 'хутаць'.

**Кукшы́н**$_1$ 'збан з ручкай' (Бяльк.). Да *каўшын* з асіміляцыяй зычных.

**Кукшы́н**$_2$ 'кукса, род жаночай прычоскі' (Мат. Маг.). Да *кукла*$_3$ (гл.) і пад уплывам *кукшын*$_1$ (гл.).

**Кула́га** 'саладуха, ягады, звараныя з мукой, зацірка, кулеш' (Сл. паўн.-зах., Мат. Гом., Касп., Нік. Очерки, Арх. ГУ, Грыг., Чач., Вешт., Др.-Падб., Маш., Гарэц., Шн., Мат. АС, Янк. Мат., Мат. Маг., Нар. словатв., Бяльк., Сержп. Грам., КЭС, лаг., Яўс., Серб.). Укр. *кулага*, рус. *кулага* 'тс'. Параўн. *кулеш* (гл.). Унутраную форму слова *кулага* можна ўбачыць у такіх дзеясловах, як *кулажыцца, кулажыць* 'паказваць на дождж' (Нас. Сб., Юрч.). Адсюль відаць, што першаснае значэнне было 'вадкая сумесь'. Словаўтваральна мадэль з суфіксам *-ага*. Першасны дзеяслоў, на жаль, надзейна не рэканструюецца, але серб.-харв. *ку̏ља* 'мамалыга' дае яшчэ адну падставу для выдзялення ў *кулага* суфікса *-ага*. Слаўскі (3, 347) бачыць рэлікты зыходнага дзеяслова ў *kuliti, kuljati* (гл. *куляць*$_1$).

**Кула́гацца** 'плюхацца, пялёскацца' (Сл. паўн.-зах.). Гл. *кулага*.

**Кула́жыцца** 'станавіцца пахмурным (пра надвор'е)' (Нас., Юрч.). Параўн. *кулагацца* (гл.). Гл. *кулага*.

**Кула́к**$_1$ 'кісць рукі з прыгнутымі к далоні пальцамі' (ТСБМ, Сл. паўн.-зах., Сцяшк., Яруш., Нік. Няч., Бяльк., ТС). Укр. *кулак*, рус. *кулак* 'тс'. У беларускай і ўкраінскай мовах (а таксама ў некаторых іншых) запазычанне з рускай. Іншамоўныя крыніцы або ўнутраная форма рускага слова надзейна не вызначаны. Паводле Фасмера (2, 408), з цюрк. *kulak* ад *kol, kul* 'рука' (параўн. Корш, AfSlPh, 9, 513; Локач, 95).

**Кула́к**$_2$ 'багаты селянін-уласнік' (ТСБМ). Да *кулак*$_1$ (гл.).

**Кула́к**$_3$ 'драўляны малаток' (Сл. паўн.-зах.). Да *кулак*$_1$ (гл.).

**Кула́к**$_4$ 'асобны шып кулачнага кола, што круціць шасцярню пасавага кола' (КЭС, лаг.), 'зуб у шасцярні' (Шат., Кліх). Параўн. *кулак*$_3$ (гл.).

**Куламе́са** 'блытаніна, сумесь, штурханіна, мітусня' (ТСБМ, Нас., Гарэц., Яруш., Бяльк.), 'гразь, змешаная са снегам' (ТСБМ). Гл. *куламесіцца*.

**Куламе́сіцца** 'балавацца з цестам' (Бяльк.). Кантамінацыя *кулага* (гл.) і *месіць* (гл.). Параўн. *куламескі* (гл.).



**Куламе́скі** 'піражкі з пяску і гразі, што робяць дзеці' (Бяльк.). Гл. *куламесіцца*.

**Кула́ндарка** 'лялька' (Ян.). Магчыма, да **каляндарка* ад польск. *kolęda* 'калядны падарунак'.

**Куларо́с** 'кіпарыс' (Шн.). Сапсаванае *кіпарыс*.

**Кула́чкі** ў выразе: *Ешчэ чэрці на кулачкі ні браліса* 'Яшчэ далёка да світання, яшчэ вельмі рана' (Нар. словатв.). *Усталі рано, бы чэрці на кулачку* (ТС). Параўн. рус. *кулички* (*у черта на куличках* 'вельмі далёка'). Цяжка суаднесці семантыку бел. і рус. выразаў. Ва ўсякім разе беларускі матэрыял не дазваляе ўзводзіць слова да рус. *кулич* (параўн. Праабражэнскі, 1, 410) або польск. *kuliczki* 'testes' (параўн. Ісачанка, ВЯ, 1957, 3, 121). Больш верагодным здаецца суаднясенне з польск. *kulik* 'карнавал на масленіцу'. Параўн. лат. *kuluos lèkt* 'гуляць на масленіцу'. Этымон гэтых слоў невядомы (Слаўскі, 3, 350—351).

**Кула́чнае ко́ла** 'кола, якое круцяць коні' (КЭС, лаг., П. С.). Гл. *кулак*$_4$.

**Кулды́баць** 'кульгаць, паволі ісці' (Нас.). Гл. *калдыбаць*.

**Кулды́ка** 'чалавек, які хутка гаворыць' (Мат. Маг.). Першапачатковае значэнне 'кульгавы чалавек'. Параўн. семантычны пераход 'спатыкацца'>'запінацца' (*кулдыкаць*$_1$>*кулдыкаць*$_2$). Фармальна ўтварэнне гэтага слова можна растлумачыць як кантамінацыі *кульгаць* (гл.) і *хадыка*. Параўн. *калдыка*. Ненадзейныя паралелі ў Фасмера (2, 288).

**Кулдыка́цца** 'перакульвацца' (Мат. Гом., Бяльк., Гарэц., Янк. III). Да *кулдыка* (гл.).

**Кулдыкаць**$_1$ 'куляцца' (Шпіл.). Гл. *кулдыка*.

**Кулдыкаць**$_2$ 'невыразна гаварыць' (Сл. паўн.-зах., КЭС, лаг.). Гл. *кулдыка*.

**Куле́йка** 'чыгунка' (Сцяшк.)<польск. *kolejka*.

**Куле́нька** 'луста хлеба' (Нар. лекс.). Да *куляць*$_1$. Першапачаткова 'круглы кавалак'. Параўн. Слаўскі, 3, 341—342.

**Куле́ш** 'рэдкая мучная каша' (ТСБМ, Нас., Шат., Сл. паўн.-зах., Нік. Очерки, Шн., Серб., Бяльк., Федар. Рук., Мат. АС, Малч., Мядзв., Вешт., Грыг., Гарэц., ТС, Касп.). Укр. *куліш*, рус. *кулеш* 'тс', балг. *куляша* 'від кашы', серб.-харв. *ку̏леш* 'мамалыга', польск. *kulesz* 'каша з кукурузнай мукі', славац. *kul'aša* 'тс'. Мадэль словаўтварэння даволі празрыстая: **kulexъ>kulešь*, як *lem-exъ>lemešь* (SP, 1, 72, 77). Да *kuliti, kuljati* (гл. *куляць*$_1$). Параўн. *кулага* (гл.). Іншая версія: да венг. *köles* 'проса' (Якабсон, Slavic Word, 2, 1955, 612); параўн. Трубачоў, Slavia, 29, 1960, 9.

**Кулёба** 'костка з кумпяка' (Сцяшк. Сл.). Параўн. *кулічкі* (гл.).

**Кулёк** 'пінжак' (Нар. словатв., Мат. Маг., Мядзв.). Семантыка звязана з семантычным пераносам 'мяшок'>'вопратка'. Гл. *куль₂*.

**Кулём** 'імклівa, хутка' (Нас., Жд. 2, С. Некр., КЭС, лаг., ТС, Сл. паўн.-зах.). У апошняй крыніцы: параўн. літ. *kuli-aĩs* 'хутка' (2, 564). Балтызм пад уплывам бел. словаформы тв. скл. ад *куль₁* (гл.). Параўн. таксама літ. *kũlavirščia* 'кулём'.

**Кулёма** 'старэча' (Сцяшк. Сл.). Няясна. Магчыма, намылковая дэфініцыя: *«Гета кул'ома йшла пас'арод вуліцы, н'и чула, што машына гула, л'едз' як н'и прыдав'ила»*. Магчыма, да *кулём* (гл.).

**Кулёня** 'хутар' (Сцяшк.). Сувязь з *куленька* (гл.) тлумачыцца тым, што значэнне 'хутар' можна разгледзець як 'водруб (адрубное гаспадарства)'.

**Куліда** 'баханка' (ТСБМ, Мат. Гом., Сл. паўн.-зах., Сержп., Грам., Серб., Маш., Янк. Мат., Вешт., Шн.). Укр. *куліда*. Як вызначае Вештарт (Лекс. Палесся, 109—110), *куліда* інавацыйная лексема, пашыраная на кампактнай тэрыторыі (Мазыршчына, Магілёўшчына, паўночная Жытоміршчына). Магчыма, іншамоўнага паходжання, паколькі не існуе карэнных семантычна блізкіх лексем і суфікса *-іда*.

**Кулік** 'невялікая балотная птушка' (ТСБМ, Мат. Гом., Сл. паўн.-зах., Сцяшк., Маш., Касп.). Укр. *кулик*, рус. *кулик* 'тс', польск. *kulik, kulig*, ст.-чэш. *kulih, kulik* 'тс'. У мовах паўднёвых славян адпаведнікаў няма. Балтыйскія паралелі: літ. *kúolinga, kuolinge* 'тс'. Іншыя паралелі ненадзейныя. Назва птушкі гукапераймальная, таму аналіз словаўтваральнай структуры наўрад ці дазволіць рэканструяваць балта-славянскую форму (параўн. Слаўскі, 3, 351—352).

**Кулік** 'адзін з саламяных снапкоў, якімі пакрываецца страха' (Нар. сл.). Гл. *куль₁*.

**Кулікушкі** 'гульня ў жмуркі' (Гарэц., Др.-Падб., Нік. Очерки, Рам.). *«Кулюкушки ничем не отличаются от всесветных пряток. Один «кулюкуицъ», остальные «аукаютця»* (Оч. В. Б. 1897, 26). Рус. *кулики* 'тс', польск. *kulik* 'поезд ражаных падчас масленіцы'. Параўн. таксама лат. *kulnieks* 'ражаны' (Фасмер, 2, 411).

**Куліна₁** 'спакойная затока ў рацэ' (Жд. 3). Да *куль₂* (гл.).

**Куліна₂** 'майнік двухлісты, Majanthemum bifolium L.' (Кіс.). Да *каліна* (гл.), назва якой суадносіцца з чырвоным колерам яе ягад. Майнік характарызуецца тым жа колерам. Параўн. яго сінанімічныя назвы: *заячча кроў, перац* (Кіс., 80).



**Куліса₁** 'плоскія часткі тэатральнай дэкарацыі, размешчаныя па баках сцэны адна за другой' (ТСБМ). Запазычанне з франц. *coulisse* 'тс' праз рус. *кулиса* 'тс'.

**Куліса₂** 'бор, парослы мохам і папарацю' (Сцяшк. Сл.), 'прасека ў лесе' (Бяльк., Яшк.), 'засаджаная паласа як сродак захавання глебы', 'паласа лесу паміж дзялянкамі' (ТСБМ). Магчыма, недакладна вызначана першае значэнне: *С'он'н'а ў кулис'е, мабыц', шмат грыбоў нарасло, дажджы прайшл'и»*. Ілюстрацыя можа адпавядаць другому значэнню. Да *куліса₁*?

**Кулісак** 'сноп, абмалочаны не да канца' (Нар. лекс.). Балтызм. Параўн. літ. *kūlys* 'звязка, сноп доўгай саломы' (Лаўчутэ, Балтизмы, 14—15).

**Кулічкі** 'калені' (Яўс.). Зыходзячы з агульнабалтыйскай назвы косці (ст.-прус. *caulan*, літ. *káulas*, лат. *kaũls*), якая не мае паралелей у славянскіх мовах, можна меркаваць аб балтыйскім уплыве (суфіксацыя слова славянская *-ićьka*).

**Куль₁** 'тоўсты сноп няцёртай саломы' (ТСБМ, Нас., Шат., Сл. паўн.-зах., Янк. Мат., Выг., Бір., Гарэц., Маш., Мат. АС, ТС, Касп., Ян.). Укр. *куль*, рус. *куль*, польск. *kul* 'тс'. Запазычанне з балтыйскіх дыялектаў. Параўн. літ. *kūlys* 'сноп саломы' (Лаўчутэ, Балтизмы, 14).

**Куль₂** 'рагожны мяшок' (ТСБМ, ТС, З нар. сл., Сержп. Грам., Бяльк.), 'задняя частка рыбалоўнай снасці з вузкім праходам' (Сл. паўн.-зах.). Гл. *куль₁*.

**Куль₃** 'тоўсты чалавек' (Мат. Маг.). Гл. *куль₂*.

**Куль₄** 'пра падзыванне пеўнем курэй' (Нар. лекс.). Гукапераймальнае.

**Кульбака₁** 'сядло' (Нас., Гарэц.). Укр. *кульбака*, рус. *кульбака* 'тс' (Бернекер, 1, 641). Лічыцца цюркізмам, але дакладная крыніца не знойдзена.

**Кульбака₂** 'кій з загнутай ручкай' (Сл. паўн.-зах., Мал., Маш., ТС). Гл. *кульбака₁*. Укр. *кульбака*, рус. *кульбака*. Эвентуальны цюркізм, але надзейнай крыніцы не вызначана (параўн. Бернекер, 641; Фасмер, 2, 412; Слаўскі, 3, 344—345).

**Кульбака₃** 'дэталь у ярме' (Выг., Маш., ТС) Гл. *кульбака₁*.

**Кульван** 'кукельван, сродак усыплення рыбы' (Рам.). Да ням. *Kugelbahn* 'траекторыя палёту кулі'.

**Кульга** 'кумпяк' (Сцяшк.). Да *кульгаць* (гл.).

**Кульгаць** 'ісці, нясмела прыступаючы на адну нагу' (ТСБМ, Нас., Шат., Сл. паўн.-зах., КЭС, лаг., Бяльк., Мядзв., Гарэц., Грыг., ТС, Касп.). Укр. *кульгати*, рус. *кульгать* 'тс', польск. *kulhać*, чэш. *kulhati*, славац. *kuľhat'* 'тс'. Слаўскі (3, 349) мяркуе аб экспрэсіўнай дзеяслоўнай суфіксацыі на *-ьg* (як у *дзёргаць*). Тады да *kuljati* (гл. *куляць₁*).

**Кульду́к** 'абцас' (Мат. Маг.). Запазычанне з літ. *kuldùkas* 'драўляны абутак'.

**Кульдзю́м** 'кааператыў' (Мат. Гом.). Няясна.

**Ку́льза** 'прышчэп (пра дрэва)' (КЭС, лаг.). Верагодны балтызм. Параўн. літ. *kùlza* 'чалавек з кароткай нагой'.

**Ку́лька**₁ 'ручка на кассі ў выглядзе абагнутага лучка' (Сцяшк., З нар. сл., Нар. лекс., Жыв. сл., Тарн. Studia, Дразд., Арх. Бяльк., Янк. II, Бір., Выг.). Да *куляць*₁.

**Ку́лька**₂ 'клёцка' (Яўс.). Да *куля*₁ (гл.).

**Ку́лькаць** 'спаць, засынаць' (Сцяшк. Сл.). Да *куляць*₁. Першаснае значэнне *кулькаць* 'валіцца'.

**Ку́льман** 'світка' (Мат. Гом.). Да *кулёк* (гл.) і *куль*₂ (гл.). Параўн. сінанімічнае *латуха* (гл.). *«Каліcь ткалі кульманы з башлыкамі»* (Мат. Гом., 4, 266). Магчыма, наяўнасць башлыка робіць матываванай сувязь з *куль*₂. Лексема *кульман* утворана па аналогіі з іншымі назвамі суконнай світкі цюрк. паходжання: *сукман (сукмень)* (гл.), *чекман (чекмень)* (гл.). Перанос націску на корань другаснага паходжання па аналогіі з імёнамі германскага паходжання.

**Кульманы́** 'салодкія стравы, бліны, клёцкі' (Нас., Бяльк., Сцяшк. Сл.). Магчыма, утворана пры дапамозе экспрэсіўнай суфіксацыі на *-ман* (параўн. *дурман, кусман*) (Сцяцко, Афікс. наз., 54). Тады роднаснае з *кулага* (гл.) і *кулеш* (гл.).

**Кульме́нь** 'сярэдняя частка брадніка, дзе затрымліваецца рыба, куль' (Нар. сл., Ян.). Гл. *куль*₂.

**Культ** 'рэлігійнае служэнне бажаству' (ТСБМ). Запазычана праз рускую мову. У рускай мове з XIX ст. Крыніца запазычання — французская або нямецкая мова. Параўн. адпаведна *culte, Kult* (Шанскі, 2, 8, 440).

**Культа́нка** 'гудайера паўзучая, Goodyera repens L.' (Кіс.). Семантычная сувязь з *куляць*₂ (гл.) відавочная, але словаўтварэнне незразумелае. Ці не кантамінацыя з *альтанка* (гл.)?

**Культу́ра** 'узровень дасягненняў грамадства' (ТСБМ). Запазычана праз рускую мову з ням. *Kultur* 'тс' (Шанскі, 2, 8, 441).

**Кульчыбе́р** 'гладыёлус чарапіцападобны, Gladiolus imbricatus L.' (Кіс.). Ці не звязана з *кульчыкі* (гл.)? Ва ўсякім разе другая аснова гэтага складанага слова застаецца няяснай (да *чабор* (гл.)?).

**Ку́льчыкі** 'лілея кучаравістая, Lilium martagon L.' (Кіс.). Да *кольчыкі* 'завушніцы'?

**Ку́льша**₁ 'тоўстая нага, бядро' (Шат., Сл. паўн.-зах., Сцяшк., Касп.). Укр. *кульша*, рус. *кульша* 'тс', польск. *kulsza* 'тс'. Запазычана з балтыйскіх дыялектаў, параўн. літ. *kùlšė* 'бядро' (Урбуціс, Baltistica, 5 (1), 62—63; Лаўчутэ, Балтызмы, 16).



**Ку́льша**₂ 'малая ўкладка снапоў' (ДАБМ). Параўн. *кульша*₁ (гл.).

**Кулю́ка** 'кавяня' (Мат. Гом.). Параўн. *куля*₂ (гл.).

**Ку́ля**₁ 'куля' (ТСБМ). Укр. *куля*, рус. *куля* 'тс'. Запазычана з польск. *kula* 'тс' (<с.-в.-ням. *kule* 'шар, куля') (Фасмер, 2, 413).

**Ку́ля**₂ 'мыліца' (Сцяц.). Запазычанне з літ. *kulė̃* 'тс'.

**Куля́вая сало́ма** 'буйная непацёртая салома, прыгатаваная для крыцця страхі (КЭС, лаг., Сл. паўн.-зах.). Да *куль*₁ (гл.).

**Куля́са** 'палка з загнутай ручкай' (Сцяшк. Сл.). Параўн. *куля*₂ (гл.).

**Куля́ць**₁ 'валіць набок, пераварочваць, нагінаць' (ТСБМ, Нас., Шат., Касп., Сл. паўн.-зах.). Параўн. рус. *кулить* 'каціць (бочку)', польск. *kulić* 'каціць', чэш. *kouleti*, славац. *kul'ac*, в.-луж. *kuleć*, н.-луж. *kulaś* 'тс'. Магчыма, да *куля* (гл.). Параўн. Слаўскі, 3, 342.

**Куля́ць**₂ 'разбіраць плыты і коньмі выцягваць на бераг' (Нар. сл.). Магчыма, да *куляць*₁ (першаснае значэнне 'каціць бярвенні').

**Кум** 'хросны бацька' (ТСБМ, Нас., Шат., Сл. паўн.-зах., Бяльк., Сцяшк., Яруш., ТС). Укр. *кум*, рус. *кум*, ст.-рус. *кумъ* 'тс', балг. *кум*, серб.-харв. *кȳм*, славен. *kûm*, польск. *kum* 'тс'. Традыцыйна да *kъmotrъ* 'кум'<нар. лац. *commater* (Бернекер, 662; Фасмер, 2, 414; Маньчак, SR, 23, 1, 61). Фанетычна незразумела (*у*<*ъ*?). Але іншыя гіпотэзы неверагодныя.

**Кума́** 'вір у рацэ Гарыні' (Янк.). Параўн. *кумін* (гл.) і *куміна* (гл.).

**Кума́ліны** 'куманіка, Rubus suberectus' (Касп.). Да **кумаліны*. Параўн. **куманіка*<*каманіка* (гл.). Форма *кумаліны*, магчыма, над уплывам *маліна* (гл.).

**Куманёўка** 'хустка' (Мат. Маг.). Мабыць, да **кумачоўка* ад *кумач* 'чырвоная баваўняная тканіна'.

**Кумарэ́ча** 'мноства камароў' (Сл. паўн.-зах.). Да *камар* (гл.). Словаўтварэнне на *-эча* (Сцяцко, Афікс. наз., 203). Гл. *камарэча*.

**Кума́ць** 'знікаць' (Мат. Гом.). Ёсць падставы лічыць дэфініцыю недакладнай. Параўн. адзіную ілюстрацыю: *«Глянь, ужэ месяц кумае»*. Ясна, што дзеяслоў *кумаць* азначае працягласць дзеяння, а 'знікаць' разавае дзеянне. Мабыць, *кумаць* ад **кымаць*, якое да *кімаць, кімарыць*, якія да рус. (афеньск.) *кимать* 'спаць'. Значэнне цалкам падыходзіць да прыведзенай ілюстрацыі.

**Куме́каць** 'разумець' (Сцяшк., ТС). Рус. *кумекать* 'тс' лічыцца прэфіксальным утварэннем *ку-мекаць*. Суадносіны гэтых слоў з літ. *mė̃klinti* 'думаць', лат. *meklet* 'шукаць' няясныя (гл. Фрэнкель, 428—429).

**Куме́ць** 'кавалак зямлі, які атрымаў селянін за працу' (Яшк.). Гэта значэнне, зафіксаванае на Віленшчыне, суадносіцца з *кумець* (гродз.) 'жменя', якое запазычана з літ. *kùmste* 'кулак' (Цыхун, Лекс. балтызмы, 52). Параўн. Лаўчутэ, Балтизмы, 46.

**Куме́шкацца** 'наволька рабіць' (Жыв. сл.). Кантамінацыя *куляць*₁ (гл.) і *мешкацца* (гл.).

**Ку́мза** 'ліра ў жабракоў' (ТС). Да *кобза*₃ (гл.) (*кобза*> **кубза*>*кумза*).

**Кумільга́нам** 'хутка' (Сцяшк. Сл.), 'невялікімі скачкамі' (Нар. словатв., Федар. Рук.). Гл. *кумільгом*.

**Кумільго́м** 'хутка' (Сцяшк. Сл., Яўс., Бяльк., Гарэц., Нар. Сл.). Кантамінацыя *кулём* (гл.) і *мільгаць* (гл.).

**Ку́мін, ку́міна вада** 'вір' (ТС). Параўн. *кума* (гл.) і *куміна* (гл.).

**Куміна́** 'вір каля берага, дзе вада заварочвае ў напрамку, супрацьлеглым цячэнню' (Яшк.). Няясна. Гіпатэтычна можна дапусціць, што першасным значэннем *куміна* было 'балота'. Тады да *кумкаць* (гл.), *кумаць* (польск. *kumać*) 'выдаваць гукі *кум-кум* (пра жаб)'. Параўн. *крактаць* 'выдаваць гукі *крэ-крэ* (пра жаб)' і *крактавінне* 'дрыгва'.

**Кумі́р**₁ 'прадмет пакланення' (ТСБМ). Запазычанне са ст.-слав. **коумиръ** (<іран., параўн. асет. *gumeri* 'волат, ідал') (Шанскі, 2, 8, 443; Абаеў, 1, 530).

**Кумі́р**₂ 'каўнер (кашулі, сарочкі)' (Нар. словатв.). Да *каўнер* (гл.). Параўн. укр. *ковнір*>*ковмір*>*комір*.

**Ку́мкаць** 'квакаць (пра жаб)' (Сл. паўн.-зах., Мат. Гом., Ян., ТС, Сержп. Грам., Сцяшк., Клім., Гарэц., Янк. II, ДАБМ). Укр. *кумкати* 'тс', польск. *kumkać, kumać*, чэш. *kunkati*, н.-луж. *kunkaś*, в.-луж. *kunkać* 'тс'. Параўн. літ. *kūmúoti* 'тс'. Гукапераймальнае (да *кум-кум*).

**Кумпе́й** 'скнара' (Сцяшк. Сл.). Запазычанае польск. *skąpiec* 'тс'. Магчыма, пад уплывам формы тыпу рус. *скупендяй* 'тс'.

**Кумпя́к** 'бядровая частка тушы' (ТСБМ, Шат., Касп., Сл. паўн.-зах., Нік. Очерки, Гарэц., Сцяшк., Бір. Дзярж., Бяльк., Яруш.). Ст.-бел. *кумпъ, компь, кунпъ* 'кумпяк' (з 1556 г.). Запазычана з літ. *kum̃pis* 'тс' (Булыка, Запазыч., 181). Укр. *кумпяк, кумп, компа* 'тс', польск. *kąp, komp, kumpiak* 'тс'. Аб балтыйскай крыніцы гэтых слоў гл.: Блесе SB, 5, 14; Урбуціс, Baltistica, 5 (1), 63; Непакупны, Мовознавство, 1970, 6, 36; Непакупны, Связи, 192; Лаўчутэ, Балтизмы, 16.



**Кумпялю́фка** 'купальнік' (Сцяшк.) <польск. *kąpielówka* 'тс'.

**Ку́мса** 'вялікі кавалак хлеба' (ТС), 'кукса' (Мат. Гом.). Да *кукса* (гл.).

**Кумса́ты** 'бязрогі' (Жыв. сл.). Да *кумса* (гл.).

**Кумша́** 'сівец'. Параўн. літ. *kim̃sa* 'мох' (Сл. паўн.-зах., 2, 570). Структура слова сведчыць на карысць балт. паходжання, але дакладнай крыніцы не знойдзена.

**Кумы́с** 'напітак з малака кабылы' (ТСБМ). Запазычанне праз рус. з тат. *кымызъ* 'тс' (Шанскі, 2, 8, 444).

**Кумя́ш** 'густы суп' (Сцяшк. Сл.). Да **камяж* ад *камок, камяк*. Нерэгулярнае ўтварэнне. Імёны на *-яж* адпрыметнікавага паходжання (параўн. *густы* — *гусцяж*) (Сцяцко, Афікс. наз., 97).

**Ку́на** 'куніца' (Рам., Маш., Сцяц. Нар., Шн., Сцяшк. Сл.). Укр. *куна*, рус. *куна*, ст.-рус. *куна* 'тс', балг. *куна*, макед. *куна*, серб.-харв. *ку́на*, славен. *kúna* 'тс', польск. *kuna*, чэш. *kuna*, славац. *kuna*, в.-луж. *kuna*, н.-луж. *kuna* 'тс'. Прасл. *kuna* мае генетычна тоесны адпаведнік: ст.-прус. *caune* 'тс', літ. *kiáunė*, лат. *caũna* 'тс'. Іншыя паралелі ненадзейныя (параўн. Слаўскі, 3, 366—367).

**Куна́да** 'бульба' (Сцяшк., Кіс., Гарэц., Сцяц., Федар. Рук.). Запазычанне з літ. *kunodà* 'тс'.

**Куна́ты** 'густы, купчасты' (Сл. паўн.-зах., Нар. лекс.), 'вастраверхі' (Сцяшк. Сл.). Да *куна* (гл.)?

**Куна́цца** 'спатыкацца, аступацца' (Сл. паўн.-зах.). Ці не балтызм? Параўн. літ. *kūnóti* 'біць, удараць', калі **кунаць* азначала 'ударацъ', *кунацца* — 'ударацца'.

**Ку́ндзевы** 'худы, змарнелы' (ТС). Да *кундзель* (гл.).

**Кундзі́ль** 'недараслік' (Яўс.). Да *кундыль* (гл.). Сувязь гэтых слоў пацвярджаецца каш. *kuundäl* 'малое дзіця'.

**Ку́ндзіць** 'паліць у печы' (Сцяшк. Сл.). Відавочна, звязана з каш. *kᵘuńdäl* 'сярэдзіна вогнішча для выпальвання вугалю; месца, куды ўводзіцца агонь'. Ці не з с.-в.-ням. *zünden* 'запальваць агонь'? Субстытуцыя ням. *z*, як *k*, патрабуе тлумачэння.

**Кундзю́к** 'кіндзюк' (Нар. лекс., Жыв. сл., Маш., Сцяшк.). Да *кіндзюк* (гл.).

**Ку́ндзя** 'тоўстая непаваротлівая жанчына' (ТС). Магчыма, да рус. *куна* 'vulva', каш. *kᵘuna* 'сука'. Экспрэсіўная суфіксацыя *-дзя* прыдае дадатковае пеяратыўнае значэнне слову.

**Ку́ндля** 'дурань, балван', параўн. літ. *kundùlis* 'хто захутаны' (Сл. паўн.-зах., 2, 571). Насуперак аўтарам слоўніка бел. і літ. словы не маюць нічога агульнага. Бел. *кундля*< польск. *kundel* 'дварняк, дурань, балван'.

**Кундóбіць** 'біць' (Сцяшк. Сл.). Фармальна да **кундоба*< <**кунд-оба*, якое аднаго паходжання з *кундыль* (гл.). Тады першапачатковае значэнне *кундобіць* было 'кудлачыць', параўн. *кундосіць* (гл.). Значэнне 'біць' магло ўзнікнуць па аналогіі з заключнай часткай слова *кундо-біць*.

**Кундóсіць** 'цягаць за валасы' (Нас., Нік. Заг.). Да *кундыль* (гл.). Словаўтварэнне выглядае наступным чынам: **кунда* (<*кудла*) >**кундос*>*кундосіць*. Аб суфіксацыі на *-ос* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 195.

**Кýндры** 'апорнае прыстасаванне для вясла на плыце' (Сл. паўн.-зах.). Плытагонная тэрміналогія, як правіла, ням. паходжання. Але ў даным выпадку дакладную крыніцу вызначыць цяжка.

**Кýндыль** 'кудлаты сабака' (Нас., Шн., Сержп. Грам., Бяльк.). Укр. *кундель* 'тс', польск. *kundel* 'тс'. Астатнія паралелі менш надзейныя. Рус. *кундель* вядома хутчэй за ўсё толькі як смал. Усё гэта гаворыць аб другасным характары слова, і ў прыватнасці назалізацыі (<**кудель*), таму ўзводзіць яго да прасл. *kǫdlъ* няма падставы. Параўн. Слаўскі, 3, 368; Трубачоў, Происх., 35. Гл. *кудла*.

**Кунéжыцца** 'песціцца' (Сцяшк., Ян.). Да *нежыцца* (*ку*-прэфіксацыя).

**Куніца** 'невялікая драпежная жывёліна' (ТСБМ, Нас., Сл. паўн.-зах., Маш., Нік. Очерки, Грыг., Шн., Сержп. Грам., Яруш., Сцяшк.). Гл. *куна*.

**Кýннік** 'сумнік звычайны, Solidago virga aurea' (Касп., Кіс., Дэмб. 1). Мабыць, да **кундnік* 'кудлаты', улічваючы тое, што кветкі яго сабраны ў доўгую мяцёлку (БелСЭ, 10, 118). Гл. *кундыль*.

**Кунпáн** 'прыяцель, сябра' (КЭС, лаг., З нар. сл.). Да **кумпан*. Гл. *кампанія*.

**Кунтýш** 'верхняя вопратка' (Нас., Малчанава. Мат. культ., Грыг.). Ст.-бел. *кунтушъ* 'тс' (з 1663 г.) запазычана з польск. *kuntusz* 'тс' (Булыка, Запазыч., 181).

**Куняць** 'спаць' (Мат. Гом.). Укр. *куняти*, рус. *кунять* 'тс', серб.-харв. *кýњати* 'тс'. Надзейных паралелей за межамі славянскіх моў няма (Бернекер, 1, 6, 45).

**Кýпа**$_1$ 'куча, група' (ТСБМ, Нас., Сл. паўн.-зах., Бяльк., Яруш., Нар. сл., Яшк., ТС, Касп.). Укр. *купа*, рус. *купа* 'тс', балг. *купа* 'капа сена', макед. *купа* 'купа', серб.-харв. *кýпа*, польск. *kupa*, чэш. *kupa*, славац. *kupa*, в.-луж. *kupa* 'тс'. Прасл. *kupa* адпавядае літ. *kúopa*, лат. *kuopa* 'тс'. Іншыя індаеўрапейскія паралелі больш далёкія (Бернекер, 646; Траўтман, 138; Фрэнкель, 231).

**Кýпа**$_2$ 'сухі, здробнены торф' (Нар. лекс.), 'перагной' (Яшк.), 'дзе гоняць смалу, выпальваюць попел' (Яшк.). Гл. *купіцца*.



**Кýпа**$_3$ 'вялікая бочка для зерня' (ТС, КЭС, лаг.). Ст.-бел. *куфа* 'тс' (з 1583 г.) запазычана з польск. *kufa*, якое са ст.-в.-ням. *kuofa* (Булыка, Запазыч., 182). Магчыма, для бел. *купа* крыніцай быў н.-ням. або ст.-сакс. варыянт (параўн. ст.-сакс. *kōpa* 'тс').

**Купáва** 'гарлачык, Nymphaea alba L.' (Мат. Гом.). *«У купаве етай ат трахомы, ат залатухі купаюць»* (там жа, IV, 267). Балоцістая расліна. Параўн. *купіна*$_1$ (гл.).

**Купáвіца** 'трава, што расце ў балоце на купінах' (ТС, Нар. лекс.). Гл. *купава*.

**Кýпал** 'верхняе скляпенне ў форме паўшар'я' (ТСБМ). Запазычанне з італ. *cupola* 'тс'.

**Купáла**$_1$ 'свята 24 чэрвеня' (Нас., Сл. паўн.-зах., Крачк., Сцяшк., Гарэц., Чач., Кліх, ТС). Укр. *купала, купало*, рус. *купала*, ст.-рус. *купала* 'тс'. Вядома, што, згодна з традыцыяй, *купала* разглядаецца як усходнеславянскі пераклад са ст.-грэч. *βαπτιστής* 'хрысціцель'. *Іван Купала* адпавядае грэч. Ἰωάννης ὁ βαπτιστής (Іаан Хрысціцель). Але ёсць падставы меркаваць, што лексема *купала* мае старажытнае, яшчэ дахрысціянскае сакральнае значэнне. Аб гэтым сведчаць шматлікія этнаграфічныя і фальклорныя даныя. У Заходнім Палессі *купала* мае значэнне 'касцёр, агонь', якое можна суаднесці з бел. *купець, купаць* 'гарэць без полымя, дымець' (гл.), *kupěti / kǫpati* з сакральным значэннем 'ачышчаць агнём' (параўн. лац. *pūrus* 'чысты' і ст.-грэч. *πῦρος* 'агонь'). Тады да ліку суадносных лексем можна аднесці ст.-грэч. *καπνός* 'дым' (<**κϝαπνος*), лац. *vapor* 'пара, дым, агонь' (<**kuapos*), прасл. *kopъtь* (<**kvopъtь*): **kuop- / kouр-*. Незалежна ад верагоднасці гэтай этымалогіі бел. *купала* 'касцёр, агонь' звязваецца з бел. *купаць* 'гарэць'. Прадуктыўны суфікс *-ла* для назваў дзеячаў (параўн. *купала*) сведчыць аб анімізацыі назвы 'кастра, агню'. З гэтага пункту погляду *купала* адначасова 'касцёр, агонь' і нейкі 'дух агню' (Мартынаў, Зб. Крапіве, 210—211 з літаратурай).

**Купáла**$_2$ 'братаўка дуброўная, Melampyrum nemorosum' (Жыв. сл., Кіс.). Сакральна звязана з Купаллем. Гл. *купала*$_1$. Параўн. таксама *купалка* (гл.).

**Купáлка** 'купалка едкая, Erigeron acer L.' (ТСБМ, Кіс., Касп.), 'кветка, на якой калісьці варажылі на Купалле' (Жыв. сл.). Гл. *купала*$_1$.

**Купáлнік** 'доўгая спадніца з грубага саматканага матэрыялу, якую надзявае жанчына капаць бульбу' (Нар. лекс.). Да *капальнік*. Гл. *капаць*.

**Ку́пар** 'куфар' (Нар. лекс., Шн., Сл. паўн.-зах.). Да *куфар* (гл.).

**Купа́цца**₁ 'абмывацца, плаваць' (ТСБМ, Сл. паўн.-зах., Сцяшк., Яруш., Бяльк., ТС, Касп.). Укр. *купати*, рус. *купать*, балг. *къпя*, серб.-харв. *ку̏пати*, славен. *kópati*, польск. *kąpać*, чэш. *koupati*, славац. *kúpať*, в.-луж. *kupać*, н.-луж. *kupaś* 'тс'. Прасл. *kǫpati* не мае этымалагічна задавальняючага тлумачэння. Вельмі праблематычна сувязь з назвай канапель (параўн. Бернекер, 600), з германскай назвай мора (ст.-ісл. *haf*) (Якабсон, KZ, 42, 161), з прасл. *kǫpa* 'звязка' і інш. Здаецца, што прыведзеная вышэй этымалогія *купалы* пралівае святло і на гэты тэрмін (гл. *купала*). Калі дапусціць дублет *kupěti/kǫpati* (параўн. аб такіх дублетах: Брукнер, KZ, 42; Лер-Сплавінскі, Studia; Слаўскі, SO, 18), можна звесці *купаць* (у адрозненне ад *мыць*) да першапачатковага 'ачышчацца агнём'. Пакуль што, аднак, гэта этымалогія вельмі праблематычная.

**Купа́цца**₂ 'пераліваца, зіхацець (пра сонца)' (ТС). Параўн. *купець* (гл.) і *купіць*.

**Купе́ла** 'сажалка' (Сцяшк. Сл.). Да *купацца*. Словаўтварэнне нерэгулярнае. Мабыць, да *купель* (гл. Сцяцко, Афікс. наз., 38).

**Купе́на** 'купена многакветкавая, Polygonatum Moench multiflorum (L.)' (Нас., Кіс., Касп., Гарэц.). Да *купа*₁ (гл.), улічваючы форму карэнішча (БелСЭ, 6, 204) і такія сінонімы да назвы лекавай купены, як *пупнік, грыжнік*. Словаўтварэнне нерэгулярнае. Ці не да *купіна?* Параўн. *купіна*₃ (гл.).

**Купе́ць, ку́паць** 'тлець' (ТС). Гл. *капцець*. Гэтыя словы суадносяцца фармальна, як **koup-/kuop*. Гл. *купіць*.

**Ку́піна**₁ 'кучка зацвярдзелай зямлі на нізкім або балоцістым месцы, аброслая травой, мохам' (ТСБМ, Касп., ТС, Нік. Очерки, З нар. сл., Федар., Яруш., Сержп. Ск., Яшк., Кліх, Сл. паўн.-зах.). Укр. *купина* 'рачная выспачка', рус. *купина* 'тс', польск. *kępina*, в.-луж. *kupa*, н.-луж. *kupa* 'выспачка'. Параўн. літ. *kam̃pas* 'мясцовасць', лац. *campus* 'поле' (Бернекер, 1, 600; Фасмер, 2, 420).

**Ку́піна**₂ 'цярновы куст' (Булг.). Запазычанне са ст.-слав. **кѫпина** 'тс' у біблейскім тэксце.

**Ку́піна**₃ 'скабіёза жоўтая, Scabiosa ochroleuca L.' (Кіс.). Да *купа*₁ (гл.). Пра семантычную сувязь гэтых слоў сведчаць такія сінанімічныя назвы, як *кайтуннік* і *гузікі*. Параўн. *купена* (гл.).

**Ку́пісты** 'шыракаплечы' (Сцяшк. Сл.), 'прысадзісты (пра чалавека)' (Янк. III). Да *купа*₁ (гл.).

**Ку́піцца** 'тлець, гарэць (пра торф)' (Сл. паўн.-зах.). Гл. *ку́піць*.



**Купі́ць** 'набыць за грошы' (ТСБМ, Бяльк., ТС, Сл. паўн.-зах.). Укр. *купити*, рус. *купить*, ст.-слав. **коупити**, балг. *купя*, серб.-харв. *ку̏пити*, славен. *kúpiti*, польск. *kupić*, чэш. *koupiti*, славац. *kúpiť*, в.-луж. *kupić*, н.-луж. *kupiś* 'тс'. Прасл. *kupiti* лічыцца запазычаннем з гоц. *kaupon* 'таргавацца, гандляваць', а германскія словы — з лац. *caupō* 'крамар' (Бернекер, 647; Траўтман, 123; Кіпарскі, 204). Аднак існуе іншая магчымасць вытлумачыць паходжанне славянскіх лексем. Лац. *caupō* ў сваю чаргу разглядаецца як запазычанне з невядомай мовы. Яго можна звязаць са ст.-грэч. κάπηλος 'крамар', калі прыняць для апошняга κάπηλος (<*κϝαπηλος): *caupo-* **kuop-*: **koup-*. Сюды ж можна аднесці і тах. *kappi* 'серабро' (<*koup-): ст.-грэч. καπηλεία 'гандаль' ~ тах. *kappi* 'серабро'. І.-е. *kuop* тады разглядаецца як назва адзінкі натуральнага абмену. Параўн. прасл. *kopa* (гл. *капа*) (ст.-польск. і ст.-чэш. *kopa* 'грашовая адзінка'). Калі гэта так, мы можам рэканструяваць **kuop-/*koup-* і аднесці сюды прасл. *kupiti*. Германскія словы можна разглядаць як славянізмы (далейшую аргументацыю гл. у Мартынава, Лекс. взаим., 161—166).

**Ку́піць** 'гарэць без полымя, дымець' (Мартынаў, Зб. Крапіве, 210), якое суадносіцца з *ко́паць* (<*kuop-) як аблаўтны варыянт **koup-*. Гл. *купець* і *капцець*.

**Купле́т** 'асобная страфа песні' (ТСБМ, Яруш.). Запазычана праз рус. *куплет* з франц. *couplet* 'тс' (Шанскі, 2, 8, 448).

**Купо́н** 'адразны талон у каштоўных паперах' (ТСБМ). З франц. *coupon* 'тс' праз рус. *купон* (Шанскі, 2, 8, 449).

**Ку́пра** 'горб', 'карак', 'бядро', 'клуб у каровы', 'пупок у птушак' (Сл. паўн.-зах.). Параўн. літ. *kuprà* 'горб' (там жа, 2, 575). Балтызм. Гл. Лаўчутэ, Балтизмы, 144. Нельга змешваць з укр. *купер* 'хвасцец', польск. *kuper*, чэш. *kupr* 'тс', якое, магчыма, мае генетычную сувязь з літ. *kaũparas* 'курган', і інш. (параўн. Фасмер, 2, 420; Слаўскі, 3, 377).

**Куптыры** 'трава (балотная)' (Мат. Гом.). Да *каптур* (гл.)?

**Купча́сты** 'з пышнай густой кронай (пра дрэва)' (ТСБМ), 'бахматы' (Сл. паўн.-зах.). Да *купа*₁ (гл.). Параўн. *купісты* (гл.). Суфіксальная частка *-ча-сты* складваецца з двух элементаў; *-ча* (параўн. *купча* ад *купіць*) (Сцяцко, Афікс. наз., 74) і *-(і)сты*.

**Купэ́** 'аддзяленне ў пасажырскім вагоне' (ТСБМ). Запазычанне праз рус. *купе* 'тс' з франц. *coupé* 'тс' (Шанскі, 2, 8, 446—447).

**Купю́ра** 'назва папяровых грошай і аблігацый' (ТСБМ). Запазычана з франц. *coupure* 'тс' праз рус. *купюра* 'тс' (Шанскі, 2, 8, 450).

**Кур**$_1$ 'певень' (Федар., Шн.). Укр. *кур*, рус. *кур*, ст.-слав. **коуръ**, балг. *кур*, славен. *kûr*, польск. *kur*, чэш. *kour*, славац. *kur*, в.-луж. *kur*, н.-луж. *kur* 'тс'. Прасл. *kurъ* традыцыйна звязваецца з анаматапаэтычнымі дзеясловамі з агульным значэннем 'крычаць'. Фактычная адсутнасць паралелей у балтыйскіх мовах сведчыць на карысць гіпотэзы аб славянскай інавацыі або іншамоўнага пранікнення (параўн. Фасмер, 2, 422). Балт. назва курыцы (літ. *vištà*, лат. *vista*), паводле Эндзеліна (Мюленбах-Эндзелін, 4, 300), узыходзіць да індаеўрапейскай назвы дома або роду (ст.-інд. *viś* 'дом'). Гэта значыць, *курыца* — «хатняя птушка». Тую ж семантыку можна разгледзець у прасл. *kurъ* 'певень' ад **kurъ* 'род, дом', параўн. *курва* (гл.).

**Кур**$_2$ 'пыл' (Гарэц.), 'копаць, сажа' (Сл. паўн.-зах.). Гл. *курыць*.

**Ку́ра** 'курыца' (Мат. Гом., Сл. паўн.-зах., ТС, Ян., Сцяшк., Маш., Жд. 3, ДАБМ, С. Некр., Янк. II). Гл. *кур*.

**Ку́рава** 'куродым' (ТСБМ, Мат. Гом.), 'пыл' (Сл. паўн.-зах., Нар. лекс., Жыв. сл., Жд. 3). Ст.-бел. *курава* 'пыл', якое Булыка (Запазыч., 181) памылкова лічыць запазычаннем з польскай мовы. Укр. *курява* 'тс', польск. *kurzawa*, славац. *kúrava* 'тс', н.-луж. *kuŕava* 'туман', в.-луж. *kurjawa* 'тс'. Паўн.-слав. *kurjava*. Славен. *kurjâva* 'саграванне' мае іншую семантыку і не мае паралелей у іншых паўднёваславянскіх мовах. Параўн., аднак, серб.-харв. *кỳрњавити* 'дыміць', якое, калі яго параўнаць з польск. *kurniawa*, сведчыць аб паралельнай форме: прасл. *kurnjava* (Слаўскі, 3, 404). Да *курыць* (гл.).

**Курава́й** 'род травяністых раслін сямейства матыльковых' (ТСБМ), 'астрагал салодкалісты, Astragalus glycyphyllus L.' (Кіс.). У адпаведнасці да фармальнага крытэрыю ўтварэнне на *-ай*, якое выкарыстоўваецца для назваў раслін тыпу *малачай* (ад *малако*) (Сцяцко, Афікс. наз., 145). Тады да *курава*. Семантычна незразумела. Параўн., аднак, сінанімічную назву астрагала — *віхрава трава* (Кіс., 21).

**Курада́ў** 'ястраб' (Мат. Гом.). Да *кур*$_1$ (гл.) і *давіць*.

**Курады́м** 'куродым' (ТСБМ, КЭС, лаг.). Гл. *куродым*.

**Кура́жыцца** 'важнічаць, трымацца фанабэрыста' (ТСБМ). З рус. *куражиться*, якое ад *кураж* (<франц. *courage* 'смеласць') (гл. Шанскі, 2, 8, 450—451).

**Кура́й** 'свойская птушка з невыразнымі палавымі адзнакамі' (Сл. паўн.-зах.). Укр. *курій* 'тс', польск. *kurzej*, чэш. *kuřej*, славац. *kurej*. Паўн.-слав. утварэнне — **kur-ějь*. Гл. *кур*$_1$ (параўн. Слаўскі, 3, 421).

**Ку́рак**$_1$, **куракі́** 'петлі ў лапцях, куды зацягваліся аборы' (Сл. паўн.-зах., Касп., Шатал., Нар. сл., Жд. 2). Параўн. польск. *kurek* у другасным значэнні 'кран' (='што адкрывае і замыкае'). Націск і суфіксацыя сведчаць на карысць польскага ўплыву (параўн. Слаўскі, 3, 400).



**Ку́рак**$_2$ 'трэска (гнілая)' (Мат. Гом.). Да *курыць* (гл.). Параўн. *гніць* і *тлець* як сінонімы.

**Кура́к** 'пеўнік' (Яўс., Вяр.). Гл. *кур*.

**Курале́сіць** 'гаварыць недарэчнае, балбатаць' (Сл. паўн.-зах.). Ст.-рус. *курелейсон*<ст.-грэч. κύριε ἐλέησον 'божа памілуй'. Гэта сакральная формула вымаўлялася няясна. Адсюль значэнне 'балбатаць'.

**Куралёк**$_1$ 'газнічка' (Сл. паўн.-зах.). Да *кураль* (гл.).

**Куралёк**$_2$ 'частка кумпяка' (Сл. паўн.-зах.). Да *курыць* (гл.), *кураль* (гл.). Матывацыя назвы звязана з тэхналогіяй вэнджання. Параўн. *куранка*$_2$ (гл.) 'вяндліна'.

**Куралём** 'дагары нагамі' (Сцяшк. Сл., Бір. Дзярж., Сцяц.), 'кулём' (Жыв. сл.). Да *кулём*. Мабыць, кантамінацыя з *курожыцца* (гл.).

**Ку́ралкі** 'асобіны канапель з пыльнікамі' (Сл. паўн.-зах.). Да *курыць* (гл.) 'пыліць', суфіксацыя незразумелая. Магчыма, да **куралькі*. Тады *курыць*>*кураль*>**куралёк* 'пыльнік'.

**Кура́ль** 'лучына' (Жд. 3). Да *курыць* (гл.). Адносна прадуктыўнай суфіксацыі на *-аль* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 25.

**Кура́нка**$_1$ 'хата (курная)' (Мат. Гом.). Да *курыць* (гл.).

**Кура́нка**$_2$ 'вяндліна' (Сцяшк. Сл.). Да *курыць* (гл.). Параўн. *куралёк*$_2$ (гл.).

**Кура́нт** 'камень, якім труць фарбы' (Грыг.). Няясна.

**Кура́нты** 'вежавы або насценны гадзіннік з боем' (ТСБМ, Нас.). Праз рус. мову з франц. *courante* 'бягучы' (гл. Шанскі, 2, 8, 451).

**Ку́рань** 'хата' (Мат. Гом.). Гл. *курэнь*.

**Кура́па** 'жаба' (Бяльк., Юрч., Мат. Маг., Гарэц., З жыцця). Балтызм. Параўн. ст.-прус. *crupeyle* 'жаба', літ. *krùpis*, лат. *krupis* 'тс'. Аб балтыйскіх словах гл. Тапароў, K — L, 211—215.

**Курапа́та** 'курапатка' (Шат., Сл. паўн.-зах., ТС, Нар. лекс., Кліх.). Гл. *курапатка*.

**Курапа́тка** 'дзікая птушка атрада курыных' (ТСБМ). Укр. *куропатка, куропатва*, рус. *куропатка, куропатва* 'тс', польск. *kuropatwa*, чэш. *koroptev*, славац. *kuroptwa*, в.-луж. *kurotwa* 'тс'. Паўднёваславянскія мовы паралелей да гэтага слова не ведаюць. Рэканструкцыя дае прасл. *kuro-pъty*. Першая частка гэтага складанага слова ўзыходзіць да *kurъ, kura* (гл. *кур, кура*), другая — да агульнай назвы птушак *-pъta* (гл. *птушка*). Такім чынам, першаснае значэнне 'птушка, па-

добная да курыцы'. Падрабязна з улікам апошняй літаратуры гл. Слаўскі, 3, 407—409.

**Курасáдня** 'перакладзіна ў куратніку, на якую куры садзяцца на ноч; седала' (ТСБМ, Сл. паўн.-зах., Шат., Яўс., Жыв. сл., Гарэц.). Да *кура* (гл.) і *садзіць* (гл.).

**Курасáткі** 'драбінкі на возе' (Жд. 2). Да **курасадкі*. Параўн. *курасадня* (гл.) і *курачнік* 'зімні вазок' (гл.).

**Курaслéп**₁ 'род раслін сямейства казяльцовых: анемона, Anemone L.' (ТСБМ, Кіс., Сл. паўн.-зах., Шат., Касп., Сцяшк., ТС, Дэмб. 1, Бейл.). Укр. *куряча сліпота*, рус. *курослеп* 'тс', славен. *kuroslèp* 'вочны цвет, Anagallis arvensis', серб.-харв. *kuroslijep* 'чымер чорны, Helleborus niger', польск. *kuroślep* 'вочны цвет. Anagallis arvensis', славац. *kuroslep* 'тс'. Параўн. Слаўскі, 3, 426; Скок, 2, 240; Безлай, 2, 113. Да *кур*₁ (гл.) і *сляпы* (гл.). Назвы гэтых раслін у розных славянскіх мовах — вынік калькавання з лацінскай і нямецкай моў і кантамінацый. Іх праславянская старажытнасць здаецца неверагоднай.

**Курaслéп**₂ **вадзяны** 'вадаперыца балотная, Hottonia palustris L.' (Кіс.). Да *курaслеп*₁ (гл.).

**Курáтар** 'кіраўнік, апякун' (ТСБМ). Запазычанне праз рускую мову з ням. *Kurator* 'тс' (Шанскі, 2, 8, 451).

**Кýрац** 'маленькі піражок, печаны на паду' (КЭС, лаг., Янк. III). Да *курыць* (гл.).

**Курáч** 'глінушка' (ТС). Да *курыць* (гл.). Параўн. *курак*₂. (гл.).

**Кýрачка** 'зялёнка, назва грыба' (Сцяшк., Жыв. сл.). Да *кура* (гл.). Параўн., аднак, *курашка* (гл.) 'губа'.

**Курáчнік** 'зімні вазок' (Сцяшк. Сл.). Параўн. *курасаткі* (гл.).

**Курáшка** 'губа' (бат.) (Мат. Гом., Жыв. сл.), 'гнілы пень, што курыць' (Касп.). Да *курыць* (гл.). Адносна суфікса *-ашка* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 33.

**Курáшчыпка** 'мурашка' (Бяльк.). Да *кура* (гл.) і *шчыпаць* (гл.).

**Курашэ́сь** 'курасадня' (Касп.). Да *кура* (гл.) і *шост* (гл.). Ад апошняга, магчыма, зборная форма **шэсць*.

**Кýрва** 'распусная жанчына' (Нас., Шат., Сержп. Ск., Мядзв., Шпіл., Грыг.). Укр. *курва*, рус. *курва* 'тс', балг. і макед. *курва*, серб.-харв. *кȳрва*, славен. *kûrva* 'тс', польск. *kurwa*, чэш. *kurva*, славац. *kurva*, в.-луж. *kurwa* 'тс'. Прасл. *kury*, *kurъve* 'meretrix'. Рад даследчыкаў разглядаюць славянскія формы як такія, што праніклі з германскай (ст.-ісл. *hóra*, ст.-в.-ням. *huora*). Да германскіх форм прыводзяць вельмі ненадзейную паралель: лац. *cārus* 'дарагі, мілы', ст.-інд. *kārunya* 'спачуванне, ласка' (Бернекер, 651). Іншыя ўзводзяць прасл. *kury* да *kurъ* 'певень'. У якасці семантычнай паралелі разглядаецца франц. *cocotte* 'курачка і какотка'. Незразумелым застаецца паходжанне гоц. *hōrs* 'пралюбадзей' (Кіпарскі, Gemeinslav., 42). Мы разглядаем прасл. *kury* як генетычна звязанае са ст.-грэч. *κῦριος* 'пан, гаспадар' і прасл. *praščurъ* 'роданачальнік', літ. *prakurėjus* 'прарадзіцель'. У такім разе прасл. *kury* мела значэнне 'жанчына рода, абшчыны' > 'жанчына ва ўмовах паліандрыі'. Германскія формы паходзяць ад славянскіх (Мартынаў, Лекс. взаим., 208—209). Параўн. Махэк, Slavia, 21, 260.



**Курвéль** 'распуснік' (Нас., Шат., Шпіл., Грыг.). Да *курва* (гл.).

**Кургáн**₁ 'высокі старадаўні магільны насып; гурба' (ТСБМ, Сл. паўн.-зах., ТС, Сцяшк., Мат. Маг., Федар.), укр. *курган*, рус. *курган* 'тс'. Паводле Заянчкоўскага (22—23), усходнеславянскае запазычанне з палавецка-кіпчацкай мовы *kurgan* 'тс' ад кораня *kur-* 'узводзіць, узмацняць' (параўн. Фасмер, 2, 404; Слаўскі, 3, 402—403).

**Кургáн**₂ 'шматок пашы ці лесу сярод палёў' (Нар. лекс.). Гл. *курган*₁.

**Кургáн**₃ 'востраў, які ўтвараецца ў час паводкі' (Нар. словатв., Федар. Рук.). Гл. *курган*₁.

**Кургáн**₄ 'куст' (Касп.). Да *курган*₂ (гл.).

**Кургáннік** 'сон раскрыты, Pulsatilla potens L.' (Кіс.). Да *курган*₃ (гл.).

**Курдá** 'чалавек малога росту' (Ян., Нар. сл.). Да **курта*. Параўн. *курдаты* (гл.) і *куртаты*₁ (гл.).

**Курдавáлак** 'цурбан, цурбалак' (Нар. сл.). Кантамінацыя *курда* (гл.) і *кавалак* (гл.).

**Курдáты** 'малы ростам, куртаты' (ТС). Да *курда* (гл.).

**Курдаáчыць** 'гаварыць незразумела' (Шатал., Нар. лекс., ДАБМ). Магчыма, *курдаячыць* < **курдзячыць*. Апошняе да **курдзяк* (параўн. польск. *kurdiak* 'нарасць на языку'). Этымалогія апошняга няпэўная (Слаўскі, 3, 399). Параўн. *курдзюк*₁ (гл.).

**Курдзéль** 'малы ростам чалавек' (Жыв. сл.). Да *курдаты* (гл.). Суфіксацыя, як *гарбаты* — *гарбель* (Сцяцко, Афікс. наз., 98).

**Курдзёбак** 'абрубак' (Касп.). Да *курда* (гл.) і *дзюбаць* (гл.). *Курдзёбак* < **курдзюбак*.

**Курдзю́к**₁ 'рана пад языком у жывёлы', 'цвёрдая нарасць на кончыку языка ў курэй' (Сл. паўн.-зах.). Укр. *курдюк* 'тс', польск. *kurdziuk* 'тс'. Брукнер (283) узводзіў да *kurъ* (гл. *кур*₁) з другасным *d*. Тады *курдзюк* < **кур-юк* / **кур-ук*. Параўн. *гусюк, качук* і г. д. (Сцяцко, Афікс, наз., 200).

**Курдзю́к**$_2$ 'трыбух свіны, начынены мясам' (Сцяшк. Сл.). Магчыма, кантамінацыя *курдзюк*$_1$ (гл.) і *кіндзюк* (гл.).

**Курдо́ўнік** 'зараснік аеру, асакі' (Яшк.). Магчыма, да **кардоўнік* (**корд-ов-ник*). Ад ст.-рус. *кордъ* 'меч' адпаведна форме. Параўн. *асака вострая, целарэз.*

**Курду́пель** 'чалавек малога росту' (Мат. Гом., З нар. сл., КЭС, лаг., Нар. лекс., ТС, Касп., Сцяшк. Сл.). Укр. *курдупель* 'тс', польск. *kurdupel* 'тс' хутчэй за ўсё запазычаны з беларускай або ўкраінскай мовы. Бел. *курдупель* ад *курдупы* (гл.). Складанае слова рэканструюецца як *kъrno-dupъ* (параўн. *kъrno-nosъ* 'курносы'). Падрабязна гл. Лабко, Бел.-польск. ізал., 72—73 з картай на с. 71. Гіпотэза аб балтыйскім паходжанні неверагодная. Літ. *kurdùpelis* само запазычана з бел. *курдупель* (параўн. Лаўчутэ, Балтизмы, 116).

**Курду́пы** 'кароткахвосты, прыземісты' (Нас., Бяльк.). Гл. *курдупель.*

**Кур'е́р** 'пасыльны ва ўстанове' (ТСБМ). Праз рус. *курьер* 'тс' запазычана з польск. *kurier* (Шанскі, 2, 8, 459).

**Кур'ёз** 'недарэчны выпадак' (ТСБМ). Праз рус. мову *курьёз* 'тс' з ням. *Kuriosum* (Шанскі, 2, 8, 458).

**Ку́рзніць** 'гаварыць няпэўна, выдумляць, мроіць' (Яўс.). Кантамінацыя гукапераймальнага *кур-кур, курлыкаць* (гл.) і *трызніць* (гл.) 'мроіць'. Параўн. *курняўкаць* (гл.).

**Курзо́ліцца** 'боўтаць пысай пойла' (Сл. паўн.-зах.). Няясна.

**Ку́рка** 'цюльпан, Tulipa' (Касп.). Да *кура* (гл.).

**Ку́ркі** 'сузор'е Плеяды' (Маш.). Да *кура* (гл.).

**Курку́ль** 'селянін-кулак', 'хціўвы, скупы чалавек' (ТСБМ, Сцяшк.). Параўн. *каракуль* (гл.). Няясна. Ці не звязана гэта з *караголь* 'ястраб'? Іншая версія: запазычанне з бурсацкай мовы. Параўн. лац. *curculio* 'хлебны жучок' з радам пераносных значэнняў.

**Курлы́каць** 'стварыць гукі, падобныя на «курлы» (пра жураўлёў)' (ТСБМ). Гукапераймальнае.

**Курма́нка** 'фурманка' (Сл. паўн.-зах.). Гл. *фурманка.*

**Курме́ль**$_1$ 'пячкур' (Сл. паўн.-зах., Касп., З нар. сл., Нар. сл., Жук.). Рус. *курмел* 'тс'. Балтызм. Літ. *kurmẽlis* 'тс'. Дэмінатыўная форма да *kùrmis* 'крот' (Лаўчутэ, Балтизмы, 55).

**Курме́ль**$_2$ 'чалавек малога росту' (Касп.). Да *курдзель* (гл.) пад уплывам *курмель*$_1$ (гл.).

**Курмы́ш** 'гульня (у кошкі-мышкі)' (Мат. Гом.). Магчыма, другая аснова гэтага складанага слова ўзыходзіць да *мыш* (гл.). Першая — да *кура*. Параўн. *куры* (гл.) 'гульня'. Не выключана кантамінацыя *кошкі-мышкі* ~ *куры* > *куры-мышкі.*



**Курна́**$_1$ 'кашэчае мурканне', 'сапенне падчас дрымоты' (Нас., Сл. паўн.-зах., КЭС, лаг., Гарэц., Бір., Янк. БФ, Янк. БП). Балтызм. Параўн. літ. *kurnė́ti* 'муркаць (пра ката)' (Фрэнкель, 317).

**Курна́**$_2$: *загнуць курну* 'ступні ног прыгнуць да твару' (КЭС, лаг., Нар. словатв., Сцяц.). Да *карнаць* (гл.) 'укарочваць'.

**Курні́сты** 'звілісты, пакручаны' (Нар. сл.). Гл. *курна*$_2$.

**Курно́сы** 'кірпаносы' (Касп., Шатал., Жыв. сл.). Укр. *курносий*, рус. *курносый,* ст.-рус. *кърноносъ* 'тс'. Да *карнаць* (гл.).

**Ку́рны** 'які ацяпляецца печкай без коміна' (ТСБМ, Сл. паўн.-зах., Сцяшк., Гарэц.). Гл. *курыць*$_1$.

**Курмя́ўкаць** 'мяўкаць' (Нас., Сл. паўн.-зах., Мат. Гом., З нар. сл., Бяльк., Сцяшк., Яруш., Нік. Напоў., Гарэц., ДАБМ). Параўн. літ. *kurnúoti* 'тс' (Сл. паўн.-зах., 2, 582). Рус. *курнявкать* 'тс'. Балтызм. Крыніца, блізкая да літ. *kurnúoti* або *kurnė́ti* 'тс'. На беларускай моўнай глебе кантамінацыя з *мяўкаць.*

**Куро́біцца** 'карабаціцца' (Нар. словатв.). Да **каробіцца.* Параўн. укр. *коробитися*, рус. *коробиться.* Гл. *кораб.*

**Куро́дым** 'густы едкі дым пры тленні' (ТСБМ, ТС, Сл. паўн.-зах., Ян., Сцяшк., З нар. сл., Сержп. Пр., Сержп. Ск., Янк. I, Бір.). Да *курыць* (гл.) і *дым* (гл.).

**Куро́жыцца** 'курчыцца, мучыцца' (ТС, Сл. паўн.-зах.). Да *карожыцца* (гл.).

**Куро́па** 'няўдалая жанчына' (Мат. Маг.). Да *курапата* (гл.).

**Куро́санне** 'курасадня' (Нар. сл., Жд. 3, Янк. III). Да *курасадня* (гл.).

**Курпа́ты** 'сутулы' (Сцяшк. Сл.). Да *гарбаты.* Магчыма, пад уплывам *куробіцца* (гл.).

**Курс** 'напрамак руху, шлях' (ТСБМ). Запазычана праз рускую мову з ням. *Kurs* (Шанскі, 2, 8, 455).

**Курса́ткі** 'драбіны ў возе' (Сцяшк. Сл.). Гл. *курасаткі.*

**Ку́рстацца**$_1$ 'дыміць, тлець'. Параўн. літ. *kùrstyti* 'распальваць, паліць у печы' (Сл. паўн.-зах., 2, 583). Балтызм (Лаўчутэ, Балтизмы, 47).

**Ку́рстацца**$_2$ 'корпацца, церабіцца' (Сл. паўн.-зах.). Балтызм. Параўн. літ. *kùrstytis* 'спяшацца'. Розніца ў семантыцы, магчыма, тлумачыцца ўплывам *корпацца* (Лаўчутэ, Балтизмы, 47).

**Ку́рся** 'кормная свіння' (Сцяшк. Сл.). Няясна.

**Ку́рта**$_1$ 'куртаты, бясхвосты (ці з кароткім хвастом)' (Сцяц., Др.-Падб., Мал., Шн., Яруш.), 'маларослы' (Мал.),

'кепскі, горшы' (Сцяц.). Запазычанне з польск. *kurta* (Кюнэ, Poln., 70; Слаўскі, 3, 414—415). Параўн. *куртаты* (гл.).

**Ку́рта**$_2$ 'сучка' (Сл. паўн.-зах.). Параўн. літ. *kùrtas* 'паляўнічы сабака' (Сл. паўн.-зах., 2, 584). Балтызм.

**Ку́рта**$_3$ 'куртка' (Шат., Бяльк., Серб., Нас., Сержп., Ск., Мат. Маг., Тарнацкі, Studia). Запазычанне з польск. *kurta* 'тс' (Слаўскі, 3, 413; Кюнэ, Poln., 70).

**Курта́ты**$_1$ 'бясхвосты' (ТСБМ, Сл. паўн.-зах.), 'маларослы' (Гарэц.). Укр. *куртатий* 'тс'. Прыметнік з прадуктыўным суфіксам *-аты*. У іншых славянскіх мовах гэты суфікс не зафіксаваны (параўн. Слаўскі, 3, 414), таму слова трэба лічыць беларуска-ўкраінскай інавацыяй. Агульнараспаўсюджанае ў заходнеславянскіх мовах *kurta* 'сабака з адрэзаным хвастом' запазычана з лац. *curtus* 'кароткі' (с.-лац. *curtus canis* 'сабака з адрэзаным хвастом').

**Курта́ты**$_2$ 'чорт' (Федар.). Да *куртаты*$_1$ (гл.). Параўн. *куцы*$_1$ 'кароткі' і *куцы*$_2$ 'чорт' (гл.).

**Курта́ч** 'кароткае на ваце мужчынскае паліто' (Сцяшк.). Гл. *курта*$_3$.

**Куртэ́ль** 'малы ростам чалавек' (Жыв. сл.). Да *курта*$_1$ (гл.).

**Ку́рцік**$_1$ 'малы, куртаты' (Сцяшк.). Гл. *курта*$_1$.

**Ку́рцік**$_2$ 'курта' (Бяльк., Сержп. Пр., Сержп. Грам., Мат., Маг.). Да *курта*$_3$ (гл.).

**Курч**$_1$ 'карчага' (З нар. сл.). Да *курчыцца* (гл.).

**Курч**$_2$ 'сабака з пароды хартоў, сетэр' (Гарб.). Запазычанне з польск. *kurcz* 'тс' (Слаўскі, 3, 394—395).

**Курча́ць** 'кумкаць' (Мат. Гом.). Гукапераймальнае.

**Курчу́к** 'рана ў храпе' (Сл. паўн.-зах.). Параўн. літ. *kurčiùkas* 'тс' (Сл. паўн.-зах., 2, 585). Балтызм.

**Курчы́ны** 'жэрдкі ў хаце пад столлю, на якія вешаюць адзежу' (Бяльк., Рам., Мат. Маг., Пал.). Да *курч*$_1$ (гл.).

**Ку́рчыцца** 'сціскацца ўсім целам' (ТСБМ, Шат., З нар. сл.). Укр. *корчитися*, рус. *корчиться* 'тс', ст.-слав. **кърчити**, серб.-харв. *кр̏чити се*, славен. *kŕčiti se* 'тс', польск. *kurczyć się*, чэш. *krčiti se*, славац. *kŕčiť* 'тс'. У польскай мове *r̥>ur*, таму трэба думаць, што бел. *курчыцца* ўзнікла пад уплывам польск. *kurczyć się*. Індаеўрапейскіх і балтыйскіх паралелей няма (гл. Слаўскі, 3, 396—397).

**Ку́рштаць** 'цягнуць, выцягваць (з чаго-небудзь)' (Федар. Рук.). Параўн. *курстацца* (гл.).

**Ку́ры** 'гульня': *«Той, хто водзіць з завязанымі хусткай вачыма, ходзіць па хаце з распрасцёртымі рукамі і стараецца каго-небудзь злавіць»* (Нар. словатв.). Параўн. *курмыш* (гл.). Да *кура* (гл.).

**Ку́рыва** 'тое, што кураць' (ТСБМ). Да *курыць*$_1$ (гл.).



**Куры́га красная** 'канюшына лугавая, Trifolium pratense L.' (Кіс.). Параўн. сінанімічныя назвы: *красная дзятліна, чырвоная дзятліна* (Кіс., 133). Паводле колеру да *курыць*. Суфіксацыя на *-ыга* (Сцяцко, Афікс. наз., 91).

**Куры́ны** 'чорныя парэчкі' (Сцяшк. Сл.). Да *кура* (гл.).

**Ку́рыца**$_1$ 'свойская птушка; самка пеўня' (ТСБМ, Сл. паўн.-зах., Касп., Яруш., Бяльк., Сцяшк., Сержп. Пр., Жд. 2). Гл. *кур*$_1$.

**Ку́рыца**$_2$ 'vulva' (Некр.). Слова, магчыма, яшчэ праславянскае. Укр. *курка* 'тс'. Параўн. славен. *kûrjica* 'тс', н.-луж. *kurica* 'тс', традыцыйна да *кура* (гл.) (Штрэкель, AfSlPh, 27, 50). Больш верагодна да прасл. *kurъ* 'род' (гл. Мартынаў, Лекс. взаим., 208—209). Параўн. *курва* (гл.).

**Куры́ць**$_1$ 'пыліць, дыміць; удыхаць і выдыхаць дым якога-небудзь рэчыва, пераважна тытуню' (ТСБМ, Сл. паўн.-зах., ТС, Бяльк., Сцяшк., КЭС, лаг., Сержп., Пр., Янк. Мат., Шатал.). Укр. *курити*, рус. *курить* 'тс', ст.-слав. **коурити сѧ** 'дыміць', балг. *курна* 'запаліць', серб.-харв. *ку́рити* 'паліць агонь у печы, тытунь', славен. *kúriti* 'раскладваць агонь, дыміць, курыць', польск. *kurzyć się* 'дыміць, гарэць; пыліць', чэш. *kouřiti* 'дыміць, паравацъ, пыліць', славац. *kúriť* 'паліць печ', *kúriť sa* 'дыміць', в.-луж. *kurić*, н.-луж. *kuriś* 'тс'. Прасл. *kuriti* мае паралелі ў балтыйскіх мовах: літ. *kùrti* 'раскладваць агонь, паліць', лат. *kur̃t* 'тс'. Паралелі ў германскіх мовах (гоц. *haúri* 'вугаль', ст.-ісл. *hyrr* 'агонь') канчаткова пацвярджаюць першаснасць значэння 'паліць агонь' (Бернекер, 651—652; Траўтман, 145; Фрэнкель, 319).

**Куры́ць**$_2$ 'ехаць або бегчы хутка' (Нас., ТС, Ян.). Запазычанне з літ. *kùrti* 'тс'.

**Курэ́нь**$_1$ 'будан' (ТСБМ, Бяльк., Яшк., Янк. II, Хрэст. дыял., Мат. Гом., Сл. паўн.-зах., Маш., Шушк.). Укр. *курінь*, рус. *курень*. Разглядаецца як запазычанне з цюрк. (гагауз.) *kürün* 'атрад воінаў' (гл. Бернекер, 648). Семантычна далёка. Відаць, трэба вярнуцца да разгляду этымалагічнай сувязі з *курыць* (гл.) (Фартунатаў, ВВ, 3, 69; Міклашыч, 427). Наяўнасць бел. *курэнь* 'дымар' актуалізуе гэту гіпотэзу.

**Курэ́нь**$_2$ 'дымар' (Сл. паўн.-зах.). Да *курыць*$_1$ (гл.).

**Кур'я́н**$_1$ 'курыца з прыкметамі пеўня' (ТС). Да *кур*$_1$ (гл.). Першапачаткова **куран* (Сцяцко, Афікс. наз., 147).

**Кур'я́н**$_2$ 'дзіцячая гульня' (ТС). Да *кур'ян*$_1$ (гл.). Параўн. *куры* (гл.) — тая самая гульня. Ловяць з завязанымі вачыма. Каго зловяць, той «кур'ян» (ТС, 2, 254).

**Куря́тка** 'нарасць на бярэзіне' (Бяльк.). Да *кур*$_1$ (гл.). Словаўтварэнне празрыстае: *кур-ят-ка* (*kur-ęt-ъka*). Параўн. *курдзюк* (гл.).

**Кус** 'кусок' (ТСБМ, Нас., Сл. паўн.-зах., КЭС, лаг., Бяльк., Сержп. Ск., Гарэц.). Гл. *кусаць*.

**Ку́са** 'цяжка, недастаткова' (Нас.). Укр. *кусий* 'куцы, недастатковы', балг. *къс* 'кароткі, недастатковы, нізкі', серб.-харв. *кŷс* 'тс', польск. *kusy*, чэш. *kusý*, славац. *kusý*, в.-луж. *kuši*, н.-луж. *kušy* 'тс'. Прасл. *kusъ*, якое можна разглядаць як *u/ǫ-* дублет да *kǫsъ* (гл. *кус*) (Брукнер, KZ, 42, 351; Слаўскі, SO, 18, 275—276). Параўн. *куца* (гл.).

**Кусамя́ка** 'добры, вялікі кавалак' (Янк. III). Структура слова не зусім празрыстая. Першая аснова да *кусаць* (гл.). Другая — да *мяккі* (гл.).

**Куса́нік** 'недаедзены маленькі кавалачак' (Мат. Гом., Яўс., Нар. сл., Шн., Жд. 3, Янк. Мат., Гарэц.). Да *кус* (гл.).

**Куса́ць** 'хапаць, раніць зубамі' (ТСБМ, Нас., Сл. паўн.-зах., ТС, Касп., Сержп. Пр., Яруш.). Укр. *кусати*, рус. *кусать* 'тс', балг. *късам*, серб.-харв. *ку́сати*, славен. *kósiti* 'тс', польск. *kąsać*, чэш. *kousati*, славац. *kúsat'*, в.-луж. *kusać*, н.-луж. *kusac* 'тс'. Прасл. *kǫsati* ўтворана ад *kǫsъ* (<**kǫdsъ*). Параўн. літ. *kąsti, kándu* 'кусаць', лат. *kuôst, kuôdu* 'тс'. Іншыя індаеўрапейскія паралелі менш надзейныя. У даным выпадку назіраецца страта першаснага дзеяслова (як гэта характэрна для славянскіх моў) і замена яго адыменным дзеясловам (Бернекер, 601; Траўтман, 116).

**Ку́сла** 'з'едлівая жанчына'. Параўн. літ. *kąslùs, kūslùs* 'куслівы' (Сл. паўн.-зах., 2, 588). Балтызм.

**Куслі́цы** 'клубніцы' (Сцяшк. Сл.). Кантамінацыя *кусліва* і *клубніцы*.

**Ку́сма́н** 'вялікі кавалак' (ТС, Шатал.). Да *кус* (гл.). Суфікс *-ман* (гл. Сцяцко, Афікс. наз., 54).

**Кусо́к**$_1$ 'частка чаго-небудзь' (ТСБМ, ТС, Сл. паўн.-зах., Бяльк., Сержп. Ск., Яруш.). Укр. *кусок*, рус. *кусок* 'тс'. Да *кус* (гл.). Наяўнасць серб.-харв. *ку́сак* 'тс' сведчыць аб прасл. *kǫsъkъ* (SP, 1, 93).

**Кусо́к**$_2$ 'шклянка' (Жд. 2). Да *кусок*$_1$ у сэнсе 'порцыя'.

**Куст**$_1$ 'нізкарослая травяністая расліна' (ТСБМ, Сл. паўн.-зах., ТС, Ян., Бяльк., Яруш., Сержп. Ск.). Укр. *кущ*, рус. *куст*, ст.-рус. *кустъ* 'тс'. Усходнеславянскае ўтварэнне слова суадносіцца нейкім чынам з літ. *kúokštas* 'куст'. Пра рэканструкцыю праславянскага і балта-славянскага слова гаварыць нельга (параўн. Фасмер, 2, 432).

**Куст**$_2$ 'жыллё, дом' (Ян.). Да *куст*$_1$ (гл.).

**Ку́ста** 'хуста' (Мат. Гом.). Гл. *хуста*.

**Кустары́** 'вялікія чатырохгранныя цвікі' (ТС). Да *костур* (гл.).



**Кустуро́вы** 'зроблены з крашанай шэрсці' (Грыг.). Відаць, ад **кунстаровы*∼**кунстар* (<с.-н.-ням. *kunster* 'мастак').

**Кусугло́бы** 'касавокі' (Бяльк.). Да *касаглобы*. Улічваючы балг. *глоб* 'вачніца' і макед. *глоб* 'тс', можна меркаваць аб старажытнай беларуска-балгара-македонскай ізалексе.

**Кусупле́тка** 'стужка' (Касп.). Да *касаплётка*. Гл. *косы* і *плясці*.

**Кусце́нь** 'гронка' (Сл. паўн.-зах.). Да *куст* (гл.). Аб *-ень*-суфіксацыі гл. Сцяцко, Афікс. наз., 152.

**Ку́ська** 'мінога рачная' (ТС). Першапачатковая форма *кузька* (гл.). Да *каза*$_5$ (гл.).

**Кусюга́н** 'вялікі кусок' (З нар. сл.). Да *кус* (гл.). Канглютынацыя экспрэсіўных суфіксаў: *юг-ан*. Гл. аб *-юг* Сцяцко, Афікс. наз., 177—178, аб *-ан* — там жа, 147.

**Кут** 'частка памяшкання, прастора паміж дзвюма сценамі' (ТСБМ, Нас., Шат., Сл. паўн.-зах., Касп., Ян., Крачк., Нік. Очерки, Яшк., П. С., Маш., Хар., Бяльк., Сцяшк., Шушк., Мядзв., Грыг.). Укр. *кут*, рус. *кут*, балг. *кът*, серб.-харв. *кŷт*, славен. *kọ̑t*, польск. *kąt*, чэш. *kout*, славац. *kùt*, в.-луж. *kut*, н.-луж. *kut* 'тс'. Прасл. *kǫtъ* 'вугал, закрытая прастора' генетычна суадносіцца з прасл. *kǫtati* (гл. *кутаць* і *хутаць*) 'закрываць, хаваць'. Параўн. серб.-харв. *кŷт, скŷт* 'крысо', чэш. *kout* 'полаг', серб.-харв. *скŷт* 'вантробы', бел. *кутыр* 'бруха', польск. *kątnica* 'сляпая кішка'. Генетычна суаднесеным з прасл. *kǫtъ* з'яўляецца ст.-прус. *pokūnst* 'закрываць, берагчы'. Магчыма, прасл. *kǫtъ* звязана са ст.-грэч. *κοντός* 'шэст' і прасл. *kǫtja* 'хаціна, шалаш'.

**Ку́тарма** 'галопам, хутка' (Жыв. сл.). Параўн. *куцерма* 'звада, шум, неразбярыха' (гл.). Рус. *кутерьма* 'сумятня, мітусня'. Значэнне прыслоўя ў беларускай мове звязана з пераходам у мадэль на *-ма* тыпу *дарма*. Паходжанне першаснага назоўніка няяснае. Відаць, запазычанне з цюркскіх моў, але непасрэдную крыніцу выявіць цяжка. Параўн. Фасмер, 2, 434.

**Кута́с** 'пучок нітак, звязаных разам на адным канцы, які служыць для ўпрыгожвання' (ТСБМ, Нас., Шат., Гарэц., Сл. паўн.-зах., ТС, Касп., Бяльк., Мядзв., Шпіл., Яруш., Сцяшк., Мат. АС, Грыг.). Укр. *кутас*, рус. *кутас*, польск. *kutas* 'тс'. Запазычана з тур. *kutas* 'аздабленне на галаве' (Бернекер, 1, 653).

**Ку́таці, ку́таць** 'мыць (пра бялізну)' (Сл. паўн.-зах., Шатал.). Цяжка семантычна суаднесці з *кутаць*$_1$ або *кутаць*$_2$ (параўн. Тапароў, K — L, 286—287). Больш верагодным, здаецца, лексічнае пранікненне з балтыйскіх моў: літ. *kutinė́ti* 'скрэбці'. Параўн. рус. *стирать* 'сціраць' і 'мыць'.

**Ку́таць**₁ 'укрываць' (Нас.). Да *кут* (гл.). Гл. *хутаць.*
**Ку́таць**₂ 'гарадзіць (плот)' (Сл. паўн.-зах., Мат. Гом., Ян., Шатал., Жыв. сл., Нар. сл.). Да *кут* (гл.) і *куча*₂ (гл.).
**Ку́тні зуб** 'карэнны зуб' (ТСБМ, ТС, Сл. паўн.-зах., Мат. Гом., Ян., Жыв. сл.). Да *кут* (гл.), *кутаць*₁ (гл.).
**Ку́тнік** 'батрак, парабак' (Сл. паўн.-зах., Сцяшк. Сл., Др.-Падб.), 'бабыль' (Гарэц.). Да *кут* (гл.).
**Ку́тніца**₁ 'прамая кішка' (Сл. паўн.-зах., Шатал., КЭС, лаг., Нар. лекс., Маш., Мядзв.). Да *кутыр* (гл.), *кутаць*₁ (гл.).
**Ку́тніца**₂ 'кіла' (З нар. сл.), 'похва ў каровы' (Янк. III). Да *кутніца*₁ (гл.).
**Кутня́** 'шум, разгул' (Нас., Гарэц., Др.-Падб.). Параўн. рус. *кутить* 'гуляць'. Заходнеславянскія адпаведнасці да рускага слова семантычна далёкія. У рус. літ. мову слова трапіла з паўн.-рус. гаворак. У XVIII ст. і адсюль распаўсюдзілася на сумежную тэрыторыю (гл. Вінаградаў, Этимология-1966, 116).
**Куто́к** 'сляпая кішка' (ТС, Сл. паўн.-зах.). Гл. *кутніца*₁.
**Куто́ра** 'вадзяная землярыйка' (ТСБМ). Да *кутаць*₁ (гл.). Словаўтварэнне *-ора* пад націскам нерэгулярнае.
**Куто́х** 'фіранка' (Мат. Гом.). Да *кутаць*₁. З пункту погляду семантыкі параўн. укр. *кутець,* рус. *кут, кутец,* польск. *kutnia, kutnica* 'сець'. Словаўтварэнне незразумелае. Магчыма *кутох*<*куток.*
**Куты́р** 'бруха' (Нас.). Гл. *кут.* Параўн. Фасмер, 2, 435.
**Куўсця́к** 'жмут сена' (Сл. паўн.-зах.). Параўн. *kúokštas* 'тс'. Бел. слова, відаць, змяніла сваю першасную форму пад уплывам *касцяк.*
**Ку́фа** 'бочка' (Касп., Грыг., Др.-Падб., Гарэц.). Ст.-бел. *куфа* 'тс' (з 1583 г.) (Булыка, Запазыч., 182). Запазычанне праз польск. *kufa* 'тс' з с.-в.-ням. *kuofe* 'тс' (Слаўскі, 3, 318).
**Куфа́йка** 'фуфайка' (Нас., Сл. паўн.-зах., Янк. Мат., Сцяшк., Мат. Маг., Жд. 3, Бяльк.). Гл. *фуфайка.*
**Ку́фар** 'скрыня' (Касп., Сцяц. Нар., Сцяшк., КЭС, лаг., Гарэц., Бяльк., Янк. Мат., В. В., Мядзв.). Запазычанне праз польскую мову з ням. *Koffer* (Слаўскі, 3, 320; Кюнэ, Poln., 70).
**Ку́фель** 'бакал для піва' (ТСБМ). Ст.-бел. *куфель, кухель* (з 1541 г.). Запазычанне праз польск. *kufel* з с.-в.-ням. *kuefel* (Булыка, Запазыч., 183).
**Ку́халь** 'невялікі кубак' (ТСБМ, ТС, Сл. паўн.-зах., Мат. Гом., Жд. 3, З нар. сл., Гарэц., Др.-Падб.). Гл. *куфель.*
**Ку́хан** 'невялікая булка, начыненая цыбуляй' (ТСБМ, Шат., Касп., Сл. паўн.-зах., Шпіл., Нар. сл., Нік. Очерки, Янк. I). Запазычанне з ням. *Kuchen* 'піражок'.



**Ку́хар** 'повар' (ТСБМ, Нас., ТС, Яруш., КЭС, лаг., Бяльк., Гарэц., Янк. I, Мядзв.). Запазычанне з польск. *kucharz* 'тс' (Кюнэ, Poln., 69).
**Кухма́р** 'крухмал' (Янк. I). Да *крухмал* (гл.). Відаць, пад уплывам *кухмарыцца.*
**Кухма́рыцца** 'гатаваць ежу ў кухні' (Сцяшк. Сл., Жыв. сл.). Да *кухмар*<*кухмістар* 'повар'.
**Ку́хня** 'памяшканне з печчу для гатавання ежы' (ТСБМ, Хар., Сцяшк., Яруш., Шушк.). Ст.-бел. *кухня* 'тс' (з 1498 г.). Запазычанне з польск. *kuchnia* 'тс' (Булыка, Запазыч., 183).
**Ку́хта**₁ 'прыслужнік, вучань повара' (Нас., Яруш.). Запазычанне з польск. *kuchta* 'тс' (гл. Слаўскі, 3, 307—308).
**Ку́хта**₂ 'прайдзісветка, асоба лёгкіх паводзін' (Нар. словатв.). Параўн. польск. *kuchta* ў значэнні 'служанка'. Відаць, беларускае слова ўзнікла пад семантычным уплывам польск. *kokota* 'асоба лёгкіх паводзін'.
**Ку́хта**₃ бядняк' (Рам.). Да *кухта*₂ (гл.).
**Кухта́ль** 'удар кулаком' (ТСБМ, Мат. Гом., Сцяшк., Бяльк., Сл. паўн.-зах., Янк. БП, Некр.). Балтызм. Параўн. літ. *káukštelėti* 'стукнуць, цюкнуць'. Арэал распаўсюджання лексемы — практычна ўся беларуская тэрыторыя. Час пранікнення вельмі старажытны (да падзення дыфтонгаў). Бел. *кухталь* можа разглядацца як вынік уздзеяння балтыйскага субстрату.
**Кухто́рыць** 'гатаваць, кухарыць' (ТС). Да *кухта*₁ (гл.).
**Ку́ца** 'цяжка, крута' (Нас.). Да *куса* (гл.). Гл. таксама *куцы.*
**Ку́ца-ба́ба** 'дзіцячая гульня, хованкі' (ТС). Відаць, да *куцаваць*₁ (гл.) 'тармасіць'.
**Куцабе́шка** 'кукса' (Яўс.). Да *куцобка*₂ (гл.). Суфіксацыя на *-ешка* (параўн. *трупешка, лапешка*) (Сцяцко, Афікс. наз., 153).
**Куцава́ць**₁ 'тармасіць' (Сцяшк. Сл.). Відаць, да **куксаваць, кукса* (гл.).
**Куцава́ць**₂ 'патрабаваць злучкі (пра авечку)' (Сцяшк.), параўн. рус. *куцан* 'непакладаны баран', якое цюрк. паходжання (тур. *koč* 'баран') (Фасмер, 2, 437).
**Куцала́пы** 'кароткарукі' (Нас.). Да *куцы* (гл.) і *лапа* (гл.).
**Куцалі́м** 'надта бедны гаспадар' (Нар. сл.). Словаўтварэнне рэалізавалася тут праз канглютынацыю суфіксаў *-аль* і *-ім. Куцы*>*куцаль* (як *доўгі*>*доўгаль*) (Сцяцко, Афікс. наз., 94)>**куцалімы* (як *радзімы*).
**Ку́цаць** 'доўга перажоўваць што-небудзь' (Сл. паўн.-зах.), 'пэцкаць, камячыць' (Нар. сл.). Гукапераймальнае тыпу *чвякаць, чмякаць.* Параўн. *коўчаць* (гл.) 'мяць, жаваць', *коўць* (гл.) 'глыток'.

**Куц-куц** 'выгук, якім падзываюць авечак' (Сл. паўн.-зах.). Адносіцца да вялікай і разнастайнай групы лексічных сродкаў падзыву. Параўн. *куцу-куцу* (гл.), ад іх утвараюцца экспрэсіўныя назвы свойскіх жывёл (ДАБМ, к. 304—307).

**Куцерма́, куцерэ́мка** 'звада, шум, неразбярыха' (ТС, Мат. Гом.). Параўн. *кутарма* (гл.).

**Ку́цік**$_1$ 'парсючок' (ТС). Утворана ад падзыўных слоў. Гл. *куцу-куцу*.

**Ку́цік**$_2$ 'абламаны нож' (ТС). Да *куцы*$_1$ (гл.).

**Ку́цік**$_3$ 'той, хто застаўся (прайграў) пры гульні ў скокі' (ТС). Параўн. *куца* (гл.).

**Куціня́цца** 'казытаць', параўн. літ. *kutinė́ti, kutḗnti* 'тс' (Сл. паўн.-зах., 2, 592), 'шчыпацца' (Сцяшк. Сл.). Балтызм.

**Куцо́бка**$_1$ 'кульба' (Мат. Гом.). Да *куцы* (гл.). Параўн. *куцобка*$_2$.

**Куцо́бка**$_2$ 'кукса' (Юрч.). Да *куцы* (гл.). Суфіксацыя на *-оба* (як *худы*>*худоба*) (Сцяцко, Афікс. наз., 119). Суфікс *-ка* з памяншальнай семантыкай.

**Куцо́бка**$_3$ 'куцы, нізкарослы' (Бяльк.). Да *куцобка*$_2$ (гл.). Гл. *куцы*.

**Куцу́біна** 'прэнт' (Касп.). Да *куцобка*$_1$ (гл.). Утворана ад *куцоба* пры дапамозе суфікса *-іна* (параўн. *дубіна*).

**Куцува́ць** 'знаходзіцца ў стане цечкі' (Сл. паўн.-зах.). Гл. *куцаваць*$_2$.

**Куцу́к**$_1$ 'камячок засохлага гною на поўсці жывёлы' (Сл. паўн.-зах.). Параўн. *куцаць* (гл.).

**Куцу́к**$_2$ 'касмыль' (Жыв. сл., З нар. сл.). Да *куцук*$_1$ (гл.).

**Ку́цу-ку́цу, куць-куць** 'выгукі, якімі падклікаюць свіней' (ТС, Сл. паўн.-зах., Нар. сл.). Укр. *куць-куць* 'падзыўныя для свінні', літ. *kuc-kuc* 'тс'.

**Куцу́льбіна** (экспр.) 'нос' (ТС). Пры дапамозе суфікса *-уль* утворана *куцуль* (ад *куцы*). Параўн. *насуль* (ад *нос*) (Сцяцко, Афікс. наз., 122). Далейшае словаўтварэнне па аналогіі з *куцубіна* (гл.).

**Куцучкі** 'падвей' (Сл. паўн.-зах.). Да *куцук*$_2$ (гл.). Параўн. сінанімічную назву падвею: *зайцы* (Кіс., 50).

**Куцця́** 'ўрачыстая вячэра напярэдадні каляд', 'традыцыйная абрадавая яда' (ТСБМ, Нас., Касп., ТС, Сл. паўн.-зах., Ян., Шатал., Яруш., Бяльк., Сержп. Пр., Шн., Мал., Сцяшк., Гарэц., Вешт., Федар., Маш.). Укр. *кутя*, рус. *кутья*, ст.-рус. *кутья*, ст.-слав. **коуцига** 'тс'. Запазычана са ст.-грэч. *κουκκία* 'бабы' (Фасмер, 2, 435).

**Ку́цы**$_1$ 'кароткі' (ТСБМ, Нас., ТС, Касп., Бяльк.). Укр. *куций*, рус. *куцый* 'тс'. Надзейнай этымалогіі няма. Экспрэсіўны варыянт да **кусы* (укр. *кусий* 'куцы', балг. *късъ*, серб.-харв. *ку̂с*, польск. *kęsy*, чэш. *kusý*, в.-луж. *kuši*, н.-луж. *kušy* 'тс') (Бернекер, 601; Міклашыч, 128). Гэта версія даволі надзейная, бо дапамагае зразумець абмежаванае распаўсюджанне *куцы* і тое, што *кусы* і *куцы* знаходзяцца, за выключэннем укр. *кусий*, у дадатковай дыстрыбуцыі.



**Ку́цы**$_2$ 'чорт' (Сержп. Грам.). Гл. *куцы*$_1$. Параўн. *куртаты*$_2$ (гл.).

**Куцю́к** 'страўнік, трыбух' (Сл. паўн.-зах.). Гл. *кічук*.

**Куцю́рыцца** 'натапырвацца, надзімацца' (Сл. паўн.-зах.). Кантамінацыя *чапурыцца* (гл.) 'надзімацца', *тапырыцца* (гл.) 'тс' і *куцы* (гл.).

**Куцяльга́** 'кульгавы чалавек' (Нар. лекс.). Да **куцель* (<*куцы*). Параўн. *крывель* 'тс'. Словаўтварэнне: **куц-ель-га*. Параўн. *пуст-ель-га* 'пусты чалавек' (Дабр.).

**Ку́ча**$_1$ 'вялікая колькасць прадметаў, наваленых у беспарадку' (ТСБМ, Сл. паўн.-зах., Ян., Сержп. Ск., Яруш., Бяльк.). Укр. *куча*, рус. *куча* 'тс', польск. *kuczki* 'кучкі', чэш. *kuče* 'куча'. Абмежаваны арэал распаўсюджання не дазваляе надзейна рэканструяваць праславянскую форму. Роднаснымі балтыйскімі формамі лічацца літ. *kaũkas* 'шышка', *kaukarà* 'ўзгорак'. Вельмі ненадзейна. Усё ж такі трэба разглядаць *куча* як інавацыю (усходнеславянскую?). Параўн. Сабалеўскі, ЖМНП, 1914, авг., 364, які лічыць, што *куча* паходзіць ад *kǫtja* (гл. *куча*$_2$).

**Ку́ча**$_2$ 'адгароджанае месца ў хляве, месца для жывёл' (Нар. лекс.). Гл. *кут*.

**Ку́чар** 'фурман' (Сл. паўн.-зах.). Параўн. рус. *кучер* 'тс' (Там жа, 2, 594; Бяльк.). Запазычана з рус. *кучер* 'тс', якое з ням. *Kutscher* (Шанскі, 2, 8, 463).

**Кучара́ўка** 'жоўтая вяргіня' (Ян.). Да *кучары* (гл.).

**Кучба́й** 'байка' (Нас., Др.-Падб., Гарэц.). Другая частка складанага слова да *байка* (гл.), *баёвік* (гл.). Першая, відаць, да *коц* (гл.).

**Ку́чары** 'кучаравыя або завітыя валасы' (ТСБМ, ТС). Укр. *кучери*, рус. *кучери* 'тс'. Параўн. чэш. *kučera*, славац. *kučera* 'кудзер'. Супастаўленне з *кука* (гл.) і лат. *kauka* 'чуб' непераканаўчае (параўн. Бернекер, 637; Траўтман, 121).

**Ку́чка**$_1$ 'загарадка для курэй, качак' (ТС, Нар. лекс., Дразд.), 'катух' (Сл. паўн.-зах.). Гл. *кучка*$_2$.

**Ку́чка**$_2$ 'невялікая хата' (ТС). Гл. *куча*$_2$.

**Ку́чка**$_3$ 'падпечак' (Мат. Гом., Шатал., Шушк.). Да *кучка*$_2$ (гл.).

**Ку́чка**$_4$ 'малая ўкладка снапоў' (Зн. дыс., ДАБМ). Да *куча*$_1$ (гл.).

**Ку́чма**$_1$, *кучо́мка* 'шапка футрам наверх' (ТСБМ, Нас.,

ТС, Бяльк., Маш., Сержп. Грам., Нар. лекс., Малч., Мат. АС). Ст.-бел. *кучма* 'тс' (з 1590 г.) памылкова разглядаецца як запазычанне праз польскую з венгерскай. Гл. Булыка, Запазыч., 183 услед за Фасмерам (2, 438). Укр. *кучма*, рус. *кучма* 'тс', серб.-харв. *ку̏чма*, славен. *kȗčma* 'тс', польск. *kuczma*, славац. *kučma* 'тс'. Кіш (ЭИРЯ, 4, 56) звязвае гэта слова з серб.-харв. *ку̏кма* 'чуб, хахол', славен. *kȗkma* 'тс', параўн. *кучма*$_2$ (гл.). Прасл. *kučьma*<*kuka* (параўн. *кучары*). Словаўтварэнне, як у *vědьma* (SP, 11, 16).

**Ку́чма**$_2$ 'пра густыя валасы, пра густую зелень' (ТСБМ, Нас., Сл. паўн.-зах., Гарэц., Некр., Янк. III, Сцяшк.). У гэтым значэнні: укр. *кучма*, рус. *кучма*, славен. *kȗčma*, польск. *kuczma*. Да *кучма*$_1$ (гл.).

**Кучу́к**$_1$ 'страўнік' (Сл. паўн.-зах.). Параўн. *куцюк* (гл.).

**Кучу́к**$_2$ 'качаня' (Сцяшк.). Да *качук* (гл. *качка*).

**Кучу́к**$_3$ 'сярэдняя частка невада' (Тарн., Studia). Да **куцюк* (<**кут-юк*). Параўн. укр. *кутець* 'частка венцера, сеці', рус. *кутец* 'тс'.

**Кучугу́р'е** 'вялікія шырокія купіны' (ТС). Параўн. рус. *кочура* 'купіна', *кочка* 'тс' ад *kъčь* як аблаўтнага варыянта да *куча* (гл.). Зыходная форма **качур'е*. Форма *кучугур'е* пад уплывам рада слоў на *-гор'е* (*нагор'е, пласкагор'е* і г. д.).

**Кучу́р** 'цурбан, кругляк дроў' (Сл. паўн.-зах.). Да **качур*. Параўн. *кокат* (гл.) 'тоўсты сук'. Словаўтварэнне пры дапамозе суфікса *-ур/-юр*: **качур*<**кок-j-urь* (Сцяцко, Афікс. наз., 174).

**Кучэ́рка** 'хата (малая)' (Мат. Гом.). Да *куча*$_2$ (гл.), *кучка*$_2$ (гл.). Утворана праз *-эр*-суфіксацыю (*куч-эр*) з памяншальным суфіксам *-ка*.

**Куш** 'стаўка ў гульні' (ад франц. *couche* 'тс' — ТСБМ, 2, 765). Запазычана з французскай мовы праз рускую (Шанскі, 2, 8, 463).

**Куша́к** 'пояс, дзяга'. Параўн. рус. *кушак* (Сл. паўн.-зах., 2, 595; Бяльк.). Укр. *кушак*, рус. *кушак*, ст.-рус. *кушакъ*. Запазычанне з тур. *kušak* 'тс' (Фасмер, 2, 439).

**Ку́шаць** 'есці' (Сл. паўн.-зах., Бяльк., Гарэц.). Укр. *кушати*, рус. *кушать* 'тс', серб.-харв. *ку̏шати* 'каштаваць', славен. *kȗšati* 'тс'. Разарваны арэал распаўсюджання сведчыць аб праславянскім характары гэтага слова. Прасл. *kusiti*<гоц. *kausjan* (аблаўтная форма *kiusan* 'каштаваць') (Мартынаў, Лекс. взаим., 71—72).

**Ку́шачка** 'гняздзечка' (Яруш., Янк. БП). Да *кучачка*. Гл. *кучка*$_1$. Магчыма, пад уплывам *птушачка*.

**Ку́шла** 'неахайны'. Параўн. літ. *kùšlas* 'хто аброслы валасамі' (Сл. паўн.-зах., 2, 595). Балтызм.



**Ку́шлы** 'няздатны, хворы, слабы', 'блізарукі, сляпы'. Параўн. літ. *kùšlas* 'тс' (Сл. паўн.-зах., 2, 595—596). Балтызм.

**Кушлякі́** 'пушок, які аддзяляецца ў працэсе ткання' (Влад.). Першапачаткова **кашлякі*. Да *кашлаты* (гл.).

**Кушма́к** 'лабок' (Сл. паўн.-зах.). Параўн. літ. *kūšmakas* 'палавыя органы жанчыны' (Там жа, 2, 596). Балтызм.

**Кушма́рыцца** 'балавацца з агнём', 'важдацца' (Нар. сл.). Гл. *кушмерыць*.

**Кушме́рыць** 'горача напальваць печ' (Нар. словатв.). Параўн. *кухмарыць* (гл.).

**Ку́шнер** 'рамеснік, які вырабляе шкуры на футра і шые з футра' (ТСБМ, Нас., Сл. паўн.-зах., КЭС, лаг., Грыг., Гарэц.). Ст.-бел. *кушнеръ* 'кушнер' (з 1486 г.) — запазычанне праз польск. *kusznierz* 'кушнер' з с.-в.-ням. *kürsenaere* 'тс' (Булыка, Запазыч., 183; параўн. Слаўскі, 3, 437—438).

**Кушне́рка** 'мехавая шапка' (Шат., Сцяшк. Сл., Нар. сл.). Да *кушнер* (гл.).

**Кušо́т** 'сівец, Nardus L.' (Сл. паўн.-зах.). Параўн. літ. *kešetỹs* 'трава, падобная на хвошч' (Сл. паўн.-зах., 2, 596; Шатал.), параўн. літ. *kùšažole, kūšgemriai* 'шорсткая трава, якая расце каля балота', *kùšenos* 'рэшткі саломы або сена' (Весці, 1969, 4, 125). Балтызм.

**Ку́шпель** 'чалавек невялікага росту' (Цыхун). Параўн. польск. *kuszpiel* 'маленькі пожык'<літ. *kùšpielis* 'тс' (Лаўчутэ, Балтизмы, 73—74).

**Ку́штаць** (*яйцы*) 'стукаць аб зубы, правяраючы чыё яйцо мацнейшае' (Сержп. Пр., З нар. сл., Нар. словатв., Янк. I). Няясна.

**Кушы́н** 'гліняная пасудзіна з ручкай для малака, збанок' (З нар. сл., Жд. 2., Юрч.). Укр. *кувшин*, рус. *кувшин* 'тс'. Запазычанне з балтыйскіх моў. Непасрэдная крыніца не засведчана, але **kaušinas*<*kaušas* (літ. *káušas* 'коўш'). Параўн. *коўш* (гл.) (Лаўчутэ, Балтизмы, 39).

**Кушы́нкі** 'гарлачык жоўты, Nuphar luteum L.' (Кіс.). Да *кушын* (гл.). Параўн. семантыку *гарлачык*.

**Кушы́цы** 'два кії, на якія чаплялі ніт' (Нар. лекс.). Відаць, да *кашыцы*. Гл. *кош*.

**Кушэ́тка** 'невялікая канапа з узгалоўем, але без спінкі' (франц. *couchette*) (ТСБМ, Сцяшк.). Запазычанне праз рус. *кушетка* 'тс' з франц. мовы (Шанскі, 2, 8, 464).

**Куя́** 'злосная жанчына' (ТС). Параўн. *краяцца* (гл.) 'здзекавацца'.

**Куя́я** 'хованкі' (ТС). Да *хаваць* (гл.) з нерэгулярным пераходам *х*>*к*.

**Кшталт** 'манера' (Нас., Яруш., Мядзв., Гарб.), 'падабенства, форма' (Гарб.), ст.-бел. *кшталтъ* 'форма'. Праз польск. *kształt* 'форма' з с.-в.-ням. *gestalt* 'тс' (Булыка, Запазыч., 183—184; Слаўскі, 2, 280—281).

**Кшэ́сла** 'частка воза з ручкамі, да якіх прымацоўваецца драбіна', параўн. польск. *krzesło* 'стул' і літ. *krẽslas* 'папярочка ў возе' (Сл. паўн.-зах., 2, 596). Балтызм з фанетыкай пад польскім уплывам.

**Кы́бка** 'ямка ў печы' (Шушк.). Гл. *кебка*.

**Кызь** 'выкрык, якім адганяюць або падзываюць коз' (Нас., Нар. лекс.). Кантамінацыя *кыш* (гл.) і *каза*$_1$ (гл.). Ва ўсякім разе гэты выкрык звязваецца з назвай казы. Параўн. *кызька* (гл.), *кызя* (гл.).

**Кы́зька** 'козка' (Нас.). Гл. *кызь*.

**Кы́зя** 'казяўка' (Нас.). Гл. *кызь* і *казяўка*.

**Кы́пацьь** 'кіпцюр' (Нас.). Гл. *кіпець*.

**Кырк** 'выкрык квактухі' (Нас.). Гукапераймальнае.

**Кы́ць-кыць**$_1$ 'ціп-ціп (да курэй)' (Сл. паўн.-зах.). Падзыванне для курэй тэрытарыяльна вельмі абмежаванае (параўн. ДАБМ, 307).

**Кыць-кыць**$_2$ 'падзыванне для катоў' (З нар. сл., Нар. лекс., Дразд.). Гл. *кіці-кіці*.

**Кы́ча-кы́ча** 'воклік, якім адганяюць авечак' (Нар. лекс.). Параўн. чэш. *kyč-kyč* (так адганяюць коз). Аб генетычнай сувязі такіх воклічаў гаварыць немагчыма.

**Кы́чма** 'бязрогая або з кароткімі рагамі карова' (Клім.). Да **кык-ьма*<прасл. *kyka*. Параўн. чэш. *kikatý* 'тупы'. Гл. *кіч*.

**Кыш** 'выкрык, якім адганяюць курэй, птушак' (ТСБМ, ТС, Бяльк., З нар. сл., Нік. Очерки, Чуд.). Укр. *киш*, рус. *кыш* 'тс', балг. *къш-къш* 'тс'. Наяўнасць балг. адпаведніка не сведчыць аб прасл. характары выкрыку (гл. Слаўскі, 3, 502).

**Кышпало́ць** 'перапёлка' (Нар. лекс.). Другая аснова гэтага складанага слова, відаць, аднаго паходжання з *перапёл* (<**pelpelъ*). Першая да *кыш* (гл.)?

**Кэ́бка** 'прымурак' (Сл. паўн.-зах.), 'ямка ў печы' (Шатал.). Гл. *кебка, кыбка*.

**Кэ́льза** 'цуглі' (Жыв. сл.). Гл. *кілзаць*.

**Кэпка** 'пячурка, невялікая ніша ў печы' (Жыв. сл.). Гл. *кэбка*.

**Кэ́рпацца** 'варушыцца' (Шат.). Гл. *корпацца*.

**Кэ́ця** 'размазня' (Клім.). Да **квэця* ад *квэцаць* (гл.) 'размазваць'. Параўн. *кецала* (гл.).

**Кэ́шка** 'вельмі стары падасінавік' (Жыв. сл.). Да *кеча* (гл.)? *Кэшка*<**кечка*.



**Кя́блы** 'вялы, стары, друзлы'. Параўн. літ. *kẽblas* 'слабы, хілы' (Сл. паўн.-зах., 2, 597). Балтызм.

**Кялбу́ш** 'няўклюда', параўн. літ. *kébla, keblùšius* 'хто нехлямяжы, нязграбны, няспрытны' (Сл. паўн.-зах., 2, 597). Балтызм.

**Кяло́йша** 'калоша', 'хто неахайны' (Сл. паўн.-зах.). Параўн. літ. *keleĩšė* 'тс', *kelỹs* 'калена' (Там жа, 2, 597). Балтызм.

**Кялтуя́** 'цапільна' (Сл. паўн.-зах.). Параўн. літ. *keltojà* 'тс' (Сл. паўн.-зах., ДАБМ). Запазычанне з літ. мовы (Урбуціс, Baltistica, 1969, V (1), 61; Смулкова, Лекс. балтызмы, 41; Лаўчугэ, Балтизмы, 67).

**Кянь** 'праём у сцяне' (Сл. паўн.-зах.). Няясна. Фанетычная структура слова сведчыць на карысць новага запазычання.

**Кярш** 'мянушка вала' (Сл. паўн.-зах.). Параўн. літ. *kéršas* 'рабы' (Там жа). Балтызм.

**Кяту́рка** 'клін, які ўшываецца паміж калашын штаноў, шырынка' (Сл. паўн.-зах.). Параўн. літ. *ketùrka* 'шырынка' (Там жа, 2, 598), 'прарэх (у штанах)' (Шатал.). Балтызм.

**Кя́ўкаць** 'мяўкаць' (Сл. паўн.-зах.). Параўн. літ. *kiáukčioti* 'гучна крычаць, тонкім голасам крычаць' (Там жа, 2, 598), 'мяўкаць' (Нар. лекс.). Балтызм пад уплывам *мяўкаць*.

# Л

**Лабавік** 'франтон' (сен., ДАБМ, КТС), утворана ад *лабавы́* і суф. *-ік*. Да *лоб$_2$* (гл.).

**Лабаві́на**, *лыбаві́на* 'вялікі пагорак' (Яўс., Юрч., Вытв. сл.), 'верхняя частка ўзгорка' (КТС, І. Навуменка), рус. *лобовина* 'верх ілба; выпукласць; круглявае ўзвышша'. Да *лоб$_1$* (гл.). Утворана пры дапамозе экспрэсіўнага аўгментатыўнага суф. *-іна*.

***Лабаво́з,** *лыбаво́з* 'працавіты чалавек' (Яўс.). Да *лоб$_{1, 3}$* (гл.), 'пярэдняя частка чаго-небудзь' і *везці* (гл.), 'быць спераду', 'дзякуючы добрай, стараннай працы быць наперадзе'. Адсюль дзеясловы *лыбавозіцца, лыбавозіць* 'шчыра працаваць, завіхацца на працы' (Яўс.). Параўн. яшчэ рус. *лобовой* 'у першай чарзе, у першым радзе сярод рэкрутаў'.

**Лабагрэ́йка** 'жняярка з ручным скідваннем' (КТС, БРС). Да *лоб$_1$* і *грэць* — з рус. *лобогре́йка / чубогре́йка* (Даль). Параўн. таксама ўкр. *лобогрі́йка* 'тс'.

**Лабада́**, *лабадоўнік, лабоднік* 'Atriplea' (КЭС). Да *лебяда́* (гл.).

**Лаба́з** 'яма, склеп для агародніны' (Сцяшк.), 'памяшканне, прызначанае для продажу або захоўвання зерня, мукі', 'склад розных тавараў' (БРС, КТС). Запазычана з рус. мовы, дзе *лаба́з, лоба́з, лабо́з, ла́вас* 'свіран для мукі; навес, пуня, мякіннік', 'стажар'е на палях пад скірту, стог', 'намост на дрэве' і інш.<комі *lobos* 'будан', вянг. *lomb* 'лісце, галіна' (Каліма, FUF, 18, 30).

**Лаба́за** 'вялікі дом' (Мат. Гом.), узнікла ў выніку пераносу значэння паводле падабенства з *ла́ба́з* 'свіран, склад' і інш. Параўн. аналагічнае драг. *хата бы клуня* 'вялізная хата'.

**Лабаза́**, *лабуза́* 'сцяблы буйной травы' (З нар. сл.), 'жорсткае сена або розная трава, пустазелле' (слуц., БНТ, Лег. і пад.), 'благое сена з асакі' (КЭС, лаг.), палац. 'балотнае асакаватае сена' (Нар. лекс.), *лъбъза́* 'нізкаякаснае сена з грубай, тоўстай травы' (Нар. сл.), 'галіны' (Сцяшк., Сл.). Укр. *ла́баз* 'бадзяк клейкі, Cirsium erisithales L.', *лаба́зник* 'спірэя, Spirea ulmaria L.', *лабу́з* 'пустазелле; лісты, якія пакрываюць качаны кукурузы', *лабузі́ння* 'сцяблы, пустазелле', *лобузі́ння* 'расліны, якія застаюцца ад летняй гародніны'; рус. арханг. *лабаза́* 'боцікі, Aconitum lycoctonum Jacq.', 'трава з белай вяршынкай', *лабазни́к* 'спірэя', польск. *łobozg* 'пустазелле', *łoboź, łabuz* 'сцяблы, кусты; вадзяныя расліны, чарот, сітняк, рагоз', *labas* 'пустазелле', серб.-харв. *лабу̏дина* 'кукурузная салома; абадраны з катаха кукурузны ліст', 'вехцік з ліпы, канапель' (*lòbud* 'даўбешка, доўбня, клін', 'лісты кукурузы'<тур. *lobut*). Прасл. *lobozъ* генетычна роднаснае са ст.-інд. вед. *libujā* 'чарот, ліяна', палі *labuja-* 'тс' ст.-грэч. λάβυξος, нейкая духмяная расліна' (Петэрсан, KZ, 46, 146—150; Бернекер, 1, 726; Фасмер, 2, 443). Супраць Слаўскі (5, 129); Фрыск (2, 67).



**Лабазава́ты** 'цвёрдае валакно лёну ці пянькі, падобнае на сена з лабазы' (КЭС, лаг.). Да *лабаза́* (гл.).

**Лабазі́на**, *лыбазі́на* 'дубец' (З нар. сл.), рус. *лабазина* 'дубец, кій'. Гл. таксама і *хлабазіна*. Да *лабаза́* (гл.).

**Лаба́знік** ***вяза́лісты*** 'вятроўнік вязалісты, Filipendula ulmaria (L.) Maxim.' (Ляк.). З рус. *лабазник* 'тс'. Відавочна, звязана з *лабаза́* (гл.).

**Лабайда́** 'гаваркі, балбатлівы чалавек' (брэсц., Нар. лекс.). Не зусім яснае слова. Укр. *лебеді́ти, ла́бдати* 'балбатаць, малоць', польск. *labiedzić* 'наракаць', паўдн. *labodzić, lebodzieć* 'тс', 'лямантаваць', славен. *labôtati* 'малоць, плявузгаць'. Гукапераймальнае або экспрэсіўнае ўтварэнне, якое Слаўскі (4, 15) і Бязлай (2, 118) адносяць да і.-е. асновы **lab-* / **labh-* / **leb-* (Покарны, 1, 651, 655). Не выключана генетычная сувязь з літ. *lebė́ida* 'гультай, соня', 'гуляка' (Атрэмбскі, Gram. 2, 270).

**Лаба́к$_1$** 'закот; трохвугольны схіл страхі над папярочнай сцяной' (Нар. сл., светлаг., ДАБМ, к. 230). Рэгіянальнае ўтварэнне ад *лоб$_3$* (гл.) і суф. *-ак*<*-akъ* (Сцяцко, Афікс. наз., 146). Гл. таксама *лабя́к$_1$*.

**Лаба́к$_2$** 'пярэдняе вясло' (Мат. Гом.). Да *лоб$_1$* (гл.). Матывацыя: 'тое, што наперадзе', параўн. *лабавое шкло*. Аналагічна ў іншых мовах, напр.: вепс. *peramela* (ад *pera* 'задні, дальні; карма, задок' і *mela* 'вясло').

**Лаба́н$_1$** 'самая вялікая кефаль, Mugil cephalus' (ТСБМ), рус. *лобан* 'тс'<*лоб* 'галава', перм. *лобан* 'рыба язь', укр. *лобань* 'з вялікім ілбом'. З рус., відавочна, паходзіць і польск. *łoban* 'кефаль'. Параўн. славац. *lebeň (a)* 'галава' (экспр.), аналагічнае беларускай лексеме паводле ўтварэння.

**Лаба́н$_2$** 'карова без рагоў' (Нар. словатв., Сцяшк. Сл.; віл., Сл. паўн.-зах.). Адпрыметнікавае ўтварэнне з дырыватам *-ан*, з экспрэсіяй зніжанасці (Сцяцко, Афікс. наз., 94; Ляшчынская, Весці АН БССР, 1972, 1, 87). Да *лоб$_1$* (гл.).

**Лаба́нда́** 'варэнне з чарнікі з невялікім дадаваннем мукі' (Вешт.) — у выніку перастаноўкі складоў ад *баланда́* (гл.).

**Лабане́ць** 'сваволіць, балавацца' (Сцяшк.). Балтызм. Параўн. літ. *lebénti* 'віляць', якое з'яўляецца семантычна тоесным да літ. *vizgìnti*; ад апошняга прыметнік *vizgùs* 'жвавы, свавольны'.

**Лаба́нька** 'карова без рагоў' (З нар. сл.), рэгіянальнае ўтварэнне з памяншальна-ласкальным суф. *-анька*. Да *лаба́н*$_2$ (гл.).

***Ла́бар**, *ла́бор* 'чалавек, які ходзіць па вёсках і мястэчках і збірае ахвяраванні на царкву' (Гарад.). Усечаная форма з грэч. τό λαββώνιον або λαββώνιος 'чашка, келіх' — першапачаткова, відаць, збіралі ахвяраванні ў чашу. Магчыма, лексема звязана з грэч. λαβή 'атрыманне'; суфікс яна атрымала пад уплывам усх.-слав. *лобур / лобырь*, параўн. укр. *ло́бур, лобури́сько, ло́бурка, лобуря́ка* 'тс', 'гультаяваты, бяздзейны чалавек', а таксама ўкр. харк. *лобурь*, рус. кур. *лобу́р* 'нязграбны, хмурны чалавек, які глядзіць з-пад ілба, буркун', *лобы́рь* '(дакорліва) мажны чалавек'. Апошнія, аднак, да *лоб*$_1$ (гл.).

***Лабарда́**, *лъбърда́* 'страва з рознага збору' (Нар. лекс.). З *лаба́нда* (гл.) пад уплывам *бурда́*$_1$ (гл.).

**Лаба́с** 'стажар'е з пад'ёмнай стрэшкай на чатырох слупках' (Нар. сл.), 'куча' (Сл. паўн.-зах.). Да *лаба́з* (гл.).

**Лаба́сіна** 'лоб' (Нар. лекс.), да *лоб*$_1$. Утворана пры дапамозе экспрэсіўнага суф. *-ас* (параўн. Сцяцко, Афікс. наз., 195), пашыранага *-ін-а*. Параўн. укр. *лобас* 'з вялікім ілбом'.

**Лаба́так**, *лаба́тнік* 'гіяцынт, Hyacinthus' (КЭС) ад *лабаты*<*лоб*$_1$ (гл.). Параўн. аналагічнае польск. *łbica* 'расліна Cyrtanthera, цыртантэра'.

**Лаба́тка** 'бязрогая карова' (Нар. сл., Сл. паўн.-зах., Мат. Маг.). Рэгіянальнае ўтварэнне ад прым. *лабат-ая* і суф. *к-а* (Сцяцко, Афікс. наз., 113). Параўн. таксама рус. пск. *лоба́тик* 'лабастая скаціна'.

**Лабатра́с** 'вісус, абібок, гультай' (КТС), *лабатрос* 'тс' (Касп., Нар. сл.), *лабатрэс* 'тс' (Мядзв.). З рус. *лоботряс* 'тс'.

**Лаба́ты** 'лабасты, чалавек з вялікім ілбом' (ТСБМ, Нас., Янк. Мат., Мат. Гом., Гарэц., Шат.); 'бязрогі (аб карове)', 'жывёла, якая мае знак на лбе' (Янк. Мат., Нас., Нас. Зб., Мат. Гом., Сл. паўн.-зах., КЭС, лаг.), укр. *лобатий*, рус. *лобатый*. Значэнне 'бязрогі' ў лексемы *лабаты* сустракаецца ў суседніх жытом., пск. і ёнаўск. гаворках. Прыметнік, утвораны ад *лоб*$_1$ і ацэначнага суф. *-аты*, для якога Карскі (2—3, 44) вылучае значэнне 'вялікая колькасць якасці'. Такельскі (ABSL, 13, 69) сцвярджае, што польск. *łobaty* 'вялікі' (ля Вільні) з'яўляецца літуанізмам, якому адпавядае літ. *láibas* 'вялікі, моцны'.



**Лаба́ха**, *лоба́ха* 'лабастая істота' (ТС). Да *лоб*$_1$ (гл.).

**Лаба́ціна** 'выпукласць ілба' (КЭС, лаг., КСТ), *лъба́ціна* 'высокі, вялікі лоб', 'лоб чалавека, жывёлы' (ТСБМ, Сл. паўн.-зах.), утворана ад прым. *лабаты* і суф. *-ін-а* (Сцяцко, Афікс. наз., 107).

**Лаба́ч** 'чалавек з вялікім ілбом' (БРС), *лоба́ч* 'здаравяка' (ТС), 'кукса; карова без рог' (Сцяшк.) суадносіцца з прым. *лабаты* (гл.). У выніку пераносу значэння паводле падабенства палес. *лаба́ч* 'невялікі шчупачок' (Крыв.) утворана пры дапамозе суф. *-ач*, які ўказвае на характэрную знешнюю прыкмету (Сцяцко, Афікс. наз., 95).

**Лаба́шка**, *лыба́шка* 'бязрогая карова' (Шатал.), рэгіянальнае ўтварэнне ад **лабаха*. Параўн. *лабу́ша* і *лаба́н*$_2$ (гл.).

***Лабе́й**, *лобе́й* 'лабасты чалавек' (ТС). Да *лоб*$_1$. Аб суфіксе *-ей* гл. Сцяцко (Афікс. наз., 151).

**Лабжэ́нне** 'цалаванне' (Нас.), ст.-бел. *лобызати* (XVII ст.), ст.-слав. **лобъзати, лобызати** 'любіць, адносіцца па-сяброўску, цалаваць' (параўн. яшчэ рус. *ла́бзить* 'падлізвацца, ліслівіць', *ла́бза* 'ліслівец', укр. *ла́бза, лабзю́к* 'жабрак', чэш. *labužiti* 'ласавацца'), якое з'яўляецца роднасным да лац. *lambō, -ere* 'лізаць', ст.-в.-ням. *laffen* 'тс'<і.-е. **lāb-* (**labh/lap(h)* 'сёрбаць, хлябтаць', ст.-англ. *lapian* 'піць, хлябтаць' (Бернекер, 1, 726; Мее, MSL, 16, 242; Фасмер, 2, 508). Анаматапеічнае (Скок, 2, 312). Суф. *-ъz-/-yz-* мае экспрэсіўны характар (Махэк$_2$, 316), што выклікала шырыню семантыкі. На беларускай тэрыторыі адбыўся пераход *з*>*ж* (гл. Карскі, 1, 358).

**Лабзава́ць** 'есці (слівы, яблыкі)'. У выразе: ...*лабзуе, аж лёскат ідзе*... (любан., Нар. словатв.) генетычна звязана з літ. *lapsėti* 'прагна есці, жэрці'.

**Лабзе́нь** 'хлопец з вялікім ілбом' (Нас.). Сюды ж формы з перастаноўкай: *лазбень* 'тс' (Жд. 2, Нас., Бяльк.), 'поўны, здаровы чалавек' (Бяльк.). Метатэза адбылася, відаць, паводле асацыяцыі з дзеясловам *лазіць* і наз. *лоб* ('лазіць усюды'>'свавольнічаць' 'выдумляць'>'быць разумнікам'). Параўн. таксама смал. *лабзень, лазбень* 'лоб'.

**Лабіду́да** 'гультай, бяздзейнік, лодар' (КЭС, лаг., КТС), 'абібок, няўклюда' (Мат. Гом.) — складанае экспрэсіўнае слова, утворанае ад *лоб*$_1$ (гл.) і *дуда́*.

**Лабі́на** 'гультай, здаравяка' (Яўс.), да *лоб*$_1$ (гл.). Утворана пры дапамозе экспрэсіўна-павелічальнага суф. *-іна*, як і рус. *лбина* 'тс'.

**Лабі́рынт** 'палац з мноствам пакояў і заблытаных хадоў', 'што-небудзь складанае, заблытанае' (ТСБМ). Ст.-бел. *ляби-*

*ринтъ* (XVII ст.) 'тс' запазычана са ст.-польск. *labirynt*<лац. *labyrinthus*<ст.-грэч. λαβύρινθος 'тс' (Слаўскі, 4, 15—16; Булыка, Лекс. зап., 99).

**Лабоддзя** 'буйныя сцяблы раслін' (З нар. сл.). Гродз. *лабудзе* 'ламачча, кавалкі сцяблоў, трэскі' (Сл. паўн.-зах.). Польск. гарволінск. *łobydzie* 'націна бульбы', серб.-харв. *лабу̏дина* 'кукурузная салома; абадраны з катаха кукурузны ліст'. Да *лабу́ззе* (гл.). Канец слова (*-д-*) аформлены пад уплывам *лебяда*.

**Лабок**$_1$ 'падстрэшак' (Сцяшк., Мат. Гом.), пруж., лельч. 'закот', зах.-палес. *лобо́к* 'саламяная вальма' (Нар. сл.), *лабок* 'франтон' (Мат. Маг.). Рус. калін. *лобок* 'франтон хаты'. Бел.-рус. інавацыя (Бел.-рус. ізал., 64). Да *лоб*$_2$ (гл.).

**Лабонь-лабонь-лабонь** 'падзыўное для авечак' (ДАБМ, 896). Скарочанае ад *лабоня* 'лабатая, бязрогая' (Нік. Сл., Сл. паўн.-зах.), утворанага пры дапамозе суф. *-он-я*, прадуктыўнага ў гаворках (Сцяцко, Афікс. наз., 120).

**Лабруска** 'дзікі вінаград, Vitis labruska' (ст.-бел. з XVII ст.). Запазычана (магчыма, праз польскую мову) з лац. *lābrūsca* (Булыка, БЛ, 9, 30).

**Лабрэт** 'здаравяка' (Юрч.), зах.-бран. 'дужы, рослы, моцна разгультаены мужчына'. Відавочна, у выніку кантамінацыі пераноснага *лоб* 'гультай' і *брытан* (гл.) 'чалавек моцнага складу', 'таўсцяк' (~ бялын. *брысь* 'здаравяка-лайдак').

**Лабу́да** 'негаспадарлівы чалавек, гультай' (КТС, С. Гаўрусёў), рус. *лабути́на*, маск. *лабуда́* 'ні да чаго не здатны', 'знішчанае адзенне, лахманы', *лабу́та* 'някемлівы, няспрытны', калуж. *лобуда́* 'задзіра', 'шпана', польск. *labuda* 'расцяпа, павольны чалавек', чэш. мар. *loboda* 'бадзяга'. Сюды ж і славац. *lebedit' si* 'адпачываць, атрымліваць асалоду, быць у бяздзейнасці'. Балтызм. Параўн. літ. *lebẽdýti* 'псаваць, дрэнна рабіць', *lẽbeda, lebedà* 'неахайны, мямля, размазня, расцяпа, непаваротлівы', лат. *lebeze* 'неахайны'. Гл. таксама Слаўскі, 4, 15, 401.

**Лабудзіць** 'гаварыць глупства, блюзніць' (даўг., Сл. паўн.-зах.), рус. *лабуди́ть* 'шмат гаварыць, нічога не рабіць', *лобуди́ться* 'задзірацца, скандаліць'. Да *лабу́да* (гл.).

**Ла́будзь,** *ла́буць* 'лебедзь, Cygnus musicus' (КЭС, Др.-Падб.). Магчыма, архаізм: параўн. чэш. *labut'*, серб.-харв. *ла̏буд*. Да *ле́бедзь* (гл.).

**Лабузава́ты** 'распусны (пра дзіця)' (ашм., Сл. паўн.-зах.). З польск. *łobuzowaty* 'тс'. Да *лобус* (гл.).

**Лабу́ззе** 'сухія сцяблы маку' (в.-дзв., Шатал.), драг., стол. 'сцяблы і лісце агуркоў' (ДАБМ), *лабузьё* 'сцябло маку з лісцямі' (Жд. 1), міёр. *лъбазьзё* 'грубая, тоўстая трава' (Нар. сл.), дзярж. *лабу́зе* 'сена нізкай якасці' (Бел. дыял. хрэст.), палес. *лабузяк* 'сцябло і лісце агуркоў', стол. *лабу́знік* 'тс' (ДАБМ). Укр. *хобу́зє* 'вялікі бур'ян, ламачча' (пры *хобу́з*/ /*лобу́з* 'бур'ян'), вял.-польск. куяўск. *łabuzie* 'пухоўка, Typha L.', *łabęzie, łamuzie* 'аер, Acorus L.', ст.-польск. *łobozie* 'націна', варшаўск. *łobydzie* 'націна бульбы'. Прасл. *lobuzьje*/ /*labuzьje* (Слаўскі, 5, 129). Да *лабаза́* (гл.).



**Лабу́к**$_1$ 'карова без рагоў' (віл., швянч., Сл. паўн.-зах.). Да *лоб*$_1$ (гл.). Аб суфіксе *-ук* гл. Сцяцко (Афікс. наз., 178). Параўн. таксама *лаба́н*$_2$.

**Лабу́к**$_2$ 'страха над ганкам' (віл., Сл. паўн.-зах.). З *клабук* 'шапка, капялюш, брыль' (ужо ст.-бел. *клобукъ*, ст.-польск. *klobuk* 'капялюш, шалом') з адпадзеннем *к-*.

**Лабу́к**$_3$ 'нехлямяжы чалавек' (Сл. паўн.-зах.). Відавочна, да *лоб*$_1$ (гл.).

**Лабу́ніць** 'набліжацца', 'запрашаць', 'угаворваць' (ашм., КЭС), 'дагаджаць, ліслівіць', 'прываблíваць, мілаваць' (Сл. паўн.-зах.) і *лабу́ніцца* 'схіляцца лбом да чаго-небудзь, лезці куды-небудзь' (Нас.), 'заляцацца, падмазвацца' (Др.-Падб., Гарэц.), *падлабуніцца* 'падлашчыцца, падлізацца' (Нар. сл.). Балтызм. Параўн. лат. *labināt* 'задобрываць, песціць', літ. *lābinti* 'вітаць, кланяцца', 'дагаджаць' (Вяржбоўскі, 463—465; Грынавецкене і інш., LKK, 1975, 16, 181; Лаўчутэ, Балтызмы, 55).

**Ла́бур** 'гультай' (стол., Нар. лекс.). З укр. *лобурь* 'грубы чалавек, боўдзіла, дубіна'. Параўн. таксама *лаба́р* (гл.).

**Лабуры́** 'стрыжні ў птушыным пер'і', 'сцяблы ў лістах' (ваўк., Сл. паўн.-зах.). Утварэнне з суфіксам *-ур-*, генетычна роднаснае да літ. *lámbas* 'націна'.

**Ла́бус** 'неразумны чалавек' (трак., Сл. паўн.-зах.). Семантычна стаіць бліжэй да каш. *labas* 'прыдуркаваты, нехлямяжны, гультаяваты', якое запазычана з н.-ням. *laps* 'дурны', прус. *labas, labasch* 'бадзяга', *lebas* 'гультай' (Слаўскі, 5, 127).

**Лабу́ша** 'бязрогая карова' (Сцяшк.). Да *лоб*$_1$, *лабаты* (гл.). Утворана пры дапамозе экспрэсіўнага суф. *-уш-а* (Сцяцко, Афікс. наз., 125, 182).

**Лабуя́тнік** 'ліпняк, ліпавыя палкі, з якіх знята кара' (Бяльк.). Да *лубуя́тнік* (гл.).

**Лабы́р**$_1$ 'лабок, высокае месца, узгорак' (Бяльк., Касп., Нас.). Рэгіяналізм, утвораны пры дапамозе суф. *-ыр* (<*угъ*) ад *лоб*$_1$ (гл.) паводле тыпу адпрыметнікавых экспрэсіўных назоўнікаў. Параўн. *пустыр* (Сцяцко, Афікс. наз., 182; Слаўскі, SP, 11, 28).

**Лабыр**$_2$ 'лабатая карова' (глыб., Сл. паўн.-зах.). Да *лоб*$_1$, *лабаты* (гл.).

**Лабыр**$_3$ 'кавалкі засохлай зямлі' (Бяльк.). Экспрэсіўнае ўтварэнне ад *лоб*$_2$ (гл.) 'пакрытая ледзяной карой зямля пасля дажджу, адлігі' і суф. *-ыр*.

**Лабэра** 'здаравяка' (Мат. Маг.). Да *лоб*$_1$ (гл.). Адносна экспрэсіўнага суф. *-эра* параўн. *лабур* (гл.).

**Лабэціна** 'вялікі лоб' (Шат., КТС, А. Калюга), 'лоб' (Жд. 2). Да *лоб*$_1$ (гл.). Галосную *-э-* ў суфіксе можна разглядаць як працяг літ. суф. *-eta(s)*. Параўн. *лабаціна* 'тс'.

**Лабяк**$_1$ 'залобак' (Янк. Мат.), 'вальма' (Мат. Маг.), 'зашчытак у хляве' (ДАБМ, к. 230), 'франтон' (Мат. Гом.), *лъбяк* 'тс' 'падфрантонная сцяна ў будынку' (міёр., Нар. сл.), 'вільчык' (паст., Сл. паўн.-зах.) — рэгіянальнае ўтварэнне ад *лоб*$_3$ і суф. *-'ак*. Гл. таксама *лабак*$_1$.

**Лабяк**$_2$ 'прыстасаванне, якім рэгуляваўся ход плыта' (Інстр. 3), *лобяк* 'прыстасаванне, прыс, жардзіна, шост, якімі на лодцы адпіхваюцца ад берага' (ТС). Да *лоб*$_1$. Гл. таксама *лабак*$_2$.

**Лабяк**$_3$, *лабячок* 'прыродны курганок на полі з жоўтага пяску' (КЭС, лаг., Юрч., Вытв. сл.), *лыбяк* 'схіл ці верх пагорка' (Яўс.), *лъбяк* 'зямельны ўчастак на высокім, адкрытым месцы, на якім дрэнна родзіць' (Нар. сл.), 'незасеяны кавалак зямлі' (Мат. Маг.) — рэгіянальнае ўтварэнне ад *лоб*$_1$ (гл.) і суф. *-як*. Сюды ж *лыбікаваты* 'ўзгоркаваты' (Яўс.).

**Лабяк**$_4$ 'абібок, няўклюда' (Мат. Гом.) — рэгіянальнае ўтварэнне ад *лоб*$_1$ (гл.).

**Лава**$_1$ 'прылада для сядзення (некалькіх асоб) і для спання', 'самаробная мэбля ў сялянскай хаце' (Гарэц., Сцяшк., Мат. Гродз.; гродз., КЭС, Янк. Мат., Мал., Некр., Маш., Выг., Нас., Бяльк., Касп., Яруш., Шат., Мат. Гом., Сл. паўн.-зах.), *лавы* 'тс' (Зялен. 2; Зн. дыс.). Укр. *лава*, рус. *лава* 'тс', польск. *ława*, палаб. *lovó*, н.-луж., в.-луж. *ława*, чэш. *lava*, мар. *lava* 'тс', славац. *lávka, lavica* 'лаўка', славен. *láva* 'буфет (шафа)', балг. *лавица* 'лаўка'. Прасл. *lava* '(неpераносная) лава ля сцяны'. Развіццё семантыкі: 'узнятае прыстасаванне для сядзення, ляжання'>'прызба'>'куча, слой зямлі, шчыльная маса, рад'. Дакладнымі і.-е. адпаведнікамі з'яўляюцца: літ. *lóva* 'ложак, пасцель', 'доўгая лаўка', 'градка, загон', 'рэчышча', лат. *lāva* 'палок у лазні', 'пол', 'лаўка ля печы', 'адонак', а таксама, магчыма, ст.-інд. *láva-* 'адрэзак, адрэзаны кавалак', *lavaḥ* 'той, хто рэжа', літ. *liáutis* 'прыпыняць, быць абрэзаным, акалечаным' (апошняе гл. Слаўскі, 5, 51). Больш падрабязна гл. Бернекер, 695; Фасмер, 2, 444.

**Лава**$_2$ 'звязаны лес, плыт, які сплаўляецца на рэках басейна Заходняй Дзвіны' (Анік., Дэмб., Янк. Мат.), 'плыт або звяно плыта на даўжыню аднаго бервяна', 'плыт з двухмятровых дроў' (дзвін., Нар. сл.; чэрв., Сл. паўн.-зах.). Самым блізкім да яе па значэнню з'яўляецца рус. *лава* 'мост', пск. *лавы* 'плывучы мост на плытах', пск., цвяр. *лавина* 'плыт на вадзе для мыцця бялізны, коней', укр. гуц. *лава* 'вузенькі масток, бервяно праз ваду, якое ўжываецца для пераходу', 'кладка'. Аднак семантыка бел. *лава* з'яўляецца рэгіянальнай канкрэтызацыяй больш агульнага значэння лексемы *lava* 'нешта доўгае, шарэнга, рад, шчыльна складзеныя з асобных, падобных адна да адной састаўных частак', як у бел. *лава* 'бок вуліцы' (петр., Шатал., Мат. Гом.), параўн. і *лава*$_3$ — *лава*$_6$, рус. пск. *лавица* 'вуліца, гарадскі раён' (Філін, Происх., 610). Адносна паходжання гл. *лава*$_1$.



**Лава**$_3$ 'кавалак поля ад баразны ў два-тры загоны, узараных уроскід' (Сцяшк.; мін., Ант., Чуд., Сл. паўн.-зах., Прынч. дыс.), 'вялікі кавалак зямлі, участак поля' (Жд. 2, Сл. паўн.-зах.), 'загон' (Шатал.), 'участак поля, які належыць аднаму гаспадару' (Сл. паўн.-зах., Выг.), 'ніва' (Мат. Гом.), 'вялікі абшар, аднастайны масіў чаго-небудзь' (ТСБМ), 'вузкая паласа поля', 'загуменная дарога', 'абочына дарогі' (Сл. паўн.-зах.). Параўн. літ. *lóva* 'загон, градка'. Да *лава*$_1$ (гл.).

**Лава**$_4$ 'кар'ер (торфу)' (Мат. Гом.), 'падземны горны вырабатак з доўгімі забоямі, дзе здабываюцца карысныя выкапні' (ТСБМ) <польск. *ława*<ст.-польск. *ławy* 'соль, высечаная гарызантальна', *ławy węglowe* (XVI ст.). Крукоўскі (Уплыў, 73) мяркуе, што гэта запазычанне з рускай мовы. Да *лава*$_1$ (гл.).

**Лава**$_5$ 'падоўжаная ўкладка дроў' (Сл. паўн.-зах.). Параўн., аднак, літ. *lóva* 'капна сена'. Магчыма, балтызм.

**Лава**$_6$ 'гарадскі суд' (КТС, У. Караткевіч), ст.-бел. *лава* 'тс' запазычана са ст.-польск. *ława* 'тс' (Булыка, Лекс. запазыч., 53).

**Лаванда** 'пахучая расліна Lavandula, якая выкарыстоўваецца ў медыцыне і парфумерыі' (ТСБМ) <польск. *lawanda, lawenda, lawendula* (з XVI ст.) <іт. *lavanda* 'тс'<*lavare* 'мыцца, купацца'. Пахучую расліну выкарыстоўвалі пры мыцці (Слаўскі, 4, 79–80).

**Лаваць**, *ловаць* (1-я ас. *лаваю*) — паўд.-усх. 'лавіць' (Янк. І, Шн., Нар. сл., Шатал., Мат. Гом.), *лавацца* 'лавіцца' (ТС). Псеўдаітэратыўная форма дзеяслова *лавіць* (гл.) паводле аналогіі да *хватаць*. Гл. таксама *лавіць*.

**Лавачка**$_1$ 'шайка, банда' (Мат. Гом.), рус. прастам. *лавочка* 'несумленнае, незаконнае прадпрыемства, задума; група людзей, якая ўдзельнічае ў гэтай задуме'. Апошняе да *лаўка* 'магазін' (гл.).

**Ла́вачка**$_2$ 'крама' (Сцяшк.). Дэмінутыў ад *ла́ўка* (гл.).

**Лавер'я́н** 'валер'ян, Valeriana officinalis L.' (Мат. Гом.) — рэгіянальная сапсаваная форма літаратурнага *валяр'я́н* (гл.).

**Лаве́ты** 'два дручкі, збітыя ўпоперак і пашыраныя назад, якія накладваюцца на воз замест драбін і служаць для перавозкі сена, снапоў і г. д.' (Смул.) < польск. *lawet, laweta* 'лафет' < ням. *Lafette* < фр. *l'affût* 'тс'.

**Лаве́ц**$_1$ 'лавец, паляўнічы', 'той, хто ловіць' (Янк. II, Бяльк., ТС), укр. *лове́ць* 'тс', рус. *лове́ц* 'тс', 'рыбак', польск. *łowca* 'паляўнічы', ст.-польск. 'паляўнічы сабака', устар. *łowiec* (з XIV ст.) 'паляўнічы', каш. *łòvca* 'тс', *łòvc* 'той, хто ловіць', н.-луж. *łowc* 'паляўнічы; той, хто займаецца лоўляй', чэш., славац. *lovec*, славен. *lóvec, lȏuc*, серб.-харв. *ло̏вац* 'паляўнічы', 'егер', 'ястраб-перапёлачнік', макед. *ловец*, балг. *ловец* 'паляўнічы'. Прасл. *lovьcь* 'той, хто ловіць звяроў, птушак, рыб'. Першаснае *nomen agentis* ад *loviti* > *лаві́ць* (гл.), утворанае пры дапамозе суф. *-ьсь* (Слаўскі, 5, 232; SP, 1, 100). Ст.-бел. *ловца* 'птушкалоў' (XVII ст.) < ст.-польск. *łowca* 'тс' (Булыка, Запазыч., 90).

**Лаве́ц**$_2$ 'ражон, завостраная палачка, дубчык, на які чапляюць сала і смажаць яго на агні' (Янк. II, Бяльк., Мат. Гом.; жлоб., Нар. словатв.) з **ламец* (уплыў народнай этымалогіі) пры перастаноўцы *м* > *в*, параўн. *ломжа — лаўжо — лобжа* (Мат. Гом.). Суфікс *-ец* той жа, што і ў *дубе́ц*. Корань *лом-* у роднасных *ламы́, лам'ё, ламяйко, ламата́* 'абцярэбленыя сукі, дробнае галлё' (Сцяшк., Нас.).

**Лаві́на** 'снежны абвал', 'імклівая, нястрымная маса каго-або чаго-небудзь' (ТСБМ, ТС), *ляві́на* 'тс' (Яруш.) праз польск. *lawina* ці рус. *лавина* з ням. *Lawine* < рэтарам. *lavina* < с.-вяк.-лац. *labīna/lavīna* < *lābor* 'звальвацца, падаць' (Клюге$_{17}$, 427—428; Фасмер, 2, 444; Махэк$_2$, 322; Слаўскі, 4, 81).

**Лаві́раваць** 'рухацца не прама, зігзагамі, абмінаючы перашкоды (аб караблі)' (ТСБМ) з гал. ці н.-ням. *laveeren* або нова-в.-ням. *lavieren* праз рускую (Крукоўскі, Уплыў, 74) ці польскую мову.

**Лаві́ць** 'здабываць (рыбу, звяроў, птушак пры дапамозе прыстасаванняў)', 'хапаць на ляту', 'вышукваць, высочваць', 'выбіраць зручны момант', 'успрымаць слыхам, розумам', 'выкрываць, абвінавачваць' (Бяльк., Яруш., Сцяшк., ТСБМ, ТС). Утворана ад *lovъ* > *лоў* (гл.). Можна меркаваць, што форма *лава́ць* (гл.) больш архаічная, чым *лаві́ць*: яшчэ ў праславянскі перыяд суф. *-aje-* (*-ati*) у дэмінутыўных дзеясловах быў выцеснены прадуктыўным *-i-* (*-iti*) (Слаўскі, SP, 1, 46), інакш зыходны назоўнік, ад якога ўтварыўся дзеяслоў, павінен быў бы мець аснову на *-ĭ-* (г. зн. *lovь*).



**Лаво́к** 'прыстасаванне для лоўлі баброў' (КТС, А. Масарэнка). Утварэнне з суф. *-ок* (< *-okъ*) ад $^+$*лоў* (< прасл. *lovъ*). Да *лаві́ць* (гл.).

**Лаву́шка** 'вулей, які ставяць для прываблівання рою' (Др.-Падб., Сцяшк.; рас., Шатал., Мат. Гом.). Запазычана з рус. *лову́шка* 'пастка'. Да *лаві́ць* (гл.).

**Лавэр** 'вялікі непарадак' (ушац., Нар. сл.). Няясна. Магчыма, звязана з фін. *leväperä*, параўн. *jättää leväperän* 'запускаць, адносіцца неахайна', *leväperäinen* 'неакуратны'.

**Лаг**$_1$ 'жэрдка, якую прыстаўляюць да воза і коцяць па ёй дрэвы' (Жд. 2) < прасл. *lagъ* < *lagati* 'класці', якое з'яўляецца ітэратыўным дзеясловам да *łožiti* 'класці' (Бернекер, 683).

**Лаг**$_2$ 'прыбор для вымярэння хуткасці руху судна або пройдзенай ім адлегласці' (ТСБМ) < з гал. *log* 'тс' праз рускую мову (гл. Фасмер, 2, 445).

**Лаг**$_3$ 'борт судна' (ТСБМ) < рус. *лаг* 'рад гармат на адным борце карабля' < гал. *laag* 'тс' (Матцэнаўэр, Cizí sl., 235) ці з ням. *Lage* 'сукупнасць гармат на адным борце судна'.

**Ла́га** 'падваліна, папярочнае бервяно, на якое насцілаецца падлога' (Шушк., Нар. сл., ТСБМ, Сл. паўн.-зах.), 'падважнік' (Бел.-укр. ізал.). Запазычана з ням. *Lagebalken* 'бэлька ў столі' ці з *Lagerbalken* 'брус для падымання грузаў'. Сюды ж *ла́гі* 'падстаўка пад вулей' (Мат. Маг.).

**Лагаві́ла**, *логовы́ло* 'логава' (Клім.), 'сцелішча, поле, на якім сцелюць лён' (Выг., Уладз.). Да *логава* (гл.). Аб суфіксе *-іл-а* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 42.

**Лагаві́на** 'сенажаць у лагчыне' (Шат., Бел. лекс.; навагр., Сл. паўн.-зах.), рус. пск. *логови́на* 'невялікі падоўжны кавалак зямлі, лагчына'. Беларуска-руская ізалекса, утвораная ад *лог* (гл.) пры дапамозе суф. *-ав-ін-а*.

***Лагаві́цца**, *логовэ́тыся* 'лягаць' (кам., Сл. паўн.-зах.). Укр. *логови́тися* 'тс', польск. *legować* 'тс', ст.-польск. *legować* 'часта лажыцца', н.-луж. *z-lagowaś*, в.-луж. *z-lěhować* 'накладваць', чэш. *po-legovati* 'класціся'. Другасны ітэратыў ад прасл. *lěgati* (Слаўскі, 4, 110). Да *ляга́ць* (гл.).

**Лагаві́шча** 'логава, месца, дзе знаходзіцца воўчы вывадак' (Сцяшк.), *лагаві́шча* 'бярлога, логава' (Мат. Гом.). Да *логаві́шча* (гл.).

**Лагавы́** ў выразе: *логову́ просо* 'маннік водны, Glyceria aquatica (L.) Wahlb.' (ТС). Да *лог* і *проса* (гл.). Матывацыя найменя: расліна, мяцёлкай сваёй падобная да проса, расце ў вільготных лагчынах.

**Лагадне́ць** 'станавіцца пяшчотным, ласкавым' (Нас., ТС). Да *лагодны* (гл.).

**Лагажы́** 'драўлянае прыстасаванне з палазамі для тран-

спарціроўкі сельскагаспадарчых прылад' (шальч., Сл. паўн.-зах.). Да *лагожы* (гл.).

**Лагаззё** 'ламачча' (карэліц., Шатал.) у выніку замены пачатковага *р*: параўн. *рагазá, рагізá* 'рагацце', *рагазіна, рагазýліна* 'сукаватая палка, ламачына, сук' (Юрч.), *рагазою* 'грудай, кучай, няскладна', *рагазýлька* 'разгірака' (Гарэц.), ушац. *рагаззё* 'сукаватыя галіны' (Свяжынскі, вусн. паведамл.). Аб пераходзе *р* у *л* гл. Карскі, 1, 315.

*__Лáгаліць__, драг. *лáголыты* 'ўпрошваць' (Клім.). У выніку страты пачатковага *г* (гл. Карскі, 1, 371) ад *глаголіць* (*глáголыты*) <прасл. *gol-gol-iti* 'гаварыць'. Адносна семантыкі гл. Мартынаў, Лекс. взаим., 170—172.

**Лагандзіць** 'балбатаць, многа гаварыць' (ваўк., Сл. паўн.-зах.). Да *лаганіць* (гл.).

**Лаганец** 'залатушная трава, Leontodon L.' (Кіс.). Утворана ад +*лагаднец*<*лагаднéць* 'станавіцца лагадиейшым'. Расліна названа паводле яе лекавых уласцівасцей — заспакойвае болі ў жываце (Лек. раст., 6, 447).

**Лаганіць** 'многа гаварыць попусту, абы-што' (дзярж., Нар. сл., КТС, Л. Калюга), відавочна, запазычана з літ. *lā-ginti* 'нагаварыць (усялякіх небыліц)'.

**Лагáнка** 'ражка' (Мат. Гом.) — фанетычны варыянт *лаханка* 'тс' (гл.). Аб пераходзе *х*>*г* у ст.-бел. помніках гл. Карскі, 1, 370—371.

**Лагáнчык** 'гліняная паліваная пасудзіна невялікіх памераў у форме кубка з ручкай для смятаны' (палес., З нар. сл.). Памяншальная форма ад +*лаган*> *лагун₄* (гл.), суфікс якога пад уплывам народнай этымалогіі змяніўся ў *-ан*. Тое ж (толькі з іншай суфіксацыяй) назіраецца і ва ўкр. *лаганéць* 'род кубка, драўляны сасуд з ручкамі', *лаганок* 'бочачка з выдзеўбанага пня'.

**Лагафет** 'статс-сакратар' (Гарб.), ст.-бел. *локгофетъ* 'пісар'<ст.-польск. *logofet*<с.-грэч. λογοθέτης 'кантралёр рахункаў' (Булыка, Запазыч., 190).

**Лагарыфм** 'паказчык ступені, у якую трэба ўзвесці лікаснову, каб атрымаць дадзены лік' (ТСБМ). Запазычана з рускай мовы (Крукоўскі, Уплыў, 89)<фр. *logarithme*<лац. *logarithmus*. Слова стварыў шатландскі матэматык Джон Нэпір у 1614 г. (Фасмер, 2, 509).

**Лáгва** 'высокая бочка з накрыўкай, у якой трымаюць муку, крупу і інш.', *лагóвочка* 'тс', *лáгвіца, лагýўка, лáгуцька* 'невялікая драўляная бочка з накрыўкай для сала' (зах.-палес., З нар. сл.), *лáгвіца, лáгвыця* 'тс' (Сіг.), ст.-бел. *лагвица* 'сасуд для віна, вады', 'пасудзіна, чаша' (з XVI ст.— у Скарыны, у Хроніцы М. Бельскага, у Рэвізіях каралеўскіх пушчаў), *лагвіца* 'падарожны сасуд для напіткаў', 'падатак, памер якога быў нявызначаны' (Гарб.). Рус. *лаговка* 'посуд для малака', *лагвіца* 'кубак', ц.-слав. *лагва*, польск. *łagiew, łagwa* 'драўляны падарожны посуд для напіткаў' (з XV ст.), *łagiew* 'бочачка', н.-луж. *łagwja* 'бутэлька, збан', 'скураны мяшок', в.-луж. *łahej* 'бутэлька, збан', чэш. *láhev* 'бутэлька', ст.-чэш. у форме *láhvicě*, мар. *lávica* 'драўляная пасудзіна для вады', славац. *ľagvice* 'тс' (запазыч. з польск. паводле Махэка₂, 317), славен. *lágev, lágva* 'вінная бочка', *lágev, lágve* 'бутэлька', серб.-харв. *làgav, lagva* 'бочка'. Позняе прасл. *lagy, lagъve* 'посуд для вадкасцей, бочачка, скураны мяшок' запазычана са ст.-в.-ням. **lāga* (с.-в.-ням. *lāgen*, баварск. *lagen* 'сасуд для пiцця, мера')<лац. *lagōna/lagūna/lagēna* 'бутэлька, збан для віна'<грэч. λάγῡνος 'тс' (Фасмер, 1, 445—446; Бернекер, 1, 685; Слаўскі, 4, 424—425).

**Лагво** 'логава, месца, дзе знаходзіцца воўчы вывадак' (Сцяшк., Яўс., Мат. Гом., Др.-Пад., Бяльк., Янк. II; браг., Шатал.), укр. *лóгво, лíгво*, рус. *лóгво* 'тс' (Даль). Усходнеславянскі варыянт лексемы *логава* (гл.).

**Лáгер** 'стаянка войска, партызан, лесарубаў, піянераў у палявых умовах' (ТСБМ), укр. *лáгер, лáгор, лáгир* 'пастаўнік'. Запазычанне праз рускую мову з ням. *Lager*.

**Лагéрня** 'рыбалоўная снасць' (Мат. Гом.). Няясна.

**Лагéсь** 'капытнік, Calla L.' (паст., Сл. паўн.-зах.). Запазычана з літ. *legė́sys* 'тс' (там жа, 2, 604).

**Лагіза** 'гультай, абібок, прайдзісвет', 'няскладны, непаваротлівы чалавек, жанчына' (Некр., Шат., КЭС), ц.-палес. *локіза* 'неахайная, дрэнна апранутая жанчына' (ТС), укр. *лакíза, лакíзка* (грэбл.) 'лёкай'. Запазычана з літ. *lokỹs* 'мядзведзь' (Выгонная, Бел.-укр. ізал., 17). Тое ж і антрапонімы *Локіс, Лакіза, Лагеза* (Бірыла, Бел. антр., 2). Сюды ж і рус. раз. *лагíза* 'ласун', *лагíзить* 'ласавацца', 'смачна, салодка піць і есці'. Гл. таксама *лакіза*.

**Лагізон** 'легіянер' (нар. этымалогія). Так сяляне называлі ў 1918 г. польскіх легіянераў корпуса Доўбар-Мусніцкага, збліжаючы *легіянер* з *лагіза* 'гультай, абібок, прайдзісвет' (Некр.), *лагізон* 'тс' (Сцяцко, Афікс. наз., 61).

**Лагода** 'прыемны спакой, хараство', 'згода, дружба, прыязнь' (ТСБМ), *лагодзіць* 'ладзіць, улагоджваць, дагаджаць', 'мірыць' (Нас.), 'лашчыць, прываблівацъ' (ТСБМ), дзярж. 'майстраваць' (Нар. сл.), *лагодзіцца* 'мірыцца', 'рабіцца паблажлівым, літасцівіцца' (Нас.). Укр. *лáгода, лáгід* 'лагода', *лáгоджання* 'рамонт, выпраўленне', 'рыхтаванне', рус. *лáгодить* 'ладзіць, мірна ўлагоджваць', *лáгода* 'лагода, парадак', ст.-рус. *лагодити* 'рабіць прыемнае', 'патакаць' (XI ст.), ст.-

польск. *łagoda* (XVI ст.), каш. *łagoda*, польск. *łagodność*, н.-луж. *łagoda*, в.-луж. *lahoda*, чэш., славац. *lahoda* 'прываб-насць, хараство, чароўнасць', славен. *lágoda* 'зло, гарэзлі-васць, свавольства, слабасць, нізасць', *lágod*, серб.-харв. *лăгода* 'прыемнасць, задаволенасць', 'выгода'. Прасл. *lagoda* 'парадак, гарманічнасць, згода', 'выгода, зручнасць, дабрата, прыязнь, прыемнасць', якое паходзіць ад <**laga*, што мае ад-паведнікі ў літ. *lóga, logà* 'куча', 'рад, кратнасць', 'чарга', *logúoti* 'складаць, прыводзіць у парадак', лат. *lāga, lāgs* 'слой', 'парадак', 'здатнасць, здольнасць'. Утворана пры дапа-мозе суф. *-oda*, напр., *свабода, ягада* (Буга, Rink., 1, 450; Зубаты, AfslPh, 16, 397; Эндзелін — Мюленбах, 2, 436—437; Фрэнкель, IF, 69, 136; Фасмер, 2, 446). Беспадстаўныя сумнен-ні Бернекера (1, 684), калі ён суадносіць *lagoda*, прымаючы ў якасці асноўнага значэння 'слабасць, падатлівасць', з і.-е. *(*s*)*lēg* 'слабы', лац. *laxus* 'свабодны, які вольна звісае', 'лагодны', ст.-ісл. *lākr* 'благі, малакаштоўны', ст.-в.-ням. *slah* 'слабы'. Таксама Младэнаў (268); Махэк$_2$ (317—318) мяркуе, што *lagoda* з'яўляецца аддзеяслоўным утварэннем ад *lago-diti*.

**Лагоднік** 'ліслівец' (Нас., Бяльк.). Утварылася пры дапа-мозе суф. *-нік* (як і рус. *угодник*) пад уплывам народнай эты-малогіі (блізкасць семантыкі). Гэта асабліва відаць у песні ...*святый Юрый за павознічка, святая Мікола за лагоднічка*... (Бяс. 3), калі параўнаць з бытуючай на Беларусі назвай іконы св. Міколы *Мікола-ўгоднік*.

**Лагожы,** *лагожы, лагошы, логошы, логошы, лагошы, лагя-шы* 'сані-развалкі для перавозкі грузаў, розвальні' (ТС, ТСБМ, Нар. сл., Шатал., Сл. паўн.-зах.), 'вялікі воз для возкі сена, снапоў' (Касп.), 'лёгкія сані' (КЭС, лаг.; Жд. 2), бярэз. 'выяз-ныя сані' (Сл. паўн.-зах.), 'сані з надбудаванай скрыняй або во-зам для перавозу тавараў' (КЭС, лаг.; Жд. 2), 'доўгія палкі, якія ўстаўляюцца ў драбіны воза, каб больш палажыць снапоў' (Сіг.), 'прыстасаванне для пашырэння саней' (Нар. сл., З нар. сл.), 'рама для воза, саней' Сл. паўн.-зах.), 'старыя, палама-ныя сані' (Нар. сл.), *лагоша* 'воз з бакавымі дошкамі замест драбін', *лагажы* 'драўлянае прыстасаванне з палазамі для тран-спарціроўкі сельскагаспадарчых прылад' (Сл. паўн.-зах.). З такой семантыкай толькі беларускае. Pluralia tantum пад уплывам *сані*. Узыходзіць да венг. *lógós* 'дадатковы конь у запрэжцы', 'свабодны, які свабодна звісае', *lógó* 'тс', 'ды-шаль, да якога запрагаюць дадатковага каня'. З тымі ж зна-чэннямі ўжываецца гэта слова ў серб.-харв. (*лóгов*), балг. (*логóй*) і славац. (*logoš*) мовах. У ст.-польск. *łogosz* (з XVII ст.) азначае 'дадатковы конь у запрэжцы', 'лаўка ззаду во-за, саней для гайдука'. Апошняе значэнне і ў ст.-бел. *лагошъ*, *локгошъ*. Паводле гэтага Булыка (Запазыч., 191) выводзіць бел. лексему са ст.-польск. Гл. таксама Міклашыч, 172; Бер-некер, 727; Брукнер, 310; Скок, 2, 313; MNy, 2, 60, 370. Бал-тыйскі адпаведнікі, дадзеныя А. Грынавецкене (Сл. паўн.-зах., 2, 604) да *лагошы*, а іменна літ. *lùgės* 'благія сані ці воз з кузавам', *lùgnios* 'прыгожыя сані', супадаюць толькі семан-тычна, таму што нельга растлумачыць агульнасць вакалізму кораня. Фрэнкель (1, 388) суадносіць іх з *lubà* 'стальнічына'.



**Лагоўе** 'логава, месца, дзе знаходзіцца воўчы вывадак' (Сцяшк.), *лагоўя* 'лежыва' (Сл. паўн. зах.). Да *логава* (гл.), трансфармаванае суфіксам *-ьje*.

**Лагу́н**$_1$ 'нейкая расліна' (Гарэц.). Магчыма, гэта *лагу-нец* 'ястрабок парасоністы, Hieracium umbellatum L.' (Кіс.). Утворана пры дапамозе суф. *-ун* ад *лог* 'луг, лагчына' — раслі-на любіць вільготныя лугі. Суфікс прадуктыўны для ўтварэн-ня назваў раслін: *пайзун, плывун, блішчун, бялун* (Сцяцко, Афікс. наз., 69, 123).

**Лагу́н**$_2$ 'палеглы лён' (іўеў., Сл. паўн.-зах.). Да *лажыцца* (гл.). Аб суф. *-ун* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 168. Параўн. такса-ма *лягу́н* 'лежабок, той, хто ляжыць' (Бірыла, Бел. антр., 2, 263).

**Лагу́н**$_3$ 'падваліна пад падлогай' (кобр., Нар. сл.; беласт., Сл. паўн.-зах.), малар. 'папярочная калода, якая кладзецца на сані пры перавозцы доўгага бярвення' (Нар. словатв.). Укр. *лагу́н* 'ствол дрэва ў гаці на гразкім месцы', польск. *łagun* 'кладка', 'падваліна', *łaguny* 'ачасаныя падкладзіны з бярвення пад карабель', магчыма, і серб.-харв. *lagun* 'кладка?'. Сюды ж рус. маск. *лáга* 'папярочнае бервяно ў будынку'. Найбольш імаверна да прасл. *lagati* 'ставіць, класці' (Слаўскі, 4, 430), якое з'яўляецца ітэратывам да *ložiti* (Бернекер, 683).

**Лагу́н**$_4$ 'посуд на льняное семя' (староб., Мат. дыял. канф.), палес. *лагу́н, лагу́нчык* 'роўная бочка невялікіх памераў, за-днёная з двух бакоў, з адтулінай у дне, якая закрываецца драўлянай затычкай' (З нар. сл., Шатал.), саліг. *лагу́н* 'боч-ка з двума днамі і квадратнай дзіркай у баку — для насы-пання або налівання' (Нар. словатв.). Укр. *лагу́н* 'посуд для дзёгцю', рус. *лагу́н, лагу́на, лагушок, лагунка, лагушка, лагут, лагунок, лагунец, лагунь(я)* 'бочка для квасу, піва, малака, дзёгцю', 'бочка для збожжа', паўсюдна рус. 'сасуд (вядро) для дзёгцю', 'гаршчок, чыгун', 'збан', 'карыта, жолаб', 'кало-да', 'цэбар'. Усх.-слав. утварэнне ад прасл. *lagati* 'класці, ставіць' (<*ložiti*) і суф. Nomina instrumenti-*unъ* (аб дэры-ватах з ім гл. Слаўскі, SP, 1, 134—135; Мартынаў, Дерив., 38—39).

**Лагу́н**$_5$ 'чалавек, які любіць добра і шмат паесці вадкай

ежы' (полац., М. Р. Суднік, вусн. паведамл.). Лексема складае адзіны арэал з рус. пск., цвяр. 'жывот, бруха', кастр. 'гультай, пражора'. Узнікла ў выніку пераносу з *лагун₄* (гл.).

**Лагу́н₆** 'месца, дзе засталася вада пасля патопу' (Сержп. Прымхі), 'частка лугу каля рэчкі, затопленая паводкавай вадой, якая летам высыхае' (КТС, Колас, 4). Да *лог* 'нізкае месца, лагчына', 'гразкая частка дарогі праз луг' (гл.): Аб суф. *-ун* гл. Сцяцко, Афікс, наз., 174.

**Лагу́на** 'мелкаводны заліў, аддзелены ад мора пясчанай касой' (ТСБМ). Запазычана, відавочна, з рус. *лагуна* 'тс', якое праз ням. мову запазычана з іт. *laguna*<лац. *lacūna* 'паглыбленне, яма', 'лужа', 'багна' (Клюге₁₇, 418; Фасмер, 2, 447; Слаўскі, 4, 27).

**Лагунец** 'ястрабок парасоністы, Hieracium umbellatum' (Кіс.). Да *лагу́н₁* (гл.). Параўн. таксама *лганец* (гл.).

**Лагуны́** 'рубель, якім умацоўваюць сена або снапы на возе' (пруж., ДАБМ). Да *лагу́н₃* (гл.).

**Лагу́ха**, *логу́ха* 'лежань' (пін., Нар. лекс.). Ад *+лога* (як *соня, хода)* і экспрэсіўнага суф. *-их-а*. Да *лажыць* (гл.). Карэннае *-о-* з *-а-* (выраўноўванне да палескага окання).

**Лагчаві́на** 'лагчына' (Жд. 2; міёр., Нар. словатв.). У выніку кантамінацыі лексем *лагчы́на* і *лагаві́на* (гл.). Тое ж назіраецца ва ўкр. *лощовина*.

**Лагчы́на,** *лахчы́на, лахчы́начка, лагчы́нка, лагчы́начка* 'даліна, нізіна, яр. прадаўгаватае, нізкае месца сярод адхонных схілаў' (ТСБМ, Нас., Шат., Яруш., Гарэц., КЭС, лаг.; міёр., Нар. словатв.; навагр., КЭС), *лахчы́на* 'тс', *лашчына* 'тс', 'нізкае месца на полі' (Сл. паўн.-зах., Выг., Сцяшк., Бяльк., Касп.; паўд.-усх., КЭС), ельск. 'колішняе рэчышча ракі' (ЛАПП), укр. *лощи́на*, рус. *лощи́на* 'нізіна, лагчына', балг. *лъхчина* 'нізкае, роўнае месца, акружанае з усіх бакоў узгоркамі', 'горная седлавіна', 'нізкая мясціна ля дарогі', 'нізіна', 'паглыбленне ў зямлі'. Апошняя лексема — вынік змешвання ў слав. дыялектах з *луг,* балг. *лъг* (<*lǫgъ*); павінна было б быць *лохчина,* як і балг., макед. *логор, логур.* Усходнеславянска-балгарскае утварэнне ад памяншальнай формы (лексемы *logъ*) *logъkъ* і *logьkъ* і пеяратыўнага суф. *-ina*> >*logъkъ+ina*>*logъčina*>лагчына; *logьkъ+ina*>*ložьčina*>лашчына. Да *лог* (гл.). Сюды ж *ложчына* 'нізіна' (ТС), *лажчына* 'лагчына' (Мат. Гом.), *лагчыністы, лагчынны.*

**Лад** 'згода, дружба', 'узорны парадак', 'спосаб, манера, узор', 'уклад жыцця', 'дзяржаўная ці грамадская сістэма', 'настрой, гумор, тон' (Нас., Бяльк., Яруш., Шат., КЭС, лаг.), 'звычай' (Сл. паўн.-зах.), 'змовіны сватоў' (Шат.), *(бабскі) лад* 'распараджэнне' (Нас.), *ла́дам* 'прыгожа, у згодзе, у лад' (Нас.), *лады́* 'згода' (Юрч. Вытв.), 'змовіны' (Сл. паўн.-зах.), *не з лада мужык, не з лада жонка* 'без кахання' (паўд.-усх., КЭС). Укр. *лад* 'парадак, упарадкаванне', 'звычай, агульнапрынятыя правілы прыстойнасці', 'спосаб, манера', 'такт', 'распараджэнне', 'узаемная згода'; рус. *лад* 'торг, дамаўленне', 'змовіны', 'згода, мір', 'парадак'; польск. *ład* 'гарманічны ўклад, парадак'. Чэш. *lad* 'гармонія, прыгажосць'<рус. *лад;* славац. *lad* 'упарадкаванне, спосаб'<чэш. *lad*; в.-луж. *ład* 'парадак, планавасць'<чэш. ці з польск.; літ. *lõdas* 'сужыццё, згода'<польск., бел. ці з рус. моў. Існуючыя слав. лексемы можна ўзвесці да паўн.-слав. *ladъ* 'парадак, гармонія, урэгуляванасць', якое не мае надзейнай этымалогіі. Так, Мікала (UG, 3, 24) звязвае яго з гоц. *lētan* 'пускаць, дазваляць'< <і.-е. **lēd-*. Міклашыч (159), Младэнаў (268), Праабражэнскі (1, 426) суадносяць са слав. *lagoda.* Зубаты (AfslPh, 16, 397; Studie, 1 (2), 102) рэканструюе аснову **lā-*. Фасмер (2, 447) рашуча адмаўляе меркаванне Бернекера (1, 683) аб сувязі *ladъ* з ірл. *laaim* 'кідаю, кладу, пасылаю, стаўлю' і ст.-грэч. ἐλάω і інш. 'ганю', якія выводзіў з гэтага агульнае значэнне 'парадак, гармонія, слой, каханне' і збліжаў гэта з польск. *skład, składny.* Бел. *лад* як музычны тэрмін — сэнсавая калька з рус. мовы (Крукоўскі, Уплыў, 151).

**Ла́да₁** 'каханы (каханая), любы (любая), мілы (мілая)' (ТСБМ), 'муж' (паўд.-усх., КЭС), '(згодна з нашай міфалогіяй) выдатная багіня прашчураў, жонка бога Сонца і маці бога Ярылы' (КЭС, лаг.), зах.-бран. 'нялюбы муж'. Укр. *лада* 'старажытнаславянская багіня', *ладо-ладо! ладі-ладі!* 'прыпеў у фальклорных песнях', 'мужык', 'жонка', *ладува́ти* 'спяваць вясельныя песні'; рус., ст.-рус. *лада* 'муж, жонка', *ладо, ладый* 'мілы, каханы каханая', ц.-слав. *ладо* 'каханы'; польск. *łado*! *łado*! 'прыпеў у вясельных песнях' (Люблiншчына, Холмшчына), ст.-польск. *łado* 'вокліч, назва бога' (XV ст.), в.-луж. *łado* 'распусніца', ст.-чэш. *lada* 'цнатлівая дзяўчына', магчыма, і славен. *lada* 'крык', *lado gnati* 'лямантаваць, хныкаць', *ládati* 'спяваць' (гл. Куркіна, Этимология-1976, 22), серб.-харв. *лȁда* 'паэтычная назва замужняй жанчыны', *ла́дати* 'спяваць напярэдадні вясенняга Юр'я, ідучы ад хаты да хаты: *lȁdo (m)oj, lado le, lâdo, lâdole* — прыпеў у народнай песні, балг. *лада* 'другая дачка ў сям'і, што (у вясельнай цырымоніі) ідзе за вадой, з якой пасля варожачы дастае пярсцёнак'. Прасл. *lada* звязана з *ladъ*>*лад* (гл.) асноўным значэннем 'адпаведны, роўны, згодны' (Крэчмер, Glotta, 30, 91—92; Фасмер, 2, 447; Слаўскі, 4, 420—421). Нельга згадзіцца з Махэкам₂ (317), які ўслед за Полакам (LF, 70, 27) адносіць слова да ліку чарнаморскіх, малаазіяцкіх. Выпадковае падабенства

з авар. *tladi, λadi* 'жанчына' (Лідэн, KZ, 56, 223; Трубяцкой, BSL, 23, 199—200); Будзімір (RJAZU, 309, 97) звязвае прасл. *lada* са ст.-грэч. Λήτα, Λητώ, лац. *Latōna*, этрус. *Voltumnus* і інш.— усе з і.-е. *veldh- 'валодаць, панаваць'>*vlādhā. Міклашыч (159) лексему *lada* звязвае з такімі, як чэш. *láska* 'каханне', *ladný*, слав. *lagoda*, лац. *Latōna*, лік. *lada* 'пані'. Самая новая этымалогія ў Трубачова (История терм., 99—101) — з і.-е. *al- 'расці', *al-dho-s 'які вырас'. Гл. таксама этымалогію да *лада:* Menges, Oriens, IX, 1956, 86—94.

**Ла́да**$_2$ 'прыгатаванне' (КЭС, лаг.). Рэгіянальнае ўтварэнне ад *ладзіць* 'рыхтаваць'.

**Лада воўча** 'вязель стракаты, Coronilla varia L.' (Кіс.). Да *ля́да*$_5$ (гл.). Да пераходу *л*>*л'* параўн. віл. *лайшэнь*∼∼*ляйша́*.

**Ладава́ць**$_1$, *ладова́ті* 'прыводзіць у парадак, падпраўляць, рыхтаваць, укладваць' (ТСБМ, Сл. паўн.-зах.), 'рамантаваць, напраўляць' (Нар. словатв.), укр. *ладува́ти* 'рыхтаваць, прыстасоўваць', польск. *ładować* 'даводзіць да ладу, рамантаваць, рыхтаваць' (Малапольшча, Мазоўша), чэш. мар. *ladovat se* 'рыхтавацца да чаго-небудзь', 'цешыцца, чакаючы штосьці'. Паўн.-слав. утварэнне ад *ladъ*>*лад* (гл.). Параўн. *ла́дзіць*. Сюды ж *ла́давацца, ладава́цца* 'прыводзіць у парадак, уладкоўвацца, збірацца' (ТСБМ).

**Ладава́ць**$_2$ 'складваць' (Сцяшк.), слонім. 'грузіць' (Нар. лекс.), 'класці нешта цяжкае' (Сцяц.), 'падымаць бярвёны на воз пры дапамозе лада' (ганц., Сл. паўн.-зах.), ст.-бел. *ладо-вати* 'грузіць, нагружаць' (XVII ст.) запазычана са ст.-польск. *ładować* 'накладваць, нагружаць, абцяжарваць' (XVI ст.), якое з с.-в.-ням. *laden*, ням. *laden* 'накладваць, напаўняць', 'зараджаць (зброю)' (Слаўскі, 4, 421). Сюды ж ст.-бел. *ладовница, лядовница* 'патранташ' (XVII ст.), запазычаныя са ст.-польск. *ładownica* 'тс'.

**Ла́дада** 'праснак з кіслага цеста' (воран., Сл. паўн.-зах.). Відаць, да *аладка* (гл.) пад уплывам дзіцячай мовы.

**Ла́дан** 'пахучая смала, якая выкарыстоўваецца для абкурвання' (ТСБМ). Укр., рус. *ладан*, ст.-рус. *ладанъ*, якое з грэч. λάδανον 'ладан'<ст.-грэч. λήδανον, іан. λάδανον 'араматычная камедзь з куста', λῆδος<араб. *lādan* (Фасмер, 2, 447; Бернекер, 1, 682). Сюды ж *ладанка* 'торбачка з ладанам', 'пасудзіна, у якой спальваюць ладан' (ТС). Параўн. *лайда́н*.

**Лададзе́ць** 'тарахцець, шмат гаварыць (аб дзіцяці)' (Нар. лекс.). Відаць, уграфінізм. Параўн. вепск. *lodeita, lodaita* 'гаварыць, гутарыць, расказваць', *lodaizoitta* 'займаць размовай'. Не выключана магчымасць утварэння гэтай лексемы анаматапеічным шляхам. Параўн. *лататы́, лататоніць* (гл.).



*Ла́дачка, лун. *ла́дочка* 'складка ў спадніцы, сукенцы' (Шатал.), *ладачкі* 'зборкі' (Мат. Гом.), *ладка, латка* 'тс' (капыл., Сл. паўн.-зах.). Роднаснае з рус. наўг. *лады́* 'клёпкі ў бочцы', астрах. 'лінія сутыку дзвюх дошак у даўжыню; паз паміж імі', рус. *лад* 'клавішы', 'папярочныя парожкі на шыйцы балалайкі, бандуры, гітары і інш.' Да *лад* (гл.). У выніку кантамінацыі з лексемай *складка* ў *лад* змяніўся род і канчатак.

**Ла́дачкі** 'таблеткі' (Мат. Маг.). Відавочна, з *аладачкі*<*аладка* (гл.).

**Ла́ддзя** (зб.) 'дранікі'. З рус. *оладьи*. Да *ала́дкі* (гл.).

**Ладдзя́** 'лодка з дошак' (мядз., Нар. словатв.). Ст.-бел., ст.-рус. *лодья*<ст.-слав. **ладии** (і больш рэдкае *алдии* — літ. *aldijà, eldijà* 'човен'), прасл. *oldьji* 'човен'. Да *лодка* (гл.).

**Ладдзя́н** 'расліна Corallorhiza Chatel' (Кіс.). Відавочна, назва запазычана з рус. *ладьян* 'тс', дзе маецца многа раслін з назвай *ладан* (гл. СРНГ, вып. 16, 228—229).

**Ла́джанне** 'папраўлянне', 'дагаджанне' (Юрч. Вытв.). Да *лад, ла́дзіць* (гл.).

**Ладзга́н** 'пра малое дзіця, якое соваецца, лазіць куды не трэба' (зэльв., Сцяц.). Балтызм, параўн. літ. *lazgùs* 'гаваркі, ветлівы, далікатны', *lazgė́ti* 'моцна гаварыць', 'віцца, развівацца' (Лаўчутэ, Балтызмы, 117).

**Ладзе́йка** 'кароткае, шырокае карыта' (КЭС, лаг.), рус. новасіб. *ладейка* 'санкі для катання з гары'. Утворана ад *ладдзя*. Параўн. рус. том. *ладья* 'круглы кошык для ягад', укр. (зах.) *лада* 'скрынка', 'труна'. Да *лодка* (гл.).

**Ла́дзіць** (драг. *ла́дытэ*, целях. *ла́діті*) 'жыць у згодзе, дружбе', 'дагаджаць, наравіць', 'прыладжваць, уладкоўваць, прыводзіць у парадак', 'быць прыдатным', 'падрыхтоўваць, рыхтаваць', 'мець намер', 'настройваць інструмент', 'рабіць зладжана', 'рабіць, ствараць', 'прыбудоўваць, прырабляць', 'рамантаваць', 'лавіць зручны момант' (Нас., ТСБМ, Бяльк., Яруш., Яўс., Касп., Шат., Сл. паўн.-зах., КЭС, лаг.), браг. 'палоць у агародзе' (Мат. Гом.), бяроз. 'гарадзіць плот' (Шатал.), 'навіваць кросны', драг. 'складваць, упарадкоўваць снапы ў гумне' (Сл. паўн.-зах.); *ла́дзіцца* 'прымошчвацца', 'каварна рабіць што-небудзь', 'навучыцца ў працэсе практыкі', 'наладжвацца', 'ісці на лад', 'збірацца, наважвацца, рыхтавацца зрабіць што-небудзь', 'шанцаваць' (Нас., ТСБМ, Бяльк., Касп., Сцяшк., Шат., КЭС, лаг.). Адыменнае ўтварэнне. Да *лад* (гл.).

**Ла́дка**$_1$, *ла́дачка* 'аладка, пернік' (Нас., Бяльк., Касп., Яруш., Шат., Яўс., Мат. Гом., З нар. сл.) у выніку адпадзення пачатковага *а-* ў *ала́дка* (гл.). Тое ж укр., рус. (паўд., дан., смал., бран.) *ла́дка* 'тс'.

**Ла́дка**$_2$, *ла́дкі, ладо́шы, ла́дачкі-ла́дкі* 'далонь', дзіцячая

гульня', 'удар па далоні лінейкай у якасці пакарання' (ТСБМ, Яруш., Бяльк., Сл. паўн.-зах., Нас.), укр, *ла́дка, ла́дки, дошки, ладу́сі, ладу́шки, ла́ді* 'далоні (дзіцячае слова)', рус. *ладка, ладки, ла́душка, ла́ды* 'далоня, далоні', 'гульня, у якой б'юць далонямі'. Усх.-слав. лексема, утвораная метатэзай ад *+долонь*<прасл. *dolnь*. Да *далоня* (гл.).

**Ла́дка**$_3$, *ла́тка, ла́дачка* 'пучок (у 3—4 жмені) сухога льну, каноплі, які знімаецца з печы ў адзін прыём і выносіцца для апрацоўкі на церніцы' (Уладз.), петрык. 'пяць-шэсць жмень нажатага жыта' (Шатал.), слуц., любан. 'пярэбірак, бярэмечка сена' (Сл. паўн.-зах.). Да *ладзіць, лад* (гл.).

**Ла́дка**$_4$ 'адарваны або адрэзаны ад старога адзення вузенькі кавалачак' (Шатал.). Паходзіць з *ла́тка* (гл.). Азванчэнне *-д-* адбылося пад уплывам дзеяслова *ладзіць* 'рамантаваць, прыводзіць у парадак'.

**Ла́дка**$_5$ 'гліняная міска' (лудз., Сл. паўн.-зах.). Да *ла́тка*$_1$ (гл.).

**Ладкава́ць** 'наводзіць парадак' (ТСБМ, Сцяшк.) у выніку кантамінацыі *ладаваць* (гл.) і *парадкаваць*.

**Ладна́ць** 'рыхтаваць, напр., драбіны, косы' (паўд.-усх., КЭС), укр. *ладна́ти* 'тс', 'збіраць (у дарогу)', рус. *ладна́ць* 'рыхтаваць, ладзіць, рамантаваць'. Запазычана з украінскай мовы.

**Ладно** 'падол' (Мат. Гом.) у выразе: *«Сядай ка мне на ладно!»* Архаізм. Параўн. прасл. *logno* 'частка цела ад кален да пояса', якое ўзыходзіць да ст.-прус. *lagno* 'штаны' (pl. tantum)<адз. лік *lagnen* 'штаніна' (Ваян, Gram. comp., 1, 92—93; Мартынаў, Проблемы реконстр. в сравн. языкозн., 168; Тапароў, K — L, 416—418).

**Ладонь,** *ладоня* 'далонь' (паўн., Сл. паўн.-зах., Мат. Маг., Мат. Гом.), *ладоначка* (Шп.), *лыданя́* 'тс' (ушац., КЭС), укр. *ладо́ня*, рус. *ладонь*. У выніку метатэзы з *долонь*<прасл. *dolnь*. Гл. *далоня*.

**Ладук** 'любісцік аптэчны, Levisticum officinale Koch' (віц., Кіс.). Відавочна, ад *ладзіць* і суф. *-ук*. Параўн. рус. *ладить* 'пры́міраць, мірыць мужа і жонку пры дапамозе пагавораў, траў і іншых знахарскіх сродкаў'. Параўн. таксама ўкр. *ла́дун* 'мак'.

**Ладу́нка,** *ладу́нкі* 'род патранташа ў кавалерыстаў', 'сумка для пораху, шроту ў паляўнічых', 'набой для стрэльбы; трубачка ў форме гільзы з порахам і шротам для аднаго зараду' (ТСБМ, Мядзв.), 'сумка' (паўд.-усх., КЭС), *ладу́нка, ладу́нык* 'скрынка для пістонаў' (Бяльк.). Ст.-бел. *ладунокъ, ледунокъ, лядунокъ* 'набой' (XVI ст.) запазычаны са ст.-польск. *ładunek, ładanek* 'тс'. Форма жан. р. пад уплывам *сумка, торба, скрынка.*



**Ла́дунь** 'царкоўны ладан' (Мядзв.), *ла́дынь* 'тс' (Бяльк.), рус. *ла́дун*. Да *ла́дан* (гл.).

**Ла́душка** 'посуд для малака' (Трубачоў, Ремесл. терм., 219), звязана з прасл. *latŭ-/latĭ-*. Параўн. *ла́тка*$_5$ (гл.).

**Ладу́шы** 'ляпёшкі, праснакі', *ладу́шачкі, ладу́шкі* 'тс' (в.-дзв., Бел. хр. дыял.; Сл. паўн.-зах.). Да *ала́дкі* (гл.).

**Ладыга**$_1$, *лады́га. лады́жка* 'сцябло расліны', 'сцябло дудкаватай расліны', 'сцябло агуркоў без лісцяў', 'ліст бурака са сцяблом', 'кветканоснае сцябло цыбулі' (Жд. 2, Нас., Сл. паўн.-зах.), польск., ст.-польск. *łodyga* 'сцябло расліны', 'галоўка з насеннем', 'сцябло капусных раслін' (чэш. і славац. *lodyha* запазычаны з польск.— Махэк$_2$, 338). Паводле пашырэння лексемы *ладыга* можна дапусціць яе паходжанне з польскай мовы. Слаўскі (5, 137) мяркуе, што гэта паўн.-слав. лексема *oldyga*, якая мае той жа корань, што і прасл. *oldi/ /oldy* 'лодка', звязанае з і.-е. **aldh-* 'выдзеўбаны ствол дрэва, лодка-чайка'. Сюды ж светлаг. *лады́га* 'вялікі, дарослы хлопец' і ўкр. *лади́га* 'луста, акрайчык хлеба' (семантычныя пераносы паводле падабенства).

**Ладыга**$_2$ 'нага ад калена да пяты', 'галёнка', *лады́жка* 'тс' (Нас.). Укр. *сулдыга* (<*sǫ-lodyga* — гл. Міклашыч, Vergl. gr., 2, 285) 'нага ад калена да пяты', рус. *лоды́га* 'заканчэнне галёнкі', 'шчыкалатка', 'косць нагі', 'бабкі', 'вялікая стапа нагі', 'падваконнік', ст.-рус. 'падножжа калоны' (з XII ст.), 'косць для гульні'. Да *лады́га*$_1$. Названа паводле падабенства касцей канечнасцей да ствала, сцябла (Слаўскі, 5, 137), параўн. таксама літ. *káulas* 'косць' — лац. *caulis* 'сцябло расліны', 'рагавы стрыжань птушынага пяра'.

**Лады́жка** 'гладыш' (Мат. Гом.), *глады́шка* 'збанок без вуха (ручкі)' (Сл. паўн.-зах., Бяльк., Сцяшк., Жд. 2), *ладыш* 'гладыш', 'круглая вонкавая частка коміна', 'цэментаваная труба ў калодзежы' (ваўк., Сл. паўн.-зах., Федар. 1., Сцяшк.), польск. люблінск. *gładyszka* 'посуд для малака'. У выніку другаснага пераасэнсавання звязваецца з лексемай *гладкі* (гл.), хаця ў сапраўднасці ўтворана ад адной з прасл. назваў гліны *latŭ-/latĭ* (Трубачоў, Ремесл. терм., 219). Адпадзенне пачатковага *г-* уласціва не толькі беларускім, але і іншым славянскім гаворкам, параўн., напр., укр. бук. *ладонький* 'гладзенькі'.

**Лады́жнік,** *лады́жніца* 'бядняк (беднячка), які ходзіць у лахманах і нібыта корміцца касцьмі' (Нас.). Да *ладыга*$_2$ (гл.).

**Ладыкы** (царк.) 'архірэі' (Булг.). Аб адпадзенні пачатковага *у* (з *в*) гл. Карскі, 1, 336—337. Да *ўладыка* (гл.).

**Лады́ч** у выразе: *даць ладыча* 'адлупцаваць' (в.-дзв., Сл. паўн.-зах.). Да *ладка*$_2$ (гл.).

**Лады́шкі** (мн.) 'косці, якімі гуляюць дзеці' (Грыг.). Да *лады́га*$_2$ (гл.).

**Ладышнік**$_1$ 'казялец едкі, Ranunculus acer L.' (брэсц., Кіс., Інстр. 2). З *гладышнік* 'тс', якое ўтворана ад *гладыш* (гл.).

**Ладышнік**$_2$ 'мальва, Malva L.' (Бяльк.). Відавочна, з *гладышнік*. Названа паводле падабенства сцябла мальвы з бутонамі (або з макаўкамі насення) да ражна, на які навешаны гладышы і гаршкі для сушкі.

**Ладэдзіць** 'доўга, няспешна расказваць, весці працяглую размову' (Нар. сл.). Да *лададзе́ць* (гл.).

**Лае́нка** 'сукенка' (Жд. 1). Суфікс па аналогіі да запазычанага з польскай мовы *сукенка*. Да *лайно* (гл.).

**Ла́енне**$_1$ 'гаўканне' (Нас.). Да *ла́яць*$_1$ (гл.).

**Ла́енне**$_2$ (зневаж.) 'шматкі, анучы' (Нас.). Да *лайно*$_2$ (гл.).

**Лаёнка**$_1$ 'адна асобая штука бялізны' (Мядзв.), 'ануча (аб чалавеку)' (Нас.). Да *лайно*$_2$ (гл.). Суф. *-ёнка* ў выніку намінацыі *+лаёная бялізна, адзежына* (як *бялёнка, цалёнка*, гл. Сцяцко, Афікс. наз., 103).

**Лаёнка**$_2$, *ла́інка* 'безупынны гоман, крык з брыдкіх, абразлівых слоў' (КЭС, лаг.). Да *ла́янка* < *ла́яць* (гл.).

**Лаж** 'даплата пры размене грошай, валюты' (ТСБМ), укр. *лаж* 'тс' запазычана з рус. *лаж,* якое з франц. *l'agio* < італ. *agio* 'выгода' (гл. Фасмер, 2, 448).

**Ла́жа** 'плата за размен грошай' (Гарэц., Нас.), укр. *ла́жа* 'задатак', 'надбаўка', польск. *łaża* 'даплата', 'прыбытак ад размену грошай'. Бел. лексема запазычана з польск. мовы (Слаўскі, 5, 73), у якой *łaża* < іт. *l'aggio*, якое з *agio* 'выгода' пры пасрэдніцтве ст.-ням. *lage, laže* (XVI ст.).

**Ла́жаны**, *лажаныя пчолы* 'пчолы з выбраным мёдам' (Нас.), ст.-бел. *лажоный* (1529 г.), ст.-рус. *лаженый* (XII ст.) 'вынуты' (г. зн. 'вулей, у які ўжо лазілі') (Фасмер, 2, 448). Да *ла́зіць*$_2$ (гл.).

***Лажа́ць**, *ложа́ць* 'прыкладаць, класці' (ТС). Рэлікт імперфектыва-ітэратыва *ložati* з суфіксам *-ati* ў апазіцыі з *ložiti* 'лажыць, класці'.

**Лажбе́нь** 'свавольнік, упарты хлопец' (Некр.), *ложбе́й, лажбе́нь* 'гультай' (уздз., Жд. 3), *лажбе́ль* 'непаваротлівы таўстун' (Шат.). Рус. варонеж. *ложбень* 'вялікі, моцны, але гультаяваты чалавек'. Сюды ж лексема *лазьбень* 'аб падлетку — няўклюда, тупіца' (кіраў., Нар. сл.) з менай *ж//з*. Метатэза адбылася пад уплывам дзеяслова *ляжа́ць*. Балтызм. Параўн. літ. *labžà* 'неахайны', 'нявыхаваны чалавек'.

**Лажбі́на** 'паніжанае месца' (Інстр. 1), 'нізіна' (Яўс.), рус. *ложбина* 'неглыбокі роў, упадзіна'. Бел.-рус. рэгіянальнае



ўтварэнне ад *лог* (гл.) і суф. *-ба* (< *-ьba*) з пазнейшым наслаеннем *-ін-а*. Сюды ж *лажбінны* 'нізінны' (Яўс.). У іншых славян без *-б-*, напр., чэш. *ložina* 'тс', славен. *ložína* 'поле на стромай гары, якое нельга араць, а толькі капаць'.

**Лажме́й** 'пахілая страха' (паст., Сл. паўн.-зах.). Балтызм, утвораны ад літ. *leznùs* 'пахілы' і суф. *-mė*, да якога пазней далучыліся *-й* (па аналогіі з бел. суфіксам *-ей: мане́й, цэляпе́й* і г. д. Параўн. таксама лат. *lęzns* 'пахілы'.

**Лажні́ца** 'спальня', 'адпачывальня' (Нас., Бяльк.; мсцісл., З нар. сл.), укр. *ложниця,* рус. *ло̀жница,* ст.-польск. *łożnica,* чэш. *ložnice*, славен. *lôžnica* 'тс', серб.-харв. *ло̏жница* 'спальня', 'пасцель', балг. *ложница.* Прасл. *ložьnica*. Да *лажы́ць* (гл.).

**Лажня́** 'посуд на мёд' (Гарэц.) — бел. рэгіяналізм, утвораны ад *ла́зіць*$_3$ (гл.) і суф. *-ьня* (са значэннем прадмета дзеяння, як і *сяўня́*).

**Лажок** 'лагчына' (Сл. паўн.-зах.), 'лужок, упадзістае месца сярод поля' (Нас.,ТСБМ), 'лужок з вадою' (Рам., 8). Памяншальнае да *лог* (гл.). Сюды ж жлоб. *лажок* 'паз у бервяне' (Мат. Гом.).

**Лажы́ць**, *ложы́ць* 'класці', *лажы́цца, ложы́цца, ложы́ціса, лажы́тысь, ляга́тыса* (ТСБМ, Гарэц., Др.-Падб., Нас., Бяльк., ТС, Яруш., Шат.), 'укладваць' (Сл. паўн.-зах.), 'класціся спаць', 'апранаць', 'надзяваць', 'пакладаць' (Там жа); укр. *ложити(ся)* 'лажыць, лажыцца', рус. *ложить(ся)*, польск. *łożyć (się)*, н.-луж. *łožyś*, чэш. *ložiti,* мар. *ložit'* (зах.-слав. формы ўжываюцца пераважна з прэфіксамі), славен. *ložíti* (*lóžiti*), серб.-харв. *ло̀жити*, чак. *ložȉti*, макед. *ложи, ложам,* балг. *ложа,* ст.-слав. **ложити** 'класці, ставіць'. Прасл. *ložiti, ložǫ* з'яўляюцца каўзатывам да *ляжаць*, які мае адпаведнікі ў германскіх мовах: гоц. *lagjan*, ст.-ісл. *leggja*, ст.-в.-ням. *leggan* 'класці' (Бернекер, 1, 897; Фасмер, 2, 511; Слаўскі, 4, 250—253; Торп, 358 і інш.).

**Лажэтнік**$_1$, *лажэчнік* 'прыстасаванне (месца ў паліцы з выемкамі) для захоўвання лыжак' (Сцяшк., ТСБМ, ТС; ваўк., КЭС), пераноснае 'ручка лыжкі' (івац., Сл. паўн.-зах.). У выніку распадабнення суседніх *ж* і *ш* апошняе перайшло ў *т*. Утворана ад зах.-бел. *ложка* і суф. *-еш-нік*, як і іншыя гродз. рэгіяналізмы, напр., *качаргешнік, памялешнік* (Сцяцко, Афікс. наз., 153).

**Лажэтнік**$_2$ 'від загароды ў вадаёме для лоўлі рыбы' (іўеў., Сл. паўн.-зах.) — у выніку пераносу з *лажэтнік*$_1$, які з пастаўленымі ў ім лыжкамі выглядае як *рашотка,* параўн. *гра́ткі* 'рашотка', 'пярэплат', в.-дзв. 'жэрдкі ў асеці, на якіх сушылі снапы' (Сл. паўн.-зах.).

**Лаз** 'лясная сцежка' (Бяд.), 'улюбёнае месца пераходу звера' (Сцяшк., Інстр. 2), 'праход у сцяне, у плоце' (Гарэц.), 'уваход у яму, склеп' (Інстр. 2, Сцяшк., ТСБМ), паст. 'адтуліна ў столі для праходу на гару', *лазы* 'дзверцы ў склепе' (Сл. паўн.-зах.), *лазам лазіць* 'настойліва лезці' (Шат.). Укр. *лаз* 'лясны праход звяроў', 'лясная паляна', 'расчышчанае месца ў горным лесе для агарода', 'пралаз', гуц. 'луг', лемк. *цazy* 'зарослыя кустамі лугі', рус. *лаз* 'сцежка лясных звяроў', 'лясная сцежка', *лазы́* 'пралаз', *ла́зи́на* 'ляды', польск. *łaz, łazy* 'ляды', н.-луж. *łaz, łazy* 'тс', чэш. *láz, laz* 'тс', 'поле ля лесу', славац. *laz, lazy* 'ляды на склонах гор', 'хутары на лядах', славен. *lâz*, серб.-харв. *ла̏з, ла̑з*, макед. *лаз* 'просека', 'ляда'. Прасл. *lazъ* 'ляда'. Ад *laziti*>*лазіць* (гл.). Падрабязней гл. Фасмер, 2, 448—9; Слаўскі, 5, 56—60; Куркіна (Этимология-1968, 93), Сэндзік, Term roln., 66—68, 100—105. Кабылянскі (Мовознавство, 6, 1981, 46) памылкова адносіць *лаз* да ліку славянскіх балкана-карпатызмаў, параўноўваючы яго з рум. *laz* 'цаліна, расчышчанае месца для раллі', *lăzuíre* 'расцяроб (лесу)'.

**Лаза́**, *лоза́* 'кусты і галлё некаторых парод вярбы, вінаграду' (ТС, ТСБМ, Бяльк., Сл. паўн.-зах.), 'вярба вушастая, Salix aurita L.' (Кіс.), 'вярба попельная, Salix cinerea' (Кіс.), *лаза белая* 'вярба белая, Salix alba L.' (Касп.). Укр. *лоза*, рус. *лоза, лозина*, ст.-рус. *лоза* 'вінаград', польск. *łoza*, ст.-чэш. *loza*, славац. *loza, lodza*, славен. *lóza*, серб.-харв. *ло̀за*, макед. *лоза*, балг. *лоза*, ст.-слав. **лоза.** Прасл. *loza* 'гнуткі дубчык, галінка', пазней 'вярба', 'вінаградная лаза'. На след першаснай матывацыі наводзяць балг. *ло́зя* 'віцца, выгінацца, зварочваць' і літ. *lóžinti* 'выгінаць, згінаць трохі' (Слаўскі, 5, 240). Роднаснымі з'яўляюцца літ. *lazdà* 'кій, арэшнік', 'нацiна бульбы, бобу, цыбулі', *lazà* 'палка', 'арэшнік', лат. *lagzda, lazda, lęgzda* (аб балт. *-zd-*, якое адпавядае слав. *-z-*, гл. Уленбек, KZ, 40, 552—561; Леві, KZ, 40, 422; Слаўскі, SP, 1, 427), ст.-прус. *laxde* 'тс', алб. *lajthi, lejthi, lethi* 'арэшнік', перс. *räz* 'лаза'. Магчыма, *лаза* звязана са слав. *lěska* 'кій' (Эндзелін, ИОРЯС, 17, 4, 120). Непераканаўча Бернекер (736): прасл. *loza*<*lasā*; неверагодна Махэк (Recherches, 10, 25 і наст.), які параўноўвае лексему з літ. *lasà, lèsti* 'корм', 'дзяўбці'; няпэўна звязваць яе са ст.-грэч. ὀ-λόγινονὀζῶδες (у Гесіхія). Непрымальнымі з'яўляюцца і іншыя версіі, пералічаныя Фасмерам (2, 512—513), Слаўскім (5, 240—241).

**Лазавік**$_1$ 'мёд, які збіраюць з борцей вясной (астаткі леташняга)' (Маш.) — ад *лазавы мёд*<*лаза* (відавочна, таму, што вясной пчолы збіраюць пылок з коцікаў на лазе і вярбе). Утворана паводле мадэлі *верасавік* (БелСЭ, 7, 168). Не выключана і магчымасць кантамінацыі *лазіць* і *сакавік* (*красавік*).



**Лазавік**$_2$ 'жыхар балотнага краю' (экспр.) (Шат.), 'лясун' (Мат. Гом.). Ад *лазавы* (*жыхар*) 'які жыве ў лазе'. Да *лаза́* (гл.).

**Лазавік**$_3$ 'вялікі цёмны лешч, які нерастуе ў сярэдзіне красавіка, калі з'яўляюцца першыя лісткі на лазе' — басейн Нёмана (Жукаў, Рыбы, 1958, 115). Да *лаза́* (гл.).

**Лазавікі** 'лазовыя лапці' (Касп.). Да *лаза́, лазовы* (гл.).

**Лаза́к** 'верхалаз' (добр., Мат. Гом.), рус. *ла́зак, лаза́ка* 'той, хто добра лазіць па дрэвах', 'збівальшчык кедравых шышак', н.-луж. *łazak* 'той, хто лазіць'. Да *ла́зіць* (гл.).

**Лазаніца** 'расліна Lysimachia nummularia L.' (брэсц., гродз., Кіс., ТС, БелСЭ, 6). Утворана пры дапамозе суф. *-(а)ніц-а* ад *лаза́* (Сцяцко, Афікс. наз., 164), параўн. і іншыя назвы ад таго ж кораня: *лазойка, ніцая лаза*, ці ад *вярба:* гродз. *вярба*, маг. *вярбішнік*, укр. *вербозіль, вербозілля лучне*, рус. *вербейник*, чэш. *žlutá vrbina*. Матывацыя: расліна рассцілаецца, «паўзе» па зямлі, адсюль і наступныя назвы рус. *повитель, поползушник*, укр. *повій жовтий, волокник*, серб.-харв. *змијац*, польск. *tojeść rozesłana* і інш.

**Лаза́нкі**, *лоза́нкі, лаза́нка, лаза́нька, лаза́начка* 'мучныя ляпёшкі, якія паліваюць смятанай ці маслам' (Вешт., карэліц., Весці, 1969, 4), 'адвараныя ляпёшкі з мукі, якія ядуць з алеем і зялёнай цыбуляй' (Нас., Сл. паўн.-зах.) 'крохкае печыва, прыгатаванае з мукі на вадзе', 'печыва, якое палівалі пацёртым, падсалоджаным макам з малаком з ільнянога семя', 'галушкі з цёртай бульбы', брасл. 'локшыны' (Сл. паўн.-зах.). Запазычана з польск. *łazanki* 'квадратныя ці ромбавідныя клёцкі', якое з італ. *lasagne* (мн. л.), *lasagna*<лац. **lasania*<*lasanum* 'гаршчок'<ст.-грэч. λάσανον (Слаўскі, 5, 60).

**Лазарэ́т** 'бальніца для бедных', 'шпіталь пры вайсковай часці' (ТСБМ). Запазычана, відавочна, праз рускую мову, хаця ёсць польск. *lazaret* і *łazaret* (апошняе ў слоўніку Міцкевіча (Sł. Mickiewicza, 4, 23)). Першакрыніцай з'яўляецца дыял. венец. *lazareto*, італ. *lazzeretto* (зараз *lazzaretto* 'бальніца, прытулак для пракажоных' — ад назвы касцёла Santa Maria di Nazaret (пры якім быў прытулак), якая змянілася пад уплывам імя пракажонага Лазара (Евангелле ад Лукі, XVI, 20)). Венецыянская назва распаўсюдзілася ў еўрапейскіх мовах, а ў 1714 г. з'явілася і ў рускай (Фасмер, 2, 449; Слаўскі, 4, 81—82; Клюге$_{17}$, 428 і інш.).

**Лаза́ты** 'д'ябал, які жыве ў лазе' (Зайцава, Лінгв. дасл.) —

субстантыўны прыметнік, утвораны пры дапамозе суф. *-ат-ы* (Бел. гр., 1, 200). Да *лаза́* (гл.).

**Ла́заць** 'лазіць, узбірацца ці апускацца ўніз', 'хадзіць па чым-небудзь', 'сноўдацца' (шальч., воран., іўеў., Сл. паўн.-зах.), рус. арханг. *лазать* 'лезці', сіб. 'упадаць, заляцацца', размоўнае *лазать* 'лазіць', укр. бук. *лазати* 'лазіць', 'абрыдаць частым наведваннем', харв. суч. *lázati* — шматразовы дзеяслоў, утвораны ад *lazъ*>*лаз* (гл.) пры дапамозе суф. *-ati*.

**Лазачок** 'куст вярбы Salix cinerea', 'зараснік такой лазы' (Федар. Дад.). Утворана ад незафіксаванага +*лазак* (як *ліпак, беразняк* — гл. Сцяцко, Афікс. наз., 202) пры дапамозе памяншальнага суф. *-ок*. Да *лаза́* (гл.).

**Лазбава́ць,** *лазьбава́ць* 'падглядаць пчол', перан. 'рабаваць' (смарг., паст., Сл. паўн.-зах.; мядз., Нар. словатв.), ст.-польск. *łaźbić* 'браць мёд і воск' (XIV ст.). Ітэратыў ад прасл. рэгіяналізма *lazьbiti*<*lazьba*<*laziti*. Да *ла́зіць*$_2$ (гл.).

**Лазба́н**, мсцісл. *лызба́н, лызба́нка* 'галава' (З нар. сл., Растарг.). Пераноснае з *лазба́н* 'збан', як віц. *лачба́н* 'збан', *лъчба́н* 'галава' (Нар. лекс.). Да *лазбень*$_1$ (гл.). Пры семантычным пераносе суф. *-ень* (для назвы прадметаў паводле іх прызначэння) быў заменены экспрэсіўным суф. *-ан,* як *сталбан, начван* і інш. (гл. Сцяцко, Афікс. наз., 147).

**Лазбе́нік** 'каробка, з якой ходзяць у лес па ягады' (ст.-дар., Нар. словатв.). Да *лазбе́нь*$_1$ (гл.).

**Ла́збень**$_1$, *ла́зубень* 'лубянка з ліпавай кары ці з дрэва на мёд' (Маш., Бяльк., Нас.; палес., ст.-дар., З нар. сл., Сл. паўн.-зах.), *лажбе́нь* 'тс' (Некр.), 'мера для масла, мёду, саленняў' (Інстр. 3), 'няўклюда, расцяпа' (Сл. паўн.-зах.), рус. *лазбень* 'бочачка з вечкам', 'скрынка з дрэва, кубел для адзежы'. Ст.-бел. *лазбень* (XVI ст.) і ст.-польск. *łaźbień* называюць іншую рэалію — лавачку, на якой сядзеў бортнік, падглядаючы пчол. Утворана ад *lazьbiti* і суф. *-епь* (як *грэбень*) (гл. Слаўскі, 1, 125; Вярхоў, Аб нек. асабл., 33—40; Фасмер, 2, 449; Лізісова, ABSl, 13, 1980, 49—50).

**Лазбе́нь**$_2$ 'хлопец з вялікім ілбом' (Жд. 2, Нас., Бяльк.), 'поўны, здаровы чалавек' (Бяльк.). Да *лабзень* (гл.).

**Ла́збіны,** *ла́зьбіны, ла́дзьбіны, ла́цьбіны* 'падразанне мёду і гулянка з гэтай нагоды' (Гарэц., Др.-Падб.; гродз., З нар. сл., Сл. паўн.-зах.). Польск. *łaźbiny* 'тс' (у І. Ходзькі). З польск. ці бел. і ў літ. мове: *lazbýnos* 'тс'. Прасл. *lazьbiny* (<*lazьbina*), як *gostina, krьstiny*, утворана ад *lazьba*<*laziti*. Да *лазіць*$_2$ (гл.).

***Лазбыр,** *лазбырь* 'самы верх узгорка, узвышэння' (мсцісл., З нар. сл.) — у выніку перастаноўкі суседніх зычных з +*лабзыр* (па аналогіі, як, напр., экспрэсіўнае смал. *лабзень*>*лазбень* 'лоб'), якое ўтворана, як і *лабыр* 'лабок, высокае месца' (Бяльк.).



**Лазга́н** 'доўгае, тоўстае сцябло', 'празмерна высокі нязграбны мужчына' (Зданцэвіч, LP, 1960, 344). Відавочна, утворана з літ. *lazdà* 'палка', 'арэшына', 'сцябло', *lazdýnas* 'арэшнік'.

**Лазгата́ць** 'балбатаць, лапатаць' (паўн.-усх., КЭС) звязваецца з літ. *lazgė́ti, lazgù* 'развівацца, трапацца на ветры' (Буга, Rinkt., 1, 458). Параўн. рус. пск., смал. *лазготать* 'тс'.

**Лазе́бнік** 'сторaж, памагаты ў лазні' (Др.-Падб.), ст.-бел. *лазебникъ* 'уладальнік лазні' (1490 г.). Запазычана са ст.-польск. *łaziebnik* (Булыка, Запазыч., 184; Лекс. запазыч., 90).

**Ла́зіва,** *ла́зіво, ле́зыво, лі́зыво, ле́зіво, лье́зіво, ле́зьво* 'драбіны, лесвіца лазіць да коміна' (стол., Нар. сл.; іўеў., трак., Сл. паўн.-зах.), 'вяроўка з дошчачкамі, пры дапамозе якой пчаляры лазілі на дрэва' (З нар. сл., Сл. паўн.-зах., ЛАПП), зах.-укр. *ла́зиво, ла́зило* 'тс', рус. *лезево*, польск. *łaziwo* (>чэш. *lezivo* 'тс'). Дзендзялеўскі (Укр.-зах. парал., 169) адносіць гэту лексему да ўкраінскіх (усх.-слав.) — польскіх агульных лексічных утварэнняў. Слаўскі ж (5, 68) мяркуе, што польск. слова запазычана з бел. мовы. Аднак наяўнасць чэш. фіксацыі дае магчымасць аднесці лексему да прасл. *lazivo/lezivo* (гл. Варбот, Слав. языкозн., VII, 1973, 95). Да *лаз, лазіць* (гл.).

**Ла́зік** 'той, хто ўсюды лазіць, сваволіць, верхалаз' (міёр., З нар. сл.). Малапольск. *łazik* 'бадзяга, здольны і ўкрасці што-небудзь', у літаратурнай мове — новае, але ёсць некалькі вытворных. Відаць, бел. лексема запазычана з польскай мовы на ўсходніх крэсах. Утворана ад дзеясл. *łazić* пры дапамозе суф. *-ik* (Слаўскі, 5, 68). Гл. *лазікаваць*.

**Лазікава́ць** 'ленавацца, ухіляцца ад работы' (карэліц., Нар. сл.) запазычана з польск. *łazikować* 'бадзяцца; занядбаць, пакінуць работу'. Да *ла́зік* (гл.).

**Ла́зілка** 'лесвіца' (Касп.). Беларускае ўтварэнне ад *лазіць* і суф. *-лк-а* (прыклады іншых лексем з гэтым суф. гл. Сцяцко, Афікс. наз., 51).

**Лазініца** *лясная* 'лясная незабудка, Myosotis silvatica Hoffm.' (маг., Кіс.). Утворана ад *лазін-ы* (<*lozěn-*) і суф. *-іц-а*. Да *лаза́* (гл.). Матывацыя: падабенства сцяблоў кветкі (20—40 см) да галін лазы.

**Лазінка**$_1$ 'павойнік суцэльналісты, Clematis integrifolia L.' (гродз., Кіс.). Рэгіянальная назва, якая матывавана падабенствам да лазы — уласцівасцю віцца, згінацца. Тое ж маем і ў іншых мовах: серб.-харв. *пȁвит*, балг. *павит* (ад *viti sę* 'тс'), паўд.-славац. *svit*, лат. *mežviteņi* 'павойнік'.

**Ла́зінка**$_2$ 'загнет' (Мат. Гом.), рус. *лазина* 'ўваход, праход, пралаз'. Да *лаз* (гл.). Аб суфіксе *-інка* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 43.

**Лазі́ца** 'дробная і тонкая лаза' (Нас.), *лазі́ца, лазі́чка* 'лазняк' (Юрч. Вытв.), серб.-харв. *ло̀зица,* макед. *лозица, лозичка,* балг. *лозица* — памянш. ад *лоза* 'вінаград'. Бел.-паўд.-слав. словаўтваральная паралель.

**Ла́зіцца** 'мыцца ў лазні' (маз., Мат. Гом.). Бел. рэгіяналізм, утвораны ад +*лазніцца* (<*ла́зня*), у якім *-н-* выпала (параўн. Карскі, 1, 325).

**Ла́зіць**$_1$, *ла́зіті, ла́зыты* 'поўзаць' (Нас., Яруш., ТСБМ), 'чапляючыся, узбірацца ўверх або апускацца ўніз' (ТСБМ, Нас., Бяльк., Касп., Яруш.), 'хадзіць, снаваць', 'прабірацца скрытна, паўзком, сагнуўшыся і вяртацца назад', 'шукаць, намацваць, забіраючыся рукою ў што-небудзь' (ТСБМ, Сл. паўн.-зах.). Укр. *лазити,* рус. *лазить,* ст.-рус., ст.-бел. *лазити,* польск. *łazić,* н.-луж. *łazyś,* в.-луж. *łazyć,* ст.-чэш. *laziti,* мар. *łazit'*, славац. *lazit'*, славен. *láziti*, серб.-харв. *ла̏зити,* макед. *лази,* балг. *лазя,* ст.-слав. **лазити**. Прасл. *laziti, lazję* 'поўзаць, паволі пасоўвацца ўверх пры дапамозе рук'. Ітэратыўны дзеяслоў — да *ле́зці* (гл.). Сюды ж: *лазам лезці* 'настойліва лезці' (Шат.).

**Ла́зіць**$_2$ ***пчол*** 'падразаць мёд у пчол' (Гарэц., Нас., Др.-Падб.) — у выніку семантычнага пераносу з *ла́зіць*$_1$ 'узбірацца ўверх (на дрэва) да борці'>'выбіраць мёд з яе'. Да *ле́зці* (гл.). Сюды ж *лазенне* 'выбіранне мёду з борцей' (Нас.), *лажаны* (гл.).

**Ла́знік**$_1$, *ла́зьнік* 'сядзібны дух, дамавік, які (пераважна) знаходзіўся ў лазні' (Нік. Няч., Інстр. 2, Бяд., Мат. Гом.). Да *ла́зня* (гл.). Суфіксацыя, як у *хлеўнік, хатнік, гуменнік, ёўнік* (гл.).

**Лазні́к**$_2$ 'птушка бугай малы, Ixobrychus minutus' (Інстр. 2), відавочна, *лазнік* (націск на *-ік,* калі прыняць пад увагу гнездаванне птушкі — у лазняках і чароце — БелСЭ, 2, 441). Да *лаза́* (гл.). Лексема ўзнікла ў выніку універбізацыі словазлучэння, якое складалася з прыметніка і назоўніка, параўн. стол. *лозяный вовк,* петрык. *лозяны воўчок* 'тс' (Нікан.). Аналагічна польск. *trzcinnik* 'тс'<*trzcina* 'чарот'.

***Лазну́ха,** *лозну́ха, лозьню́ха́, лазня́* 'вялікая чорная балотная птушка лысуха, вадзяная курачка' (Дразд., ТС), *лазню́га* 'бугай малы, Ixobrychus minutus L.' (Інстр. 1, Федз.-Долб.), *лозяный воўк* 'тс' (Нікан.). Укр. валынск. *лознюха* 'тс'. Да *лаза́* (гл. Шыла, Совещ. ОЛА (Гомель), 234) шляхам намінацыі (Булахоўскі, Выбр., 3, 273).



**Ла́зня,** *ла́зьня* 'памяшканне, дзе мыюцца і парацца' (Нас., Гарэц., Мядзв., Мал., Бяльк., Касп., Шат., Грыг., ТСБМ, Сл. паўн.-зах.), 'сушня, будынак, у якім труць лён' (Бір. Дзярж., КЭС, лаг.; салig., З нар. сл.). Укр. *ла́зня* 'лазня', 'хаціна з маленькім уваходам', 'яма для захоўвання збожжа', рус. *ла́зня* 'падвал', 'лесвіца', 'лаз у яму', ст.-рус. *лазня* (з XII ст.), якое, несумненна, паўднёва-заходняга паходжання (гл. Філін, Происх., 571); польск. *łaźnia* 'лазня' (з XV ст.), н.-луж., в.-луж. *łaznja* 'лазня, ванна', чэш. *lázeň* 'тс', 'купанне', *lázně* 'курорт', паўд.-чэш. *lazna* 'стаў'. Паўн.-слав. дыялектызм. Прасл. *laznь* і *lazьnja* ўзніклі ў розныя часы: першасны дэрыват *laz-nь* (як *kaz-nь*);*laz-ьnja,* утвораная ад *lazьnъ(jь)*<<*lazъ,* параўн. укр. *лазня піч,* ст.-польск. (XVI ст.) *co dalej to wyszsze jako w łaźniej* 'а далей — усё вышэй, як у лазні' (Слаўскі, 5, 72). Да *ла́зіць* (гл.). Параўн. ст.-рус. *влазити, влѣзти въ баню.* Лазня першапачаткова азначала месца, куды лазілі: уніз→у яму (дзе была печ), уверх на палок у лазні (Машынскі, Kult., 1, 607—608; Бернекер, 697; Брукнер, 308; Шрадэр, Reallexikon, 1, 74; Зяленін, AfslPh, 32, 601). Іншыя версіі падлягаюць сумненню: паводле Махэка$_2$ (322), прасл. *laznь* трэба чляніць *la-znь*, у якім *la-*<i.-e. **lavə-*, параўн. лац. *lavāre* 'мыць, мыцца', хец. *lā-* 'тс'. Гэта прыняў і Вахрас (ScSl, IX, 1963, 166—167), дапускаючы, што сувязь з *лазіць* другасная. Ёстэррайхер (16, 10) звязвае *лазню* з *lazъ* 'выкапаная яма'. Міклашыч (161) памыляецца, калі выводзіць яе са ст.-грэч. *λάσανον*, лац. *lasanum* 'сасуд'. Кіслоўскі мяркуе, што касцюк. *лазня* — паланізм (КЭС). Гл. яшчэ Краўчук, УМШ, 1960, 6, 50—62.

**Ла́зня**$_2$ 'прыстасаванне для лазання на дрэва' (Інстр. 1), рус. *лазня* 'лесвіца, драбіна, лескі'. Да *ла́зіць* (гл.) (аб суф. *-ня* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 58).

**Ла́зня**$_3$ 'дзіцячая гульня' (ТС). Няясна.

**Лазобка** 'драўляны посуд (з ліпы), куды зліваюць мёд (ветк., Мат. Гом.; паўд.-усх., КЭС) або ссыпаюць муку' (Бяльк., Гарэц., Др.-Падб., Інстр. 1, Юрч., Яруш., Малч.), 'кошык, дно якога складаецца з рэдкага лыкавага пераплёту' (Грыг.), 'кадушка аб'ёмам у тры гарцы' (Нас.), рус. смал. 'выдзеўбаная кадушка для мёду'. Бел.-рус. ізалекса. Да *ла́збіць* (гл.), як і *лазбень,* толькі з іншай суфіксацыяй. Параўн. таксама рус. *лозобка* 'вулей' (без месца — Даль).

**Лазок** 'грузіла ў рыбалоўных снасцях' (Крыв.), *лазкі* 'грузіла сеткі з каменьчыкаў' (Браім, 42), укр. *глазки* 'алавяныя грузілы ў невадзе'. Да прасл. *glazъ* 'камень'. Параўн. польск. *głaz* 'камень, кавалак скалы', ст.-чэш. *hlazec* 'від каменя'. Узнікла ў выніку страты пратэтычнага *g-* (Петлева, Этимология-76, с. 53).

14. Зак. 3479

**Лазорак** 'сцізорык' (Касп.) — вершавае кантамінаванае слова, утворанае ад *лязо* (гл.) і *сцізорык* (гл.).

**Лазоўка**$_1$ 'пасудзіна з лазы для мёду' (слуц., КЭС, Інстр. I; добр., Мат. Гом.). Да *лазобка* (гл.).

**Лазоўка**$_2$ 'глінабітнае памяшканне' (раг., Мат. Гом.). Да *лаза́* (гл.) — плеценая сцяна з лазы служыла асновай, на якую ляпілі гліну.

**Лазоўка**$_3$ 'сорт бульбы' (ветк., Мат. Гом.). Няясна. Магчыма, з +*глазоўка*<*глазкі* 'вочкі на бульбе'.

**Лазоўка**$_4$ 'адзін з сартоў канюшыны, які дае два ўкосы ў год' (ТС) і *лазоўка*$_5$ 'лазаніца, Lysimachia nummularia' (ТСБМ, БелСЭ. 6) названы паводле падабенства да *лазы*. Гл. *лаза́*.

**Лазоўнік** 'зараснік лазы' (шчуч., Сл. паўн.-зах.). Утворана ад *лаза́* (гл.) з характэрным для аг.-бел. тэрыторыі суф. *-оўнік* (*-эў-нік*). Гл. Сцяцко, Афікс. наз., 206.

**Лазоўніца** 'чаротаўка, Calamoherpe phragmit' (паўн.-зах., КЭС). Утворана ад *лазоўнік* (гл.). Параўн. таксама *лазнік*$_2$ (гл.).

**Лazу́н** 'майстар, ахвотнік высока лазіць (аб дзецях)' (ТСБМ), 'сысун (аб цяляці)' (Касп.). Да *ла́зіць* (гл.).

**Лазу́р**, *лазу́рак* 'блакіт', 'фарба светла-сіняга колеру' (ТСБМ; іги., Сл. паўн.-зах., Касп.), *лазу́рка* 'тс' (Нас.), ст.-бел. *лазоръ, лязуръ* 'блакітны камень, блакітная фарба' (пач. XVII ст.) запазычаны са ст.-польск. *lazur* (Булыка, Запазыч., 187)<с.-в.-ням. *lāsūr(e)*<с.-лац. *lazurium, lasurium*<араб. *lāzaward*<перс. *lādžwārd* 'лазурыт', 'колер гэтага блакітнага каменя', 'блакітная фарба' (Слаўскі, 4, 83).

**Лазу́тчык** 'разведчык у тыле ворага, шпіён' (ТСБМ), ст.-рус. *лазут(ь)никъ, лазутьчикъ*, рус. *лазутчик* 'тс', *лазу́та* 'проська, жабрак', якія Фасмер (2, 450) узводзіць да старога дзеепрыметніка *lazǫtъ*. Аднак славен. *lazútati* 'поўзаць, лазіць', *lazútelj* 'бадзяга' уносяць дадатковыя цяжкасці пры тлумачэнні асновы *лазут-*. Бел. лексема запазычана з рус. мовы (Крукоўскі, Уплыў, 74). Параўн. таксама ст.-бел. *лазукъ, лазука* 'разведчык' (XVI ст.), *лазуцтво, лазучство* 'бадзянне', якія можна вывесці з *лазити*>*лазіць* (гл.). Ад *лазук(а)* паходзіць *лазучыць* 'віжаваць, шпіёніць, выведваць' (Нас.), у процілеглым выпадку (<*lazǫt-*) было б *лазуціць*.

**Ла́зы** 'лесвіца, прыстасаванне для лазання (пад'ёму) на дрэва, каб глядзець пчол' (Сцяшк., Інстр. I, Мат. Гом.), магчыма, рус. *лазы* 'прыстасаванне на дрэве для падпільноўвання мядзведзя' — pluralia tantum ад *лаз* (гл.).

***Лазя́нка**, *лозянка* 'птушка бугай, Botaurus stellaris L.' (Маш., ТС) — у выніку намінацыі словазлучэння з прым. *лазяны* пры дапамозе суф. *-к-а*. Да *лаза́* (гл.). Параўн. польск. *kamionka, lnianka*. Толькі палескае (Карскі, Труды, 479).



**Ла́йба**$_1$ 'барліна, баржа, вялікая лодка з дзвюма будкамі грузападымальнасцю ў 5—10 т' (Гарэц., Касп., Дэмб. 1, Яруш., Рам. 8, Нар. сл., КЭС, лаг.), 'вялікая парусная лодка з двума парусамі' (ТСБМ). Укр. *ла́йба*, рус. *лайб, ла́йба* 'баржа, лодка', ст.-рус. *лоива* 'судна ў наўгародцаў, немцаў, карэлаў', польск. *łajba* 'баржа на Заходняй Дзвіне', літ. *laĩvas, laĩvė* 'карабель', *laivà*, лат. *laĩva* 'лодка'— усе з фін. *laiva* 'лодка, судна' (Фасмер, 2, 450—451; Бернекер, 686; Фрэнкель, 335; Слаўскі, 4, 434). Лаўчутэ (Балтизмы, 145), Блесэ (SB, 4, 1935—1936, 14) лічаць, што ў слав. мовах — гэта балтызм. З балт. моў слова было запазычана ў фінскія (Буга, Rinkt, 1, 309—311). Сюды ж *лайбоўшчык* 'шкіпер на лайбе' (дзвін., Нар. сл.).

**Ла́йба**$_2$ 'вялікі воз для перавозкі сена' (Сл. паўн.-зах.) — паводле Грынавецкене, запазычана з літ. *láiva* 'воз з кузавам' (Сл. паўн.-зах. 2, 612). Сюды ж пераносныя: *ла́йба* 'карова з вялікім жыватом', *ла́йба, ла́йбіна* 'вельмі тоўстая, здаровая жанчына' (З нар. сл.), 'тоўсты чалавек' (Сл. паўн.-зах.).

**Лайба́** 'лаянка' (Нас.). Да *ла́яць*. Утворана пры дапамозе суф. *-ба*, як і *клятба, бажба, барацьба* і інш.

**Ла́йбанка** 'лаянка' (шчуч., Нар. лекс.) — кантамінацыя з *лайба* і *лаянка*.

**Ла́йбус** 'гультай, лежабок' (Яўс.). Відавочна, звязана з *лайба*$_2$. Суф. *-ус* надае адмоўную характарыстыку. Параўн. *вісус, біндус*, польск. *garbus* 'гарбун', *wiarus* 'стары салдат'.

**Лайда́к** 'гультай, лянівы, бяздзейны, лодар', 'круцель, хітрун, шэльма', 'п'яніца' (Нас., ТСБМ, Касп., Мядзв., Сцяшк., Сл. паўн.-зах.), 'распусны, амаральны чалавек' (КЭС, лаг.), *лайда́чына* 'гультай, гультайка' (Сл. паўн.-зах.), *лайдачы́на* 'тс', 'хлус' (Шат.). Укр. *ла́йда́к, лайда́ка, лайдачи́на*, рус. зах. прыбалт. *лайда́к* 'тс', паўдн.-рус. 'нягоднік, хлус, гуляка', зах.-бран. *лайда́ка* 'гультай', польск. *łajda, lajda, łajdak, łajdach, łajduś lajdus, łajduń, łajdemus*, каш. *łaidωk, łeidωk, łajdak* 'падлюга, нягоднік, прахвост, паганец', чэш. *lajdák* 'лодыр, нядбалы', мар. *l'ajda* 'бадзяга', славац. *lajdák* 'лайдак, неахайны', славен. *lâjdər* 'бадзяга'. Славянскае паходжанне (з *ladaco, ladajaký* — Міклашыч, 162) адкідаецца Фасмерам (2, 450), які мяркуе (а ўслед за ім і Кюнэ, Poln., 73), што ва ўсх.-слав. мовы слова прыйшло з польск. *łajdak*, якое з н.-в.-ням. *landern*, с.-в.-ням. *lendern* 'бадзяцца' (таксама і Бернекер, 1, 686). ESSJ SG (2, 408) дапускае ўзнікненне *lajdak* у выніку дээтымалагізацыі дэрыватаў слова *ledajaký*

(з заменай $l > ł$). Праабражэнскі (430), Эндзелін (ЖСт, 3, 252), Карскі (Труды, 396) паводле дыфтонга *-ай-* бачаць крыніцу гэтай лексемы ў балт. мовах. Брукнер (305—306), Слаўскі (4, 435) мяркуюць, што ў польск. мове гэта запазычанне з чэш. мовы, а з польскай тэрыторыі слова пашыралася ў бел., рус., укр. і літ. мовы. Махэк₂ (318) прызнае за словам *lajdák* (якое з чэш. пашырылася і на славац. тэрыторыю, а адтуль — на вянг. гаворкі) першаснае значэнне з адценнем 'бяздзейнасці, маруднасці, неахайнасці, абыякавасці ў працы', а 'бадзяцца' — другасным, выводзячы лексему *lajdák* (а з яе пасля ўжо ўтварыліся дзеясловы *lajdačiti, l'ajdat se* і інш.) з прыметніка *ledajaký*. Як заўважае Трост (NŘ, 4, 1979, 224), змена *ledajaký > lajdák* з'яўляецца нечуванай з'явай, і сцвярджае, што *-ak-* славянскі суфікс, а чэш. *lajda* (*l'ajda*) паходзіць з *lajdat*, якое з *landat*, а апошняе (услед за Голубам-Копэчным, 198) — з ням. *landern* 'бадзяцца'. Аткупшчыкоў (Лекс. балтызмы, 35), Лаўчутэ (там жа, 22 і Лаўчутэ, Балтизмы, 16—18) вяртаюцца да версіі аб балт. паходжанні лексемы *лайдак*, супастаўляючы яе з літ. *laĩdokas*, лат. *laĩdaks* 'распуснік, гультай, нягоднік, п'яніца', 'цяльпук', 'грубіян', 'маральна заняпалы', лат. *laĩda* 'гультай, расслаблены, вялы'. На карысць балтыйскай крыніцы сведчаць як фанетычныя аргументы (дыфтонг *-ай-*, старое чаргаванне літ. *-ai-*//лат. *-ei-*, параўн. *leidoks* 'неахайны', 'распуснік'), так і дастаткова вялікае гняздо роднасных слоў (літ. *léisti* 'матаць грошы', 'хутка бегаць', 'швэндацца' — ітэратыў *láidyti* 'тс', *palaidūnas* 'распуснік', *laidùs*, лат. *leĩdars* 'мот, марнатравец') і пашырэнне іх на асноўнай моўнай літ. і лат. тэрыторыях. Чэшскае і польскае словы з'явіліся вынікам кантамінацыі балт. (*lajd-*) і ням. (*land-*) асноў. Сюды ж *лайдачыць* 'гультаяваць, марнатравіць' (Нас.), *лайдачы* 'лянівы' (Сцяшк.).

**Лайза** 'валацуга' (корб., Нар. лекс.). Польск. і каш. *łajza* 'тс'. Дарашэўскі (4, 254) мяркуе, што, магчыма, яны паходзяць з ням. *Laus* 'вош'. Аднак можна дапусціць, што ад *łazić* 'лазіць', як укр. *лазя, лаза* 'валацуга', 'змяя'. Дыфтонг *-ай-* надае экспрэсіўнасць, магчыма, пад уплывам лексемы *лайдак* (гл.).

**Лайка**₁ 'лаянка', 'вымова' (Нас.), укр., рус. *лайка* 'тс', 'буркун, сварлівы'. Да *лаяць, лаяцца* (гл.). Утворана, як *бойка, сварка* і інш. Аб суф. *-к-а* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 46—48.

**Лайка**₂ 'жэрдка ў ёўні для прыціскання снапоў', 'жэрдка ў ёўні, на якую насаджвалі снапы для сушкі' (воран., Шатал.). Відавочна, у выніку перастаноўкі *й ~ л*. Параўн. малар. *ялка*



'елка, яліна' (Нар. лекс.), бых. *яллё* 'шост, які выкарыстоўваўся пры плаванні на лайбах і берлінах' (Рам., 8).

**Лайна** (асудж.) 'тоўстая, здаровая жанчына' (мёр., З нар. сл.), *лайнік* 'гультай, лайдак, хлус' (Шат.), 'зняважлівае слова на сытага, тоўстага чалавека' (КЭС, лаг.). Няясна.

**Лайно**₁ 'гной, памёт, асабліва свіны' (Нас.), укр. *лайно*, ст.-рус. *лаино* 'гной, памёт', 'цэгла', польск. *łajno* 'гной, кал жывёльны', каш. 'тс', 'мала, нічога', ст.-польск. 'экскрэменты', чэш. *lejno*, ст.-чэш., славац. *lajno* 'памёт жывёл, птушак', славен. *lájno*, серб.-харв. чак. *lâjno, lanje*, макед. *лайно*, балг. *лайно*, ст.-слав. **лаина** 'кал', ц.-слав. 'цэгла'. Прасл. утварэнне *lajьno*. Непасрэдных і.-е. адпаведнікаў не мае. Роднаснае да і.-е. *(*s*)*lei* 'слізісты, коўзкі, лепкі': ст.-інд. *láyatē, líyate* 'лепіцца, прыціскаецца, льне', ст.-грэч. ἀλίνω 'намазваю, націраю', лац. *linō, linere, lēvi* 'пэцкаць, брудзіць', ст.-ірл. *lenaid* 'выцякаць', лац. *limus* 'іл, бруд, кал', якое з **loimos*, ст.-в.-ням. *leime*, ням. *Lehm* 'гліна', ст.-ісл. *leir* 'іл', ст.-прус. *layso* (**laisā*) 'гліна, суглінак', алб. *leth* 'сырая гліна' (Бернекер, 687; Покарны, 662; Слаўскі, 4, 438; Фасмер, 2, 451—452; Скок, 2, 262) (<**lōi̯-ino* 'тое, што зляпілася'). Махэк₂, (325) за аснову бярэ прасл. *lěję* 'ліць', з якога спачатку *lajь*, пасля +*ьno*. Параўн. таксама асец. *lyjyn*: *lyd*/*lijun*: *lid* 'сассаге', якое адносіцца да іншага і.-е. кораня **rei, *ri-* 'цячы' (Абаев, 2, 54).

**Лайно**₂, *ланнё* 'адзенне' (Жд. 2), 'усё верхняе адзенне ў сукупнасці' (Нік., Віц., Шн. 3, Касп.), 'агульная назва асобных штук вопраткі' (Інстр. 1, Мядзв., Мат. Шкл., Янк. Мат.), 'адзежына, вопратка' (Яўс., БНТ, Лег. і пад.), 'адна рэч бялізны' (Бяльк., Касп., бялын., Нар. сл.; талач., Шатал., ТСБМ, Мат. Гом.), 'адзежына, посцілка, коўдра, радно' (Мат. Гом., Нар. сл.), 'звязка бялізны, якую можа падняць жанчына' (Нас., Касп.), 'адна з рэчаў дзіцячай пасцелі' (Янк. Мат., Мат. Гом.), *лайніна, лъйніна* 'адна штука адзення, адзежына' (гарад., Хрэст. бел. дыял.; чавус., Нар. сл.; мёр., Нар. словатв.), 'кавалак палатна пакрываць што-небудзь' (Шат.), 'ануча' (Мат. Гом.), 'абрэзак, старое, патрапанае адзенне' (жлоб., Нар. словатв., Мат. Маг.). Толькі беларускае — прасл. архаізм *logno*, які генетычна суадносіцца са ст.-прус. *lagno* 'штаны'. Гл. *ладно*.

**Лайта** 'пляткарка' (Марц.). Відавочна, з літ. **lojta*, якое можна рэканструяваць паводле *lojimas < lóti* 'балбатаць, нагаворваць, плявузгаць' (па ўзору *nespėjimas — nespėta*). Суф. *-t-a* ўласцівы балтыйскім мовам.

**Лайтруга** ушац. 'вялікі гультай', паўд.-усх. 'распуснік' (КЭС), рус. *лотрыга, лотыга* 'гулянка', *лантрыга* 'тс', *ланст-*

*рыга* 'нягоднік', 'абадранец'. Да ст.-бел. *лотръ* 'бандыт', якое праз ст.-польск. *lotr* — са ст.-чэш. *lotr*<ст.-в.-ням. *loter, lotter* 'лайдак, нікчэмны чалавек', 'блазан' (Слаўскі, 5, 221; Фасмер, 2, 458, 523; Панюціч, 102) і экспрэсіўнага суф. *-уга*. Аб устаўным (другасным) *-й-* гл. Карскі, 1, 304—306. Не выключаны, аднак, уплыў лексемы *лайдак* (гл.). Гл. таксама *латрўга, лотра.*

**Лайтрўжнік** 'п'яніца' (нясв., Жд. 2). Да *лайтрўга* (гл.).

**Лайтўбішча** 'здаравяк, здаровы чалавек' (міёр., З нар. сл.). Відавочна, звязана з *тулуб, тулава* (гл.), якое пасля перастаноўкі складоў аформілася ў ідэафон (гукавобразатворчую лексему) з гукавымі комплексамі *лй*. Параўн. таксама *лáйка*₂, *лáйна, лáйнік, лайтрўга* і інш.

**Лайтўззе,** *лайтўзьзя* 'анучы, рызманы, лахманы' (полац., П. Садоўскі, вусн. паведамл.). У выніку кантамінацыі *лайно*₂ і *матуз+ьје.*

**Лак** 'раствор смол, эфіраў цэлюлозы, якім пакрываюць паверхню прадметаў, робячы яе бліскучай' (ТСБМ). Запазычана з рус. мовы, дзе *лак* 'тс'<ням. *Lack*, гал. *lak*, франц. *laque*<іт. *lacca*<араб. *lakk* (Фасмер, 2, 452).

**Лакáза** 'неахайная асоба, якая мыючы залівае дол у хаце', *лаказіць* 'наліваць у хаце, рабіць макрату, бруд' (КЭС, лаг.). Да літ. *lakāzaris* 'гарэза, свавольнік'.

**Лакáльны** 'абмежаваны', 'мясцовы', ст.-бел. *лиокалный* 'мясцовы' (1772 г.) запазычана са ст.-польск. *lokalny*, якое з лац. *localis* (Булыка, Лекс. запазыч., 195).

**Лакамабіль** 'паравік'<рус. *локомобиль* 'тс' (Крукоўскі, Уплыў, 83).

**Лакаматыў** 'машына для перамяшчэння па рэйках вагонаў, цыстэрнаў, платформаў і пад.' (ТСБМ). Запазычана з рус. мовы (Крукоўскі, Уплыў, 83).

**Лакатнік** 'вялікі гаршчок' (Мат. Гом.), ц.-слав. *лакоть*, ст.-слав. **лакътъ** 'гаршчок', укр. *лакодáн* 'тс'. Ст.-слав. лексема некаторымі этымолагамі тлумачыцца як запазычанне са ст.-грэч. (іян.-атыч.) λήκυθος 'флакончык, сасуд для духмянага алею', дарыйск. λᾱκυθος 'тс'). Суф. *-нік* характэрны для бел. гаворак пры называнні посуду: *салатнік, чайнік, сырнік* 'клінок для сыру' (Сцяцко, Афікс. наз., 162).

**Лáкаціна** 'смятана, вяршок з кіслага малака' (паўд.-усх., КЭС). Магчыма, арго, якое з лац. *lac, lactis* 'малако'.

**Лакáўт** 'закрыццё прадпрыемства (у буржуазных краінах) з адначасовым масавым звальненнем рабочых' (ТСБМ). Запазычана з рус. *локаут* (Крукоўскі, Уплыў, 80), якое з англ. *lock out* 'замыкаць дзверы'.



**Лакéй** 'лёкай', *лакéйскі* (ТСБМ), *лакéйські* 'лёкаўскі' (Бяльк.). Запазычана з рус. *лакей* (Крукоўскі, Уплыў, 74), якое праз гал. *lakei* ці ням. *Lakai* з франц. *laquais* 'тс' (Фасмер, 2, 452). Сюды ж *лакейнічаць*, пераноснае *лакей* 'стаячы лучнік' (Сл. паўн.-зах.), *лакейства.*

**Лáкі,** *лáкы* (мн.) 'рогі драўляных віл, прызначаных для сена або саломы' (пін., Нар. лекс.) — усечаная форма з *відлакі*, якое з польск. *widłaki.*

**Лакіза,** *локіза* 'бясклапотны, неахайны, апушчаны чалавек' (Янк. 1, ТС), 'гультай' (Мат. Гом.), ц.-палес. *локіза* 'заспаная, дрэнна апранутая жанчына' (Бел.-укр. ізал., 17). Сюды, відавочна, і ўкр. *лакúза, лакўза* 'лёкай', магчыма, і рус. *лакўза, лакыза* — грэблівая назва лёкая. Балтызм. Параўн. літ. *lakūzara* 'неахайны'.

**Лакно** 'гарлачык жоўты, Nuphar luteum (L.) Sm.' (Бейл.), *локнó* 'гарлачык белы, Nuphar alba L.', 'падалешнік еўрапейскі, Asarum europeum L.' (Нар. лекс.), *Локна* — возера і сенажаць в. Ласіцк (Бел. анам., 1985, 125), укр. палес. *локнó, лукнó* 'гарлачык'. Польск. *Łekno, Łukno* (назва возера ў Пазнанскім ваяводстве, з XII—XIII стст.), сярэдневяковыя тапонімы і гідронімы з палабскай, паморскай, лужыцкай і славенскай тэрыторый ў формах: **lъkno, *lъknica* і з басейна Прыпяці і Дзясны: *Локна, Локнея, Локніца, Локня, Локнянка;* чэш. *lekno, leknín* 'гарлачык белы', славац. *lekno, lekno biele* 'тс', *lekno žlté* 'гарлачык жоўты', *leknovec* 'німфейнік шчыталісты, Nymphoides peltatum (S. G. Gmel.)', магчыма, в.-луж. *łuknadź, łoknadź, ųóknač* 'лотаць, Caltha palustris L.' Прасл. (паўн.-прасл.) дыялектызм *lъkno*, які служыў для называння водных раслін на балотах, азёрах і звязаных з імі мікратапонімаў. Адпаведнікі ў балт. мовах: літ. *lùknė*, лат. *lùkne* 'гарлачык жоўты', *Lùknas* (возера), *Lùknė* (рака), лат. *Lukna* (рака). Аналагічна параўн. семантычную паралель 'расліна'↔'балота': *лòкваю* 'гарлачык', *локвàњача* 'тс'<*лòква* 'лужа', *лòкањ* 'невялікая лужа' (а раней 'балота, дрыгва'<'возера') ці 'балота'↔'лес' (гл. Талстой, Геогр., 244). Балта-паўн.-слав. ізалекса (Непакупны, Связи, 34—36). Прасл. *lъkno* звязваецца этымолагамі з і.-е. **leuk-/*louk-* 'блішчэць, ільсніцца' (Слаўскі, 5, 99; Слаўскі, SP, 1, 115; Брукнер, 309; Трубачоў, Этимология-1968, 24—32; Фрэнкель, 389—390).

**Лáкнуць** 'вельмі хацець' (Сл. паўн.-зах.), укр. *лáкнути* 'жадаць', 'быць прагным', польск. *łaknąć* 'быць галодным', 'прагна есці', 'быць пажадлівым', 'вельмі хацець чаго-небудзь', 'хацець піць', рус.-ц.-слав. *лакнути* 'галадаць', 'прагна хацець', славен. *lákniti* 'згаладнець'. Прасл. *olknǫti*. Да прасл. *olkati* 'галадаць, быць галодным'. Параўн. літ. *álkti* 'галадаць',

'жадаць', лат. *alkt* 'хацець піць', 'адчуваць голад, моцна жадаць', 'быць пажадлівым'. Магчыма, роднасным з'яўляюцца: ст.-в.-ням. *ilgi* 'голад' (Траўтман, 6—7; Фасмер, 2, 452, дзе даецца больш падрабязная літаратура), ірл. *elc* 'злы' (Разва-доўскі, Wybór, 2, 158—159; Покарны, 307).

*__Лакнянка__, *локнянка* 'краснапёрка' (ТС). Да *лакно* (гл.).

**Лакомацца** ў выразе: *не лакомайся!* (Федар. 6) 'ласавацца'. Да *лакомы* (гл.).

**Лакомы** 'прагны' (Сл. паўн.-зах.), 'сладастрасны; юрлівы', 'прынадны, спакуслівы, ласы' (Нас.), гродз. 'працавіты' (БНТ, Лег. і пад.), укр. *лакомий* 'спакуслівы, сквапны, прагны', рус. 'смачны', 'ласы', польск. *łakomy* 'прагны', 'прагны да ежы', 'скупы', 'які выклікае хцівасць', н.-луж. *łakomy* 'хцівы', в.-луж. *łakomy* 'ласы', чэш. *lakomý*, славац. *lakomý* 'хцівы, скупы', славен. *lákom* 'пражэрлівы, прагны, пажадлівы', серб.-харв. *лȁком* 'прагны, сквапны', 'скупы', макед. *лаком* 'прагны, скупы, ненажэрны, хцівы', балг. *лаком* 'тс', ст.-слав. **лакомъ** 'прагны', 'скупы'. Прасл. *olkomъ* 'прагнучы, вельмі галодны', 'хцівы' — дзеепрыметнік залежнага стану ад дзеяслова **olkati*. Параўн. аналагічныя ўтварэнні *відомы, вядомы* (гл.). Гл. таксама папярэдняе слова *лáкнуць* (Фасмер, 2, 453; Слаўскі, 4, 443—444).

**Лакота**, ст.-бел. *лакота* 'ласунак' (1596 г.), рус. *алкотá* 'голад', ц.-слав. *алкота*, ст.-чэш. *lakota* 'скупасць, прагнасць да ежы', ст.-слав. **лакота** 'прагнасць, скупасць'<**алъкота**. Запазычанне са ст.-польск. *łakota*<санкрэтызаванае прасл. *olkota* 'нешта смачнае' з абстрактнага 'прагнасць, пражэрлівасць' (Слаўскі, 4, 446).

**Лакошка** 'карыта, таз' (Фрэнкель, 1, 337 са Скарджуса, 118) — у выніку распадабнення *-т-* у *-к-* у лексеме *латушка* 'міска' (Сл. паўн.-зах.). Гл. таксама *латашок, латак, латок*.

**Лакрыца** 'расліна Glycyrrhiza glabra, салодкі корань якой і парашок з яго выкарыстоўваюцца ў прамысловасці і медыцыне' (ТСБМ), *лáкірыца* 'салодкі корань' (Грыг.). Сучасная форма аформлена паводле рус. *лакрица* 'тс', форма ж XIX ст. (у Грыгаровічаў) з'яўляецца запазычаннем з с.-в.-ням. *lakeritze*, якое з лац. *liquiritia*<ст.-грэч. γλυκύρριζα 'тс', даслоўна 'салодкі корань' (γλυκύς 'салодкі', ῥίζα 'корань'). Лексема шырока прадстаўлена ў еўрапейскіх мовах (Слаўскі, 4, 374—375; Фасмер, 2, 453; Клюге — Гётцэ, 342; Праабражэнскі, 1, 431). Ст.-бел. *лякрыцея* (1583) запазычана са ст.-польск. *lakrycja* (Булыка, Запазыч., 148); форма ж *люкреция*<ст.-польск. *lukrecja*<з сілезск. ням. мовы і звязана з уласным імем *Lukrezia* (Кэрстнер, Die deutschen Lehnwörter im Polnischen, Leipzig, 1939, 5). У суч. бел. мове ўжываецца назва *лакрычнік*<рус. *лакричник* 'тс'.



**Лактáць** 'хлябтаць' (Гарэц., Др.-Падб., Нас., Касп.), 'многа і прагна піць' (Сл. паўн.-зах.; міёр., Нар. сл.), рус. *лактáць*, 'хлябтаць (аб жывёлах)', 'піць (аб чалавеку)', *лáктáць* 'смактаць'. Інтэнсіў да *лакать*, якое з прасл. *lokati* 'хлябтаць', параўн. лат. *lakât, lakt*, літ. *làkti*, магчыма, ст.-грэч. λάπτω 'ліжу, хлябчу', арм. *lakem* 'ліжу' — усе да і.-е. гукапераймальнай асновы **laku-*. Гл. больш падрабязна: Траўтман, 149; Бернекер, 727; Фасмер, 2, 514; Махэк₂, 338; Скок, 2, 314; Слаўскі, 5, 151—153.

*__Лактуш(ш)а__, ст.-бел. *локтушие* 'хустка, полка' (1519 г.), ст.-польск. *łoktusze*<ст.-чэш. *loktuše*<ням. *Lakentuch* (Булыка, Запазыч., 112) або непасрэдна Скарына ўзяў са ст.-чэш. (Там жа, 206).

**Лáкты** 'седала' (воран., Сл. паўн.-зах.). Запазычана з літ. *laktà* 'тс'. Параўн. таксама лат. *lakta* 'тс'.

**Лакýшы** 'прыстасаванне для сушкі сена' (смарг., Сл. паўн.-зах.). Відавочна, з'яўляецца скарочаным варыянтам рус. *волокуша*, пск. 'невялікі воз сена', вяц. 'капа сена'.

**Лакчывы** 'прагны да яды' (шальч., Сл. паўн.-зах.), як і ўкр. *лапчúвий, лапшúвий* 'хцівы, прагны, пажадлівы', запазычана з польск. *łapczywy, łapciwy* 'тс'<*łapczyć* 'хціва хапаць'<выклічнік *lap! laps!* (Слаўскі, 4, 471).

**Лакшына**, *лакшыны* 'самаробныя макароны' (Бяльк., Мат. Гом.). Да *локша* (гл.).

**Ла-ла-лá** — пра балбатню (Нар. лекс.), драг. *ля-ля-ля* 'тс' (Лучыц-Федарэц, вусн. паведамл.). Рус. *лáла* 'балбатун', *лалы* 'балбатня, жарт', *лáлкать* 'лепятаць', *лалы́кать* 'гаварыць незразумела', ст.-польск. *lalać*, славац. *lalotat'* 'лепятаць', серб.-харв. *лалати* 'балбатаць'. Гукапераймальнае. Параўн. і.-е. паралелі: літ. *lalúoti* 'балбатаць', *lalėti* 'гаманіць, галасаваць', ням. *lallen* 'балбатаць, запінацца', лац. *lallāre* 'баюкаць', ст.-грэч. λάλος 'балбатлівы', λαλέω 'гавару', ст.-інд. *lalallā* — пра балбатанне (Бернекер, 1, 688; Праабражэнскі, 1, 432; Скок, 2, 255; Фасмер, 2, 453—454).

**Лалоўнікі**, *лалáўнікі* 'людзі, якія хадзілі ў першыя дні вялікадня', 'валачобнікі' (Сл. паўн.-зах.). Балтызм. Параўн. літ. *laláuninkas* 'валачобнік' (Грынавецкене, Сл. паўн.-зах. 2, 613), літ. *lalėti* 'галасаваць, гаманіць'. Гл. яшчэ *лалы́н*.

**Лалы** (мн.) 'выгада, пажыва', 'раскоша, добрае жыццё' (Нас., Нас. Сб.), смал. *лалы* 'тс', 'балбатня, жарты', 'добра жыць, не працуючы, за чужы кошт'. Рус. *лáла, лалá* 'балбатун', 'балбатня, лухта, бяссэнсіца, глупства', рус. *лалúть* 'вярзці лухту', 'балбатаць', *лáлкать* 'лепятаць, балбатаць', польск.

*lalać*, серб.-харв. *лалати* 'тс' (<ням. *lallen*), *лала́кати* 'замест слоў пры спяванні паўтараць ла-ла' і інш. Гукапераймальнае. Ад *ла-ла-ла* (гл.).

**Лалы́н** 'песня, якая спявалася ў час спектакля лялек' (Нікольскі, Міф.), *ла́лыншчык* 'валачобнік, чараўнік' (Кар., 1, 1904, 130) паходзяць з літ. *laláuti* 'спяваць', *lalauniñkas* 'валачобнік, які спявае на Пасху' (Патабня, Веснянка, 20).

**Лалэ́й** (абразл.) 'чалавек з вельмі тоўстымі губамі' (лаг., Жд. 2). Утворана ад *+лалы* (параўн. рус. пск., наўг. *лалы* 'ніжняя сківіца', цвяр. *лылы́* 'сківіца') і суф. *-эй*, як і *лупсей, губрэй* 'губаты' (Сцяцко, Афікс. наз., 151). Гл. таксама *халалэ́й.*

**Ламавік**$_1$ 'зборшчык утыльсыравіны, металалому' (Сцяшк.) — новае ўтварэнне. Параўн. рус. *ломовое железо* 'металалом'. *Ламавік* 'перавозчык цяжкіх грузаў', 'конь для перавозкі цяжкіх грузаў' (ТСБМ), відавочна, запазычана з рус. мовы (параўн. Даль$_3$, 2, 686). Гл. *ламавік$_2$*.

**Ламавік**$_2$, *лъмавік, лымавік, лымавіна* 'здаравяка' (міёр., З нар. сл., Яўс.), рус. *ломовик* 'асілак, здаравяка', *лом* 'моцны, фізічна здаровы чалавек', *ломовина* 'тс', 'няўклюда, нязграбны ў рухах'. Да *ламáць* (гл.). Утворана ад *+ламавы,* рус. *ломовой* 'цяжкі, вялізны, нязграбны'. Параўн. семантычна блізкае літ. *ãp-lamas* 'нязграбны, нязручны'. Чэш. і славац. *lomový* фармальна да *+ламавы,* але адрозніваецца семантыкай ('які колецца ў кар'еры').

**Ламавіца** 'хвароба' (паўн.-зах., КЭС). Да *ламіць, ламáць.* Утворана, як і іншыя назвы хвароб: *трасавіца, зябавіца, пухлявіца, жаўтавіца* і г. д. Аб суф. *-авіца* гл. Сцяцко (Афікс. наз., 82).

**Ламáк,** *ламачóк* 'старэнькая будыніна ці посуд' (КЭС, лаг.). Да *ламáць.* Аб прадуктыўнасці суф. *-ак* у дыялектнай мове гл. Сцяцко, Афікс. наз., 23—24.

**Ламáка**$_1$ 'чалавек, які вядзе першасную апрацоўку льну' (Жд. 1). З *ламáха* (гл.). Суф. *-ака* (замест *-аха*) па тыпу *пісака, ваяка, гуляка* і інш. (Сцяцко, Афікс. наз., 25).

**Ламáка**$_2$, *ломáка* 'ламачына' (ТС; ельск., Мат. Гом.), 'старая, сапсаваная рэч' (ТСБМ), 'чалавек, які нічога не ўмее рабіць' (докш., Янк. Мат., ТС), 'нязграбны, няздатны' (ТСБМ), 'гультай' (Сцяшк.), 'няўмека, няздольны да работы', *ламакавáты* 'тс' (КЭС, лаг.). Укр. *ломака* 'палка, галіна', 'вялікі, але нязграбны чалавек', рус. *ломака* 'ганарлівец, задавака', каш. *łomaga, łȯmaga* 'калека, нехлямяжы'. Утворана ад *ламáць* і суф. *-ака.*

**Ламаніна** 'цяжкая праца для галавы, галаваломка', 'хваляванне пры рамонце чаго-небудзь ломкага', 'тупыя, працяглыя болі ў касцях і мышцах', 'недамаганне, боль па ўсім целе', пераноснае — 'ломка старога', 'беспарадак, неспакой, выклікаьыя нечаканай пераменай' (Нас., ТСБМ, КЭС, лаг.). Польск. *łamanina* 'ламанне', 'паламаныя рэчы', старое — 'барацьба'. Бел.-польск. ізалекса. Аддзеепрыметнікавае ўтварэнне. Да *ламáць* (гл.).



**Ламáнка** 'пераломаная паляўнічая стрэльба' (ТСБМ; іўеў., Сл. паўн.-зах.). Польск. *łomaka* 'ардынарная паляўнічая стрэльба'. Да *ламáць* (гл.).

**Ламантá**, *ломантá* 'балбатун' (кобр., Нар. лекс.). Да *лямантавáць* (гл.). Рэгіяналізм, утвораны пры дапамозе суф. агульнага роду *-а.*

**Ламанýць** 'ламануць', 'ударыць', 'пабегчы, уцячы, рвануць' (Нас., Юрч., Мік., Сцяшк., ТСБМ), *ламянýць* 'імгненна ўскочыць' (уздз., чэрв., Жд. 2). Да *ламáць* (гл.). Суф. *-ну-* падкрэслівае закончанасць дзеяслова, які абазначае раптоўную змену ходу дзеяння. Параўн. рус. *ломнýть, ломанýть* 'моцна ўдарыць палкай, дубцом', *лóмнуть* 'грукнуць дзвярыма, акном'.

**Ламáнцы** 'падсмажаныя ў канапляным малацэ піражкі ці кавалкі скавародніка' (Нас., ТСБМ), 'праснакі з мукі і бульбы' (Шат.), гродз. 'печыва з мукі на вадзе' (З нар. сл., Сл. паўн.-зах.). Беларуска-польская ізалекса. Параўн. польск. *łamaniec* 'печыва з мёдам, макам'. Параўн. таксама *ламýнкі* (гл.).

**Ламатá** 'дробнае галлё, сукі' (Сцяшк.), 'ламачча', перан. 'няўмека', у выразе: *есці ламату* 'ўсё, што папала' (гродз., Сл. паўн.-зах.). Магчыма, балтызм. Параўн. літ. *lamãtas* 'кавалак', лат. *lamatas* 'завала, засаўка' (гл. Буга, РФВ, 71, 464 і 466; Мюленбах — Эндзелін, 2, 417; Фрэнкель, 338).

**Ламáха** 'жанчына, якая вядзе першасную апрацоўку льну' (Жд. 1), 'церніца' (Шат.). Толькі беларускае. Утворана пры дапамозе суф. *-х-а* (Сцяцко, Афікс. наз., 73) ад *ламáць* (гл.). Параўн. таксама *ламака$_1$* (гл.).

***Ламахцéць,** *ламахтéті* 'ехаць хутка, тарахцець' (лун., Шатал.), магчыма, у выніку кантамінацыі *ламíць* (гл.) і *тарахцéць* (гл.).

**Ламаццё** 'ламота ў плячах' (Шат.), рус. *ломотьё* 'тупы, працяглы боль'. Бел.-рус. ізалекса. Ад *ламота*<прасл. *lomota.* Да *ламáць* (гл.).

**Ламáць**, *ломаць, ламаці* 'ламаць, крышыць', 'нявечыць, калечыць', 'здабываць, разломваючы чым-небудзь', 'даводзіць да непрыгоднасці, псаваць разбураючы', 'аб тупым, працяглым болю ў касцях', 'разбураць, знішчаць старое, аджыўшае' (ТСБМ, Сцяшк., Яруш., Сл. паўн.-зах.), 'церці лён, каноплі'

(Сл. паўн.-зах., Сцяшк., Інстр. 1), 'раўняць поле' (Жд. 2), 'баранаваць упоперак пластоў' (Дэмб. 2), *ламаць шапку* 'перагінаць, надломліваючы салому ў снопе каля перавясла' (Сл. паўн.-зах.), *ламаць борць* 'раскрадаць мёд дзікіх пчол' (Анох.), 'араць цаліну' (Сл. паўн.-зах.). Укр. *ламати, ломати*, рус. *ломать*, польск. *łamać*, н.-луж. *łamaś*, в.-луж. *łamać*, чэш. *lámati*, славац. *lámat'*, *lamac*, славен. *lâmati, lómiti*, серб.-харв. *ла̀мати* (<*ло̀мити*), ст.-слав. **(прѣ) ламати**. Прасл. *lamati* — ітэратыў да *lomiti*>*ламіць* (гл.). Аб ст.-слав. і ст.-рус. *ла-//ло-* гл. Аткупшчыкоў, Из истории, 245. Сюды ж *ламацца* 'патрабаваць злучку (аб карове)' (Касп.) — семантычны перанос з *ламацца*. Гл. *лом*.

**Лама́чка** 'прылада ламаць лён і каноплі, ачышчаць іх ад буйной кастрыцы' (Сцяшк.; беласт., Сл. паўн.-зах.). Польск. *łamaczka*, чэш. мар. *lamačka*, славац. *lamačka*. Зах.-слав. прасл. рэгіяналізм *lamačьka* (Слаўскі, **4**, 454). Бел. лексема — працяг мазавецка-падляшскага арэала (Фаліньска, Słown., 2(2), к. 17). Да *лама́ць* (гл.).

**Лама́чча,** *лама́(ч)чо, ламаччо́, лома́(ч)чэ, ламáче, ламáч'е* 'дробнае галлё, сукі, верхаўё, лом', 'зношаныя драўляныя прылады, што валяюцца як непатрэбныя', 'дрэва ад развалены́х будынкаў', 'мала прыгодны для будаўніцтва лес' (ТСБМ, Сцяшк., Сл. паўн.-зах., Янк. 2, Шат., Сержп., Кліх, КЭС, лаг.). Укр. *ломаччя* 'палка, сук'. Зборнае да *ламака₂*. Усх.-слав. утварэнне з суф. *-ьje*.

**Лама́чына**, *лъма́чъна* 'нейкая рэч ці прылада, не прыгодная да ўжытку' (КЭС, лаг.; міёр., Нар. словатв.), *ломычына* 'галіна, трэска' (Клім.). Да *лама́ка₂* (гл.).

**Лама́ш$_1$** 'стары нож', 'тупы, малапрыгодны прадмет' (дзярж., Нар. сл.) — аднаэоўнікавае ўтварэнне з суф. *-ašь*. Да *лом* (гл.).

**Лама́ш$_2$** 'лайдак' (шчуч., Сл. паўн.-зах.), чэш. *lamač* 'гультай'. Відавочна, балтызм (параўн. літ. *lamãžas* 'неахайны', *lãmažis* 'тс').

**Ламбы,** *ламбэ́, лэ́мбы, ла́мбачкі, лэмп, ломб, ламбу́к, лымбу́к, ламбя́к, ламбукі, ламбуке́, лымбукі, ламбякі* 'сцяблы і лісце буракоў', 'сцяблы гарбуза, сланечніка, тытуню, бобу, бульбы, зелля', 'кветканоснае сцябло цыбулі', 'стрыжань птушынага пяра' (гродз., ДАБМ, З нар. сл., Сл. паўн.-зах.). Балтызм. Параўн. літ. *lámbas* і *lam̃bas* 'сакавітая гародніна, трава і лісце са сцябламі', 'пер'е цыбулі', 'націна буракоў', літ. *lambaĩ* 'суп з бацвіння'. Тое ж Грынавецкене і інш., Liet. term., 181.

**Ламеглу́ўка,** *ламеглу́фка* 'галаваломка' (Сцяшк.). З польск. *łamigłówka* 'тс'.



**Ламе́нь** 'гультай, лежабок' (Юрч. Фраз. 3). Да *лом*. Аб экспрэсіўным суф. *-ень* гл. Сцяцко (Афікс. наз., 38).

**Ламе́ц$_1$** 'чалавек, які ламае, трэ лён на церніцы' (Інстр. 1, Мат. Гом.), укр. *ломе́ць* 'ламота (у целе)', чэш. *lomec* 'рабочы ў каменяломні'. Да *ламáць* (гл.). Суф. *-ец*<прасл. *-ьсь*.

**Ламе́ц$_2$**, *ломе́ц* 'доўгая лазіна, дубец' (паўдн.-жытом., ЛАПП). У выніку кантамінацыі *лом* і *дубец* (гл.).

**Лам'ё,** *лом'ё* 'дробнае галлё, сукі, хлуд, ламачча', 'абломкі дрэва, драўніны', 'лом, пабітыя, паламаныя рэчы' (Сцяшк., Юрч. Фраз. 3, Шат., ТСБМ, ТС). Зборнае да *лом* (гл.). Прасл. *lom-ьje*. Сюды ж перан. зборн. *лам'ё* 'гультаі, лежабокі' (Юрч. Фраз. 3).

**Ламзану́ць** 'ударыць' (Нас.). Насуперак Насовічу (271), які разглядае гэту лексему як кантамінацыю ад *ламіць* і *мазаць*,— гэта аднаразовы дзеяслоў ад прасл. *lomoziti*. Параўн. чэш. *lomzati* 'ламаць', *hlomoziti* 'грукатаць, тарахцець', 'трашчаць', 'праціраць (адзенне)', славац. *lomozit'*, *hlomaždit'*, *chlomaždit'* 'шумець, грукатаць', 'біць, таўчы', рус. *ло́мзать* 'шумець, грукаць', якое з'яўляецца роднасным з літ. *lamãžyti* 'ламаць', 'давіць, ціснуць', *glamžýti, glamžúoti* 'моцна абнімаць', 'прыціскаць да сябе'. Больш падрабязна гл. Махэк₂, 169; Фасмер, 2, 516; Слаўскі, 5, 183; Трубачоў, Эт. сл., 6, 137—138.

**Ламі́-галава́** 'гарэза, вісус' (Нас.) можна разглядаць як кантамінацыю рус. *сорви-голова* і бел. *ламаць (хрыбет, шыю* і інш.). Параўн. таксама чэш. *lomikost*, каш. *łam̃ignat* 'асілак'.

**Ламі́на$_1$**, *ломына* 'доўгі, сухі прут, палка, галіна', 'кавалак бервяна, ламачына, абломак', 'гультай, лежабок' (ТСБМ, Янк. III, Клім.), *ламі́на* 'стары, груваcткі прадмет' (Шатал.). Укр. *ломина* 'лам'ё'. Да *лом* (гл.). Нягледзячы на існаванне такіх жа лексем у іншых слав. мовах, можна меркаваць, што разглядаемая лексема — самастойнае ўсх.-слав. утварэнне з сінгулятыўным суф. *-ina*.

**Ламі́на́$_2$**, *лъмі́на́* 'вялікі мажны чалавек, здаравяк' (брасл., Сл. паўн.-зах.; міёр., З нар. сл., Нар. словатв.). Рус. пск., калін. *ломина* 'моцны, здаровы і няспрытны чалавек высокага росту'. Хаця звязана з *ламіна$_1$* аднолькавасцю словаўтваральнай мадэлі, стварае адзіны паўн.-бел.-рус. арэал. Да *лом* (гл.).

**Ламі́ць** 'ламаць', 'ламануць', *ломіць не аглядаючысь* 'бяжыць', *ламіць з пляча* 'рабіць рашуча што-небудзь, не звяртаючы ўвагі ні на каго і ні на што' (Нас.), *ломіць* 'ламаць' (ТС), полац. *ламіць* 'адчуваць боль (у галаве, паясніцы)', 'хутка і лоўка рабіць што-небудзь' (Нар. лекс.), кобр. *ломыты* 'араць поле другі раз' (Выг.), *ламі́цца* 'ламацца' (Бяльк.). Ст.-бел. *ломити(ся), ламити* — значна радзей, чым *ламати(ся)*.

Укр. *ломити(ся)*, рус. *ломить(ся)*, польск. *łomić*, н.-луж. *łomiš*, палаб. *lümĕt*, чэш. *lomiti*, славац. *lomit'*, славен. *lómiti*, серб.-харв. *ло̀мити*, *lomi̇̄ti*, макед. *ломи*, балг. *ломя́*, радопск. *ломем*, ст.-слав. **ломити**. Прасл. *lomiti* — каўзатыў, ад кораня *lem-*, параўн. серб.-харв. *lijèmati* 'біць', в.-луж. *lemić* 'ламаць, разбіваць', каш. *lèmič* 'біць', ісці (аб дажджы)', 'здзіраць кару з галін' (Варбот, Слав. яз.— VII съезд слав., 114), *лёмеш*, літ. *lìmti / lémti* 'ламацца, гнуцца', 'аддзяляць' (Слаўскі, 5, 176; Буга, Rinkt., 2, 255). Інакш: утворана ад *lomъ*>лом (гл.) (Фасмер, 2, 516; Ван-Вейк, AfslPh, 37, 13—14). Ваян (Gram., 3, 413—414) прасл. *lomiti* лічыць першасным ітэратывам.

**Ламі́шча** 'куча галля', 'вогнішча', 'месца, дзе гарэў агонь' (мядз., Нар. сл.). Да *лом* (гл.).

***Ла́мкаць,** *ла́мкаты* (экспр.) 'есці, хлёбаць' (З нар. сл.) — аўгментатыўная (з *-к-*) форма дзеяслова *ламі́ць* (гл.). Параўн. тое ж і ў балг. *ламкам* 'намагацца схапіць ротам аблупленае яйка (на масленіцу)' (Цыхун, БСИ, 1976, 5, 91—92).

***Ламне́нена,** *у ломне́нено* (ідавочна, з *у ламне́ніну*) 'тэхніка ткання ў чатыры ніткі ў дыяганаль' (Уладз.). З *lom-ěn-in-a*. Да *лама́ць* (гл.). Іншыя палескія сінонімы: *у чынова́тыну, у косіцы*.

***Ламок,** *ламком* 'ламаючы' (Юрч. Вытв.) — аднаэоўнікавае (форма тв. скл.) прыслоўе (як *цішком, нагбом* і г. д.). Да *ламі́ць* (гл.).

**Ламота** 'працяглы боль у касцях, суставах, мышцах' (Сцяшк., Яруш., ТСБМ). Укр., рус. *ломота*, польск. *łomota* 'тс'. Прасл. *lomota*<*lomiti*>*ламі́ць* (гл.). Літ. *lamatà* 'раптоўнае ламанне, разломванне (у буру)' з'яўляецца дакладным адпаведнікам прасл. лексемы (Слаўскі, 5, 181—182). Сюды ж сувалк. *ламотаць* 'трэсціся, калаціцца' (КЭС).

**Ламотніца** 'крокус, Carthamus tinctorius' (Мат. бел. зельн.) — хаця назва этымалагічна празрыстая (да *ламота* ці *ламотны?*), матывацыя застаецца няяснай.

**Ламоцця** 'ламачча, лам'ё' (навагр., Сл. паўн.-зах.). Утворана пры дапамозе зборнага суф. *-otьje* ад *ламата́* (гл.).

**Лампа́д,** *лампа́да, лампа́дка, лампа́тка* 'пасудзіна з кнотам і алеем, якая запальваецца перад абразамі' (Мат. Гом., ТСБМ, Сцяшк., Сл. паўн.-зах.), укр. *лампада*, ст.-рус. *лампада, ломпада, ламбада*, ц.-слав. *ламъпада*. Запазычана са с.-грэч. λαμπάδα, якое са ст.-грэч. λαμπάς, -άδος 'факел', 'сонца', 'маланка' (Бернекер, 1, 689; Фасмер, 2, 455).

**Лампе́ка** 'кавалак дрэва' (воран., Сл. паўн.-зах.) — з літ. *lampė̃kas* 'сырое дрэва' (Сл. паўн.-зах., 2, 616).

**Ла́мтух** 'абжора' (баранав., Сл. паўн.-зах.). Да *лама́ць* (Мартынаў, Слав. акком., 131). Утворана пры дапамозе суф. *-ух* ад *ламата* (параўн. гродз. *есці ламату́* 'есці ўсё, што папала'), які цяпер успрымаецца як *-тух* (аб ім гл. Сцяцко, Афікс. наз., 65). Аўтары Сл. паўн.-зах. (616) мяркуюць, што гэта — фанетычны варыянт лексемы *лантух* 'гультай', 'тоўсты і непаваротлівы'.



**Ламу́жнік** 'лам'ё' (Бяльк.). Параўн. слаўг. *лама́жжа* (І. Я. Яшкін, вусн. паведам.), якое ў сілу народнай этымалогіі асацыруецца з *ламачча*. Аднак Слаўскі (5, 184) супастаўляе бел. *ламужнік* з літ. *lámžyti* 'давіць, прыцiскаць', *lámža* 'гультай', *lamža* 'нязграбны, няўклюда, нехлямяжны'.

**Ламу́нкі** 'праснакі-ламанцы' (Федар. 2). Да *ламáць* (гл.). Аб суф. *-унак* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 69.

**Лан** 'старажытная мера зямлі (ад 10 да 30 дзесяцін)' (Гарб., Гарэц.), кобр. 'вялікае поле' (Выг.), 'панскае поле' (Бес.), 'поле' (Федар. 1, КТС), 'мера зямлі ў тры валокі' (Бяльк.). Ст.-бел. *ланъ* (з XIV ст.) 'мера зямлі', укр. *лан* 'мера раллі да 30 дзесяцін', 'поле, ніва', рус. *лан* 'ніва', 'участак поля'. Запазычана з польск. *łan* 'тс' — пераважна (каля 17 га) у малапольскіх гаворках; чэш., славац. *lán*, ст.-чэш. *lán*, н.-луж., в.-луж. *łan* 'мера поля, зямлі' — усе з с.-в.-ням. *lehen, lein* 'тс' (параўн. *лен* 'спадчыннае зямельнае ўладанне ў эпоху феадалізму')(Міклашыч, 160; Голуб-Копечны, 129; Праабражэнскі, 1, 433; Брукнер, 306; Фасмер, 2, 456; Слаўскі, 4, 457). Нельга прыняць меркаванне Бернекера (1, 689) і Бугі (РФВ, 71, 56) аб запазычанні і роднасці з лат. *lãns* 'пушча', *lãma* 'лагчына'. Таксама наўрад ці слав. *lanъ* (?) з'яўляецца родным да *ланита*, як мяркуе Ягіч (AfslPh, 3, 751). Недакладна ў Юрэвіч — Яновіч (Зб. Крапіве, 291). С.-лац. *laneus* (Праабражэнскі, 1, 433; Карскі, Труды, 378) утворана са слав. *lán / lan*.

**Ланава́цца** 'ленавацца' (воран., Сл. паўн.-зах.). Да *лень, лянота* (гл.). Супастаўленне *л — л'* на бел. моўнай тэрыторыі з'яўляецца характэрным: *клуня — клюня, лаўшэнь — леўшня, логма — лёгма*.

**Ла́наваць** 'падбягаць на кірмашы ад аднаго прадаўца да іншага ў пошуках патрэбнага тавару' (Янк. II). Балтызм. Параўн. літ. *landýti* 'лазіць туды-сюды', 'часта заходзіць', 'вылазіць'.

**Ла́нва** 'частка воза' (тураў., Выг.), укр. *ла́нва* 'стальвага', бук. *ла́мба* 'жалезнае прымацаванне стальвагі', ст.-бел. *ланва* 'прут, які звязвае вось з валком' (1686 г.) запазычана са ст.-польск. *łanwa* 'тс' і інш. значэнні (гл. Карловіч, 3, 63; МАГП, 2(2), 15; Булыка, Лекс. зап., 120), якое паходзіць з с.-в.-ням. *lanne* 'ланцуг', ням. дыял. *lanen* 'аглоблі, дышаль' (Брукнер, 306; Слаўскі, 4, 461).

**Ла́нда** 'пляткарка' (стол., Нар. лекс.), зах.-укр. *ла́нда*,

*ландúга* 'бадзяга, гультай', *ландати, ландувати,* рус. разан. *ландовать* 'бадзяцца без занятку, швэндацца', паўд.-польск. *landzić, lędzić, lamdzić, lamdać* 'жабракаваць, прасіць', чэш. *landat (se)* 'бадзяцца', ст.-чэш. *lanžovati* 'жабракаваць', серб.-харв. *ландàрати, лàндати, лàндрати* 'бадзяцца', 'сноўдацца', *лâндав* 'пляткар; той, у каго доўгі язык'. Відавочна, у бел. мове — запазычанне з польск. праз укр. мову. З дыял. ням. *landern, lendern* с.-в.-ням. *lendern* 'бадзяцца' (Мацэнаўэр, Cizí sl., 237; Бернекер, 686; Слаўскі, 4, 46—47). Роднаснае да літ. *landýti* 'лазіць'.

**Ландар** 'арандатар карчмы' (слуцк., БНТ, Лег. і пад.) — скажонае *рандар* 'тс'<*ранда*<*арэнда* (гл.). Параўн. таксама *ліндар.*

**Ландша́фт** 'агульны выгляд мясцовасці, пейзаж', 'вясковы краявід на малюнку' (ТСБМ). Магчыма, з польск. *landszaft, lanczaft, lanczoft* (з 1626 г.) або з рус. мовы ў якасці культурнага тэрміна. Першакрыніцай, аднак, з'яўляецца ням. *Landschaft* 'мясцовасць' (Брукнер, 290; Фасмер, 2, 467; Слаўскі, 3, 50—51; Чартко, Бел. лінгв. зб., 152).

**Ла́ндыш,** *ла́ндаш, ла́ндуш,* маг. *лантуш, лануш* 'ландыш майскі, Convallaria majalis L.' (Кіс., Бейл., Бяльк., Сцяшк., Сл. паўн.-зах.), укр. *ла́ндиш, ландош,* рус. *ла́ндыш* 'тс', польск. *łanuszka, łanysz, łanka,* ст.-польск. *łanie uszko* 'вуха ланí', што з'яўляецца перакладам сярэднявяковай назвы ландыша — Auricula cervi. Паводле Брукнера (306) і Слаўскага (4, 47—48), Унбегаўна (BSL, 52, 169), Кохмана (Kontakty, 80), ва ўсх.-слав. мовы лексема прыйшла з польскай. Няясным з'яўляецца *-д-* у некаторых формах, аднак Унбегаўн мяркуе, што яно — паразітычнае, а паводле народнай этымалогіі лексема збліжаецца з прыметнікам *гладкі* (параўн. усх.-бел., смал. *гла́дыш* 'ландыш'). Гл. таксама Фасмер, 2, 457; Махэк₂, 320. Інакш КЭСРЯ (233): рус. *ландыш* утворана ад *ладьнъ* 'ладан' і суф. *-ыш->ладьнышь,* у якім адбылася метатэза *д* і *н.* Сюды ж маг. *ландыш белы,* віц. *ландышкі* 'грушанка кругалістая, Pyrola rotundifolia L.' (Кіс.), рус. перм. *ландыш* 'тс' — у выніку пераносу паводле падабенства суквецця. Параўн. таксама адваротны перанос: славац. *hruštička* азначае 'ландыш' (*hruška* — 'Pyrola').

**Ландышчыха** 'дужая, мажная жанчына' (паст., Сл. паўн.-зах.). Утворана ад *лантух* 'тоўсты, непаваротлівы чалавек', параўн. шчуч. *«Пашла, як лантух — такая грамадная баба, тоўстая»* (там жа), насуперак А. Грынавецкене (там жа, 616), якая параўноўвае гэту лексему з літ. *llnda* 'гультай'.

**Ланд́эрак** 'бітон, посуд для малака' (гродз., КЭС), *ландэрка* 'нешта з хатняга начыння' (Сержп. Грам.). Відавочна, з



*ландара*<польск. *landara* 'нешта вялізнае, нязграбнае'. Гэта значэнне развілося з 'крытая, вялікая нязграбная карэта'< <'карэта для падарожжаў'. Польск. *landara*<з ням. *Landauer (Wagen)*<*Landau* — назва горада ў Баварыі (Варш. сл., 2, 682; Фасмер, 2, 456; Слаўскі, 4, 45). Суф. *-эрак* па аналогіі да *цабэрак.*

**Ланéй,** *ла́ні* 'ў прошлы год' (гродз., Сл. паўн.-зах., Сцяшк.), *лоні* 'ў мінулым годзе' (Сцяшк., Бел. арх.), *лонскі, лоньскі, луо́ньскі* 'мінулы, прайшоўшы, з мінулага года' (Сцяшк.; шчуч., З нар. сл., Жд. 2; беласт., Карскі, Труды; Сл. паўн.-зах., Бес.). Зах.-укр. *лони, влони, ԝопу,* паўн.-рус. *лони,* ст.-рус. *лони (лоний* 'мінулагодні'), *лани* (XVI в.), польск. *łoni, łuńi,* н.-луж. *łoni,* в.-луж. *loni, łoni,* чэш. *loni, vloni, lúńi, łuńi, łuń,* славац. *vlani, lani, loňi,* славен. *láni, ułâń,* серб.-харв. *лâни, ла́не, ла̄ни, lâni,* чак. *lāinī,* макед. *лани,* балг. *ла́ни,* ст.-слав. **лани**. Прасл. *olnī* 'з мінулага года'<і.-е. **olnei* 'тады'< <'у той год'<'мінулага года' (гл. Фасмер, 2, 516; Слаўскі, 4, 185—186; Трубачоў, Этимология-1974, 181).

**Ла́нец** 'падкладка з войлаку пад хамут' (Федар. 7). Да *лямец* (гл.) (Турска, гл. Федар. 7, 243). Аб пераходзе *м>н* гл. Карскі, 1, 328—329.

**Ланéшча,** *на ланешчы (насіць)* 'на руках' (рэчыц., Нар. сл.). Бел. рэгіяналізм, утвораны пры дапамозе суф. *-(і)шча* ад *лоні* (мн.), *лоня* 'лона' (гл.). Адносна націску параўн. *лано.*

**Ланжа** 'морква' (Інстр. 2). Няясна.

**Лані́ты** 'шчокі' (слуц., клец., Жд. 1) і ў літар. мове ўстар. паэт. 'тс' (ТСБМ). Бел.-паўд.-слав. ізалекса (Цыхун, БЛ, 5, 50). Параўн. славен. рэзьянск. *lanita,* серб.-харв. чак. *lânita,* макед., балг. радоп. *лани́та, ла́нта* 'тс'. Рус., укр. *лани́ты, лани́та* — са ст.-слав. **ланита** 'тс'. Прасл. *ol-n-ita* 'сагнутая частка цела' (а ў Слаўскага, 4, 460 і *ol-n-itva*>толькі польск. *łanitwa* 'палазы саней') — 'роднаснае да ст.-грэч. ὠλένη 'локаць', лац. *ulna* 'ніжняя частка рукі, локаць', гоц. *aleina,* ст.-в.-ням. *elina,* брэт. *ilin* 'локаць', ст.-інд. *āṇíṣ* 'выгіб', 'загваздка'. Фасмер (2, 457) у ліку славянскіх паралелей падае і чэш. *lanitva* 'шчака, твар', якое, аднак, Махэк₂ (320) выводзіць з герм. **an* [*t*] *vlīta* (>ням. *Antlitz*). Раней аб *olnita* пісалі таксама Лідэн, Arm. *St.*, 1906, 127—129; Покарны, 307—308).

**Ла́ніца,** *ла́ныця* 'зашчапка, якая рэгулюе становішча ствала паляўнічай стрэльбы — гарызантальнае ці з надломам' (Сіг.). Няясна. Магчыма, роднаснае з *ланок* (гл.).

**Ла́нка**₁ 'таўстуха, сытая, гладкая дзяўчына' (Бяльк.), 'непаваротлівая жанчына' (Горленка, Совещ. ОЛА, Гомель). Магчыма, з'яўляецца родным да рус. валаг. *ландуха* 'здаровая, мажная жанчына'. Семантычная тоеснасць лексем *ланка*

і *ландушка* даецца ў Даля$_3$ (2, 609), а *лань* і *ландёха* ў СРНГ (16, 258). Тое ж і ў Фасмера (2, 456 і 457). Бел. лексема, як і рус. *ланка* 'самка аленя', паходзіць ад *ланя* 'лань, самка аленя'. Параўн. *ланя* 'вельмі тоўстая, здаровая жанчына' (З нар. сл.).

**Ла́нка**$_2$ 'дзялянка зямлі, участак' (Мат. Гом.). Балтызм (параўн. літ. *lankà* 'заліўны луг', лат. *lañka* 'нізіна, нізкі луг'). Генетычна роднаснае з прасл. *lǫka* 'луг'.

**Ланкава́ты** 'выпуклы, увагнуты' (паўн.-зах., КЭС) — літуанізм. Параўн. літ. *lankúotas* 'пакручасты'<*lañkas* 'лук, дуга' (Вяржбоўскі, 471—472; Урбуціс, Baltistica, 5, 64; Лаўчутэ, Балтизмы, 69).

**Ланке́тка** 'пласцінка, якая ўжываецца пры накладанні жывёл' (Шат.) — відазмененае *ланцэт* (Шатэрнік, 144).

**Лано**$_1$ 'палажэнне рукі для накладання на яе бярэмя дроў' (пух., Сл. паўн.-зах.), 'абярэмак, ахапак дроў, бацвіння і інш.' (ст.-дар., Сл. паўн.-зах., Нар. сл., Мат. Гом.), *ланом, на лане* 'на руцэ, на руках' (Янк. I), петрык, *лано, лоно́* 'зжатыя або скошаныя збожжавыя памерам як на сноп, але яшчэ не звязаныя' (КЭС). Да *лона* (гл.).

**Лано**$_2$ 'калені', 'спадніца, падол' (Мат. Гом., Мат. Маг.; паўдн.-мін., Сл. паўн.-зах., БНТ, Лег. і пад.). З *ладно* (гл.).

**Ланок** 'загваздка ў санях, калёсах' (Бес.) — родавы варыянт да ўкр. *ланка* 'звяно ў лунцугу', 'плеценая частка пугі'.

**Ла́нпа** 'лямпа' (Бяльк.; лудз., Сл. паўн.-зах.). Да *ла́мпа* (гл.).

**Ланту́ты**, *лату́ты* 'ласункі, прысмакі' (слаўг., Нар. словатв.). Да *манту́лы* (гл.).

**Ла́нтрух** 'чалавек, які любіць паспаць' (полац., Нар. лекс.), міёр. *ла́нтру́га* 'вялікі гультай' (З нар. сл.) — у выніку кантамінацыі з *ла́нту́х* (гл.), 'тоўсты, непаваротлівы, гультай' (КЭС, лаг.; паст., віл., шчуч., навагр., Нар. сл., З нар. сл.) і *латру́га* (гл.).

**Ла́нтух** вялікі мяшок' (Гарэц., Др.-Падб., Шн. 2, Інстр. 3), *лантуг* 'тс' (Бяльк.), *ланту́х* 'сплецены з вяровак дарожны мех для сена каню' (мядз., Нар. сл., Сл. паўн.-зах.), *ла́нту́х* 'жывот, бруха, пуза', 'вантробы, унутранасці', 'частка вантробаў' (Гарэц., Яруш., Др.-Падб., Юрч.; слонім., Нар. словатв.), драг. 'вялікі жывот', глыб., паст., гродз., лельч. 'тоўсты, непаваротлівы, трыбухаты чалавек', 'гультай', 'неахайны' (Сл. паўн.-зах., Нар. сл., З нар. сл., Нар. лекс., КЭС, лаг.), *лантушок, лантухі, лынтухі, ланту́шша* 'ўнутранасці' (Нас., Яруш., Юрч., Бяльк.), лях. 'коўдра, посцілка' (Янк. Мат., Сл. паўн.-зах.). Укр. *лантух* 'посцілка для ссыпання ў яе збожжа', 'вялікі мех', рус. дан., паўд.-рус. 'мешкавіна', 'мех', бран., смал. 'страўнік жывёл'. Паралелі заходнеславянскіх моў сведчаць пра тое, што кожнае запазычанне адбывалася самастойна: польск. *łantuch* 'ануча'<*wańtuch* 'грубае палатно'<ням. *Wagentuch* (Брукнер, 601; Слаўскі, 4, 464), чэш. (і славац.) *lajntuch* 'прасціна'<ням. *Leintuch* (<*Lein* 'лён' і *Tuch* 'сукно' (Голуб-Ліер, 279). Рус. *лантух*, паводле Фасмера (2, 458), паходзіць з ням. *Plantuch, Blahentuch* (<*Plane* 'брызент' ці *Blahe* 'парусіна') або, магчыма, з ням. *Leintuch* 'палатно'. У бел. мове *лантух* (<ням. *Leintuch*) першапачаткова азначала 'коўдра, посцілка'. У посцілцы маглі насіць сена, засцілаць салому, на якой спалі, сядзелі на возе, пасля значэнне развіваецца ў напрамку: 'мяшок, у які напіхвалі сена, салому (сяннік)'>'мех, вялікі мех', параўн. ст.-бел. *вантухъ* (Булыка, Лекс. запазыч., 153)>'пяхцёр', параўн. віл., рагач. *ранту́х, рэнтух* (Сл. паўн.-зах.). Пазней шляхам пераносу значэння з'явіліся 'жывот, трыбух; унутранасці'>'гультай'. Чартко (Бел. лінгв. зб., 149) бел. *лантух* 'чалавек, жывёла з тоўстым жыватом' выводзіць са ст.-бел. *вантухъ* 'тоўстая посцілка', якое з с.-в.-ням. *Wagen* 'воз', *tuoch* 'сукно'.



**Ланту́ш**, *лану́ш* 'ландыш майскі, Convallaria majalis L.' (маг., Кіс.; глыб., Сл. паўн.-зах., Інстр. 2). Запазычана з польскай мовы ў выглядзе *–ланыш* (<*łanysz*), пасля *-ы-*>*-у-* (Карскі, I, 239). У *лантуш -т-* паразітычнае, як *-д-* у *ландыш* (гл.).

**Ланцу́г**$_1$, *ланцу́х, ланцу́к, лынцюг, ланьцу́г* 'жалезны ланцуг' (Нас., Гарэц., Грыг., Мядзв., Касп., Бяльк., Сцяшк., Шат.; кам., Выг.; паўд.-усх., рагач., КЭС, Сл. паўн.-зах.), *ланцужок, ланцу́жык* 'ланцужок да гадзінніка, медальёна' (Нас., Гарэц., Касп., Сцяшк.). Ст.-бел. *ланцухъ, лонцухъ, ланцугъ, ланчухъ, ленцухъ* (XV ст.) (вытворныя: *ланцужокъ, ланцужно, ланцужный, ланцуговый, ланцушокъ, поланцужное*) былі запазычаны са ст.-польск. *łańcuch* (*łancuch, lancuch, lańcuch*)<с.-в.-ням. **lannzug*, якое з *lanne* 'ланцуг' і *zuc, zuges* 'працяг; тое, што цягнецца' (Брукнер, 306; Слаўскі, 4, 462; Кюнэ, Poln., 73; Булыка, Лекс. запазыч., 101). У сучаснай беларускай мове лексема набыла наступныя значэнні: 'назва прыстасаванняў, прылад, фізічных з'яў', 'рад гор', 'лінія стралкоў' (Крукоўскі, Уплыў, 151). Сюды ж шальч. *ланцу́х* 'ключ птушак у палёце'<літ. *lenciũgas* 'тс' (Грынавецкене, Сл. паўн.-зах., 2, 617), а таксама *ланцу́г, ланцужо́к, ланьцу́х, ланьцушо́к* 'пляцёнка пражы, аснова, заплеценая ў петлі пасля таго, як яе знялі са снавальніцы ці сцяны' (Уладз.; трак., вільн., Сл. паўн.-зах.), *ланцу́жка* 'дзявочы танец, які складаецца з кругападобных фігур' і *ланцу́жнік* 'злачынец, закаваны ў ланцуг', 'злодзей' (Шат.).

**Ланцу́г**$_2$ 'страўнік' (?) (Герд, Бел.-рус. ізал., 32). Да *ланту́х* (гл.).

**Ланцэ́т** 'невялікі хірургічны нож, востры з двух бакоў' (ТСБМ). Паводле Крукоўскага (Уплыў, 88), прыйшло з рускай мовы. Аднак рэальна магло быць запазычана праз польскую мову. Першакрыніцай з'яўляецца франц. *lancette* 'тс'<*lance* 'піка, дзіда'<лац. *lancea* 'тс' (Фасмер, 2, 458; Слаўскі, 4, 44).

**Ланча́к** 'аднагадовая свойская жывёла' (Гарб.), *лоншчу́к* 'двухгадовае жарабя' (пруж., Зн. дыс.), рус. *лонча́к, лоньча́к, лонша́к, ла́нчик, лоньша́к* 'тс', 'аднагадовае дзіця', польск. *łońszczak*, славін. *łojscâk*, в.-луж. *łońšak*, славац. *lanštiak*, славен. *lánščak, lânjščak*. Прасл. *olnьščakъ* 'жывёла, якая нарадзілася ў мінулым годзе' (Слаўскі, 5, 192—193). Да *лонскі*<*лоні* (гл.).

**Ланы́** (мн. л.) 'выгода, прыволле' (мсцісл., З нар. сл.). Магчыма, да *лан* (гл.), аднак з-за адсутнасці іншых дадатковых фіксацый нельга нічога заключыць аб семантычным развіцці лексемы. Параўн. таксама *лалы́* (гл.).

**Лань** 'даніэль, Cervus dama', 'самка даніэля', *ла́ня* 'лань' (Някр.). Укр. *лань, ланя*, рус. *лань* 'тс', польск. *łania, łań*, ст.-польск. *łani* (XV ст.) 'самка аленя', каш. *łania* 'худая дзяўчына', ст.-чэш. *lani*, чэш., славац. *laň*, славен. *lânjec*, серб.-харв. *ла̀не*, ст.-слав. **алънии**. Форма *лань*, якая сустракаецца ў спецыяльных працах па ст.-слав. мове, у ст.-слав. рукапісах адсутнічае (Цэйтлін, Этымалогія-1975, 69). Прасл. *olni, olnьji, olnьję* 'самка аленя' з'яўляюцца роднаснымі са ст.-прус. *alne*, літ. *élnė, álnė* 'самка аленя, лань', кімр. *elain*, арм. *eɫn* 'алень', лат. *al̃nis* 'лось', ст.-грэч. ἔλαφος 'алень' (Траўтман, 69; Брукнер, 306; Фрэнкель, 120; Махэк$_2$, 319; Слаўскі, 4, 458—459; Фасмер, 2, 458; КЭСРЯ, 233). Літ. *lonis*<бел. *лань* (LKŽ, 7). Сюды ж шчуч. *лань* 'малады, здаровы, выпешчаны чалавек' (Сл. паўн.-зах.).

**Ла́ня** (асудж.) 'вельмі тоўстая, здаровая жанчына' (міёр., З нар. сл.). Да *лань, ланка*$_1$ (гл.).

**Лап!** 'пра мацанне, абмацванне' (мсцісл., Нар. лекс.), смал. *лап* 'тс', рус. ярасл. *лап!* (аб сабаку) 'скок!', польск., в.-луж. *łap!*, чэш., усх.-славац. *lap!* 'хоп'. Паводле семантыкі толькі мсцісл.-смал. арэал. Паўн.-слав. *lapъ!* суіснуе побач з дзеясл. *lapati / lapiti* (Слаўскі, 4, 464), бел. *ла́паць*$_1$ (гл.). Згодна са Смаль-Стоцкім (Прыміт., 22, 27, 37), — гэта анаматапеічнае аддзеяслоўнае ўтварэнне (са значэннем «рух — гук»).

**Ла́па**$_1$, *ла́пка* 'ступня або ўся нага ў некаторых жывёл і птушак' (ТСБМ, Сцяшк., Бес., Сл. паўн.-зах., Клім., Яруш., Мат. Гом., Бяльк.) (экспр.) 'нага чалавека', 'ножка стала,



ложка, услона' (Сл. паўн.-зах., Нас., Шатал.), 'ступня чалавека' (ігнал., даўг., Сл. паўн.-зах.), 'рука' (Нас.), даўг. *лапка* 'кісць рукі' (Сл. паўн.-зах.), драг. *ла́па, ла́пыско* 'вялікая ступня' (Нар. лекс.), *ла́па* 'расплюшчаны і загнуты канец у некаторых інструментах, прыстасаваных для выцягвання цвікоў' (ТСБМ, Сцяшк., Мат. Гом.), драг. 'для сцягвання ботаў' (І. Лучыц-Федарэц; Сл. паўн.-зах.), в.-дзв. 'для абдзірання галовак ільну' (Шат.), 'зуб у вілах' (навагр., З нар. сл.), 'ручка ў сасе, плузе' (Тарн., Смулк., Шатал.; лях., ганц., Сл. паўн.-зах.), 'матыка' (глыб., Сл. паўн.-зах.), 'чапяла' (кобр., ДАБМ, к. 251), 'камплект панажоў у кроснах' (Бяльк., Мат. Маг., Уладз., Мат. Гом.), 'дошчачка ў калаўроце, на якую наступаюць нагой пры прадзенні', малар. 'стойкі ў калаўроце, паміж якімі знаходзіцца кола' (Уладз.), лельч. 'водаўдарная дошчачка на вобадзе вадзяного кола' (ЛАПП), 'шып на канцы бервяна, які ўстаўляецца ў выемку другога бервяна пры звязванні іх у вянец' (ТСБМ), 'паз у бервяне ў вугле' (Мат. Гом.), (перан.) 'удар па далоні лінейкай як від пакарання ў дарэвалюцыйнай школе' (Нас., Бяльк.; маладз., Хрэст. дыял., ТСБМ, Сл. паўн.-зах.), у выразе: *лапамі араць* 'упірацца, не даваць згоды' (КЭС, лаг.), ст.-бел. *лапица* 'след'. Укр. *лапа*, зах.-укр. *ла́ба*, рус. *лапа* 'тс', смал. *лапы* 'рукавіцы', польск. *łapa* — апрача асноўнага значэння 'нага' польская моўная тэрыторыя звязваецца з беларускімі значэннямі 'частка калаўрота', 'панажы ў кроснах', якія адсутнічаюць у рускіх гаворках; усх.-польск. *łaba*, каш. *łapca* (<*łapica*), чэш. *tlapa*, мар. *dlapa* (<прасл. *lapa*) — *t- / d-* тут пад уплывам ням. *Tatze* 'лапа' (Ільінскі, РФВ, 78, 194), а, паводле Шмілаўэра (Махэк$_2$, 645), чэш. *tlapa* — вынік кантамінацыі слав. *lapa* і ням. *Tappe* 'лапа'; славац. *laba*, славен. *lapa*, якое, паводле Плятэршніка (I, 499), са ст.-слав.; балг., макед. *лапа* 'нага некапытнай жывёлы'. Прасл. *lapa* 'ступня, нага некапытных жывёл' з'яўляецца працягам і.-е. **lāpā* 'рука, далонь, лапа' (Слаўскі, 4, 465), параўн. адпаведнікі з іншых і.-е. моў: літ. *lópa* 'лапа жывёл, якія не маюць капытоў', 'кісць рукі, нагі', лат. *lãpa* 'лапа', гоц. *lōfa*, ст.-ісл. *lófi* 'далонь' (Бернекер, 690; Буга, Rinkt., 2, 170; Покарны, 1, 679; Брукнер, 306; Траўтман, 160; Фрэнкель, 339—340; Фасмер, 2, 458). Сабалеўскі (РФВ, 70, 95) без падстаў рэканструяваў прасл. **tlapa* зыходзячы з чэш. формы *tlapa*.

**Ла́па**$_2$, *ла́пка* 'галінка хвоі, елкі' (Нас., Яруш., Сцяшк., Бяльк., Касп., Шат.; глус., Янк. Мат., Сл. паўн.-зах.), *ла́пнік* 'тс' (Бяльк.), 'галіна дрэва з лісцем' (карэліц., лях., ганц., Сл. паўн.-зах.), 'гронка вінаграду' (карэліц., Шатал.); ганц. *лапкі* 'сцяблы і лісце бульбы' (ДАБМ, с. 867), 'амяла, Viscum

L.' (Маш.). Рус. *ла́пина* 'галінка дрэва, дубчык', *ла́па* 'тс', *ла́пник, ла́пняк* 'шырокія лапы ялін, якімі пакрываюць на зіму двары'. Балтызм. Параўн. літ. *lãpas* 'ліст', лат. *lapa* 'галіны дрэў з лісцем, якія падкладваюцца пад стог ці тарпу'.

***Ла́па**$_3$, *воўча ла́па, кото́вые (котя́чі) ла́пкі* 'ткацкі ўзор, малюнак якога нагадвае след жывёл' (Уладз.). Параўн. таксама лат. *lapa* 'ўзор вязання рукавіц', укр. *лапки́* (мн. л.) 'род узору для вышывання'. Да *ла́па*$_1$ (гл.).

**Ла́па**$_4$ 'лапік, латка' (пін., ДАБМ, 925), *ла́пка* 'тс' (езярышч., віц., бярэз, пін., светлаг., ДАБМ, 924—925). Балтызм. Параўн. літ. *lõpas* 'тс' (Лаўчутэ, Балтызмы, 117—118). Канчатак -*а* пад уплывам лексемы *лата* 'латка'. Сюды ж *ла́піна* 'латка' (ДАБМ, к. 324), *ла́пінка* 'тс' (ДАБМ, с. 924—925; Федар. 1, Федар. 3, Сцяшк., Нар. сл.; мёр., Нар. словатв.), 'пустое месца на полі, непакрытае гноем' (Жд. 2), 'прагаліна' (Мат. Гом.; мёр., Нар. словатв.); навагр. *ла́піна* 'ануча' (Нар. сл.), 'праталіна' (Некр.), 'невялікая плошча зямлі, на якой расце што-небудзь' (Жд. 1), 'частка поля, сенажаці ў 4—6 м$^2$' (Шат.).

**Лапаву́хі**, *лыпаву́хі* 'аблавухі' (Шат., ТСБМ, Яўс.; паўн.-усх., КЭС) 'някемлівы, непаспешлівы' (ТСБМ), рус. наўг., валаг. *лопоу́хий* 'кіжлай, цяльпук, цюхцяй', 'разява', 'ёлуп', а ў літаратурнай мове і 'аблавухі'. Бел.-рус. ізалекса старажытнай пары. Балтызм, параўн. літ. *lapaaũsis* 'лапавухі', 'разява'. Ёсць і інш. балт.-усх.-слав. ізалекса: літ. *aplėpaũsis, nulėpaũsis*, лат. *ļutausis, lutàusis* — бел. *віславухі*, рус. *вислоухий* 'аблавухі; павольны, някемлівы, няўклюдны'.

Першая частка звязана са значэннем 'вісець, абвісаць'. Такі ж сэнс і ў літ. *luzgaũsis* (дзе *luzgė* — 'галіна павіслай бярозы'). У ідэнтычных (паводле семантыкі) лексемах польскай, украінскай і паўднёва-славянскай моў першая частка звязана з *klepati*: польск. *klapouchy*, укр. *клапоухий, капло(в)ухий*, славен. *klapoúch*, серб.-харв. *кле̏мпав*, балг. *клепоу́х* 'аблавухі', макед. *клапушест* 'нязграбны, няспрытны'. Сюды ж *лыпаву́шка, лыпаву́шына* 'аблавушка' (Яўс.).

**Лапа́ная** 'карцёжная гульня, у якой мяняюць карты для складання пар, і калі адна карта можа быць няцотнай, лішняй, таго, хто застаецца з ёй, называюць свінкай' (Нас.). Дзеепрыметнік ад *ла́паць* 'хапаць' (гл.).

**Лапанда́** 'чалавек, які пры сварцы моцна абы-што крычыць' (КЭС, лаг.). Балтызм. Параўн. лат. *pļāpāt*, літ. *plepėti* 'балбатаць, лапатаць'. Аналагічна і *лапа́нда* 'балбатун, балбатуха' (Сцяцко, Афікс. наз., 34). Там жа ёсць і дзеяслоў *лапаніць*. Нявыключана, што ён з *лапа́нда*. Магчыма, *лапаніць* з'яўляецца скарочанай формай дзеяслова з блізкай семантыкай *гарлапаніць*. Аб суф. -*da* гл. Атрэмбскі, Gram., 268—270.



**Лапане́ць**, *лопоне́ць* 'лапатаць, шалясцець' (ТС). Укр. *лопону́ти* 'шпарка пабегчы, уцячы' — тыповая палеская мена *т>н* у экспрэсіўных дзеясловах. Параўн. драг. *стугонітэ* ~ ~*стукотітэ*. Да *лопат* (гл.).

**Лапа́нка** 'пастка', 'аблава' (астрав., шальч., Сл. паўн.-зах.). З польск. *łapanka*, параўн. кракаўск. 'клетка для галубоў на даху', 'аблава на людзей у перыяд гітлераўскай акупацыі' < *łapać* < прасл. *lapati* 'лавіць'.

**Лапано́сы** 'чалавек з шырокім, пляскатым носам' (Касп., ТСБМ; кіраў., Нар. сл.; жлоб., Мат. Гом.), 'лапаносы, кірпаносы' (Растарг.). Літ. *lapanõsis* 'той, у каго нос мае форму ліста', параўн. *šikšnósparnis lapanõsis* 'шыраканосая лятучая мыш, Rhinolophus ferrum eguinum'. Магчыма, балтызм, аднак з прычыны неакрэсленасці арэала пашырэння лексемы ў літоўскай мове (адсутнасць дадатковых дадзеных) нельга дакладна вызначыць крыніцу. Сюды ж *лапаноска* 'водная птушка шыраканоска, Anas clypeata L.' (Інстр. 2; слуц. Федз.-Доўб.).

**Лапану́ць** 'пабегчы, ірвануць, пасляшацца' (карэліц., Нар. сл.) — балтызм. Параўн. літ. *lapanóti* 'бегчы', *lapénti* 'хутка ісці, бегчы'. Канец слова -*нуць* на беларускай глебе атрымаў значэнне імгненнасці дзеяння.

**Ла́пань**, *ла́пень* (гродз., ДАБМ, к. 324) — дыялектны сінонім да *лапік* (гл.). Аб суф. -*ень (-ань)* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 38—39.

**Лапасты**$_1$ 'вушы з аўчыны ў шапцы з суконным верхам' (Кольб.) — відавочна, *лопасты (лопасці)* (?).

**Лапа́сты**$_2$, *лапа́стый сніг* 'снег, які падае камякамі' (Сіг.), кам. *лапа́тый* 'шырокі, шыракалісты' (Сл. паўн.-зах.), укр. *лапатий* 'з вялікімі лапамі', 'лапавідны', 'вялікія камякі (снегу)', 'вялікія плямы (матэрыял)'. Да *ла́па*$_1$ (гл.). Аб утварэнні прыметнікаў з суф. -*ат-ы* ад назваў частак цела гл. Бел. гр. I, 200—201.

**Лапа́та**, *лопа́та* 'драўляная ці металічная прылада з дзяржаннем і шырокім ніжнім канцом для капання зямлі, зграбання збожжа, саджэння хлеба ў печ, для расчысткі снегу' (ТСБМ, Сл. паўн.-зах., Касп., Шат., Яруш., Бес., Бяльк., Сцяшк.), 'вертыкальная частка прасніцы, да якой прывязваецца кудзеля' (Уладз.), 'прылада (дошчачка) для выраўноўвання саломы на страсе' (Шушк.; паст., шальч., Сл. паўн.-зах.). Укр., рус. *лопа́та*, польск. *łopata*, палаб. *lüpotə* 'лапатка', н.-луж. *łopata, klěbowa łopata*, в.-луж. *łopata, hopata, opata* 'хлебная лапата', *łopač* 'лапата', чэш. *lopata, lopač, lopař*,

славац. *lopata,* славен. *lopáta* 'лапата', 'вясло', 'лапатка', серб.-харв. *лòпата,* чак. *lopȁta,* макед. *лопата, лопáта, лупáта,* балг. *лопата,* ст.-слав. **лопата** 'лапата, шуфель', 'вясло'. Прасл. *lopata* паводле марфалагічнай будовы ўяўляецца як адыменны (вельмі стары, першасны) прыметнік на *-at-ъ,* ж. р. *-at-a* (Мее, 291), утвораны ад лексемы *lop-ъ* 'ліст', роднаснай да літ. *lā-pas,* лат. *lapa* 'ліст' (гл. *лáпа*$_2$). Семантыка лексемы *lopata* заключала ў сабе прыкмету з наяўнасцю знешняй рысы, а імена формы ліста. Вельмі яскравым сведчаннем гэтага з'яўляецца дэфініцыя славен. *lopáta* ў SSKJ (2, 640): *orodje s širokim listom in dolgim držajem...* Роднаснымі для прасл. *lopata* з'яўляюцца літ. *lópeta, lopetà* 'лапата', 'лемех', 'лапатка', лат. *lâpsta, lāpusta* 'лапата', 'лапатка', прус. *lopto* 'лапата'. Больш падрабязна гл. Бернекер, 732—733; Буга, Rinkt, 1, 312—313; Брукнер, 312; Траўтман, 149—150; Младэнаў, 279; Фрэнкель, 339—340; Мюленбах-Эндзелін, 2, 240; Фасмер, 2, 518—519; Слаўскі, 5, 193—196; Скок, 2, 318—319 і інш. Махэк$_2$ (339) рэканструюе прасл. форму як *lapeta.*

**Лапатáць**$_1$, *лопотáць* 'ударацъ па паверхні чаго-небудзь, ствараючы аднастайныя прыглушаныя гукі' (ТСБМ), 'біць па лісці, кары, па акне (аб дажджы)' (КЭС, лаг.), 'нязвязна хутка гаварыць, расказваць' (ТСБМ; міёр., Нар. лекс., КЭС, лаг.), 'гаварыць, размаўляць' (Сл. паўн.-зах.), 'гаварыць на замежнай мове' (ТСБМ), 'балбатаць, малоць глупства, барабаніць языком, гаварыць многа аб нязначным, пустым і без сэнсу', 'крычаць' (ТСБМ, Гарэц., Касп., Шат., Нас.; докш., Янк. Мат., ТС, Сл. паўн.-зах.), 'узводзіць паклёп' (Нас.), пух. 'грукатаць', шальч. *лапатацца* 'абгаворваць' (Сл. паўн.-зах.). Укр. *лопотáти,* рус. *лопотáть,* польск. *łopotać,* славен. *lopotáti,* серб.-харв. *лопòтати,* ст.-слав. **лопотивъ** 'гугнявы', 'балбатлівы'. Прасл. *lopotati* 'выдаваць гук пры ўдары, балбатлівую гаворку', 'шумець'. З'яўляецца інтэнсівам з суф. *-otati* ад *lopati*>*лопаць* (гл.), утворанага ад гукаперайманя *lop!* (Бернекер, 1, 732; Фасмер, 2, 519; Слаўскі, 5, 202—204). З іншым вакалізмам — *лéпет* (Аткупшчыкоў, Из истории, 95). Сюды ж: *лапатанне* 'балбатанне, паклёп' (Нас.), стаўб. *лапатаньё* 'тс' (Нар. словатв.), *лапатáннік* 'балбатун', *лапатня́* 'балбатня' (трак., Сл. паўн.-зах., Юрч. Вытв.), *лапатлівы* 'балбатлівы' (Сл. паўн.-зах., Мат. Гом.), *лапатýн* 'балбатун, які шмат і без сэнсу хутка гаворыць' (КЭС, лаг., Касп., Шат., Жд. 2, Нар. лекс., З нар. сл.), перан. *лапатушка* 'трактар' (Мат. Гом.).

**Лапатáць**$_2$ 'скубсці траву, дрэнна касіць (пра няякасна адкляпаную касу)' (слонім., Сл. паўн.-зах.). Утворана ад *лопат* (гл.).



**Лапáтачка** 'прылада для веяння збожжа' (Бяльк.), 'мешалка' (ваўк., Сл. паўн.-зах.), 'струк бабовых культур, калі ў ім толькі завязваюцца зярняты' (Інстр. 2, Мат. Маг., Сцяшк., Мат. Гом.), навагр. *лапатóчка* 'тс' (З нар. сл.), 'дэталь калаўрота, якая круціць кола ў ім' (шальч., Сл. паўн.-зах.), *лапáтка, лопáтка* 'язычок у клямцы' (Шушк., ТС), 'прылада для капання зямлі' (Бір., ТС), 'прылада для ачысткі зерня' (Мат. Маг., ТС), 'лапатка (цела), пярэдняя частка тушы жывёлы' (ТСБМ, Бес., Вешт., Нас., Касп., Мат. Маг., Шат., Бір., Сл. паўн.-зах.), 'пярэдняя нага авечкі' (Кліх), 'брыль у шапцы, кепцы' (Тарн.; чырвонаслаб., З нар. сл.), 'плоскі, няспелы стручок бабовых' (ТСБМ, ТС; лях., Сл. паўн.-зах.; мядз., Нар. сл.), бярэз. 'мешалка' (Шатал.), 'лапатка для выраўноўвання саломы ў страсе' (Шушк.; рас., Шатал., Уладз.), 'лопасць' (ТСБМ), 'мянташка' (Мат. Маг.; в.-дзв., Шатал., Тарн., Выг.), 'прыстасаванне ў калаўроце, якое прыводзіць кола ў рух' (браг., Нар. сл.), бяроз. *лопáтка* 'маленькі снапок саломы, які кладуць каласамі ўніз пры пакрыцці страхі', *лопáткы* 'звязаныя тры снапкі саломы, якімі крыюць страху' (Шатал.), *лапацішча* 'дзяржанне ў рыдлёўцы' (шум., Сл. паўн.-зах.), *лапáтка, лапáтачка* 'чапяла, прылада для вымання скаварады з печы' (Сцяшк.; астрав., Сл. паўн.-зах.), 'інструмент для ачысткі лемеха ад зямлі' (Смул.). Да *лапáта* (гл.).

*__Лáпатка__, *лáпôтка* 'паглыбленне на галёнцы задняй лапкі пчалы, акружанае цвёрдымі і кароткімі шчацінкамі, якое служыць для пераноскі пылку' (Анох.). Магчыма, сюды ж рус. *лапотки* 'пушышкі на лапах мядзведзя', зах.-укр. *лапоть* 'абрэзак, шматок, лапік', славен. *lapet* 'кавалак зямлі', серб.-харв. *лàпат* 'тс', 'кавалак, абрэзак, акравак, лапік', ц.-слав. *лапътъ* 'кавалак'. Прасл. *lapъtь* роднаснае з літ. *lõpas* 'акравак', лат. *lãps* 'лапік', алб. *lapë* 'тс', ст.-грэч. λώπη 'адзенне'. Гл. *лапаць.* Суф. *-ъtь,* як у слове *(паз)ногаць.* У палес. *лáпôтка* па аналогіі да *лапка, ножка, абношка* дадаены яшчэ суф. *-к-а.*

**Лапаткавáць** 'паглыбляць баразны для сцёку вады пасля сяўбы жыта' (Жд. 1), ельск. 'спускаць ваду з градаў' (Выг.). Да *лапáта* (гл.).

**Лапаткі** 'вузкія матузкі ці стужачкі, якімі зацягваецца каўнер у фартуху' (Інстр. 1). Зах-укр. *лапатáче* 'абрэзкі, акраўкі', рус. *лопотóк* 'акравак, аблямаваны сэрцайкам, які прывязваецца як аздоба катоў'. Да *лáпаць*$_2$ (гл.) <прасл. *lapъtь,* з якім лексема звязана значэннем 'акравак, абрэзак'. Параўн. таксама папярэдняе *лáпатка.*

**Лáпатнік**$_1$ 'той, хто носіць лапці' (Яруш.), укр. *лапóтник* 'тс', рус. *лáпотник* 'той, хто прадае лапці', (пагардж.) 'селянін', 'адсталы, некультурны чалавек', 'просты, няхітры чала-

век', ст.-рус. *лопотникъ* 'тс'. Усх.-слав. Да *ла́пацьв$_2$* (гл.). Сюды ж *ла́патны.*

**Ла́патнік$_2$** 'шчаўе конскае, Rumex confertus Willd' (маг., смал., Кіс.). Да *ла́пацьв$_2$* (гл.). Матывацыя: форма ліста нагадвае лапаць (гл. рыс. 114, Станк.-Тал., 265). Не выключана, аднак, народна-этымалагічнае пераасэнсаванне лац. Rumex hydrolapathum Huds. 'шчаўе прыбярэжнае', у прыватнасці часткі слова — *lapathum.*

**Лапа́тнік$_3$** 'той, хто вырабляў драўляныя лапаты для хлеба' (Сл. паўн.-зах.). Ст.-рус. *лопатникъ.* Да *лапа́та* (гл.).

**Лапату́ха$_1$**, *лыпату́ха* 'зазубіны (пашкоджанне ляза), карабатае месца на лязе касы, нераўнамерна адцягнутае ў час кляпання' (Жд. 1, Янк. II, Сцяшк., Мат. Маг., Мат. Гом., Смул., Шат.; лунін., Мат. ЛАБНГ, Сл. паўн.-зах., Бяльк.), 'перабітае месца на касе пры кляпанні, якое лапоча пры вастрэнні касы' (КЭС, лаг.). Беларускае. На першы погляд, здавалася б, паходзіць ад *лапатаць,* якое ад *лопат*<гукаперaймальнае прасл. *lopotъ* (параўн. народнае тлумачэнне аб «лапатанні» перабітага месца), аднак, калі прыняць да ўвагі лінгвагеаграфічнае пашырэнне гэтай лексемы і яе дыялектных сінонімаў (Мат. ЛАБНГ, адказ на пыт. 423), можна меркаваць, што *лапатуха* — балтызм са слав. суф. *-уха,* параўн. літ. *lãpatas* 'акравак, абрэзак', 'абадранец', якое з *lãpas* 'ліст' (Фрэнкель, 340). Аналагічна карэліц., нясв., ц.-палес. *лапаце́нь,* дзятл. *ло́пот* (Мат. ЛАБНГ), гродз. *лопат* (Сцяшк.), *лапаток,* вільн. *лапату́н* (Сл. паўн.-зах.) і ўтварэнні з коранем *лоп-* (<*lãpas* 'ліст'): віц. *лопа́ўка* (<*лопаць* 'трэскацца'), *лопухі* 'лапатуха'. Матывацыя: перабітае пры няўмелым кляпанні месца на вастрыі касы падобна да лісточкаў і да іх пад. Таму ў выніку пераносу значэння ўзніклі палес. *рыба, шчука, шчучка, цыцкі, жабка* (Мат. ЛАБНГ). Беласт. *клопат* — кантамінаваная назва з *кляпаць* (гл.) і *лопат* (гл.).

**Лапату́ха$_2$**, *лыпату́ха, лопоту́ха* 'балбатуха, гаваркая жанчына' (ТСБМ, Касп., ТС, Бяльк., Шат., Мат. Гом., КЭС, лаг.; міёр., З нар. сл.; гродз., Сл. паўн.-зах.), 'балабон, званок, які прывязваўся каровам на шыю' (Бяльк.). Да *лапата́ць$_1$* (гл.). Аб суф. *-ух-а* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 71.

**Лапатэра** (зневаж.) 'лапатуха, гаваркая жанчына' (Мат. Гом.). Да *лапатаць$_1$* 'хутка гаварыць'. Суф. *-эра* з'яўляецца, відавочна, працягам такога ж экспрэсіўнага прасл. суф. *-era* (Слаўскі, SP, 2, 24).

**Лапаце́нь$_1$** 'лапатун' (Нас.), 'балбатун' (Сл. паўн.-зах.). Да *лапатаць$_1$* (гл.). Аб словаўтварэнні гл. Сцяцко, Афікс. наз., 38.

**Лапаце́нь$_2$** 'планка з адтулінай, у якую ўстаўляецца верх-



ні канец млёна' (Інстр. 3; віл., КЭС; беш., Нар. сл., Сл. паўн.-зах.), 'частка млына, якая падае збожжа' (Касп.). Утворана ад назоўніка *лапата* і суф. *-ень* (планка з адтулінай мае выгляд лапаткі). Сюды ж *лапаценка* 'тс' (воран., Сл. паўн.-зах.).

**Лапаце́нь$_3$**, *лыпаце́нь* 'тоўсты, сыты, поўны хлопец, непаваротлівы' (Бяльк.). Да *ла́пацьв$_2$* (гл.). Параўн. *лапціва́ты* 'тоўсты, бясформенны чалавек' (КЭС, лаг.).

**Лапаце́ць** 'хутка бегчы (аб конях)' (Шат.), 'бегчы вельмі хутка' (Бяльк.), лун. *лопоце́ць* 'бегчы, спяшацца' (ТС). Балтызм. Параўн. літ. *lapatúoti* 'падскокваючы бегчы або ехаць на кані', 'спяшацца'.

**Лапа́ціць**, *лыпа́ціць* 'вастрыць касу' (Касп.; в.-дзв., Шатал., Юрч. Фраз. 2, Мат. Маг.), рус. арханг. *лопатить* 'тс'. Утворана ад *лапа́тка, лапа́тачка* 'мянташка' (ДАБМ, к. 264).

**Лапацо́ны**, драг. *лапацо́нэ* 'шырокія, нязграбныя ступні ног' (Лучыц-Федарэц), *лыпацо́н* 'сыты, поўны чалавек' (Бяльк.). З укр., параўн. зах.-укр. *лапацон* 'паляшук', бук. 'здаравяк, нязграбны', 'шырокі, буйны (аб лісці, узорах)', *лапацо́ни* 'вялізныя ступні', 'стары абутак'. Параўн. таксама рус. *лапотон, лопатон* 'лапатнік', 'селянін, які перасяліўся з Еўрапейскай Расіі', урал. *лапотонцы* 'лапці'. Да *лапа$_1$* (гл.). Суф. *-цон,* магчыма, з ідыш.

**Лапацу́к** 'пацук' (слаўг., Мат. АЛА). Відавочна, кантамінацыя лексем *лапату́н* (<*лапаце́ць* 'хутка бегчы стукаючы') і *пацук* (А. А. Крывіцкі, вусн. паведамл.).

**Ла́пацьв$_1$** 'хапаць, мацаць рукамі', 'лавіць' (ТСБМ, Нас., Сцяшк., Бяльк., Мат. Гом., Жд. 1, Бес. Сл. паўн.-зах.; малар., Бел. хр. дыял.), 'кранаць' (уздз., Жд. 2), *лапа́ць* 'аграбаць пчаліны рой' (трак., Сл. паўн.-зах.). Укр. *ла́пати,* рус. *лапать,* польск. *łapać,* н.-луж. *łapaś,* в.-луж. *łapać,* чэш. *lapati, lapat,* славац. *lapat',* славен. *lápati,* макед. *лапам* (*muvi*), балг. *ла́пам.* Прасл. *lapati* — ітэратыў ад прасл. *lapiti* 'хапаць, схапіць, злавіць', якое мае рухаперaймальны пачатак — ад *lap*! (Бернекер, 690; Махэк$_2$, 320; Слаўскі, 4, 468, 473—474; Фасмер, 2, 459; Голуб-Копечны, 199; Брукнер, 306—307). Улашын (WuS, 2, 200) указвае на магчымасць утварэння ад *лапа* (гл.), што Бернекер (1, 690) аспрэчвае. Аб магчымасці больш позніх уплываў на пэўных моўных тэрыторыях гл. Дзендзялеўскі, Укр.-зах.-слов. парал., 32 і 83. Сюды ж *лапа́нне* хапанне, хватанне', *лапані́на* 'хапанне з розных бакоў', *лапа́ны* 'набыты несправядліва, хабарам', *лапаны́* 'хабар', *лапа́ная* 'гульня ў карты' (Нас.).

**Ла́пацьв$_2$**, *ла́пыць* 'абутак з лыка' (Шат., Яруш., Бяльк., ТСБМ, Сл. паўн.-зах.), *ла́пці* (мн. л.) (Тарн., Сцяшк.; палес., КЭС), *ла́пець* (Янк. II), *лапатэ́нь* 'тс' (Растарг.), *ла́пацьв* 'ад-

сталы, некультурны чалавек' (ТС), *лапціва́ты* 'тоўсты, агазны, падобны на лапаць чалавек' (КЭС, лаг.), 'пляскаты, з шырокім пляскатым тварам' (віл., Сл. паўн.-зах.), *лапцікі* 'вінная ягада' (глус., КЭС), *лапцікі* 'абутак, плецены кручком з нітак' (баранав., Сл. паўн.-зах.). Укр. *лапоть* 'лапаць', 'акравак', 'закаўраш', рус. *лапоть, лапти, лапотики, лапотки* 'лапці'. Польск. *łapeć, łapcie* 'тс' запазычана з бел. (Слаўскі, 4, 473), як і ўкр. *лапоць* (Грынчанка, 2, 344), чэш. *láptě*<рус. *лапти* (Махэк$_2$, 320) — усх.-слав. лексема, якая ўзнікла ў выніку семантычнага пераносу прасл. *lapъtь* 'кавалачак, акравак, палоска якога-небудзь матэрыялу'<*lapъ*, да якога адносіцца і бел. *лапік* (гл.). Параўн. рус. *лапоток* 'акравак', арханг. *лапочиха* 'тканая дарожка з нашытымі акраўкамі матэрыі', а таксама серб.-харв. *лапа̏т, ла̀пат* 'кавалак, ануча', 'кавалак зямлі, поле', *làpatak, ла̀паце* 'унутранасці жывёлы', *лапчи̏на* 'прымітыўныя боты', балг. *лапчини, лапчуни* 'сялянскія дамашнія чуні з воўны', *лаптище* 'вялікая чаравікі', літ. *lāpatas* 'латка', 'ануча', *lōpas*, лат. *laps* 'лапік', алб. *l'apë* 'акравак, латка', літ. *lópyti*, лат. *lâpît* 'латаць', літ. *lopùtė* 'чуні з грубых нітак', ст.-грэч. λώπη 'адзенне', λοπός 'кара, лушпінне' (Міклашыч, 160; Бернекер, 1, 691; Брукнер, 307; Младэнаў, 270; Скок, 2, 270). Буга (Rinkt., 1, 313), Фрэнкель (385—386), Вахрас (Наим., 121—124), Фасмер (2, 459) дапускаюць генетычную сувязь лексемы *lapъtь* з *lapa*, як і *nogъtь* з *noga*. Лаўчутэ (145) выводзіць лексему *лапаць* з нейкага літ. слова, якое генетычна звязана з літ. *lōpyti* 'латаць'. Сюды ж ашм. *лапцю́х* 'лапатнік', 'апушчаны, занядбалы чалавек', лід. *лапцёўка* 'матэрыял, якім падшывалі лапці' (Сл. паўн.-зах.).

**Лапа́чанне** 'веянне', 'вастрэнне касы' (Юрч. Вытв.). Да *лапа́ціць*<*лапа̂та* (гл.).

**Ла́пачка** 'кручок у вочапе, за які чапляецца вядро' (шчуч., Сл. паўн.-зах.). Да *ла́пка*<*ла́па*$_1$ (гл.).

**Лапачы́на** 'рука, ручанька' (Федар. Дад.). Утворана ад *лапка* і суф. *-іна*, які абазначае адзінкавасць і мае ласкальнае значэнне.

**Лапе́за** 'аляпаваты, нязграбны, непрыгожы чалавек з расплясканымі тварам і носам' (Гарэц., Др.-Падб., Нас., Яруш.), 'непаваротлівы, нехлямяжы', *лапе́зны* 'тс' (Бяльк.), *лапе́зішча* 'морда' (Нас.), *лапе́за* 'неахайны чалавек' (Мат. Маг.), 'гультайка, беларучка', *лапе́зіна* 'тс' (Яўс.), 'непаседа' (Мат. Гом.), 'тоўстая, непаваротлівая жанчына' (Расtarг.), смал. *лапёза* 'тс', *лапёзовый* 'непрыгожы'. Балтызм, параўн. літ. *lepéža* 'непаваротлівы', 'лапа, лапішча, (шырокая) ступня'. Гл. таксама *ляпе́за*.

**Ла́пек**, *лапе́ка* 'латка' (маг., гом., ДАБМ, к. 231, Нар. сл.), *лапе́ка* і *лапе́ха* (Мат. Гом.), пух., рагач. *лапе́ка* 'невялікі ўчастак, заняты пад што-небудзь', воран. 'кавалачак дрэва' (Сл. паўн.-зах.). Балтызм, утвораны ад *lōpas* 'латка' і дэмінутыўнага суф. *-ėkas*, адаптаваны на Гомельшчыне ў *-еха*.

**Лапе́нь**, *лапе́ня* 'лапік' (гродз.), 'акраўкі ад старога адзення' (шчуч., Сл. паўн.-зах.) — балтызм; параўн. літ. *lopinỹs* 'тс' (Сл. паўн.-зах., 2, 621), лат. *lāpene* 'тс'.

***Ла́пенька**, *łap'eŋ'ka* 'анучка, лапік' (Кл.). Да *ла́піна* 'тс' (гл.).

**Лапе́шка** 'частка лыжкі без ручкі' (Касп.), пск. *лапёшка* 'драўляная лыжка', смал., пск. *лапе́шка* 'карэц'. Рэгіянальнае экспрэсіўна-дэмінутыўнае ўтварэнне ад *лапа*$_1$ (гл.), параўн. рус. цвяр. *лапа* 'жалезны палонік (лыжка), якім вымаюць з жару распаленыя камяні'.

**Ла́пік** 'латка', 'акравак' (ц.-палес., ДАБМ, к. 324, Бяльк., Сцяшк., Гарэц., Мядзв., Бір., Грыг., Касп., Шн. 3, Мікуц., Зеньк., Нас.; маг., КЭС; калінк., Сл. паўн.-зах.), 'кавалак зямлі' (Нас.), 'плямачка' (Жд. 2), перан. *ла́пікі* 'лахманы' (лун., Шатал.). Укр. *ла́пик* 'латка', чарніг. *ла́пичка* 'кавалак зямлі, які застаецца пасля раздзелу цэлага загона', рус. смал., бран. *ла́пик* 'кавалак матэрыі, латка', 'палоска зямлі'. Да прасл. +*lapъ*, якое генетычна звязана з літ. *lōpas* 'латка'>*ла́па*$_4$. Утвораны пры дапамозе суф. *-ік*, як *вабік, лазік* (Сцяцко, Афікс. наз., 41; Лаўчутэ, Балтызмы, 74—76). Сюды ж дэмінутыў *лапікычык* (сен., ДАБМ, 924), *ла́пічко* 'лапік', 'ануча' (Сцяшк.), дзятл. *ла́пічак* 'акравак' (Сл. паўн.-зах.). Лексема *лапік* родная з *ла́паць*$_2$ (гл.) (Фасмер, 2, 459).

**Ла́піка**, *ла́піко* 'лапік' (ДАБМ, 924—925) — гібрыдная форма з лексем *лапік* і *латка* (гл.).

**Ла́пікла** 'латка' (віц., мін., ДАБМ, 924—925; Шат., Касп.; чэрв., Сл. паўн.-зах.), 'дзірка на адзежы', 'прагаліна' (Некр.), 'адзежа' (Сержп. Грам.), 'вялікая латка' (Шат.), чырвонаслаб. *ла́пікло* 'латка' (З нар. сл.), ганц. 'невялікі ўчастак' (Сл. паўн.-зах.). Балтызм. Лаўчутэ (Балтизмы, 118) дапускае існаванне ў літ. мове формы *lopykla(s)*<*lópyti* 'латаць' па аналогіі да *valgyklas* 'ежа'<*válgyti* 'есці' пры наяўнасці лат. *lāpeklis* 'папраўка, рамонт', 'цыраванне'. Грынавецкене (Сл. паўн.-зах., 2, 621) дае такую форму *lopỹklas* 'латка' — крыніцу запазычання. Тое ж у Взаимод. лингв. ареалов (1980, 198). У LKŽ слова запісана ў Воранаўскім р. Гродзенскай вобл.

**Ла́пікна** 'латка' (пух., ДАБМ) утварылася, відавочна, шляхам кантамінацыі *ла́піна* і *ла́пікла* (гл.).

**Ла́пілка** 'латка' (арш., ДАБМ) паходзіць з *лапікла* (гл.).

Суф. *-і-лк-а* аформлены паводле бел. *лазілка, мазілка* і інш. (гл. Сцяцко, Афікс. наз., 51).

**Ла́піна** 'лапік', *ла́пінка* 'тс', *ла́піна* 'адзежына', 'ануча', 'невялікі ўчастак, заняты пад што-небудзь', 'абсеў, незасеяны агрэх', 'месца, дзе качаўся конь' (гродз., віц., мін., ДАБМ). Паводле Грынавецкене (Сл. паўн.-зах., 2, 621), узыходзіць да літ. *lopinȳs* 'кавалак матэрыі, рыззё, ануча', 'прагаліна' < < *lõpas* 'латка' (Лаўчутэ, Балтызмы, 116—118). Аднак не выключана магчымасць утварэння ад *ла́па*$_4$ (гл.) пры дапамозе сінгулятыўнага суф. *-ін-а*.

**Ла́пісты**$_1$ 'галінасты' (карэліц., лях., Сл. паўн.-зах.). Да *ла́па*$_2$ (гл.).

**Ла́пісты**$_2$ 'плямісты' (свісл., Сл. паўн.-зах.). Утворана ад *ла́па*$_4$ (гл.).

**Ла́піць** 'латаць, рамантаваць адзенне' (Гарэц., Бір., Сцяшк., Бяльк., Касп., Шат., Мат. Гом.; маг., КЭС; навагр., Нар. сл., ДАБМ, к. 323), паўн.-пін. *ла́піты* 'тс' (Нар. лекс.), оўруч. *лапіт'* 'тс' (Бел.-укр. ізал.). Старажытны балтызм. Параўн. літ. *lópyti*, лат. *lãpît* 'тс' (Фасмер, 2, 459; Мюленбах — Эндзелін, 2, 439; Лаўчутэ, Балтызмы, 74—76). Сюды ж *ла́плены* 'пярэсты, рабы (конь)' (Нік. Няч.), *ла́плены, ла́пліны(й)* 'палатаны' (Нас., Бяльк.; кіраў., Нар. сл.; барыс., Сл. паўн.-зах.), *лапленне* 'латанне' (Юрч.), гом. *ла́плінка, ла́плянка* 'латка' (ДАБМ, 925), *лапленнік* 'той, хто латае' (Юрч. Вытв.).

**Лапка́н** 'пастка' (нараўл., Мат. Гом.). Утворана ў выніку кантамінацыі лексем *капка́н* і *лапа́нка, лапа́ць* (гл.).

**Ла́пна,** *лапно* 'крэйда, нягашаная вапна' (Клім.) — з *вапно* ў выніку распадабнення *в-* у *л-*. Аналагічна бел. *Слабада* (шматлікія назвы вёсак) — *свабода.* Тое ж і ў славац. мове (Махэк$_2$, 597). Дзендзялеўскі (SSlHung., 22, 1976, 285) тлумачыць гэта ў гуц. *лапно* 'тс' народным этымалагізаваннем.

**Ла́пнік** 'дуброўка гусіная, Potentilla anserina L.' (маг., Кіс.), як і *лапчатнік* (гл.), у выніку намінацыі *гусіная лапка.* Да *ла́па*$_1$ (гл.).

**Лапонік** 'вялікая лыжка, якой разліваюць суп' (Касп., Інстр., I) — у выніку метатэзы са скарочанай (без *а-*) формы *апалонік*$_1$ (гл.). Сюды ж маз. *лапонік* 'апалонік', хвастатая лічынка жаб' (Шатал.) Аднак Блесэ (SB, 5, 1935—1936, 23—24) выводзіць гэту лексему са ст.-прус. *lapinis* 'лыжка'.

***Лапотка,** лун. *лопо́тка* 'бразготка' (Шатал.) Рэгіянальнае ўтварэнне з суф. *-к-а* ад *лопат, лапатаць* (гл.).

**Лапсарда́к** 'даўгаполы сурдут у польскіх і галіцыйскіх яўрэяў' (ТСБМ), 'старая адзежына іншага пакрою' (КЭС, лаг.), *лапсярда́к* 'кафтан' (Сцяшк.), *ла́псурдук* 'абадранец', 'лахманы, рызманы' (Нас.), *ла́псырдзікі* 'парванае, абношанае



адзенне' (Грыг.). Укр., рус. *лапсердак* 'яўрэйскі сурдут', 'дрэнна пашытая адзежына', польск. *lapserdak* 'тс', 'абадранец', 'збяднелы чалавек', 'галяк', 'неахайны'. Запазычана з ідыш *ла́псердак* 'рытуальная кашуля, абвешаная з чатырох вуглоў махрамі, кожны з якіх складаецца з 12 матузоў' (Альтбаўэр, JP, 17, 76). Форма ў ідыш вядома яшчэ з сярэдніх вякоў. Яна складаецца з *ла̄б* (<н.-в.-ням. *Leib* 'ліф') і слав. (укр.) *сердак* 'сурдут з тоўстага сукна' (Шапіра, Филолог. записки, 1873, вып. 1, 13; Фасмер, 2, 459). Праабражэнскі (1, 434) тлумачыць гэта слова як зближэнне з н.-в.-ням. *Lappen* 'ануча' слова *сюртук;* Насовіч (265) — ад *лапіць* і *сюртук,* што мала імаверна.

**Лапта́** 'гульня ў мяч дзвюма партыямі' (ТСБМ), бых. 'палка, якою гуляюць у чыжыка' (Рам., 8), гродз. 'палка, лапатка, якой б'юць па мячыку' (Нар. словатв., ТСБМ). Рус. *лапта, лопта,* уладз. *лопта,* алан. *хлопта́, хлапта́* 'тс', 'ракетка', 'мухабойка', польск. н.-тарг. *labda* 'мяч', чэш., славац. *lopta,* славен. *lộpta,* серб.-харв. *lȍпта, lȍfta, lovta* 'мяч'. Прасл. *lopъta* (Брандт, РФВ, 22, 250; Бернекер, 1, 733; Фасмер, 2, 460; Скок, 2, 318—319) роднаснае з *лапата* (гл.). Да і.-е. **lēp-*/**lōp-*/**ləp-* 'плоскія прадметы'.

**Лапту́х** 'мяшок для торфа' (барыс., Жд. 2), 'мяшок' (рэч., Мат. Гом.). У выніку пераходу *р-* у *л-* (Карскі, 1, 315) з *рапту́х, рэптух* 'тс' (гл.).

**Лапту́ха** 'пухір на целе' (Касп.), рус. пск., цвяр., наўг., алан. 'высыпка на целе пры воспе, адры, вятранцы; воспа, адзёр', 'воспіны на твары'. Бел.-рус. ізалекса. Параўн. яшчэ рус. наўг., пск., пенз., ёнаў., прэйл., тарт. *лапту́шка, лапту́шки* 'адзёр', *лапты́* 'чырвоныя плямы і пісягі на целе' (Даль, Б. м.). Генетычна звязана з *лапта, лапата* < прасл. *lapъta* < < балт. *lap-* (> літ. *lãpas,* лат. *lapa* 'ліст').

**Лаптыр,** *лаптыро́к* 'лопасць, ніжняя частка лапаты, вясла' (паўн.-зах., КЭС). Да *лапта.* Параўн. рус. *лапта́, лопта́* 'лопасць' (Даль, 2, 612). Суф. *-ыр,* як у *лабыр* (гл.).

**Лапу́да,** *лапу́дыско, лапу́дына* 'чалавек у доўгім адзенні' (драг., Нар. лекс.) — у выніку кантамінацыі *латы, латоші* 'лахманы' і *опудына* 'шырокае адзенне' (Клім.). Параўн. таксама *лахтаніна, лахтадрына* (гл.).

**Лапу́зіць** 'гаварыць абы-што' (карэл., Шатал.). Няясна. Магчыма, роднаснае з укр. *лапуза* 'чалавек з расплывістай фізіяноміяй'. Параўн. таксама *лапе́за* (гл.).

**Лапу́н**$_1$, *лапуны* 'перапечка, праснак з хлебнага цеста велічынёю з блін' (віц., Шн. 3; полац., Нар. лекс.; віц., Малч. Мат. культ.), 'бульбяны з мукою праснак, скавароднік' (Бяльк., Касп.; слаўг., Мат. Маг.), 'тоўсты, шурпаты блін' (КЭС, лаг.;

круп., Нар. сл.; в.-дзв., Шатал.), 'тоўсты, пульхны блін' (Сл. паўн.-зах.), рус. смал. *лапун* 'праснак, блін'. Да *ла́паць* 'хапаць', параўн. аналагічна бел. *выхвацень, вухвацень,* польск. *wychopień.* Словаўтварэнне (з суф. *-ун*), як *таўкуны, дзеруны.* Грынавецкене (Сл. паўн.-зах., 2, 673) параўноўвае з літ. *lapūnas* 'ліст папаратніка', *lapūnis* 'такі, як ліст'. Магчыма, сюды ж *лапу́н* 'мёрзлая бульба, якая перазімавала на полі' (докш., Янк. Мат.).

**Лапун**$_2$ 'вочап' (брэсц., Нар. сл.). Да *ла́паць* 'ахопліваць' (гл.), 'класці зверху, пакрываць' (семантычна, як *ачэп*$_1$ (гл.)).

**Лапу́та** 'лапеза, непаваротлівы, нехлямяжы', 'абадранец, няўклюда' (Бяльк.), гом. *лапуцішча* 'няўклюда' (Мат. Гом.). Укр. бук. *лаву́та* 'дурань', рус. раз. *лапу́та* 'благі чалавек', *лабуда* смал. 'лахманы', раз. 'нявартая рэч'; смал., тул., раз., маск. цвяр. 'пусты, нікчэмны чалавек'; калуж. 'шалапут, бязладны чалавек' і інш. Семантычна набліжаецца да *лабуда* (гл.), хаця і магло ўтварыцца самастойна: *лап* (<*lap-*, параўн. *лапік* 'латка') і суф. *-ūtas,* цяпер пашыранага ў літ. дыялектах (Атрэмбскі, Gramatyka, 2, 261—263). Сюды ж, магчыма, драг. *лапу́ця* 'цяльпук, мяла, разява' (Клім.), якое можа быць генетычна звязана з *лапацон* (гл.) паводле семантыкі слова ў сказе-прыкладзе (гл. Клім.).

**Лапу́х**, *лапуха́* 'лопух, Arctium L.' (Сцяшк., Яўс.; гродз., Кіс., Сл. паўн.-зах.), 'капытнік, Calla palustris L.' (Сл. паўн.-зах.), 'лотаць, Caltha palustris L.' (Шатал., Сл. паўн.-зах.), 'дурань', 'неразвіты чалавек' (Яўс., Шатал.). Да *лопух* (гл.). Сюды ж *лапу́шнік* 'лотаць' (Сл. паўн.-зах. Кіс.), віц. *лапуха́* 'тс' (Касп.; лепел., КЭС), *лапушнік* 'зараснік лопуху', *лапушны́, лапушы́сты* 'шыракалісты, падобны на лісце лопуху', *лапушыцца* 'пышна разрастацца, выпускаць многа лісця' (Сцяшк., ТСБМ, Сл. паўн.-зах.), *лыпуховы* 'мізэрны, пусцяковы', *лыпуховіна* 'пусцяковіна' (Яўс.), *лапушысты* 'пульхны, лапушысты (аб снезе)' (Бяльк.), *лапушнік* 'лешч, які нерастуе першым' (Лаўмане, Zivju, 170). Да *лопух* (гл.).

**Лапу́шка**$_1$ 'хлапушка' (рас., Шатал.). Да *хлапу́шка* (гл.).

**Лапу́шка**$_2$ 'хабар' (паст., Сл. паўн.-зах.). Да *лапа*$_1$ (гл.), *даць у лапу* 'даць хабар'. Параўн. польск. *łapówka* 'тс'.

**Лапу́шухны** 'ручаняткі, рукі' (Бяльк.) — рэгіянальнае ўтварэнне ад *лапушкі* і суф. *-ухн-ы,* які надае ласкальнае адценне (Бел. грам., I, 98). Да *лапа*$_1$ (гл.).

**Лапушы́ць** 'рваць паспешліва, без разбору', 'біць каго чым-небудзь' (дзярж., Нар. сл.). Узнікла ў выніку кантамінацыі ад *латашыць* і *лапаць*$_1$ (гл.).

**Лапча́тнік** 'дуброўка гусіная, Potentilla anserina L.' (стол., Бейл.) — у выніку намінацыі з *лапчатка гусяча* 'тс'. Да *ла́па*$_1$ (гл.).



**Лапчы́вы** 'прагны, прагавіты да яды, піцця' (лун., Шатал.; лід., Сл. паўн.-зах.), 'зайздросны' (Там жа), шальч. *лахчы́вы* 'прагны', *лапшывы* 'тс' (Сл. паўн.-зах., Жд. 1), 'зайздросны' (КЭС, лаг.). Зах.-укр. *лапчи́вий, лапши́вий* 'лоўкі, рахманы, умелы', рус. *лапчивость* 'разгубленасць' адрозніваюцца сваёй семантыкай ад бел. лексемы, якая запазычана з польск. *łapczywy* 'хціві, прагны, сквапны'<*łapczyć* 'прагна хапаць', 'прагнуць'<выклічнік *łap! łaps!* (Слаўскі, 4, 471).

**Лапчы́з** 'акцыз' (Пятк.). Скажоная размоўная форма ад *акцыз* (гл.).

**Лапша́** 'локшына', 'макароны' (Нас., Касп.) 'удары трайнёю або бізуном' (Нас.), рус., укр. *лапша́* 'тс'. Запазычана праз рус. мову з тат., уйг. *lakča* 'тс', 'кавалачкі цеста, звараныя ў булёне' (Фасмер, 2, 460, там жа і літаратура).

**Лапша́к**$_1$ 'падбярозавік' (Інстр. 2; уздз., Нар. словатв.), швянч. *лапшу́к* 'тс'. Балтызм, параўн. літ. *lepšiùkas, lẽpšė, lẽpšis* 'грыб падбярозавік або любы іншы стары грыб', 'вялы чалавек' (Сл. паўн.-зах., 2, 623; Лаўчутэ, Балтызмы, 118).

**Лапша́к**$_2$ 'буйны і пляскаты боб' (віл., Сл. паўн.-зах.). Грынавецкене (там жа) выводзіць гэту лексему з літ. *lãpas* 'ліст', аднак не растлумачвае суфікс.

**Лапшу́к**, *лопшу́к* 'маруда, нерашучы чалавек', *лапшу́н* 'нязграба, недарэка', *лапу́н, лапунішчэ* 'нягоднік, валацуга' (ТС). Да *ла́па*$_1$. Гл. таксама *лапу́та, лапшак*$_1$.

**Лапы́р** 'драўляная міска, кубак' (томск.— перасяленцы з Дрысенскага пав.— Ахоліна, Вопр. рус. яз. и его гов., 4), *лапырка* 'лыжка' (Касп.), смал. *лапы́рь* 'вялікая луста хлеба', варон. 'драўляны сасуд з ручкай для збожжа', пск. *лапы́рочка* 'кубачак, місачка', докш. *лапырка* ў выразе: *«...шапка-лапырка, пасярод дзірка...»* (КЭС). Відавочна, балтызм, роднасны з літ. *lãpas* 'ліст' — пазней семантычны перанос на прадметы круглай формы. Магчыма, у гэтай назве крыецца старажытная форма прымітыўнага карца, які рабілі з бярosты ці з вялікага ліста расліны.

**Лапы́ра** 'няцямкі чалавек, які з расстаўленымі рукамі ўсюды сунецца' (КЭС, лаг.). Рэгіянальнае ўтварэнне ад *ла́па*$_1$ (гл.) і суф. *-ыр-а* (прасл. *-уга*). Параўн. рус. *лапы́ш* 'мянушка чалавека з вялікімі рукамі' і ўкр. *тупи́р* 'тупы чалавек'. Не выключана магчымасць кантамінацыі *лапа* і *тапы́рыць* (гл.).

**Лар** 'высокая і вузкая драўляная скрыня з векам для захоўвання мукі або збожжа' (Сіг.; малар., З нар. сл.; беласт. Сл. паўн.-зах.), рус. *ларь* 'скрыня', 'куфар', 'клетка' (XI ст.), паўн.-рус. 'тс', наўг. 'труна', 'зруб для засолкі рыбы'. Запазы-

16. Зак. 3479

чана са ст.-нарв. *lārr* 'шуфлядка' ці са ст.-швед. *lárr* 'скрыня, куфар', параўн. швед. *lår* 'тс' (Міклашыч, 160; Бернекер, I, 691; Фасмер, 2, 460). Сюды ж бел. *лар* 'прыстасаванне для палявання на мядзведзя' (Інстр. 2), параўн. рус. іркуцк. 'засека з бярвення ў лесе'. Сучаснае *ларок* 'гандлёвая палатка'— з рус. *ларек*.

**Ларнéт** 'род манокля ў аправе', 'складныя акуляры з ручкай' (ТСБМ). Паводле Крукоўскага (79), з рус. мовы. Зах.-бел. дыялектны варыянт *лёрнэт* — з польск. *lornet(k)a*. Крыніцай запазычання з'яўляецца франц. *lorgnette* 'аптычнае прыстасаванне для назірання прадметаў, якія знаходзяцца збоку'<*lorgner* 'глянуць, паглядзець' (Фасмер, 2, 520; Слаўскі, 4, 333).

**Ласапéта,** *лісапéта* 'самакат на двух колах' (КЭС, лаг.), *лісапед, лісапет, лісафет, лісапета, лісафета* (Сл. паўн.-зах.). Скажоныя формы ад *веласіпед*, якое з франц. *vélocipéde*< <лац. *velox, velocis* 'хуткі' і *pes, pedis* 'нага'.

**Ласатá** 'салат' (паўд.-усх., КЭС) — з *салáта* ў выніку метатэзы. Да *салáт* (гл.).

**Ласахóр** 'драўляныя вілы з двума рагамі, акутымі бляхай, якія служаць для накладання гною на воз' (бых., Мат. Маг.). Складанае слова: *вілы+сахор*. Параўн. палес. *соховілы* 'тс' (Выг.). Усячэнне *ві-*, як і ў *лакі* (<**відлакі*). Да *сахор* (гл.).

**Лáсашчы**, *лáсяшчы* 'ласункі' (паўд.-усх., КЭС). З укр. *лáсощ(і)* 'тс'.

**Ласё** 'ласяня' (Мат. Гом.) — прасл. *olsę*. Да *лось* (гл.).

**Лáсіца**[1], *лáсыца* 'драпежная жывёліна з сямейства куніцавых, Mustela nivalis' (ТСБМ, Янк. I, Сіг.), *лáсіцка, лáсічка, ласачка* (Сцяшк., Сл. паўн.-зах.), *лáска* 'тс' (ТСБМ, Гарэц., Сцяшк., Сл. паўн.-зах.), 'гарнастай, Mustela ermina' (Сіг.). Укр. *ласиця, ласичка, ласка, ластка* 'тс', 'вавёрка', рус. *ласка, ласица* 'ласка', ст.-рус. *ласица* (XIII ст.), *ластица, ластвица* (XVII ст.), польск. *łasica, łaska, łasiczka* 'тс', каш. *łasëca* 'аса', н.-луж. *łasyca, łaska, łacyca, lasyca*>в.-луж. *łasyca* (Шустар-Шэўц, I, 764), чэш. *lasice*, ход. *hlasice*, ган. *vlaska*, ст.-чэш. *vlasicě* 'ласка', 'пранырлівая жанчына', славац. *lasica* 'ласка', 'жанчына з гібкай фігурай', славен. *lásica, podlásica*, раней і *ulasica*, серб.-харв. *ла̏сица, ulásica, подласица, podlȁska*, макед. *ласица* 'тхор', балг. *ласица, власица*, ст.-слав. **ласица** 'ласка'. Прасл. *lasica*, якое паходзіць, відаць, ад прым. *lasъ*, які захаваўся ў бел. *-ласы*, параўн. *падлáсы* 'белабрухі', 'светла-карычневы' (ТСБМ, Бяльк., Мал., Рам., Гарэц.), 'з белымі бакамі і грудзьмі' (Шат.), 'пярэсты' (Некр., Федар.), драг. *пудлáсыстый* 'белабрухі' (Клім.), *падлáсіна* 'пярэсціна пад



жыватом' (ТСБМ), *лáсіна, лáсына* 'пярэсціна, якая вылучаецца сваім колерам шэрсці' (пін., стол., БЛ, 13, 68), а таксама ў рус. *лáса* 'светлая, гладкая паласа', укр. *ласúй* 'вол з белым чэравам і хвастом', *лáся, лáсий* 'чорная або рыжая жывёліна з белым чэравам і персямі', *підлáсий* 'тс', балг. *лас* 'конь ці лашак з чорнай бліскучай шэрсцю', серб.-харв. *лáса* 'ласка', 'каза з колерам поўсці, як у ласкі', *лáсац* 'вол', *лáсак* 'сабака', *ла̏саст* 'бялявы, белаваты', венг. дыял. *lászov* 'свойская жывёліна бялявага колеру'. Найбольш дакладна прасл. *lasъ* адпавядае лат. *luõss* 'жоўта-шэры, бялявы', *lãsains* 'рабы, у крапінкі'. Агляд версій гл. Фасмер, 2, 461; Слаўскі, 5, 15—17; Махэк₂, 320—321; Скок, 2, 271; Шустэр-Шэўц, I, 764—765. Інакш Ціўян (Проблемы слав. этнографии, Л., 1979, 186—193) услед за Трубачовым (ЭИРЯ, 2, 29—32), які адносіць гэту лексему да *ласка* (гл.), мяркуючы, што гэта табу, утворанае паводле прынцыпу абароны ад драпежнага звярка спробай улашчыць яго.

**Лáсіца**[2] 'ласіха' (Сцяшк.). Улічваючы месца націску і мяркуючы, што ён спрадвечны на *ла-*, можна аднесці да *ласіца*[1] (параўн. аналагічнае серб.-харв. *лáсац* 'вол' і інш.).

**Ласíца** 'ласіха' (ТСБМ, Мат. Гом., Сл. паўн.-зах.). Да *лось* (гл.).

**Лáсіцца** 'лашчыцца, песціцца, мілавацца, галубіцца' (Гарэц., Др.-Падб., Нас.), 'смакаваць, каштаваць' (Яруш.), любан. 'ласавацца' (Нар. словатв.). Укр. *лáсити* 'вабіць', *лáситися* 'квапіцца', рус. пск. *лáсить* 'лісліваць, падлізвацца', наўг. 'жыць у раскошы', польск. *łasić się* 'лашчыцца', 'лісліваць'. Паўн.-слав. *lasiti sę* (Слаўскі, 5, 18—19). Да *лáсы* (гл.).

***Лáсіцы**, *лáсыцы, лáсыцэ, лáсыці* 'марозныя ўзоры на вокнах' (Сіг., Нар. лекс., З нар. сл., Шатал.), 'дробныя кавалачкі лёду пры замярзанні вады, шарош' (Шатал.). Семантычны перанос паводле падабенства з *лáсіца*[1] (Вярэніч, БЛ, 13, 67—68).

**Лáска** 'любоў, пяшчота, лагоднасць', 'ласкавасць, добрая воля, паслуга, спачувальныя, прыхільныя адносіны', 'літасць, міласць, паблажка, спагада' (ТСБМ, Нас., Гарэц., Мал., Бяльк., Касп., Шат., Яруш., Сл. паўн.-зах.) і іншыя значэнні гэтай лексемы ў фразеалагізмах (гл. ТСБМ, Сл. паўн.-зах.), ст.-бел. яшчэ *ласка* — тое ж, што і *кграция* (XVI ст.). Укр. *ласка*, рус. *ласка*, польск. *łaska*, чэш., славац. *láska*, славен. *láska* (паводле БЕР, 3, 316), балг. *ласка*, ц.-слав. *ласка*, серб.-харв. *ла̏ска*, макед. *ласка* 'лісліваць'. Прасл. *laska* 'пяшчота, любоў, лашчанне, міласэрнасць, велікадушнасць, прыхільнасць, спагада, дружба' (Слаўскі, 5, 20), якому адпавядаюць літ. *lokšnùs* (**lāsk-nus*) 'уражлівы, адчувальны, пя-

шчотны, мілы' (Буга, Rinkt., 1, 451), лац. *lascīvus* 'гарэза, распуста, юрлівы', ст.-інд. *laṣati* 'жадае', *lásati* 'ззяе, блішчыць', *lālasas* 'прагны', ст.-ірл. *lainn* (<**las-ni-s*) 'тс', ст.-грэч. (Гесіхій) *λάστη* 'распусніца', гоц. *lustus*, ст.-в.-ням. *lust*, ням. *Lust* 'радасць, задавальненне, жаданне, імкненне, юрлівасць'. Да і.-е. **lās-/*las-/*ḷs*. Агляд версій гл. Фасмер, 2, 461; Слаўскі, 5, 19—21; БЭР, 3, 316—317. Няма падстаў бачыць тут запазычанне з польск. *łaska* (Пальцаў, Лекс. і грам., 38).

**Ласкава́ны** 'штучна зроблены крамяным' (КЭС, лаг.), драг. *лоско́ваны* 'глянцаваны', *ласкованы* 'тс' (Нас.). Да *лоск* (гл.).

**Ласкаве́ць**, *ласкове́ць* 'утаймоўвацца, рабіцца больш літасцівым, лагодным, ласкавым, спагадлівым' (ТСБМ, Нас., Касп.). Да *ласкавы* (гл.).

**Ласкаві́к**, *ласкаві́кень, ласкаві́тнік, ласкавіцель* 'клінок, мяшочак, у якім адціскаюць сыр' (Шатал., Нар. словатв., Мат. Гом.) паходзіць з *васкавік, восковік* 'тс' (Анох., Вешт.) у выніку кантамінацыі з *лоск, лашчы́ць*, параўн. рус. *лощи́ть* 'біць, збіваць, прасаваць валікам'. Да *выскаве́нь, воск* (гл.), а таксама *аскаве́нь*. Параўн. аналагічную мену *в-/л-* у рус. *ла́сковицца — воскоцветник* 'расліна Cerinthe major L.'

**Ласкаві́ца** 'ляскаўка, Silene cucubalus Wil.' (брэсц., Кіс.). Відавочна, узнікла ў выніку кантамінацыі *ляскаўка* і *лускаўка (ль-~л-)*. Назвы гэтай расліны ў іншых мовах звязаны з паняццем 'ляпіцца, прыліпаць' (укр. *смолянка, смолявка*, бел. *смолка*, польск. *lepnica*) або з 'ляскаць' (бел. *ляскаўка*, польск. *trzaskawka*, паўд.-чэш. *praskavec*). Такім жа чынам узнікла і бел. *ласкаўка* 'тс' (Кіс.).

**Ла́скавы**, *ла́скывый, ла́скавенечкій* 'ветлівы, далікатны ў абыходжанні', 'мяккі, лагодны', 'літасцівы, дабрадушны', 'поўны ласкі, пяшчотны' (Нас., Шат., Бяльк.; мсцісл., Нар. словатв., ТСБМ), *ласка́вы* 'пяшчотны', 'дабрадушны, ветлы чалавек', 'рахманы', 'лісліві' (Сл. паўн.-зах., Мал., КЭС, лаг.), *ласка́вы хлеб* 'дарэмнае ўтрыманне да смерці' (КЭС, лаг.). Націск на пачатковым складзе пад уплывам рус. мовы (*ла́сковый*), якое, паводле Сабалеўскага (Лекции, 81), мае *-о-* гістарычна няправільнае: ёсць ст.-рус. *ласкавъ* (XIII ст.). Тое ж у Фасмера, 2, 462. Прасл. *laskavъ* 'той, хто праяўляе любоў'>'які лашчыцца, лісліві' (Слаўскі, 5, 25). Да *ласка* (гл.). Сюды ж *ласкаве́й* 'зручней' (Мат. Гом.).

**Ласката́ннік** 'балбатун' (Юрч. Вытв.). Утворана з *ласкатанне* 'балбатня'. Аб суф. *-ннік* гл. Сцяцко, Словаўтв., 241; Сцяцко, Афікс. наз., 56—57. Да *ласкатаць$_2$* (гл.).

**Ласката́ць$_1$**, *лоското́ць* 'казытаць' (Гарэц., Нас., Касп., ТСБМ, ТС; раг., КЭС), *ласката́цца* 'казытаць іншых' (Нас.). Укр. *лоскота́ти, лоскота́ти*, рус. зах.-бран. смал., маск., ёнаўск. (ЛітССР), кур., варонеж. *ласко́та́ть, ласката́ть*, польск. *łaskotać*, ст.-польск. *łasktać*, н.-луж. *łaskotaś, łaskosiś*, в.-луж. *łoskotać, łaskotać*, славац. *laskotať*. Паўн.-слав. *laskotati* 'казытаць', якое з'яўляецца інтэнсівам да *laskati* (Бернекер, 1, 692; Фасмер, 2, 521; Слаўскі, 5, 27—28). Гл. *ла́ска*.



**Ласката́ць$_2$** 'балбатаць, гаварыць хутка, незразумела' (Жд. 1, Юрч., Нас., Касп.; чэрв., Жд. 2). Да *лоскат* (гл.). Сюды ж *ласкату́н* 'балбатун', *ласкатня́, ласката́нне* 'балбатня' (Нас., Юрч. Вытв.).

**Ласката́ць$_3$**, *лоското́ць* 'барабаніць, ляскатаць' (ТС) — пад уплывам экспрэсіўнасці мена *л'-* у *л-*. Да *лёскат* (гл.).

**Ласкату́ха** 'лекавая расліна?' (мін., КЭС). Магчыма, да *ласкавіца* (гл.).

**Ласкі́р**, *ла́скірка* 'гусцяра, Blicca Bjoerkna L.' (прыпяцк., Жук., Інстр. 2), маз. *ласкі́р, пласкі́р* 'тс' (Крыв.), гом. *ла́скер* (зборн.) 'плоткі' (Мат. Гом.), полац. *ласку́ръна* 'вялікая гусцёрка' (З нар. сл.). Укр. адэс. *ло́скир*, палт. *лоски́р*, ровен. *ласкура, пласкура*, зах.-укр. *ласкиря́, лоскі́ра*, паднянр. *лоскір(к)а*, паднястр. *лоскі́ря, ласкі́р(к)а, плоскиря*, зах.-укр. *(b)liskawka* 'тс', *ласка́р* 'ёрш', рус. *ласкуша, плоскуша, ласкирь, пласкира, пласкирия, плоскиря, лискирка, лоскирка* 'тс', *лыскарь* 'лешч', *ласкира* 'плотва', польск. лодз. *blazgur*, славац. *pl'askurka*, балг. цецявенск. *плоскач, плоске́*, літ. *plākis, plaskirka*, лат. *plake, plaskira, plascerka, plaskirs* 'гусцяра'. Паводле Фасмера (Этюды, 118), звязана з рус. *лыскарь, лыскырь, лыскорь* 'жалезная рыдлёўка' (параўн. таксама бел. віц. *луска́р* 'тс'), якое Меліяранскі (ИОРЯС, 10, 4, 124) выводзіць з казах. *лескер*, крым.-тат. *ülüskär* 'матыка', а Фасмер (там жа) — са ст.-грэч. *λισγάρι(ον)*<*λίσγος* 'кірка', што, аднак, таксама цяжка абгрунтаваць з фанетычнага боку. Частка вышэй пералічаных слав. лексем з'яўляецца першапачатковай; іншыя ж — вынік народнай этымалагізацыі, самастойнага ўтварэння пры дапамозе суф. *-irъ, -iša, -ačь, -urь* — з рознай матывацыяй ('блішчэць', 'пляскаць', 'быць плоскім' і інш.).

**Ласко́тка** 'гусцяра, Blicca Bjoerkna L.' (Інстр. 2), *ласкуток* 'падлешчык' (Бяльк.), 'лешч вагою менш аднаго фунта' (Дэмб. 1). Магчыма, аснова звязана з *ласку́т* (гл.). Параўн. таксама *ласкір* (гл.).

**Ласку́т**, *ласку́ць* 'акравак, абрэзак' (ТСБМ, Шат., Сл. паўн.-зах.), 'шматок скуры', 'бялізна' (Сл. паўн.-зах.), *ласку́цце* 'абрэзкі, акраўкі' (Касп., Растарг.), *ласкуці* 'дробныя кавалачкі чаго-небудзь' (Сл. паўн.-зах.). Рус. *лоскут* 'тс', 'ручнік', 'лапік (зямлі)', ст.-рус. *лоскутъ* 'тс', балг. *лоску́н* 'круглы кавалак мыла'. Этымолагі (Бернекер, 734; Буга, РФВ, 67, 242; Траўтман, 150; Мюленбах — Эндзелін, 2, 453; Слаў-

скі, 5, 351; БЕР, 3, 477—478 і інш.) звязваюць гэту лексему з літ. *lāskana* 'ласкуты', *lāskatas* 'ануча, акравак', *laskatúoti* 'вісець, віцца, махаць', лат. *lęska* 'акравак', 'камяк бруду', с.-н.-ням. *las, lasche* 'ануча' (Фасмер, 2, 521 — там жа літаратура).

**Ла́сне** 'няўжо, ці, хіба, уласна' (Сцяшк., Др.-Падб., КТС), *ла́сьня* 'хіба' (Янк. Мат.). Запазычана са ст.-польск. *właśnie, włośnie* 'тс'.

**Ласне́цца** 'блішчэць, ільсніцца' (Нас.), слонім. *ласні́цца* 'тс' (Нар. лекс.). Укр. *лисні́ти, лиснитися,* рус. *лосниться,* польск. *lśnić się,* ст.-польск. *lszczeć* і інш. Да *лоск*<*lъskъ* (дзе *-skn-*>*-sn-*). Гл. таксама *ільсніцца* (Фасмер, 2, 521; Скок, 2, 272).

**Ласось** 'рыба Salmo salar L.' (Жук., ТСБМ). Укр. *ло́сось,* рус. *лосо́сь,* польск. *łosoś,* н.-луж., в.-луж. *łosos,* чэш., славац. *losos.* Прасл. *lososь* мае не толькі паўн. і.-е. адпаведнікі (ст.-в.-ням. *lahs,* ст.-ісл. *lax* 'ласось'), але і ўсх.: ст.-прус. *lasasso,* літ. *lãšis, lašašà,* лат. *lasis* 'тс'. Параўн. таксама тах. *B laks* 'рыба'. Асец. *lxsxg'* 'ласось' з'яўляецца спецыфічнай скіфска-еўрапейскай ізаглосай, якая не мае адпаведнікаў у індаіранскіх мовах. Да і.-е. **laks* 'плямісты, стракаты', параўн. рус. *ласа́* 'яркая пляма', лат. *làse* 'пляма, крапіна' (Бернекер, 1, 734; Фрэнкель, 341—342; Фасмер, 2, 522; Слаўскі, 5, 211—213; Геаргіеў, Introd., 294; Абаеў, 2, 32 з літаратурай).

**Ласт**₁ 'хвост у бабра' (Інстр. 2), рус. архані. *ласт* 'невялікая драўляная лапатка, якой біруць цеста з дзежкі'. Да прасл. *lapstъ,* якое з'яўляецца роднасным да лат. *lâpsta* 'лапата', *lãpa* 'лапа', літ. *lópa* 'тс' (Фасмер, 2, 462—463). Сучаснае літаратурнае *ласт* 'відазмененая канечнасць некаторых водных жывёл і птушак' (ТСБМ) — з рус. *ласт* 'тс' (Крукоўскі, Уплыў, 72) таксама, як і *ласты* 'прыстасаванне ў выглядзе вясла для палягчэння плавання пад вадой' (ТСБМ).

**Ласт**₂ 'застаронак' (Сл. паўн.-зах.). Рус. *ласт* 'дранка, рэйкі, якімі прашываюць пазы ў лодках, суднах', *лост* 'тс', *лостить* 'абшалёўваць корпус судна, лодкі'. З фін., алан. *lasta* 'дранка, планка' (Фасмер, 2, 463). Параўн. таксама вепс. *last* 'расколатае палена для лучыны', *lastęńik* 'палукаш у простыя сані', і рус. *ла́сти* 'памост з бярвення для праезду, праходу праз балота, гаць'.

**Ла́ставачка** 'цвікля' (браг., Шатал.). Да *ла́стаўка* (гл.).

**Ла́ставень** 'расліна ластавень, Vincetoxicum officinale Mnch.' (Касп.). Укр. *ластовень, ласточнік* 'тс', 'ватачнік сірыйскі, Asclepias syriaca', рус. *ластовень* 'тс', ст.-чэш. *lastovičník,* славац. *vlaštovník,* харв. *lastovičnjak.* У выніку намінацыі з +*ластаўчыны корань,* параўн. рус. *корень ластовичный,* харв. *lästavičji koren,* ням. *Schwalbenwurtz,* якія з лац. *Hirundinaria radix.* Да *ла́стаўка* (гл.).



**Ла́ставінкі** 'рабаціннe, вяснушкі' (Шпіл.), *ластуо́вінні* (Мат. Гом.), *ластовы́ньне* (Нар. лекс.) узніклі ў выніку намінацыі +*ластавіныя рабінкі, ластавінае рабацінне* і інш. Параўн. *ластаўчына рабінне* (Сл. паўн.-зах.).

**Ла́ставічы** 'вяснушкі, рабацінне' (Касп.). Бел. рэгіяналізм, відавочна, даволі архаічны, утвораны пры дапамозе суф. *-it'ь.* Да *ла́стаўка* (гл.). Іншыя словы з суф. *-іч* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 158.

**Ла́стаўка**₁ 'птушка Hirundo rustica L., Chelidon urbica і інш.' (ТСБМ, БРС, Шат., Грыг., Сцяшк., Гарэц., Бяльк., Касп., Яруш., Мат. Гом., Сл. паўн.-зах.), *ла́стувка* (Бес.), *ла́стоўка* (Кл.), *ластавіца* (Шн.), *ла́стачка,* шчуч. *ластавачка* 'тс' (Сл. паўн.-зах.). Укр. *ла́стівка, ластовиця, ласточка, гластівка,* рус. *ластка, ластовица, ластовка, ластуша,* ст.-рус. *ластовица, ластка* 'тс', *ластунъ* 'стрыж'; на сучаснай польск. тэрыторыі лексема сустракаецца толькі ў пагранічных з ЧССР і СССР дыялектах: палаб. *lostěvaićă / lostovaićă,* в.-луж. *łastojčka, łastojca, łastolca, ʃastojnčka, głastowica,* чэш. *vlaštovka, lašt'ovka, laštovice, hlaštověnka,* ст.-чэш. *vlastovica, vlaštovica, lastovica,* славац. *lastovica,* славен. *lástovka, lástovica, hlastovica,* старое *lástavica,* серб.-харв. *ла́ста, lastac, ла̏ставица, ла̏стовица, lastova,* макед. *ласто́јца, ласта, љастовица,* балг. *ластавица, ластовица.* Прасл. *lasta, lastavica, lastovica* (Слаўскі, 1, 513; Скок, 2, 274; Булахоўскі, 3, 244) і *alstavica* (Клепікава, ВСЯ, 5, 172—178). Агульнапрынятай этымалогіі няма. Міклашыч (161) гэту лексему этымалагічна суадносіць з літ. *lė̃kti, lakstýti* 'лётаць', *lakstùs* 'хуткі', лат. *lèkt, lakstīt* 'шчабятаць', 'бегаць, скакаць туды і назад'. Таксама Фрэнкель (ZfslPh, 11, 45—47) і Фасмер (2, 463). Голуб-Копечны (419), Махэк₂ (694), Слаўскі (там жа) і Шустар-Шэўц (10, 763) мяркуюць, што ў аснове лексемы ляжыць анамата-экспрэсіўны пачатак (*jaskotati, jaskati, ch-lastati* 'шчабятаць', *chlap-ati* 'стукаць, балбатаць'). Развадоўскі (RSPWF, 25, 441) прабуе звязаць яе з ірл. *los,* кімр. *llost* 'хвост'. Трубачоў (ЭИРЯ, 2, 1962, 29) суадносіць з роднасным прасл. *laska* 'ласка, каханне' і *ласка, ласіца* 'Mustela vulgaris'. Сапраўды, найбольш блізкімі аказваюцца такія лексемы, як бел. *ласы, пад-ласы* 'белабрухі', 'з белымі бакамі і грудзьмі'<прасл. *lasъ* (гл. *ласіца*₁). Сюды ж пераноснае *ла́стаўкі, ла́стаўке* 'рабацінне, вяснушкі' (Сл. паўн.-зах.).

**Ла́стаўка**₂, *ла́стоўка, ла́стовочка, ла́сточка, ла́стачка, ла́стка, ла́сткі* 'ўстаўка ў штанах ці портках' (Грыг., Жд. 1, Сакал., Касп., Шатал., Мат. Гом., Мат. Маг., Сл. паўн.-зах.),

'цвікля, клін які ўстаўляецца ў пройму рукава пад пахамі пры ўшыванні яго ў станіну кашулі' (Бяльк., Сцяшк., Шатал., Мат. Гом., Сакал., Тарн., Бел. нар. адз., Бел. хр. дыял.), 'гестка' (Шатал.). Перанос паводле падабенства з *ла́стаўка*$_1$ (гл.).

**Ла́стачкі** (мн.) 'ласкавыя, пяшчотныя словы' (Нас.). Узнікла ў выніку кантамінацыі лексем *ластаўка* 'ласкавая назва дзяўчыны, жанчыны' і *лёстачкі, лёсткі* 'ліслівыя словы, усхваленні', параўн. рус. *ластуха* 'ліслівец'. Не выключана, аднак, што гэта семантычны перанос лексемы *ластачка* (гл. *ластаўка*$_1$). Параўн. рус. *ласточкой* 'ласкава, лісліва', *ласту́ха, ласту́шка* 'чалавек, які любіць лашчыцца', *ла́стушка* 'ласкавы зварот да жанчыны, дзяўчыны, асабліва да маладой (нявесты)'. Да *ластаўка*$_1$ і *ласка*$_1$ (гл.). Утварэнне гл. Сцяцко, Афікс. наз., 69.

**Ла́стка** 'закладка на хустцы' (лаг., Жд. 2). Перанос паводле падабенства с *ла́стка* 'ластаўка'. Да *ластаўка*$_1$ (гл.).

**Ласу́нак** 'улюбёная страва', 'прысмакі' (ТСБМ). Да *ла́сы* (гл.).

**Ла́сы**, *ласый* 'ахвочы да ласункаў' (Нас., Яруш., ТСБМ, КЭС, лаг., Сл. паўн.-зах., Растарг.), 'прагны' (Бес., Бяльк., Шат.), 'смачны, прынадны' (ТСБМ, Янк. БП, Нік. Очерки). Укр. *ласий*, рус. *ласый*, польск. *łasy* 'тс'. Паўн.-слав. *lasъ* 'прагны, ласы' — роднаснае з прасл. *las-ka, lasiti sę* (Слаўскі, 5, 30—31). Бернекер (1, 692), Бартоламе (IF, 3, 195), Мее$_4$ (342), Траўтман (150), Покарны (654), Махэк$_2$ (321), Фасмер (2, 464) збліжаюць прасл. *lasъ* са ст.-інд. *lá-ṣati* 'жадае', *abhi-lāṣas* 'жаданне', ст.-грэч. λιλαίομαι 'жадаю', λαστη' πόρνη 'насмешка', лац. *lascivus* 'гарэза', гоц. *lustus*, ст.-в.-ням. *lust* 'радасць'. Сюды ж *ла́саваць* 'парушаць недазволенае з ласункаў' (Нас., Гарэц.), 'частаваць ласункамі', *ла́савацца, ла́соваті* 'атрымліваць асалоду' (ТС), *ласейшы* 'смачнейшы' (Сл. паўн.-зах.), *ласун, ласонік, ласік, ласько, ласунчык* 'той, хто любіць паласавацца' (ТС, Гарэц., Нас., Яруш., Клім., Бяльк., Касп., Шат., Мат. Гом., КЭС, лаг.), *ласоўка, ла́саўка, ласуння, ласоха, ласу́ха* 'ласуха' (Бяльк., ТС, Яруш., Касп., Нас.; віл., паст., драг., Сл. паўн.-зах., З нар. сл., Шат., КЭС, лаг.), *ласунак, ласункі* (ТСБМ; пух., Сл. паўн.-зах.), *ласонікі* (КЭС, лаг.) светлаг. *ла́саўка* (Мат. Гом.), *ласікі* (Нас.), *ла́саўства* 'ласунак' (Касп.), 'ласая ежа', 'прысмакі' (Касп.).

**Лася́к** (зневаж.) 'лысы чалавек' (глыб., Сл. паўн.-зах.). Да *лысы* (гл.). Аб пераходзе *ы*>*а* (гл.) Карскі 1, 241—242.

**Ласхата́ць** 'балбатаць' (горац., КЭС). Да *ласката́ць*$_2$.

**Ласцённік** 'ласунчык' (нараўл., Мат. Гом.). З рус. зах. і паўд. *сластённик* 'тс'.

**Ла́сціцца,** *ла́сціць* 'выяўляць (да каго-небудзь) ласку,



лагоднасць', 'падлашчвацца, падлізвацца' (Бяльк., Яруш., Нас., Касп., Сцяшк. Сл.). Укр. *ластитися* 'лашчыцца', паўн.-рус. *ластить(ся)* 'тс'. Да *ласка* (гл.). Агляд літаратуры гл. Фасмер, 2, 463.

**Ла́та**$_1$, *ла́тка* 'лапік' (Нас., Гарэц., Яруш., ДАБМ, к. 324, Касп., Сцяшк., Зн., Мал., ТСБМ, Мат. Гом., Сл. паўн.-зах., Ян., КЭС, лаг.), *ла́ціна, латачка, латочка* (ДАБМ, Нар. словатв., Сл. паўн.-зах.), 'старая адзежына', 'недарэзкі, акраўкі', 'бялізна', 'пляма іншай афарбоўкі ў жывёліны' (Сл. паўн.-зах.), 'пустое, голае месца, на якім нічога не расце' (Жд. 1, Шатал., Сл. паўн.-зах.), 'прагаліна' (Мат. Гом.), 'невялікі зямельны надзел' (Выг.), 'кішэня' (Ян.). Укр. *лата, латка*, харк. *лат*, рус. бран., смал., кур., арл., тамб. *лата*, ст.-польск. *łata*, польск. *łatka*, чэш., славац. *lata* 'лапік', серб.-харв. *ла̀тица, ла̏тица, latîca* 'трохкутны кавалак тканіны, цвікля', макед. *алтица* 'латка, клін з сукна', *алтица* 'цвікля', балг. *латица*, рум. *altiță* 'падшыўка', 'вышываная ўстаўка ў кашулі'. Прасл. *ȍlta* 'кавалак тканіны, скуры' з суф. *-ta* (Слаўскі, 5, 34—37; Слаўскі, SP, 2, 41) генетычна звязана з і.-е *ēlā 'шыла': *elh- 'шыць, прашываць, прышываць', параўн. ст.-в.-ням. *āla*, ст.-інд. *ā́rā* 'шыла' (Ваян, BSL, 44, 2, с. 143—144). Іншыя версіі малаімаверныя (гл. Фасмер, 2, 464; Скок, 2, 274 і інш.).

**Ла́та**$_2$, *ла́ты, ла́тэ* 'паплеціна, жэрдкі, на якія насцілаецца страха' (Нас., ТСБМ, Янк. I, Мядзв., Шн. 3, Мат. Гродз., Яруш., Шушк., Бес., Касп., Бяльк., Шат., Сцяшк., Сл. паўн.-зах., КЭС, лаг.), паст. 'жэрдка, якою прымацоўваюць салому зверху на страсе', пін. *ла́ціна* 'тс', віл. 'бервяно, якім змацоўваюць плыт' (Сл. паўн.-зах.), паўд.-усх. 'прыклад стрэльбы' (КЭС), ст.-бел. *лата, латва* 'лата' (XVI ст.), *ла́ціна* 'жэрдка' (Нас., Касп., Шат.; беш., Нар. сл.). Запазычана са ст.-польск. *łata*, якое з с.-в.-ням. *latte, late* 'доўгая вуглаватая лацвіна' (Кюнэ, Poln., 73; Слаўскі, 5, 38; Фасмер, 2, 464 і інш.). Сюды ж *ла́ціць* (гл.).

**Ла́та**$_3$ 'сярэдняя перасоўная аднасценная сетка з заходам' (Крыв.), 'невад без матні' (Помн. этнагр., 66), 'сеткавае палатно невада, якое ў час руху прымае выгляд жолаба' (брэсц., гродз., Браім), лельч. 'круглы сак з дубовых дубцоў' (ЛАПП). Ст.-польск. *łatnica* 'сетка для лоўлі рыбы', в.-луж. *łata* 'вялікая сетка, невад'. Да прасл. *lat-(iti)* 'схапіць' (Брукнер, 307). Параўн. серб.-харв. *ла̏тити* 'тс'. Гл. таксама *лата́цца*.

**Лата́** 'жулік' (Бяльк.), польск., каш. *łata* 'абадранец, нягоднік, хуліган, гультай', ляш. *łata*, чэш. *lata* (з польск.). Слаўскі (5, 37) суадносіць польск. лексему з *łata* 'лапік' (гл. *ла́та*$_1$)>'палапленае адзенне', якое перайшло на асобу ў такім

адзенні. Націск на канцы слова пад уплывам лексем +*латай* (параўн. *латайстваваць*), +*латуй* (*лацу́й*).

**Лата́к**$_1$, *латок, латачок, лотак, лоток* 'жалабок (на страсе) для сцёку вады' (КЭС, лаг., Некр., Багд., Бяльк., Нас., Сл. паўн.-зах., ТСБМ), 'жолаб, драўляная трубка, па якой цячэ бярозавы ці кляновы сок' (слуц., Нар. словатв.; в.-дзв., Шатал.; Шат.), 'драўлянае карыта ў хаце' (Маш., Сержп. Грам., Грыг.), 'прыстасаванне, якое ў жорнах рэгулюе падачу зерня на камень' (ельск., ЛАПП) 'адтуліна (у жорнах) для выграбання мукі' (светлаг., Мат. Гом., Мат. Маг., Шатал.), 'жолаб, якім падводзіцца вада да кола млына' (калінк., рэч., лоеў., ЛАПП), 'посуд накшталт начовак, у якім секлі націну' (Мат. ЛАБНГ), 'коўш' (Ян.), петрык., добр. *латакі* 'пот' (Мат. Гом.), 'рагі, што цякуць з вакон' (петрык., акц., КЛАБНГ), *латаком* 'у выглядзе жалабка', 'струменем' (паст., ашм., Сл. паўн.-зах.), ст.-бел. *латока* 'конаўка, жолаб' (Скарына). Укр. *лотик, лотоки* 'канал, па якому цячэ вада ў вадзяным млыне', чарніг. *лоточок* 'жолаб у жорнах для мукі', рус. *лоток* 'жолаб для сцёку вады', 'латок', 'чарпак', польск. *łotok* 'жолаб для сцёку вады на кола ў млыне' — запазычана з бел. (Слаўскі, 5, 219). Прасл. усх.-слав. *lotokъ* 'карыта, прымітыўная рына, рэчышча ракі', якому адпавядае літ. *latākas* 'жолаб, ручэй' (Бернекер, I, 735), *letēkas* 'ручай, струмень, карына', *lekētas, lèkets* 'трубка, па якой цячэ сок з дрэва' (Буга, Rinkt., 1, 455—458). Аднак Бернекер (1, 735), Фрэнкель (342—343), Мюленбах — Эндзелін (2, 424) без дастатковых падстаў мяркуюць, што балт. лексемы запазычаны з бел. мовы. Агляд недакладных этымалогій гл. Фасмер (2, 523), Слаўскі (5, 319—220). Буга (Rinkt., 1, 455) у якасці крыніцы запазычання ў балт. мовах прапануе фін. *lotakko, lätäkkö* 'лужа, лужына'. Параўн. таксама эст. *latakas* 'шырокі, плоскі'. Гл. таксама *латока, латочына.*

**Лата́к**$_2$ 'жэрдка для прыціскання саломы на страсе' (ельск., Нар., сл.), рус. тамб. *латак* 'жэрдка для латання страхі'. Утворана пры дапамозе суф. *-ак* (Сцяцко, Афікс. наз., 202) ад *лата*$_2$ (гл.).

**Латарэ́я** 'розыгрыш рэчаў і грашовых сум па білетах' (ТСБМ). Запазычанне з рус. *лотерея* 'тс' (адлюстравана рус. вымаўленне [*-тэ-*], якое з італ. *lotteria* праз ням. *Lotterie* ці гал. *loterij* (Фасмер 2, 522).

**Лататóніць**, *лътатóніць* 'гаварыць хутка, гучна', *лътатóн* 'балбатун, які лапоча без перастанку' (міёр., Нар. лекс., З нар. сл.). Гукапераймальнае. Відавочна, балтызм. Параўн. літ. *latatáila* 'балбатня'. Параўн. *лададзéць* (гл.).

**Лататы́** *(за)даць* 'збегчы, імкліва ўцякаць' (ТСБМ, Янк. БП, Янк. БФ, Сл. паўн.-зах.), 'хутка ўцячы' (Яруш.), *зада́ць* *латата́* 'тс' (Растарг.), глыб. *лататы́-лататы́* (па гародзе) 'аб гойсанні, хуткім бегу з матляннем адзежы' (Л. А. Малаш, вусн. паведамл.), полац. *ладату́х-ладату́х* — гукаперайманне едучага рыссю каня (Нар. лекс.). Рус. *латата́* 'хуткі ўцёк', *лататай* 'тс' (ЛітССР). Балтызм. Параўн. літ. *latatì, latatái* 'выклічнік, які перадае гук хуткага бегу' > *latatóti, latatúoti* 'хутка бегчы' (Лучыц-Федарэц, БЛ, 13, 1978, 65; Лаўчутэ, Балтызмы, 118).



**Латаце́нь** 'лотаць, Caltha palustris L.' (гродз., Кіс.), зэльв. *латаценё* 'тс' (Сл. паўн.-зах.). Да *лотаць* (гл.).

**Ла́тацца,** *ла́тавацца, пала́та́цца* 'лёгка нажываць, карыстацца чужым' (Нас.), 'жывіцца, падзарабляць' (Юрч.), бялын. 'пабірацца' (Яўс.), 'падстройвацца, падладжвацца' (Сцяшк.), *лата́ньне* 'карыстанне чужым, лёгкім прыбыткам' (Нас.), бялын. *ла́тыньня* 'папрашайніцтва, падбіранне' (Яўс.), *латаніна* 'лёгкі прыбытак, лёгкія заробкі' (Нас.). Надзейнай этымалогіі няма. Паводле Слаўскага (5, 46—47), паходзіць ад прасл. *lat-*, якое мае значэнне 'схапіць' (Брукнер, 307). Параўн. бел. *латва, лацьвей* 'лёгка', польск. *łatwy, łacwi, łacny,* ст.-польск. *łatnica* 'сетка для лоўлі рыбы', серб.-харв. *ла̏тити* 'схапіць', *ла̏хати* 'хапаць, браць', *lȁće* 'марна', чэш. *láce, lacný* 'лёгкі, танны', славац. *lacný* 'тс', ст.-слав. **латити** 'падсцерагчы, злавіць'. Матцэнаўэр (LF, 9, 185) дапускае роднаснасць з лат. *lēts* 'лёгкі, танны'.

**Лата́цце,** *лата́те, лата́тьте* 'лотаць, Caltha palustris L.' (Бес.; драг., КЭС), *ла́таць, лата́ць* 'тс' (Сцяшк., Гарэц., Юрч. Вытв.), воран. *ла́тач,* ганц. *лата́шнік* 'тс' (Сл. паўн.-зах.). Да *лотаць* (гл.). Пачатковае *ла-* яшчэ з прасл. перыяду; аб яго чаргаванні з *lo-* гл. Брукнер (KZ, 48, 217) і Слаўскі (5, 129).

**Лата́ць**$_1$, *ла́таць, лата́тэ* 'лапіць адзенне', 'рамантаваць страху' (Нас., ТСБМ, Бяльк., Касп., Сцяшк., Яруш., Мат. Гом., Сл. паўн.-зах.; КЭС, лаг., Нік. Очерки, Ян.; чарніг., КЭС). Укр. *латати,* рус. *латать,* польск. *łatać,* чэш. *látati,* славац. *látat'*. Паўн.-слав. *oltati* 'прышываць латкі, рамантаваць' (Слаўскі, 5, 40; Слаўскі, SP, 1, 46). Адназоўнікавае ўтварэнне. Да *ла́та*$_1$ (гл.).

**Лата́ць**$_2$ 'прыбіваць латы да крокваў' (КЭС, лаг.). Да *ла́та*$_2$. Параўн. таксама *ла́ціць*. Не выключана магчымасць запазычання з польск. *łatać* 'тс'. Аналагічна ў ням. мове: *Latte* 'лата' > *latten* 'прыбіваць латы' (Слаўскі, 5, 41).

**Ла́тачына** 'лапік, акно чыстай вады ў зарослым возеры' (Бяльк.). Да *ла́та*$_1$ (гл.). Утворана ад *латка* і суф. *-ina* з лакальна-прасторавым значэннем (Сцяцко, Афікс. наз., 156).

**Латачы́на** 'лагчына' (Сцяшк.). Да *лата́к*$_1$ (Фасмер, 2, 523).

**Латашы́ць**, *латажы́ць*, бялын. *лыташы́ць* 'ірваць без разбору псуючы і спусташаючы', 'неахайна ірваць' (ТСБМ, Шат.; беласт., навагр., паст., пух., Сл. паўн.-зах.), 'таптаць травы, пасевы' (Шат.), 'знішчаць з'ядаючы і топчучы' (ТС, Янк. II), 'біць кіем па садовым дрэве, з шумам рваць траву ці гародніну' (КЭС, лаг.), 'абтрасаць, абіраць', 'браць, збіраць старанна' (Яўс.), ашм., навагр. 'красці, грабіць', смарг. 'насіць вялікімі бярэмамі' (Сл. паўн.-зах.), 'біць, лупцаваць', 'страляць' (ТСБМ; в.-дзв., швянч., Сл. паўн.-зах.). Укр. гуц. *лото́шити* 'быць без занятку', рус. наўг. *лотошить* 'красці', польск. *łatać / łatoszyć, lotoszyć* 'біць, лупцаваць'. Утворана ад **латоха*<*latiti*. Да *ла́таці̧ца* (гл.). Параўн. таксама *латухея* (гл.). Відавочна, у афармленні семантыкі дзеяслова ў некаторых гаворках уплывала лексема *лата* 'лапік'. Параўн. рус. паўд.-сіб. *латошить* 'латаць адзенне'.

**Латашы́цца** іўеў. 'таптацца, аблюбоўваць месца', швянч. 'старацца, клапаціцца' (Сл. паўн.-зах.). Утворана ад **латоха*, параўн. рус. уладз., варонеж., арл., *лото́ха* 'клапатун, клапатуха', 'мітуслівы, непаседа'.

**Ла́тва** 'лёгка, без цяжкасцей', 'зручна' (Нас., Касп., Др.-Падб., Гарэц., Сл. паўн.-зах.), 'добра' (Сл. паўн.-зах.), *ла́твы* 'лёгкі, зроблены без перашкод, без цяжкасцей' (Нас.), *латве́й, лацве́й, лацьве́й* 'лягчэй, лепш, выгадней, прыемней, ямчэй' (Нас., Грыг., Шат., Мядзв., Гарэц., Касп., Янк. БП, Янк. Мат.; КЭС, лаг.; шчуч., З нар. сл.; в.-дзв., Шатал., Мат. Гом., Яруш., ТС, Сл. паўн.-зах.). З формы *лацьвей* развіліся: міёр. *лацьвя* (Нар. сл.), *лацві* 'лёгка, добра' (Бяльк., Юрч. Фраз. 2), *лацьвікі* 'добра' (Яўс.), пін. *лацва* 'парадак' (КЭС). Ст.-бел. *латвый* (1588 г.) запазычана са ст.-польск. *łatwy* (Булыка, Запазыч. 185; Жураўскі, SlOr, 10 (1), 1961, 40; Карскі, Труды, 205; Кюнэ (Poln., 73). Слаўскі (5, 47) мяркуе, аднак, што ў адрозненне ад укр. *латвий*, літ. *lãtvas* 'лёгкі, выгодны', бел. *латвы* з'яўляецца самастойным бел. утварэннем, роднасным да *латацца* 'лёгка атрымліваць, карыстацца чужым'. Паводле Слаўскага (4, 413), лексема *łatwy* (<*latvъ*) найбліжэй стаіць да паўд.-слав.: славен. *látiti se* 'ўзяцца', серб.-харв. *ла̏тити* 'схапіць, узяць'.

**Латво** 'ляток у вуллі' (ветк., Мат. Гом.). Да *лятво* (гл.).

**Ла́тка**$_1$, *ла́тачка, ла́дка* 'гліняная або драўляная міска' (Бяльк.; шкл., Мат. Маг.; паўд.-усход. КЭС; паст., брасл., лудз., глыб., Сл. паўн.-зах.), 'гліняная глыбокая міска (з загнутымі краямі)' (Др.-Падб., Юрч., Малч., Нас., Касп., Мікуц., Мат. Гом.), 'вялікая міска' (мядз., Жд. 2; браг., Нар. лекс.), в.-дзв. 'пасудзіна з абабітымі краямі', чыж. 'невялікі збан з адной ручкай', в.-дзв., паст. 'цёрла' (Сл. паўн.-зах.), клім. 'талерка' (Нар. словатв.). Укр. *латняк* 'той, хто раманту́е гаршкі', рус. *латка, ладка* 'латка', польск. *łata, łatka, łotka*, н.-луж. *łacywa*, чэш., славац. *látka*, серб.-харв. *latka, ladka*, макед. *латка*, ст.-слав. **латъка**. Памяншальная форма ад прасл. *laty, latъve* (параўн. ст.-слав. **латы**, **латъве**, ц.-слав. *латы, латовь*, славен. *látva, látvica*, харв. *Latvica* (назва вёскі), макед., балг. *латвица*), роднаснымі якому з'яўляюцца літ. *luõtas* 'човен', с.-в.-ням. *lade* 'дошка, акаліца, драніца' (Фасмер, 2, 465; Слаўскі, 5, 39). Інакш Махэк$_2$ (322), Брукнер (307), а таксама Трубачоў (Ремесл. терм., 219—221), які, даводзячы другаснасць даўжыні слав. *lāty*, робіць магчымым парадніць прасл. *laty* і *lotъkъ*>бел. *латак* і для апошняга дапускае першаснае значэнне, звязанае з паняццем 'гліна', 'зямля' (параўн. бел. *латачына* 'лагчына'), а далей супастаўляе прасл. *lotъ / lotъkъ / lotokъ* з герм. *laþjon* (ням. *Letten* 'гліна'). Развіццё семантыкі прасл. *laty*: 'гліняны сасуд'>'латак, карытца'.

**Ла́тка**$_2$ 'аладка' (Бяльк.). Да *ла́дка* (гл.).

**Ла́тка**$_3$ 'кучка саломы, сена' (Жд. 1), 'пярэбірак' (слуц., Сл. паўн.-зах.). Паводле Слаўскага (5, 37), да *ла́та*$_1$ (гл.).

**Ла́тка**$_4$ 'складка' (капыл., Сл. паўн.-зах.). Да *ладачка* (гл.).

**Ла́тка**$_5$ 'лапік' (ТСБМ). Да *ла́та*$_1$ (гл.).

**Ла́ткі** (мн.) 'фіранкі' (нараўл., Мат. Гом.). Відавочна, семантычны перанос паводле падабенства з *ла́та*$_3$ 'сетка, невад' (гл.).

**Ла́тнік**$_1$ 'тонкі лес, жэрдкі, прыгодныя для лат' (Нас.). Да *ла́та*$_2$.

**Ла́тнік**$_2$ 'старая посцілка, якой накрываюць каня' (Сцяшк.). Да *ла́та*$_1$ (гл.). Аб рэгіянальнай (гродзенскай) спецыфіцы словаўтварэння з суф. *-нік* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 118.

**Латно** 'выгадна, зручна, вельмі добра' (докш., Янк. Мат.). Рэгіянальнае ўтварэнне ад прасл. кораня *lat-* (гл. *ла́тацца*). Не выключана магчымасць кантамінацыі *ла́тва* і *лацно* (гл.).

**Лато́** 'назва гульні' (ТСБМ). Запазычана з рус. *лото* 'тс' (Крукоўскі, Уплыў, 79) <франц. *loto*<італ. *lotto*<гоц. *hlauts* 'жэрабя' (КЭСРЯ, 247; Фасмер, 2, 523).

**Лато́жыць** 'заганяць рыбу ў буч' (Сл. паўн.-зах.), польск. сув. *łatożyć* 'біць каго-небудзь', *nałatożyć, wyłatożyć* 'набіць' — ітэратыўнае экспрэсіўнае ўтварэнне ад *łatać* 'біць' (Слаўскі, 5, 41).

***Латок**, *лото́к, луту́к, лутык, лото́чок* 'вялікая бочка для ссыпання збожжа' (З нар. сл.). Да *лата́к*$_1$ (гл.).

**Лато́ка** 'ўпадзіна, лагчына, катлавіна, нізіна' (Касп.; полац., Нар. лекс.; ушац., Нар. сл.), беш. 'лужок сярод поля'

(Нар. сл.), 'гразкае месца' (Сл. паўн.-зах.). Да *латáк*₁ (гл.). Сюды ж *латочышча* 'лежыва' (рас., Сл. паўн.-зах.) < 'упадзіна, яма'.

**Латóўкі** 'дошкі-шалёўкі' (Сцяшк.). Да *лáта*₂ (гл.).

**Латóчына** 'лагчына з сырой зямлёй, а часам і з грунтавой вадой' (КЭС, лаг.). Да *латак*₁ (гл.).

**Латош**, *латы́ш, латошí* (зборн., мн. л.) 'ануча, акравак, шматок' (Клім.), 'паношанае, парванае старое адзенне' (драг., Лучыц-Федарэц). Укр. *латúш* 'лапік'. Адыменнае ўтварэнне з суф. *-ošь* (Слаўскі, SP, 1, 78). Да *лáта*₁.

**Латравáць** 'лайдакаваць, гультайнічаць' (Нас.). Да *лотр* (гл.).

**Латрýга**, *латружына* 'абібок, гультай' (Яруш., Нас. Бяльк., ТСБМ, Касп., Мат. Гом.; навагр., КЭС; карэліц., Марц.), 'нягоднік, ліхадзей' (навагр., Сл. паўн.-зах.), 'распуснік' (паўд.-усх., КЭС), 'гультай' (навагр., Нар. словатв.), *латрыга* 'гультай' (Бяльк.), 'круцель, шэльма' (усх., КЭС). Утворана ад *лотр* (гл.), якое ўзыходзіць да с.-в.-ням. *loter* 'легкадумны', н.-в.-ням. *Lotter(bube)* 'гультай' (Бернекер, 1, 735; Фасмер, 2, 523). Гл. таксама *лайтруга*.

**Латры́на** 'гультайка' (Бяльк.). Запазычана з польск. *łotryni* 'бессаромніца, подлая' (Слаўскі, 5, 225). У ст.-бел. мове для назоўнікаў жаночага роду, якія абазначалі асобу, ужываўся суф. *-ина* (напр. *охмистрина,* гл. Булыка, Запазыч., 233).

**Латужынне**, *латужыня* 'лахманы, палатаная сукенка' (Федар. 7) < *латужына* < *латуга* < *лата*. Да *лáта*₁ (гл.).

**Латýк** 'пустазелле сямейства складанакветных з дробнымі бледна-жоўтымі кветкамі' (ТСБМ), 'салата, Lactuca L.' (Кіс., ТСБМ), *латук-салата* 'салата пасяўная, Lactuca sativa L.' Укр. *латýчка*, ст.-рус. *лактука* (1534 г.). Запазычана з лац. *lactūca* праз с.-н.-ням. *lattuke* або з італ. *lattuga* (Фасмер, 2, 465). Ст.-польск. *łaktuka,* згодна з Фасмерам (5, 133—135), з'яўляецца познім кніжным запазычаннем з лац. *lactūca*. Там жа іншыя версіі.

**Латýн**₁ 'рыззё' (лельч., ельск., Мат. Гом.), 'абадранец' (палес., Казкі), *лотуны́* 'лахманы' (петрык., Шатал.), *латýння* 'старое адзенне' (лях., Сл. паўн.-зах.), *латунок* 'верхняя мужчынская вопратка кароткага памеру з даматканага сукна' (Касп.). Укр. чарніг. *латýн* 'лапленая світка'. Да *лáта*₁ (гл.). Аб суфіксе *-ун* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 173—174.

**Латýн**₂ 'непаседлівы чалавек' (хойн., Мат. Гом.) з ацвярдзелым пачатковым *л-*. Да *лятýн* (гл.). Аналагічна *лятво* (гл.).

**Латýнь** 'сплаў медзі з цынкам' (ТСБМ). Запазычана з рус. мовы, у якой у XVIII ст. з новав.-ням. *Latûn* або з с.-н.-ням. *lāton* або з італ. *lattone* < *latta* 'бляха' (Праабражэнскі, 1, 437; Фасмер, 2, 465; КЭСРЯ, 234). Расянен (Зб. Попе, 156) выводзіць рус. *латунь* з цюрк. **altuń*.



**Латýта** 'неахайны чалавек, лахудра' (Янк. III), міёр. *латýта, латýціна* 'абшарпаны, абадраны' (З нар. сл., Нар. словатв.). Відавочна, балтызм. Параўн. літ. *latùs* 'малы, тоўсты чалавек' — з суф. *-ùtas*. Аднак не выключана магчымасць утварэння з гэтым суфіксам ад кораня *лат-*, як мяркуе Янкоўскі (Янк. III, 58). Да *лáта*₁. Параўн. таксама ўкр. *лахýта* 'лахман'.

**Латýты** 'ласункі, прысмакі' (слаўг., Нар. словатв.). Да *лантуты* (гл.).

**Латýха** 'вялікая хустка ў клетку' (XVI ст.), 'палеская світка — верхняя суконная вопратка з бакавымі клінамі' (брэсц., валынск., Малч.), зневаж. 'паліто з шэрага сукна' (Тарн.), 'саматканая світка' (Сіг.), *латýшка* 'старая парваная світка' (кобр., Шн. 3; Сіг.). Палескае. Да *латáць*₁ (гл.).

**Латýхаць** 'рабіць шумлівы стук' (КЭС, лаг.). Гукапераймальнае, як полац. *лататух-лататух* 'гук, які ўтвараецца пры руху з падскокамі'. Параўн. *лататы,* а таксама рус. *лотóха, лотыхáть* (Фасмер, 2, 523).

**Латухéя** 'драная бульба' (чэрв., Жд. 3) — новае рэгіянальнае ўтварэнне з суф. *-ěja* ад *латашы́ць* 'рваць', 'драць' (гл.).

**Латуцéнь** *белы* 'гарлачык белы, Nymphaea alba L.' (гродз., віц., Кіс., Бел. зельн., Інстр. 2). Рэгіянальнае ўтварэнне з суф. *-ень* ад *лотаць* (гл.).

**Латýшка**₁ 'гліняная ці драўляная місачка' (Мядзв., Грыг., Гарэц., ТСБМ, Др.-Падб., Мат. Шкл., Бяльк., Касп., Сцяшк.; чэрв., Жд. 2; смарг., Бел. хр. дыял.; бялын., круп., Нар. сл.; КЭС, лаг.; вілей., Яруш., Мат. Маг., КЭС, Сл. паўн.-зах.), 'невялікая гліняная пасудзіна, місачка з загнутымі краямі' (Нас., Шат.), 'шырокі і плоскі гаршчок' (Грыг.), 'міска (любая)' (КЭС, лаг.), 'вялікая міска, макацёр' (Сл. паўн.-зах.; мядз., лаг., Жд. 2), 'невялікі збан з ручкай' (гарад., Сл. паўн.-зах.) 'шырокая нізкая металічная пасудзіна для выпечкі хлеба' (Сл. паўн.-зах.), 'драўляная лыжка' (чэрв., Жд. 2), рагач. *латушачка* 'місачка' (КЭС). Рус. пск., смал., калуж., тамб. *латушка,* польск. *łatuszka, łotuszka* (< бел. *латушка*), чэш. *latuška*. Паўн.-слав. *latušьka* < *latuša* < прасл. *laty* (Слаўскі, 5,45) > *лáтка*₁ (гл.). Параўн. мар. *latuša* 'збанок для смятаны, малака', рус. алан. *латуха* 'гаршчок з шырокім верхам'.

**Латýшка**₂ 'юшка ў коміне' (Сл. паўн.-зах.), 'ніжняя частка юшкі' (Касп.). Да *латýшка*₁.

**Лату́шы** 'лодарнічанне, гультайства' (Бяльк.). Узнікла ў выніку кантамінацыі міёр. *лататуй* і рус. *баклушы*.

**Лату́шнік** 'бабка з бульбы' (Інстр. 1, Шат.), 'каша з яек і пшанічнай мукі' (чэрв., Жд. 2). Параўн. *латухе́я*. Да *латашы́ць* (гл.).

**Ла́ты**$_1$ 'адзежа' (Федар. 2) — у выніку пераносу<'старая адзежына' (г. зн. 'з латкамі, палатаная')<*ла́та*$_1$ (гл.). Тое ж *латы* 'пасцельныя рэчы: коўдра, падушкі і інш.' (бяроз., Выг.).

**Ла́ты**$_2$ 'металічныя даспехі' (ТСБМ). Да *ла́та*$_1$ (гл. Мацэнаўэр, LF, 9, 191).

**Ла́ты**$_3$ 'франтон' (беш., ДАБМ). У выніку пераносу значэння *латы* 'жэрдкі': на гэтай тэрыторыі франтоны робяць з тонкіх бярвенняў (а не з дошак), кладучы іх як сцяну аж да вільчыка.

**Латы́галь** 'прагаліна ў лесе' — складанае слова: *латы* 'пустое, голае месца, на якім нічога не расце', 'прагаліна' (Жд. 1; в.-дзв., Шатал., Сл. паўн.-зах., Мат. Гом.) і *галь* (мяккае *-ль* пад уплывам *голь*)<літ. *gãlas*, лат. *gals* 'канец'. Гл. таксама Фасмер (2, 523 — 524).

**Латы́ззе** 'рызманы' (Ян.). У выніку кантамінацыі *ла́ты* і *ры́ззе* 'рыззё'.

**Латы́р** 'камень, уплецены лыкам у колца з лазовага дубца, які служыць грузілам да невадоў' (Мял.). Укр. *лати́р, олати́р* 'янтар', ц.-рус. *ала́тырь* 'камень, які Спас паклаў у падмурак Сіёнскага храма', 'камень, каля якога ўпала Галубіная кніга' (Бракгауз і Ефрон, Энц. сл., 9, 116—117), рус. арханг., валаг., арл., вяц. *ла́тырь, ла́тыр*, ёнаўск. *лата́р*, арл. *бел латый камень*, рус. *ватарь-камень, алатырь-камень*. Узыходзіць да іран. *al-ātar- 'белы-гаручы', параўн. рус. кальку (з іран.) *бел-горюч* і частковую *бел-атор* (Мартынаў, Балт.-слав. исслед., 1980, 24—25). Роднаснае са словам *ватрушка* (<*vatra* 'агонь').

**Латы́ш**$_1$ 'прадстаўнік асноўнага насельніцтва Латвіі' (ТСБМ), прым. *латышскі* (ТСБМ), *латиський* (Касп.). Укр. *лати́ш*, рус. *латы́ш*, польск. *łotysz*, чэш. *Lotyš*. У бел. і ўкр. антрапаніміі сустракаюцца асновы з *ла-* і *ло-*. Узыходзіць да лат. *latvieši* 'латышы' (<*latvietis*), літ. *lãtvis*, якія паходзяць ад назвы р. *Late* (Мікала, Slavia, 15, 162; Фасмер, 2, 466).

**Латы́ш**$_2$ 'вялікі збан з адной ручкай' (Сл. паўн.-зах.). Да этноніма *латыш* (відавочна, форма *збана* пашырылася з Латвіі). Параўн. назву касы *літоўка* (гл.).

**Латэрны** 'гаваркі' (іўеў., Сцяшк.) — семантычна роднаснае з лат. *laterêt* 'балбатаць, малоць'.

**Лаўдан** (ст.-бел. *лауданъ, лявданъ*, 1689 г.) 'жывіца расліны Citus polymorphus'. Запазычана са ст.-польск. *laudan*, якое з с.-лац. *laudanum*<лац. *lādanum, lēdanum*<ст.-грэч. λάδανον (Слаўскі, 4, 77; Булыка, БЛ, 9, 32). У суч. бел. мове — *ладан* (гл.).



**Ла́ўдаць**, драг. *ла́ўдаты* 'есці' (Клім.). Няясна. Магчыма, генетычна звязана з літ. *láudaga* 'гультай', 'неахайны' (і ўзнікла са словазлучэння, якое абазначала 'павольна есці'). Аднак, калі ўлічыць рус. уладз. *лаудить* 'есці або піць з асаблівым апетытам', можна меркаваць пра запазычанне. Не выключана балтыйская крыніца літ. *lámdyti* 'камячыць, мяць': перанос значэння 'мяць'>'есці' характэрны для іншых моў, параўн. вепс. *mähmd'ä* 'мяць, размінаць' і 'прагна есці'.

**Лаўды́** 'добра' (Яўс.): «...*лаўды табе, калі ўсе пымагаюць*...» Відавочна, уграфінізм, параўн. эст. *laudi* 'палок у лазні'<*laud* 'стол', 'дошка', вепск. *лаиd* 'тс'. Семантыка слова *лаўды́* — вынік развіцця значэння 'палок у лазні'>'асалода, раскоша ад парання ў лазні'.

**Лаўж** 'куча галля' (ігн., Сл. паўн.-зах.), *лаўжо* 'тс' (Мат. Гом.). З літ. *láužas* 'агонь, касцёр', 'лом', 'куча галля'. Сюды ж ігн. *лаўж* 'куча нямытых рэчаў'. Параўн. *лоўж, лобжа, ломжа*, а таксама лат. *lauza* 'куча', 'ламачча, павал'.

**Лаўжо**$_1$ 'брудная бялізна', 'лахманы' (паст., Сл. паўн.-зах.). Да *лаўж*, якое кантамінавала з *лайно* (гл.).

**Лаўжо**$_2$ 'ваўчынае логава' (глыб.), *лаўжышча* 'тс' (паст.), 'лежыва' (глыб., Сл. паўн.-зах.) генетычна звязаны з папярэднім *лаўж*; семантыка развівалася наступным чынам: 'куча галля'→'вялікая колькасць чаго-небудзь' (раг. *лоўж*)→'беспарадак' (лаг. *лоўжышча*)→'логава' (Сл. паўн.-зах.). Параўн. таксама літ. *láužymas* 'бярлога'.

**Лаўжо**$_3$ 'вузкая прадаўгаватая дошка, якой закрывалі бакавую адтуліну ў калодачным вуллі' (барыс., Сл. паўн.-зах.). Генетычна звязана з літ. *láužti* 'ламаць', *láužymas* 'ломка' (першапачаткова 'ўломак, кавалак адламанай галіны').

**Ла́ўза** 'бадзяга, валацуга' (Сл. паўн.-зах.), рус. варон. *лаўзить* 'красці'. З літ. *láužas* 'няўдачнік, апушчаны, гультаяваты чалавек' (Грынавецкене, Сл. паўн.-зах., 2, 632).

**Ла́ўка**$_1$ 'лава на вуліцы каля хаты, у парку, памяшканні, вагоне', 'школьная парта', 'услон' (ТСБМ, Сцяшк., Грыг., Шат., Бяльк., Яруш., Касп., Мат. Гом.; паўд.-усх., КЭС, Сл. паўн.-зах., Ян.), 'частка ганка', 'дошка на рэчцы (возеры), на якой жанчыны мыюць бялізну', 'пераход праз рэчку, перакінуты з аднаго берага на другі — з дошак ці з бярвення' (Інстр.), 'частка агароджы' (уздз., Жд. 2), 'звязаныя адно з адным некалькі бярвенняў для сплаву', 'адно звяно плыта' (нёманск., Нар. лекс.; карэліц., З нар. сл.), 'частка плыта,

звязаная з 24 бярвенняў' (гродз., Нар. сл.) 'планка для замацоўвання ножак стала' (петр., Шатал.). Да *лава*$_1$, *лава*$_2$ (гл.).

**Ла́ўка**$_2$ 'лука, луг' (Яшк., Бяс.), мядз. 'поле' (Непакупны, Связи, 122—183). Запазычана з літ. *laũkas* 'поле'. Сюды ж, відавочна, і лід. *ла́ўка* 'ўчастак лесу' (Сл. паўн.-зах.).

**Ла́ўка**$_3$ 'папярочная баразна'. Да *лава*$_1$ (гл.).

**Ла́ўка**$_4$ 'магазін' (Сцяшк., Мат. Гом.; в.-дзв., Шатал.; уздз., Жд. 2, Ян.; тур., Выг.). Філін (Происх., 619) адносіць да ўласнарускіх слоў. Аднак існаванне ст.-бел. *лав(ъ)ка* (з 1561 г.) пярэчыць гэтаму.

**Лаўка́ч** 'пранырлівы чалавек, які ўмее выгадна ўладкаваць асабістыя справы' (ТСБМ), 'дзялок, махляр' (Яўс.). Да *лоўкі* (гл.). Параўн. *лаўчак* 'тс'.

**Ла́ўма**, *лэ́ўме* 'ведзьма' (Вяржб.), рус. смал. *ла́ума* 'тс', польск. паўн.-усх. *łauma* 'русалка'. Балтызм. Параўн. лат. *lauma* 'ведзьма', літ. *laũmė* 'русалка' (Фасмер, 2, 467; Урбуціс, Baltistica, 5, 64, 156 і 160; Відугірыс, LKK, 1960, 3, 237; Лаўчутэ, Балтизмы, 31).

**Ла́ўнік**$_1$ 'чыноўнік магістрата, які мае права засядаць на дзяржаўнай лаве' (Нас.), 'член суда' (Гарэц., Др.-Падб.), ст.-бел. *лавникъ* 'тс' (1514 г.), смал. *лавник* 'чалавек, які выганяў сялян на паншчыну'. Да *лава*$_5$ (гл.). Запазычана са ст.-польск. *ławnik* або пад яго ўплывам (Слаўскі, 5, 55; Булыка, Запазыч., 21). Параўн. запазычанае з польск. таксама ўкр. *лавник, лавний*, рус. архаічнае *лавник*, літ. *lóvininkas, lóvynykas*.

**Ла́ўнік**$_2$ 'старшы плытагон' (дняпроўска-прыпяцкі арэал, Лобач, Рэгіян. трад.). Да *ла́ва*$_2$ (гл.).

**Лаўр** 'лаўр высакародны, Laurus nobilis', 'вянок з лісця гэтага дрэва (ці куста) або галінка як сімвал перамогі, узнагароды' (ТСБМ). Укр. *лавр, лавір, лаврина*, рус. *лавр*, польск. *laur*. З лац. *laurus* (Міклашыч, 161; Бернекер, 1, 695; Фасмер, 2, 445).

**Ла́ўра** 'назва буйнога мужчынскага манастыра' (ТСБМ), рус. *лавра*, ст.-рус. *лавра*, ст.-слав. **лавра** з с.-грэч. *λαύρα* 'манастыр, келля'<ст.-грэч. *λαύρα*, эп.-іон. *λαύρη* 'вуліца, завулак', 'праход у лагчыне, цясніне' (Фасмер, Этюды, 108; Бернекер, 1, 695; Слаўскі, 5, 56).

**Лаўрэа́т** 'званне, якое прысуджаецца за выдатныя заслугі ў галіне навукі, мастацтва і г. д.', 'асоба, удастоеная такога звання' (ТСБМ). Паходзіць з лац. *laureātus* 'увенчаны лаўрам'<*laurea* 'лаўр, перамога, слава'<*laureus* 'лаўровы'<<*laurus* 'лаўр' (Слаўскі, 5, 78 з літаратурай). У бел. мову лексема, відаць, трапіла з рус., дзе з XIX ст. лічыцца запазычаннем з франц. *lauréat* (КЭСРЯ, 235). Да *лаўр* (гл.).



**Лаўцу́-саўцу́** 'пажаданне поспехаў паляўнічаму, рыбаку' (Касп.). Да *лаве́ц*$_1$ (гл.). Другая частка выразу, відавочна, звязана з назвай дзікай качкі-крохаля — *савук* (Інстр. 2). Параўн. таксама *саўлюк* 'абы-што' (Вяр.).

**Лаўча́к** 'лаўкач' (Янк. III). Да *лоўкі* (гл.). Аб суф. *-ак* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 130—132.

**Лаўчыцца** 'знаходзіць зручны момант, каб спрытным рухам зрабіць што-небудзь' (ТСБМ). Да *лоўкі* (гл.), як *мя́ккі* — *мякчыць*.

**Лаўшэ́нь** 'ляўша' (віл., Сл. паўн.-зах.). Да *ле́вы* (гл.). Утвораны ад назоўніка *лявуш* або *ляўшня*. Пачатковае ацвярдзенне *л-* мае нерэгулярны характар. Аб суф. *-энь* гл. Сцяцко., Афікс. наз., 152. Параўн. таксама *ляўшэнь*.

**Лафа́**, *лахва́* 'выгода', 'шанцаванне' (ТСБМ), астрав., паст., лях., чэрв. 'раскоша, удача', шальч. 'хвальба' (Сл. паўн.-зах.), 'добры' (нясв., Жд. 2), 'карысць, лёгка набываемы прыбытак, спажыва' (Нас., Шат.; паўд.-усх., КЭС). Укр. *лафа́, лахва́*, рус. *лафа́*, ст.-рус. *алафа, олафа*, ст.-польск. *lafa*, серб.-харв. *лафа*. З тур. *alafa, alef* (<араб. *elef*) 'плата султана на ўтрыманне паслоў, слуг і коней' (Міклашыч, 159; Бернекер, 1, 683; Фасмер, 2, 467; Слаўскі, 4, 25).

***Лафе́рма**, *лофе́рма* 'лахудра, недарэка, неахайнік' (ТС). З польск. *oferma* 'няўклюда, цямця-лямця' з прыстаўным *л-*.

**Лафе́т** 'станок, на якім замацоўваецца ствол гарматы' (ТСБМ). Запазычана з рус. мовы (Крукоўскі, Уплыў, 82)<<франц. *l'affût, fût* 'ствол', 'слуп, насад' праз ням. *Lafette* (Фасмер, 2, 467). Ст.-бел. *лявета* 'лафет' (1695 г.) паходзіць са ст.-польск. *laweta* (Булыка, Лекс. запазыч., 68).

**Лафе́тка** 'лата, жэрдка' (ветк., Мат. Гом.). Запазычана з рус. мовы, параўн. маск., уладз., разан., калін. *лафет* 'піламатэрыял, з якога робяць падаконнікі, вушакі', разан. *лафета*, цвяр. *лафетина*, цвяр., разан. *лафетник* 'тс'.

**Лах**$_1$, *ла́ха, ла́хі, ла́хэ* 'лахман, рызман' (Сіг.), 'старое, панашанае адзенне' (ТСБМ), 'адзенне, якое насіць больш нельга' (павагр., Нар. лекс.), 'шматы, транты' (КЭС, лаг.), 'шмаццё, барахло' (Нар. словатв.), іўеў. 'рызман', арш. 'адзежына', брасл. 'бялізна', гродз. 'шматок', (Сл. паўн.-зах.), у выразе: *ла́хі пад па́хі* 'хутка пайсці', 'вельмі паспешліва ўцячы' (Лінгв. зб., Янк. БФ., Янк. БП). Укр. *лах, лаха, лахи* 'рызман', 'адзенне ўвогуле', рус. ёнаўск. (ЛітССР), прэйл. (ЛатвССР) *лахи* 'рэчы', 'манаткі', польск. *łach, łacha* 'адзенне', 'вясельны ўбор', 'чалавек, які носіць такое адзенне', 'бадзяга', чэш. *lach, lachy*, славац. *lachy*. Паводле Слаўскага (4, 403),— гэта паўн.-прасл. *lachъ* 'лахман, ануча', роднаснае да ст.-грэч. *λακίς* 'тс' (<*λακίξω* 'дзяру'), лац. *lacer* 'парва-

ны', *lacinia* 'акравак', 'адзенне', літ. *lākatas* 'абрэзак', 'акравак, анучка', *lakataĩ* 'лахі', лат. *lakats* 'хустка'. І.-е. **lak-so-* (<**lēk-/*lək* 'раздзіраць'). Агляд этымалагічнай літаратуры там жа.

**Лах!**$_2$ — пра беганіну (мсц., ісл., Нар. лекс.). Да літ. *làg*, якое перадае імкненне, рух, бег. Параўн. таксама *лахаць*$_1$.

**Лах!**$_3$ — пра моцны ўдар па корпусу (полац., Нар. лекс.). Магчыма, гэта кантамінацыя гукапераймальных выклічнікаў *лясь!* і *бах!*

**Лах!**$_4$ — пра балбатню (мсцісл., Нар. лекс.). Другаснае аддзеяслоўнае ўтварэнне ад *лахаць* (гл.), як *мах!*<*махаць*.

**Ла́ха**$_1$ 'рухавая, вельмі балбатлівая жанчына' (мсцісл., З нар. сл.). Аддзеяслоўнае ўтварэнне, як *соня* (<*спаць*). Да *лахаць*$_2$ (гл.).

**Ла̊ха**$_2$ 'крысо' (Яўс.). Няясна. Магчыма, да *лах*$_1$ (гл.).

**Лахада́н**, *лыхыда́н* 'каханак' (Юрч. Фраз. 3). Да *лахадзіць* 'гаварыць недарэчнае' (гл.). Параўн. таксама рус. арл., смал. *ла́харь* 'каханак, залётнік', том. *лахарничать* 'гарэзаваць, пакасціць'. Аб суф. *-ан* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 26.

**Лахадзіць** 'гаварыць недарэчнае' (карэліц., смарг., Сл. паўн.-зах.). Утворана ад *лахандá* (гл.) з выпадзеннем *-н-*.

**Лахады́м** 'гуляка' (гом., Мат. Гом.). Да *лахаць* і *дыміць* (гл.); утворана шляхам словаскладання (як *куродым*).

**Лахады́р'е** 'старое, парванае адзенне' (кругл., Мат. Маг.). Да *лах*$_1$ і *дзірка* (<*dira*>*dyr-ьje*).

**Лахаміда** 'лахман' (прынёманск., Нар. лекс.) узнікла ў выніку кантамінацыі лексем *лах*$_1$ і *хламіда* (гл.), параўн. *халаміда* 'рызман' (Юрч.).

**Лахаму́дра**, *лахаму́дрына, лахаму́драшча* 'неакуратная асоба', (іранічна) 'разумнік, хітрэц', *лахаму́дрыць* 'паказваць сябе вельмі разумным' (Юрч. Вытв.). У выніку кантамінацыі ўтворана ад *лаху́дра* і *му́дры* (гл.).

**Лаха́н** 'вялікі гліняны збан' (Юрч. Вытв.), мсцісл. *лыха́н* 'драўляная дзежачка' (Бел. хр. дыял.), *лаханка, лахань, лаханька* 'ражка' (Бяльк., Касп.; палес., З нар. сл.), смарг. 'невялікая драўляная міска' (Сл. паўн.-зах.), 'вялікі гаршчок з ручкамі па баках для збівання масла' (Малч.), 'гліняная міска' (Чач.; лях., Янк. Мат.; палес., Вяр.-Крыв.; гродз., Сл. паўн.-зах.), паўд.-усх. 'вялікі гаршчок, у якім запарваюць адзенне', 'вялікі гаршчок-соуснік', 'гліняны сасуд, шырэйшы зверху, вузейшы знізу' (КЭС), 'гліняны посуд, у якім жарацца вялікія кавалкі ялавічыны', 'умывальнік', (Шпіл.), 'балея' (лях., іўеў., Сл. паўн.-зах.) 'цэбар для вады ці памыяў' (Мат. Гом.), рэч. *лахання* 'гліняная міска' (Мат. Гом.), 'вялікая міска' (Ян.), *лаханок* 'шырокі, гліняны збан' (Юрч.), пін. *лахінька* 'міска' (КЭС). Укр. люблінск. *лаханка* 'вялікая міска, цэбар для свіной ежы', 'вядро для памыяў', рус. *лохань, лохан, лахань, лоханка, лоханочка* 'прадаўгаваты або круглы сасуд гаспадарчага прызначэння', ст.-рус. *лохань, лакань, лохання* 'круглы, адкрыты сасуд' (XV ст.), паўн.-усх. польск. *łachań, łachanka* 'міска', мазав. *łochania* 'ночвы', якія, аднак, з бел. *лахань, лаханка* (Слаўскі, 4, 405). Надзейнай этымалогіі няма. Найбольш дапушчальная версія аб запазычанні са ст.-грэч. λεκάνη, позняе дарыч. λακάνη 'таз, балея, ражка', параўн. таксама ст.-грэч. λεκάνιον 'міска, блюда'. Іншыя версіі гл. Фасмер, 2, 524; Слаўскі, 4, 405. Бел. *лаханка нырачная* (ТСБМ) узыходзіць да рус. *лоханка почечная* (Крукоўскі, Уплыў, 38). Аб няўстойлівасці агаласоўкі *ла-* і *ло-* гл. Аткупшчыкоў, Из истории, 245.



**Лаханда́** 'легкадумная жанчына, якая многа і хутка гаворыць і ўсюды стараецца ўставіць сваё слова' (полац., Нар. лекс.) — відавочна, утворана ад *лахаць* і экспрэсіўнага суф. *-(а)нда* (аб ім гл. Сцяцко, Афікс. наз., 43 і 98—99). Параўн. таксама *хала́йдра* 'балбатун, хвалько' (Юрч.), у якім маецца перастаноўка *х/л* (<**лахайдра*) і *лахтадры́на* (гл.)<*лахтадра* пры наяўнасці *лахаць* і *лахтаць*.

**Лаха́ндрыкі** 'ласункі' (рэч., Мат. Гом.). Пераіначанае *лахардзік* (гл.) з устаўным *-н-* і перастаноўкай *рд*>*др*.

**Ла́ханне**, *ла́хыньня* 'блуканне, швэнданне' (Яўс.). Да *ла́хаць*$_1$ (гл.).

**Лахан́ы**, *лаханэ́* 'буякі, Vaccinum uliginosum L.' (лях., баранав., Сл. паўн.-зах., Чач.). Да *ла́хаць*$_2$ 'гаварыць недарэчнае, недазволенае' (гл.). Матывацыя: ягады буякоў выклікаюць ап'яненне, боль галавы і інш. Параўн. тое ж у лексемы *буякі* (гл.) і ў інш. назваў буякоў у Кісялеўскага (137).

**Лаха́рдзік** 'ласункі' (Касп.), светлаг. *ла́харды* 'тс' (Мат. Гом.), *лахардзікі* 'прысмакі' (Мат. Маг.), бялын. *ла́хырдзік* 'пачастунак', *ла́хырдзіцца* 'ласавацца', *ла́хырдна* 'прыемна, смачна', *ла́хырднік* 'ласун', *ла́хырдніца* 'ласуха', *ла́хырдны* 'смачны' (Яўс.). Германізм, пашыраны, відаць, праз ідыш. Параўн. ням. *lecker* 'апетытны, смачны', *Leckerhaftigkeit* 'цяга да пачастункаў' і інш.

**Ла́харыца** 'непаседа' (гом., Мат. Гом.). Да *ла́хаць*$_1$ (гл.). Утварэнне, аналагічнае з рус. смал., арл. *ла́харь* 'каханак'. Параўн. бел. *ле́пар, ду́мар, чы́тар* (Сцяцко, Афікс. наз., 29—30) + суф. *-іца*.

**Ла́хаць**$_1$, *ла́хыць, ла́хъць* 'бегаць у пошуках чаго-небудзь' (Янк. II, КТС; докш., бял., Янк. Мат.; міёр., Нар. лекс.), 'насіцца, шукаць спажывы' (Юрч.), 'шукаць' (Касп.; в.-дзв., Шатал.; б.-каш., Мат. Гом.), 'хадзіць', 'абхадзіць' (Бяльк.),

'бегаць' (добр., Мат. Гом.), 'бегаць без патрэбы, гайсаць' (КЭС, лаг.), 'бегаць, блукаць' (Яўс.) 'хадзіць без справы, бадзяцца' (брас., Сл. паўн.-зах.), 'гультаяваць' (Мат. Гом.). Укр. *лахати* 'збіраць калоссе', рус. бран. *лахать* 'бегаць, гайсаць, мітусіцца', польск. сувалк. *oblachnąć* 'захапіць, заваладаць, апанаваць', харв. дуброўн. *láhati* 'хутка выходзіць', 'хутка хадзіць (экспрэсіўнае)', 'пераганяць з аднаго месца ў другое', 'квапіцца, галіцца на што-небудзь', прасл. *laxati*. Суадносіцца генетычна з літ. *lakstýti* 'бегаць', 'лётаць', лат. *lakstît* 'бегаць туды і назад' праз пераходную форму *лáхтаць* (гл.) насуперак Скоку (2, 261), які бачыць у ім анаматапеічнае ўтварэнне.

**Лáхаць**$_2$, *лáхыць, лáхъць* 'гаварыць недазволенае' (міёр., Нар. лекс.), навагр. 'пляткарыць, балбатаць' (З нар. сл.), 'балбатаць, пустасловіць' (Юрч.), 'гаварыць недарэчнае' (паст., маст., смарг., Сл. паўн.-зах.). Рус. ёнаўск. (ЛітССР), прэйльск. (ЛатвССР) *лáхаць* 'гаварыць пра тое, чаго не ведаеш', наўг. 'смяяцца', польск. *łachać* 'лаяць, ганьбаваць'. Экспрэсіўнае дзеяслоўнае ўтварэнне ад *лаяць* (гл.), як *maxati*<*majati* 'махаць', *baxati*<*bajati* 'гаварыць' (Слаўскі, 4, 405).

**Лáхаць**$_3$ 'трахаць, напр., лыжкай па лбе' (полац., Нар. лекс.). Гукапераймальнае. Да *лах!*$_3$ (гл.).

**Лахáч**$_1$ 'бадзяга' (дзятл., Сл. паўн.-зах.). Аддзеяслоўнае ўтварэнне з суф. *-čь*. Да *лáхаць*$_1$ (гл.). Сюды ж дзятл. *лахачыца* (там жа).

**Лахáч**$_2$ 'пляткар' (трак., Сл. паўн.-зах.). Аддзеяслоўнае ўтварэнне з суф. Nomina agentis *-čь*. Да *лáхаць*$_2$ (гл.).

**Лахачы́**, *лахачэ́, лохачі, лухачі, лохачэ́, лохачы́* 'буякі, Vaccinum uliginosum L.' (брэсц., Кіс.; бяроз., Выг., Сцяшк., Сіг.; бяроз., пін., Шатал.; лях., пруж., дзятл., Сл. паўн.-зах.; малар., Бел. хр. дыял.), *лохáчнык* 'заразнік буякоў' (Сіг.). Укр. *лахачі* 'тс'. Відавочна, першапачаткова з пачатковым *в-*, як польск. *włochynia, włochynie, włochinie,* чэш. *vlochyně, vlochuně,* славац. *vlochuňa,* укр. *волохані,* якія суіснуюць з формамі без *в-*: польск. *łochynia,* чэш. *lochyně,* укр. *лохина, лохиня.* Утворана пры дапамозе суф. *-ач* (як *касмач*) ад кораня *włoch-* (*włochaty*<*włos*<*volsъ*). Параўн. укр. *космачка* 'агрэст' і польск. *włochyni, włochaciny* 'агрэст, Ribes uva crispa' (матывацыя: ягады агрэсту, як і галінкі маладых буякоў, касматыя) — Слаўскі, 5, 131—132. Аднак Махэк$_2$ (695) звязвае чэш. *(v) lochyně* з лексемай *глухі,* у сэнсе 'несапраўдны', абапіраючыся на ўкр. *глухиня* 'буякі'. Параўн. бел. слон. *глухі дуб* 'дуб, лісце якога трымаецца ўсю зіму', рудз. *глухія грыбы* 'неспажыўныя грыбы' (КЭС), *глухая бяроза (вольха, лаза)* 'тс' (Інстр. 3). Штучнай здаецца версія Стэфена (JP, 48, 136—138). Гл. таксама бел. *лахіна.*



**Лахвá** 'раскоша, удача', 'хвальба' (Сл. паўн.-зах.). Да *лафá* (гл.).

**Лахíна**, *лахіны* 'ягада буякоў', *лахіннік* 'заразнік буякоў' (слон., свісл., Сл. паўн.-зах., Шатал., Бес.). Укр. *лохина,* каш. *lòxina* 'тс'. Пранікненне з польскай моўнай тэрыторыі.

**Лахлéтка** 'кавалак паперы, пісулька' (Бяльк.). Няясна. Магчыма, генетычна роднаснае з укр. *лахолáта* 'ануча, лахман'.

**Лахмавíнне**, *лыхмавíньня* 'дзіравае адзенне, анучы' (Яўс.). У выніку кантамінацыі лексем *лахман* і *шумавінне* 'смецце' (гл.).

**Лахмáн**, *лахманы́, лахманэ́, лахмане́, лахманё* 'старая адзежына, вопратка, рызман; паношанае або парванае адзенне', 'кавалкі, абрыўкі адзення, матэрыі' (ТСБМ, Сцяшк., Касп., Яруш., Шат., Мат. Гродз., Мат. Гом.; трак., брасл., паст., навагр., беласт., Сл. паўн.-зах., КЭС), 'вынашаная, падраная адзежына мясцовага вырабу' (КЭС, лаг.), даўг. 'бялізна', гарад., шальч., беласт. 'адзежына' (экспрэс.) (Сл. паўн.-зах.), *лахманíна, лыхманíна, лахмôніна* 'старая вопратка, зношанае адзенне', 'анучка' (Жд. 1, Юрч., Яўс., Грыг., Нас.), *лахмáнік* 'блузка, адзежына' (чэрв., Жд. 2), 'абадранец' (Яруш.). Укр. *лáхмáн, лахмáй, лахманина, лахмáнка, лахмáння, лохман,* рус. цвяр., смал., варонеж., пск., разан. *лóхмáн, лохмóн,* польск. *łachman, łachmany, łachmanina, łachmana,* в.-луж. *łachman,* славац. *lachman.* Паўночны праславянізм *lachmanъ*<*lachъ,* утвораны пры дапамозе суф. *-manъ*>*-ман* (як *рызман, сукман*). Памылкова Шатэрнік (146) выводзіць бел. *лахман* з польск. *łachman.* Да *лах*$_1$ (гл.).

**Лахмáты**, *лахмáтый* 'касматы, калматы', 'зроблены са скуры з доўгай і густой поўсцю, з доўгім ворсам', 'чалавек з доўгімі і густымі ўскудлачанымі валасамі' (ТСБМ, Бяльк., Яруш.; паст., Сл. паўн.-зах.), *лахмач* 'тс' (міёр., З нар. сл., ТСБМ), *лъхмацíна* 'лахматая асоба' (міёр., Нар. словатв.), мсцісл. *лахмаце́нечкій, лахмаценькій* 'лахматы' (Нар. словатв.), *лахмацíцца* 'станавіцца лахматым', *лахмацíць* 'рабіць лахматым' (ТСБМ), *лахмацець* 'тс' (в.-дзв., Сл. паўн.-зах.), *лахмáтка* 'непрычасаная жанчына', 'калматая жывёла' (Юрч. Вытв.). Паўн.-усх. бел.-рус. ізалекса. Утворана ад *лохма*<*лох-ма,* якое чаргаваннем галоснай кораня звязана з *лах*$_1$ (гл.) (Фасмер, 2, 524). Сюды ж *лыхмáцiння* 'рызманы' (Юрч. Вытв.). Параўн., аднак, ст.-грэч. λάχνος 'шэрсць, воўна'.

*__Лахмáчча__, *лахмáчча* 'лахманы' (Юрч. Вытв.). Да *лахматы* (гл.). Утворана пры дапамозе суф. *-ьje.*

**Лахмóтка**$_1$ 'ануча' (Грыг.), 'кавалак тканіны' (Бяльк., Ян.), 'старое адзенне, лахманы' (Нас., Ян., Юрч., Вытв.;

чачэр., Мат. Гом.), *лахмáткі* (пух., З нар. сл.). Бел.-рус. іза-лекса, параўн. рус. *лохмотка* — пск., смал., разан., сарат. 'ануча, кавалак матэрыялу', разан. свярдл. 'старое, парванае адзенне', польск. сувалк. *łaxmyta* 'чалавек, нічога не варты, ветранік, свістун, які не выклікае давер'я ні са знешняга вы-гляду, ні маральна'. Утворана ад *лохмотъ*, якое да *лохмы*< <*loxъma*. Чаргаваннем галоснага асновы звязана з *лах*₁ (гл.). Гл. таксама Фасмер, 2, 524.

**Лахмóтка**₂ 'распусная жанчына' (Нас.), 'неахайная асо-ба' (Гарэц., Др.-Падб.). Да *лахмотка*₁. Узнікла ў выніку се-мантычнага пераносу.

**Лахмóцце**, *лахмóцьця, лахмýтье* 'шматкі, абрыўкі', 'лах-ман, старое, паношанае або падранае адзенне' (ТСБМ, Нас., КЭС, лаг.; паўд.-усх., КЭС), 'анучы, старызна' (Яўс.). Да *лохмат* (гл.). Усх.-слав. утварэнне з суф. *-ьje*: рус. *лохмотья*, укр. *лахмíття, лахмíтє* 'лахманы, манаткі'.

***Лахнýць**, *лохнýты* 'расці ў сцябло (а не ў клубень) — аб бульбе' (Клім.). Дзеяслоў на *-nǫ-* ад *laxati*>*лáхаць*₁ (гл.).

**Лахня́** 'неахайны чалавек' (гродз., Сл. паўн.-зах.). Віда-вочна, гэта семантычны перанос з *лахня* 'бадзяга'. Да *лахаць*₁ (гл.). Аб суф. *-ня́* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 58.

**Лахóнікі** (мн.) 'булачкі з бульбы і грэцкай мукі' (петр., Шатал.). Няясна. Магчыма, сапсаванае ⁺*лакомікі* 'нешта смачнае' (<рус. *лакомки*).

**Лáхта**₁ 'чалавек, які хутка і без толку гаворыць' (нясв., Жд. 2), 'дзяўчына-падлетак, якая бегае па хатах, а за работу не бярэцца', лёгкая сучка, якая ганяе зайцоў' (КЭС, лаг.), 'балбатуха, пляткарка' (в.-дзв., Шатал.; карэліц., Нар. сло-ватв., Сл. паўн.-зах.), *лахта* 'тс' (слонім., Шатал.). Да *лах-тацъ*<*лахаць*₁ (гл.).

**Лáхта**₂ 'жанчына, якая апранаецца абы-як' (клец., Нар. лекс.) — у выніку семантычнага пераносу з *лахты* 'зношанае, бруднае адзенне', 'неакуратны, неахайны'. Параўн. такі ж пера-ход у *лахýдачка*>*лахудра*. Генетычна роднаснае — рус. паўн.-дзвін. *лахтá* 'гультайка, неахайная', а таксама перм. *лахто-вúна* (і *ластовина*) 'акравак, кавалачак матэрыялу'.

**Лахтадрына** 'нячыстае і зношанае адзенне', 'жанчына, якая апранаецца абы-як' (клец., Нар. лекс.) — кантамінацыя лексем *лахта(ніна)* і *лахудра(-ына)*.

**Лахтáн** 'верхняя адзежына (пінжак, паліто і г. д.), звычай-на старая' (слова ўжываецца з адценнем пагардлівасці) (мієр., М. Н. Крыўко, вусн. паведамл.). У выніку метатэзы з *халтáн* 'тс' (гл.), якое з польск. *chałat* 'балахон, паношанае адзенне'+суф. *-ан* (гл. Сцяцко, Афікс. наз., 147).



**Лахтаніна**, *льхтанінá, лъхтънінá, хълтънінá* 'верхняя адзе-жына' (міёр., Нар. словатв.). Да *лахтáн, халтáн* (гл.).

**Лáхтаць** 'хадзіць, бегаць, штосьці шукаючы і доўга не за-трымліваючыся на адным месцы' (міёр., Нар. лекс.; полац., П. Садоўскі, вусн. паведамл.). Да *лáхаць*₁ (гл.).

**Лахтачына** 'паніжанае месца' (слонім., КЭС). Відавочна, *лагтачына*. Узнікла шляхам кантамінацыі лексем *лагчына* і *лагачына* (гл.).

**Лахтýй** 'неахайны, неакуратны чалавек' (жлоб., Нар. сло-ватв.). Утворана ад *лáхта*₂ пры дапамозе суф. *-уй* (з адцен-нем экспрэсіі непахвальнасці).

**Лáхты** 'зношанае, парванае адзенне, скамечанае і бруд-нае', 'манаткі' (клец., Нар. лекс.). У выніку кантамінацыі *лахі* і *латы* (гл.).

**Лахтыдрáй** 'свавольнік' (Бяльк.). Складанае слова — ад *лахты* 'адзенне' і *драць* 'рваць' і суф. *-ай* (як *ляжай, валачай, віхляй* і інш.).

**Лахтыр** 'лахман' (глус., Мат. Янк.). Да *лах, лахі* (гл.).

**Лахтытыр** 'абадранец' (Бяльк.). Да *лáхта*₂. Утворана, як і *галытыр* 'голы, бедны' (Бяльк.).

**Лахýдачка** 'паношаная адзежына' (пух., Сл. паўн.-зах.). З **лахýта*. Азванчэнне *-т->-д-* пад уплывам лексемы *лахудра* (гл.). Параўн. укр. *лахýта*, дан. *лахун* 'тс'.

**Лахýдра** 'неахайны, апушчаны, дрэнна апрануты чала-век' (Янк. II, Мат. Маг., Янк. БП; докш., Мат. Янк., КЭС, лаг.; жытк., КЭС; стаўб., Нар. сл., Юрч. Вытв.), 'неахайная, непрычасаная жанчына, дзяўчына' (Шат., Бяльк., Яўс., Мат. Маладз.; драг., Нар. лекс.; трак., беласт., Сл. паўн.-зах.), 'абшарпаны, абадраны' (міёр., З нар. сл.), 'скамечаная, пар-ваная фуражка ці адзенне' (Шат.), *лахýдры* (мн.) 'валасы' (б.-каш., глус., Мат. Маг., Мат. Гом.), *лахýтры* 'скамечаная пасцель' (Сл. паўн.-зах.), *лахудры* 'неахайны, няўклюдны' (глус., Янк. II; хойн., Мат. Гом.), *лахудрысты* 'тс' (Юрч. Вытв.). Рус. валаг., ярасл. *лахýдра* 'абадранец', 'жабрак', 'хваравіты, слабы', 'неахайны, непрыглядны', тул. 'парванае, паношанае адзенне', польск., малапольск., ц.-польск. *łachudra*, кацеўск. *łachuder* 'бедны чалавек у падраным убранні'. Паўн.-слав. словаскладанне *lachu-dъra* з *laxъ*<*лах* (гл.) і *derti*> >*драць* (гл.) 'абадранец' (Слаўскі, 4, 409). Параўн. анала-гічнае ўтварэнне *лахтадрай* (гл.). Менш імаверна ў Абнорска-га (РФВ, 72, 380—382; 73, 347—349) і Фасмера (2, 468) — з *лахон* і *кудри*, а таксама ў Маркава (РФВ, 73, 103) — з мяр-куемага фін. **laahutra* 'няшчасны бадзяга'.

**Лахчавіна**, *лахчывіна* 'лагчына' (шальч., паст., Сл. паўн.-зах.). Да *лагчавіна* (гл.).

**Лахча́к** 'невялікая лагчына' (Сл. паўн.-зах.). Утворана ад *лажок* 'тс' і суф. *-ак*. Да *лог* (гл.).

**Лацве́й,** *латве́й* 'лепш', 'зручней', 'ямчэй' (ТСБМ, Сл. паўн.-зах.). Параўнальная ступень ад *латва́* (гл.).

**Ла́цвіна**$_1$ 'лата' (Нас.), укр. закарп. *ла́тва,* рус. смал., бран., кур., арл. *ла́твина,* палаб. *lotvə,* н.-луж. *łatwa,* славен. *lâtva,* харв. (у Венгрыі) *latva* 'тс'. Прасл. *latva, laty*. Да *лата*$_2$. *-ū*-аснова сведчыць пра вельмі ранняе запазычанне з с.-в.-ням. *latte, late* (Слаўскі, 5, 37—38, а таксама Шустар-Шэўц, 10, 765).

**Ла́цвіна** 'дабро', 'добра' (Бяльк.). Адпрыслоўнае ўтварэнне. Да *латва* (гл.).

**Лаці́на** 'лацінская мова' (Нас.), ст.-бел. *латина, латына* 'тс', 'каталіцызм' (XV ст.), запазычана са ст.-польск. *łacina,* якое з лац. *latina* (Кюнэ, Poln., 73; Булыка, Лекс. запазыч., 187).

**Ла́ціць**$_1$ 'латаць' (талач., ДАБМ). Да *лата*$_1$ 'лапік' (гл.). Суф. *-іць* аформіўся пад уплывам дзеяслова *ладзіць* 'тс'.

**Ла́ціць**$_2$ 'прыбіваць страху латамі', 'прыбіваць латы да крокваў' (Бяльк., Касп., Шат., Сцяшк., Сл. паўн.-зах.; ваўкав., КЭС). Да *лата*$_2$ (гл.).

**Ла́цкан** 'адварот на грудной частцы вопраткі, якая зашпільваецца' (ТСБМ, Грыг.). Запазычана з ням. *Latz* 'лацкан', 'нагруднік' або з памяншальнай формы *Lätzchen* праз рускую мову (Мацэнаўэр, Cizí sl., 235; Фасмер, 2, 468).

**Лацна́ць** 'лаўчыцца' (Юрч.), 'дагаджаць, наравіць' (Бяльк.), смал. *лацнять* 'абмяркоўваць, выбіраць, шукаць самы лепшы спосаб (у якой-небудзь справе)', *лацнацца* 'вадзіць дружбу, сябраваць' (Нас.). Запазычана са ст.-польск. *łacnić* 'аблягчаць', *łacnić się* 'рыхтавацца', 'прыстасоўвацца' < *łacny*. Да *лацно* (гл.).

**Лацно** 'добра, лёгка' (полац., Хрэст. дыял.; паст., лаг., Сл. паўн.-зах.; мёр., Нар. сл.), ст.-бел. *лацно, лацный* (1502 г.) 'лёгкі, зручны, прыхільны' і інш. запазычаны са ст.-польск. *łacno, łacny* (Жураўскі, SlOr, 10(1), 1961, 40; Карскі, Труды, 312; Булыка, Лекс. запазыч., 194) < *latjьnъ* < *latjati,* параўн. славен. *lâčati se,* серб.-харв. *ла̏ћати* 'хапацца, браць' (Слаўскі, 4, 413—414).

**Лацу́бікі** 'прысмакі' (пух., Сл. паўн.-зах.). Утворана па форме, як і *ласунікі* (гл. *ласы*), ад мяркуемага$^{+}$ *ласуба* (<*ласы*). Аб суфіксах *-оба/-уба/-эба* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 119.

**Лацу́й** 'гультай' (люб., Сл. паўн.-зах.). Няясна. Магчыма, ад *лацны,* якое са ст.-польск. *łacny* 'вольны, не заняты'. Пры гэтым *-н-* выпадае. Параўн. драг. *міцны* 'моцны' > *моцу́к*



'велікоднае яйка з моцнай шкарлупінай'. Аб экспрэсіўным суфіксе гл. Сцяцко, Афікс. наз., 134.

**Лацы́га** 'гультай, лайдак' (Марц.). Няясна. Відавочна, з *валацуга* (гл.) у выніку паступовага адпадзення (у якасці пратэтычных) *в-, -а-*. Суфіксальныя варыянты з элементам *-г-* гл. у артыкуле *валацуга*. Не выключана, аднак, утварэнне ад *лата* (гл.) пры дапамозе суф. *-ыга*. Аднак пры гэтым назіраюцца цяжкасці для растлумачэння *-ц-* замест *-т-*.

**Лачачу́ха** (зневаж.) 'мажная жанчына' (ветк., Мат. Гом.). Няясна.

**Лачба́н** 'збан' (Касп.), ушац. *лъчба́н* (груб.) 'галава' (Нар. лекс.). Да *лазба́н* (гл.) > *лажба́н* > *ладжба́н*. Параўн. таксама *лазьбе́нь*.

**Лачча́нка**, *лачча́нне* 'посцілка, палавік, у якім аснова з ніток, а ўток з палосак тканіны, старога матэрыялу' (кам., Сл. паўн.-зах., Шатал.). Да *ла́та*$_1$, *латка* (гл.). Утворана ад *латча́ны* 'вытканы з палосак тканіны' (там жа) і суф. *-ка*.

**Лачу́га** 'хаціна' (паўд.-усх., КЭС), узята з мовы старавераў — з рус. *лачу́га,* якое з цюрк. Параўн. чагат. *alačuγ* 'палатка, шацёр з лямцу, кары, галін', тат., кірг. *alačyk* 'тс' (Радлаў, 1, 362; Фасмер, 2, 468). Сюды ж *лачу́жнік* (лаянк.) 'бяздомнік, які цягаецца па чужых хатах, халупах' (Нас.).

**Лаша́**, *лоша́* 'жарабя да двух год', *лошачок, лашаня́, лошаня* 'тс' (маз., З нар. сл., Шур, дыс., Мат. Гом.), лельч. *лоша́тко* 'жарабя да аднаго года' (ЛАПП), *лаша́к* 'жарэбчык пасля двух год', *лоша́к, лошу́к* 'жарабя, малады конь' (ТС, Шур, дыс.), *лашча́к* 'тс' (Сцяшк.) *лашонак* 'тс' (паўд.-усх., КЭС, Мат. Гом., Бел. казкі), *лаша́тка* 'тс' (жлоб., Нар. словатв.; браг., Мат. Гом.), *лашы́цка* 'жаробка' (Шур, дыс.; в.-дзв., Шатал.), *лошыцка, лошыца* 'маладая кабыла' (Маш.; маз., З нар. сл., ТС), *лашычка* 'тс' (паўд.-усх., КЭС). Укр. *лоша́, лоша́тко, лоша́точко* 'жарабя', *лошук, лошак* 'двух-, трохгадовае пакладанае жарабя', закарп. *лоша* 'тс', н.-валынск. *лошиня́* 'жарабя', *лошу́н* 'конь', *лоші́ця* 'кабыліца'. Рус. валгагр., стаўрап. *лоша́*, пск. *лошага,* паўд. *лошо́нок,* наўг., перм. *лощак* 'тс'. Цюркізм (параўн. чуваш. *лаша* 'конь', туркм. дыял., карач., тат., башк., кумык. *алаша* 'тс', тур. дыял. 'худая каняжына', азерб. 'кляча') запазычаны ў перыяд Кіеўскай Русі або нават раней. Шляхі запазычання ва ўсх.-слав. мовы маглі быць рознымі: у ст.-рус.— з булгарскай мовы (Філін, Происх., 561—562), печанежскай (Дабрадомаў, История лекс., 6). Супраць апошняга гл. Адзінцоў, Этимология-1972, 125. Печанежская мова магла быць крыніцай запазычання ў ст.-бел. (ст.-укр.) мову пасля прыходу печанегаў у IX ст. у міжрэчча Дона і Дуная. Гл. таксама *лошадзь, лашчак.*

***Лашавíк**, *лошовíк* 'грыб пеўнік стракаты, Sarcodon imbricatum' (ТС). Да *лоша, лось* (гл.).

**Лаша́к**, лун. *лоша́к* 'грузд, Lactarius piperatus' (Шатал.). Названа паводле колеру лася. У бел. гаворках існуюць аналагічныя назвы грыбоў, у аснове якіх назвы жывых істот: стаўб. *казлята* 'масляк', кобр. *чóрна свыня́* 'грузд', івац. *ове́чы грыб* 'неядомы', кам. *кобыла*, кобр. *коза́* 'пеўнік жоўты', драг. *мэдвэ́дык* 'пеўнік жоўты', агульнавядомае *лісíчкі* і інш. Параўн. таксама ўздз. *лось* 'пеўнік стракаты' (Жыв. сл., Нар. словатв.). Утворана ад *лос-ь* пры дапамозе суф. *-ак* (гл. *лаша*). Аналагічна літ. *briedžiùkas* 'ласянё' і 'смарчок' (ад *briedis* 'лось').

**Лашака́** 'падскокваючы (пра дзяцей, жывёлу)' (калінк., З нар. сл.). Адназоўнікавае прыслоўе. Да *лаша́* (гл.).

**Лаша́нка** 'радоўка', Tricholoma albabrunneum' (барыс., Нар. словатв., Сл. паўн.-зах., БелСЭ, 9, 31—32). Да *лось, лоша* (гл.). Утворана, як іншыя назвы грыбоў: *ваўнянка, вяснянка, пяшчанка* (Жыв. сл., Нар. словатв.).

**Лашаня́** 'ласяня' (ганц., Сл. паўн.-зах.). Да *лоша* (гл.).

**Лашбякí** 'назва сцяблоў і лісця буракоў' (гродз., ДАБМ) — калі гэта не памылковае напісанне лексемы *ламбякі* (гл.), тады можна меркаваць аб кантамінаванай назве, утворанай ад літ. *láužas* 'сухая галіна' і *lámbas* 'націнна буракоў' (?).

**Лашку́т** 'чалавек, які дзесьці бадзяецца і заўсёды спазняецца' (глус., Янк. Мат.). Да *ла́хаць*1 (гл.). Утворана, як *манькýт: маніць>манько>манькут* (Сцяцко, Афікс. наз., 70). Параўн. таксама драг. *ла́чко* 'тс'.

**Лашт**, *лаштъ, ластъ* 'груз', 'адзінка вагі сыпкіх рэчываў'. Запазычана з с.-в.-ням. *last* праз польск. мову (Жураўскі, Бел. мова, 63; Чартко, Пыт. моваз. і методыка, 118; Булыка, Запазыч., 153).

**Лашта́й** 'гультай' (жлоб., Нар. словатв.). Укр. харк., днепрапятр. *лаштабей* 'тс' (лаянка на дзяцей). Генетычна роднаснае да серб.-харв. *lástan* 'той, хто не хоча працаваць', *ластòвати* 'гультаяваць, жыць прывольна'. Да *lâst* 'гультай, лядашчы'. Паводле RHSJ (5, 908), *-а-* ў гэтым слове стаіць замест старога *-ъ-*. У такім выпадку цяжка растлумачыць вакалізм усх.-слав. лексем. Прыняўшы ж версію пра запазычанне ва ўкраінскую мову (а адтуль — у бел. гаворкі) з серб.-харв. *lâst* (?), можна меркаваць аб самастойным словаўтварэнні пры дапамозе суф. *-ай* (як *гультай*, рус. *слюнтяй, завсегдатай*).

**Лашупа́йка** 'лушпіна' (нараўл., браг., Мат. Гом.). У выніку метатэзы з *шалупайкі* (гл.).

**Лашча́віна** 'лагчына' (Касп.; брасл., Сл. паўн.-зах.). Укр. *лощовина* 'тс'. Утворана ад *лажок* (<*лог*) і суф. *-авін-а* (як *кругловіна, чыставіна*). Гл. Сцяцко, Афікс. наз., 119.



**Лашчаíна** 'месца, дзе раней цякла рака', 'рэчышча' (Сцяшк.), лун. *лошчавíна* 'старое рэчышча' (Шатал.). Утворана ад *лашчы́на (лажчы́на)* (гл.) і суф. *-(а)іна* на ўзор *ручаіна*.

**Лашча́к**1 'ласкавае жарабя, якое ідзе да рук' (КЭС, лаг.). Узнікла ў выніку кантамінацыі *лашак* (гл. *лаша*) і *лашчыць* (гл.). Не выключана магчымасць уплыву народнай этымалогіі лексемы *лончак* (гл.) 'жарабя, якое нарадзілася ў мінулым годзе'<*лоні*<прасл. *ol-ni*.

**Лашча́к**2 'лагчына' (брасл., Сл. паўн.-зах.). Да *лог* (гл.). Утворана ад *лажок* (гл.) і суф. *-(j)акъ*.

**Лашчо́нец**, *лашчо́ніц* 'падхалім, падліза' (Бяльк.). Утворана ад *лашчыць* (гл.). Дзеяслоў *лашчоніцца* 'лашчыцца (пра падхаліма)' мае адыменнае ўтварэнне. Аб суфіксе *-онец* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 26—27.

**Лашчы́на** 'нізкае месца на полі', 'нізіна' (Выг., Сцяшк., Бяльк., Касп.; паўд.-усх., КЭС; віл. іўеў., навагр., круп., Сл. паўн.-зах.), <*лажчына*<*лажок*+*ін-а*. Да *лог* (гл.). Інакш Куркіна (Этымалогія-1974, 50), якая адносіць рус. *лощина* 'тс' да этымалагічнага гнязда *lesk-/losk-*.

**Ла́шчыць**1 'песціць' (ТСБМ, Сл. паўн.-зах.), 'прылашчваць, рабіць ласкавым, пяшчотным' (Нас., Касп.), 'гладзіць жывёлу, забаўляцца з ёю' (КЭС, лаг.), *лашчыцца* 'выяўляць ласку да каго-небудзь', 'паддобрывацца, падлізвацца' (ТСБМ, Янк. I, Гарэц., Нас., Бяльк., Касп., Шат., Яруш., КЭС, лаг.) 'мілавацца, галубіцца' (Сл. паўн.-зах.), *ла́шчыньня* 'пялеганне' (Юрч. Вытв.). Укр. *лащити, лащитися* і *ластитися*, рус. беламор. *лащить* 'улашчваць', смал. 'лашчыць', валаг., беламор., пск., цвяр., смал. *лащиться* 'лашчыцца', польск. *łaszczyć się* 'гнацца за чым-небудзь', 'кваніцца', 'лашчыцца'. Паўн.-слав. *laščiti/laščiti sę* 'лашчыцца', 'ласавацца'. Утворана ад *laska*>*ласка* (гл.).

**Ла́шчыць**2, *ла́шчыты* 'прапітваць аснову шліхтой (Уладз.), *ла́шчэння, лашчэ́нне* 'насычэнне пражы растворам клейкай вадкасці, каб ніткі былі мацнейшыя і больш гладкія пры тканні' (Уладз., Сцяшк., Інстр. 2). Запазычана з рус. *лощить* 'выгладжваць'. Зах.-палес. *ла́шчыты* мае націск на *ла-*, відаць, пад уплывам *ла́шчыць*1 (рабіць паверхню гладкай, «ласкавай»).

**Лашчы́ць** 'вашчыць' (паст., ганц., Сл. паўн.-зах.). З *вашчыць*<*воск* (гл.) пад уплывам лексемы *ла́шчыць*2, рус. *лощить*.

**Лашына**, ст.-бел. *лошина, лошына* 'гатунак саланіны' (з 1530 г.). Запазычана з літ. *lašiniai* 'тс' (Непакупны, Связи, 178).

**Лашыца**, *лошыца* 'ласіха' (Дразд.). Да *лоша* (гл.).

**Лáяць**, *лáіць* 'гаўкаць', 'сварыцца, зневажаць, крычаць на каго-небудзь абразлівымі словамі', 'ганьбіць, бэсціць', 'дакараць, рабіць вымову' (ТСБМ, Нас., Сцяшк., Гарэц., Бяльк., Касп., Шат.; горац.-маг., паўн.-усх., КЭС, Сл. паўн.-зах.), *лаяцца, лайіцца* 'адзін аднаго зневажаць брыдкімі словамі' (КЭС, лаг.), 'сварыцца' (Нас., Бяльк., Касп., Шат., Сл. паўн.-зах.), 'скардзіцца, наракаць' (Сл. паўн.-зах.). Укр. *лаяти* 'сварыцца, ганіць', але *лáя, лая́* 'гайня сабак', рус. *лаять* 'брахаць, гаўкаць', 'выць (пра ваўка)', 'квакаць' (аб жабе), ст.-рус. *лаяти* 'гаўкаць', 'сварыцца', 'злавацца, юшыцца'. Польск. *lajać* 'сварыцца, праклінаць', паўн.-каш. *łajac* 'гаўкаць', славін. *łai̯ac* 'сварыцца', 'гаўкаць', 'балбатаць', чэш. *láti* 'сварыцца', (а значэнне 'гаўкаць' запазычана паэтамі з рус. мовы), н.-луж. *łajaś* 'гаўкаць', 'сварыцца', славен. *lájati*, серб.-харв. *лȁјати,* макед. *лаам,* балг. *лая* 'гаўкаць', 'сварыцца, ганіць', 'пляткаваць', ст.-слав. **лаıати** 'гаўкаць', 'ганіць, знеслаўляць'. Прасл. *lajati* генетычна суадносіцца з літ. *lóti* 'гаўкаць', лат. *lãt* 'тс', ст.-інд. *rā́yti* 'гаўкае', асец. *ræin*, ст.-грэч. λαίειν, лац. *lātrāre* 'гаўкаць', алб. *leh* 'гаўкаю', ірл. *líim* 'абвінавачваю', арм. *lam* 'плачу', гоц. *lailōun* 'яны ганьбяць' (Фасмер, 2, 468—469; Слаўскі, 4, 432—433 з літаратурай; Шустэр-Шэўц, 10, 759—760). Махэк₂ (321) адрознівае два дзеясловы *láti*: 'сварыць', якое ён суадносіць з лат. *rãt* 'ганіць', і 'гаўкаць', якое з прасл. *lajati*. Скок (261—262) і Жарскі (RKJWroc., 9, 185) прасл. *lajati* выводзяць з і.-е. *la* — анаматапеічнага гуку для выражэння паняцця 'гаўканне сабакі'. Сюды ж *лаянка* 'сварка' (Гарэц., Касп., Бяльк., Шат., ТСБМ) — бел.-укр. ізалекса<*лáены* 'ганебны' (Нас.). Польск. даўн. *łajanka* 'лаянка' з бел. мовы (гл. Слаўскі, 4, 434).

**Лганец** 'ястрабок парасоністы, Hieracium umbellatum L.' (маг., Кіс.). Відавочна, да *ілгáць* (гл.), параўн. *манец* 'тс' (там жа). Гл. таксама *лагунец.*

**Лгаць**, *лгаці, лгаті* 'хлусіць', 'складаць, выдумляць', *лгар, лгач, лгун* 'хлус', *лганне* 'хлусня' (ТСБМ, Яруш., Нас., Сл. паўн.-зах., КЭС, Дунін-Марцінкевіч). Да *ілгáць* (гл.).

**Ле**₁ 'каля, ля' (лях., Сл. паўн.-зах., Мат. Гом.). Скарочаная форма з *кале,* параўн. навагр. *кале* (Кліх) — паўн.-прасл. *kolě* (форма м. скл.), параўн. польск. *kole, каш. kole, käle, kᵘole* і інш., чэш. *kole*. Копечны (ESSJ, 1, 89) мяркуе, што форма *kolě* не абавязкова з'яўляецца месным склонам, а гэта можа быць замена канцавой галоснай у другасных прыназоўнікаў, параўн. *podlě / podli / podle / podla* і г. д.

**Ле**₂ 'для' (лельч., Мат. Гом.; кам., стол., драг., Сл. паўн.-зах.) — у выніку выпадзення *д-* перад *л* (Карскі, 1, 352) з *дле,* якое з'яўляецца другасным прыназоўнікам (ужываецца з р. скл.). З *для*<прасл. *dьlja*. Канцавое *-е* магло быць вынікам рэдукцыі як ненаціскное або паводле аналогіі да *po-dlě* (Карскі, 2—3, 462). Да *для* (гл.). Параўн. таксама *лі* (гл.).

**Лёбахі** 'вантробы' (карэліц., Сцяшк. Сл.). У выніку дысіміляцыі з *бэбахі* (гл.). Магчыма, таксама і кантамінацыя *лелех* 'жывот' (маст., Сцяшк. Сл.) і *бэбахі.*

**Лёбедзь**, *лёбядзь, лёбяць* 'птушка з сямейства качкавых, Cygnus musicus Bechst., Cugnus olor J. F. Gmel.' (Нас., Касп., Сцяшк., Яруш.; шчуч., іўеў., Сл. паўн.-зах.), *лёбэдь* 'тс' (Бес.), 'пародзісты свойскі гусь' (лун., жытк., петрык., мазыр., ЛАПП), 'дружа, сябар', *лябёдзька* 'галубок', *лябёдзюхна* 'галубок, галубка' (Нас.). Укр. *лéбедь, лебідь, лебедéць*, рус. *лебедь*, ст.-рус. *лебедь*, польск. *łabędź*, славін. *łabąc, łabą̄з, u̯abу̇ńc*, сілезск. *u̯abûnt, łabęt*, чэш. *labuť*, мар. *labudek*, лаш. *labuďa*, апаўск. *labudź*, славац. *labuť*, *labud'*, *labuda*, славен. *labód* (*lobod, labud, lobot*), серб.-харв. *лȁбуд, лȁбут, лȅбут*, кайк. *лабат*, макед. *лабед*, балг. *лáбед, лéмбед, лúбед, лóбад, лóбод* 'тс'. Прасл.: зах. і паўд. *ólbędь (olbǫtь)*, паўд. *olbędь*, паўд. і ўсх. *elbedь* (Слаўскі, 4, 400). Для апошняй формы дакладнымі адпаведнікамі з'яўляюцца ст.-в.-ням. *albiз, elbiз* 'тс', ст.-ісл. *ǫlptr* (мн. л. *elptr, alptir*), для форм на *-ǫdь* — балт. формы на *-andis*. Белы колер апярэння паслужыў для суаднясення і.-е. праформы **albho-* з лац. *albus* 'белы', ст.-грэч. ἀλφός 'белая пляма, высыпка на целе' (супраць чаго Махэк₂, 316), з літ. *bálti* 'бялець', ад якога ўтворана літ. *balánda* 'лебяда' і *balañdis* 'голуб'. Генетычна роднаснае з *лебяда*₁ (гл.). Падрабязна этымалагічную літаратуру гл. Фасмер, 2, 470—471; Слаўскі, 4, 399—401; Скок, 2, 256; Бязлай, 2, 117).

**Лёбела** 'прынада для ракаў' (рагач., Рам. 8), дзярж. *lebidło* 'тс' (Карловіч, 3). Да *лібіла* (гл.).

**Лебядá**₁, *лябядá, лібідá* 'расліна лебяда звычайная, Chenopodium album L.' — пустазелле з лісцем, якое звычайна пакрыта мучністым налётам' (Бяльк., Касп., Сцяшк., Яруш., ТСБМ, Сл. паўн.-зах., Кіс.), *лободá* (беласт., Сл. паўн.-зах., Бес.), *лабадá* (Мат. Гом.; паўн.-зах., КЭС), *свіная лабада* (гом., Кіс.), *белая лебяда* 'тс' (маг., Кіс.), *лібідзінá* 'адна сцябліна лебяды' (міёр., Нар. словатв., Юрч. Вытв.). Укр. *(дика, собача) лобода*, рус. *лобода, лебеда*, польск. *lebioda*, в.-луж. *łoboda*, чэш. *lebeda*, славац. *loboda*, серб.-харв. *лобȍда*, чак. *лобȍда, лобȍда,* харв. кайк. *lobuda*, балг. *лобода* 'лебяда', ст.-слав.

**лобода** 'лябеднік'. Не зусім яснае слова. Першапачаткова *elb-odá*, якое ў выніку асіміляцыі дало *lebeda* і *loboda*, але тэарэтычна магчымым з'яўляецца і *leboda* (Слаўскі, 4, 90). Фасмер (2, 469) з формы *leboda* выводзіць *lebeda* (в. скл. *lobódǫ*); з аношняга ў некаторых гаворках адбылося выраўноўванне. Такім чынам, можна прыняць прасл. *leb-/ lob-/ḷb*, якое хутчэй за ўсё з'яўляецца родным з лац. *albus*, умбр. *alfu* 'белы, светлы, ясны', ст.-грэч. ἄλφός 'белая высыпка на целе', познягрэч. ἀλωφός· λευκός 'тс', ἀλφῐτον 'ячменная мука, крупа', алб. *elp* 'ячмень' — так названа расліна паводле белай афарбоўкі лістоў яе пылком. Падобным чынам утвораны літ. *balánda*, лат. *baluôdis* 'лябеднік', якія таксама суадносяцца з *báltas* 'белы' (Фрэнкель, ZfslPh, 20, 59). Махэк$_2$ (323) для слав., балт. і н.-в.-ням. *Melde* (<**belde*) выводзіць праеўрапейскую форму **bheleda/*bholoda*. Больш падрабязна этымалагічныя версіі гл. апрача Фасмера (2, 469—470), Слаўскага (4, 89—91), Махэка$_2$ (323) яшчэ ў Скока (2, 312), Бязлая (2, 147), Шустэра-Шэўца (769—770). Генетычна роднаснае з *лебедзь* (гл.).

**Лебяда́**$_2$ 'лябеднік, Atriplex hortensis L.' (Кл.), *лабада́*, *лабоднік*, *лабадоўнік* 'тс' (паўн.-зах., КЭС). Укр. *лобода*, рус. кур. *лобода*, ярасл. *лобуда*, польск. *łoboda ogrodowa*, н.-луж. *łoboda* (*hoboda, oboda, obeda, loboda, lobedu, łobyda*), в.-луж. *łoboda*, чэш. *lebeda*, ходск. *lebada*, славац. *lebeda*, славен. *lóboda* (прэкмурск. *lobóda*), *lebéda*, *leboda*, серб.-харв. *ло̀бода* (космецк. *лобо̏да*), кайк. *lobuda*, макед. *лобода*, *лобуда*, (*питома*) *лобода*, балг. *лобода*, *лобуда*, *лобда*, *лабда*, ст.-слав. **лобода**. Да *лебяда*$_1$ (гл.).

**Лебядзіць** 'ліслівіць' (чэрв., Жд. 2). Да *лебязіць* 'тс' з заменай *з>дз*, як у слове *дзвон* (<*zvonъ*)<польск. *dzwon*, але ў данай лексеме маецца ўплыў не польск. мовы, а слова *лебедзь*: 'хвалячы, называць лебеддзю'>'ліслівіць'.

***Лебядніцы**, *лебэдніцы* 'летнія раі пчол' (ельск., Анох.). Да *лебяда*$_{1,2}$ (гл.). Названы так таму, што ў другой палавіне лета ў асноўным меданосныя краскі ўжо адцвітаюць, і меншая колькасць нектару асацыіруецца з беднасцю харчавання (з «хлебам з лебяды»).

**Лебязіць** 'ліслівіць' (Бяльк.). Укр. *лебезувати* 'заляцацца', 'малоць языком', *лебедіти* 'балбатаць', 'спяваць', 'канькаць', рус. *лебези́ть* 'выдыгаць', 'падлабуньвацца', наўг. 'падманваць' (*лебе́зить*), 'балбатаць, плявузгаць', цвяр. 'лапатаць, гаварыць хутка', смал. *лебезила* 'ліслівец', кастр., наўг., перм. *лебеза* 'тс' — другая ступень чаргавання галоснай асновы: рус. пск., перм., валаг. *лабза*, *лабза* і *лобза* 'ліслівец', валаг., цвяр., уладз., тамб. *ла́бзи́ть* 'удыгаць, дагаджаць, падлашч-



вацца', *лобза́ть* 'цалаваць', славен. *labǫ̑zati* 'балбатаць, малоць' і да таго надобныя экспрэсіўныя словы ў іншых слав. мовах (гл. Слаўскі, 4, 15; Фасмер, 2, 471; Бязлай, 2, 118) з асновай **lab-/*labh-/*leb-* (Покарны, 651, 655—657).

**Леварт**, ст.-бел. *левартъ* 'пантэра', 'герб са львом' (XV ст.) запазычана са ст.-польск. *lewart, leward* 'герб са львом' (Карскі, Труды, 312), якое з чэш. *levhart*<с.-в.-ням. *lewe-hart*<лац. *leopardus* (у сярэдневякоўе лічылася, што леапард з'яўляецца мяшанцам льва і пантэры' (Махэк$_2$, 328).

**Левату́ва** 'клісцір' (Нас.), 'клізма' (бяроз., Выг.). Запазычана з польск. *lewatywa* 'тс' (пачатак XIX ст.), якое было ўтворана паводле франц. *lavement* 'тс', англ. *lavement* 'упрысканне'<лац. *lavāre* 'мыць', с.-лац. *lavativus* 'для мыцця', *lavātiō* 'мыццё, паласканне'. *Ле-* замест *ла-* ў выніку ад'ідэацыі лац. *levātiō* 'аблягчэнне, палягчэнне' (Слаўскі, 4, 188).

**Левізава́ць** 'праводзіць праверку па маёнтку'. Сапсаванае народнае з *рэвізаваць*. З *левізаваць* утворана *левізацыя* 'рэвізія' (Насовіч, 266). Аналагічна *левізор*<*рэвізор*. Таксама і ўкр. *лівізор* 'тс'.

**Левінец** 'кружны шлях' (Федар. Дад.). Да *левы*<*lěvъ* 'крывы', г. зн. размешчаны ў бок ад прамой дарогі. Утворана пры дапамозе суф. *-інец*, характэрнага для зах.-слав. моў. На бел. моўнай тэрыторыі суфікс пашыран у зах. гаворках.

**Левуша́к** 'ляўша' (смарг., Сл. паўн.-зах.). Да *ляву́ш* 'тс' (гл.).

**Ле́вы**, *лёвы, ле́вый, лівы(й)* 'размешчаны з таго боку цела, дзе знаходзіцца сэрца', 'адваротны бок тканіны, адзежыны', 'радыкальны', 'рэвалюцыйны' (ТСБМ, КЭС, Сл. паўн.-зах.). Укр. *лівий*, рус. *левый*, польск. *lewy*, палаб. *levĕ* (ж. р.), н.-луж. *lěwy, liewi*, в.-луж. *lěwy, liwy*, чэш. *levý*, славац. *l'avý*, славен. *lȩ̑v, lȩ̑vi*, серб.-харв. *лȇви*, чак. *ле́ви*, *lȉjevi*, макед. *лев, l'av, l'äf*, балг. *ляв*, ст.-слав. **лѣвъ**. Прасл. *lěvъ* 'левы', дакладнымі адпаведнікамі якога з'яўляюцца лац. *laevus* 'тс', 'пахілены да зямлі, закрыўлены', ст.-грэч. λαιός (<λαιϝός), літ. *išlaivóti* 'віляць'. І.-е. **laiu̯o* 'крывы, загнуты'<**lei-* 'звіваць'. Параўн., аднак, славен. *kriva roka* 'левая рука', чак. *кри̑в*, польск. *krzywy* 'левы'<прасл. *krivъ* 'крывы', 'левы' ў процілегласць прасл. *pravъ* 'прамы', 'правы'. Пазней пад італійскім уплывам значэнне 'левы' замацавалася за лексемай *lěvъ* амаль паўсюдна на слав. тэрыторыі (аб гэтым гл. Мартынаў, Балто-славяно-италийские изоглосы: Лексическая синонимия, Мн., 1978, 26) (Слаўскі, 4, 190—191; Фасмер, 2, 473; Бязлай, 137; Скок, 2, 299, Шустар-Шэўц, 834—835 і інш.; там жа і літаратура). Сюды ж *левару́кі* 'ляўша' (чэрв., Жд. 2; карэліц., Сцяшк. Сл.) — відаць, вельмі старое словаскладанне. Параўн. польск. *leworęki*, рус.

18. Зак. 3479

*леворукий,* чэш. *levoruký,* славац. *ľavoruký,* серб.-харв. *левòрук.*

**Лéга**$_1$ 'сцёс унізе бервяна, для таго каб яно добра ляжала' (Інстр. 2), каш. *lèga* 'рад снапоў у застаронку', славен. *léga* 'ляжанне', 'палажэнне', 'слой, рад', 'бэлька, кансоль'. Параўн. таксама ст.-польск. *leg* 'месца для ляжання', каш. *lega* 'логвішча', *lèga* 'месца, дзе палегла збожжа', серб.-харв. *лӥјег, лêг* 'лежыва'. Прасл. *leg-a<leg-ti, lěgati* 'легчы, лажыцца' (Слаўскі, 4, 109). Параўн. таксама *лёжка*$_2$, *лежа* (гл.).

**Лéга**$_2$ 'часовая падкладка, апора пад што-небудзь у форме нятоўстага бервяна, жэрдкі, лага'. Узнікла ў выніку кантамінацыі лексем *лага* і *легар.*

**Легавáцца** 'качацца' (зэльв., Сцяшк. Сл.), укр. *ляговитися* 'лажыцца', ст.-рус. наўг. *лѣгивати* — мнагакратны дзеяслоў да *лѣгати* 'выконваць палавы акт', польск. *legiwać,* паўд. *legować* 'часта ляжаць, лажыцца', н.-луж. *zlagowaś,* в.-луж. *zlěhować* 'класці, накладваць', чэш. *polehovati* 'класціся, прылягаць'. Паўн.-прасл. *lěg-ovati sę* 'лажыцца (неаднаразова)' — ітэратыўны адыменны дзеяслоў, утвораны пры дапамозе суф. *-ovati* ад асновы *lěg-/log-/lag-.* Семантыка бел. лексемы развілася ад '(неаднаразова) лажыцца' праз 'вылежвацца' да 'качацца'. Да *лéгчы* (гл.).

**Лéгаль** 'лежань, абібок' (мін., Шн. 2; акц., Мат. Гом.). Генетычна роднаснае з харв. задарск. *legalj* 'казадой, ляляк'. Прасл. *lěgal'ь<lěgati<legti>легчы* (гл.). Аб суфіксе *-аль* гл. Слаўскі, SP, 1, 104—105, 107—108 і Сцяцко, Афікс. наз., 25—26.

**Леганéўе,** *ліганéўя* 'лёгкія' (КЭС, лаг.). Утворана ад **легань* (параўн. укр. *легéня* 'лёгкае') з тым жа суфіксам, што і *печань* (гл.). Праўда, суфікс мог быць і *-ень,* у якім *-е-* ў выніку распадаблення перайшло ў *-а-.*

**Лéгар,** *легáры, легéр, легáр, лéгэр, лéгар, лігáры* 'падваліны' (Сцяшк., КЭС, лаг., Шушк.), 'бервяно, на якім спускаюць ці ўсцягваюць гонтавы дах' (Янк. I), 'адна з плах для падкладкі пад наземны вулей-калоду' (Анох.), 'вага, рычаг для падымання бярвенняў ці інш.' (Янк; калінк., Сл. паўн.-зах.). Укр. *лéгарь, лíгарь* 'падваліны, жардзіны пад кастром дроў', наддністр. *лігар* 'падваліны пад мастом', житомірск. *легарі* 'плахі ў подзе жорнаў', рус. зах. *легарь* 'падкладка пад бочку'. Запазычана з с.-в.-ням. *lëger; läger, leger* (XVI ст.), н.-ням. *Lager* 'падкладка пад цяжкія прадметы'<*liegen* 'ляжаць', праз польск. мову (параўн. польск *legar* 'надваліна', 'падклад пад груз' (Слаўскі, 4, 112)). Форма з *лі-* — вынік народнай этымалогіі (пад уплывам формы *ліг* '(ён) лёг') (Дзендзялеўскі, SSlav., 12, 1976, 286).



**Легéнда** 'народнае паданне аб якой-небудзь падзеі, асобе, якое выдаецца і ўспрымаецца як імавернае', 'вымысел, штонебудзь неверагоднае', 'сукупнасць умоўных знакаў на карце, плане', 'надпіс на манеце', ст.-бел. *леенда* 'апавяданне' (1646 г.), смал. *легендить* 'малоць лухту, бязглуздзіцу'. Запазычана са ст.-польск. мовы (Булыка, Запазыч., 186) або з с.-лац. *legenda* 'жыцці святых, апавяданне пра жыццё святога'<<*legendus* 'тое, што трэба чытаць (штодзённа) у царкве (касцёле)'<*legere* 'чытаць' (Слаўскі, 4, 114—115; Фасмер, 2, 473 з літаратурай).

**Легкабы́т** 'гультай' (добр., Мат. Гом.). Складаны назоўнік, утвораны ад прыслоўя *лёгка* і асновы дзеяслова *быць* (>*быт-*). Параўн. аналагічна бел. *легкадум, ветрагон,* рус. перм. *легкостай,* а таксама блізкае краснадар. *легкобытник* 'гультай, дармаед'.

**Легкавíк** 'легкавы аўтамабіль' (ТСБМ, Інстр. I; раг., Мат. Гом.) — у выніку семантычнай кандэнсацыі, як *рухавік* і інш. Параўн. таксама рус. маск. *легковик* 'жвавы, хуткі, спрытны ў рухах'.

**Легкавíчка** 'легкавы аўтамабіль' (раг., Мат. Гом.) — у выніку кантамінацыі *легкавік* і *легкавушка* (гл.).

**Легкавýшка,** *лігкавýшка* 'легкавы аўтамабіль' (ТСБМ, Сцяшк.; светлаг., карм., Мат. Гом.). Утворана ад экспрэсіўнага скандэнсаванага *легкавуха,* параўн. в.-дзв. *лехкавуха* 'тс'.

**Легцавáя** 'легкавы аўтамабіль' (Сцяшк.) — гіперправільная (на польскі манер) форма лексемы *легкавая (машына),* параўн. польск. *lekce — lekko.*

**Лéгчы,** *лéгшы, лéгці, лéхчы,* стол. *лігты,* драг. *лéжтэ* 'легчы' (ТСБМ, Сл. паўн.-зах., Нас., Сцяшк.; Лучыц-Федарэц, Вярэніч, вусн. паведамл.), 'настаць' (віл., Сл. паўн.-зах.). Укр. *лягти, лягчи,* рус. *лечь,* паўн. *легчи,* якут. *легти́,* ст.-рус. *лечи, лещи,* польск. *lec,* чэш. *lehl* 'лёг', мар. *l'éži* 'лягу', ст.-чэш. *léci,* славен. *léči,* серб.-харв. *лѐħи,* ст.-слав. **лешти**. Прасл. *leg-ti* — першасны інхаатыў ад *ležati* 'ляжаць', і.-е. **legh-* 'легчы, ляжаць' (Слаўскі, 4, 92—93; Фасмер, 2, 490). Драг. *лéжтэ* мае *-ж-* замест *-г-* пад уплывам *лыжéтэ* 'ляжаць'.

**Легчыня́,** *лігчыня́* 'лёгкасць' (КЭС, лаг.) — як і іншыя nomina abstracta qualitativa з націскам на апошнім складзе, утворана ад прыметніка пры дапамозе суф. *-іня<in-ja* (гл. Сцяцко, Афікс. наз., 109).

**Лéгчыць** 'гукаць (аб свінні)' (Касп.). Да *лягчыць* (гл.).

**Лéда** (часціца) '-небудзь' (Нас.), іван. *ляда* 'абы' (ЖСт., 2, 146), *леда* 'ледзь' (Сцяшк. Сл.). Ст.-бел. *леда* 'абы' (XVI ст.). Запазычана са ст.-польск. *leda* (XVI ст., а пазней больш шыро-

ка *lada*) 'ледзь-ледзь, -небудзь'. Параўн. яшчэ ст.-чэш. *leda* 'абы, каб толькі', чэш. *leda*, славац. *leda* 'ледзьве'. Укр. *леда* '(хто) б ні, усялякі', 'ледзь', бук. 'ледзь-ледзь' — з польск. мовы. Паўн.-слав. *lěda/leda*, якое з *lě(le)* 'толькі, але, ледзьве' і *da* (сцвярджальная, узмацняльная часціца) (Брукнер, 289; Махэк$_2$, 324; Слаўскі, 4, 21—22; Баўэр, Stud. a práce lingv., 4, 1960, 304; ESSJ SG, 2, 408—409; Булыка, Запазыч., 186).

**Ледаві́к** 'ляднік' (ТСБМ) — калька з рус. мовы (з бел. афіксам) — гл. Крукоўскі, Уплыў, 118.

**Ле́дач** 'гультай' (Сцяшк.). Як і ўкр. *ле̂дач*, а таксама ўкр. *ле́да́й, леда́ка, ледацюга*) утвораны ад +*ледаякі* (параўн. ст.-бел. *ледаякий*) пры дапамозе экспрэсіўных суфіксаў. Да *ле́да* (гл.).

**Ледая́к** 'нязручна, кепска' (гродз., Сл. паўн.-зах.). Утворана, відавочна, з **ледаякі* (параўн. чэш. *ledajaký* 'які-небудзь'). Да *леда* і *як* (гл.).

**Ле́два**, *ле́дво, ле́двя, ле́дзьве, ле́дзьвя, ле́дзьві*, віц., лях. *ледзва* 'насілу, з вялікімі цяжкасцямі', 'амаль, чуць не', 'ледзь' (Нас., ТСБМ, Гарэц., Шат., Бяльк., Касп., Сцяшк., Яруш., Сл. паўн.-зах.; лях., Янк. Мат.; уздз., Жд. 2; калінк., З нар. сл.; паўд.-усх., КЭС). Укр. *ледве, ледві, ледво, ледви, ледве-ледве*, ст.-укр. і *едва*, рус. смал. *ледва* пры паўсюдна пашыраным *едва*, паўн. *одва*, ст.-рус. *одъва//одва*, польск. *ledwo, ledwie*, але ў XV ст. ужывалася значна часцей з пачатковым *j-* (чым з *l-*): *jedwo, jedwa, jedwe*, каш. *ledwie, ledwŏ*, н.-луж. *lědba, lěbda, lebda, lědom, lědym*, в.-луж. *lědy, lědma* (<**lědva*), *ledom*, чэш. *ledva*, мар. *ledvé*, ляш. *ledvem*, ст.-чэш. *ledva, ledvy*, а таксама ст.-чэш. і дыял. *jedva, jedvy*, славац. *ledva, ledvaj, ledvoj, ledvy*, усх. *ľedvo*, славен. *jèdva* і *odvaj*, серб.-харв. *jѐдва, jедва̏, jедвај*, макед. *одвај, едвај*, балг. *едва(м), одвай*, ст.-слав. **кдва/кдва**. Прасл. *jedъva*. Другаснасць *le-* ў параўнанні з *je-* сцвярджаюць Бернекер, 452; Брукнер, 293; Копечны ESSJ SG, 2, 246—247. Звычайна этымолагі ў лексеме *jedъva* бачаць два элементы: першы атаясамліваецца з *jed-ьnъ*; другі (*-ъva*) звязваецца генетычна з літ. *vōs* 'ледзь' (<і.-е. **u̯as*, параўн. са ст.-інд. узмацняльнай часціцай *vā́* і *vā* 'або'). Гл. яшчэ Фасмер, 2, 9; Скок, 1. 769; Махэк$_2$, 220; Слаўскі, 4, 105—108; Шустар-Шэўц, 820). Кюнэ (71) выводзіць бел. *ледва (-е, -і)* з польск. *ledwie, ledwo*.

**Ле́дво-ніле́дво** 'з вялікай цяжкасцю', 'нарэшце-такі' (шчуч., Нар. лекс.), калінк. *ледзьві-неледзьві* 'ледзь-ледзь' (З нар. сл.), маг. *ледва-няледва* (КЭС), укр. *ледві(о)-не-ледві(о)*, рус. арх. *едва не едва* 'тс'. Па форме суадносяцца з літ. *vosnevōs* 'ледзь-ледзь, з цяжкасцю' (:літ. *vōs* 'ледзь').



**Ледзь** 'нямнога' (ТСБМ, Гарэц., Бяльк., Касп., Шат., Яруш.), стол., драг. *лэдь* (Нар. лекс.), *ледзь* 'насілу, з вялікімі цяжкасцямі; ледзьве' (ТСБМ, КЭС, лаг.), *ледзь-ледзь* 'зусім трошкі' (Шат.). Укр. *ледь* 'ледзь', 'ледзь-ледзь'. Бел.-укр. ізалекса, якая ўзнікла ў выніку скарачэння *ледзьве* (<*ledъvo*), пасля чаго з'явілася мяккае *д>дз'* (В. Мартынаў, вусн. паведамл.).

**Ле́дзьбы** 'ледзьве' (чэрв.), *лэ́дьбо* 'тс' (драг., Сл. паўн.-зах.) — у выніку распадабнення з *ледзьвы, лэдьво* (гл.).

***Ле́дзьбашто**, драг. *лэ́дьбошчо* 'ледзьве' (Сл. паўн.-зах.). З *лэ́дьбо* (гл. папярэдняе слова), дапоўненага часціцай *шчо*.

***Ледзіна́**, міёр. *лідзіна́* 'льдзіна' (Нар. словатв.). Да *лёд* (гл.).

**Ле́ецца** 'ліцца' (пух., З нар. сл.), укр. *леліти* 'ціха цячы, ліцца', 'струменіцца пераліваючыся'. Да *ліць* (гл.), якому ў і.-е. адпавядае корань **lei-/*lēi*>прасл. *liti, lьjǫ//lьjati, lějǫ*. Бел. форма інфінітыва па аналогіі з 1-ай ас. адз. л. атрымала падаўжэнне асновы *lьj->lěj->леяцца*, якое паводле бел. арфаграфіі перадаецца як *леецца*. Ва ўкр. дзеяслове *-л-* замест *-й-* параўн. таксама чарніг. *леля́ — ле́я*. Магчыма, што *леліти* ўтворана ад *леля* 'праліўны дождж'.

**Ле́жа** 'ляжанне льну' (карэліц., Сл. паўн.-зах.), пін. *лэ́жа* 'месца, на якім вылежваецца лён' (Нар. лекс.). Укр. *лежа* 'ляжанне', ц.-пал. *л'е́жа* 'ляжачае гнілое дрэва' (ЛАПП), ст.-укр. 'палатка', польск. *leża* 'кватэры для войска', 'месца 'ляжанне',спання', 'лежыва', славен. *lẹ́ža* 'ляжанне', 'лежыва жывёл'. Прасл. *legja*. Утворана ад *leg-* пры дапамозе суф. *-ja*. Да *ляжаць* (гл.).

**Лежабо́к** 'гультай, абібок' (Янк. II), міёр. *ліжабок* 'тс' (З нар. сл.). Пранікла з рус. мовы, дзе маецца цэлае гняздо: *лежебок(а), лежебокий, лежебочина, лежебочить* і інш. (гл. СНРГ, 16, 331—332).

**Ле́жавы**, лельч. *ле́жэвы, ле́жэлы* 'залежны' (Нар. лекс.). Прыметнік *лежэвы* з'яўляецца рэгіянальным утварэннем ад назоўніка *лежа*<прасл. *legja* (націск у прыметніка на ўтваральнай аснове). Пад уплывам гэтага прыметніка аформлена лексема *ле́жэлы* (<*ляжа́лы*, параўн. польск. *leżały* 'які доўга ляжыць'). Рэгулярным з'яўляецца дзеепрыметнік *лежаны* 'вылежаны' (навагр., З нар. сл.; шчуч., Сцяшк. Сл.), 'ляжалы' (ветк., рэч., Мат. Гом.). Да *ляжа́ць* (гл.).

**Ле́жань**, *ле́жэнь, ле́жынь, лэ́жэнь* 'сусветны гультай, абібок; нярупны, які любіць паспаць' (КЭС, лаг., Арх. Гом., Мат. Гом., Бяльк., ТСБМ, Сл. паўн.-зах.; паўд.-усх., КЭС), 'галец, Nemachilus barbatulus L.' (басейн р. Сож, Жук.), 'ляжачае гнілое дрэва' (жытк., лоеў., ЛАПП), 'ляжачы вулей-калода'

(слаўг., Нар. сл.; паст., в.-дзв., Сл. паўн.-зах.; паст., З нар. сл.), 'птушка ляляк, Caprimulgus europeus' (Маш., Анік., Дэмб. 1, Фед.-Долб. Птицы; паўн.-зах., КЭС; маг., Працы, 6; Нар. сл.; лоеў., калінк., Мат. Гом.), 'птушка' — *...ні гнязда не ўе, нічога, а лежыць і лежыць* (Ян.). Укр. *лéжень* 'гультай', 'падруба', 'ляжачы вулей', рус. *лежень,* ст.-рус. 'ляжачы хворы', 'гультай', 'ляжачая бэлька', польск. даўн. *leżeń* 'гультай', 'вартаўнік галеры'. Прасл. *lež-ьnjь* 'чалавек, які любіць ляжаць', 'ляжачы прадмет' (Слаўскі, 4, 198) < і.-е. *leg-e-nis* (Аткупшчыкоў, Из истории, 246).

**Лежая́** 'кароткая вяроўка з пятлёй, пры дапамозе якой бортнік падымаецца на дрэва' (Маш.). Рус. *лежея,* польск. *leżeja* 'тс' (Варш. сл., Віл. сл.). Аддзеяслоўнае рэгіянальнае ўтварэнне з суфіксам *-ая* (< *-ěja*), як *чашая* 'ваўначоска' (Сцяцко, Афікс. наз., 36—37). Да *лезці* (гл.). Слаўскі (4, 194) — да *ležati* (?).

**Ле́жны** 'пахілы' (Сцяшк. Сл.). Нягледзячы на магчымасць прасл. рэканструкцыі (*ležьnъjь* < *ležati, legti* + *ьnъjь*) і дапушчэнне рэліктавасці слова, яго фактычная старажытнасць застаецца няяснай.

**Ле́зіва**₁ 'плеценая з сырамяці вяроўка, якой бортнікі карыстаюцца, калі лазяць па дрэве да калод з пчоламі' або 'вяроўка, на якой паднімаюць калоду пчол на дрэва' (Эрэміч., Очерки, 8; рэч., Мат. Гом.), *лéзва* 'тс' (Маш.; гродз., Сл. паўн.-зах.), лельч., ельск. *лезьва* (Мат. Гом.). Ст.-бел. *лезиво, лезыво* (1507 г.). Укр. *лєзиво, лізиво,* рус. *лезиво (лезево),* польск. *leziwo* 'лезіва', а ў XVI ст.— 'борць'. Паўн.-слав. *lěz-ivo.* Да *лазіць, лезці* (гл.). Няма патрэбы гаварыць пра запазычанне з польск., як сцвярджае Булыка (Лекс. Запазыч., 94).

**Ле́зіва**₂ 'лязо' (Нас.), *лéзьвіе, лезвіг, лезка* 'тс' (лаг., Шатал.; браг., Мат. Гом.; паўд.-усх., КЭС), *лязо* 'вострая частка рэжучай ці сякучай прылады' (ТСБМ, Шат., Касп., Гарэц.; Мін., Шн. 2, КЭС, лаг., Бяльк.), 'тонкая стальная пласцінка для галення' (Сцяшк.), *лэзо, лезо, лёзо* 'вострыё сякеры' (Тарн.). Укр. *лéзво,* уманск., валынск. *лéзо,* харкаўск. *лíзко* 'лязо', рус. *лез, лёз* 'струг для апрацоўкі клёпак', калін. 'вострыё касы', казан., ніжнегар., уладз. *леза, лёза,* іркуцк. *лезвище* 'вострыё касы', паўн.- і паўд.-рус. *лезьё* 'лязо'. Паводле Варбат (Этимология-1964, 41—43), гэты даволі позні прасл. дыялектызм генетычна суадносіцца з дзеясловамі *lězti* — *laziti* > *лезці* (гл.), семантыка якіх змянялася наступным чынам: 'паўзці, прабірацца' > 'расчысціць, выраўняць, каб прайсці' і 'узлезці, каб вычысціць, выразаць' > 'рубаць, выраўноўваць, рэзаць' > 'тое. што рэжа'. Застаецца няясным канец



формы *лезвіг.* Іншыя менш імаверныя версіі гл. Фасмер, 2, 476.

**Ле́зкі** 'лесвіца' (Сцяшк.). Утворана ад формы + *лезы,* аналагічнай да *лазы* 'тс' (гл.). Аднак для форм з *-к-* у гаворках ёсць варыянт (і з глухім у аснове) *леска* 'тс' (Шат., Ян.; уздз., Жд. 2; ц.-пал., Нар. сл.; браг., Нар. словатв.). Да *лезці* (< прасл. *lěsti*).

**Ле́зці** 'ўзбірацца, залазіць, караскацца', 'апускацца ўніз', 'забірацца куды-небудзь, улазіць у што-небудзь', 'пранікаць крадучыся', 'змяшчацца', 'выбівацца наверх', красл. 'вылазіць, выпірацца' (Бяльк., Касп., Яруш., ТСБМ, Сл. паўн.-зах.), 'надакучаць, назаліць, дражніцца' ў выразе *лезці ў вочы, лезці ў галаву* (Шат., КЭС, лаг.; драг., в.-дзв., Сл. паўн.-зах.), беласт., драг. 'паўзці', 'марудна ісці', пруж., драг. 'падыходзіць, дакранацца' (Сл. паўн.-зах.), 'моцна крычаць', 'старанна рабіць' у выразе *із шкуры лезці* (Ян.), драг. *косэ лізуть* 'падаюць валасы' (Лучыц-Федарэц). Укр. *лізти* 'лезці, улазіць у што-небудзь, вылазіць', 'поўзаць', *лíзаты* 'лазіць', рус. *лéзти, лезть* 'уваходзіць куды-небудзь', 'гразнуць', польск. *leźć* (1-я ас. *lezę,* ст.-польск. *lazę*) 'лезці', н.-луж. *lěześ* 'ісці, паўзці', 'узбірацца', в.-луж. *lězć* 'лезці', чэш. *lézti* 'паўзці, цягнуцца', 'прыходзіць не ў час', 'паволі падаць, знікаць', славац. *liezť* 'лезці', славен. *lę́sti,* ст.-серб.-харв. *љести, лѣсти, лйсти* 'паўзці, ускарасквацца', сучаснае серб.-харв. ужываецца з прэфіксамі *до-, па-, у-* і замяняе дзеяслоў *ић̏и* 'ісці', макед. дыял. *љаз'а* '(дзіцё) рачкуе', балг. *лéза, лезя* 'лазіць, поўзаць', ст.-слав. **възлѣзж, лѣсти** 'ўзбірацца'. Прасл. *lěsti (lězǫ)* 'паўзці, пасоўвацца наперад'. Самымі блізкімі адпаведнікамі з'яўляюцца балтыйскія мовы, у якіх прасл. *-ě-* адпавядае *-ē-*: ст.-прус. *līse* (< **lēza*) 'паўзе', лат. *lēžât* 'ссоўвацца', *lēžuôt* 'ісці паволі, цягнуцца', літ. *lė̃kštas* 'плоскі', *lažà, lãžas* 'паншчына'; параўн. яшчэ ст.-ісл. *lágr* 'нізкі', с.-в.-ням. *laege* 'плоскі', гал. *laeg,* ст.-грэч. λαχύς, англ. *low* 'нізкі'. Да і.-е. **lēgh-* (Бернекер, 1, 715; Фасмер, 2, 476—477; Слаўскі, 4, 192—193; Скок, 2, 278—279; Шустар-Шэўц, 11, 835; Бязлай, 2, 136).

**Ле́і**₁ 'падцяжкі ў штанах' (Сцяшк.). Да *шлéйкі* (гл.).

**Ле́і**₂ 'нашыўкі з моцнай тканіны або скуры на тых месцах пераважна кавалерыйскіх штаноў, якія хутка праціраюцца', 'абшыўка ў штанах' (ТСБМ, Сцяшк.; слуц., міёр., Нар. словатв.), польск. сувалк. *leja* 'скурай абшытыя штаны', *podlejować spodnie—naszyć lei.* Паходзіць з франц. *lé* 'полкапалатна, тканіна паміж 'пругамі' (ТСБМ, 3, 33).

**Ле́іць** 'ліць' (смарг., Сл. паўн.-зах.). Да *лéяць* (гл.).

**Лей** алей' (Мат. Гом.), *лей, леі* 'тс' (калінк., Сл. паўн.-

зах.), бран. *лей* 'тс'. Адпадзенне пачатковага *а-* пад уплывам дзеяслова *ліць*. Да *але́й* (гл.).

**Ле́йба** 'неахайная, гультаяватая асоба' (брэсц., Нар. лекс.), клец. 'смаркаты, неахайны чалавек' (там жа). Разам з польск. лэнчыцк. *lejba* 'вялікае, нязграбнае адзенне, халат' запазычана з ням. дыял. *leib* 'блуза, кофтачка' (Слаўскі, 4, 121), магчыма, праз ідыш.

**Лейбік** 'безрукаўка' (Малч. Компл.). Запазычана з польск. *lejbik, lajbik* 'прасторны жаночы жакет, візітка', 'мужчынскі кафтан', 'верхняя частка ваеннага мундзіра', якое разам з чэш. *lajbík,* славац. *lajbík,* серб.-харв. *лајбек, ла̏јб,* славен. *lájbič* паходзіць з ням. дыял. *leib* 'камізэлька, блузка, гарсэт', ням. *Leibchen* 'безрукаўка' (Слаўскі, 4, 121).

**Ле́йзіць**, *ляйдзіць* 'гаварыць недарэчнае, пляткарыць' (маст., свісл., карэліц., ваўк., Сл. паўн.-зах.), (грубае) *лейдзіць* 'расказваць' (Сцяшк. Сл.). Балтызм. Параўн. літ. *léidinti* ў выразе: *liežuviais apsiléidinti* 'быць абгавораным' (Сл. паўн.-зах., 2, 714).

**Ле́йка**$_1$ 'прыстасаванне ў выглядзе конуса для пералівання і фільтравання вадкасці', 'палівачка', 'чарпак для вылівання вады' (Бяльк., Касп., Яруш., Гарэц.; лях., Сл. паўн.-зах., ТСБМ). Укр. *лійка,* рус. *ле́йка,* польск. *lej,* ст.-польск. *lej* (XIV ст.), *lejek, lij, lijek,* н.-луж. *lějk, lejk,* в.-луж. *lik,* чэш. *lejík, lejček,* славен. *lȋj, lijec,* серб.-харв. чакаўск. *лиј, леј,* істрыйск. *лӣјак, lȋjevak* 'тс'. Магчыма, яшчэ прасл. *lějь, lějьkъ* — спачатку як nomen agentis, а пазней nomen instrumenti (параўн. іншыя ўтварэнні з тым жа коранем: каш. *ledło* 'лейка', в.-луж. *lijidło* 'адліўка', рус. *лияло* 'адлівачная форма'). Утворана ад *леяць* (гл.), якое з прасл. *lějati* (Слаўскі, 4, 119—120).

**Ле́йка**$_2$ 'вылівак' (стаўб., Нар. сл.; карэліц., З нар. сл.). Відавочна, паходзіць з **ле́як<*левак<вылівак;* другая частка слова *-йка* — у выніку кантамінацыі з лексемай *яйка.*

**Ле́йстры** 'рэестр' (Мядзв.), 'запісная кніга гандляра з даўгамі' (Шат.), ст.-бел. *лейстръ* і інш. гл. Булыка, Запазыч., 277. Укр. *лейстер* 'рэестр', *лейстровик* 'рэестравы казак'. Запазычана з польск. *rejestr, rejestry,* якое з с.-лац. *regestrum<<лац. regestum* 'запісанае' (Фасмер, 2, 460; Шат. 146). Пачатковае *л-* у выніку распадабнення *р* — *р.* Гл. таксама *рэестр.*

**Лейт**, ст.-бел. *лейтъ, лейть* 'чорнарабочы дваровы чалавек' (пач. XV ст.) (Булыка, Запазыч.). З літ. **laitis* (К. Яблонскіс, Liet. žodž. sen., 1941, 114).

**Ле́йтар** 'кавалак топленага воску, які мае форму той пасудзіны, у якой застывае' (Анох.). Няясна. Магчыма, з ням. *Leiter* 'лесвіца', выгляд якой маюць крыжыкі ў борці, на якія пчолы вешаюць вашчыны. Наступны этап — перанос лексемы з вашчын на воск (Г. Цыхун, вусн. паведамл.).



**Лейтэна́нт** 'афіцэрскае званне', 'асоба, якая носіць гэта званне' (ТСБМ). З рус. *лейтенант* 'тс'. (з XVII ст.), якое праз ням. *Leutenant* з франц. *lieutenant* 'тс', а першапачаткова 'намеснік' (*<lieu* 'месца'+*tenant* 'які займае' — калька з с.-лац. *locum tenens* 'тс') (Клюге$_{17}$, 437; Фасмер, 2, 477; Слаўскі, 4, 123; Крукоўскі, Уплыў, 82).

**Ле́йцы** 'вяроўка ці раменны шнур для кіравання запрэжанымі коньмі' (ТСБМ, Янк. I, Касп., Яруш., Бес., Гарэц., Сцяшк., Шат., Сл. паўн.-зах., ТС; лаг., мін., КЭС, Раст. Да хар.), полац. *лейчына́* (Янк. II), міёр. *лі́йчына́* (Нар. словатв.), *ле́йчына* 'тс' (Сцяшк.), ст.-бел. *лейцъ (леецъ)* (XVI ст.). Праз польск. *lejce* запазычана з с.-в.-ням. *leit-seil,* суч. ням. *Leit-seil* 'тс'*<leiten* 'кіраваць, весці'+*Seil* 'вяроўка' (Шат. 146; Слаўскі, 4, 122; Булыка, Запазыч., 187; Бел.-польск. ізал., 46).

**Лек**, *ле́кі* 'лякарства', 'лячэнне' (Яруш., Шат., ТСБМ), *лёкі* 'тс' (Касп., Шат.), укр. *лік, ліка,* рус. *лека,* паўдн. *леко,* польск. *lek, leki,* старое *leka,* в.-луж. *lěk,* чэш. *lék,* славац. *liek,* славен. *lę̑k,* серб.-харв. *лȇк, lijeka,* макед. *лек, l'äk, l'ąkó(t),* балг. *лекът,* ц.-слав. *лѣкъ,* ст.-слав. **лѣчьба.** Прасл. *lěkъ* 'лякарства'. Ад яго — дзеяслоў *лячыць.* Звычайна гавораць як аб запазычанні з прагерм. **lēka* 'лякарства', параўн. гоц. *lekeis* 'урач', *lēkinōn* 'лячыць, вылечваць', ст.-англ. *lǢce* 'ўрач', швед. *läka* 'лячыць', ст.-в.-ням. *lāhhi, lāhhinōn* 'тс', англ. *leech* 'урач' (Бернекер, 1, 710; Брукнер, 293; Фасмер, 2, 478—9; Махэк$_2$, 325; Мартынаў, Лекс. взаим., 210—213 і інш.). Германскае слова запазычана, аднак, з кельц., параўн. ірл. *liaig* (р. скл. *lēga*) 'урач' (Стоўкс, 251). Слаўскі (4, 124) не выключае сувязь герм. са ст.-грэч. *λέγω* 'збіраць, лічыць, гаварыць' і лац. *legō* 'гучна прачытваць', 'прагалошваць', што магло б мець значэнне 'замаўляць', 'лячыць замовамі'. Агляд літаратуры гл. таксама Фасмер, 2, 477—478; Скок, 2, 296; Бязлай, 2, 132; Шустар-Шэўц, 822—823; Цэйтлін, Этымалогія-75, 69. Сюды ж *ле́кар* 'урач, знахар' (Касп., Шат., ТСБМ), *ляка́рства,* паст. *лекарства* 'лякарства, лячэнне' (Яруш., ТСБМ, Сл. паўн.-зах., Сцяшк.), *ліка́рства* 'тс' (Бяльк.). гродз. *лекава́ць* 'лячыць' (Сцяшк. Сл.).

**Ле́каж** 'урач' (даўгаўп., Сл. паўн.-зах.) запазычана з польск. *lekarz* 'тс'.

**Ле́кач** 'палахлівец' (пін., Нар. лекс.). Да *ляк*$_1$ (гл.).

**Лекаце́ць** 'дрыжэць, калаціцца (аб сэрцы)' (Сцяшк., Сл. паўн.-зах.; чэрв., Жд. 2), драг. *ле́котіти* 'дрыжэць, трэсціся' (Клім.), *лякоті́тэ* (І. Лучыц-Федарэц), кобр. *люкоті́тэ, ле́котітэ,* стол. *ле́котіти* (Нар. лекс.), бяроз. *лекоте́тэ* (Шатал.),

слонім. *лекацéць* 'тс' (Нар. лекс.; гродз., Сцяшк. Сл.), 'булькатаць (аб вадзе ў страве пры яе варэнні)' (Шат.), 'даражыць, берагчы што-небудзь' (маст., Сл. паўн.-зах.). Беларускае. Утворана ад назоўніка **lękotъ*<*лęк-ъ*, як і іншыя гукапераймальныя дзеясловы з суф. *-ot-ěti* (//*-on-ěti*). Параўн. укр. *стукотíти, стугонíти*. Развіццё семантыкі прасл. *lękati* 'гнуць, выгінаць, закрыўляць'>'згінацца, схіляцца'>'курчыцца, сціскацца ад страху, трывогі'>'баяцца'>'дрыжэць' гл. Слаўскі, 4, 207. Аналагічна і.-е. **bheug-* 'згінаць'>літ. *bū́gti* 'трывожыцца, лякацца'.

**Лекатýха**, драг., паўдн.-пін. *лёкотýха* 'дрыжыкі, дрыготка' (Клім., Нар. словатв., Нар. лекс.). Да *лекацéць* (гл.). Аб суфіксе *-ух-а* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 90.

**Лéктра** 'электрычнасць' (б.-каш., Мат. Гом.). Скажонае народнае слова, як і драг. *лéтрыка* (І. Лучыц-Федарэц).

**Лéктар** 'той, хто чытае лекцыі', ст.-бел. *лекторъ* (з XVII ст.) запазычана са ст.-польск. *lektor* 'асоба, якая каму-небудзь голасна чытае', 'прафесар'. Да лац. *lēctor* 'той, хто чытае'<<*legere* 'чытаць' (Слаўскі, 4, 136; Булыка, Лекс. запазыч., 159). Гл. яшчэ *лекцыя*.

**Лéкцыя** 'вуснае выкладанне вучэбнага прадмета', 'публічнае чытанне' (Яруш., ТСБМ). Ст.-бел. *лекция* (XVII ст.) запазычана са ст.-польск. *lekcyja* 'тс' (Булыка, Запазыч., 188; Лекс. запазыч., 164). Гл. таксама *лектар*.

**Лéлех**, *лéлях* 'жывот' (маст., Сцяшк., Сл.; паўн.-усх. беласт., Сл. паўн.-зах.), *леляхавáты* 'з вялікім жыватом' (шчуч., Сл. паўн.-зах.). У выніку пераносу значэння паводле падабенства з казадоем. Гл. *лялáк*.

**Лéля**, *лёля, лёлё, люли* 'анёл-абаронца', 'купідон' (КЭС), рус. *лель* 'тс', а таксама прыпеў у песнях *лелё, лéлем-ю, лёлюшки*, укр. *лелé*. Відавочна, да прасл. *lelěti / lelějati*>бел. *лялéць* (гл.) (Брукнер, 294; Фасмер, 2, 479). Семантычна (вобразнае пераасэнсаванне) сюды можна дадаць і *лёля* 'капуля' (гл.), як покрыва, якое абараняе ад негатыўных уплываў.

**Лéмант,** *лéмент* 'крык', *лементлíвы* 'крыклівы', *лементуха* 'крыклівая жанчына' (ст.-дар., Сл. паўн.-зах., Сцяшк. Сл., СТ). Да *лямант* (гл.).

**Лемантáр**, *лемэнтáр, лíмантáр, лемэнтарык* 'буквар' (ТСБМ, Гарэц., Нас., КЭС, лаг.). Запазычанне з польск. *lamentarz*<<*elementarz*<лац. *elementārius* 'які адносіцца да пачаткаў' (Слаўскі, 4, 38—39; Кюнэ, Poln., 71).

**Лéмег**, *лéміг, лямéг* 'бервяно ў франтоне' (Касп.), 'папярочнае бервяно ў закоце' (Сцяшк., Бяльк., КЭС, лаг.), *лемягí, лімягí* 'франтон', 'запчытак у пунях' (лепел., ДАБМ, к. 230; Сл. паўн.-зах., Мат. Бых., Бяльк.), *лямёга* 'зашчытак' (П. С.). Рус. *лéмег, лемиг, лемяг* арл. 'прасценак', маск. 'кроквы', смал. 'маціца', пск. *лемéга* 'драбіны', *лемегá, лéмеги* 'тоўстыя жэрдкі, на якія насцілаюцца дошкі ў драбінах', 'сані для перавозкі грузаў', польск. *lemiąż, lemiąże* 'жэрдкі, якія ўзмацняюць вільчык страхі', палаб. *lemąz* 'кроква', н.-луж. *lemjaz, lěmjaz, rjemjaz, lem'es* 'лёстка ў драбіне', чэш. *leměz* 'кроква', 'бервяно ў франтоне', ст.-чэш. *lemiez* 'бэлька', славац. *olemážiť (seno)* 'прыціснуць (сена)', славен. *lęmez* 'кроква', 'друк, дручок', серб.-харв. *лȅмез, ljȅmez* 'жэрдка, якая прыціскае страху'. Прасл. *lěmęgъ* 'бэлька, дручок, якія прыціскаюць страху, сена ў возе', зах.- і паўдн.-слав. лексемы зыходзяць з *lemę-gъ+jь*>*lěmez* (у Шустара-Шэўца (II, 814) падаецца гэта форма ў выглядзе: *lemędzь, lěmędzь*). Мае адпаведнікі толькі ў літ. мове: *liemuõ, liemeñs* 'ствол дрэва', 'аснова', 'тулава' (Слаўскі, 2, 144—145; Скок, 2, 335; Бязлай, 2, 132—133). Трубачоў дае слав. праформу ў выглядзе *lěmę / lěmene*, выведзеную з рус. валаг. *лима* 'бруха' (якое з **lěma*), чарапавецк. *лемена* 'лішай, плямы на целе' (Этымалогія-72, 177).

**Лéмезень**, *лéмез, лéмент* 'мова (тайная)' (шкл., Рам. 9). Арго. З ідыш *leimaden* 'вучэнне, навукі', *leimed* 'вучэнне' (Фасмер, 2, 480).

**Лементýха** 'страва з ягад' (ТС). Няясна. Магчыма да *лямéшка* (гл.).

**Лéмех** 'частка плуга, якая падразае пласт зямлі знізу' (ДАБМ, к. 255; лудз., Сл. паўн.-зах.), *лямéх* 'тс' (ДАБМ, к. 255), *лéмеш, лямéш, лемíш* (Нас., Грыг., Бяльк., Смул., Тарн., Яўс., ДАБМ, к. 255), 'адвал плуга' (Сцяшк., Касп.), 'абібок, гультай' (Яўс.), *лемех, лемéха* 'таўстун, няўклюда' (ТС), *лемяшніца* 'драўляная аснова ніжняй часткі сахі' (лудз., Сл. паўн.-зах.), *леміхавáты* 'няўклюдны' (ТС). Укр. *лемíш* 'лямеш', *лéмехуватий* 'непаваротлівы, павольны', рус. *лéмех, лемёх* 'лямеш', вяц. 'лаянкавае слова', *лéмéш, лемяш* 'лямеш', алан., наўг. *óмежа, омежь*, ст.-рус. *емешь*, уладз. *лемешить* 'араць сахою', польск. *lemiesz, lemisz, lem'ǫš, lemiąz, ląmys, limiesz, limysz, jemiesz*, ст.-польск. *lemięsz, lemięże, lęmięsz*, чэш. *leméš*, ст.-чэш. *lemech*, славац. *lemeš*, славен. *lémež, lémeš*, ст.-славен. *lemesh, lêmésh*, р. скл. *lêmeſha*, серб.-харв. *лȅмеш, лȅмеж, lȅmjež, lȅmlješ, lȅmiš, ljȅmeš, jȅmlješ*, макед. *лемеш, éмеш, éмиш*, балг. *лемéж, йемеш, емéж, емеш, ймеш* (р. скл. *имежа*), ц.-слав. *лемешь, емешь* 'рала, лямеш'. Прасл. *lemežь: lemešь* 'вострая частка плуга, якая разразае, ломіць глебу' мае адпаведнікі ў балт. мовах, параўн. літ. *lẽmežis, lamežis* 'аснова лямеша', лат. *lemesis* 'лямеш' (Буга, РФВ, 71, с. 57). Этымалогія не зусім ясная. Звычайна супастаў-

ляюць прасл. лексему з і.-е. коранем *lem- 'ламаць, крышыць, драбіць' (Міклашыч., 164; Бернекер, 700; Слаўскі 4, 146—148), параўн. аналагічную семантыку ў ст.-інд. phāla- 'лямеш'<*(s)phel 'ламаць, лупіць, расшчапляць'. Форма омежь і інш. вылучаецца этымалагічна ў асобную лексему (Фасмер, 2, 480; Каліма, ZfslPh, 20, 406). Мяркуецца (Брукнер, KZ, 43, 304—305; Махэк$_2$, Slavia, 20, 210), што форма lemech з'яўляецца другасным утварэннем. Гл. таксама Дурыданаў, Stud. zur Lit. und Kultur in Osteur., Köln — Wien, 1983, 63—67. Сюды ж лемехава́ты 'дурнаваты' (Ян.) — укр. ле́мехуватий. Да лемех (гл.).

**Ле́мзаць**$_1$ 'балбатаць' (шчуч., З нар. сл.). Балтызм. Параўн. літ. lem̃zyti 'тс'.

**Лемзаць**$_2$ 'павольна з неахвотай есці' (ТС, Сержп. Грам.). Укр. лемзати 'тс'. Відавочна, балтызм, адпаведнікам якога ў літ. мове з'яўляюцца lémza, lémzė 'павольны, вялы чалавек', lémžti 'лізаць'.

**Ле́мзіна** 'доўгая тонкая галіна без лісцяў, дубец' (карэліц., Янк. Мат.). Да лемег (гл.).

**Лен** 'феод', ленны, ст.-бел. ленный 'васальны' (XVI ст.) запазычаны са ст.-польск. lenny, liński, leński, якія выводзяцца з ням. Lehen, с.-в.-ням. lēhen, lēn 'зямля, дадзеная сеньёрам васалу за вайсковую службу або за пэўную плату'<<lihen, суч. ням. leihen 'пазычаць' (Слаўскі, 4, 155).

**Ленава́цца,** ленова́цца, лянава́цца 'гультаяваць' (ТСБМ, Гарэц., Шат., Яруш., Бяльк., ТС) — адпрыметнікавы дзеяслоў. Да ляны́ 'лянівы' (гл.).

**Ле́насна** 'павольна' (Сцяшк. Сл.). Утворана ад прыметніка *ленасны<прасл. lěnostь. Да ляны́ (гл.).

**Ленгаміны** 'ласункі' (шчуч., Сцяшк. Сл.). Запазычана з польск. leguminy, legumina 'мучная салодкая страва, дэсерт', ст.-польск. 'стручковыя расліны', 'крупы', якія з лац. legūmina (мн. лік)<legūmen 'стручковыя, гародніна' (Слаўскі, 4, 118—119).

**Ле́ндзіца,** лэ́ндыця, лэ́ндыца, лындыця 'кліны пад пахамі ў кашулі' (Сакал.), ле́ндыцы, лэндзіцы 'тс' (Тарн.). Відавочна, з лентица, параўн. ст.-рус. лентий, лентие 'шырокая стужка тканіны', 'ручнік', а таксама рус. ленда 'стужка', якія са с.-грэч. λέντιον 'стужка льняной тканіны'<нар.-лац. *lenteum, лац. linteum 'палатно' (Фасмер, 2, 482).

**Леніво** пін., бяроз., петрык. ле́ніво, ле́ныво, любан. леніло, калінк., петрык. лініла 'скура вужакі ці гадзюкі, скінутая ў час ліняння' (Шатал., Сл. паўн.-зах.). Прасл. дыялектызм lěnivo. Да lěniti 'слабнуць, марнець, губляць поўсць, валасы, скуру', параўн. укр. лінитися 'ліняць, лупіцца', рус. арханг.,



валаг., урал., сіб. ле́нный, ленной 'які ліняе', польск. linieć, lenieć, славац. lienit'(sa), славен. lę́niti 'ліняць'. Чаргаванне lěn-/lin- (Бернекер, 1, 722; Фасмер, 2, 482; Слаўскі, 4, 267).

**Ленішча** 'ільнішча' (Ян.). Да лён (гл.).

***Ле́нка,** ле́нко 'лянок' (Федар. 6). Суфікс -ко з экспрэсіяй пахвальнасці пад уплывам рыфмы (параўн. у вагародзі ленко цьвіце харашэнько). Да лён (гл.).

**Лента** 'стужка' (ТСБМ), пераноснае лента 'прылада для вымярэння даўжыні' (Сцяшк.), 'вузкі плыт, які складаецца з некалькіх звенняў (на 10—12 бярвенняў)' (басейн Дзвіны, Нар. сл.). Запазычанне з рус. мовы, дзе лента 'стужка', а раней (XVII ст.) линта, калуж. линда, відавочна, запазычаны з н.-в.-ням. дыялектнага Linte 'тс', с.-н.-ням., с.-гал., гал. linte 'стужка, павязка'<лац. lintea, linteus 'з палатна' (Фасмер, 2, 482).

**Ле́нткі** 'рухавы, хуткі' (воран., Сцяшк. Сл.). Складае адзіны арэал з усх.-малапольск. lętki (з другаснай назалізацыяй), якое з letki<lekki 'тс'. Да лёгкі (гл.).

***Ле́нуць,** ле́нуть, лэнуты 'ляцець, імкнуцца' (Булг., Доўн.-Зап., Песні), лынь! 'ляці' (Булг.) — у фальклорных тэкстах. Запазычана з укр. ли́нути 'тс'.

**Ленцяя́** 'від танца' (Інстр. 3). Да лянце́й (гл.).

**Ленцява́ты** 'гультаяваты' (Касп.). З рус. лентяй 'гультай' па ўзору гультаяваты.

**Ленча́ры** 'бразготкі, шамкі' (вільн., Сл. паўн.-зах.) утварылася з енчары 'тс' у выніку замены пачатковага j- на л'-. Да е́нчыць (гл.).

**Лень**$_1$ 'лянота' (брасл., Сл. паўн.-зах., Бяльк.), укр. лінь, рус. лень, польск. leń, ст.-чэш. lén, léň, славац. lieň, славен. lęn, балг. лен', ст.-слав. **лѣнь**. Прасл. lěnь — назоўнік адцягненага значэння, утвораны ад lěnъ>ляны́ (гл.). Сюды ж ляні́вы(й), ляньлівый (як санлівы) 'схільны да ляноты, павольны' (ТСБМ, Бяльк., БРС), лянівасць 'лянота' (ТСБМ), ляні́ўства 'гультайства' (Нас.).

**Лень**$_2$ 'гультай' (ігн., пін., Сл. паўн.-зах.), укр. лінь, рус. лень, ст.-рус. лѣнь 'гультаяваты', польск. leń, ст.-чэш. léň, серб.-харв. lênj. Прасл. lěn-jь (Слаўскі, 4, 159). Да ляны́ (гл.).

**Лень**$_3$ 'рыба лін, Tinca vulgaris' (гарадоц., Нар. лекс.). Укр. лень 'тс', рус. лень 'лінь' і інш. рыбы: Cyprinus linca, Hucho taimen, Salmo trutta. Да лін(ь) (гл.). Чаргаванне lě-/li- гл. у слове леніва.

**Ле́пар** 'птушка дрозд пеўчы, Turdus ericetorum Turt.' (паўдн.-гом., паўн.-жытомірск., Бел.-укр. ізал.). У выніку семантычнага пераносу з ле́пар 'муляр' (ТС)<ляпіць (ха-

*ту)*>*ляпіць гняздо* (?). Не выключана, што гэта архаізм, утвораны ад прасл. *lěpъ* 'прыгожы, харошы'>'птушка, якая прыгожа спявае'. Аб суф. *-ар* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 29—30.

**Ле́пацць** 'шлёпаць (пра вусны)' (ТС). Гукапераймальнае ад *леп!* Роднаснае з *лепет, ляп!, ляпаць* (гл.).

**Ле́пей**, *ле́пяй, ле́пі, ле́пій* 'лепш' (Бяльк., Мядзв., ТСБМ, Касп., Сцяшк., КЭС, лаг.; маладз., Янк. Мат.), асіп., уздз. 'больш' (Жд. 2; Бузук). Польск. *lepiej, lepie, lepi*, н.-луж. *lěpjej, lěp*', в.-луж. *lěpje*, чэш. *lépe, líp*. Вышэйшая ступень ад *добра*. Прасл. *lěpje, lěpěje*, якое першапачаткова азначала 'прыгажэй', утворана ад *lěpъ*. Гл. *лепшы*.

**Ле́пет** 'нясткладная, невыразная мова дзіцяці' (ТСБМ), укр., рус. *лепет*. Другая ступень чаргавання з *лопат* (гл.). І.-е. адпаведнікі: ст.-інд. *lápati* 'балбоча, шэпча, гаворыць', памір. *lōwam, lewam* 'гавару, размаўляю', кімр. *llêf* 'голас', алб. *lapërdi* 'брыдкая мова'. Гукапераймальнае (Бернекер, 1, 702; Фасмер, 2, 483—4 з літаратурай). Сюды ж *лепята́ць, лініта́ць* 'хутка і невыразна гаварыць, балбатаць', 'хлусіць, паклёпнічаць', 'хутка лаяцца і гаварыць брыдоту' (ТСБМ, Нас., ТС, Сл. паўн.-зах., Шат.; ст.-дар., Ант. бел. песні, КЭС, лаг., паўдн.-усх., КЭС), *лепеню́ць* 'балбатнуць' (Нас.) (з **лепятнуць*), *ляпяцёхаць* 'булькаць' (Ян.).

**Лепе́та** 'сабака' (у загадцы) (ТС). Рус. *лепе́та* 'той, хто невыразна гаворыць', кур. *лепета́* 'сабака' (у загадцы). Метафарычнае ўтварэнне з суф. *-а* ад гукапераймальнага *ле́пет* (гл.).

**Ле́пік** 'дрозд піскун, Turdus pilaris L.' (Інстр. 2). Няясна. Магчыма, звязана з *ле́пар* (гл.).

***Лепкава́ты**, *лепкова́ты, лепокова́ты* 'цяжкаваты ў руках, грузны, не стройны' (ТС). Відаць, з **лепехава́ты*. Да *ляпе́ха* (гл.). Гл. таксама *ляпяшы́ла*.

**Ле́пкацца** 'цалавацца' (ТС). Адпрыметнікавае ўтварэнне, як *слізгацца*. Да **лепкі / лінкі, ліпнуць, ляпі́ць* (гл.).

**Ле́пра** 'праказа' (ТСБМ). Запазычана з рус. *ле́пра* 'тс' (Крукоўскі, Уплыў, 83)<лац. *lepra*<ст.-грэч. λέπρα 'тс'<<λέπω 'лушчу, здзіраю лушпіны, кару' (Слаўскі, 4, 167—168).

**Ле́пты**, ст.-бел. *лепъты, липты* 'прыбудоўка да дома' (з XVI ст.), як і ст.-польск. *lepty, lipty*, запазычаны са ст.-літ. *lieptai, liptai* 'лесвіца, сходы на другі паверх' (Лаўчутэ, Liet. term., 151).

**Ле́пшы**, *лі́пшы*, паст. *ле́пі* 'лепшы' (Гарэц., Мядзв., Грыг., Булг., Бяльк., Шат., Яруш., ТС, ТСБМ, КЭС, лаг.; рагач., КЭС). Укр. *лі́пший*, рус. пск., смал. *лепший*, ц.-слав. *лѣпший*, польск. *lepszy*, н.-луж. *lěpšy*, в.-луж. *lěpši*, чэш., славац. *lepší* 'лепшы', палаб. *lepsě* 'лепш', серб.-харв. *љѐпши* 'прыгажэйшы', славен. *lépši* 'тс', 'прыемнейшы'. Прасл. *lěpjь*, р. скл. *lěpjьša*, пасля (паводле аналогіі) развілася другасная форма *lěpjьšii* — вышэйшая форма ад *lěpъ*, прадстаўленай ва ўсіх слав. мовах. І.-е. **loip-os*>прасл. *lěpъ* 'той, які прылягае, прыліпае'>>'той, які падыходзіць'>'добры'>'прыгожы' (Бернекер, 1, 711; Брукнер, 296; Покарны, 670; Фасмер, 2, 485; Слаўскі, 4, 168—169; Скок, 2, 297, Шустар-Шэўц, 827—828). Сюды ж *ле́пшаць* 'рабіцца лепшым', *ляпша́ць* 'ачуньваць' (Бяльк., Яруш., ТС), *лепшыньнік* 'рамонтнік' (Юрч. Вытв.), *лепшота́* 'выгада, карысць' (ТС).



**Лепясні́к** 'пухоўка, Typha L.' (лях., Сл. паўн.-зах., Сцяшк. Сл.), польск. *lepieznik, lepieżnik, lepiężnik*, ст.-польск. *lepiaśnik* 'белакапытнік, Petasites Mill.', рус. *ле́пест* 'ліст расліны', наўг., перм. 'акравак, кавалак тканіны', *лепесток* 'пялёстак'. Фасмер (2, 483) услед за Покарным (678) разглядае лексему як пашырэнне асновы на *-es* (першаснае **lep-es-*) і роднаснае з *lepet-*; Слаўскі (4, 166) дапускае магчымай аснавай для ўтварэння: *lepechъ, lepecha* 'розныя назвы раслін ва ўсх.-слав. мовах', а таксама і *lepenъ* 'ліст'.

**Лепяста́ць** 'хлюпаць, булькаць' (Ян.). Рус. паўн.-дзвін. *лепеста́ть* 'балбатаць, пляткарыць'. Утворана ў выніку пашырэння асновы інфіксам *-с-* (<прасл. *-s-*) для перадачы гукапераймальнасці і экспрэсіі. Ад *лепята́ць* (гл.). Іншае пашырэнне асновы ў *ляпяцёхаць* 'булькаць' (Ян.). Ад асновы *lepe-* ўтворана і стол. *ле́пець* 'слота, снег з дажджом' (ТС).

**Лепястры́нка** 'стройная, тонкая дзяўчына' (Сцяц. Слова-ўтв.). Няясна. Магчыма, генетычна звязана з літ. *lepystà, lepȳstė* 'распешчаны' (?).

**Лепята́ць** 'многа гаварыць, балбатаць' (паст., карэліц., Сл. паўн.-зах.; ст.-дар., Ант.), укр. *лепета́ти*, рус. *лепета́ть*, балг. *лепе́тя* 'тс'. Гукапераймальнае. Аналагічна параўн. ст.-інд. *lápati* 'балбоча, стогне, гаворыць', памір. *lōwam* 'гавару', кімр. *llêf* (**lepmo-*) 'голас', алб. *lapërdi* 'брудная мова' (Бернекер, 1, 702; Фасмер, 2, 483—484). Другая ступень вакалізму — *лопат* (гл.).

**Лепяшы́ла**, жытк. *лепешы́ло* 'целяпень' (ТС). Відавочна, з *лепеха*, якое ў гаворках Тураўшчыны азначае 'аер, Acorus calamus L.', 'маннік вялікі, Glyceria L.' і іншыя расліны, раскідзісты корань якіх цяжэйшы за верхнюю частку расліны. Да *ляпеха* (гл.).

**Лес**, *ліс* 'лес' (ТСБМ, Бяльк., Сцяшк., Яруш., Сл. паўн.-зах.), 'дрэвастой' (ТС), 'вільготны лісцевы лес' (Маш.), 'лесаматэрыял' (ТС, Зянк.), 'будаўнічы матэрыял з драўніны', *лесам* 'без догляду' (Сл. паўн.-зах.), *лясьсё* 'нелюдзімае, дзікае месца' (міёр., Нар. сл.). Укр. *ліс*, рус. *лес*, польск. *las*,

палаб. *l'os,* луж. *lěs,* чэш., славац. *les,* славен. *lês,* серб.-харв. *лêс, lȉjes,* балг. *лес,* ст.-слав. **лѣсъ**. Семантыка гэтай лексемы размяркоўваецца наступным чынам: паўсюдна *lěsъ* абазначае 'будаўнічы матэрыял', а на поўначы і 'лес — сукупнасць дрэў', першае з іх лічыцца першасным для прасл. *lěsъ,* якое тады можна генетычна суаднесці з лац. *lignum* 'драўніна, матэрыял', якое з *lik'-no-m (Мартынаў, Лекс. Палесся, 33; Брукнер, 290). Агляд іншых малаімаверных або малаперараканаўчых версій гл. яшчэ Слаўскі, 4, 56; Скок, 2, 298; Фасмер 2, 485.

**Леса**$_1$ 'тоўстая жэрдка ў хляве пад вышкамі, у каморы, дзе клалі лён' (лун., жытк., Нар. сл.), *лéска* 'клінападобны папярочны драўляны брусок для замацоўвання і ўцяплення дзвярэй' (бяроз., Шатал.), 'тонкія жэрдкі для агароджы' (Ян.), 'агароджа з тонкіх пруткоў' (Юрч., Бяльк.; светлаг., Мат. Гом., ТС), 'агароджа з тонкай ляшчыны, асінніка ці бярэзніка, пераплеценага ў стаячым становішчы' (Нас., Федар. Дад.), ц.-пал. 'плот' (Нар. сл.), 'кій' (бяроз., Сл. паўн.-зах.), 'насціл з дубцоў у санях' (ТС), *леса* 'пляцень' (паўдн.-усх., КЭС), *лéска* 'агароджа', 'сукі елкі для агароджы' (Мат. Маг.). Укр. *ліса, лісá, ліска,* рус. *леса,* польск. *lasa, laska,* луж. *lěsa, lěska,* чэш. *lisa,* ст.-чэш. *lésa,* славац. *lesa,* ляш. *l'aska,* славен. *lésa,* серб.-харв. *љȅса,* макед. *леса,* балг. *лесá, л'áса, леса,* ст.-слав. **лѣса** — з падобнымі ці блізкімі значэннямі. Прасл. *lěsa* — ж. р. ад *lěsъ*. Семантычнае напаўненне лексемы *lěsa* 'будаўнічы матэрыял у выглядзе (гнуткіх) галін, тонкіх ствалоў, з якога рабіліся прымітыўныя буданы, хаціны, стрэхі'. Пазней канкрэтызаваўшыся, лексема ў адных гаворках стала называць 'галіны арэшніку, ляшчыны'>'ляшчыну'. З другога боку, розныя перапляценні, рашоткі пераўтварыліся ў прылады для лоўлі рыбы, канчатковым вынікам гэтага развіцця, прыкладам можа служыць віц., гом. *лéска* 'лёска' (Касп., Мат. Гом.) або *леска* 'плот' (І. Чыгрынаў. Ішоў чалавек...). Іншыя версіі гл. Фасмер, 2, 485, 486; Слаўскі, 4, 56—60. Тое ж і ў іншых славян: балг. *леса* 'рашотка', серб.-харв. *љȅса* 'нары', чэш. *lísa* 'верша', 'паліца з жэрдак', польск. *lasa* 'рашотка'.

**Лéса**$_2$ 'лесвіца, па якой лазяць да коміна, да пчол на дрэве' (ТС; браг., хойн., Мат. Гом.), *лéска* 'лесвіца' (браг., Мат. Гом.; браг., Нар. словатв., Ян., ТС; ц.-палес., Нар. сл.; уздз., Жд. 2, Сцяшк. Сл., Шат.), *лескі, ліéскі* 'тс' (ганц., бярэз., круп., Сл. паўн.-зах.), 'прыстаўная лесвіца' (Мал.; ляхав., Янк. Мат.; круп., Жд. 2), 'лесвіца з шырокімі прыступкамі' (Некр.), 'прыстасаванне, каб лазіць на дрэва' (слуц., КЭС). Да *лéса*$_1$ (гл.). Семантычна гэтыя лексемы можна звесці да



'астрова, лесвіца ў выглядзе ствала дрэва з адсечанымі галінамі' — яе коса прыстаўлялі да дрэва і лазілі да борці на дрэве'. Генетычна ўзыходзіць да прасл. *lěsa*. Іншыя версіі гл. Слаўскі, 4, 60—61.

**Лесавік**, *лесовік* 'лясун' (Нік. Няч., Грыг., Яруш., Мат. Гом., ТСБМ) у выніку універбізацыі з *лесавы дух*. Параўн. і *лесавы* 'лясны дух, лясун' (Маш.; петр., Мат. Гом.). У выніку пераносу значэння — любан. *лесавік* 'жыхар лясістых мясцовасцей' (Нар. словатв.). Дадатковае значэнне прыметніка *лесавы* 'дзікі' (Янк. II, Шат., Бяльк.) з'явілася падставай для *лесавікі* 'дзікія лясныя яблыкі' (Касп.).

**Лесапéта** (рэч., Мат. Гом.) — скажонае літаратурнае *веласіпед*. Заканчэнне аформлена паводле *карэта*.

**Лесапоў** 'від шчура, які жыве ў лесе пад дрэвамі' (паўдн.-усх., КЭС). Складзена з *лес-* і *поўх* (гл.).

**Лéсвіца** 'пераноснае (або трывалае) прыстасаванне для пад'ёму і спуску, прыстаўныя драбіны' (ТСБМ, Бяльк., Касп., Яруш., Сл. паўн.-зах.), *лéсвічка* 'драбінка' (Др.-Падб., Гарэц.), *лéсніца* 'лесвіца' (Бяльк., Сцяшк.; в.-дзв., Шатал.; швянч., Сл. паўн.-зах.), *лéсва* 'тс' (LKŽ, 7). Укр. *ліствúця, ліствúна,* рус. *лéствица, лéсвица* 'тс', чэш. *lestvice* 'вешалка для сушкі адзення ў выглядзе астровы', 'паліца для посуду', *lestnice* 'драбіны ў шахце', славен. *lêstva, lêstvica, lesníca,* серб.-харв. *љȅстве, листва,* макед. *лествица* 'лесвіца', балг. старое *лествица,* ст.-слав. **лѣствица.** Прасл. *lěs-tv-ica*. Да *лезці* (гл.).

*__Лéседзь,__ *леседзь* 'лёска' (КЭС, І. Чыгрынаў), рус. вяц. *лéсядзь* 'тс'. Бел.-рус. ізалекса. Да *лёска* (гл.). Аб суфіксе больш падрабязна гл. Аткупшчыкоў, Из истории, 149 і наст.; Сцяцко, Афікс. наз., 130, 140, 179.

**Лéсейка** 'лясная сцяжынка' (слонім., Сцяшк. Сл.). Утворана ад *lěs-ъ* пры дапамозе суфікса *-ěja* (як *kъněja* 'дрыгвяная тэрыторыя, парослая лесам, амаль непраходная' <*kъnъ/kъmy* 'пень'). Ад *lěsěja* — памяншальнае *лесейка*.

*__Лéска__$_1$, *лыска,* (мн.) *лыскы* 'зараснік ляснога арэха' (Клім.), ст.-бел. *ласковый, лесковый* 'ляшчынавы' (Булахаў, Гіст.). Укр. *ліска,* польск. *laska,* падкарпацк. *leska, liska, lyska,* в.-луж. *lěska,* чэш. *líska* (ст.-чэш. *léska*), славац. *lieska,* славен. *lêska,* серб.-харв. *лéска, лијèска,* макед. *леска,* паўдн. *l'äska,* балг. *лескá*. Прасл. *lěska* 'ляшчына'. Магчыма, звязана з *lěsь*>*лес* (гл.). Блізкімі з'яўляюцца ст.-прус. *lazde* 'ляшчына', лат. *logzda, lazda, lę(g)zda* 'тс', літ. *lazà* 'кій'. Іншыя версіі гл. Слаўскі, 4, 62. Сюды ж ст.-бел. *леска* 'пасудзіна' (?) (Скурат, БЛ, 8, 11).

19. Зак. 3479

**Ле́ска**$_2$ *звыча́йная* 'валасянка шэрая, Sylvia communis Lath.', *ле́ска-завіру́шка,* Sylvia curruca L.' (паўн., КЭС). Лексема з'яўляецца перакладам лац. назвы *silva (sylva)* 'лес' і афармлена пры дапамозе суфікса *-к-а* (як рус. *славка* 'валасянка').

**Ле́скавіца** 'незабудка' (дзятл., Сцяшк. Сл.). Можна дапусціць, што пачатковае *б-* адпала (**блескавіца* ад *блішчэць*). Тады будзе больш зразумелай матывацыя іншых назваў незабудкі ў бел. і іншых слав. мовах: бел. *жабіные вочкі, пацерачка,* польск. *ptasie oczko, pacierzyszka,* укр. *світцян, жабіни очки, гадячі очі, павині вічки,* чэш. *rybí očko, vraní očko,* славац. *hadie, stračie ocko,* а таксама літ. *ašariùkė* (<*ašaróti* 'ліць слёзы'), г. зн. нешта бліскучае, якое вылучаецца на фоне іншых прадметаў.

**Лесканéць**, *лесконе́ць* 'ляскатаць' (ТС). Да *ляскаць.* Суфіксацыя, як у драг. **стугане́ць* (>*стугоні́тэ* 'грукаць').

**Лескатáць**, *ляскатáць, ліскытáць* 'утвараць дробны, перарывісты гук' (ТСБМ), 'стукаць, бразгаць', 'балбатаць' (Юрч., Бяльк.; нараўл., Мат. Гом.), 'клекатаць' (Шат.; чэрв., Сл. паўн.-зах.), *лескаце́ць* 'грукаць' (Клім., Мат. Маг.), *лескату́н* 'балбатун' (Юрч.), *ляскатаць* віл. 'ляпаць', ганц. 'моцна грымець і бліскаць' (Сл. паўн.-зах.), *ліскатну́ць* 'бразнуць', 'балбатнуць' (Юрч. Вытв.). Чэш. мар. *ľeskotat'* 'стукаць зубамі'. Гукапераймальнае. Узнікла як кантамінацыя прасл. *loskotati* і *lěskati* (>*ласкатаць, ляскаць, лёскат, ляскат*) (гл.).

**Ле́скаўка**$_1$ 'дзічка-плод' (добр., гом., Мат. Гом.). Відавочна, гэта семантычны перанос з **леска* 'ляшчына', параўн. харв. *lijèsak* 'тс'>'плод ляшчыны'>'плод ляснога дрэва'. Пры гэтым быў магчымы ўплыў ад'ідэацыі з лексемай *лес* (аб ідэнтыфікацыі прасл. *lěsa, lěska* і *lěsъ* гл. Брукнер, AfSlPh, 39, 1—4; Сабалеўскі, РФВ, 14, 158; 15, 366).

**Ле́скаўка**$_2$ 'гусцера, невялікі лешч, Blicca Bjœrkna L.', 'сінец, Abramis ballurus L.', 'сопа, белавочка, Abramis sapa Pall.', 'кругель' (палес., Крывіцкі, Зб. Крапіве), *ляско́ўка* 'гусцера' (Крыв.), жлоб. *ля́скаўка* 'плотка, Rutilus rutilus' (Жыв. сл.), балг. *ляска* 'дробны лешч', укр. *леска* (р. Прут, чарнавіцк.) 'рыба быстрак, Alburnoides bipunctatus L.', серб.-харв. *ljeskar, ljeskarak, ljeskarica,* а таксама укр. *лещавка* 'лешч, Abramis brama L.' (Лыс.), бел. *лешча́ўка* 'малы лешч', польск. *lescówka.* Роднаснае з *лешч.* Аднак можна дапусціць іншыя версіі: звязаць з коранем *блеск-,* параўн. славац. *blyska,* балг. *блескавец* 'падлешчык', або з коранем *плеск- (плескаць)* — нераст іх адбываецца пры гучным плясканні, шуме вады (гл. Махэк$_2$, 120—121), параўн. славац. *pleskáč, plieskač,* славен. *ploščič* 'лешч'.



**Леснікí** 'дзікія, лясныя яблыкі' (в.-дзв., Шатал., Працы, 6). Шляхам універбізацыі са словазлучэння *лясныя яблыкі.* Пасля ад формы адз. л. *леснік* утворана в.-дзв. *лесьнічыха* 'дзікая яблыня' (Шатал.). Гэтак жа і зах.-укр. *лесниця, лісниця* 'тс'.

**Ле́ста** 'гразка' (шчуч., Сцяшк. Сл.), свісл. *ле́сто* 'тс' (Шатал., Сл. паўн.-зах.). Відавочна, балтызм. Параўн. літ. *laistýti,* лат. *laîstît* 'намазваць', літ. *laitinti, laitúoti* 'замазваць, склейваць', *glaistýti* 'замазваць, шпакляваць', *glaĩstas* 'замазка'.

**Ле́сткі**$_1$ 'частка драбін' (мін. слепненск., КЭС), *ле́стачка* 'лёстка ў лесвіцы' (в.-дзв., Шатал.), *лестачкі* 'тс' (пух., Сл. паўн.-зах.). Да *лёстка* (гл.).

**Ле́сткі**$_2$ 'кампліменты' (Яруш.). Да *лёсткі* (гл.).

**Лесцімóніцца** 'песціцца, лашчыцца' (усх.-бел., КЭС), рус. уладз. *лестимониться, лестефóниться,* смал. *лестимон* 'хітрун', *лестимонно* 'прынадна, цікава, хітра', *лестимонство* 'хітрасць, ліслівасць'. Экспрэсіўнае слова, утворанае ад **лесць* (<рус. *лесть* 'ліслівасць') паводле падабенства да *цырымоніцца, малімоніцца.*

****Ле́сы**, *лíэсы* 'язы для рыбы' (Маш.). Да *ле́са*$_1$ (гл.).

**Ле́та**, *ле́то, ліэ́то, лíто* 'самая цёплая пара года' (ТСБМ, Бяльк., Касп., Сцяшк., Яруш. ТС; драг., стол., Нар. лекс., Сл. паўн.-зах.), *лíта* (мн. л.) 'слаі ў драўніне, паводле якіх вызначаюць узрост дрэва' (Клім.; бяроз., Шатал.), 'год' (Касп., Яруш.), *лета ў лета* 'круглы год' (ТСБМ), *на ле́та* 'на будучы год' (Яруш., Бяльк.), *лета ле́цкае* 'на працягу ўсяго лета' (Ян.), *ліэто, літо* 'цыкл летніх абрадавых песень' (Бес., Клім.), драг. *літá* (мн. лік) у выразе: *выхóдытэ з літ* 'перыяд заканчэння клімаксу ў жанчын' (І. Лучыц-Федарэц), памянш. *летка, летко, ле́цечка* (Кл., Шат., Яруш., Мат. Гом., Сл. паўн.-зах., КЭС, лаг.), *'ле́тны, ле́тні, лíтный, ле́тненькі (ле́тняянькі, летнíнькі)* 'летні', 'цёплы, цеплаваты, ледзь цёплы, трохі падагрэты' (Сцяшк., Бяльк., Шат., ТСБМ, Касп., Сл. паўн.-зах.; нясв., Жд. 2, Др.-Падб., Гарэц., Юрч.), лудз. 'яравы' (Сл. паўн.-зах.), слуц. *ле́ткі* 'тс' (Нар. словатв.), *летавы* 'летні' (Федар. Дад.), ваўк. *летні* 'стары' (БНТ, Лег. і пад.), ст.-бел. *лѣтный, лѣтний* 'які адбываецца летам, які прызначаны для выкарыстання летам', 'аднагадовы, адналетні', 'немалады' (Булахаў, Гіст., 113). Укр. *літо,* рус. *лето,* польск. *lato,* палаб. *ľotü* в.-луж. *lěćo,* н.- і в.-луж. *lěto,* чэш. *léto,* славац. *leto,* славен. *lę̂to,* серб. *лѐто,* харв. *ljȅto,* макед. *лето, ľatu,* балг. *лято,* ст.-слав. **лѣто** 'самая цёплая пара года'>'год (=час ад лета да лета)', прасл. *lěto.* Найбольш пераканаўчай са шматлікіх версій пра паходжанне лексемы можна лічыць этымало-

гію Ваяна (BSL, 64 (2), 124—126), які супастаўляе прасл. *lěto* з літ. *lė̃tas* 'павольны, ціхі, спакойны, лагодны', лат. *lę̃ts* 'лёгкі', лац. *lēnis* 'лагодны, памяркоўны' і адносіць іх да і.-е. **lē-* 'паслабіць, зрабіць больш лёгкім'. Махэк₂ (328) супастаўляе слав. *lěto* з лац. *laetus,* якое першапачаткова мела значэнне 'добры, прыемны, уцешлівы', 'які добра выглядае'. Мартынаў (Балто-слав.-итал. изол., 21—22) адносіць прасл. *lěto* *(vermę)* да італ. інфільтратаў, супастаўляючы яго з лац. *laetus* 'багаты, плённы, квітнеючы, радасны, спрыяльны, прыемны, бліскучы, шыкоўны, тлусты'. Такім чынам, прасл. *lěto* (з суф. *-to,* як *žito*) азначала 'час, перыяд, калі палягчэла з холадам, калі ўсё цвіце, калі чалавеку прыемна, радасна, калі ўсяго ў дастатку'. Іншыя версіі гл. Слаўскі, 4, 70—71; Фасмер, 2, 488—489; Скок, 2, 336—337; Бязлай, 2, 137.

**Ле́таваць** 'праводзіць лета, жыць на працягу лета' (ст.-дар., ганц., Сл. паўн.-зах., ТС, Др.-Падб., Гарэц.), *ле́тываць, лётывацца* (Яўс.), *ляᵉтаваць* 'тс' (Мал.), *лêтоваць* 'перажыць лета (аб пчолах)' (Анох.). Да *ле́та* (гл.). Аналагічна *зімаваць.*

***Летавішча,** *лêтовище* 'гадавое кола ў ствале дрэва' (Нік.; ельск., ЛАПП), лун. *летові́шчэ* 'кольца на розе, паводле якога можна вызначыць, колькі год карове' (Шатал.). Суфікс *-išče* надае значэнне выніку дзеяння. Да *ле́таваць* (гл.).

***Летавік,** *летывік* 'маладняк свойскай жывёлы летняга нараджэння' (Юрч. Вытв.). Утворана ад *летавы* 'летні'. Да *ле́та* (гл.).

**Летаёнцы** 'які любіць бегаць (аб карове)' (тракт., Сл. паўн.-зах.). З польск. *latający* 'які лётае'.

**Летак** 'лета' (Яруш.). Суфікс *-(а)к* надае канкрэтызацыю ў значэнні 'лета', большую акрэсленасць, дакладнасць часу. Недастатковая інфармацыя пра лексему не дазваляе выявіць матывацыю.

**Летаніна** 'беганіна' (шчуч., Сл. паўн.-зах.), міёр. *літаніна* 'лётанне, беганне, мітусня' (Нар. словатв.). З польск. *latanina* 'тс'.

**Ле́тась** 'у мінулым годзе' (ТСБМ, Сцяшк., Касп., Шат., Гарэц., ТС, Мал., Грыг., КЭС, лаг; калінк., жлоб., гом., добр., рэч., Мат. Гом.; горац., маг., КЭС; аўгуст., Карл.), драг. *лі́тюсь, лі́тюся* (З нар. сл.), лун., бяроз. *ле́тося, ле́туся* 'тс' (Шатал., ТС), сакульск., гродз. *ле́тось* 'гэтага года' (Кар., Труды) — апошняе, відавочна, пад уплывам польскай мовы. Укр. *лі́тось, лі́тісь, летось,* польск. *latoś* 'сёлета', н.-луж. *lětos(a),* в.-луж. *lětsa,* чэш. *letos, letose,* славен. *lẹ́tos,* серб. *лѐтос(ке),* харв. *ljětos,* хварск. *lĩtos,* макед. *летоска,* балг. *лятос(ка),* прасл. *lěto-se* 'гэтага года'. Да *лета* (гл.) і *-se,* якое з займенніка *sь*



'гэты'. Яно прысутнічае ў постфіксах *-сь, -сьці (калісьці).* Больш падрабязна пра *-сь* гл. Сабалеўскі, РФВ, 71, 1904, 15—17; Абрэмбская-Яблонская, БЛ, 9, 16—19. Гл. таксама Слаўскі, 4, 73—75. Сюды ж *ле́ташні* 'мінулагодні' (Некр., Бяльк., Касп., ТС, Шат., Сцяшк.), *летышній* (Грыг.), *літёшны* (Сіг.), драг. *лі́тюшны(й)* 'тс' (З нар. сл.), *ле́ташнік* 'цялё, якому ідзе другі год' (Касп.; глыб., рас., Сл. паўн.-зах., ТС).

**Ле́таўнік** 'дровы, назапашаныя летам на наступны год' (ст.-дар., Нар. сл.). Да *ле́тавы*<*лета* (гл.).

**Ле́ташак,** *ле́ташка, леташок, ле́тышык, літашок* 'пералетаванае, аднагадовае жарабя, цялё' (Касп., Юрч., Мат. Гом., Бяльк., Яўс.; чэрв., Нар. лекс.; бярэз., чэрв., Сл. паўн.-зах.). Да *ле́тась* (гл.). Аб суфіксе гл. Сцяцко, Афікс. наз., 131 і 220.

**Ле́тка**₁ 'летняя пшаніца' (полац., Нар. лекс.). Утворана ад *ле́та* (гл.) па тыпу *я́рка* 'яравая пшаніца'.

**Летка**₂ 'адтуліна ў вуллі для пчол' (пін., КЭС). Да *ляток* 'тс'. Аформлена ж. р. па аналогіі да *дзірка.*

**Летка**₃ 'рыба гусцерка, Blicca Bjoerkna L.' (зах.-дзвін., Інстр. 2, Жук.). Няясна. Магчыма, роднаснае з лат. *leste* 'рачная камбала', літ. *lė̃kstas* 'плоскі'.

**Ле́ткі** 'лёгкі' (Сцяшк.), 'хуткі, шпаркі, рухавы, быстры на ногі' (зэльв., Сл. паўн.-зах.; слонім., Нар. лекс.; карэліц., Нар. словатв.), *ле́тка* 'хутка' (КЭС, лаг.), 'лёгка' (в.-дзв., трак., ваўк., беласт., Сл. паўн.-зах.) і аналагічна *леткае, леткія* 'лёгкае' (гродз., Сл. паўн.-зах.). Афармілася пад уплывам польск. *letki* 'лёгкі' з *лёгкі* (гл.). Сюды ж *ле́цянкі* 'лёгенькі' (Сцяшк.), а таксама *ле́цянкі* 'рэдзенькі (пра суп)' (Сцяшк.).

**Ле́тнік**₁ 'дарога (праз балота), па якой ездзяць летам' (рагач., Сл. паўн.-зах.; чэрв., Жд. 2, Янк. I; докш., Янк. Мат.; гом., ветк., Мат. Гом.), драг. *лі́тнык* (Клім.), *лятнік, лятняк* (Нар. АЛА Гом.). Укр. канатопск. *лі́тняк* 'тс'. Рус. паўн., сіб. *ле́тник, летня́к* 'летняя дарога (на беразе ракі)'. Утворана ад *летні* (магчыма, ад *lětnъjь pǫtь*). Суфікс *-ік-* — як у *зімнік.* Да *ле́та* (гл.). Сюды ж *летнікавая дарога* 'тс' (рагач., Сл. паўн.-зах.).

**Ле́тнік**₂, *лі́тнык* 'саматканая спадніца з шэрсці' (Сіг.; нараўл., Мат. Гом.), 'зімовая шарсцяная спадніца' (Тарн.; брэсц., Малч.), 'андарак' (лельч., нараўл., ДАБМ). Укр. паўн. *лі́тник* 'тс'. Да *ле́та* (гл.). Семантычна звязваецца з семай 'на гады, не на адзін год', або 'для летніх, г. зн. для немаладых жанчын'.

**Ле́тнік**₃ 'пінжак' (гарад., чыж., Сл. паўн.-зах.), 'летні пінжак' (Мат. Гом., ТС, Ян.), 'летняя лёгкая жаночая вопратка без падкладкі' (чэрв., Жд. 2, Янк. I). Укр. *літні́к, літня́чка,* рус. вяц., паўн., смал. *летник* 'тс', ст.-рус. *лѣтьникъ* 'лёгкае

жаночае адзенне', польск. *letnik, letniczek,* в.-луж. *lětnik* 'летняе паліто', славац. *letník* 'летняя суkenка'. Прасл. *lět-ьn-ikъ<lět-ьnъ.* Да *лéта* (гл.).

**Лéтнік**$_4$ 'летняе стойла' (Ян.). Да *лéта* (гл.). Утворана, як і *даржнік, дзяннік, пастаўнік* 'тс'.

**Лéтнік**$_5$ 'цвёрды дуб, Quercus robur L.' (гродз., Кіс.). Утворана ад *лéта* 'год'>'шматгадовы дуб'.

**Лéтнік**$_6$ 'пералетаваныя дровы' (ТС). Да *лéта* (гл.).

**Летніска** 'месца летняга адпачынку' (Сцяшк. Сл.). З польск. *letnisko* 'тс'.

**Лéтніца** 'летнік, лёгкая спадніца' (Федар. Дад.). У выніку універбізацыі словазлучэння *лéтняя спадніца.*

**Лéтніцтва** 'летні час, час адпачынку летам' (Жд. 1). Да *лéта* (гл.). Аб суфіксе *-цтв-а* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 139.

**Леў** 'драпежны звер, Felis leo' (ТСБМ, Яруш., Кл.). Ст.-бел. *левъ* (XV ст.), укр. *лев,* рус. *лев,* ст.-рус. *львъ* (XI ст.), польск. *lew,* н.-луж. *law,* в.-луж. *law,* палаб. *l'åv,* чэш. *lev,* славац. *lev,* славен. *lèv,* серб.-харв. *лâв,* макед. *лав,* балг. *лъв, лъвът, лев,* ст.-слав. **львь**. Прасл. *lьvъ* выводзіцца звычайна (Міклашыч, 179; Фасмер, 2, 471 і інш.) са ст.-в.-ням. *lëwo* 'леў', якое з лац. *leō,* ст.-грэч. λέων. Ошчір (Зб. Развадоўскаму, 1, 295—313) ст.-грэч. крыніцу падае ў выглядзе λῖς (якое з *λiFι-ς), што з'яўляецца запазычаннем са ст.-сяміцк. *lajiš* 'леў'. Хутчэй за ўсё *леў (львъ)* прыйшло кніжным шляхам (пры вусным запазычанні было б *лёў*). Іншыя этымалагічныя версіі гл. таксама Слаўскі, 4, 182—184.

**Леўны** 'дажджлівы' (ТС), як і *лéўка, лéвачка* 'кубак' (Касп.), 'чарпак з кароткай ручкай, якім выліваюць ваду з лодкі' (Касп.; полац., З нар. сл.), адносіцца генетычна да прасл. *levati* — дзеяслова шматразовага дзеяння ад *lьjati* 'ліць'>>напр., укр. *льляти,* польск. *lać.* Гл. таксама *лéя.*

**Лехавы** 'алешнікавы' (навагр., Сл. паўн.-зах.). Да *⁺альхá* (з адпадзеннем пачатковага *а-*). Гл. *вольха, алёс.*

**Лéхі** 'рыззё' (свісл., Сл. паўн.-зах.). Відавочна, у выніку кантамінацыі *лахі* 'тс' і *лехі<ляхá* 'вузкая палоска'.

**Лéцён** 'сенцы, камора' (пін., Колб.; ц.-палес., Нар. сл.), лун. *лёттен* (Шатал.), *летён, лéцень* (Тарн., Шн. 3; маз., Нар. лекс. Гом.), жытк. *ляцён* 'тс' (Мат. Гом.). Утворана ад прыметніка *летні* пры дапамозе суфікса *-ён* (Сцяцко, Афікс. наз., 103). Не выключана, аднак, версія аб утварэнні лексемы з прасл. асновы *lęk->lęcati* 'нагінаць, нацягваць', параўн. рус. *наляцáть, налячúть* 'напінаць, нацягваць (лук, пастку, сетку)', ст.-рус. *ляцати* 'расстаўляць пасткі', ст.-слав. **налѧшти** 'нацягваць лук', **лѧцати** 'ставіць пастку', чэш. *léceti, líceti,* в.-луж. *lac,* н.-луж. *lěc* 'тс', славен. *lécati (se)* 'гнуць', літ. *leñkti* 'згінаць, нахіляць'. Тады палес. *лецён* першапачаткова азначала б 'клетка-лавушка' з загнутых дубцоў у выглядзе будана' (параўн. палес. *камарнік*). Бязлай (2, 130) таксама выводзіць славен. *lèсеn* 'пастка для лоўлі птушак' з *lęk-,* а Штрэкель (там жа) выводзіць яго з ням. баварск. *die Letz, Letzen* 'пастка'.



**Лéці** 'леты, гады' (Бяльк.) — з формы парнага ліку, параўн. ст.-бел. *лѣтѣ* (з рэдукцыяй галоснай *-е* ў канцы слова). Да *лéта* (гл.).

**Лéціцца** 'грэцца (аб вадзе)', *лéціць* 'падаграваць ваду' (Яўс.). Да *лéта* (гл.). Сюды ж *летны* 'цёплы' (Сцяшк. Сл.).

**Лéцішча** 'месца летняга адпачынку' (іўеў., Сл. паўн.-зах.), 'кашара' (Нар. лекс. Гом.). Да *лéта* (гл.).

**Лецы́тва** 'дзікая, вялікая качка' (Нас.). Няясна. Мартынаў (вусн. паведамл.) мяркуе, што гэта — старая лексема, якая накшталт чэш. *koroptev,* ляш. *kurotva* 'курапатка' (Махэк$_2$, 278) складаецца з дзвюх: *lětь* (<*lětati* 'лётаць') і *patva* (<*pъty,* р. скл. *pъtъve* 'птушка'). У такім выпадку для лексемы *лецытва* можна было б вывесці значэнне 'лётаючая птушка' паводле таго, як Махэк$_2$ (там жа) для прасл. *kuropъty* 'курапатка' вывеў 'бегаючая птушка'.

**Лець** у параўн. *як лець* 'ледзь цёплы, летні' (слонім., Нар. словатв.). Праформа *lětь.* Да *лéта* (гл.). Параўн. бел. *залéціць* 'запэўніць', 'папярэдзіць загадзя' (Нас.). Больш падрабязна аб ім гл. Слаўскі, 4, 95—97.

**Леч,** *лежч* 'легчы' (Бяльк.). Параўн. рус. *лечь* 'тс'. Другая лексема з *-ж-* — кантамінаваная (параўн. *ляжаць*).

**Лечáя,** *лечэ́я, лічáя, лéчая* 'адтуліна, дзірка ў верхнім камені жорнаў для засыпкі збожжа' (Тарн.; пін., Шатал.; пух., ганц., калінк., Сл. паўн.-зах., Ян.). З *ечая* (пераход *й->л*'). Параўн. *ачай* 'тс' (Сл. паўн.-зах.), *ячэйка* (гл.).

**Лечмáн,** *лэчмáн, лічмáн, лычмáн* 'маністы, жаночая аздоба на шыі' (малар., драг., Сак.). Укр. *личмáн* 'тс', ст.-укр. *личманú* 'металічныя бляшкі для лічэння', рус. кур. *личман* 'тс' польск. *liczman* (з XVI ст.) 'тс'. Паводле Слаўскага (4, 242—243), усе словы паходзяць з польск. мовы, дзе *liczman* (<*liczyć*) з'яўляецца калькай з лац. *calculus* 'каменьчык для лічэння', утворанай ад *licz-* і суф. *-man* (як *łachman* і інш.). А іншых версіях гл. там жа.

*__Лешкаць,__ *лэ́шкаты* 'пакладаць, кастрыраваць' (кобр., Нар. лекс.). Інфікс *-к-* перадае аднаразовасць дзеяння (як, напрыклад, драг. *пэцатэ — пэцкатэ* 'пэцкаць'). Лексема ўзыходзіць да рус. *лишать* 'пазбаўляць чаго-небудзь'. У суседніх драгаворках — *лэ́чатэ* 'пакладаць' (І. Лучыц-Федарэц).

**Лешукі** 'лесуны, лясныя нячысцікі' (Нік. Няч.). Рэгі

нальнае бел. утварэнне з суф. *-ук* ад *леш-* (параўн. гродз. *лёшы* (Сл. паўн.-зах.), рус. *леший*<*lěs-jь*).

**Лешч** 'рыба Abramis brama L.' (Жук., Дразд., ТС, Крыв., Бяльк., Касп., Яўс., Яруш., Яшк. З жыцця; полац., З нар. сл.; навагр., вільн., лудз., Сл. паўн.-зах.). Укр. *лещ, лещик, ліщ, лящ*, рус. *лещ*, ст.-рус. *лещь*, польск. *leszcz*, ст.-польск. *kleszcz*, н.-луж. *klěšć*, чэш. *dlešť, dlešec*, ляш. *klesť*, ст.-чэш. *dlešč*, славац. *pleskač, plieskač*, славен. *ploščič*, балг. (у Герава) *лещ* 'тс'. Паводле Махэка₂ (120—121), усе слав. назвы з'яўляюцца гукаперайманьнымі ад слоў *dleskati / pleskati / leskati* — менавіта ў час нерасту ляшчы плёскаюцца, б'юцца аб ваду (Фэр'янц, Sloven. názvosl. ryb, 53). Аналагічна Слаўскі (4, 172, 173) прасл. *lesk-jь* узводзіць да *leskati* 'ляскаць' / *leščati* 'ляшчэць'. Пацвярджэннем гэтага служаць, напрыклад, бел. *лешч* 'удар далоняй рукі па ніжняй частцы цела', *лягиа ўзяць* 'упасці задняй часткай цела' (Нас.), круп. *ляшч* 'удар далонню' (Нар. сл.), бялын. 'аплявуха, поўха' (Яўс.). Фасмер (2, 430) звязвае лексему *лещ* з лат. *leste*, эст. *lest* 'камбала'. Іншыя версіі гл. Фасмер, 2, 430—431. Гл. таксама *лящ*. Каламіец (Происх. назв. рыб, 67) дапускае як самастойнае ўзнікненне прасл. *leščь (ljaščь)* на славянскім грунце, так і магчымасць запазычання лексемы з балтыйскіх гаворак.

**Лешчаваннік** 'малады арэшнік, з якога робяць абручы' (Дэмб. 2), *лешчавіна* 'арэшына' (Нас.). Да *ляска*₁.

**Лёшчаткі**, *лэшчаткі* 'хірургічныя шыны' (брэсц., Нар. лекс.; драг., Сл. паўн.-зах.), 'расшчэпленая палка' (Сцяшк. Сл.), *(к)ляшчоткі* 'прыстасаванне для пакладання жывёл', 'дошчачкі, якія ўдараюцца адна аб адну для атрымання гуку', *лешчотка* 'драўляныя ціскі' (ТС). Укр. *лещата, лешчати* 'шчамлёткі', 'шыны', 'ляшчоткі для пакладання коней', рус. *лещотка* 'тс', *лещадь* 'распілаваная палка, жэрдка для здымання фруктаў з дрэва', польск. *leszczota, leszczoty, leszczotki* 'шыны', ст.-польск. *leszczotka* 'расшчэпленае паленца, якое ўжывалася для пакладання', магчыма, чэш. мар. *lešta* 'дошчачка, на якую вешаюць карціны'. Паўн.-прасл. *lešče-etь, leščetka, leščedь*, родныя да *leskati, leščati*,— паводле Бернекера (1, 702). Больш падрабязна гл. Куркіна (Этимология-1974, 47—49), Фасмер (2, 491), Слаўскі (4, 174—176). Сюды ж з семантычным пераносам (паводле падабенства) лексема *лёшчаткі* 'сцёгны' (свісл., Шатал.). Гл. таксама *ляшчоткі*.

**Лешчаўка** 'гусцера, Blicca Bjoerkna L.' (Інстр. 2). Да *ляскаўка*₂ (гл.).

**Лёшчы** 'прэс для выціскання мёду' (Бес.). Да *клешчы* 'тс' (воран., круп., вільн., Сл. паўн.-зах.). Гл. таксама Куркіна (Этимология-1974, 48).



**Лёшы** 'нячыстая сіла' (Сцяшк., ТС). Рус. *леший* 'лясун, д'ябал'. Адсубстантыўны прыметнік *lěšjь*. Да *лес* (гл.). Параўн. ст.-рус. *лѣший* 'парослы лесам'. Літаратуру гл. Фасмер, 2, 490.

**Лёшына** 'лысіна' (карэліц., Сцяшк. Сл.). Відавочна, з *плешына* 'тс', параўн. рус. *плешь*.

**Лёя** 'ўстаўка ў штанах' (нараўл., Сакал.). Да *лéі*₂ (гл.).

**Лёяць** 'ліць' (чэрв., пух., бярэз., рагач., Сл. паўн.-зах.; кіраў., Нар. сл., ТС), смарг. *лéіць* (там жа). Укр. *ліяти*, ст.-рус. *лѣяти* 'тс', балг. *леян* '(ад)літы' — з прасл. *lějati* — другасны дзеяслоў, утвораны пад уплывам формы цяперашняга часу *lěję* ад першаснага *ljati, lьjǫ / liti* (Слаўскі, 4, 121). Сюды ж *лея* 'лівень' (слуц., лельч., Сл. паўн.-зах., ТС), 'праліўны дождж' (Сцяшк. Сл.; браг., Мат. Гом., Ян.)<прасл. *lěja*; утворанае, як *вея* (гл.), і пераноснае ўздз. *лéя* 'тоўстая жанчына' (Жд. 2) у сэнсе 'залітая тлушчам'.

***Лёганёўе**, *ліганёўе* 'лёгкія' (КЭС, лаг.). Утворана пры дапамозе суфікса *-ёўе* (са значэннем сукупнасці прадметаў — Сцяцко, Афікс, наз., 205—206) ад *леган-* (магчыма, +*легань*, як *печань*), параўн. укр. *легéні* 'лёгкія'. Да *лёгкі* (гл.).

**Лёгкі**, *лёхкі, лёккі, лёкі, лёгкый* 'няцяжкі, лёгкі вагою' (ТСБМ, Яруш., Нас., Бяльк., Сл. паўн.-зах., Сцяшк., ТС), 'тс', 'негарачы (дух)' (Ян.), 'немарозны, адліжны', вільн., драг., воран. 'рухавы, імклівы', в.-дзв., драг. 'свежы (пра паветра)', чыж. 'немудрагелісты, нескладаны' (Сл. паўн.-зах.), *лёгка* 'спакваля, патроху, паступова', *лігусенькі, легусенькі, лёгенькі* (Нас.), драг. *лёхка зымня* 'глеба на нізкіх, балотных мясцінах' (Клім.), сувалк. *lgniusce* 'грузкі луг'. Укр. *легкий*, рус. *лёгкий, лёккой*, ст.-рус. *льгъкый, легкыи*, польск. *lekki (lejki, letki, lehki, lefki)*, малапольск. *lęki*, палаб. *l'ọ̊t'ě*, н.-луж. *lažki, ležki*, устар. *letki, leki*, в.-луж. *lochki, lohki, lóžki*, чэш. *lehký, lechký, lefký, l'evký*, славац. *l'ahký, l'ächki, l'eki*, славен. *láhek, lahèk, lahāk* і *lágek, lagâk, legák*, серб.-харв. *лāк*, чак. *lāgak, lājk*, кайк. *legek, lehkek*, макед. *лек, л'ек, лък*, балг. *лек, лък, лечок* ж. і н. р. *ленка, ленко*, ст.-слав. **льгъкъ, лькъкъ**, ц.-слав. *льхъкъ*. Прасл. *lьgъkъ* 'лёгкі, з малой вагой', 'няцяжкі', роднаснае з лац. *levis*, літ. *leñgvas*, лат. *liêgs*, ст.-інд. *laghuṣ, raghúṣ*, авест. *rayu-*, пракельц.* *lag-ios*. Спіс літаратуры гл. Слаўскі, 4, 129—132; Фасмер, 2, 473—474. Сюды ж *лёгкотá, легкотá* 'лёгкасць' (ТС).

**Лёгкія**, *лёгкіе, лёхкі, лёгкы, лёхке* 'орган дыхання' (ТСБМ, Дразд.; арш., кам., бяроз., КЭС, Сцяшк.), *лёгкае* (Касп.), *лёгкая* 'тс' (Ян.), *лёгкія вантробы* 'тс' (Інстр. лекс.). Укр. *легкі, лехкі, льохкіе, легке*, рус. *легкие, легкое*, ст.-рус. *легкое*, польск. *lekkie*, мазав. *letka wątroba*, н.-луж. *lažke*, чэш. мар.

*l'ehčiny* 'вантробы', мар.-славац. *l'ehké* 'лёгкія'. Паўн. прасл. дыялектызм *lьgъko-je, lьgъkije*. Генетычна тоеснае з папярэднім словам. Матывацыя назвы: пры разборцы тушы забітай жывёлы, калі ўсе вантробы кладуцца ў цэбар з вадой, лёгкія ўсплываюць. Аналагічна ў іншых мовах: англ. *lights* 'лёгкія некаторых жывёл' — *light* 'лёгкі', ісп. *livianos* — *liviano* (Фасмер, 2, 474; Слаўскі, 4, 132).

**Лёгма** *(ляжаць), лéгма, лігма, логма, лéжма* 'лежачы' (Нас., Сл. паўн.-зах.). Укр. *легма, лігма, лежма, лежмом, лезьма (лежати)*, рус. *лёгма лежать*, польск. люблінск. *legma leżeć*, славен. *lęgoma*. Да *легчы, ляжаць*<*legti* (Слаўскі, 4, 117). Суфікс *-ъта* т. скл. даволі часта ў бел. гаворках утварае падобныя прыслоўі з інфінітывам: *крычма крычаць, бегма бегчы*, драг. *прíсьма просэ́тэ*.

**Лёд**, *лід* 'замёрзлая вада' (ТСБМ, Нас., Бяльк., Касп., Сцяшк., Бяс., Ян., Сл. паўн.-зах.), *лёдзіна, лёдіна, лёдына* 'ільдзіна' (Зн.; бяроз., лун., Шатал.). Укр. *лід*, рус. *лёд*, польск. *lód*, н.-луж. *lod*, в.-луж. *lód*, чэш. *led*, славац. *l'ad*, славен. *lę̂d*, серб.-харв. *лёд*, макед. *лед, л'ет*, балг. *лед, ледът*, ст.-слав. **лєдъ** 'лёд, мароз, лёдавы холад'. Прасл. *ledъ* адпавядаюць літ. *ledùs*, лат. *lędus* 'лёд', а таксама формы з *o*-асновай літ. *lēdas* 'лёд', *ledaĩ* 'град', ст.-прус. *ladis*. Магчыма, роднасным будзе і ірл. *ladg* 'снег' (Стоўкс, 239). Параўн. ст.-грэч. λίϑος 'камень'. Агляд літаратуры гл. Фасмер, 2, 474; Слаўскі, 4, 339—341; Скок, 2, 283—284; Бязлай, 2, 130; Шустар-Шэўц, 856). Сюды ж лун. *лёденік* 'вада на паверхні лёду' (Шатал.).

**Лёды** 'марожанае' (шчуч., Сцяшк. Сл.). З польск. *lody* 'тс'.

**Лёз** 'зазор' (гродз., Нар. сл.), *лёзны* 'свабодны, нічым не заняты' (Бяльк.), 'пусты, лёгкі' (КЭС, лаг.), 'неказырны' (Янк. I), сувалк. *loźniak* 'агароднік, бедны селянін, які жыве за вёскай' (КСПГ), ст.-бел. *лезный, лиозный, люзный* 'вольны' (з XVI ст.) запазычаны са ст.-польск. *luz* (польск. *luz*, каш. *loz, lóz* 'вольнае месца'), *luźny* 'свабодны, разрознены', якія паходзяць з ням. *los* 'свабодны, з зазорам'<ст.-в.-ням., с.-в.-ням. *los* 'свабодны, расслаблены', 'гарэзлівы' (Слаўскі, 4, 393; Булыка, Запазыч., 192). Гл. яшчэ *лёс*$_2$.

**Лёза**, *лёзо* 'лязо' (Ян., Янк. II, Дразд., Мат. Гом.; слуц. КЭС). Гл. *лезіва*$_2$.

**Лёзны**$_1$ 'ласкавы, ветлівы' (глыб., паст., в.-дзв., Сл. паўн.-зах.). Генетычна роднаснае з літ. *liúožti* 'паважаць' (Грынавецкене, Сл. паўн.-зах., 2, 649).

**Лёзны**$_2$ 'пусты, свабодны' (Бяльк.). Да *лёз* (гл.).

**Лёк**$_1$ 'селядцовы або агурочны расол' (Мядзв., Гарэц., Бяльк., Касп., Мат. Шкл., Мат. Маладз., Сцяшк., Шат., Нас., Сл. паўн.-зах.; маладз., Янк. Мат.), 'юшка, рыбная поліўка' (Сцяшк.), 'унутранасці селядца' (Грыг.), 'густая наліўка (вадкая частка)' (Нас.). Лексема ўзнікла ў выніку кантамінацыі *ляк* 'расол' (<польск. *lak*) і польск. *loch* 'густы сіроп з чаго-небудзь' (<італ. *loc, locco*<с.-лац. *lohoc* 'густое лякарства, падобнае да павідла' (Слаўскі, 4, 30, 319). Сюды ж (у выніку пераносу значэння) і ганц. *лёк* 'вада, падсаложаная мёдам' (Сл. паўн.-зах.).



**Лёк**$_2$ 'біццё сэрца ад спалоху', *лёкі* 'спалох, перапуд' (зах., КЭС). Да *лякаць, лекацець* (гл.).

**Лёк**$_3$, *лёкі* 'кудзеры, локаны' (Бяд., Сцяшк.). Запазычана з польск. *lok, loki* 'тс' (з XVIII ст.), якія з ням. *Locke*, мн. л. *Locken* (Брукнер, 316).

**Лёка** 'шпянёк для замацоўвання кола на восі' (бераст., Сцяшк. Сл.). Няясна. Відавочна, з *лёнка* 'жалезная загваздка ў восі' (гродз., Нар. сл.), у якім *-н-* выпала з прычыны гіперправільнасці па-беларуску (пры наяўнасці польскага *-ą-*).

**Лёкай** 'лакей' (Шат., Яруш., ТСБМ), ст.-бел. *лекай* (XVI ст.) запазычана са ст.-польск. *lokaj* 'слуга, апрануты ў ліўрэю', якое з ням. *Lakai* 'слуга'<ст. *lakei, lakey* 'той, хто пяшком суправаджае свайго пана' (Булыка, Лекс. запазыч., 91; Слаўскі, 4, 326). Шатэрнік (146) беспадстаўна выводзіць польск. непасрэдна з франц. *laquais* 'тс'.

**Лёка́ла** 'латок, па якім пчолы запаўзаюць у вулей' (віл., Сл. паўн.-зах.). Грынавецкене (Сл. паўн.-зах., 2, 650) супастаўляе яе з літ. *lakẽlė* 'тс'.

**Лёля**, *лёлечка, лёлька* 'кашуля (з дзіцячай мовы)' (Гарэц., Янк. II, Клім., Некр., Жд. 1, Бяльк., Шат., Мат. Гом., Нас.; слаўг., Мат. Маг.; паўд.-мін., КЭС). Укр., рус. смал. *лёля* 'тс', кур. *лёлька* 'маленькае дзіцё'. Усх.-слав. утварэнне, звязанае, відавочна, з літ. *lelẽ* 'грудное дзіцё, немаўля'. Фасмер (2, 479), аднак, параўноўвае рус. лексему з іншымі слав., напрыклад, з серб.-харв. *љелна* 'старэйшая сястра', укр. *лельо* 'татачка' (параўн. і рус. свярдл. *лелько* 'хрышчоны бацька'), балг. *леля* 'цётка' і інш., якія (паводле Шаўра, Etymologie, 22) адносяцца да асновы *lel-/lal-* і з'яўляюцца ўтварэннем у дзіцячай мове. Параўн. таксама *лéля*.

**Лём** 'вяз ліставы, Ulmus foliacea L.' (гом., маг., Кіс., Мат. Гом.; брасл., Сл. паўн.-зах.; рэчыц., Нар. сл.). Укр. *льом* 'вяз, Ulmus montana', рус. *лем* (у Аненкава без лакалізацыі), н.-луж. *lom* 'вяз' — праформу апошняга выводзіць Шустар-Шэўц (859) у выглядзе *elmъ*. Звязана з *ільм, ільмак* (гл.).

**Лёмаць**, *лёматі* 'бегчы (аб свіннях)' (Бес.). Відавочна, балтызм. Параўн. літ. *lėmúoti* 'цяжка дыхаць'. Магчыма і іншае (напр., гукапераймальнае) паходжанне. Параўн. драг.

*шлёматэ,* глус. *шлэпаць* 'ісці з шумам: *шлём-шлём! шлэп-шлэп!*'.

**Лёмбас,** *лёмбасе* (мн.) 'сцябло чаго-небудзь' (шальч., Сл. паўн.-зах.). Балтызм. Параўн. літ. *lámbas* 'бацвінне'. Гл. таксама *ламбы.*

**Лён,** *лянок* 'валакніста-алейная расліна Linum usitatissimum L.' (Нас., ТСБМ, Касп., Кл., Бес., Сцяшк., Бяльк., Шат., Яруш., Сл. паўн.-зах.), 'пража з ільну' (Бяс., ТСБМ, КЭС, лаг.), 'кужаль', 'льняное валакно на розных стадыях апрацоўкі', 'гатаванае льняное семя, якое ўжываецца для прапіткі асновы' (Уладз., Сл. паўн.-зах.). Укр. *льон (лен,* закарп. *льон),* рус. *лён,* польск. *len (lan, lyn, lin, lyjn, lęn, lqn),* палаб. *l'ân,* н.-луж. *lan,* в.-луж. *len,* чэш. *len,* славац. *l'an,* славен. *lân,* серб.-харв. *лȁн,* макед. *лен (l'en, lъn),* балг. *лен, лéнът,* ц.-слав. *льнъ* 'тс', ст.-слав. **льнѣнъ** 'льняны'. Прасл. *lьnъ,* якому адпавядаюць: літ. *lìnas, linaĩ,* лат. *lins, lini,* ст.-прус. *linno,* ст.-грэч. λίνον, алб. гег. *l̦ini,* ірл. *lin* 'сетка', лац. *līnum* 'тс', гоц. *lein* 'палатно'. Паводле Шрадэра (Reallex, 1, 323) і Кастшэўскага (Sł. staroż. sł., 3, 42), ільнаводства было вядома індаеўрапейцам. Тое ж Слаўскі, 4, 150; Скок, 2, 266; Бязлай, 2, 123. Фасмер (2, 481) не выключае таксама і старажытнага культурнага запазычання. Махэк₂ (326) бачыць у гэтай лексеме рэшткі праіндаеўрапейскага субстрату. Сюды ж *лённый* 'ільняны, з ільну' (Бяльк.), *лёнішча* 'поле, на якім рос лён' (навагр., З нар. сл.; Сцяшк. Сл.), *лёнок* 'лянок, зарніца звычайная, Linaria vulgaris Mill.' (Маш.), *лёнок* 'макрыца' (ТС), бяроз. *лёнык* 'праснак з тоўчанага льнянога семя і мукі, які пяклі на Івана Купалу' (Слав. і балк. фальклор, 141).

***Лёнак,** *лёнок* 'затычка на канцы бруса, які злучае заднюю і пярэднюю часткі воза' (гродз., Нар. сл.). Укр. валын. *льóник, льóнок, льóнка, льóнтик* 'штыр у рэгулятары плуга', паўн.-укр. *льóник* 'загваздка на восі', гуц. *льóнок, льóнток* 'частка варштата', польск. *lon* 'шворан, болт', н.-луж. *lon(k),* в.-луж. *lón* — усе ўзыходзяць да н.-в.-ням. *lonne* (Махэк₂, 341). Бел. лексемы запазычаны з польск. мовы.

**Лёнд** 'сухая дарога' (Совещ. ОЛА — Гомель), ст.-бел. *лиондъ, лондъ* 'суша' запазычана са ст.-польск. *ląd* 'тс', 'бераг'<с.-в.-ням. *lant, -des,* ням. *Land* 'зямля, ралля, глеба, вёска, край', 'суша' (Булыка, Запазыч., 190; Слаўскі, 4, 84).

**Лёндар,** *лóндар* 'макацёр' (ТС) утварылася ў выніку перастаноўкі зычных з *рондаль* 'каструля з ручкай' (<польск. *rondel* 'тс'<франц. *rondelle* 'кружок, шайба'). Сюды ж памяншальнае жытк. *лёндрік* 'малы збан' (Нар. словатв.) і швянч. *лёндрачка* 'від міскі' (Сл. паўн.-зах.).

**Лёпаць** 'пляскаць у далоні, апладзіраваць', 'шлёпаць' (Сцяшк., ТС), 'рабіць гук далоняй або чым-небудзь плоскім' (Нас.), 'з шумам біць, ляпаць' (ТСБМ), *лёпнуць* 'стукнуць' (гродз., Сл. паўн.-зах.), 'упасці' (Ян.), *лёпнуцца* 'ўпасці задняй часткай цела' (Нас.; карм., Мат. Гом.), *лёпацца* 'плёскацца, паласкацца' (ТС). Укр. палт. *льóпати* 'ляпаць, пэцкаць', рус. арханг., цвяр., пск., разан. *лёпнуть* 'лёпнуць', паўдн. 'разбоўтваць што-небудзь распырскваючы', вяц. 'рабіць абы-як'. Гукаперайманне, утворанае ад выгуку *лёп!* 'удар далоняй па мякаці цела', 'удар чым-небудзь ліпкім' (Нас.), мсцісл. 'пра пэцканне, мазанне' (Нар. лекс.). Аб утварэнні гл. Васілеўскі, Прадукт. тыпы, 60. Сюды ж клец. *лёпало, лёпанка* 'балабон, пустазвон' (Нар. лекс.), уздз. *лёпалка* 'прылада для знішчэння мух' (Жд. 2), клец. *лёпы* 'пустая балбатня' (Нар. лекс.), *лёпайка* 'лінейка, раздвоеная з аднаго канца, якая ўжываецца ў гульні «ляшчоткі»' (Нас.). Са значэннем 'пэцкаць' звязана тураў. *лёпа* 'тоўстая, неахайная жанчына' (ТС).



**Лёпенькі** '(аб вопратцы) лёгенькі, падагнаны да стану' (Янк. I). Рэгіянальнае ўтварэнне з суфіксам *-еньк-* ад ⁺*лепы*<<прасл. *lěpьjь,* ад якога паходзіць і бел. *лепшы* (гл.). Пачатковае *лё-*, відаць, пад уплывам народнай этымалогіі ад *лёгенькі.*

**Лёс**₁ 'доля, умовы далейшага існавання', 'сутыкненне, збег абставін, акалічнасцей' (ТСБМ, Гарэц., Бяльк., Касп.), 'жэрабя' (драг., Сл. паўн.-зах.), ст.-бел. *лиосъ* 'лёс, жэрабя' (XVI ст.) запазычана са ст.-польск. *los,* якое з с.-в.-ням. *lōz* 'лёс, доля, прызначэнне' (Булыка, Лекс. запазыч., 193; Кюнэ, Poln., 73; Чартко, Бел. лінгв. зб., 152; Слаўскі, 4, 333). Сюды ж гродз. *лёсы* ў выразе: *лёсы на кій мераць* 'рабіць выбар' (Нар. словатв.), смарг. *лёсы* 'паперкі з нумарамі, якія выцягваюць пры жараб'ёўцы' (Сцяшк. Сл.).

**Лёс**₂ 'вузкі прамежак, лаз' (іўеў., Сл. паўн.-зах.). Да *лёз* (гл.).

**Лёска** 'лязо, жалезка ў гэбліку' (Бяльк.)<*лёзка*<*лязо.* Да *лезіва*₂ (гл.).

**Лёскат** 'тракканіна, траскатня, балбатня' (Гарэц., ТСБМ) — кантамінаванае ўтварэнне з *ляск* і *лоскат* (гл.). Апошняе — з прасл. *loskotъ.* Усе адносяцца да тыпу гукаперайманьных. Бел. *лёскат* тэрытарыяльна знаходзіцца ў дадатковым размеркаванні з рус. зах., паўдн. *лёскать* 'біць, утвараць моцныя гукі, ляскаць пугай'.

**Лёста** 'дабразычлівая, вельмі памяркоўная дзяўчына' (глус., Янк. Мат.), укр. жытом. *л'оста* 'пястун'. Да прасл. *lьstь* 'лісліваць'. Параўн. таксама бел. *лёсціцца* 'песціцца,

лашчыцца, мілавацца; намагацца лёсткамі здабыць прыхільнасць' (Нас.).

**Лёстка** 'кожная з папярочных планак паміж аглабінамі і ўзгалоўем у драбінах' (ТСБМ, Бір., ТС; жытк., Нар. словатв.), 'драбіны, лесвіца, каб лазіць да коміна' (пін., Нар. сл.), *лёстачкі* 'дошчачкі ў драбінах' (Янк. I), *лёсткі* 'драбы ў кашы' (дзярж., Сл. паўн.-зах.). Бел. рэгіяналізм, які ўзнік у выніку спрашчэння прасл. *lěstv-ъka*. Да *лесвіца* (гл.).

**Лёстачкі,** *лёстачкі, лёсткі* 'ліслівыя словы, усхваленні, кампліменты', 'падлізванне' (Нас., ТСБМ, Бяльк., Гарэц., Др.-Падб., Бес., Яруш., КЭС, лаг.; калінк., З нар. сл.), *лёстачка* 'падліза', 'пястун' (Нас.) разам з дзеясловам *лёсціцца* 'лашчыцца, лёсткамі здабываць прыхільнасць' (Нас.) узыходзяць да прасл. *lьstь* 'лісліваcць' (ст.-слав. **льсть,** ст.-рус. *льсть, лесть,* ст.-бел. *лесть* — з XIV ст.), якое запазычана з прагерм. *listi-* Параўн. гоц. *lists* 'хітрасць', *laisjan* 'вучыць', ст.-в.-ням. *list* 'мастацтва, мудрасць' (Фасмер, 2, 487; Махэк$_2$, 327; Слаўскі, 4, 177; Бязлай, 2, 135; Мартынаў, Лекс. взаим., 48—50).

**Лёсы** 'шчаслівы, задаволены' (карэліц., Сцяшк.). Да *лёс*$_1$. Звязана са значэннем 'добры лёс, шчаслівая доля'.

**Лёт** 'палёт' (Нас., Гарэц., ТСБМ, ТС), *лётам* 'бягом' (лаг., Жд. 2), 'вельмі хутка' (ТС, ТСБМ, Сл. паўн.-зах.), *лётка* 'хутка' (Сцяшк.), *лётма* 'летучы адзін за адным' (Нас.), *лётыньня* 'лёт' (Бяльк.). Лексема *лёт* ёсць ва ўсіх сучасных слав. мовах, аднак, мяркуецца (Слаўскі, 4, 335; Фасмер, 2, 488), што гэта другаснае аддзеяслоўнае ўтварэнне. Да *лётаць* (гл.).

**Лётаць,** *лётыць* 'лятаць (у розных кірунках)', 'хутка бегаць, хадзіць', 'насіцца', 'заляцацца' (Гарэц., Нас., Шат., ТСБМ; в.-дзв., паст., віл., барыс., Сл. паўн.-зах.; маладз., Янк. Мат.), драг. *лётатэ* і *лэ́татэ* 'тс' (І. Лучыц-Федарэц). Рус. *лётать,* серб.-харв. *лётети* 'лётать туды-сюды' (у адрозненне ад *лётати* — дзеяслова шматразовага дзеяння), магчыма, чэш. *létati, lítat*. Прасл. інтэнсіў *lětati,* які ўзыходзіць да першаснага *lektati*, параўн. роднасныя літ. *lěkti, lekiù* 'ляцець', *lakstýti* 'пырхаць, лётаць', *lakstinėti* 'тс' (шматразовае дзеянне), лат. *lèkt, lęcu* 'скакаць', 'узыходзіць (аб месяцы, сонцы)', 'здарацца', часам і 'ляцець', *lękât* 'скакаць' (шматразовае дзеянне),— звычайна іх супастаўляюць са ст.-грэч. *λακτίζω* 'брыкаюся', 'тапчу, б'ю нагой', с.-в.-ням. *lęcken* 'брыкаць, скакаць'. Цяперашні час гэтага інтэнсіва ўтвараўся пры дапамозе суф. *-te-* (Мее, Общеслав., 188—189); рэшткі старога спражэння можна бачыць у бел. (ашм., астрав., лаг., паст., смарг.) *лятў* — 1-я ас., *лятўць* — 3-я ас. (Сл. паўн.-зах.), польск. дыял. *lete, letą*. Група *-kt-* перад *-a-* перайшла ў *-t-*



(Махэк$_2$, 328), падаўжэнне галоснай, як у *lěgati* (Слаўскі, 4, 65). Пазней да інтэнсіва быў даўтвораны ітэратыў *letěti,* а *lětati* стала імперфектам. Сляды інтэнсіва назіраюцца ў бел. *лятáць* 'ляцець у розных кірунках', 'хутка бегаць' (Янк. II, ТСБМ). Праблематычным застаецца націск на галоснай кораня (як у інтэнсіва) у ітэратывах па форме бел. ваўк., івац., лях. *лéцець,* чэрв. *лéціць* 'ляцець' (Сл. паўн.-зах.). Гл. таксама *ляцéць*.

**Лётва** 'лётка ў вуллі, адтуліна ў калодзе' (Сцяшк.; лельч., Мат. Гом.). Да *лётаць* (гл.).

**Лётка**$_1$ 'малая адтуліна ў вуллі ці ў калодзе пчол' (ТСБМ, ТС, Сл. паўн.-зах.; слуц., КЭС; слаўг., Нар. сл.; глыб., вілен., ашм., іўеў., воран., З нар. сл.; рас., Шатал.; жлоб., добр., Мат. Гом.), *лётак* 'тс' (Бяльк.), *лётачка* 'тс' (лаг., Жд. 2). Да *лётаць* (гл.). Параўн. таксама *лётка*$_2$.

**Лётка**$_2$ 'буйная шраціна, круглая куля' (ТС), малар. 'шрот' (Сіг.), укр. *льотка* 'буйны шрот' запазычаны з польск. *lotka* 'тс', якое паходзіць з ням. *Loth* 'кавалак свінца ў якасці снарада' або з ням. *Lauf-kugel* 'малая куля' > польск. *lofka* (Слаўскі, 4, 337). Няясна, аднак, паходжанне рус. уральск. *лётка* 'ружэйны карцеч'.

**Лётка**$_3$ 'малы лешч вагою да 1/2 фунта' (Касп.), рус. *лётка* 'гусцяра' (Зах. Дзвіна). Да *лётка*$_3$ (гл.).

**Лёткі**$_1$ 'вялікае пер'е' (браг., Шатал.), рус. *леткú*, польск. *lotki,* чэш. *letka,* славац. *letka, letky* 'тс', славен. *lêtka,* серб.-харв. *лётка,* макед., балг. *летка* 'верацяно ля калаўротка, у матавіле'. Прасл. *letъka* 'тое, што служыць для лёту, лятання' (Слаўскі, 4, 336—337; Бязлай, 2, 137). Да *лётаць* (гл.).

**Лёткі**$_2$ 'жвавы' (Сцяшк. Сл.). Утворана ў выніку кантамінацыі польск. *letki* 'лёгкі' і бел. *лёгкі* (гл.).

**Лётнік** 'авіятар' (Вайск. сл.), 'лётчык' (лях., Сл. паўн.-зах.). Запазычана з польск. *lotnik* 'тс'.

**Лётніска,** *лётніско* 'аэрадром' (воран., лях., драг., Сл. паўн.-зах.). Запазычаны з польск. *lotnisko* 'тс'. У калінк. гаворцы (в. Аўцюкі, Сл. паўн.-зах.) гэта запазычанне было пераробленa ў *лётнішча* (з усх.-слав. суфіксам).

**Лётны** 'здольны' (свісл., Сцяшк. Сл.). Узнікла ў выніку семантычнага пераносу 'дарослы, у гадах' (параўн. рус. том., тул., арханг. *летний* 'паўналетні, дарослы') > 'які ўсё ўмее' > > 'здольны'. Чэш. *letný* 'даверлівы, таварыскі, мілы, прыгожы' мае іншую семантыку і шлях развіцця (гл. Махэк$_2$, 328), але таксама ўзыходзіць да прасл. *lěto*.

**Лётра** 'неахайны, гультаяваты чалавек' (брэсц., Нар. лекс.). Пры пасрэдніцтве польск. *loter* запазычана з с.-в.-ням. *loter, lotter* 'лайдак, гультай'. Параўн. таксама *лотр*.

**Лётчык** 'вадзіцель самалёта' (ТСБМ). Запазычана з рус. мовы (Крукоўскі, Уплыў, 110).

**Лёўж** 'куча галля' (паўдн.-бел., Бел.-укр. ізал.; укр. паўн.-жытом. *лёўж, ломж* 'тс'). Да *лоўж* (гл.).

**Лёўкі** 'запаленне калявушнай залозы' (брасл., шальч., Сл. паўн.-зах.). Запазычана з літ. *liaũkos* 'тс'; параўн. *liaukà* 'залоза'.

**Лёўшай** 'лягчэй, зручней' (Ян.) — кантамінаванае ўтварэнне з *лоўка* 'добра' і *легчай, легшай* 'лягчэй' (Ян.).

**Лёх,** *лёшак* 'памяшканне са зрубам і страхою для захоўвання гародніны ў зямлі', 'пограб пад падлогай у хаце', 'склеп, падзямелле' (Бес., Шушк., Клім., ТС, Сцяшк., Сл. паўн.-зах., Мат. Гом., КЭС, лаг.; брасл., Шатал.), 'нара, падземны ход' (Гарэц.), 'падземныя калідоры, па якіх плыве вада' (КЭС, лаг.), *лёха* 'нара', 'адтуліна ў падмуроўцы' (ТСБМ, Федар. 1, 2; Бір. Дзярж.; докш., Янк. Мат.; лаг., Жд. 2), *лёхі* 'падзямелле, падземныя хады' (Сцяшк., Мядзв., Яруш.), карэліц. *лёха* 'глыбокая мясціна ў старыку, якая не зарасла водарасцямі' (Нар. словатв.), сувалк. *l'oxá* (КАБ) 'акно вады на балоце'. Ст.-бел. *лиохъ* 'пограб' (XVII ст.) запазычана са ст.-польск. *loch* 'падземныя памяшканні, яма, пячора, пограб', якое з с.-в.-ням. *loch* 'закрытае месца, схованка, пячора, турма; дзірка', параўн. і ст.-в.-ням. *lūhhen*₁ 'замыкаць' (Слаўскі, 4, 318—319; Махэк₂, 338; Булыка, Запазыч., 190; Чартко, Бел. лінгв. зб., 149; Кюнэ, Poln., 72; Арашонкава, БЛ, 2, 50).

**Лёх-лёх-лёх!**₁ 'падзыўныя воклічы свінні да парасят' (мсцісл., З нар. сл.). Гукапераймальнае. (Як і рус. перм. *лёх-лёх* 'падзыўныя воклічы для сабак'.) Аднак услед за Слаўскім (4, 319) драг. і стол. *лёха* 'свінаматка', а таксама 'неахайная, тоўстая жанчына' (І. Лучыц-Федарэц; В. Вярэніч, вусн. паведамл.), брэсц. 'неахайная, гультаяватая асоба' (Нар. лекс.), як і падобнае ўкр. *льóха* 'свіння', можна аднесці да крыніцы запазычання — польск. *locha* 'свіння — дзікая і свінаматка', якое суадносіцца з чэш. *lachna, lachna* 'тоўстая жанчына', 'бессаромніца', славац. *lacha* 'бедная жанчына', *l'ocha* 'легкадумная жанчына', рус. *лоха* 'неразумная жанчына' і з ням. *Lose* 'свінаматка', 'распусніца' (Слаўскі, там жа). Сюды ж палес. *лёхаецца* — аб цечцы ў свіней (Тарн.), якое Слаўскі (4, 320) суадносіць з *łachać* 'бегаць'. Параўн. і бел. *лахаць*₁.

**Лёх-лёх-лёх**₂ — аб вадзе (смарг., Сл. паўн.-зах.). Гукапераймальнае. З *плёх-плёх-плёх,* якое да *плёхаць, плюхаць* (гл.). Сюды ж *лёхаць* 'булькаць (пра ваду)' (смарг., Сл. паўн.-зах.).

**Лёха,** *лёхо* 'рэха' (баранав., Сл. паўн.-зах.). Гл. *ляхат.*

**Лёхавіна** 'топкае балота' (гродз., Сцяшк. Сл.). Паводле ўтварэння звязана з *лёхаць* 'булькаць' (гл. папярэдняе *лёх-лёх-лёх*₂), семантычна, аднак, гэту лексему можна звязаць з *лёх* (гл.).



**Лёхнуць** 'аббегаць' (светлаг., Мат. Гом.). Да *лахаць*₁. Экспрэсіўнасць слова выклікала змену *л* — *л'* (параўн. Слаўскі, 4, 319—320).

**Лёшанька** 'паз у бервяне' (астрав., Сл. паўн.-зах.) — да *лёха,* якое са ст.-польск. *loch* 'дзірка, жолаб, паз' < с.-в.-ням. *loch* 'тс', *lochen,* ням. *lochen* 'рабіць дзіркі, пазы' (Слаўскі, 4, 318—319 і 320).

**Лі** 'каля' (Мядзв., Бяльк., Касп.), 'над, з' (браг., Мат. Гом.) у выніку дысіміляцыі з *ля*<*для* (гл. ESSJ SG, 1, 107).

***Лібарада,** *лíборода* 'апошняя жменя нязжатага жыта на полі' (лунін., Мат. дыял. канф.). Утворана са словазлучэння *Іллі барада.* Параўн. брэсц., нараўл. *спасова борода* 'тс' (Выг.).

**Лібізавáць** 'чытаць па складах' (вілей., Жд. 2) запазычана з польск. *ślabizować,* якое з лац. *syllabicare*<*syllaba*<ст.-грэч. συλλαβή 'склад, складанне'.

**Лібіла,** *лíбела* 'прынада для лоўлі ракаў' (Нас.), 'прыстасаванне для прынаджвання ракаў' (бых., Рам. 8) маг. *лíбінне* 'тс' (Дэмб.), *лíбіць* 'лавіць ракаў на прынаду, прынаджваць' (Нас., Гарэц., Інстр. 2). Укр. *лібéць* 'палка з прыманкай на ракаў'. Да *любівы* (гл.), якое пад уплывам народнай этымалогіі ўзнікла з **лібівы* 'нятлусты' (аб мясе). Іменна такім мясам прынаджвалі ракаў (Трубачоў — Фасмер, 2, 493). Утворана ад *lib-* і суф. *-dlo.*

**Лібрэта** 'слоўны тэкст вялікага музычнага твора', 'план сцэнарыя' (ТСБМ). Паводле Крукоўскага (Уплыў, 84), запазычана з рус. *либретто,* хаця слова магло быць вядомым праз польск. *libretto*<італ. *libretto* 'кніжачка'.

**Лібяза** 'памылка ў палатне, калі ніткі асновы ідуць зверху безператыкання' (Інстр. 2). Відавочна, у выніку перастаноўкі з *блізна.*

**Лівáда** 'агароджанае месца для жывёлы' (шчуч., ДАБМ). Новае запазычанне з паўдн.-рус. або ўкр. гаворак: *ливáда, левáда* 'выган, агароджаны луг' < с.-грэч., н.-грэч. λιβάδι(ον) 'луг, абводненая раўніна' (Фасмер, 2, 493).

**Лівандрэк** 'лекі — забабоны ад урокаў у выглядзе чорных кавалкаў нейкай смалы, якую чапляюць, напрыклад, на рогі карове, калі яна ацялілася' (КЭС, лаг.). Няясна. Магчыма, звязана паходжаннем са словам *Levant* 'Усход', абазначаючы нейкі магічны сродак, які прыйшоў з Усходу, а другая частка з ням. *Dreck* 'бруд, кал', 'дрэнь'.

**Ліванýць** 'лінуць' (Яўс.) тэрытарыяльна ўваходзіць у адзін арэал з рус. уладз., разан., кур., тульск., калуж. *лива-*

20. Зак. 3479

*нуть* 'тс'. Утворана пры дапамозе суф. *-nǫ-* ад дзеяслова шматразовага дзеяння *-ліваць*<прасл. *-livati, -livajǫ,* які звычайна выступае з прэфіксамі. Да *ліць* (гл.).

**Ліварвéра,** *лівóльвір, лівальвéрт, лівóрвэр* — скажоныя (у выніку дысіміляцыі) народныя формы лексемы *рэвальвер* (Мядзв., Касп., Бяльк., Сл. паўн.-зах.).

**Лівер**$_1$, *лівар* 'прыбор для набірання вадкасці ў выглядзе трубкі, пашыранай пасярэдзіне' (Нас., ТСБМ), *лівар* 'лейка' (Жд. 1), прыстасаванне, пры дапамозе якога паднімаюць цяжкія прадметы' (глус., КЭС) і, магчыма, *ліварэ́* 'вялікія трэскі, якія сколваюцца з бервяна' (Шат.). Укр. *лíвар, ліва́рок, лíвер* 'лейка, дамкрат', 'сіфон, рычаг', рус. *лéвер, ливер* 'лейка для палівання гародніны', польск. *lewor, liwor, lewarek* 'прыбор для паднімання цяжкіх прадметаў', 'таўкач', 'жураўель у калодзежы', 'лейка'. З с.-лац. *levarius, leverius* 'рычаг-пад'ёмнік'<лац. *levāre* 'паднімаць' (Слаўскі, 4, 187) праз польскую мову. У рус. мове, аднак, са ст.-франц. *levëour* (<лац. *levātōrem*) праз англ. *lever* 'рычаг' (Фасмер, 2, 493).

**Лівер**$_2$ 'вантробы забойнай жывёлы, з якіх вырабляюцца прадукты харчавання' (ТСБМ). Новае запазычанне з рус. мовы (Крукоўскі, Уплыў, 80), куды прыйшло з англ. *liver* 'печань', або з с.-н.-ням., гал. *lever* 'тс' (Фасмер, 2, 493).

**Лівень** 'моцны, праліўны, вялікі дождж' (ТСБМ, Бяльк., Касп., Сцяшк., ТС, Сл. паўн.-зах.), *лíвянь, лíвань* (Сл. паўн.-зах.), *лíвэнь* (бяроз., КЭС), *лíўнь* 'тс' (Яруш.), укр. *лíвень,* рус. *лúвен, лúвень* 'тс'. Усх.-слав. утварэнне. Да *ліць* (гл.). Аб суфіксе гл. Сцяцко, Афікс, наз., 38.

**Лівізóр** (Грыг.), як і зах.-укр. *лівізор,* з'яўляецца скажонай (у выніку дысіміляцыі) формай ад рус. *ревизор.*

**Лівіць** 'прынаджваць' (Др.-Падб.). Да *лібіць*<*лібіла* (гл.).

**Ліга́ры** 'бярвенні, на якія кладзецца падлога' (Жд. 1), 'бярвенні пад штабялямі лесу, дроў' (ганц., Сл. паўн.-зах.). Да *лéгар* (гл.).

**Лігóмы** 'распешчаны' (іўеў., Сцяшк. Сл.). Паводле ілюстрацыі бліжэй было б значэнне 'пераборлівы'. Па форме — дзеепрыметнік з суф. *-ом-* (як *лакомы, ядомы*). Да *ляжа́ць* (гл.). На значэнне, відавочна, уплывала лексема *лігумíны* 'ласункі, саладосці' (Вешт.), якая з польск. *legumina* 'салодкая, мучная ежа' і інш.

**Лігóта** 'палёгка ў выкананні абавязкаў' (жытк., Мат. Гом.). Да *ільгота* (гл.).

**Лідавіны,** *лідакí* 'ўчасткі зямлі, пакрытыя лёдам' (паст., Сл. паўн.-зах.). Да *лёд* (гл.). Аб суфіксе гл. Сцяцко (Афікс. наз., 119).



**Ліда́ік,** *лідáек* 'моташнасць' (лепел., КЭС; докш., круп., Сл. паўн.-зах.), бярэз. *лідáць* 'нудзіць', докш. *лідáшна* 'моташна' (Сл. паўн.-зах.). Да *лядáік* (гл.).

**Лідкáвы** 'лíслівы' (маст., Сл. паўн.-зах.). Узнікла з *лядкавы,* якое, відавочна, азначала 'слізкі'. Да *лёд* (гл.).

**Лідзьвінаўка** — назва танца (рэч., Мат. Гом.). Да *ліцвін* (гл.).

**Лідзім** 'ніва на лядзе' (паўн.-зах., КЭС). Запазычана з літ. *lýdimas* 'высечка'.

**Ліжа** 'хлебная лапата' (воран., Сл. паўн.-зах.). Запазычана з літ. *ližė* 'тс' (Грынавецкене, Сл. паўн.-зах., 2, 654).

**Ліжаўка** 'суконная хустка' (ветк., Мат. Гом.). Да *лíзаўка*$_2$ (гл.).

**Ліжэ́ць** 'меншаць, слабець (пра мароз)' (дзярж., Нар. сл.). Утворана з прасл. *lьg-* і суф. *-ěti.* Лексема хутчэй за ўсё запазычана ці аформлена паводле польск. *ulżyć* 'аблегчыць'<<*lżej* 'лягчэй'. Да *лёгкі, ільгота* (гл.).

**Лізанýць** 'сцебануць, лупцануць' (Янк., II, Маг., Нас.), *лізнýць* 'тс' (беласт., Сл. паўн.-зах.), 'ударыць' (Касп.) развілося ў выніку пераносу значэння дзеяслова *лізáць* (гл.) 'лёгка датыкацца'. Бел.-рус. ізалекса, параўн. пск., цвяр., смал. *лизанýть* 'ударыць чымсьці гібкім'.

**Лізаўка**$_1$ 'пласцінчаты свердзел' (Касп., Сцяшк.). Відавочна, з *лезáйка,* утворанай з *лязо, лёза.* Да *лéзіва*$_2$ (гл.).

**Лізаўка**$_2$ 'абшыўка ў кажуху' (хоц., Мат. Маг.). Рэгіянальнае ўтварэнне. Да *лізаць* 'пакрываць, абдаваць сабой' (гл.).

**Лізáць** 'дакранацца языком', 'піць, есці мала, вяла', 'пакрываць, абдаваць', 'цалаваць', *лізацца* 'падлашчвацца, лашчыцца' (Нас., Шат., Бяльк., Яруш., ТСБМ, ТС, Сл. паўн.-зах.), полац., мсцісл. *лізнýць* 'паспытаць, з'есці зусім нямнога' (Нар. сл., Юрч. Вытв.), *лізацца* 'прыхарошвацца, старанна прычэсвацца' (Шат.). Укр. *лизати(ся),* рус. *лизать(ся),* польск. *lizać (się)* палаб. *laizĕ* 'ён ліжа', н.-луж. *lizaś,(pše)-lizaś se,* в.-луж. *lizać (so),* чэш. *lízáti, (se),* ст.-чэш. *lzáti,* славац. *lizat' (sa),* славен. *lizati (se),* серб.-харв. *лѝзати (се),* макед. *лижам,* балг. *лижа,* ст.-слав. **лизати,** чэш.-ц.-слав. **льзати.** Прасл. *lьzati* з другасным падаўжэннем вакалізму кораня *lizati (sę).* І.-е. адпаведнікі: літ. *liẽžti, liežiù,* лат. *laizît* 'лізаць', ст.-інд. *léḍhi, rḗḍhi, lihati* 'ліжа', авест. *raēz-,* н.-перс. *lištan* 'лізаць', арм. *lizem,* ст.-грэч. λείχω 'ліжу', лац. *lingō, lingere,* ст.-ірл. *ligin,* гоц. *bilaigōn,* ст.-англ. *liccian,* ст.-в.-ням. *lecchōn* 'лізаць', і.-е. **liĝh-/*leiĝh-,* ітэратыў **loiĝh-* Міклашыч, 171; Бернекер, 1, 725; Фасмер, 2, 494—495; Фрэнкель, 369; Покарны, 668; Слаўскі, 4, 311—312; Аткупшчыкоў, Из истории, 102; Скок, 2, 311; Бязлай, 2, 145—146). Інакш Жарскі

(Rozp. Kom. Język.— Wrocł. TN, XI, 185), які памылкова выводзіць польск. *lizać* з і.-е. *-leip* 'мазаць тлушчам'. Сюды ж *лізгаць* 'есці, ледзь дакранаючыся зубамі' (Шат.), 'лізаць раз за разам' (КЭС, лаг.), 'есці мала, перабіраючы' (міёр., Нар. лекс.), у якіх *-г-* экспрэсіўнае (параўн. *лузаць — лузгаць*), а таксама *лізну́ць* 'цішком адысці' (Рыг.).

**Лізбе́нь** 'гультай' (рагач., Мат. Гом.). Утварылася з +*ляжбе́нь* з заменай *ж*>*з* (магчыма, пад уплывам *лізаць*).

**Лізе́рка** 'лінія, граніца дзялянкі ў лесе' (рагач., Сл. паўн.-зах.), рус. арл. *лизе́рка,* бран., разан. *лизирка* 'вузкая прасека' — у выніку распадабнення *в* і *р* у слове *візірка* (гл.). Тое ж і ў разан. *лизи́р*<*визир* (гл. *візір*[1]).

**Лізе́рф** 'тарфяны кар'ер' (лун., Шатал.). Няясна. Відавочна, аказіяналізм, утвораны з *рэзерв* ці з *рэзервуар* (вады).

**Лізікі** 'ласункі' (Янк. III). Да *лізáць* (гл.). Экспрэсіўнае ўтварэнне, падобнае па форме да *бібікі.*

**Лізма́ць** '(аб гадзюцы) ліняць' (петрык., Шатал.). Утварылася ў выніку кантамінацыі лексем: *знімаць* і *ліняць* або *лезці* і *ліняць* (гл.).

**Лізу́н**[1] 'міфічная істота, якая летам хаваецца ў фасолі, каноплях, гаросе; яна залізвае дзяцей да смерці' (Др.-Падб., Гарэц., Касп.), укр. паўн.-зах. *лизун* 'міфічная істота ў выглядзе вялікага звера, якая жыве ў лясах і жарэ людзей', рус. яросл., кастрам., цвяр., смал. *лизун* 'дамавік, які жыве ў падмосці, пад печчу і якім палохалі дзяцей'. Усх.-слав. рэгіяналізм, які ўзыходзіць да прасл. *lizunъ*, якое з *lizati*. Да *лізаць* (гл).

**Лізу́н**[2] 'той, хто любіць лізаць, лізацца (аб жывёлах)', 'мужчына, які любіць цалавацца', 'які любіць прыхарошвацца' (Шат., Бяльк., Яўс., ТСБМ; міёр., З нар. сл.), 'ліслівец, падхалім' (Яўс., ТСБМ). Укр., рус. *лизун.* Да *лізаць, лізацца* (гл.).

**Лізус** 'ліслівец' (паўн.-зах., КЭС) запазычана з польск. *lizus* 'падхалім'. Да *лізаць* (Слаўскі, 4, 312—313).

**Лізь,** *лісь* 'пра лізанне' (мсцісл., полац., Нар. лекс.) — аддзеяслоўныя ўтварэнні. Да *лізаць* (гл.).

**Лізя́вы** 'нясмачны' (маст., Сцяшк. Сл.), *лізя́вэй* 'тс' (пін., Шатал.). Трэба разглядаць як запазычаную лексему з пераносам значэння. Параўн. польск. *lizawy* — аб жывёле, якая захварэла ад недабору розных мінеральных злучэнняў (солей) і вітамінаў. Параўн. яшчэ польск. *lizawka* 'сумесь з солі, гліны і інш., якая давалася жывёле', 'месца, дзе гэта мяшанка давалася жывёле'. Семантыка развівалася такім чынам: 'без солі'>'нясмачны'.

**Лік**[1] 'колькасць чаго-небудзь, паняцце колькасці', 'лічба',



'вынік гульні' (ТСБМ, Нас., Гарэц., Янк. БП, Бяльк., Касп., Шат., ТС), маг. 'гандлёвая адзінка для верхаводкі, якая складаецца з 25 рыбак' (Дэмб.). Укр. *лік,* рус. алан., смал., кур. *лик* 'лічба, колькасць', Комі АССР 'многа', ст.-рус. *ликъ* 'шмат', 'хор', польск. (з 1603 г.) *lik* 'лічба, лічэнне, колькасць'. Паўн.-слав. архаізм *likъ* утвораны ад дзеяслова *ličiti*> *лічыць* (гл.).

**Лік**[2] 'твар, абрысы твару' (Нас., ТСБМ), укр. *лик,* рус. *лик* 'твар, выява, ікона, адлюстраванне', ст.-рус. *ликъ* 'тс', славен. *lîk,* серб.-харв. *ли̑к,* макед., балг. *лик* 'адлюстраванне, выява, вобраз, воблік, фігура'. Прасл. *likъ* (у зах. і ўсх.-слав. мовах пазней яно замянілася ў *lice* 'твар, аблічча, шчокі'). Звычайна прасл. *likъ* параўноўваецца з ірл. *lecco,* н.-ірл. *leaca,* ст.-прус. *laygnan* (<**laiknan* 'шчака') — гл. Фасмер, 2, 495—496. Мартынаў (Лекс. взаим., 213—217) гаворыць аб пранікненні лексемы з прасл. у прагерм. у выглядзе *lika,* што Слаўскі (4, 224—225) дапускае малаімаверным.

**Лікава́нне** 'баляванне, банкет', 'радасць, весялосць' (Нас.), *лікава́ць* 'праяўляць вышэйшую ступень радасці з выпадку выдатнай падзеі' (ТСБМ), укр. *ликувати* 'тс', *лик* 'натоўп, сход', рус. *ликовать,* ст.-рус. *ликовати* 'тс', 'вадзіць карагоды, спяваць', 'спяваючы услаўляць', ст.-слав. **ликъ** 'хор, натоўп', балг. *лик* 'хор'. Да прасл. *likъ*, якое (паводле Фасмера, 2, 495) было запазычана з гоц. *laiks* 'танец', *laikan* 'скакаць', ст.-ісл. *leikr* 'гульня',— яны з'яўляюцца роднаснымі да літ. *láigyti* 'насіцца', ст.-інд. *réjate* 'скача, трасецца', н.-перс. *ālēχtan* 'скакаць, брыкацца', ст.-грэч. λιγαίνω 'моцна ўсхваляю, спяваю'.

**Ліквіда́цыя** 'спыненне дзейнасці, існавання чаго-небудзь' (ТСБМ), *ліквідаваць* 'спыніць дзейнасць' (Сцяшк., ТСБМ) паходзяць з польск. *likwidacja* (спачатку 'апошні разлік', пасля 'закрыццё прадпрыемства', 'знішчэнне', *likwidować,* якія праз італ. *liquidazione, liquidare* 'апошні падлік', 'праводзіць разлік', узыходзяць да с.-лац. *liquidatio, liquidare* 'высвятляць'<<лац. *liquidus* 'ясны, светлы, чысты' (Слаўскі, 4, 254—255).

**Лікёр** 'моцны салодкі спіртны напітак' (ТСБМ). Запазычана з рус. *ликёр* (Крукоўскі, Уплыў, 80), якое з ням. *Likör* або непасрэдна з франц. *liqueur* 'тс'<лац. *liquor* 'вадкасць' (Фасмер, 2, 496).

**Ліклівасць** 'пужлівасць', *ліклі́вы* 'пужлівы' (Нас.), *ліка́нне* 'спалох' (вілей., Сл. паўн.-зах.). Да *ляк*[2], *ляка́цца* (гл.).

**Лілей** 'лілея, Lilium L.' (Ян.), гродз. *лілея,* гом. *лялея* (Кіс., Бяльк., Яруш., ТСБМ), *лілія* (ТСБМ, Сцяшк., Сіг.; драг., Сл. паўн.-зах.), *лылія* 'тс' (Бес.), в.-дзвін., лудз., астрав. *лілея, лілія, лялея* 'гарлачык белы і жоўты' (Сл. паўн.-зах.), брэсц., гродз. *лілея вадзяная* 'гарлачык белы, Nymphaea alba L.'

(Кіс.), ст.-бел. *лилея, лелея, лилия* (XVI ст.) запазычаны са ст.-польск. *lilija, lelija* 'лілея', якія паходзяць з с.-в.-ням. *lilje, lilja*<лац. *lilia* (мн. лік ад *lilium*) 'тс' (Булыка, БЛ, 9, 30; Слаўскі, 4, 256). Магчыма, што форма *лілей* прыйшла з ц.-слав., параўн. ст.-рус. *лилий, лилиюмъ* 'лілея' (з XVI ст.). Сюды ж *лілёвы* 'светла-жоўты' (іўеў., Сцяшк., Сл.), *лілейка* 'пылюшнік вадазборалісты, Thalictrum equilegifolium L.' (гродз., Кіс.).

**Ліле́ць**, *ліліты* 'блішчэць, адлюстроўваць (аб вадзяной паверхні)' (Клім.). Да *лялёць* (гл.).

**Ліло́вы** 'светла-фіялетавы' (ТСБМ). Запазычана з рус. мовы, у якой лексема *лиловый* прыйшла праз ням. *lila* ці франц. *lilas* 'бэзавы, ліловы' з араб. *lilâk*<ст.-інд. *nílas* 'цёмна-сіні' (Фасмер, 2, 497).

**Ліля́к** 'барсук, Meles meles' (Дразд.). Назвапы імем птушкі казадоя паводле падабенства буравата-шэрым колерам. Да *ляля́к* (гл.). Параўн. таксама чэш. *lilek* 'красаўка, Atropa belladonna', кветкі якой маюць шэра-жоўты колер.

**Ліма́к** 'кара вяза' (Маш., Пятк. 1). Да *лём* (гл.). Параўн. таксама *ільма́к* 'кара вяза, з якой можна плесці лапці' (Бяльк.). Аднак у лексеме *лімак* можна бачыць замену *н*>*м*, тады яна выглядала б *лінак* і з'яўлялася б роднаснай да ўкр. *линити* (у рашэтнікаў: знімаць слой кары з папярэдне распараных у печы ліпавых ствалоў, агаляючы слой лыка), што ў сваю чаргу можна было б суаднесці з *ліняць, лінька, лініва*.

**Ліма́н** 'заліў у нізоўях ракі ці салёнае возера паблізу мора' (ТСБМ) — кніжнае запазычанне з рус. мовы. Тураў. *лима́н* 'участак вялікіх памераў' (ТС), утварылася ў выніку пераносу значэння 'заліў'>'заліўны луг'>'поле'>'участак'. Абодва да рус., укр. *лиман* 'шырокае вусце ракі', 'марскі заліў', якія праз тур., крым.-тат., кыпч. *liman* 'порт' узыходзяць да с.-грэч. λιμένι(ον), λιμένας<ст.-грэч. λιμνήν 'заліў' (Фасмер, 2, 497; Кюнэ, 72). Жураўскі (Тюркизмы, 86) лічыць лексему *лиманъ* экзатызмам.

**Лімар** 'рымар' (Нас., Гарэц., Др.-Падб., ТС) — у выніку распадабнення зычных *р...р*>*л...р*. Тое ж рус. *лимарь*, укр. *лимар*. Да *ры́мар* (гл.). Сюды ж *лімарскі, лімарства* (Нас.).

**Лімах** 'гультай' у параўнанні *лыжэць* (='ляжыць') *бы лімах* (драг., І. Лучыц-Федарэц.). Відавочна, *лімаг*, якое з прасл. *lěmęgъ* 'бэлька' (гл. *лемягі, лемяг*). Параўн. польск. пшасн. *lemięga* 'чалавек, не варты ні да чаго, няўклюда' (Слаўскі, 4, 149).

**Лімбрычак** 'чайнік' (ашм., Сцяшк. Сл.). Запазычана з польск. *imbryczek*<*imbryk* 'тс', якое з тур. *imbrik* 'збан для вады, джазва'. Пачатковае *л-* на месца *j-*.



**Ліме́ніць** 'ісці (пра моцны дождж)' (Ян.). Можна, відаць, супаставіць з літ. *leménti* 'лепятаць, барматаць' (лепятанне, барматанне нагадвае шум дажджу).

**Лімінда́** 'балбатлівы чалавек, які гаворыць недарэчна, не да месца' (міёр., З нар. сл.). Балтызм, утвораны ад літ. *leménti* 'лепятаць, мармытаць' і суф. *-да* (як ў віц. *лапанда́* 'балбатун').

**Лімі́ння** 'зараснікі лёму', 'кара лёму' (асіп., Сл. паўн.-зах.). Зборнае ад *ляміна,* параўн. *ліміна* 'адно дрэва вяза' (шум., бярэз., Сл. паўн.-зах.). Да *лём* (гл.).

**Лімо́н** 'расліна Cytrus limon і яе светла-жоўтыя плады' (ТСБМ). Паводле Крукоўскага (Уплыў, 73), запазычана з рус. мовы. Аднак слова было вядома яшчэ ў ст.-бел. мове: *лимонъ, лимония* (з 1679 г.) (Булыка, Лекс. запазыч., 151).

**Лімянто́вы** 'добры' (Юрч. Фраз. 2). Не зусім яснае слова. Відаць, яго можна звязаць са ст.-бел. *ляментацыя* 'плач, элегія' (з XVII ст.), *ляментъ* 'лямант', вылучыўшы для прыметніка значэнне 'спачувальны, спагадлівы', якое змянілася ў 'добры'.

**Лін**, *лінь, лінік, ліно́к, ліно́чак, лын, лыно́к* 'рыба лінь, Tinca tinca L.' (ТСБМ, Нас., Сцяшк., Жук., Янк. II, Гарэц., Крыв., Бес., Бяльк., Касп., Шат., Ян., ТС, Мат. Гом., Яруш., Яшк., З жыцця; чэрв., Нар. лекс.; полац., З нар. сл., Сл. паўн.-зах.). Укр. *лин*, рус. *лин* 'рыба Cyprinus tinca', пячор., урал., перм. *линь* 'рыба таймень, Hucho taimen', польск. *lin*, н.-луж., в.-луж., чэш. *lin*, ст.-чэш. *liň*, славац. *lieň*, славен. *lînj, linják*, серб.-харв. *лйн, лйњ, лйњак,* балг. *лин, линът*. Прасл. *linъ* і *linjь*. І.-е. адпаведнікамі з'яўляюцца: літ. *lýnas,* лат. *linis,* ст.-прус. *lins,* якія большасць этымолагаў адносяць да і.-е.кораня *(*s*)*lei̯-* 'ліпкі, слізкі', чаму ў герм. мовах адпавядаюць ст.-в.-ням. *slīo,* ням. *Schleie,* ст.-англ. *slīw* (Фасмер, 2, 498; Покарны, 662—663; Слаўскі, 4, 261—262; Скок, 2, 304; Бязлай, 2, 142—143. Там жа іншыя менш імаверныя версіі). Махэк$_2$ (333—334) прыводзіць выказванне О. Фэр'янца (Slov. názv. ryb ČSR a sused. krajov.— Turč. sv. Martin, 1948, 41—42), які паходжанне слова *lieň* шукае ў дзеяслове *línať* 'ліняць' у сувязі з тым, што слізь, якую вылучаюць клеткі скуры ліня, на паветры высыхае і лупіцца кавалкамі. Такім чынам, лінь нібыта ліняе. Каламіец (Происх. назв. рыб, 82) прымае падвойную этымалагічную сувязь, якая адпавядае двум этапам развіцця слова — з дзеясловам *linjati* (познепраславянскі этап) і з і.-е. асновай *(*s*)*lei-* 'слізісты' (познеіндаеўрапейскі этап, які папярэднічаў перыяду вылучэння слав., балт. і герм. моў).

**Лі́на** 'тоўстая, вельмі моцная вяроўка, канат з валокнаў ці дроту' (ТСБМ, ТС, Сл. паўн.-зах.), *ліня* 'тс' (бых., Рам. 8),

*лына* 'трос' (Клім.), *ліна, ліня* 'вяроўка, па якой паднімаюць вулей на дрэва або пчаляры самі лазяць на дрэва' (Анох., Сержп. Бортн; ганц., ашм., З нар. сл.; круп., Сл. паўн.-зах.), воран., астрав. *лінка* 'тс' (З нар. сл.), *ліна́, ліна, лына* 'вяроўка, на якой трымаецца паром' (Маш., Масл.), *ліня́* 'тс' (Бяльк., Яруш.), *лінька* 'тс' (Сцяшк., прынямонск., Нар. лекс.), 'дрот, якім звязваюць бярвенні ў плытах' (Сцяшк.). Ст.-бел. *лина* 'вяроўка, канат' (з XVI ст.) запазычана са ст.-польск. *lina* 'тс', якое з с.-в.-ням. *line* ці са ст.-в.-ням. *līna* (герм. *līna-* 'лён') (Слаўскі, 4, 262; Чартко, Пыт. мовазн. і метод., 117; Жураўскі, Бел. мова, 61).

**Ліна**$_2$ 'лянота' (Бяльк.). Узнікла з *лянота* з *лі-* (дысімілятыўнае аканне), як *краса́ — красата́, кісля — кіслата́*.

**Лінава́ць** 'праводзіць паралельныя лініі на паперы, лінеіць' (Нас., ТСБМ, КЭС, лаг.). Запазычана з польск. *linować, liniować* 'тс'.

**Ліна́ць** 'мяняць поўсць, шэрсць, пер'е' (Нас.). Да *ліня́ць* (гл.). Аб мене *н'>н* гл. Карскі, 1, 322 — 323.

**Лінва́** 'вяроўка' (слуц., Сл. паўн.-зах.), *лынва* 'вяроўка, па якой паднімаюць вулей на дрэва' (Анох.). Укр. валын., гуц., вінніцк. *лі́нва, лі́новка* 'тоўсты канат', бойк. *лі́нва, ла́нва* 'акоўка асады дышля ў возе'. Утворана ад *ліна* ў выніку кантамінацыі з *верва*<прасл. *vьrvь* (гл. *вервы*). Пераход *-vь>-ва* з'яўляецца характэрным для бел. і ўкр. моў. Польск. *linewka* 'тонкая вяроўка' запазычана з укр. мовы.

**Ліндар** 'кармчар', 'арандатар' (у Багушэвіча), *лінда́рка* 'карчмарка'. Утварылася шляхам спрашчэння і распадабнення *арандатар>арандар>аліндар>ліндар*. Параўн. укр. *орендар* (Марозаў, Пыт. мовазн. і метод., 163—164).

**Лінейка**$_1$ 'прамая лінія на паперы', 'планка для вычэрчвання прамых ліній' (ТСБМ). Запазычана, відавочна, з рус. *линейка*, якое існавала паралельна з першапачатковай формай *линийка*, запазычанай з польск. *linijka*, што з'яўляецца памяншальнай формай лексемы *linia* 'лінія' (аналагічна *рука — ручка*).

**Лінейка**$_2$ 'прадаўгаваты воз у выглядзе лінейкі на шырокіх колах' (Жд. 2), 'выязны воз' (брасл., в.-дзвін., даўг., прасл., лудз., Сл. паўн.-зах.). Запазычана з рус. *линейка* 'шырокі, доўгі воз з падоўжанай перагародкай'. Да *лінія* (гл.).

**Лінеіць** 'праводзіць паралельныя лініі на чым-небудзь' (ТСБМ, Бяльк.). Разам з рус. наўг., пск., кур. *линеить* 'тс' утварае бел.-рус. ізалексу. Да *лінія* (гл.).

**Лінёвішча** 'выпоўзіны, злінялая скура вужа ці гадзюкі' (Бяльк.,), лельч. *лінёвішчэ* (Нар. лекс.), *ліновішчэ* (ТС; стол., Сл. паўн.-зах.), лях., іўеў. *ліновішча*, ганц. *ліновіско* 'тс' (Сл. паўн.-зах.). Укр. *линовище*, зах. *ліновище, ліновиско*, рус. устарэлае *линовище* 'тс'. Усх.-слав. ізалекса. Да *ліня́ць* (гл.). Параўн. яго прасл. варыянты: *linjati, linati, liněti* і ітэратыў *linovati* (>серб.-харв. *-linjévati*), ад якога і ўзніклі прыведзеныя вышэй бел. словы. Такі ж суфікс мае і іўеў. *ленявішча* 'тс', утворанае ад +*ленявы*, звязанае чаргаваннем з *lěn-* (параўн. люб. *леня́не*, іўеў. *ляні́шча* 'выпоўзіны', укр. *лині́тися* 'ліняць') побач з *lěv-* (параўн. славен. *levišče* 'выпоўзіны', *leviti se* і інш.) (Фасмер, 2, 499).

**Лініла** 'скура вужакі ці гадзюкі, скінутая ў час ліняння' (Ян.; браг., Шатал.; калінк., Сл. паўн.-зах.), петрык. *лініло* люб. *леніло* 'тс' (Сл. паўн.-зах.). Да *ліняць* (гл.).

**Лініна́** 'сцяблінка льну' (міёр., Нар. словатв.). З *ільніна*. Да *лён (гл.)*.

**Лінія** 'вузкая палоска, уяўная рыса, якая злучае дзве кропкі паверхні', 'граніца, край, абрыс, контур', 'доўгі рад прадметаў або з'яў', 'прасека ў лесе' (ТСБМ, Сцяшк.; карэліц., З нар. сл.; в.-дзвін., брасл., Сл. паўн.-зах.), *ліня* 'прасека' (чэрв., баранав., Сл. паўн.-зах.), *лінія* 'чыгунка' (драг., З нар. сл.), *ліня* 'тс' (Сцяшк.). Ст.-бел. *линия, линея* (XVI ст.) запазычаны са ст.-польск. *linija*, якое з лац. *linia*, часцей *linea* 'льняны шнур'<*lineus* 'льняны' (Булыка, Лекс. запазыч., 40; Слаўскі, 4, 265).

**Лінтва́р** 'смушак' (паўдн.-усх., КЭС) запазычана з укр. *линтва́рь* 'смушак аднагадовага ягняці', *линтваре́ць, линтва́рик* 'тс'; параўн. яшчэ *линтваре́ний* 'зроблены з авечай шкуры', а таксама рус. новарас. *линтварь* 'шкура ягняці, якое нарадзілася пад восень'. Ст.-бел. *лентваръ* 'выробленая скурка ягняці' (XVII ст.). Запазычана са ст.-польск. *lentwal* 'тс', якое, відаць, з ням. *Lendenfell* (Булыка, Запазыч., 112).

**Лінь** 'вельмі моцны тонкі канат' (ТСБМ). Запазычана з рус. *линь*, якое з гал. *lijn* 'тонкая вяроўка' (Слаўскі, 2, 498—499). Пры паяўнасці гэтага слова або рус. слова *канат*, граматычны род якога — мужчынскі, бел. *ліня* (гл. *ліна*) змянілася ў *лінь* 'вяроўка, пры дапамозе якой цягалі вуллі на дрэвы' (ганц., Сл. паўн.-зах.), 'канат на пароме' (Яруш.).

**Ліня́ць** 'траціць першапачатковы колер, выцвітаць', 'мяняць поўсць, шэрсць, пер'е', 'лупіцца', 'прападаць' (Нас., Касп., ТСБМ, Сцяшк., ТС; в.-дзвін., лях., гродз., даўг., Сл. паўн.-зах.), *ліна́ць* 'тс' (віл., ваўк., швянч., Сл. паўн.-зах., Сцяшк., Нас.), *ліне́ць* 'тс' (трак., Сл. паўн.-зах.), *лініцца* 'тс' (петрык., Шатал.), *ліня́ць* 'худнець' (Юрч. Вытв.). Укр. *линя́ти*, рус. *линять*, славін. *l'əńωc*, мар. *liňat*, серб.-харв. *ли̏њати (се)*. Прасл. *linjati* побач з блізкім паводле сваёй будовы,

*linati* (бел. *лінаць,* укр. *линати,* рус. смал. *линать,* н.-луж. *linaś,* в.-луж. *linać,* чэш. *línati*), а таксама *linĕti* (бел. *лінець,* укр. *линіти,* рус. *линеть,* польск. *liniec,* ст.-чэш. *linĕti,* славац. *lienit' sa,* макед. *линее,* балг. *линея*). Паводле Слаўскага і інш. (гл. 4, 268), узыходзяць да незахаванага прыметніка *linъ, параўн. літ. *leĩnas* 'тонкі, гнуткі', *laĩnas* 'тонкі, высмаглы', с.-в.-ням. *bi-linnan* 'уступіць, аслабець'. Бернекер (7, 222) і Майргофер (2, 102—103) звязваюць разглядаемыя лексемы са ст.-інд. līnāti 'курчыцца, гнецца, туліцца', *láyatē, líyate, liyati* 'растае, прыціскае, знікае'. Лексемы збліжаюцца таксама са ст.-грэч. 'αλῖν 'мажу, націраю', λιτός 'гладкі', лац. *lino livi (lēvi), litum, -ere* 'намазваю'. Аснова *lin-* чаргуецца з *lĕn-* і *lĕv-* (Фасмер, 2, 499). Гл. таксама *лінёвішча.*

**Ліпа**$_1$ 'дрэва ліпы, Tilia L.' (ТСБМ, Касп., Бяльк., Яруш., Сцяшк., Бес., Сл. паўн.-зах., ТС, Кіс.) і *ліпа́* 'тс' (смарг., віл., іўеў., воран., трак., Сл. паўн.-зах.), маг. *ліпнік* 'тс' (Кіс.), іўеў. 'ліпавы цвет' (Сл. паўн.-зах.), 'кара, лыка' (трак., навагр., Сл. паўн.-зах., ТС), *ліпіна* 'асобнае ліпавае дрэва', 'драўніна з ліпы' (Касп.; міёр., Нар. словатв.), 'белы, бяскроўны' (Янк. III, Гарэц.), 'ліпавае лыка' (Ян.), 'ліпа' (лудз., Сл. паўн.-зах.), драг. *лэ́па,* пін. *лыпа, лыпіна* 'ліпа' (КЭС). Укр., рус. *липа,* польск. *lipa,* палаб. *laipo,* луж. *lipa,* чэш. *lípa,* славац. *lipa,* славен. *lípa,* серб.-харв. *ли̏па,* макед. *липа, липата,* балг. *липа́* 'тс', страндж. 'лыка'. Прасл. *lĩpa* 'ліпа'. Найбольш блізкія і.-е. адпаведнікі: літ. *líepa,* лат. *liẽpa*, ст.-прус. *leip-* (у тапоніме *Leipiten*),— якія з'яўляюцца роднаснымі да прасл. *lьpěti* 'прыклейвацца, ліпнуць, гарнуцца', параўн. бел. *ліпець* (гл.), а таксама, відаць, кімр. *llwyf* 'ліпа, вяз', ст.-грэч. (Гесіхій) 'αλίφαλος δρῦς 'від дуба'<і.-е. *lēipā* 'ліпа' (Голамб, Зб. Якабсону, 1, 1967, 778; Махэк$_2$, 334). Матывацыя назвы дрэва — яго ліпкі сок (Міклашыч, 178 і інш.; Фасмер, 2, 499; Слаўскі, 4, 271; Скок, 2, 305; Бязлай, 2, 143). Паўн.-слав. *lipъka.* Сюды ж бел. *ліповы, лі́павы* (Шат., Сцяшк., Мат. Гом., ТС, ТСБМ, Сл. паўн.-зах.), *ліпавый* (Яруш., Бяльк.), ст.-бел. *липовый* 'зроблены з ліпы, адносіцца да ліпы' (Булахаў, Гіст. прым., 117), *ліпаві́на* 'адна ліпа' (гродз., Сцяшк. Сл.), *ліпава́ты* 'мяккі (пра драўніну)' (ТС), *лі̂павец* (Грыг.), *лі̂пка* 'лыка з вяза' (Маш.), *лі̂пнік* 'лыка з ліпы' (лун., Шатал., ТС), 'малады ліпняк' (б.-каш., лун., Шатал., Мат. Гом., ТС), *ліпнёг* 'сушанае лісце ліпы' (лаг., Жд. 2).

**Ліпа**$_2$ 'пра нешта фальшывае, несапраўднае' (ТСБМ). Запазычана з рус. арго зладзеяў (Ушакоў, 2, 66). Сюды ж *ліпавы* 'падроблены'.

**Ліпавачка,** *ліпо́вачка* 'бочачка, выдзеўбаная са ствала ліпы' (круп., Нар. сл.; бялын., Янк. Мат.; віл., смарг., Сл.



паўн.-зах.), *ліпа́ўка* 'пасудзіна з ліпы для мёду' (Сержп., Борт., Грыг., Жд. 1, Сл. паўн.-зах.), 'каробка з ліпавай кары' (Шат.; в.-дзвін., Шатал.; віл., З нар. сл.), 'пасудзіна з тоўстага дуплістага дрэва для збожжа' (КЭС, лаг., Мат. Гом.)., маз., б.-каш. *ліпо́ўка* 'выдзеўбаная з ліпы пасудзіна для мёду, пературпленага нутранога тлушчу' (З нар. сл., Мат. Гом.), 'бочка з ліпы для збожжа, мукі' (віл., круп., астрав., Сл. паўн.-зах.). Укр. *липівка,* рус. варонеж. *ли́повка* 'бочачка з ліпы'. Утварылася з *ліпавы* і суф. *-ка* (гл. Сцяцко, Афікс. наз., 115).

**Ліпаце́ць** 'ледзь трымацца на нагах, дрэнна адчуваць сябе' (Сцяшк. Сл.). Узнікла ў выніку кантамінацыі лексем *ліпе́ць* і *лекаце́ць* (гл.).

*__Ліпачка__, *лі́почка* 'невялікая каробка для мёду, зробленая з ліпавай кары' (петрык., З нар. сл.) — скарочаны варыянт лексемы *ліпавачка.* Да *ліпа* (гл.).

**Ліпень**$_1$ 'назва сёмага месяца' (Гарэц., Бяльк., ТСБМ; паст., Сл. паўн.-зах.). Укр. (зах.) *ли́пень,* рус. перм. *липе́нь* 'ліпа', славац. *lipeň* 'тс', славен. *lipan,* серб.-харв. *ли̏пањ ли́пањ* 'чэрвень'. Прасл. *lip-ьnь.* Да *ліпа* (гл.). Названа паводле ліпы, якая цвіце ў гэты час (Шаўр, Этимология-71, 96; Качэрган, Мовознавство, 1967, 1, 57).

**Ліпень**$_2$, *ліпеня, лепеня* 'рыба харыус, Thymallus thymallus L.' (нёманск., Жук.; астрав., шальч., Сл. паўн.-зах.). Укр. *ли́пень,* польск. *lipień,* в.-луж. *lipen, lipon,* чэш. *lipan,* ст.-чэш. *lipan, lipen, lipeň,* славац. *lipeň, lipen, lipan,* славен. *lípan,* серб.-харв. *ли̏пан, ли̏пен, ли̏пљан, ли̏пљен, ли̏пањ.* Прасл. *lipenъ / / lipenjь, lipanъ / / lipanjь.* Агульнапрынятай этымалогіі няма. Лёвенталь (WuS, 10, 194) і Бернекер (1, 723) звязвалі з літ. *lipsnà* 'полымя', *lipst* 'гарыць', лат. *lipīt* 'запаліць', беручы пад увагу чырвоныя плаўнікі і бліскучыя срэбныя бакі; Уленбек (KZ, 32, 260) вылучае аснову **leip* 'ляпіць'; Машынскі (O sposobach, 151) мяркуе, што гэта лексема была запазычана славянамі ад і.-е. жыхароў Прыкарпацця. Махэк$_2$ (335), спасылаючыся на ст.-чэш. назву гэтай рыбы *květovoň* і на тое, што харыус пахне чаборам, хоча бачыць матывацыю, звязаную з пахам. Слаўскі (4, 274) дапускае прасл. аснову *lip- / lьp- / lěp-*, якая з і.-е. *leip-* 'масціць, мазаць, клеіць'. Герд (Бел. лекс., 37) мяркуе, што лексема *lipьnь* бытавала толькі ў тых дыялектах прасл. мовы, якія ляглі ў аснову бел., польск., чэш. і серб.-харв. моў.

**Ліпец**$_1$, *ліпэць* 'ліпень' (Нас., Яруш., ТСБМ, Бес.; воран., Шатал.; смарг., паст., Сл. паўн.-зах.), ст.-бел. *липецъ* (XVI ст.). Запазычана са ст.-польск. *lipiec* (Жураўскі, SOr, 1961, 10, 40; Булыка, Лекс. запазыч., 185; Арашонкава, БЛ, 2, 47). Аднак Слаўскі (4, 273), прыводзячы ў якасці роднасных рус.

*липец* 'ліпень', укр. *липець* 'тс', паўд.-слав.: серб.-харв. *лйпац* 'ад ліпы', славен. *lîpec* 'ліпа лясная', выводзіць прасл. *lip-ьсь,* які называў сёмы месяц. Да *ліпа* (гл.). Сюды ж *ліпцовы (мёд)* 'сабраны з ліпы ў час яе цвіцення' (ашм., З нар. сл.).

**Ліпец**$_2$ 'ліповы мёд' (Нас., ТСБМ), палес. *ліпэ̂ц* 'тс' (Анох.), укр. *липець* 'тс', рус. цвяр. *липец* 'тс', 'напітак з мёду', польск. *lipiec* 'тс'. Прасл. *lip-ьсь* (Слаўскі, 4, 273). Да *ліпа* (гл.).

**Ліпец**$_3$, *ліпяц* 'праполіс' (слуц., Сл. паўн.-зах.). Да кораня *ліп- (ліпнуць, -липати)*. Гэта пацвярджаецца і тлумачэннем інфарматара: *«Ліпец — гэта клей, якім пчолы залівалі шчыліны ў вуллі».*

**Ліпец**$_4$ 'павітуха льняная, Cuscuta epilinum Weihe'. Да *ліпнуць* (гл.). Названа паводле таго, што гэта расліна-паразіт абвівае расліну-гаспадара, прысмоктваючыся да яе сваімі прысоскамі (БелСЭ, 7, 590). Тое ж адносіцца і да рус. *липец* 'марына ўчэпістая, Galium aparine L.', укр. *липник* 'тс'.

**Ліпéць**$_1$ 'ледзь трымацца', 'жыць, не падаючы надзей на сілу, на працяглае жыццё' (Нас., Грыг., Янк. БП, Бір. Дзярж., Др.-Падб., Янк. I, ТСБМ, Бяльк., Касп., Шат., Яруш.; бялын., докш., Янк. Мат., КЭС, лаг., Яўс.) і *ліпецца* 'тс'. Шальч. 'балець, ныць', віл., паст. 'вельмі хварэць, ледзь жыць' (Сл. паўн.-зах.). Рус. ніжнегар., яросл., уладз., бран., смал., ульян., сарат. *липеть* 'ледзь трымацца'. Генетычна роднасным да іх з'яўляецца літ. *klibéti* 'хістацца' (Атрэмбскі, Gramatyka, 2, 230). Параўн. таксама *хліпéць, хліпкі* (гл.). Грынавецкене (Сл. паўн.-зах., 2, 658) параўноўвае бел. лексему з літ. *lypéti* 'выжыць', *lėipéti* 'млець'.

**Ліпéць**$_2$ 'гарнуцца, хіліцца' (Нас., Касп.). Рус. *липеть* 'тс', 'прылягаць', ст.-рус. *льпѣти, лпѣти* 'прыліпаць, ляпіцца', польск. *lpieć* 'быць прылепленым, моцна трымацца', падгальск. 'быць цярплівым', чэш. *lpíti, lpěti* 'моцна трымацца чаго-небудзь', 'ліпнуць', 'быць прывязаным', ст.-чэш. *lpieti* 'гарнуцца, ляпіцца', славац. *lpiet'*, славен. *lępęti* 'тс', ст.-слав. **при-льпѣти** 'гарнуцца', 'прыстаць, прыліпнуць'. Прасл. *lьpěti* 'прылягаць, быць прылепленым' > усх.-слав. *лі-*. І.-е. адпаведнікі: ст.-інд. *lipyáte* 'лепіцца, прылягае', літ. *lipti* 'ліпнуць, прыліпаць' (Слаўскі, 4, 342; там жа і літаратура).

**Ліпка**$_1$ 'маленькая, на 1—2 чалавекі лодка, выдзеўбаная з цэльнага ствала дрэва (асіны, хвоіны)' (палес., Маслен.). Да *ліпа* (гл.). Параўн. іншыя ўсх.-палес. назвы лодак: *осіноўка, осóўка, вéрбуўка, дошчанка, дубок* (Маслен.).

**Ліпка**$_2$ 'герань, Geranium L.' (гом., Мат. Гом.), рус. дан. *лúпка* 'тс'. Названа так паводле далонепадобных лістоў (як у ліпы). Да *ліпа* (гл.).

**Ліпкі** 'які лёгка прыліпае', 'клейкі' (ТСБМ, Сл. паўн.-зах.), 'ліпучы' (Яруш.), 'падкі, ахвочы' (Нас., Касп.), 'прыхільны' (пух., Жд. 2), укр. *липкúй* 'ліпкі', *ліпкúй* 'учэпісты', 'клеісты', рус. *лúпкий* 'ліпкі', 'заразны', 'востры (аб сякеры)', польск. *lipki,* чэш. і славац. *lipký,* балг. *лúпък* 'клейкі'. Прасл. *lip-ъkъ* < < *lipati* звычайна выступае ў слав. мовах у пары з *lep-ъkъ* < < *lěpiti*. Да *ляпіць* (гл.). Больш падрабязна гл. Варбот, Слав. языкозн., 1973, 88.

**Ліпнік** 'дабраполь жоўты, Galeobdolon luteum Huds.' (смал. Кіс.). Да *ліпа* (гл.). Матывацыя: кветкі дабраполя выдзяляюць многа мёду.

**Ліпнуць** 'прыліпаць', 'шчыльна прыціскацца', 'прыставаць' (Яруш., Бяльк., Шат., ТСБМ). Укр. *липнути,* рус. *липнуть,* польск. *lipnąć,* н.-луж. *lipnuś,* чэш. *lipnouti,* славац. *lipnút'*, славен. *pri-lípniti*. Прасл. *lьpnǫti*. Пазней адбылася мена галоснага асновы ў *-і-* пад уплывам *(pri)lipati* (Слаўскі, 4, 275).

**Ліпня́к** 'масляк' (маст., Сцяшк. Сл.). Відавочна, недакладны запіс. З *ляпняк*. Да *ляпіць, ляпіцца* (гл.). Названа паводле клейкай слізі, якая пакрывае гэты грыб.

**Ліпóта** 'добрае надвор'е' (навагр., Сцяшк. Сл.). Укр. *ліпотá* 'прыгажосць', ст.-рус. *лѣпота* 'тс', 'прыстойнасць', рус. арханг. *лепотá* 'прыгожая знешнасць', 'мажносць', паўн.-дзвін. 'гліністая гразь', 'сырое надвор'е, калі да колаў прыліпае гразь, а да палазоў — снег', серб.-харв. *љепо̏та,* ст.-слав. **лѣпота** 'прыгажосць'. Абстрактнае ўтварэнне з суфіксам *-ota* ад прасл. *lěpъ,* якое да і.-е. **loip-os* 'той, хто лепіцца, прыліпае' < **leip-* 'намазаная маззю, ляпіць'. Бел. лексема — з *лепóта* 'прыгажосць', семантыка якога канкрэтызавалася.

**Ліпоўка** 'бочка з ліпы' (Мат. Гом.). Да *ліпавачка* (гл.).

**Ліпскі** — у выразе *ліпская хуста* 'хустка чырвонага колеру' (Ян.). Паходзіць (праз польск. мову) ад назвы г. Лейпцыга — *Lipsk* (параўн. і чэш. *Lipsko,* луж. *Lipsk*), у якім знаходзілася фабрыка.

**Ліпсы** 'вочы' (Яўс.). Няясна (мала інфармацыі). З арго (?). Да *лыпаць* (?).

**Ліпу́цік,** *ліпу́чкі* 'смолка ліпкая, Viscaria vulgaris Bernt'. (ТС). Да *ліпнуць* (гл.). Утварыліся лексемы ад *липуч-ъ* > > *лі-пуч-ькъ* са зменай *ч* > *ц* паводле *лю́цік*. Прымета ліпкасці была вырашальнай і пры ўтварэнні рус. разан. *липник* 'тс'.

**Ліпу́чка** 'аднасценная сетка' (Паазер'е, Браім, 43). Няясна.

**Ліпу́чы** 'ліпкі' (Нас., Гарэц., Бяльк.), *ліпу́чый* 'заразны' (Бяльк.), *ліпу́шчая хварóба* 'тс' (КЭС, лаг.). Да *ліпнуць* (гл.).

**Ліпцы** 'прыманка з жабы, на якую ловяць ракаў' (ваўк., Сл. паўн.-зах.). Відавочна, узыходзіць да прасл. *lip-ьсь*< <*-lipati*>*ліпнуць*, хаця адпаведнікі ў іншых слав. мовах не знойдзены.

***Ліпчыца,** *лыпчыца* 'гладун гладкі, Herniaria glabra L.' (драг., Нар. лекс.). Да *ліпнуць* (гл.). Расліна названа паводле паўзучасці сваіх сцяблін, якія, рассцілаючыся, нібы прыліпаюць да зямлі.

**Ліпянка** 'сыраежка' (раг., Сл. паўн.-зах.). Няясна. Магчыма, гэта перанос назвы з нейкіх ліпкіх грыбоў.



## СКАРАЧЭННІ

### КРЫНІЦЫ

БНТ Лег. і пад.— Беларуская народная творчасць. Легенды і паданні. Мн., 1983.

Бяд.— Бядуля З. Вера, паншчына і воля ў беларускіх народных песнях і казках. Мн., 1924.

Гарад.— Курило О. Матеріяли до української діалектології та фольклористики: Берестейський та Кобринський повіти. Словничок // Історико-філологічний видділ Всеукраїнської академії наук, 85. Київ, 1928.

КАБ — Картатэка Атласа Беласточчыны. Захоўваецца ў сектары беларускай мовы Інстытута славяназнаўства ПАН у Варшаве.

Лек.— Лекарственные растения и их применение. Мн., 1975.

Мял.— Мялешка М. Камень у вераваннях і паданнях беларуса // Працы кафедры этнаграфіі Інбелькульта. Мн., 1928. Т. 1, вып. 2.

Эрэм.— Эремич И. Очерки Белорусского Полесья // Вестник Западной России. 1867. Кн. 8. С. 107—133; Кн. 9. С. 202—222; Кн. 10. С. 1—2; Кн. 11. С. 95—117.

### ЛІТАРАТУРА

ABSl — Acta Baltico-Slavica. Białystok, 1964 і наст.

Бел. М — Беларуская мова. Вып. 5. Мн., 1977 і наст.

БММ — Беларуская мова і мовазнаўства: Міжвузаўскі зб. Мн., 1973—1976. Вып. 1—4.

Гюнтарт, Reimwort.— Güntert H. Über Reimwortbildungen im Arischen und Altgriechischen. Heidelberg, 1914.

Каламіец, Рыбы — Коломиец В. Т. Происхождение общеславянских названий рыб. Киев, 1983.

Liet. term.— Lietuvių terminologija // Lietuvių kalbotyros klausimai. XVI. Vilnius, 1975.

LISL — Lětopis Instytuta za serbski ludodospyt. Rjad A: Rěčespyt a literatura. Budyšin, 1952 і наст.

SPKOK PAN — Sprawozdania z Posiedzeń Komisii PAN. Oddział w Krakowie. Kraków.

Слав. і балк. фальклор — Словянский и балканский фольклор: Генезис. Архаика. Традиции. М., 1978.

Хенсель, Słowiańszczyzna — Hensel W. Słowiańszczyzna wczesnośredniowieczna. Warszawa, 1956.